С. М. Грабчыкаў

# СЛОЎНІК ПАРОНІМАЎ БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ



С. М. Грабчыкаў

# СЛОЎНІК ПАРОНІМАЎ БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ

МІНСК «НАРОДНАЯ АСВЕТА» 1994

ББК 81.2Бел-4
Г75
УДК 808.26-3

Рэцэнзент
В. П. Красней, кандыдат філалагічных навук

У слоўнік уключаны словы, блізкія па гучанню, але розныя па значэнню: *абагуліць* // *абагульніць, бескарыслівы* // *бескарысны, метэарыт* // *метэор, цікавы* // *цікаўны* і да т. п. Кожнаму слову (усяго іх звыш 3300) даецца тлумачэнне, прыводзіцца прыклад, які ілюструе яго значэнне.

У канцы даведніка змешчаны алфавітны індэкс — паказчык растлумачаных слоў з указаннем старонкі да кожнага з іх.

Адрасуецца вучням старшых класаў, студэнтам, настаўнікам, работнікам друку, пісьменнікам, усім, хто неабыякавы да беларускай мовы, цікавіцца ёю.

Г $\frac{8080260000-069}{М303(03)-94}$ 151—94

ISBN 985-03-0071-X 

## КОРАТКА ПРА СЛОЎНІК

У беларускай мове, як і ў іншых мовах, ёсць нямала слоў, якія структурна, сваім знешнім афармленнем вельмі падобныя адно на другое. Усе яны блізкія па гучанню, але маюць розныя значэнні. Гэта словы-паронімы. Як правіла, яны аднакарэнныя, належаць да адной часціны мовы, маюць агульныя граматычныя характарыстыкі і аб'ядноўваюцца звычайна ў пары: *абагуліць // абагульніць, абанемент // абанент, бескарыслівы // бескарысны, цікавы // цікаўны* і г. д. Аднак нярэдка сустракаюцца паранімічныя рады, групы, ланцужкі па тры, чатыры і нават больш слоў: *адзінкавы // адзінокі // адзіночны // адзіны, бульбоўнік // бульбянік // бульбянішча, ганьбаваць // ганьбіць // ганіць* і інш.

Такое гукавое і структурнае падабенства розных па значэнню слоў называецца паранімія й.

Знешняе гэта падабенства нярэдка бывае прычынай таго, што паронімы не размяжоўваюць і блытаюць, ужываюць няправільна, асабліва ў вуснай мове, у паўсядзённай гутарцы (напрыклад, *выразаць апендыцыт* замест *выразаць апендыкс*). Памылковае іх ужыванне не абмяжоўваецца сферай вуснай мовы, яно даволі часта сустракаецца ў газетных публікацыях, на старонках часопісаў, кніг і г. д.

У сучаснай лінгвістычнай літаратуры пакуль што няма адзінага пункту погляду на прыроду паронімаў. Тэрмін гэты ўжываецца ў вузкім і ў шырокім значэннях.

Прыхільнікі вузкага разумення тэрміна лічаць паронімамі толькі аднакарэнныя словы, блізкія па гучанню і структуры, але розныя па значэнню, словы адной часціны мовы, з адным і тым жа месцам націску, з аднолькавымі граматычнымі прыметамі: *адрасáнт // адрасáт, генерáльны // генерáльскі, зíмні // зíмны, сірацéць // сірацíць, факт // фáктар, чалавéчны // чалавéчы* і інш.

Блізкія па гучанню словы, якія не адпавядаюць гэтым патрабаванням, хоць яны і цяжкія для размежавання, паронімамі не лічацца.

Пры шырокім разуменні тэрміна да паронімаў адносяць уся-

кія блізкія па гучанню словы* — і аднакарэнныя, і з рознымі марфалагічнымі каранямі, незалежна ад месца націску ў іх, ад прыналежнасці да адной ці розных часцін мовы і г. д. У такім выпадку ў слоўнікі ўключаецца больш шырокі пласт лексікі — усе блізкія па гучанню, але розныя па значэнню словы, узаемазамена якіх магчыма (і сустракаецца) у моўнай практыцы: *афе́ктны // эфе́ктны, ба́чаны // ба́чны, кава́лда // кува́лда, ляснік // ляснічы, маля́р // му́ляр, метэо́р // метэары́т, прыго́ннік // прыго́нны, эфе́ктны // эфекты́ўны* і інш.

Такі прынцып адбору лексікі праводзіцца і ў прапануемым слоўніку. На першы план у ім выступае практычнае прызначэнне — аказваць пэўную дапамогу ў выбары патрэбнага слова.

Агульнавядома, што культура мовы кожнага чалавека ў значнай ступені залежыць і ад выкарыстання ў ёй слоў-паронімаў. Дакладнае іх ужыванне — адзін з даволі важных шляхоў яе павышэння. А таму выяўленне слоў-паронімаў у разнастайным лексічным багацці мовы, іх сістэматызацыя, вывучэнне і апісанне з'яўляецца адным з абавязковых і неад'емных кампанентаў праблемы павышэння моўнай культуры.



«Слоўнік паронімаў беларускай мовы» складаецца са слоўнікавых артыкулаў, размешчаных у алфавітным парадку.

Загалоўкам артыкула служыць зыходная (пачатковая) форма слова: назоўнікаў — назоўны склон адзіночнага ліку; прыметнікаў — назоўны склон адзіночнага ліку мужчынскага роду; дзеясловаў — інфінітыў (у форме аднаго трывання — закончанага ці незакончанага).

Слоўнікавы артыкул уключае два асноўныя структурныя элементы: тлумачэнне слова, вынесенага ў загаловак, і ілюстрацыйны матэрыял.

Значэнне слова раскрываецца шляхам кароткага тлумачэння або (радзей) пры дапамозе сінонімаў; іншы раз выкарыстоўваюцца абодва гэтыя спосабы. Калі слова мае некалькі значэнняў, кожнае з іх пазначана арабскімі лічбамі (1, 2, 3 і г. д.); сэнсавыя іх адценні размяжоўваюцца дзвюма вертыкальнымі рыскамі (‖):

---

* Іншы раз паранімія тут як бы зліваецца, аб'ядноўваецца з п а р а н а м а з і я й, калі збліжаюцца падобныя па гучанню словы з рознымі па значэнню і часцей за ўсё далёкімі па марфалагічнай структуры словамі тыпу *кларнет // ларнет, прыдворны // прытворны, фарс // фарш* і пад. Звычайна такое збліжэнне сустракаецца ў гумарыстаў, сатырыкаў як свядомы стылістычны прыём аўтарскай словатворчасці, а ў гутарковай мове як несвядомая, памылковая падмена слоў у выніку непісьменнасці.

**Часты. 1.** Размешчаны блізка адзін каля другога.

На полі бабкі частыя пасталі ў чараду. *А. Астрэйка.* ‖ Які ідзе, адбываецца, паўтараецца праз кароткія прамежкі часу. Частыя, хоць і невялікія дажджы заміналі сушыць сена. *А. Чарнышэвіч.*

Побач з паронімамі ў некаторых групах падаюцца самастойнымі слоўнікавымі артыкуламі і сінонімы, якія выступаюць да паранімічных як словы аднаго семантычнага поля, напрыклад: *гаспадарлівы // гаспадарніцкі / гаспадарны // гаспадарскі // гаспадарчы; прадпрыемлівы / прадпрымальны // прадпрыемніцкі / прадпрымальніцкі.* Такія сінонімы (у прыведзеных групах: *гаспадарлівы / гаспадарны; прадпрыемлівы / прадпрымальны* і *прадпрыемніцкі / прадпрымальніцкі*) таксама ўяўляюць пэўныя цяжкасці пры выбары патрэбнага слова для канкрэтнай моўнай сітуацыі. Тлумачэнне іх, стылістычныя паметы, ілюстрацыі памагаюць зразумець не толькі семантычную акрэсленасць кожнай лексічнай адзінкі, але і яе месца, ролю ў слоўным акружэнні.

Тую ж у асноўным мэту маюць і артыкулы, прысвечаныя амонімам да паранімічных слоў групы. Словы-амонімы пазначаны маленькімі арабскімі лічбамі пры канцы іх зверху: *віраж*[1] / *віраж*[2] // *вітраж, гранатавы*[1] / *гранатавы*[2] // *гранатны* і г. д.

Без такіх артыкулаў з сінонімамі, амонімамі і амографамі агульнае ўяўленне пра пэўныя групы, пра дакладнае значэнне іх слоў было б не зусім поўным.

Самымі тыповымі ў слоўніку з'яўляюцца найбольш простыя па структуры артыкулы з двух слоў-паронімаў. Паміж імі ў загалоўку ўмоўна прынята ставіць дзве косыя рыскі (//). Такі ж знак і ў загалоўках з трох і больш паранімічных слоў.

Аднак калі да аднаго з паронімаў рада прыведзены сінонім ці амонім, то ў загалоўку перад імі ставіцца адна косая рыска (/). Яшчэ больш канкрэтна сінанімічнае слова выяўляецца пры яго тлумачэнні непасрэдна ў слоўнікавым артыкуле.

Паметы (*перан., разм., спец., гіст., уст.* і інш.) ставяцца адразу пасля загаловачнага слова, перад тлумачэннем, калі слова адназначнае або калі памета адносіцца да ўсіх значэнняў слова:

**Гарапа́шны.** *Разм.* Бедны, гаротны.

Цяжкае гарапашнае жыццё навучыла Дзям'яна любіць і паважаць чалавека працы. *В. Хомчанка.*

Калі памета мае адносіны толькі да аднаго са значэнняў, яна прыводзіцца пасля арабскай лічбы перад тлумачэннем гэтага значэння:

**Бацько́ўскі. 1.** Які мае адносіны да бацькоў — бацькі і маці.

Даклад зацікавіў людзей, памог устанавіць шчыры і дзелавы кантакт з бацькоўскім калектывам. *І. Шамякін.*

2. *перан.* Клапатлівы; ласкавы.

Незнаёмы паглядзеў на мяне цёплымі, бацькоўскімі вачамі. *З. Бядуля.*

Паметы граматычнага характару (*адз. няма, безас., зак., зб., толькі з неадуш. наз.* і інш.) даюцца перад тлумачэннем слова:

**Во́сці.** *адз. няма.* Рыбалоўная прылада ў выглядзе віл.

Іліко .. схапіў свае восці і ўдарам пад жабры дакончыў рыбіну. *Э. Самуйлёнак.*

**Восць.** *зб.* Доўгія (і больш рэдкія) валасы на скуры жывёл у параўнанні з асноўным слоем шэрсці.

Зверху бабёр пакрыты восцю — доўгімі і параўнальна рэдкімі валасамі. *В. Вольскі.*

Акрамя таго, для больш поўнага апісання кампанентаў паранімічнага рада адзначаецца (дзе гэта магчыма і калі ёсць патрэба) неаднолькавы характар у спалучальнасці кожнага слова-пароніма з іншымі:

**абагу́ліць** *(звычайна пра што-н. канкрэтнае):* маёмасць, зямлю, жывёлу і г. д. // абагульніць *(звычайна пра што-н. абстрактнае):* вопыт, думкі, назіранні і г. д.

**бало́тная:** вада, вільгаць; расліна, птушка і г. д. // **бало́цісты:** *луг, бераг;* **бало́цістая:** мясцовасць, нізіна і г. д.

Пры неабходнасці ўказваецца на асаблівасці ў кіраванні дзеяслоўных форм:

**абяссі́лець** // **абяссі́ліць** *(каго-што)*
**біле́ць** // **бялі́ць** *(што)*
**крыўдава́ць** // **кры́ўдзіць** *(каго)*

Да некаторых паранімічных слоў у якасці дадатковай характарыстыкі падаюцца сінонімы ці антонімы*, што таксама садзейнічае раскрыццю значэння слоў і важна для іх размежавання, а значыць, і для дакладнасці ў выкарыстанні:

**Абыя́кавы.** Які не выяўляе ніякай цікавасці, увагі да каго-чаго-н.
Сі н о н і м: раўнадушны.

Спрадвеку было так: той, хто думаў жыць, вучыўся сам і вучыў дзяцей працаваць. А хто быў абыякавы да сваёй будучыні — вучыў дзяцей адпачываць. *Я. Сіпакоў.*

**Абы-які.** Які-небудзь, усякі; хоць які.
Сі н о н і м ы: благі, нядобры.

Так у Маліна́ўцы з'явіўся новы гаспадар і прытым не абы-які. *А. Чарнышэвіч.*

---

* Пры антонімах даецца памета *проціл.* («проціле́глае»). Значэнне не тут больш шырокае, чым значэнне слова «антонім».

**Удыхну́ць.** *што.* **1.** Набраць у лёгкія паветра пры дыханні; п р о ц і л. выдыхнуць.

Як хараша выйсці на двор і на поўныя грудзі ўдыхнуць свежае, крыху роснае ранняе паветра. *П. Ткачоў.*

Аднак слоўнікавыя артыкулы не аднолькавыя ў гэтых адносінах, таму што не ў кожным з іх можна даць тыя ці іншыя дадатковыя характарыстыкі. У адных выпадках не было неабходнасці рабіць іх, бо канкрэтнае значэнне слоў цалкам зразумелае з тлумачэння і ілюстрацыі; у другіх — не было магчымасці (па розных прычынах) зрабіць гэта.

На кожнае значэнне слова (яго адценне) даюцца прыклады — ілюстрацыі з твораў мастацкай літаратуры, вучэбных дапаможнікаў, часопісаў і іншых аўтарытэтных друкаваных крыніц. Калі такіх прыкладаў не было, значэнні слоў ілюстраваліся кароткімі (звычайна двухслоўнымі) словазлучэннямі.

Канкрэтнае ўжыванне слова ў кантэксце садзейнічае больш поўнаму раскрыццю яго значэння, наглядна паказвае сэнсавую розніцу слоў-паронімаў.

Пропуск у ілюстрацыях (з мэтай іх скарачэння) абазначаецца дзвюма кропкамі па гарызанталі (..).

Заўвагі тлумачальнага характару ў ілюстрацыйным матэрыяле даюцца нерэгулярна, а толькі ў тых выпадках, калі яны важныя ў сэнсавых адносінах ці неабходныя для паўнаты паведамлення:

Рослы, зграбны... у дасканала падагнаным кіцелі, пад якім адчувалася дужая, трэніраваная постаць, з залатой зоркай на кіцелі, з дасканалай выпраўкай, ён [Чарняхоўскі] быў у гэты час вельмі прыгожы, мужна прыгожы. *І. Мележ.*

Таксама, у квадратных дужках, падаецца і адноўлены з кантэксту прапушчаны член няпоўнага сказа, узятага ў якасці ілюстрацыі:

Стараючыся перацяць кашаль, [Сотнікаў] захінуўся рукавом, але ад таго кашаль стаў яшчэ больш настрымны. *В. Быкаў.*

Прыводзяцца заўважаныя выпадкі недакладнага ўжывання асобных слоў-паронімаў у аўтарскім тэксце.

Вось такі прыклад да паранімічнай пары **бачаны // бачны:**

Н я п р а в і л ь н а. Кулеш ляжаў і чакаў, пакуль абзавуцца ў садзе птушкі, пакуль пачне пасвістваць, як у трубачку, вялікая жоўтая і ніколі не бачаная (трэба: не бачная) птушка івалга. *А. Жук.*

З тэксту вынікае, што івалгу ніколі не бачылі. Але ж гэта не так. Яе проста цяжка заўважыць: яна (не такая ўжо і вялікая) не б а ч н а ў светлай вясновай зелені, асабліва на бярозе — любімым не дрэве.

Пры падрыхтоўцы слоўніка паронімаў асноўнай крыніцай у першую чаргу быў пяцітомны «Тлумачальны слоўнік беларускай мовы»*, а таксама перакладныя слоўнікі — беларуска-рускі і руска-беларускі. Выкарыстана ўсё станоўчае і з кніжкі. «Цяжкія выпадкі ўжывання блізкіх па гучанню слоў» — першай маёй спробы скласці слоўнік паронімаў (названага вышэй тлумачальнага слоўніка тады яшчэ не было).

У канцы даведніка змешчаны індэкс — алфавітны пералік усіх растлумачаных паронімаў з указаннем старонкі, на якой іх можна знайсці.

**БЕЛАРУСКІ АЛФАВІТ**

| | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Аа | Бб | Вв | Гг | Дд | Дж (дж) | Дз (дз) | |
| Ее | Ёё | Жж | Зз | Іі | Йй | Кк | Лл | Мм |
| Нн | Оо | Пп | Рр | Сс | Тт | Уу | Ўў | Фф |
| Хх | Цц | Чч | Шш | Ыы | Ьь | Ээ | Юю | Яя |

* У некаторых паранімічных радах сустракаюцца словы, якіх няма ў гэтым тлумачальным слоўніку: *вербаваны, веснікі, вярбованы, дажджысты, дамаўленне, драмлівы, духавіты, імшэць, кансервацыйны, корак* («абцас»), *красамоўніцкі, мікрамер, падлётак, папяловы, пергамен, распарадчасць, узорчаты, чытальніцкі, шчацінны.*

# СПІС СКАРАЧЭННЯЎ

*абл.* — абласное
*адз.* — адзіночны лік
*адуш.* — адушаўлёны назоўнік
*ас.* — асоба дзеяслова
*безас.* — безасабовая форма
*буд.* — будучы час
*вык.* — выказнік
*выкл.* — выклічнік
*высок.* — высокі стыль
*выш. ст.* — вышэйшая ступень параўнання
*г.* — год
*гг.* — гады
*г. зн.* — гэта значыць
*гіст.* — гісторыя
*груб.* — грубае
*дзеепрым.* — дзеепрыметнік
*дзеепрысл.* — дзеепрыслоўе
*дзеясл.* — дзеяслоў
*ж.* — жаночы род
*зак.* — закончанае трыванне
*зб.* — зборны назоўнік
*зневаж.* — зневажальнае
*знач.* — значэнне
*і г. д.* — і гэтак далей
*інф.* — інфінітыў
*і інш.* — і іншае
*і пад.* — і падобнае
*іран.* — іранічнае
*кар. ф.* — кароткая форма
*кніжн.* — кніжны стыль
*ласк.* — ласкальная форма
*лінгв.* — лінгвістыка
*м.* — мужчынскі род
*мн.* — множны лік
*мнагакр.* — мнагакратны дзеяслоў
*муз.* — музыка
*н.* — ніякі род
*-н.* — -небудзь
*наз.* — назоўнік
*неадабр.* — неадабральнае
*неадуш.* — неадушаўлёны назоўнік
*незак.* — незакончанае трыванне
*нескл.* — нескланяльнае
*нязм.* — нязменнае
*пагард.* — пагардлівае
*паліт.* — палітыка
*памянш.* — памяншальная форма
*параўн.* — параўнай
*паэт.* — паэтычнае
*перан.* — пераноснае значэнне
*проціл.* — процілеглае
*пр.* — прошлы час
*прым.* — прыметнік
*прысл.* — прыслоўе
*разм.* — размоўнае
*розн.* — рознае
*спарт.* — спартыўны тэрмін
*спец.* — спецыяльнае
*ст.* — стагоддзе
*стст.* — стагоддзі
*ужыв.* — ужываецца
*уст.* — устарэлае
*цяпер.* — цяперашні час

# А

## АБАГУЛІЦЬ // АБАГУЛЬНІЦЬ

**Абагýліць.** Зрабіць асабістае, уласнае калектыўным, грамадскім.

**Абагуліць** *(звычайна пра што-н. канкрэтнае)*: маёмасць, зямлю, жывёлу і г. д.

Некалькі цікаўных гаспадароў стаялі збоку і пазіралі на Казлюка: яго не было дома, калі маці і Стасік амаль што першымі абагулілі сваю маёмасць. *Р. Няхай.*

Н я п р а в і л ь н а. Толькі чалавек можа рэалізаваць творчы працэс, вызначыць задачу, стратэгічныя прынцыпы, прааналізаваць і абагуліць (трэба: абагульніць) вынікі работы машыны. *Полымя.*

**Абагульнíць.** Выразіць у агульным палажэнні вынікі назіранняў над асобнымі фактамі, з'явамі.

**Абагульніць** *(звычайна пра што-н. абстрактнае)*: вопыт, думкі, назіранні і г. д.

Трэба вучыць маладога аўтара абагульняць факты і рабіць з іх пэўныя філасофскія вывады. *К. Чорны.*

Н я п р а в і л ь н а. Прапанова абагульніць (трэба: абагуліць) пасевы была прынята аднагалосна. *М. Паслядовіч.*

## АБАНЕМЕНТ // АБАНЕНТ

**Абанемéнт.** Дакумент на права часовага карыстання чым-н.

**Абанемент:** тэатральны, бібліятэчны; **абанемент:** у тэатр, у басейн; **абанемент:** набыць, атрымаць і г. д.

Тэрмін яго абанемента канчаўся, трэба было набываць новы.

**Абанéнт.** Асоба, якая мае абанемент.

**Абанент:** новы, акуратны; **абанент:** бібліятэкі, філармоніі і г. д.

Вы прачыталі першыя радкі. Прозвішчы герояў яшчэ толькі названы. Яны гавораць вам не больш, чым прозвішчы абанентаў у тэлефоннай кнізе. *Р. Шкраба.*

## АБВЕСТКА // ПАВЕСТКА

**Абвéстка.** Паведамленне, якое даводзіцца да ўсеагульнага ведама.

С і н о н і м: аб'ява.

У канцы таго ж дня сяляне, што працавалі на гравійцы, прынеслі канваіраву абвестку ў сваю вёску, і праз некаторы час яе ўжо ведалі ў кожнай хаце. *М. Аўрамчык.*

**Павéстка. 1.** Афіцыйнае пісьмовае паведамленне з выклікам куды-н.

Сінонімы: позва, выклік.

— Я сягоння на акопах не быў. За пасыльнага трымалі ў камендатуры. З раніцы ездзіў у вёску з павесткамі, пасля суправаджаў абоз. *В. Карамазаў.*

**2.** Круг пытанняў, якія павінны быць абмеркаваны на сходзе, пасяджэнні; павестка (парадак) дня.

Даклад пачаўся пасля таго, калі была прынята павестка. *А. Васілевіч.*

## АБВЕТРАЦЬ // АБВЕТРЫЦЬ

**Абветраць. 1.** Стаць смуглым, шурпатым, агрубелым ад ветру (пра твар, рукі і г. д.); абветрыцца.

Твар у Сашы абветраў, загарэў. *І. Шуцько.*

**2.** Падсохнуць на ветры (звычайна пра глебу).

Даўно ўжо абветралі дарогі, пашарэла ралля і добра ўрунела жыта. *К. Чорны.*

**Абвéтрыць.** *безас.* Зрабіць цёмным, шурпатым, агрубелым (пра твар, рукі і г. д.).

Яго [твар] нібы абветрыла ранняй вясной на адкрытай машыне. *І. Пташнікаў.*

## АБГАВАРЫЦЬ // АГАВАРЫЦЬ

**Абгавары́ць. 1.** *што.* Усебакова разгледзець, абмеркаваць што-н. з кім-н.

Хутчэй бы вярнуўся Іван, каб сказаць яму нечаканую навіну, падзяліцца радасцю і абгаварыць, што трэба да вяселля. *І. Шамякін.*

**2.** *каго.* Узвесці на каго-н. паклёп, ілжывае абвінавачанне; зганіць, абылгаць.

Ён саромеўся, што-іх могуць убачыць і абгаварыць. *В. Вітка.*

**Агавары́ць.** *што.* Зрабіць агаворку, даць дадатковыя заўвагі, тлумачэнні да раней сказанага ці напісанага.

Пан Юры нявесела ўсміхаўся і падтакваў сыну: — Але. Вядома. Не збяднеем. Затое агаворым, каб вярнуліся сюды. *У. Караткевіч.*

## АБГРУНТАВАНАСЦЬ // АБГРУНТАВАННЕ

**Абгрунтава́насць.** Глыбока пераканаўчая, усебакова аргументаваная доказнасць, падмацаваная неабвержнымі довадамі.

Неўзабаве практычная прапанова Сямёна атрымала тэарэтычную абгрунтаванасць. *У. Шыцік.*

**Абгрунтава́нне.** Падмацаванне пераканаўчымі доказамі, прывядзенне такіх доказаў; довад, доказ.

Бялінскі даў абгрунтаванне рэалістычнага напрамку ў рускай літаратуры. *В. Барысенка.*

## АБ'ЁМІСТЫ // АБ'ЁМНЫ

**Аб'ёмісты.** Вялікі аб'ёмам, памерамі.

Гэта быў даволі аб'ёмісты рукапіс, два гады пісаны. *Я. Брыль.*

**Аб'ёмны. 1.** Які характарызуецца трохмернымі паказчыкамі (па даўжыні, вышыні і шырыні).

Аб'ёмную разьбу звычайна або пакрывалі пазалотай, або размалёўвалі фарбамі. *Л. Абецадарскі.*

**2.** Вялікага аб'ёму, памеру.

Змяніўся сам характар работы, яна стала менш аб'ёмнай, бо ішло завяршэнне аб'ектаў, падрыхтоўка іх для здачы дзяржаўнай прыёмнай камісіі. *Полымя.*

## АБМЕЖАВАЛЬНЫ // АБМЕЖАВАНЫ

**Абмежава́льны.** Прызначаны для абмежавання чаго-н.

А д з і н у кантэксце можа мець і значэнне абмежавальнай часціцы з адценнем вылучэння. *Граматыка беларускай мовы.*

**Абмежава́ны. 1.** Пастаўлены ў якія-н. рамкі, межы.

Вёска канчалася, шаша выходзіла на палявы прастор, які звузіўся понача да нешырокай стужкі дарогі, абмежаваны з бакоў дзвюма прапыленымі канавамі. *В. Быкаў.*

**2.** Невялікі, нязначны.

Агульнанародным не стане тое, што мае абмежаваны ўжытак або ствараецца штучна. *У. Юрэвіч.*

**3.** *перан.* З вузкім кругаглядам; недалёкі, адсталы, невялікага розуму.

Тупым і абмежаваным паліцэйскім Я. Колас проціпастаўляе прадстаўнікоў простага народу. *Ю. Пшыркоў.*

## АБМЕЖАВАЦЦА // АДМЕЖАВАЦЦА

**Абмежава́цца.** *чым.* Не пайсці ў сваіх дзеяннях далей чаго-н.; задаволіцца чым-н. нязначным; не выйсці за межы чаго-н.

Тургенеў не мог абмежавацца апісаннем знешніх бакоў народнага быту. *В. Барысенка.*

**Адмежава́цца.** *ад каго-чаго.* Заняць адасобленае ад каго-чаго-н. становішча; аддзяліцца.

Бачыш, як хутка адмежаваўся ад Барушкі, быццам і не падтрымліваў яго. *У. Карпаў.*

### АБНАДЗЕЕНЫ // АБНАДЗЕЙЛІВЫ

**Абнадзе́ены.** Такі, якога абнадзеілі.

Сінонім: суцешаны.

Абнадзееныя Віктарам Сяргеевічам, хлопцы павесялелі. *А. Якімовіч.*

**Абнадзе́йлівы.** Які абнадзейвае, падае надзеі.

Сінонім: суцяшальны.

Спявалі дрэвы і — няхай ціхім, але неадольным спевам — адгукалася сэрца. Было ў той нядумнай, бесклапотнай радасці нешта надзіва юначае, даверлівае, абнадзейлівае. *І. Мележ.*

### АБРАЗ // ВОБРАЗ

**Абра́з.** Малюнак Бога ці святога як прадмет рэлігійнага пакланення.

Сінонім: ікона.

Павуцінаю заткана столь і кут над абразом. *Я. Колас.*

**Во́браз. 1.** Знешні выгляд, аблічча каго-чаго-н., што ўзнікае ў памяці.

Ігнатка ў памяці ўсплывае і тая ноч, той рад бяроз, і вобраз брата ажывае. *Я. Колас.*

**2.** Жывое, наглядняе ўяўленне пра што-н.

Вобраз роднай Беларусі, напрыклад, неразлучны з лірычным героем верша «Павей, вецер». *К. Хромчанка.*

**3.** Абагульнены характар, тып, створаны пісьменнікам, мастаком.

Многія з апавяданняў Чорнага 1926—1927 гадоў вылучаюцца навізною ідэй і вобразаў, уменнем пранікнуць у псіхалогію чалавека новай эпохі. *М. Луферау.*

### АБРЫДЛІВЫ // АБРЫДЛЫ

**Абры́длівы.** Які абрыдае; надакучлівы.

Не прадыхне дунайскі вецер начной абрыдлівай імжы. Аслепла ўсё. І толькі свеціць ліхтар паходны ў бліндажы. *М. Калачынскі.*

**Абры́длы.** Які абрыдзеў, надакучыў; нялюбы, прыкры.

Яна без гэтай абрыдлай кароткай стрыжкі, без джынсаў, у доўгай прыталенай спадніцы — як не падобна яна на многіх дзяўчат і жанчын, якія аднолькавым адзеннем, аднолькавымі прычоскамі зліваюцца адна з адной, як салдаты ў шарэнзе... *В. Гігевіч.*

### АБРЭЗ // АБРЭЗАК

**Абрэ́з. 1.** Вінтоўка з укарочаным (абрэзаным) ствалом.

З лесу пачалі выходзіць цэлыя групы людзей з карабінамі, з вінтоўкамі, з абрэзамі, з бярданкамі. *Я. Колас.*

2. Абрэзаны край чаго-н., беражок.

Кніга з зялёным абрэзам.

**Абрэ́зак.** Непрыдатны кавалак, які застаўся пасля разразання чаго-н.

Ля рашоткі дзеці раяцца і, захапіўшы з сабой абрэзкі аполкаў, зноў залазяць у падвал. *В. Гарбук.*

### АБЫХОДАК // АБЫХОДЖАННЕ // АБЫХОДЛІВАСЦЬ

**Абыхо́дак. 1.** Патрэбы штодзённага жыцця.

За хатаю адразу ж пачыналіся глінішчы, ямы, з якіх людзі капалі на свой абыходак гліну. *В. Вітка.*

2. Ужытак, карыстанне.

Прыгадайце, колькі крылатых выразаў з баек К. Крапівы ўвайшло ў паўсядзённы абыходак. *Я. Казека.*

**Абыхо́джанне.** Манера паводзін у адносінах да каго-н.; уменне карыстацца чым-н.

У Шмульке вельмі прыемны голены твар, джэнтльменскія манеры ў абыходжанні з людзьмі. *З. Бядуля.*

**Абыхо́длівасць.** Ветлівасць, далікатнасць; пачцівасць.

Жанкі, браце, складаныя натуры, абыходлівасць любяць. *П. Кавалёў.*

### АБЫХОДЛІВЫ // АДЫХОДЛІВЫ // АДЫХОДНЫ

**Абыхо́длівы.** Ветлівы, далікатны ў абыходжанні.

Рэдактар — хлапчына свойскі, абыходлівы. Ён, здаецца, з тых ураўнаважаных людзей, якія ніколі не хвалююцца, не выходзяць з сябе і на ўсё — добрае і дрэннае ў жыцці — глядзяць паблажліва. *І. Навуменка.*

**Адыхо́длівы.** Здольны хутка забываць крыўду, супакойвацца пасля гневу, злосці.

Душа ў Андрэя была адыходлівая, і ён ужо не злаваў на брата. *В. Карамазаў.*

**Адыхо́дны.** Які звязаны з адыходам адкуль-н.

Пачаўся славуты адыходны рэйд атрада далёка на поўнач. *Я. Брыль.*

### АБЫЯКАВЫ // АБЫ-ЯКІ

**Абыя́кавы.** Які не выяўляе ніякай цікавасці, увагі да каго-чаго-н.

Сінонім: раўнадушны.

Спрадвеку было так: той, хто думаў жыць, вучыўся сам і вучыў дзяцей працаваць. А хто быў абыякавы да сваёй будучыні — вучыў дзяцей адпачываць. *Я. Сіпакоў.*

**Абы-які.** Які-небудзь, усякі; хоць які.

Сінонімы: благі, нядобры.

Так у Малінаўцы з'явіўся новы гаспадар і прытым не абы-які. *А. Чарнышэвіч.*

### АБ'ЯДНАЛЬНЫ // АБ'ЯДНАНЫ

**Аб'ядна́льны.** Які служыць аб'яднанню, вядзе да аб'яднання.

Сінонім: аб'яднаўчы.

Аб'ядпальны з'езд партыі.

**Аб'ядна́ны.** Утвораны з асобных частак, адзінак; сумесны; згуртаваны.

Сінонімы: злучаны, з'яднаны.

Праваліўся нашчэнт аб'яднаны паход верных служак цара і французскіх банкіраў. *П. Глебка.*

### АБЯЗВОДЗЕЦЬ // АБЯЗВОДЗІЦЬ

**Абязво́дзець.** Стаць бязводным; пазбавіцца вады, вільгаці.

Зямля абязводзела. Балота абязводзела.

**Абязво́дзіць.** *што.* Зрабіць бязводным; штучна выдаліць адкуль-н. ваду.

Меліярацыя абязводзіла рэчку.

### АБЯЗВОЛЕЦЬ // АБЯЗВОЛІЦЬ

**Абязво́лець.** Стаць бязвольным.

Калі Ціхану стала горш і ён абязволеў, Мальвіна перастала рагатаць і свавольнічаць. *І. Дубр оўскі.*

**Абязво́ліць.** *каго.* Пазбавіць волі, зрабіць каго-н. бязвольным.

Лагерныя здзекі абязволілі вязня.

**Абязле́сець.** Страціць лясы, стаць бязлесным.
Апошнім часам край зусім абязлесеў.

**Абязле́сіць.** *што.* Пазбавіць лясоў, зрабіць што-н. бязлесным.
— Такі куточак зямлі, можна сказаць, богам дадзены, загубілі. Спярша абязлесілі, асушылі, а цяпер яшчэ і атрутай засыпалі... *Б. Сачанка.*

## АБЯЗЛЮДЗЕЦЬ // АБЯЗЛЮДЗІЦЬ

**Абязлю́дзець.** Стаць бязлюдным, пустэльным.
Мы спынілі бескарысную дыскусію. Пляж абязлюдзеў, ды і нам заставацца на ім не было ніякай ахвоты. *М. Лынькоў.*

**Абязлю́дзіць.** *што.* Зрабіць бязлюдным, пустэльным.
Беззямелле, а значыць — звязанае з ім адыходніцтва, магло абязлюдзіць землі. *У. Караткевіч.*

## АБЯСКОЛЕРАЦЬ // АБЯСКОЛЕРЫЦЬ

**Абяско́лераць.** Страціць яркасць афарбоўкі; зрабіцца бясколерным, выцвісці.
У чыстым, бясхмарным паднябессі, якое нібыта выцвіла і абясколерала, кружыў коршак. *Б. Сачанка.*

**Абяско́лерыць.** *што.* Зрабіць бясколерным, зменшыць, аслабіць яркасць афарбоўкі.
Абясколерыць тканіну. Абясколерыць раствор.

## АБЯССІЛЕЦЬ // АБЯССІЛІЦЬ

**Абяссі́лець.** Стаць бяссільным; знемагчы.
Сінонімы: знясілець, аслабець.
Толькі пазней зразумеў Дзіма, што такі стан, калі здаецца, што ты ўжо зусім абяссілеў, выдахся, можна пераадолець. *Г. Шыловіч.*

**Абяссі́ліць.** *каго-што.* Пазбавіць сілы, зрабіць каго-што-н. бяссільным.
Сінонімы: знясіліць, аслабіць.
Немцы не пакідалі старых намераў: як мага спустошыць краіну, зруйнаваць яе, абяссіліць. *М. Лынькоў.*

## АБЯЦАНКА // АБЯЦАННЕ

**Абяца́нка.** Няпэўнае, несур'ёзнае абяцанне, выкананне якога малаверагодна.
Мужык ведаў свайго пана як аблупленага і не верыў яму і яго абяцанкам. *А. Якімовіч.*

**Абяца́нне.** Дабравольнае абавязацельства выканаць што-н.

Сам Тапурыя даў урачыстае абяцанне больш ніколі не ісці ў мора. *Э. Самуйлёнак.*

### АГАЛЕЦЬ // АГАЛІЦЬ

**Агалéць. 1.** Застацца без покрыва.

Сінонім: агаліцца.

Агалела поле. Знята збажына з яго даўно. *Я. Колас.*

**2.** Крайне абяднець.

Сінонім: згалець.

Салдаты без хлеба апухлі, народ абяднеў, агалеў. *Я. Пушча.*

**Ага́ліць.** *каго-што.* **1.** Пазбавіць адзення, покрыва; зрабіць голым.

Снег быў неглыбокі, на ўзгорку вятры агалілі зямлю, але ўздоўж ручая надзьмулі сумёты, і ісці было нялёгка. *І. Шамякін.*

**2.** *перан.* Выявіць сутнасць, сапраўдны змест чаго-н., зрабіць ясным, відавочным.

Імперыялістычная вайна рэзка агаліла і абвастрыла класавыя супярэчнасці. *М. Зярніцкі.*

**3.** *перан.* Пакінуць без людзей, без зброі, зрабіць даступным, адкрытым для ворага.

Эсэра-меншавіцкія здраднікі агалілі ўсю лінію фронту. *І. Гурскі.*

### АГІДЛІВЫ // АГІДНЫ

**Агі́длівы.** Які адчувае і выказвае агіду, гадлівасць да каго-чаго-н.

Сінонімы: брыдлівы, грэблівы.

Лясніцкі ўздрыгнуў ад раптоўнага прыліву гневу і агідлівай пагарды да гэтага чалавека, якому вельмі доўгі час усе яны без сумнення верылі. *І. Шамякін.*

**Агі́дны.** Які выклікае агіду; вельмі дрэнны.

Сінонімы: брыдкі, гадкі.

Слімака даўно вырашылі знішчыць як самага агіднага здрадніка. *М. Лынькоў.*

### АДБІЎНЫ // АДБОЙНЫ

**Адбіўны́. 1.** Якім адбіваюць што-н.

Адбіўны молат.

**2.** Прыгатаваны шляхам адбівання, размякчэння ўдарамі. У цэлафанавым пакеце была твая вячэра, а магчыма, і сняда-

нак: некалькі адбіўных з хлебам, радыска і салодкія арэшкі. *Г. Ланеўская.*

**Адбóйны.** Які служыць для адбівання чаго-н.

Лепшая брыгада ламавікоў была знята з шасейкі і кінута на прарыў. Дзесяць чалавек з адбойнымі малаткамі даставіла мясцовая перасовачная калона. *В. Дубінка.*

### АДБОРАЧНЫ // АДБОРНЫ

**Адбóрачны.** Створаны, прызначаны для адбору каго-н.

Адборачная камісія. Адборачныя сустрэчы баксёраў.

**Адбóрны. 1.** Адабраны з ліку іншых як лепшы; выдатны па якасці.

Сінонім: першагатунковы.

Адборнае жыта ў сеялкі просіцца з цёмных амбараў. *П. Панчанка.*

**2.** Крайне грубы, непрыстойны (звычайна пра словы, вырразы).

Адборная лаянка пракацілася па змрочным вагоне. *М. Лынькоў.*

### АДЗЕЦЬ // НАДЗЕЦЬ

**Адзéць. 1.** Пакрыць адзеннем каго-н.

Я памятаю: на самым змроку маці мая сказала мне памыць ногі, адзела мне чыстую сарочку, і мы пайшлі на хутар Зялёны Камень. *К. Чорны.*

**2.** Забяспечыць каго-н. адзеннем.

Ён думаў пра вайну, з якой толькі што вярнуўся, думаў пра дзяцей, якіх трэба было карміць і адзяваць, дый нагул ці мала розных дум і клопатаў у чалавечым жыцці? *В. Гардзей.*

**Надзéць.** Пакрыць сябе (ці што-н.) адзеннем; нацягнуць на сябе (ці на што-н.) адзенне, абутак, чахол і г. д.

Букрэй зняў шынель, аддаў яе дзеду Талашу, а сам надзеў яго кажушок. *Я. Колас.*

### АДЗІНАРНЫ // АРДЫНАРНЫ

**Адзінáрны. 1.** Зроблены з адной часткі; не падвойны.

Цяпер і тут дзверы, адзінарныя, з доўгімі надворнымі завесамі. *А. Кулакоўскі.*

**2.** Прызначаны для аднаго, разлічаны на аднаго.

На вузкім адзінарным ложку, што стаіць ля самага акна, ляжыць падрыўнік Кузняцоў — хлопца параніла асколкам міны. *Д. Цябут.*

**Ардына́рны. 1.** Які нічым не вызначаецца; звычайны, нават пасрэдны.

Кватэра была чысценькая, акуратна прыбрана, абстаўлена ардынарнаю шырпатрэбаўскаю мэбляй. *А. Жук.*

**2.** *Уст.* У абазначэнні вучоных пасад: ардынарны — штатны, патрэбны па штату; п р о ц і л. экстраардынарны — звышштатны.

У 1901 годзе Карскі быў выбраны членам-карэспандэнтам, а ў 1916 годзе — ардынарным (сапраўдным) членам Расійскай Акадэміі. *М. Булахаў.*

## АДЗІНКАВЫ // АДЗІНОКІ // АДЗІНОЧНЫ // АДЗІНЫ

**Адзінкавы.** Які сустракаецца не групай, не ў мностве, а пасобнымі адзінкамі.

Пісьменнік умее ў адзінкавым бачыць вялікае і складанае. *С. Майхровіч.*

**Адзіно́кі. 1.** Адзін без іншых да сябе падобных; адасоблены.

З голых галін таполі тужліва паглядаў долу адзінокі лісток. *М. Лобан.*

**2.** Які не мае сям'і, сваякоў, блізкіх; бессямейны.

Адзінокія жанчыны, і тыя па пяць-дзесяць тысяч зарабілі, ужо не кажучы пра збожжа і бульбу. *А. Шашкоў.*

**Адзіно́чны. 1.** Адасоблены ад іншых да сябе падобных; асобны; выпадковы.

Пачулася некалькі аўтаматных чэргаў, некалькі адзіночных стрэлаў. *М. Лынькоў.*

**2.** Які выконваецца, ажыццяўляецца сіламі аднаго чалавека, звязаны з дзейнасцю аднаго чалавека.

З'явіліся адзіночныя паліцэйскія патрулі. *А. Кучар.*

**3.** Прызначаны для аднаго, разлічаны на аднаго.

Турэмная стража пад моцным канвоем павяла яго [Нявіднага] у адзіночную камеру. *Я. Колас.*

**Адзі́ны. 1.** Толькі адзін.

Дзве яго старэйшыя сёстры пайшлі ўжо замуж, а ён быў трэці і цяпер ужо адзіны ў бацькоў. *К. Чорны.*

**2.** Цэлы, непадзельны; з'яднаны.

Галоўныя героі і мноства сюжэтна нязначных персанажаў ствараюць уяўленне адзінага і адначасова вельмі шматаблічнага вобраза народа, які з'яўляецца героем «Векапомных дзён». *П. Дзюбайла.*

**3.** Аднолькавы, агульны для ўсіх.

Задача ў нас была адна, і лёс адзіны нас сасватаў. *А. Астрэйка.*

## АДКЛАД // АДКЛАДАННЕ

**Адкла́д.** Перанясенне на больш позні час.

Сінонім: адтэрміноўка.

Тут жа без адкладу і адбылася сяброўская вечарына, бо інакш не назавеш гэтую цікавую сустрэчу. *У. Дубоўка.*

**Адклада́нне. 1.** Накопліванне астаткаў якіх-н. рэчываў; утварэнне адкладаў — асадкаў арганічных і неарганічных рэчываў.

Адкладанні, якія прыносяцца ракой, могуць запоўніць не толькі возера, але і вялікія марскія залівы. *Фізічная геаграфія.*

**2.** Ужываецца са словамі «яйкі», «лічынкі», «ікра» і пад. (для захавання патомства).

Адкладанне ікры ў карася праходзіць звычайна ў некалькі прыёмаў са значнымі перапынкамі паміж імі. *А. Матрунёнак.*

## АДКЛАДЗЕНЫ // АДКЛАДНЫ

**Адкла́дзены.** Перанесены на больш позні час.

Сінонім: адтэрмінаваны.

З-за такой непрадбачанай сітуацыі сустрэча паміж камандамі была адкладзена. *Звязда.*

**Адкладны́.** Які адкладваецца, апускаецца.

Старшыня сельсавета, круглатвары мацачок у падперазанай рэменем цёмна-сіняй гімнасцёрцы з адкладным каўняром, віншуючы маладых, не стрымаў свайго захаплення: — Царыца! *А. Капусцін.*

## АДЛУЧКА // АДЛУЧЭННЕ

**Адлу́чка.** Адыход адкуль-н. на пэўны час; часовая адсутнасць.

У атрадзе быў заведзены такі парадак: дазвол на адлучку даваў толькі камандзір ці камісар. *І. Сіняўскі.*

**Адлучэ́нне.** Пазбаўленне каго-н. сувязей з кім-чым-н.; выключэнне з рэлігійнай абшчыны; выгнанне.

Магутнай зброяй у руках царквы было адлучэнне. *А. Касмінскі.*

## АДМЕННЫ // АДМЕТНЫ

**Адме́нны.** Выдатны па сваіх якасцях, самы лепшы; надзвычайны.

Навакол былі выдатныя грыбныя мясціны, дзе раслі адменныя баравікі. *М. Лынькоў.*

**Адме́тны.** Не падобны да іншых; своеасаблівы, непаўторны, характэрны.

На вуглянскіх палетках заўжды нешта адметнае, такое, чаго няма ў іншых. *А. Савіцкі.*

### АДНАРУКІ // АДНАРУЧНЫ

**Аднару́кі.** *толькі з адуш. наз.* З адной рукой.

Каля самае брамы брыгаднага двара Хрысцюка аклікнуў начны вартаўнік, аднарукі Кастусь Парфёнчык. *І. Дуброўскі.*

**Аднару́чны.** *толькі з неадуш. наз.* З адной ручкай; прыстасаваны для работы адной рукой.

Аднаручны збанок. Аднаручная піла.

### АДРАСАНТ // АДРАСАТ

**Адраса́нт.** Той, хто пасылае паштовае адпраўленне.

Сінонім: адпраўнік.

Прыносіць пісьмы паштальён ад незнаёмых адрасантаў. *Х. Жычка.*

**Адраса́т.** Той, каму адрасавана паштовае адпраўленне.

Сінонім: атрымальнік.

Адзін мой ліст вярнуўся назад з прыпіскай, што адрасат выбыў. *С. Шушкевіч.*

### АДРЫВАЧНЫ // АДРЫВІСТЫ // АДРЫЎНЫ

**Адры́вачны.** Якія не з'яўляецца звязным цэлым, няпоўны; які складаецца з асобных урыўкаў.

Вучоныя, стварыўшыя гэтыя тэорыі, абапіраліся толькі на выпадковыя, адрывачныя даныя. *Б. Розен.*

**Адры́вісты.** Які раптоўна абрываецца; рэзкі, перарывісты (пра гукі).

Часам добра былі чуваць чужыя галасы, рэзкія, адрывістыя. *І. Мележ.*

**Адрыўны́.** Такі, ад якога можна адрываць лісткі.

Старая гармонь з пабляклымі ладамі віселa на сцяне. Побач з ёй некалькі яскравых малюнкаў, адрыўны каляндар, партрэтаў некалькі. *М. Лынькоў.*

### АДСТАЛЫ // АДСТАЮЧЫ

**Адста́лы.** Які стаіць на больш нізкім узроўні развіцця, чым іншыя.

Васілёва жаданне пайсці старшынёй такога адсталага калгаса спадабалася райкому. *І. Шамякін.*

**Адстаючы.** Які адстае ад каго-чаго-н.

Нягледзячы на тое што давялося несці на плячах тол і боепрыпасы, адстаючых не было. *І. Мележ.*

## АДУКАВАНЫ // АДУКАЦЫЙНЫ

**Адукава́ны.** Які атрымаў шырокую адукацыю, мае рознабаковыя веды; інтэлігентны, культурны, выхаваны.

Ігнат упершыню пачуў з вуснаў адукаванага чалавека пра тое, пра што марылі бедныя аднавяскоўцы яго. *І. Шамякін.*

**Адукацы́йны.** Звязаны з адукацыяй, асветай, навучаннем.

Кожны настаўнік абавязаны правесці экскурсіі, указаныя ў праграме, улічваючы іх вялікае адукацыйнае і выхаваўчае значэнне. *М. Скаткін.*

## АДУХОЎЛЕНЫ // АДУШАЎЛЁНЫ

**Адухо́ўлены. 1.** Надзелены вышэйшымі духоўнымі здольнасцямі (пра жывёл, з'явы прыроды, рэчы).

Гэтыя радкі даюць прыклад таго, якім адухоўленым кампанентам у творчасці Броўкі з'яўляецца прырода. *Полымя.*

**2.** Поўны высакародных пачуццяў і імкненняў; які выяўляе такія пачуцці; духоўна прыгожы.

Сінонім: узнёслы.

Маладыя сінія вочы, сівая кучаравая барада і высокі лоб рабілі твар гэтага немаладога ўжо мужчыны прыгожым і адухоўленым. *В. Іпатава.*

**Адушаўлёны. 1.** Які належыць да жывых істот.

Сінонім: жывы.

Нашы продкі не ведалі істотных адрозненняў паміж жывой і нежывой прыродай. Яна ім уяўлялася аднолькава жывой і адушаўлёнай, г. зн. населенай духамі. *Пытанні рэлігіі і атэізму.*

**2.** У граматыцы: які належыць да назоўнікаў, што абазначаюць назвы жывых істот.

Сярод агульных і ўласных назоўнікаў вылучаюцца назвы прадметаў адушаўлёных: людзей, рыб, насякомых *(аграном, конь, бусел, авадзень). Граматыка беларускай мовы.*

## АЖЫЦЦЯВІМАСЦЬ // АЖЫЦЦЯЎЛЕННЕ

**Ажыццяві́масць.** Магчымасць ажыццявіць, здзейсніць што-н.

Сінонім: здзяйсняльнасць.

Калі пачатак як бы аддаваў перавагу марам над рэальнасцю, дык канцоўка сцвярджае іх адзінства, прызнаючы пэўную рэ-

альнасць, жыццёвасць і ажыццявімасць мары аб свабодзе, шчасці і красе. *У. Калеснік.*

**Ажыццяўле́нне.** Правядзенне ў жыццё, выкананне чаго-н. Сінонім: здзяйсненне.

Цяпер раман закончаны, атрымала сваё мастацкае ўвасабленне вялікая задума, над ажыццяўленнем якой аўтар працаваў многія гады. *Р. Шкраба.*

### АЗДОБЛЕНЫ // АЗДОБНЫ

**Аздо́блены.** Упрыгожаны; якому надалі прыемны выгляд.

І раптам ён выпростваецца, нібы усхопліваецца ад чаго, вымае з роту аздобленую меддзю люльку, і на твары яго з'яўляецца захапленне. *В. Быкаў.*

**Аздо́бны.** Прызначаны для аздобы, упрыгожвання.

Шнур аздобны паўшаўковы выпрабляецца двух відаў: звычайны і фасонны. *Таваразнаўства.*

### АКАВАЦЬ // ПАДКАВАЦЬ

**Акава́ць.** *што.* Абабіць металам што-н.

Моцныя, акованыя *(дзеепрым.)* жалезам вароты, былі на замку. *А. Жук.*

**Падкава́ць.** Падбіць падкову.

Кавалю, скажам, калі ён ведае сваю кавальскую справу, нічога не значыць узяць і падкаваць каня... *А. Васілевіч.*

### АКАЛЕЧАЦЬ // АКАЛЕЧЫЦЬ

**Акале́чаць.** *Разм.* Стаць калекам.

Акалечаў Міхал Стальмаховіч у позпюю восень, у ясную ноч. *К. Чорны.*

**Акале́чыць.** *каго-што.* Пашкодзіць які-н. орган, зрабіўшы траўму; зрабіць калекам каго-н.

Сінонім: пакалечыць.

О, дзякуй, дзякуй, чалавеча! Я рад спачыну; балазе, к таму сказаць, і акалечыў свой большы палец на назе. *Я. Купала.*

### АКРАВАК // АКРАЕК // АКРАЕЦ

**Акра́вак.** Абрэзак, шматок чаго-н. (скуры, тканіны і г. д.).

Вулічнае акно .. было заткнута кажушным акраўкам. *В. Вітка.*

**Акра́ек.** Край чаго-н.

У небе з-за гор выплыў ускудлачаны акраек хмары — хутка насоўваўся дождж. *В. Быкаў.*

**Акра́ец.** Кавалак хлеба (пірага, булкі), адрэзаны ад непачатага краю.

На адным канцы століка ляжаў загорнуты ў даматканы абрус акраец хлеба. *Я. Колас.*

### АКРУГЛЕЛЫ // АКРУГЛЕНЫ // АКРУГЛЫ

**Акругле́лы.** Які зрабіўся круглым.

Надзьмутыя шарыкі сталі прыгожымі, акруглымі, ад лёгкага дотыку яны ўзляталі пад самую столь, і гэта вельмі цешыла дзяцей.

**Акру́глены.** Такі, які акруглілі, якому надалі акругленыя абрысы.

Флігель .. упіраецца сваім акругленым фасадам у бок вялізнага парку. *З. Бядуля.*

**Акру́глы.** Які мае закругленыя лініі, абрысы, акругленую форму.

У памяці Тоні паўстаў прыгожы, у меру акруглы твар маладой жанчыны. *А. Асіпенка.*

### АКРУГЛЕЦЬ // АКРУГЛІЦЬ

**Акругле́ць.** *Разм.* Стаць круглейшым; набыць акруглую форму.

С і н о н і м: акругліцца.

Раптам вочы яго акруглелі, на твары з'явілася ні то здзіўленне, ні то спалох. *А. Якімовіч.*

**Акругліць.** *што.* **1.** Зрабіць круглым; надаць чаму-н. акруглую форму.

Далёкія кусты ў тонкім прыцемку раскупчасціліся, акруглілі свае абрысы і ў гордасці сваёй ядлоўцавай застылі перад адзінокай вярбою. *К. Чорны.*

**2.** Выразіць у круглых лічбах.

Акругліць дзесятковы дроб.

### АКРУГОВЫ // АКРУЖНЫ

**Акруго́вы.** Які мае дачыненне да акругі.

Шукаючы праўды, даўгінаўцы трапілі ажно ў акруговы суд. *А. Бажко.*

**Акру́жны. 1.** Які размешчаны вакол чаго-н. або дзейнічае па акружнасці.

Акружная скорасць кола роўна паступальнай скорасці трактара ДТ-54 на другой перадачы. *М. Аляксейчык.*

**2.** Кружны, абходны.

[Міканор] устаў і пайшоў далей акружнай сцежкай. *А. Кулакоўскі.*

## АЛЬЯНС // АЛЬЯС

**Альянс.** Саюз, аб'яднанне на аснове дагаворных абавязацельстваў.

Як сапраўдны бізнесмен, ён здолеў належным чынам ацаніць станоўчыя якасці найсвяцейшага партнёра і выгады, што выплывалі з гэтага альянсу. *Я. Галан.*

**Альяс.** Трапічная расліна з тоўстымі прадаўгаватымі калючымі лістамі.

Сінонім: алоэ.

На падаконніках у гаршчэчках, вялікіх і малых, цэлых і вышчарбленых, вазоны: там раслі бягонія, кактус, герань і альяс. *І. Гурскі.*

## АМОНІМ // АНАНІМ

**Амонім.** Слова, аднолькавае па гучанню з другім словам, але рознае з ім па значэнню.

Беларуская мова часта з дапамогай тых ці іншых сродкаў пазбаўляецца непажаданых амонімаў. *П. Юргелевіч.*

**Ананім.** Аўтар твора (пісьма), які ўтаіў сваё імя; твор без подпісу, невядома кім напісаны.

Вось і ў даным выпадку: ананім правільна піша аб недахопах у рабоце вашага прадпрыемства. *М. Пянкрат.*

## АМПЛУА // АМПУЛА

**Амплуа.** Пэўнае характэрнае кола роляў, якія выконваюцца акцёрам.

«Гэта будзе больш, чым Тальёні, больш, чым Істоміна... і ўсё ж, гэта не яе амплуа. Ёй бы Адэту, Лебедзя». *У. Караткевіч.*

**Ампула.** Герметычна запаяная шкляная пасудзіна невялікіх памераў, у якой захоўваецца ў стэрыльным выглядзе невялікая доза лякарстваў.

Ампула з глюкозай.

## АНТАРКТЫЧНЫ // АРКТЫЧНЫ

**Антарктычны.** Звязаны з паўднёвай палярнай вобласцю зямнога шара.

Галоўны раён кітабойнага промыслу — антарктычныя воды. *І. Вітвер.*

**Арктычны.** Звязаны з паўночнай палярнай вобласцю зямнога шара.

На атамным ледаколе можна лёгка зрабіць запасы паліва для аднаго-, двух- і нават трохгадовага рэйса ў арктычных морах. *Беларусь.*

### АНТРАКТ // КАНТРАКТ // ҚАНТАКТ

**Антра́кт.** Перапынак паміж актамі спектакля або аддзяленнямі канцэрта.

Яны сустрэліся нечакана праз многа-многа год у тэатры. У час антракту сядзелі насупраць адно аднаго за маленькім чырвоным столікам у буфеце. *А. Жук.*

**Кантра́кт.** Пісьмовы дагавор, пагадненне двух бакоў з узаемнымі абавязацельствамі.

Кантракт яшчэ не быў падпісан, але ўсё было згаворана. *К. Чорны.*

**Қанта́кт. 1.** Цесная ўзаемасувязь, узгодненасць у дзеяннях; узаемаразуменне.

Кантакт спявачкі з залай узнікае адразу, з першага слова песні, і мацнее з кожным тактам. *В. Вольскі.*

**2.** Злучэнне двух электрычных праваднікоў; месца такога злучэння.

Рукі пачалі таропка бегаць па прыёмніку, абмацваючы кантакты. *У. Крайчанка.*

### АПАРТУНІСТЫЧНЫ // АПАРТУНІСЦКІ

**Апартуністы́чны.** Які мае адносіны да апартунізму.

Апартуністычная палітыка.

**Апартуні́сцкі.** Які мае адносіны да апартуністаў.

Апартуніцкая група.

### АПЕНДЫКС // АПЕНДЫЦЫТ

**Апе́ндыкс.** Чэрвепадобны адростак сляпой кішкі.

Рэгістратарка .. пачала супакойваць, гаворачы, што аперацыя лёгкая і вельмі ўжо трывожыцца не трэба. У Амерыцы вунь як народзіцца дзіця, дык яму адразу і апендыкс выразаюць, для прафілактыкі. *В. Хомчанка.*

**Апендыцы́т.** Запаленне апендыкса.

У бальніцы Сашку агледзеў спачатку адзін доктар, потым другі, нараіліся між сабой і сказалі, што хлопчыка трэба класці на аперацыю: у малога апендыцыт. *В. Хомчанка.*

### АПЕРАТЫЎНЫ // АПЕРАЦЫЙНЫ

**Аператы́ўны.** Здольны хутка і правільна выконваць практычныя задачы; дзейсны.

Нашаму ж часопісу сапраўды патрэбна была аўтамашына

для аператыўных выездаў у раёны, для больш непасрэднай сувязі з моладдзю калгасаў і саўгасаў. *А. Кулакоўскі.*

**Аперацы́йны. 1.** Прызначаны для аперацыі, звязаны з аперацыяй.

Сінонім: хірургічны.

Калі іх, бацькоў, упусцілі ў аперацыйны пакой,— маці з плачам кінулася да стала. *Я. Брыль.*

**2.** Прызначаны для непасрэднага, практычнага ажыццяўлення чаго-н.; звязаны з баявымі дзеяннямі.

Чуліся галасы, што наспеў ужо час аб'яднаць усе атрады адзіным аперацыйным цэнтрам, падпарадкаваць баявую дзейнасць усіх атрадаў адзінаму аперацыйнаму плану. *М. Лынькоў.*

### АПЛАТА // АПЛАТКА

**Апла́та.** Пакрыццё якіх-н. выдаткаў; выплата; грошы, якія выплачваюцца за што-н.

На змену працадню з «палачкай» прыйшла грашовая аплата, загарэліся ў хатах электрычныя лямпачкі. *Звязда.*

**Апла́тка.** Капсула з лякарствам; аладачка для прычасця (у католікаў).

[Нехта] прадаў [ордэны і медалі] разам з бляшанкамі «кількі ў тамаце», фотаапаратам «зеніт», халвой, плёткамі шакаладу, аплаткамі валідолу, прасамі, кававаркамі, пральным парашком і інш. *ЛіМ.*

### АПОЕНЫ // АПОЙКАВЫ

**Апо́ены.** Напоены больш, чым трэба, празмерна.

Апоенае цялё не выганялі на пашу.

**Апо́йкавы.** Які мае дачыненне да апойкі — шкуры малочнага цяляці; зроблены з такой шкуры.

Апойкавая шкура. Апойкавыя боты.

### АПОЛАГ // АПОЛАК // АПОРАК

**Апо́лаг.** Кароткае алегарычнае апавяданне з жыцця жывёл ці раслін, якое мае выразна выказаную мараль.

Павучальны аполаг. Цікавы аполаг.

**Апо́лак.** Крайняя з бервяна дошка, выпуклая з аднаго боку.

Тут, пры дарозе, на грудку, і закапаў [салдата], паставіўшы на свежай магілцы збіты са старых, але пагабляваных аполкаў невысокі крыж. *В. Адамчык.*

**Апо́рак.** *звычайна мн.* а п о р к і. Стары бот з адрэзанай халявою.

Яшчэ трэба такую далячынь тэпаць па раскаўзанай восеньскай дарозе, мясіць густую гразь парванымі чаравікамі альбо нейкімі апоркамі, з якіх вытыркаюцца пальцы. *Я. Сіпакоў.*

### АПТЫМАЛЬНЫ // АПТЫМІСТЫЧНЫ

**Аптыма́льны.** Найбольш спрыяльны для чаго-н., найбольш адпаведны чаму-н., найлепшы.

Чым бліжэй будуць умовы ўтрымання і кармлення жывёлы да аптымальных, тым больш верагодна наблізіцца да высокіх паказчыкаў прадукцыйнасці. *Полымя.*

**Аптымісты́чны.** Поўны аптымізму, жыццярадасны.

Развязка «Раскіданага гнязда» глыбока аптымістычная. *М. Ярош.*

### АПТЭКАРСКІ // АПТЭЧНЫ

**Аптэ́карскі.** Які мае адносіны да аптэкара; які належыць аптэкару.

Аптэкарская работа. Аптэкарскі халат.

**Аптэ́чны.** Які мае адносіны да аптэкі.

Знайшлося месца аптэчнаму кіёску, дзе прадаваліся таксама настоі і адвары гаючых траў. *А. Дзялендзік.*

### АПУХА // АПУШЫНА

**Апу́ха.** Футравая абшыўка па краях адзення ці абутку.

Апуха даражэй кажуха. *Прымаўка.*

**Апу́шына.** Дошка па краях даху, страхі.

І тонуць асверы, пярэплаты, рогі апушын за пылам дарожным, за шэрым накатам гары. *М. Танк.*

### АРАЛА // РАЛА

**Ара́ла.** *Уст. паэт.* Прылада для ворыва, саха.

Хіба тут цесна? свету мала? Няма работы для арала ці для сярпа, або для коскі? *Я. Колас.*

**Ра́ла. 1.** Адгалінаванне ствала дрэва; тоўсты сук.

Ад вуліцы перад хатай разложыста стаяў клён з аднаго боку і ніцая бяроза з другога. У ёй, у дупле, ніжэй рала, жыла шпачыная сям'я. *А. Жук.*

**2.** *Уст.* Старажытная прылада для ворыва (з тоўстага сука).

То быў адзіны спосаб, які ведалі жанчыны: баразною, ралам, абведзеным наўкруга іх вёскі, ратаваць сябе, сваіх дзяцей, сваіх мужоў ад витрыска, што мог навеяць на іх сяло мор — чорную смерць. *А. Лойка.*

**Арашáльны.** Які звязаны з арашэннем; прызначаны для арашэння.

Над капустай шэрым алавяным бляскам адсвечвалі трубы арашальнай сістэмы. *М. Ракітны.*

**Арашóны.** Увільготнены, напоены вільгаццю; паліты (дажджом, вадою).

Маладая трава, арашоная дажджом, здавалася аксамітнай.

### АРДЫНАРАЦ // АРДЫНАТАР

**Ардынáрац.** Ваеннаслужачы пры камандзіру або пры штабе для сувязі, выканання асобных даручэнняў і асабістых паслуг.

Адным словам, хлопец быў тарарыскі, як цяпер кажуць, камунікабельны. Такіх любяць камандзіры і бяруць іх ардынарцамі, пісарамі. *В. Хомчанка.*

**Ардынáтар.** Доктар бальніцы, клінікі, які лечыць пад кіраўніцтвам загадчыка аддзялення.

Пасля заканчэння медінстытута ён першы год працаваў у паліклініцы ардынатарам.

### АРЭАЛ // АРЭОЛ

**Арэáл.** *Спец.* Вобласць натуральнага пашырэння якога-н. віду, сямейства жывёл, раслін і інш.

Арэал сумчатых з часоў асваення еўрапейцамі Аўстраліі і Амерыкі вельмі зменшыўся. *БелСЭ.*

**Арэóл. 1.** Светлы круг вакол чаго-н., падобны на ззянне.

Высокі слуп святла, што маячыў недзе ўперадзе, пачаў набліжацца, ярчэць, і праз некалькі імгненняў у мігатлівым туманным арэоле весела заблішчала рознакаляровымі агнямі навагодняя ёлка. *В. Палтаран.*

**2.** *перан.* Атмасфера славы, бляску, пашаны, якая акружае каго-што-н.

У першыя хвіліны пакупка дае яму сапраўднае задавальненне, акружае арэолам перавагі над зняслаўленым супернікам. *Д. Гальмакоў.*

### АРЭШКАВЫ // АРЭШНІКАВЫ

**Арэ́шкавы.** *Разм.* Зроблены з арэшыны.

Арэшкавы кій.

**Арэ́шнікавы.** Які мае адносіны да арэшніку, ляшчынніку. Арэшнікавы зараснік.

## АСАБІСТЫ // АСАБОВЫ // АСАБЛІВЫ

**Асабі́сты.** Які належыць пэўнай асобе, прызначаны для яе; звязаны з канкрэтнай асобай.

З лёсам краіны непарыўна звязваецца і асабісты лёс чалавека. *М. Барсток.*

**Асабо́вы.** Які выражае граматычную катэгорыю асобы.

Памылкі ў выкарыстанні асабовых займеннікаў дапускаюць не толькі пачынаючыя аўтары, але і вопытныя літаратары. *М. Цікоцкі.*

У выразах: а с а б о в ы с к л а д, а с а б о в ы р а х у н а к, а с а б о в а я с п р а в а.

А с а б о в ы с к л а д — склад асоб (рабочых, служачых) якой-н. установы, прадпрыемства, вайсковай часці і г. д.

З розных месц паведамлялі адно: увесь асабовы склад вучылішча пераведзены на караблі Балтыйскага флоту. *Б. Стральцоў.*

А с а б о в ы р а х у н а к — рахунак, адкрыты на пэўную асобу.

Зробяць і запішуць кошт работы на асабовы рахунак члена арцелі. *Беларусь.*

А с а б о в а я с п р а в а — папка з дакументамі якой-н. асобы, што працуе ў дадзенай установе.

Асабовая справа заўсёды захоўваецца ў аддзеле кадраў.

Н я п р а в і л ь н а. Ён .. адгарнуў тонкую сінюю вокладку папкі і зірнуў туды. Я зразумеў, што гэта мая асабістая (трэба: асабовая) справа ў яго на стале. *А. Кулакоўскі.*

**Асаблі́вы. 1.** Не падобны да іншых; не такі, як усе; адметны.

Меў асаблівы выгляд кожны, ды лёс аднолькавы затое. *У. Дубоўка.*

**2.** Больш значны, чым звычайны.

І, не чакаючы асаблівага запрашэння, Міколка важна ўсеўся ў крэсле, ля стала. *М. Лынькоў.*

Н я п р а в і л ь н а. Усе мы, хто асабліва (трэба: асабіста) ведаў Мікалая Мацвеевіча і каму давялося сустракацца з ім па службе, былі ў палоне яго асабістай абаяльнасці. *Полымя.*

## АСВЕТЛЕНАСЦЬ // АСВЯТЛЕННЕ

**Асве́тленасць.** Ступень асвятлення якой-н. паверхні, прасторы.

Асветленасць паверхні вымяраецца светлавым патокам, падаючым на адзінку паверхні. *Фізіка.*

**Асвятле́нне. 1.** Святло ад якой-н. крыніцы (сонца, лямпы, агню).

Лучына дыміць і чадзіць. Непрывычнаму чалавеку было б кепска пры гэтым асвятленні, а прывычнаму — лепей і не трэба. *З. Бядуля.*

**2.** Тэхнічнае абсталяванне, якое дае святло.

Дубок асвойваў цяпер прафесію электраманцёра вузла, рамантаваў асвятленне дэпо, станцыйных стрэлак і семафораў. *М. Лынькоў.*

**3.** *перан.* Растлумачэнне, дэтальны разбор чаго-н.

Пачаць урок можна з асвятлення саміх фактаў біяграфіі. *М. Барсток.*

### АСВЕТЛЕНЫ / АСВЕЧАНЫ // АСВЯТЛЯЛЬНЫ

**Асве́тлены.** Які асвятлілі, зрабілі светлым, бачным.

А лес, асветлены і абагрэты сонцам, пазіраў зусім-такі весела. *Я. Колас.*

**Асве́чаны.** Тое, што і асветлены.

Асвечаныя зарой ствалы сосен чырванеюць, як золата. *В. Хомчанка.*

**Асвятля́льны.** Прызначаны для штучнага асвятлення.

Белая асвятляльная ракета ўзвілася ўгору. *У. Шахавец.*

### АСВЕТНІЦКІ // АСВЕТНЫ // АСВЕЧАНЫ

**Асве́тніцкі.** Які мае адносіны да асветніцтва, асветніка.

Ахвярнаю асветніцкаю працай першадрукар [Скарына] узорваў культурную глебу Беларусі пад засеў гуманістычных ідэй, а Гусоўскі вырашыў увесці жыццё Беларусі і гісторыю ў пантэон гуманістычнай культуры Еўропы. *У. Калеснік.*

**Асве́тны.** Які служыць асвеце, адукацыі.

Царскі ўрад прыгнятаў, а часам ліквідаваў мясцовыя школы, тэатры, розныя асветныя ўстановы. *К. Пракошына.*

**Асве́чаны.** Адукаваны, культурны.

Ну, вядома, на тое паслы пісьменныя, асвечаныя людзі, каб гаварыць усё больш па-кніжнаму. *П. Пестрак.*

### АСВОІЦЬ // ЗАСВОІЦЬ

**Асво́іць. 1.** Навучыцца карыстацца чым-н.; навучыцца выпрацоўваць што-н.

На кожным участку патрэбны былі тапографы, і я даволі скора асвоіў гэту спецыяльнасць. *Ю. Гаўрук.*

**2.** Уключыць у круг сваёй гаспадарчай дзейнасці; абжыць. Асвоіць цаліну. Асвоіць фонды.

**Засво́іць. 1.** Успрыняўшы што-н. новае або чужое, зрабіць прывычным для сябе.

Вучні малодшых класаў павінны добра засвоіць правілы вулічнага руху.

**2.** Добра зразумеўшы што-н., запомніць, вывучыць.

Старанны вучань добра засвоіць курс сярэдняй школы.

**3.** Перапрацаваўшы, увабраць у сябе, спажыць (пра пажы)ныя рэчывы).

Расліна засвойвае пажыўныя рэчывы з глебы.

### АСЕЛІЦА // АСЕЛІШЧА

**Асе́ліца.** Наваколле паселішча.

Ужо на аселіцы стаялі бухматыя стагі сена, у садах пача гнуцца галіны ад цяжару яблык і груш. *В. Гардзей.*

**Асе́лішча.** Месца, занятае пабудовамі, гародамі, садамі; ме ца жыхарства.

С і н о н і м: сядзіба.

Чалавек гэты быў рухавы і, напэўна, меў натуру, якая выпр цавалася пад уплывам таго, што ён не меў на свеце сталага ас лішча. *К. Чорны.*

### АСІРАЦЕЦЬ // АСІРАЦІЦЬ

**Асірацéць.** Стаць сіратою.

Ён асірацеў тады, калі яму было дваццаць год. Бацька і ма памерлі ў адно лета. *К. Чорны.*

**Асіраці́ць.** *каго.* Зрабіць каго-н. сіратою.

Некалі дзяліліся, не маглі падзяліць усяго па-людску — заб лі роднага брата, самага старэйшага ў сям'і, асірацілі трое дз цей. *У. Дамашэвіч.*

### АСЛАБЕЛЫ // АСЛАБЛЕНЫ

**Аслабе́лы.** Які стаў слабым, нядужым.

Адна качка хіснулася, ырае ўніз, нямёмка махае аслабелы крыллямі і, апісаўшы дугу, раптам шлёпаецца ў ваду. *Я. Кол*

**Асла́блены. 1.** Пазбаўлены былой сілы.

Аслабленыя за зіму пчолы не могуць актыўна супраціўляц ўзбуджальнікам хваробы. *М. Шамяткоў.*

**2.** Менш тугі, слабей нацягнуты; паслаблены, адпушчан

Трэба праверыць мацаванне, змазаць рухомыя часткі механі маў, падкруціць аслабленыя гайкі. *П. Валкадаеў.*

### АСЛАБЕЦЬ // АСЛАБІЦЬ

**Аслабе́ць. 1.** Стаць слабейшым; зрабіцца фізічна слабы нядужым.

Ногі ў мяне аслабелі і зрабіліся як не свае, калі я выйшаў

перон, дзе стаяў невялікі лёгкі будыначак вакзала, абліцаваны кафельнай пліткай. *В. Адамчык.*

**2.** Зменшыцца ў сіле свайго выяўлення.

Здавалася, што стаіць сакавік, калі суцішыліся, збеглі мяцеліцы, аслабеў мароз, з кожным днём вышэй паднімаецца сонца. *Г. Далідовіч.*

**Асла́біць.** *каго-што.* **1.** Зрабіць слабейшым, пазбавіць сілы каго-што.

У пачатку сезона з каманды па розных прычынах пайшло некалькі ігракоў. Гэта яшчэ больш аслабіла каманду, якая і так перажывала балючы працэс амаладжэння. *Маладосць.*

**2.** Зрабіць не такім нацягнутым, не такім тугім.

[Сакратар] зняў пінжак, павесіў на вешалку ў шафе, расшпіліў рукавы рубашкі, крыху закасаў іх, аслабіў вузел на гальштуку. *А. Жук.*

### АСЛЕПЛЕНЫ // АСЛЕПЛЫ // АСЛЯПЛЯЛЬНЫ

**Асле́плены. 1.** Пазбаўлены зроку, сляпы; часова страціўшы здольнасць бачыць што-н.

Мы на міг былі аслеплены зыркаю маланкай сіняй. *Я. Непачаловіч.*

**2.** *перан.* Пазбаўлены здольнасці правільна зразумець што-н., разабрацца ў чым-н.

Я быў проста аслеплены сваім шчасцем. *У. Дамашэвіч.*

**Асле́плы.** Які страціў зрок, стаў сляпым.

С і н о н і м: сляпы.

Магчыма, трохі памяць вінавата... Хоць бачу, як цяпер: асеннім днём вадзіў хлапчук аслеплага салдата з пазелянелым круглым медалём. *С. Грахоўскі.*

**Асляпля́льны.** Які слепіць вочы сваім вельмі яркім ззяннем, бляскам.

С і н о н і м: вельмі яркі.

Асляпляльная маланка запаліла ўсё неба, і тут жа ўдарыў траскучы і рэзкі пярун. *У. Дамашэвіч.*

### АСМУГЛЫ // АСМУЖАНЫ // АСМЯГЛЫ

**Асму́глы. 1.** Цёмны, смуглы; абветраны, загарэлы.

Асмуглыя рукі яе захінаюць кажушок стары. *П. Глебка.*

**2.** Зацягнуты смугою; туманны, імглісты; асмужаны.

Вялікае барвовае сонца нізка павісла над асмужанымі дубровамі. *С. Грахоўскі.*

**Асмя́глы.** Перасохлы, сухі.

Ён расплюшчвае вочы, напружваецца з усяе сілы, шэпча асмяглымі вуснамі. *У. Мехаў.*

**Асна́шчанасць.** Забяспечанасць тэхнічнымі сродкамі.

З года ў год узрастае тэхнічная аснашчанасць сельскай гаспадаркі. *Звязда.*

**Аснашчэ́нне.** Забеспячэнне тэхнічнымі сродкамі; аснастка.

Аснашчэнне перадавой тэхнікай сельскай гаспадаркі садзейнічала далейшым поспехам калектывізацыі. *Л. Абецадарскі.*

## АСНОВА // ВЫСНОВА

**Асно́ва. 1.** Галоўная частка, якая служыць апорай для чаго-н.; каркас.

Хлопцы .. прынеслі з лесу дзве расохі і ўбілі іх у зямлю. Наверсе паклалі перакладзіну, і аснова шалашыка была гатова. *А. Чарнышэвіч.*

**2.** Грунт ці штучнае збудаванне, на якім трымаецца, знаходзіцца што-н.; падмурак.

Дваццатага чэрвеня мы ўжо змаглі прыступіць да падрыхтоўкі бетоннай асновы, а ў верасні распачалі ўкладку бетону. *Полымя.*

**3.** *перан.* Сутнасць чаго-н.; зыходны матэрыял для стварэння чаго-н.

Мы песні сваёй палажылі ў аснову і чыстую праўду, і чыстую мову. *М. Лужанін.*

**4.** Падоўжныя ніткі ў тканіне.

Дзяўчаткі, не чакаючы, пакуль пража будзе перавіта ў маткі, схапілі шпулькі і сталі бегаць з імі ўздоўж сцяны — рабіць аснову. *Я. Пархута.*

**5.** *мн.* Зыходныя, галоўныя палажэнні якой-н. навукі, тэорыі і пад.

Наша настаўніца хацела, каб малыя добра навучыліся чытаць і пісаць, авалодалі асновамі навук. *І. Грамовіч.*

**6.** У граматыцы: частка слова без канчатка.

Нязменная частка слова, якая застаецца, калі адкінуць канчатак, называецца асновай. *Беларуская мова.*

**Высно́ва.** Вывад, заключэнне.

Даўно ўжо стала неабвержанай ісцінай выснова, што народ, які не ведае сваёй мінуўшчыны, не варты і будучыні. *М. Ермаловіч.*

## АСОБНЫ // АСОБЫ

**Aсо́бны. 1.** Які вылучаны з шэрага іншых, існуе асобна побач з іншымі.

Спачатку ў паветры, быццам шэрыя матылі, закружыліся

асобныя сняжынкі. *Г. Шчарбатаў.* ‖ Адасоблены ад іншых. Дывізія была разбіта, і байцы асобнымі групкамі прабіваліся на ўсход самі. *І. Мележ.*

**2.** Які з'яўляецца самастойнай тактычнай адзінкай, не ўваходзіць у склад больш буйнога вайсковага злучэння.

Асобны танкавы батальён. Асобная брыгада.

**Асо́бы. 1.** Адметны, не падобны да іншых; асаблівы, свой, толькі яму ўласцівы; індывідуальны.

У Куранях, мабыць, не было такой хаты, якая не мела б рыбалоўнай прылады. Прылады гэтыя былі асобыя. *І. Мележ.*

**2.** Які мае спецыяльныя функцыі, спецыяльнае прызначэнне.

Некалькі хлопцаў і Шэўка, выдатны начальнік асобага аддзела, забіты. *Я. Брыль.*

### АСТАНКІ // АСТАТКІ

**Аста́нкі.** *адз. няма.* Цела нябожчыка; прах.

Радзіма — гэта і той курганок зямлі, дзе ляжаць астанкі бацькоў, дзядоў і прадзедаў. *Б. Сачанка.*

**Аста́ткі. 1.** *адз.* астатак. Нявыкарыстаныя, незрасходаваныя часткі чаго-н., якія засталіся як лішак.

Тады мы падыходзілі да кухні са сваім посудам — хто з бляшанкай, хто з чыгунком ці махоткай,— і повар раздаваў астатак ежы. *І. Чыгрынаў.*

**2.** *звычайна мн.* Тое, што захавалася, уцалела (ад разбурэння, гібелі і г. д.).

Мільгаюць бярозы — астаткі даўнейшых прысад. *Н. Гілевіч.*

**3.** *толькі мн.* Адходы якога-н. вытворчага працэсу.

Сінонім: адкіды.

Хімічная прамысловасць выкарыстоўвае цяпер амаль усе астаткі нафтавай перапрацоўкі. *Звязда.*

### АСУДЖАНАСЦЬ // АСУДЖЭННЕ

**Асу́джанасць.** Поўная безнадзейнасць; пагроза гібелі.

Трывожнае пачуццё асуджанасці ўсё больш ахоплівала яго, і Аўсееў, напружыўшы ўсе сілы розуму, узяўся шукаць выйсця. *В. Быкаў.*

**Асуджэ́нне.** Выказванне неадабрэння; ганьбаванне.

Факт сам па сабе варты ўсякага асуджэння. *Полымя.*

**Асэ́сар. 1.** *Гіст.* Судовая службовая асоба; засядацель.

Ц і х о н. Гэты сабака Ліпскі падаў на мяне ў суд, што я яго адлупцаваў, дык вот і асэсара прыслалі. Ну, абдзярэ, як ліпку! *В. Дунін-Марцінкевіч.*

**2.** *Разм., іран.* Вельмі важная асоба, надта высокі чын.

У чужой справе і ты асэсар... Над чужою душою камандаваць дык і ты майстар. *К. Чорны.*

**Пасэ́сар.** *Гіст.* Уладальнік пасэсіі — завода, зямельнага ўчастка, здадзенага ў арэнду; арандатар маёнтка.

Буду жыць, казалі, як які пасэсар, ездзіць парай коней, як сам пан асэсар. *Ф. Багушэвіч.*

## АТАВІЗМ // АТЭІЗМ

**Атаві́зм.** Праяўленне ў чалавека, жывёл або раслін такіх прымет, якія былі ўласцівы іх далёкім продкам.

Валасатасць і з'яўленне хваста ў людзей тлумачыцца проста. У навукі гэта называецца атавізмам, гэта значыць «зваротам да продкаў». *У. Мезенцаў.*

**Атэі́зм.** Адмаўленне існавання Бога, адмаўленне рэлігіі.

Атэізм у сучасным яго разуменні азначае навукова абгрунтаванае адмаўленне рэлігіі, Бога, веры, цудаў і да т. п. *К. Пракошына.*

## АТАЙБАВАЦЦА // АТАЙМАВАЦЦА // АТАЎБАВАЦЦА

**Атайбава́цца.** *Разм.* Уладкавацца, размясціцца; атабарыцца.

Вясна скончылася, і лета атайбавалася на полі. *К. Чорны.*

**Атаймава́цца.** Аціхнуць, супакоіцца.

С і н о н і м: утаймавацца.

Бура атаймавалася. Дзеці атаймаваліся.

**Атаўбава́цца.** *Разм.* Уладкавацца, размясціцца; атабарыцца.

Хата стаяла забітая, пакуль не атаўбаваўся ў ёй прышлы салдат. *М. Лужанін.*

## АТАМНІК // АТАМШЧЫК

**А́тамнік.** Спецыяліст па атамнай энергіі.

— Нарабілася ж такое, што не толькі нам, вучоным-атамнікам, на гады работы хопіць, але і біёлагам, заолагам, медыкам, глебазнаўцам ды і ўсім астатнім... *Б. Сачанка.*

**А́тамшчык.** Прыхільнік выкарыстання атамнай зброі; падпальшчык вайны.

Ваяўнічы атамшчык. Агрэсіўны атамшчык.

Н я п р а в і л ь н а. Разглядаючы макет, заўважаю, наколькі своеасаблівае архітэктурнае аблічча пасёлка атамшчыкаў (трэба: атамнікаў): адсутнічаюць замкнёныя кварталы, дамы — рознай вышыні, ад аднаго да дзевяці паверхаў, фарміруюць выразны сілуэт. *ЛіМ.*

## АТЭЛЬ // АТЭЛЬЕ

**Атэ́ль.** Гасцініца.

Асабліва расчуліла нас дэлегацыя вучняў-дзяцей, якія наведаліся да нас проста ў атэль, каб перадаць свае падарункі для нашых дзяцей. *М. Лынькоў.*

**Атэлье́.** *нескл.* Майстэрня для пашыву адзення, абутку, для рамонту бытавой тэхнікі.

Ёсць у Дуброве некалькі магазінаў, пашывачная майстэрня, атэлье па рамонту прыёмнікаў і тэлевізараў, сталовая, гасцініца. *І. Навуменка.*

## АТЭСТАТ // АТЭСТАЦЫЯ

**Атэста́т.** Афіцыйны дакумент аб заканчэнні навучальнай установы, аб прысваенні вучонага звання.

Атрымаўшы атэстат за вучылішча, Захар ясней бачыў дарогу ў інстытут... *В. Карамазаў.*

У выразе: а т э с т а т с т а л а с ц і — пасведчанне аб заканчэнні сярэдняй агульнаадукацыйнай школы.

Выпускнікі разам з атэстатам сталасці атрымліваюць пасведчанне шафёра трэцяга класа. *М. Арочка.*

**Атэста́цыя.** Ацэнка, характарыстыка, якая даецца каму-чаму-н.; прысваенне звання каму-н.

Калі ўсё будзе ў парадку і капітан дасць яму, як некалі абяцаў, добрую атэстацыю, восенню Васіль паступіць на курсы рулявых і з наступнай вясны стане за штурвал. *У. Краўчанка.*

## АЎСЮК // АЎСЯНІК // АЎСЯНКА

**Аўсю́к.** Пустазелле, падобнае на авёс.

На вузкай, метры ў тры, палосцы аж да самага лесу, дзе канчалася поле, зелянелі толькі свірэпка, лебяда ды аўсюк. *І. Сіўцоў.*

**Аўся́нік.** Крылатае насякомае, якое жыве ўсяго некалькі дзён.

С і н о н і м: падзёнка.

Рыба цяпер лепш бярэцца на аўсянікаў. *Я. Колас.*

**Аўся́нка.** Невялічкая пеўчая птушка з атрада вераб'іных, якая корміцца пераважна насеннем раслін.

Такавалі на золку чырванабровыя цецерукі, весела распявалі ў зарасніках жаўтагрудыя аўсянкі, звонка звінелі ў небе жаваранкі. *Р. Ігнаценка.*

### АЎТАБІЯГРАФІЯ // БІЯГРАФІЯ

**Аўтабіягра́фія.** Апісанне свайго жыцця.

Успамінаючы сваё маленства, К. Чорны гаворыць у аўтабіяграфіі: «Гэта быў жудасны час». *М. Луферай.*

Н я п р а в і л ь н а. Янка Купала ў сваёй аўтабіяграфіі (трэба: у аўтабіяграфіі) у 1928 годзе адзначаў, што ён з захапленнем чытаў творы А. М. Горкага. *М. Ларчанка.*

**Біягра́фія.** Апісанне жыцця і дзейнасці каго-н.

Відаць, трэба пісаць перш за ўсё аб тым, што асабліва дарагое душы, што яе хвалявала і хвалюе,— што стала дарагой часткай тваёй асабістай біяграфіі. *І. Мележ.*

Н я п р а в і л ь н а. Аднойчы мне давялося чытаць біяграфію (трэба: аўтабіяграфію) маладога чалавека, напісаную ім разам з заявай аб прыёме ў члены Саюза пісьменнікаў. *М. Хведаровіч.*

### АЎТАРЫТАРНЫ // АЎТАРЫТЭТНЫ

**Аўтарыта́рны.** *Кніжн.* Заснаваны на безагаворачным падпарадкаванні ўладзе, аўтарытэту.

Аўтарытарны рэжым.

**Аўтарытэ́тны.** Які карыстаецца аўтарытэтам; які заслугоўвае аўтарытэт.

Калі ў перакладчыкаў на беларускую мову ўзнікалі цяжкасці, парада П. Глебкі была для іх самай аўтарытэтнай. *Р. Шкраба.*

### АЎЧАРКА // АЎЧАРНЯ

**Аўча́рка.** Парода дужых вартавых сабак, якія звычайна выкарыстоўваюцца для аховы статкаў, для каравульнай службы.

Чакаючы і баючыся новай пагоні, Іван ускочыў быў у ручай, каб схаваць ад аўчарак след. *В. Быкаў.*

**Аўча́рня.** Хлеў для авечак.

Сцяну калгаснай аўчарні абвіў хмель: тут яго многа садзілі каля хат і платоў. *К. Чорны.*

### АФЕКТЫЎНЫ // ЭФЕКТЫЎНЫ

**Афекты́ўны.** Павышана-эмацыянальны, празмерна ўсхваляваны.

У пачатку афектыўнага стану чалавек не можа не думаць аб

прадмеце свайго пачуцця і аб тым, што звязана з ім, міжвольна адхіляючыся ад усяго пабочнага, нават практычна важнага. *Псіхалогія.*

**Эфекты́ўны.** Які прыводзіць да пажаданых, патрэбных вынікаў; дзейсны.

Індывідуальныя заданні з улікам ролі чытання і ролі літаратуразнаўчага аналізу могуць быць эфектыўнымі толькі на падставе добрага ведання канкрэтнай абстаноўкі. *Народная асвета.*

### АФІЦЫЕЗНЫ // АФІЦЫЙНЫ/АФІЦЫЯЛЬНЫ

**Афіцыёзны.** Які фармальна не звязаны з урадам, але фактычна праводзіць яго палітыку.

Лабановіч піша артыкул у абарону ўдзельнікаў нелегальнага настаўніцкага з'езда і дабіваецца яго апублікавання ў афіцыёзнай газеце. *Л. Фіглоўская.*

**Афіцы́йны. 1.** Які ўстаноўлены ўрадам, адміністрацыяй; службовы.

Беларуская мова дапамагла Кароне (у 16 ст.) падняць польскую мову на ўзровень афіцыйнай, дзяржаўнай, польская мова якраз з беларускай узяла многае, што наша паспела ўжо засвоіць і пісьмова замацаваць. *Б. Сачанка.*

**2.** Зроблены па ўстаноўленай форме, з захаваннем усіх фармальнасцей.

Гэта была першая афіцыйная нарада новай рэдакцыі і такім чынам — першае маё кіраванне такой нарадай. *А. Кулакоўскі.*

**3.** *перан.* **Халодна**-ветлівы, стрыманы.

Просты, зусім не афіцыйны, быццам нават сяброўскі зварот на «ты» спадабаўся мне і зняў з мяне міжвольны цяжар неадольнай разгубленасці. *А. Кулакоўскі.*

**Афіцыя́льны.** Тое, што а ф і ц ы й н ы.

Пастаноўка імя пасля прозвішча характэрна для мовы афіцыяльных дакументаў. *М. Цікоцкі.* Пан Крулеўскі гаварыў цяпер па-польску, і ў голасе чуўся халодны, афіцыяльны начальніцкі тон. *Я. Колас.*

### АХАЛАДЗЕЦЬ // АХАЛАДЗІЦЬ / АХАЛОДАЦЬ

**Ахаладзе́ць. 1.** Стаць халодным, астыць, ахалодаць.

Халімон не звяртаў увагі на Патапчыка, а пакручваў прэнт датуль, пакуль ён не ахаладзеў, а тады зноў сунуў у горан. *А. Чарнышэвіч.*

**2.** *перан.* Страціць сілу пачуцця, свежасць успрымання; стаць абыякавым; астыць, ахалодаць.

Настрой створаны, глеба гатова, марудзіць нельга, трэба сеяць, каб не спазніцца, каб не ахаладзееў запал і рашучасць. *М. Зарэцкі.*

**Ахаладзіць.** *каго-што.* **1.** Зрабіць халодным; астудзіць.

Не хапала толькі сіверу, каб зрэшты ахаладзіць вытаптаную траву. *М. Чарот.*

**2.** *перан.* Збавіць, зменшыць сілу, запал якога-н. пачуцця, жадання і г. д.

Размова з Паўлікам трохі ахаладзіла Андрушку. *М. Лобан.*

**Ахало́даць.** Тое, што і а х а л а д з е ц ь.

На дварэ ён трохі ахалодаў, выцер з ілба пот і замкнуў адрыну. *А. Чарнышэвіч.* Ахалодаў ён ужо ў Верамейках — крыўда прайшла. *І Чыгрынаў.*

### АШЫЕК // АШЫЙНІК

**Ашы́ек.** Частка мясной тушы, сумежная з шыяй.

Курыца млява трапянула крылом, асела назад, і з кароткага ашыйка ў яе выціснулася палахлівай кропляй, а пасля цурком пацякла цёплая кроў. *Я. Скрыган.*

**Ашы́йнік.** Раменьчык з засцежкай, які надзяваецца жывёле на шыю.

С і н о н і м ы: нашыйнік, аброжак.

Іван у апошняе імгненне паспеў схапіць ваўкадава за ашыйнік і ў амаль нечалавечым напружанні рук не даў сашчапіцца на сабе ягоным зубам. *В. Быкаў.*

## Б

### БАЕЧНЫ // БАЙКАВЫ

**Ба́ечны.** Які мае адносіны да байкі — кароткага твору алегарычнага характару.

У беларускай літаратуры ўжо склалася пэўная баечная традыцыя. *Я. Казека.*

**Ба́йкавы.** Які мае адносіны да байкі — мяккай варсістай тканіны; зроблены з такой тканіны.

На двух'ярусных нарах узвышаліся туга набітыя сеннікі, засланыя байкавымі коўдрамі. *М. Даніленка.*

Н я п р а в і л ь н а. Багушэвіч у байкавым (трэба: баечным) жанры імкнуўся прадаўжаць лепшыя традыцыі рускай і польскай класічных літаратур. *М. Ларчанка.*

**Бакуніст.** *Паліт.* Паслядоўнік Бакуніна.

У пачатку сваёй палітычнай дзейнасці ён быў прыхільнікам бакуністаў.

**Букініст.** Прадавец рэдкіх і старых кніг.

У старога букініста заўсёды можна было знайсці патрэбную кніжку.

## БАЛАХОН // БАЛДАХІН

**Балахо́н.** Парусінавая вопратка свабоднага крою, якую раней насілі сяляне.

На скрыжаваннях вуліц у сініх балахонах шумелі ружовашчокія рамізнікі. *М. Хведаровіч.*

**Балдахі́н.** Пышная стрэшка з каштоўнай тканіны на слупках (над ложкам, насілкамі і г. д.).

Ізяслаў з вялікім цісавым лукам у руках сядзеў пад ядвабным чырвоным балдахінам, які быў нацягнуты на гранёных медных слупках. *Л. Дайнека.*

## БАЛОТНЫ // БАЛОЦІСТЫ

**Бало́тны.** Які мае адносіны да балота або жыве, расце на балоце.

**Балотная:** вада, вільгаць; расліна, птушка і г. д.

Стрэлы памалу аддаліліся ўправа, стрункае дзіганне куль гойсала там, над балотам, і напалоханае балотнае птаства разляталася ва ўсе бакі. *В. Быкаў.*

Няправільна. Процілеглы бераг рэчкі быў вышэйшы — ён быў не лугавы, балотны (трэба: балоцісты), а палявы. *П. Пестрак.*

**Бало́цісты.** Багаты на балоты; забалочаны, багністы.

**Балоцісты:** луг, бераг; **балоцістая:** мясцовасць, нізіна і г. д. Той бераг быў балоцісты, зарослы асакой і чаротам. *Р. Няхай.*

## БАРВОВЫ // БАРДОВЫ

**Барво́вы.** Ярка-чырвоны, пурпуровы.

Месяц, ужо нізкі і барвовы, хіліўся да далёкага лесу. *У. Караткевіч.*

**Бардо́вы.** Цёмна-чырвоны, бардо.

Немаладая рухавая кабета ў бардовай гарусной кофце і чырвоным андараку сядзела на лазовай кашолцы, а перад ёю стаялі накрытыя ручніком гарлачы. *В. Хомчанка.*

## БАРЭЛЬЕФ // ГАРЭЛЬЕФ

**Барэлье́ф.** Від скульптуры, у якой фігура выступае з плоскасці менш чым на палавіну свайго аб'ёму.

На мінскіх вайсковых могілках сярод кучаравых шумлівых сосен, дзе пахаваны паэт, на шэрым магільным камені — скульптурны барэльеф Паўлюка Труса. *М. Хведаровіч.*

**Гарэлье́ф.** Від скульптуры, у якой фігура выступае з плоскасці больш чым на палавіну свайго аб'ёму.

Асабліва спадабалася хлопчыку на плошчы Перамогі. Ён не мог адарваць позірку ад помніка, на гарэльефе якога група партызан на чале са сваім камандзірам разбірае чыгуначнае палатно. *Звязда.*

## БАЦЬКАЎСКІ // БАЦЬКОЎСКІ

**Ба́цькаўскі.** Які належыць, уласцівы бацьку.

Асвянцімскі пайшоў шукаць месца, дзе калісьці стаяла бацькаўская хата. *К. Чорны.*

**Бацько́ўскі. 1.** Які мае адносіны да бацькоў — бацькі і маці.

Даклад зацікавіў людзей, памог устанавіць шчыры і дзелавы кантакт з бацькоўскім калектывам. *І. Шамякін.*

**2.** *перан.* Клапатлівы; ласкавы.

Незнаёмы паглядзеў на мяне цёплымі, бацькоўскімі вачамі. *З. Бядуля.*

## БАЧАНЫ // БАЧНЫ

**Ба́чаны.** Такі, якога бачылі; які ўжо сустракаўся.

Яму [кату] упадабаліся яшчэ два ніколі не бачаныя стварэнні. На лугавінцы, поблізу загона кусцістага жыта, хадзіла навязаная каза, а пры ёй бегалі, дурэючы, двое шэраньких яе дзетак-казлянят. *М. Лужанін.*

Н я п р а в і л ь н а. Кулеш ляжаў і чакаў, пакуль абзавуцца ў садзе птушкі, пакуль пачне пасвістваць, як у трубачку, вялікая жоўтая і ніколі не бачаная (трэба: не бачная) птушка івалга. *А. Жук.*

**Ба́чны.** Які ўспрымаецца зрокам; даступны зроку; відавочны.

Параўнаць тое, што было гады тры назад, і тое, што ёсць цяпер, цяжка. Змены бачныя. *Звязда.*

## БАЯВІТЫ // БАЯВЫ

**Баяві́ты.** З баявым наступальным характарам, рашучы, настойлівы ў дзеяннях.

Паэзія Пятра Глебкі была вельмі гуманнай, чалавечнай, інтэрнацыянальнай і баявітай. *А. Бялевіч.*

**Баявы́. 1.** Які мае адносіны да вайны, звязаны з вядзеннем бою.

Сышліся сябры-партызаны згадаць баявыя гады. *М. Смагаровіч.*

**2.** *перан. Разм.* Бойкі, смелы.

Звеннявая па льну — баявая і гаваркая дзяўчына. *Г. Шчарбатаў.*

## БЕЛІЗНА/БЕЛЬ // БЯЛІЗНА

**Белізна́.** Яркі, белы чысты колер чаго-н.

Беларусу і ў Парыжы сняцца белізна бяроз і сосен медзь. *П. Панчанка.*

**Бель.** Тое, што і б е л і з н а.

Снежная пустэча. Бель у вочы коле... І адна бяроза — вартаўніца поля. *Д. Бічэль-Загнетава.*

**Бялі́зна.** Нацельнае адзенне, а таксама вырабы са светлай тканіны для бытавых патрэб (ручнікі, прасціны, абрусы і г. д.).

Маці хадзіла таксама на падзённую работу: то мыла чужую бялізну, то падлогі, то прыбірала двары ў багатых дамах. *М. Лынькоў.*

Н я п р а в і л ь н а. Праязджаючы міма нас, трактарыст высоўваў з акенца галаву і махаў замурзанай рукой, а кабеты ўсміхаліся на ўсе свае белыя зубы — бялізна (трэба: белізна) гэта асабліва кідалася ў пыле. *Б. Сачанка.*

## БЕСКАРЫСЛІВЫ // БЕСКАРЫСНЫ

**Бескары́слівы.** Які не імкнецца да асабістай карысці, выгады.

У гісторыі славянскіх літаратур цяжка знайсці прыклад больш трывалай, высакароднай і бескарыслівай дружбы, чым дружба Міцкевіча і Чачота. *А. Мальдзіс.*

**Бескары́сны.** Які не прыносіць карысці.

С і н о н і м ы: дарэмны, марны.

Даўно ўжо кінуў Сымон пісаць заявы ў розныя інстанцыі — гэта была бескарысная работа. *Э. Самуйлёнак.*

Н я п р а в і л ь н а. Бліжэй за ўсіх у гэтую пару яму стаў Іваноў з яго бескарыснай (трэба: бескарыслівай) самаадданай душой, з яго фанатычнай прыхільнасцю да мудрасці і праўды. *В. Быкаў.*

## БЕСПЯРЭЧНЫ // БЯССПРЭЧНЫ

**Беспяр́эчны.** Які выконваецца без пярэчанняў

Сінонім: безагаворачны.

Беспярэчнае выкананне загада.

**Бясспр́эчны.** Які не выклікае пярэчанняў, спрэчак.

Сінонімы: несумненны, відавочны.

Бясспрэчная ісціна.

## БІБЛІЯТЭКАРСКІ // БІБЛІЯТЭЧНЫ

**Бібліят́экарскі.** Які мае адносіны да бібліятэкара.

Бібліятэкарская вучоба. Бібліятэкарскі столік.

**Бібліят́эчны.** Які мае адносіны да бібліятэкі; які належыць бібліятэцы.

Бібліятэчны факультэт. Бібліятэчны абанемент.

## БІЛЕТ // БЮЛЕТЭНЬ

**Біл́ет. 1.** Дакумент, які дае права карыстацца чым-н. за плату.

Білет быў на руках, але да цягніка аставалася многа часу, і трэба было як мага разумней скарыстаць яго. *Я. Скрыган.*

**2.** Дакумент, які сведчыць аб прыналежнасці каго-н. да палітычнай або грамадскай арганізацыі ці аб адносінах да якіх-н. абавязкаў.

Цвёрда трымаўся юнак на дапросе, тоячы словы і думкі свае. Немец-жандар дакурыў папяросу і камсамольскі білет аддае. *А. Куляшоў.*

**3.** Лісток з пытаннямі для тых, хто трымае экзамен.

[Вера] і Валодзя разам увайшлі ў аўдыторыю, разам узялі білеты. *Л. Арабей.*

**Бюлет́энь. 1.** Кароткае афіцыйнае паведамленне аб грамадска-значнай падзеі, справе.

Бюлетэнь з'езда. Бюлетэнь надвор'я.

**2.** Назва перыядычнага выдання якой-н. установы, у якім змяшчаюцца кароткія інфармацыйныя матэрыялы.

Брыгада ўдзельнічала ў выданні фабрычнай шматтыражкі, выпускала баявыя бюлетэні, напісала шэраг літаратурных партрэтаў ударнікаў фабрыкі. *М. Хведаровіч.*

**3.** Лісток для галасавання.

Вялікую гордасць адчуваеш, апускаючы ў выбарчую скрынку бюлетэні з прозвішчамі лепшых прадстаўнікоў народа. *Звязда.*

**4.** *Разм.* Лісток часовай непрацаздольнасці па хваробе; бальнічны лісток.

Мала вам, што без абеда я працую з дня на дзень,— вы з мяне зрабілі дзеда, хоць ідзі на бюлетэнь. *С. Гаўрусёў.*

### БІТУМІНОЗНЫ // БІТУМНЫ

**Бітумінóзны.** Які ўтрымлівае ў сабе бітумы.

Бітумінозныя пароды. Бітумінозныя сланцы.

**Біту́мны.** Які мае адносіны да бітумаў; зроблены з бітумаў. Бітумныя матэрыялы. Бітумныя лакі.

### БЛАЖЫЦЬ // БЛАЖЭЦЬ

**Блáжыць.** *Разм.* Пра стан млоснасці, моташнасці.

Ад гары і чаду яго пачынала блажыць; мітусілася ўваччу. *І. Пташнікаў.*

**Блажэ́ць.** *Разм.* **1.** Худзець, марнець.

Цяжка хварэе дзіця, блажэе на вачах.

**2.** Станавіцца дрэнным, благім; псавацца.

Адбіўся ад рук хлопец, разлайдачыўся, блажэе з кожным днём.

### БЛІСКАВІЦА // БЛІСКАЎКА

**Бліскаві́ца. 1.** Разрад атмасфернай электрычнасці ў выглядзе яркай звілістай лініі.

Сінонім: маланка.

Дождж пайшоў з громам, з шалёным посвістам ветру і з бліскавіцаю. *Я. Скрыган.*

**2.** Светлавая ўспышка без грому на небасхіле вечарам ці ноччу — водбліск далёкай навальніцы.

Сінонім: зарніца.

Спачатку ў адным баку, то ў другім, то адразу бліскавіца асвятляе неба. *С. Александровіч.*

**Блі́скаўка. 1.** Маленькі бліскучы кружочак для ўпрыгожвання адзення.

Атласны ліф з залацістымі махрамі расшыты бліскаўкамі. *В. Вольскі.*

**2.** Бліскучая дробная часцінка чаго-н.; іскрынка.

Далібор цёр кулакамі вочы, срэбныя бліскаўкі скакалі наўкол, здавалася, кружыўся лес, агонь. *Л. Дайнека.*

### БОЙЛЕР // БРОЙЛЕР

**Бóйлер.** Апарат для падагрэву вады.

Пашыраныя водападагравальнікі паверхневага тыпу (бой-

леры), у якіх цяпло перадаецца праз паверхню нагрэву трубчастых ці іншых элементаў. *БелСЭ.*

**Бро́йлер. 1.** Кураня, якое вырошчваецца на мяса.

У апошні час стала развівацца вытворчасць мясных куранят (бройлераў). *Звязда.*

**2.** Памяшканне, у якім вырошчваюць такіх куранят.

Адразу з інкубатара куранят пераводзяць у бройлер. *Звязда.*

### БОЦМАН // ЛОЦМАН

**Бо́цман.** Малодшы камандзір (старшына), якому падначалена каманда карабля па гаспадарчых работах, утрыманню судна ў чыстаце і парадку.

Падабраў мне боцман гарнітур па росту — крэпкую марскую робу з палатна. *Х. Жычка.*

**Ло́цман.** Праваднік суднаў, дасканала знаёмы з воднымі шляхамі.

Самуіл і яго сябры здолелі правесці карабель там, дзе не правёў бы яго самы спрактыкаваны лоцман. *Полымя.*

### БРАНІРАВАЦЬ // БРАНІРАВАЦЬ

**Бранíраваць.** Замацоўваць каго-што-н. за кім-чым-н., рабіць што-н. недатыкальным.

Перад выездам у камандзіроўку ён браніраваў месца ў гасцініцы.

**Браніравáць.** Пакрыць (пакрываць) што-н. бранёю.

Калі мы зайшлі ў цэх, там браніравалі кабіну самалёта.

### БРАНЯ // БРОНЬ

**Браня́. 1.** У старадаўнасці: ахоўнае металічнае адзенне воіна — панцыр, латы, кальчуга.

Будзе на гравюрах Скарыны ўсё: будуць стаяць у яго на гравюрах ваякі з мячамі ў руках, будуць яны маршыраваць у яго з алебардамі, пікамі і сцягамі ў руках, будуць скакаць, закутыя ў панцыры на абцяжараных бранёй конях .. *А. Лойка.*

**2.** Стальная абшыўка танка, баявога карабля, бронецягніка.

У машыне было душна. Браня, напаленая сонцам, пякла, гарачынёй дыхаў матор, што напружана гуў за баявым аддзяленнем. *І. Мележ.*

**Бронь.** Замацаванне за кім-н. якіх-н. прадметаў або асобых правоў і льгот; дакумент на такое замацаванне.

У армію Цярэшку не мабілізавалі,— як чыгуначніку, далі бронь. *А. Капусцін.*

### БРАШУРАВАЛЬНЫ // БРАШУРАВАНЫ // БРАШУРОВАЧНЫ

**Брашурава́льны.** Які мае адносіны да брашуравання, прызначаны для яго.

Брашуравальны цэх. Брашуравальная машына.

**Брашурава́ны.** Сшыты, змацаваны (пра друкаваныя лісты кнігі, брашуры і г. д.).

Брашураваная кніга.

**Брашуро́вачны.** Які мае адносіны да брашуроўкі.

Брашуровачныя работы.

### БРУСКОВЫ // БРУСОЧНЫ

**Бруско́вы.** Які мае форму бруска — прадаўгаватага прадмета чатырохграннай формы.

Брусковае мыла.

**Брусо́чны.** Які мае адносіны да бруска — тачыльнага каменя.

Брусочны камень.

### БРЫДЖЫ // БРЫЖЫ

**Бры́джы.** *адз. няма.* Штаны асобага крою, звужаныя ўніз ад калена.

Шарсцяная армейская гімнасцёрка і брыджы, пашытыя па яго заказу, як заўсёды, добра аблягалі ладную постаць. *І. Мележ.*

**Брыжы́.** *адз. няма.* Вузкія палоскі тканіны, сабраныя ў зборачкі і нашытыя на адзенне.

Я хадзіў у шынялі, а для Алі справілі паўкажушок і звалялі зграбныя чорныя «пімікі», з абцасамі і тоўстымі насамі, каб не мерзлі пальцы, купілі гаматную з брыжамі клятчастую хустку і прывыкалі да лютай сібірскай зімы. *С. Грахоўскі.*

### БРЫЛЬЯНТАВЫ // БРЫЛЬЯНЦІСТЫ

**Брылья́нтавы.** Характэрны для брыльянту; зроблены з брыльянту; упрыгожаны брыльянтам.

Брыльянтавы пярсцёнак. Брыльянтавыя завушніцы.

**Брыльянці́сты.** Падобны колерам на брыльянт.

Ходзіць дзед белабароды полем, лесам, пералескам, засцілае рэчкі лёдам, брыльянцістым снежным блескам. *Я. Колас.*

**Бры́ндаць.** *Разм.* Хадзіць, совацца без патрэбы; сланяцца, нічога не робячы.

Нічога не цікавіць гэтага чалавека, нічым ён не займаецца, брындае дзень пры дні — і ўвесь яго занятак.

**Бры́нкаць.** *Разм.* **1.** Адзывацца пры ўдары гукам, падобным да лёгкага звону; дзвынкаць.

Брынкае ад ветру шыба ў акне.

**2.** *на чым.* Няўмела іграць на музычным інструменце.

Я ўжо ўмеў чытаць ноты, сяк-так брынкаў на раялі, і таму вучоба музыцы не была для мяне вялікім цяжарам. *В. Хомчанка.*

## БУДОВА // БУДОЎЛЯ

**Будо́ва. 1.** Узаемнае размяшчэнне частак, якія складаюць адно цэлае.

Сінонім: структура.

«У завіруху» — твор вельмі просты па сваёй будове. *Р. Шкраба.*

**2.** Тое, што будуецца; будынак, пабудова.

А на пажарышчы часова з'явілась новая будова — зямлянка-будачка малая. *Я. Колас.*

**Будо́ўля. 1.** Узвядзенне будынка; будаўніцтва.

Антон Крамарэвіч кінуў службу, вярнуўся дадому і распачаў будоўлю. *К. Чорны.*

**2.** Месца, дзе ўзводзяцца будынкі; самі будынкі, аб'екты, якія будуюцца.

Калі трэба было ісці каля пляца, Сідар паціхеньку ішоў тратуарам далей ад пляца, каб бачыць адтуль будоўлю. *П. Галавач.*

## БУКСАВАЦЬ // БУКСІРАВАЦЬ

**Буксава́ць.** Круціцца, слізгацець, не рухаючыся з месца (пра колы).

Колы круцяцца, ажно звіняць, але яны ўгрузлі ў сухім, як пустынны пясок, снезе, і машына буксуе на месцы, нават здаецца, што разам са снегам яна паўзе назад. *І. Шамякін.*

**Букcі́раваць.** *што.* Цягнуць што-н. за сабой на буксіры.

Судна, на якім усё яшчэ працягвалася барацьба з пажарам, пачалі буксіраваць са штармавога мора пад укрыцце берагоў. *Звязда.*

**Бульбо́ўнік.** Лісце і сцябло бульбы.

Сінонім: націна.

А ў полі пастухі палілі бульбоўнік і пырнік і, калі асядала магутнае, шыпучае полымя, пяклі ў прыску салодкую духавітую бульбу. *Я. Брыль.*

Няправільна. Выбраліся з лесу, пайшлі па бульбоўніку (трэба: па бульбянішчы) да хутара. *В. Хомчанка.*

**Бульбя́нік. 1.** Тое, што і бульбоўнік.

Выраслы бульбянік закрываў малога амаль да плеч. *І. Мележ.*

**2.** Аладка з дранай бульбы.

Перабіваліся яны бедныя з бульбяніка на квас. *І. Шамякін.*

Няправільна. У Валодзі мільгнула думка бегчы, але наперадзе на бульбяніку (трэба: на бульбянішчы) стаяла машына. *У. Федасеенка.*

**Бульбя́нішча.** Месца, на якім расла бульба.

Ночы былі свежыя, з пахам сухога бульбоўніку, зляжалага сена з хлявоў і позна пераараннага бульбянішча. *І. Пташнікаў.*

## БУРАКОВЫ // БУРАЧКОВЫ / БУРАЧНЫ

**Бурако́вы. 1.** Які мае адносіны да буракоў; прыгатаваны з буракоў.

Буракові ліст. Бураковы сок.

**2.** Лілова-чырвоны, колеру чырвоных буракоў; бурачковы.

Квітнеюць бураковым колерам галоўкі канюшыны.

**Бурачко́вы.** *Разм.* Цёмна-малінавы з фіялетавым адценнем; колеру чырвоных буракоў.

Ужо ў глухую восень, калі камянела зямля, а трава на балоце рабілася рудая, трохі нейкая бурачковая (кончыкі пер'я ў яе адсыхалі і чырванелі), я прыганяў сюды на сівую ад мароза рунь сваю карову. *В. Адамчык.*

**Бура́чны. 1.** Які мае адносіны да буракоў; прыгатаваны з буракоў.

Сцежка ішла праз гароды, дзе расла бульба і былі грады з высокай бурачнай батвой. *І. Чыгрынаў.*

**2.** Лілова-чырвоны, колеру чырвоных буракоў; бураковы.

Твар наліваецца густой, як бурачны расол, чырванню. *І. Навуменка.*

## БУРАН // БУРУН

**Бура́н.** Моцны вецер, які паднімае хмары сухога снегу ці пяску; снежная бура, завея, завіруха.

Пераскочыць зверху пясчаны буран не ўдасца: самалёт не падымаецца на такую вышыню. *У. Шыцік.*

**Бурýн.** Пеністыя хвалі, якія з вялікім шумам разбіваюцца аб прыбярэжныя і падводныя скалы, вобмелі.

Па рацэ, напінаючы тросы, паўзуць рудавозы і баржы, гружаныя набраклымі круглякамі, з трэскам імчацца вёрткія маторкі ў бурунах вясёлкавых пырскаў. *С. Грахоўскі.*

#### БУРГАМІСТР // БУРМІСТР

**Бургамíстр.** Начальнік гарадской управы ў некаторых краінах Еўропы, раней і ў Расіі (а таксама на акупіраванай немцамі тэрыторыі ў часы Вялікай Айчыннай вайны).

Кватэра бургамістра была хоць і недалёка, ды бегчы туды паліцэйскі не адважыўся, а хапіўся за тэлефон. *А. Якімовіч.*

**Бурмíстр.** У часы прыгоннага права: кіраўнік памешчыцкага маёнтка ці стараста, прызначаны памешчыкам з сялян.

Па загаду бурмістра ўсе, як належа, зачынілі ўжо вокны; загасілі агні... Варта вулкай прайшла... *М. Багдановіч.*

#### БУРЖУАЗНЫ // БУРЖУЙСКІ

**Буржуáзны.** Які мае адносіны да буржуазіі, характэрны для яе.

Буржуазная рэспубліка. Буржуазны ўрад.

**Буржýйскі.** *Разм.* Які мае адносіны да буржуя.

У Садовіча настольнікаў не было — ён лічыў іх непатрэбнаю буржуйскаю раскошаю. *Я. Колас.*

#### БУЦВЕЦЬ // БУЧНЕЦЬ

**Буцвéць.** *Разм.* Трухлець, парахнець, гнісці.

Зруб на новую хату стаіць з забітымі вокнамі. Няма грошай, каб скончыць будоўлю. Таму і стаіць і буцвее, як дамавіна, той зруб. *А. Васілевіч.*

**Бучнéць.** Станавіцца буйна-сакавітым, бучным (пра расліны).

У даліне бушавала яблыневая квецень, бучнела трава, расцвіталі краскі, звінелі халодныя і празрыстыя ручаі ў траве. *В. Хомчанка.*

#### БУЯНІЦЬ // БУЯЦЬ

**Буя́ніць.** Скандаліць, бушаваць; сваволіць.

Вечарам п'яны Сідар зноў буяніў у хаце. *К. Чорны.*

**Буя́ць.** Бурна расці; расці ў націну.

Ярына на полі буяла, высыпáла. *К. Чорны.*

**Бэж.** Светла-карычневы з жаўтавата-ружовым адценнем; бэжавы.

Светлым лічыцца абутак бэж і светла-шэрага колеру. *Тавараразнаўства.*

**Бэз.** Дэкаратыўны кустарнік з ліловымі ці белымі духмянымі кветкамі.

Домік стаяў за агародчыкам, сярод кустоў бэзу і кветак. *Я. Скрыган.*

## БЯДАК // БЯДНЯК

**Бяда́к.** *Разм.* Той, хто пастаянна гаруе, бяздольны; няшчасны, варты спачування і жалю.

Не было другога чалавека ва ўсім Ліпаўцы, так бедна адзетага і наогул такога горкага бедака, як гэты сталяр Пятро. *Я. Колас.*

**Бядня́к.** Бедны чалавек; небагаты.

Ураднік, старшыня, стражнік, поп, нават дзесяцкія — усе агулам глумяцца з бедняка. *Ц. Гартны.*

## БЯДОВЫ // БЯДОТНЫ

**Бядо́вы.** *Разм.* Бойкі, смелы; адчайны.

Гарлахвацкі. Бядовая ты ў мяне, Нюра. *К. Крапіва.*

**Бядо́тны.** *Разм.* Цяжкі, гаротны; няшчасны.

Гэта былі звычайныя звесткі аб бядотным становішчы губерні, аб градзе, аб нечуванай хваробе бульбы, калі клубні нельга адрозніць ад гразі, аб плацяжах па закладах, аб недаборах. *У. Караткевіч.*

## БЯЛЕЦЬ // БЯЛІЦЬ

**Бяле́ць. 1.** Станавіцца белым.

Ноч яшчэ спала, хоць на ўсходзе пачынала бялець неба. *У. Дамашэвіч.*

**2.** Вылучацца сваім белым колерам, віднецца (пра што-н. белае).

Спакваля змрок затуліў пакой, толькі ўсё яшчэ бялела ля парога печ ды шарэлі вокны. *В. Быкаў.*

**Бялі́ць.** *што.* **1.** Рабіць што-н. белым, выбельваць.

Аднойчы маляры бялілі сцены ў новым доме. *Р. Сабаленка.*

**2.** Дасягаць белізны чаго-н. шляхам спецыяльнай апрацоўкі.

Я любіў той час, калі маці бяліла палотны. *І. Навуменка.*

### БЯЛУГА // БЯЛУХА

**Бялу́га.** Каштоўная прамысловая рыба, самая буйная з сямейства асятровых.

Цяжка пра гэта ўспамінаць, можа, каму яшчэ цяжэй паверыць, але ў 1909 годзе ў Дняпры каля Магілёва можна было злавіць асятра і бялугу. *В. Лапцік.*

**Бялу́ха.** Палярны дэльфін, які ў дарослым стане мае белую афарбоўку.

Бялуха таму і названа так, што яна белая.

## В

### ВАВЕ́РКАВЫ // ВАВЕ́РЧЫН

**Вавёркавы.** Зроблены са шкурак вавёркі.

Вавёркавая шапка. Вавёркавае футра.

**Вавёрчын.** Які мае адносіны да вавёркі, належыць вавёрцы.

Ад вострых вавёрчыных зубак чулася шкрабаценне, быццам дзесьці ў запечку гаспадарылі мышы. Вавёрчына мызка пацешна варушылася. *І. Грамовіч.*

### ВАГАВІТЫ // ВАГАВЫ // ВАГАЛЬНЫ

**Вагаві́ты.** *Разм.* Даволі значны па сваёй вазе; важкі; значны. Вагавіты колас.

**Вагавы́.** Які мае адносіны да вагі.

І тут жа насып чыгункі, тупіковыя пуці, вагавая будка, на якой узважваліся вагоны, нагружаныя зернем, бульбай, морквай, капустай, бо наўзбоч тупіковых пуцей якраз размяшчаліся розныя нарыхтоўчыя базы і склады. *І. Навуменка.*

**Вага́льны.** Які мае адносіны да вагання, уласцівы ваганню. Вагальны рух.

### ВАДАСКАТ // ВАДАСКІД // ВАДАСПАД // ВАДАСЦЕК

**Вадаска́т.** Спад вады з высокага, але не стромкага ўступа ў рацэ, ручаі.

Плынь на вадаскаце больш імклівая, хуткая, чым на роўным месцы.

**Вадаскі́д.** Гідратэхнічнае збудаванне для спуску лішняй вады з вадасховішчаў.

Калі вада моцна напірала на дамбу, адкрывалі вадаскіды і спускалі яе лішкі.

**Вадаспа́д.** Паток вады, што спадае са стромкага ўступа ў рэчышчы ракі.

Высока ўзнімаліся пырскі ад шумнага вадаспаду, ярка іскрыліся на сонцы.

**Вадасцёк.** Пакатае месца, па якім сцякае вада; прыстасаванне для сцёку вады (труба, жолаб).

Па вадасцёках бурліла ад ліўня вада, пералівала цераз край.

## ВАДЗЯНІСТЫ // ВАДЗЯНЫ // ВОДНЫ

**Вадзяні́сты. 1.** Які ўтрымлівае лішкі вады, вільгаці.

Будзе вясна. Хоць адвячорак у пушчы яшчэ ўсё як быццам зімовы. З рэшткамі хлюпкага, вадзяністага снегу. *Я. Брыль.*

**2.** Слаба афарбаваны, бясколерны, бялёсы, падобны на ваду.

Часалі, пілавалі, стругалі, прыбівалі, пакуль вецер не нагнаў вадзяністую, на ўсё неба хмару. *В. Мыслівец.*

Няправільна. Выхапіў з жончынай рукі ордэр, пачаў яго мацаць, круціць у пальцах, прыслепвацца да пячаткі. Не вытрымаў, нават паглядзеў праз яго на святло і, убачыўшы на паперы вадзяністыя (трэба: вадзяныя), як на грашах, знакі, толькі паверыў цяпер, што дакумент сапраўдны, не падроблены. *М. Капыловіч.*

**Вадзяны́. 1.** Які мае адносіны да вады, утвораны з вады.

Хмары яшчэ больш разышліся на небе, вадзяны пыл апаў, стала зусім ясна. *М. Лупсякоў.*

**2.** Які жыве, расце, існуе ў вадзе.

Сітнягі ледзь шапацелі пад напорам плыні, крычаў вадзяны бугай. *У. Караткевіч.*

**3.** Які прыводзіцца ў дзеянне, рух вадою.

Неўзабаве бліснула пакручастая стужка рачулкі, а потым паказаўся і вадзяны млынок. *С. Александровіч.*

Няправільна. Туман гусцеў, распаўзаўся і паступова ўкрываў пушыстай белай коўдрай вадзяную (трэба: водную) роўнядзь. *Я. Курто.*

У выразе: вадзяныя знакі — літары і фігуры на паперы, якія ставяцца ў час вырабу паперы і бачныя толькі на прасвет.

У старадрукаваных кнігах важнае ўсё: тэкст выданняў, іх афармленне, гатунак паперы, вадзяныя знакі, фармат кнігі, пераплёт і г. д. *С. Александровіч.*

**Во́дны.** Які мае адносіны да вады, звязаны з вадою.

Адбіваюцца ў воднай гладзі магутныя шапкі векавых дубоў. *А. Васілевіч.*

### ВАДКАСНЫ // ВАДКІ

**Ва́дкасны.** Які мае адносіны да вадкасцей.

Вадкасныя манометры.

**Ва́дкі.** Які знаходзіцца ў стане вадкасці, здольны цячы.

Вадкі метал. Вадкае паліва.

### ВАЖАК // ВАЖАТЫ

**Важа́к. 1.** *Высок.* Кіраўнік, арганізатар.

Юнакі і дзяўчаты аднадушна прызналі .. [Сашу] сваім важаком. *І. Новікаў.*

**2.** Павадыр статка, чарады.

Здавалася, буслы свецяцца ў цемры. Вось адзін з іх, пэўна, важак, узляцеў, шырока махаючы крыламі. За ім узняліся ў вечаровае неба іншыя. *Л. Дайнека.*

**Важа́ты.** Кіраўнік піянерскага атрада, дружыны.

Па камандзе старшай важатай сцяганосцы вынеслі сцяг дружыны. *А. Якімовіч.*

### ВАЖКАСЦЬ // ВАЖНАСЦЬ

**Ва́жкасць. 1.** Уласцівасць чаго-н. мець вялікую вагу пры адносна невялікім аб'ёме; цяжкасць.

А лёд таўшчэрны, важкасць мае. *Я. Колас.*

**2.** *перан.* Значнасць, пераканаўчасць.

Большасць думак Багдановіча была ўвогуле першым словам, што клалася ў падваліну будучай навуковай гісторыі беларускай старажытнай літаратуры, і тым большаю была іх важкасць. *А. Лойка.*

**Ва́жнасць. 1.** Значнасць, вялікае значэнне.

Чым больш чалавек усведамляе свае ўчынкі, тым большую важнасць і адказнасць маюць яны для яго. *І. Грамовіч.*

**2.** Велічнасць, саліднасць; напышлівасць, ганарыстасць.

Колькі чыннасці, пагляньце, колькі важнасці ў хадзе! Туфлі рыпаюць пад глянцам: «Прэч з дарогі! Туз ідзе!» *Н. Гілевіч.*

### ВАКАЛІЗ // ВАКАЛІЗМ

**Вакалі́з.** *Муз.* Практыкаванне для голасу без слоў, якое выконваецца на адных галосных гуках.

Калі спектакль сышоў са сцэны, п'еса пастарэла, многія спра-

бавалі выконваць вакаліз у канцэртах. Але ён не гучаў. Ён быў напісаны для адзінага голасу. *Г. Ланеўская.*

**Вакалі́зм.** *Лінгв.* Сістэма галосных гукаў.

Вакалізм беларускай мовы.

### ВАКОЛІЧНЫ // ВАКОЛЬНЫ

**Вако́лічны.** Які знаходзіцца паблізу, вакол — у ваколіцы, у наваколлі; навакольны.

Чуткі пра бандытаў паплылі па ўсіх ваколічных вёсках. *А. Чарнышэвіч.*

**Вако́льны. 1.** Размешчаны наўкола.

Шмат, вельмі шмат мёду ў вакольных лясах, а дзе мёд, там і сіла. *Л. Дайнека.*

**2.** Які ляжыць у баку ад самага кароткага шляху; кружны, абходны.

Ехалі вакольным шляхам — рамізніку было загадана аб'язджаць па завулках. *С. Грахоўскі.*

### ВАКСАВАЦЬ // ВАСКАВАЦЬ

**Ваксава́ць.** *што.* Чысціць абутак, змазаўшы ваксай.

Сёмка старанна ваксаваў свае хромавыя боты. *П. Кавалёў.*

**Васкава́ць.** *што.* Націраць, насычаць што-н. воскам.

Васкаваць паркет. Васкаваць ніткі.

### ВАКЦЫНА // ВАКЦЫНАЦЫЯ

**Вакцы́на.** *Спец.* Медыцынскі прэпарат для засцерагальных лячэбных прышчэпак супраць заразных хвароб.

У цяперашні час прышчэпкі робяцца спецыяльнымі прэпаратамі — вакцынамі, якія вырабляюцца на заводах. *Анатомія і фізіялогія чалавека.*

**Вакцына́цыя.** *Спец.* Увядзенне вакцыны ў арганізм чалавека ці жывёлы.

Прадугледжана абавязковая вакцынацыя супраць слупняку, туберкулёзу, поліяміэліту, коклюшу, дыфтэрыі. *БелСЭ.*

### ВАЛАВЫ // ВАЛОВЫ

**Валавы́.** Агульны, узяты цалкам (без уліку расходаў).

Валавы збор збожжа. Валавы даход.

**Вало́вы.** Які мае адносіны да вала; такі, як у вала.

Валовая галава. Валовая шыя.

## ВАЛАСА́ТЫ // ВАЛАСІСТЫ // ВАЛАСКОВЫ // // ВАЛАСНЫ // ВАЛАСЯНЫ

**Валаса́ты.** Пакрыты, аброслы валасамі.

Саскочыўшы з палацяў, ён стаяў ля пяколка і спакойна зашпільваў сарочку на сваіх шырокіх валасатых грудзях. *А. Бажко.*

**Валасі́сты.** Пакрыты валаскамі (звычайна пра расліны, насякомых).

Зязюля з'яўляецца вельмі карыснай птушкай — яна знішчае вялікую колькасць валасістых вусеняў — гэтых шкоднікаў сельскай гаспадаркі. *Беларусь.*

**Валаско́вы.** Тонкі, як волас; капілярны.

Валасковы праваднік. Валасковы капіляр.

**Валасны́.** Які мае адносіны да воласці, служыць у воласці.

Валасны суд. Валасны пісар.

**Валасяны́.** Які складаецца з валасоў; зроблены з валасоў.

Баласпай павесіў на крук валасяны аркан, прывязаў да нагі птушкі, выйшаў з хаты. *П. Беразняк.*

## ВАНДАЛ // ВАРВАР

**Ванда́л. 1.** *толькі мн.* Старажытнагерманскае племя, якое заваявала частку Рымскай імперыі і бязлітасна разграбіла Рым.

Многа бачылі стромы ракі на вяку — стругі ворагаў грозных, шаломы вандалаў. *В. Лукша.*

**2.** Той, хто разбурае культурныя каштоўнасці; варвар; некультурны, грубы чалавек.

Мы бясконца ўдзячны сваім бацькам, старэйшым братам, сёстрам, жывым і мёртвым, што ў тое векапомнае лета 1944 года вызвалілі ад фашысцкіх вандалаў нашу любімую сінявокую старонку. *М. Вышынскі.*

**Ва́рвар. 1.** *Гіст. пагард.* Так старажытныя грэкі і рымляне называлі суседнія з імі народы, якія стаялі на ніжэйшай ступені развіцця.

Але не надта слухаў тое чытанне Алекса, хаця і гаварылі ў святліцы, што напісаў кнігу вучоны грэк, Георгій Амартол; невыразна, суха чытаў лектар, і на твары ягоным была напісана нудота, нібы рабіў ён вялікую ласку тым, што ўвогуле згаджаўся нешта тлумачыць навакольным варварам. *В. Іпатава.*

**2.** Некультурны, неадукаваны чалавек; жорсткі, бязлітасны чалавек.

Фашысцкія варвары нанеслі беларускаму народу агульную матэрыяльную страту на суму 75 мільярдаў рублёў. *А. Жайнерчык.*

## ВАНДРОЎНІЦКІ // ВАНДРОЎНЫ

**Вандро́ўніцкі.** Уласцівы вандроўніку, звязаны з вандроўніцтвам.

Вандроўніцкае жыццё. Вандроўніцкі характар.

**Вандро́ўны. 1.** Які часта пераходзіць, пераязджае з месца на месца; які працуе не на пастаянным месцы.

Вандроўны тэатр. Вандроўны кравец.

**2.** Тое, што і вандроўніцкі.

Вандроўная натура. Вандроўнае жыццё.

**3.** Які не мае аселасці, вандруе з месца на месца; качэўны.

Тут яшчэ вялікі кіеўскі князь Уладзімір на ўсіх стэпавых рачулках будаваў крэпасці, каб стрымаць пастаянны бязлітасны напор вандроўных орд. *Л. Дайнека.*

## ВАПНАВАНЫ // ВАПНАВЫ // ВАПНЯКОВЫ

**Вапнава́ны.** *Спец.* Палепшаны шляхам унясення вапны (пра глебу).

Рост ураджаяў траў на вапнаваных палях садзейнічае ўмацаванню кармавой базы. *Звязда.*

**Ва́пнавы.** Звязаны з вырабам вапны; які ўтрымлівае вапну.

Пётр Апанасавіч Жыбуль працаваў тут жа на Падзвінні тэхнарукам вапнавага завода. *А. Асіпенка.*

**Вапнякo̒вы.** Які мае ў сваім саставе вапняк; зроблены з вапняку.

Унізе пад абрывам вапняковым плыла, бурліла вольная рака. *А. Пысін.*

## ВАРСАВАЛЬНЫ // ВАРСАВАНЫ

**Варсава́льны.** *Спец.* Прызначаны для варсавання.

Варсавальная машына.

**Варсава́ны.** *Спец.* Зроблены варсістым, з ворсам.

Варсаваная тканіна.

## ВАРСІНІСТЫ // ВАРСІСТЫ

**Варсі́ністы.** Пакрыты варсінкамі.

Варсіністая паверхня.

**Варсі́сты.** Пакрыты ворсам; з густым ворсам.

Кабінет у Андрэя быў вялікі, прасторны, светлы, засланы варсістай дывановай дарожкай — каб і чалавек, калі зойдзе, адчуваў, да каго ён зайшоў... *Б. Сачанка.*

## ВАРЫЯНТНЫ // ВАРЫЯЦЫЙНЫ

**Варыя́нтны.** *Кніжн.* Які з'яўляецца варыянтам чаго-н.
Варыянтныя канчаткі. Варыянтныя формы слова.
**Варыяцы́йны.** *Спец.* Які мае адносіны да варыяцыі.
Варыяцыйны рад. Варыяцыйнае вылічэнне.

## ВАР'ЯВАЦЬ // ВАР'ЯЦЕЦЬ

**Вар'ява́ць. 1.** Быць у стане крайняга ўзбуджэння, раз'юшанасці, злосці.
Такі ўжо ён чалавек: пачынае вар'яваць і з-за дробязей.
**2.** *каго.* Раздражняць, злаваць, даводзіць да шаленства.
Не трэба яго вар'яваць, ён і так вельмі нервовы.
**Вар'яце́ць. 1.** Траціць розум, даходзіць да псіхічнага расстройства.
У адзіночнай турэмнай камеры чалавек нярэдка вар'яцее.
**2.** *перан.* Бурна і хаатычна праяўляцца.
Громы з перунамі вар'яцелі, зліваючыся ў адну суцэльную кананаду. *А. Якімовіч.*

## ВАСКАВАНЫ // ВАСКОВЫ

**Воскава́ны.** Нацёрты або насычаны воскам.
Шчокі здаваліся абцягнутымі васкаванай паперaю, як у людзей з невылечнымі хваробамі. *М. Лужанін.*
**Васко́вы.** Зроблены з воску; падобны на воск, жаўтлявы.
Зялёнае, стромкае жыта за апошнія дні пачынала набываць васковую афарбоўку. *П. Кавалёў.*

## ВАСТРЫЦЬ // ВАСТРЭЦЬ

**Вастры́ць.** *што.* Рабіць што-н. вострым; заточваць, тачыць.
Вярнуўшыся дадому, Грысь доўга, з асаблівым стараннем вастрыў пілу. *А. Кулакоўскі.*
**Вастрэ́ць.** Станавіцца больш вострым, вастрэйшым.
Вясна адчувалася і па тым, што зараз, асабліва вечарам, калі заціхаў астрог, вастрэла ў сэрцы туга па волі. *М. Машара.*

**Ваўністы.** *Разм.* Пакрыты густой і доўгай воўнай.

Ваўністая авечка.

**Ваўняны.** Які мае адносіны да воўны; зроблены з воўны.

Нацягнулі шацёр, прычым ваўняныя беласнежныя полы шатра не даставалі да самай зямлі, каб быў вольны ход свежаму рачному ветру. *Л. Дайнека.*

## ВЕНТЫЛЬ // ВЕНТЫЛЯТАР

**Ве́нтыль.** Клапан для рэгулявання патоку вадкасцей, пары, газу (паветра ў духавых музычных інструментах).

Чалавек трымаў на вентылі шланг, а я зноў пачаў напампоўваць. *А. Кулакоўскі.*

**Вентыля́тар.** Прыстасаванне для праветрывання памяшкання.

Маўчала насарожаная зала. Было чуваць узрушанае дыханне людзей ды ціха гудзеў у сцяне вентылятар. *М. Лынькоў.*

## ВЕРАСНЁВЫ // ВЕРАСОВЫ

**Вераснёвы.** Які мае адносіны да месяца верасня.

Сінонім: вераснёўскі.

Дзед Пранук, усеўшыся дзе-небудзь у зацішным кутку, флегматычна пакурваў сваю люльку ды ямчэй падстаўляў пад скупое вераснёвае сонца свой сухарлявы твар. *М. Лынькоў.*

**Вераса́вы.** Які мае адносіны да расліны верасу.

Сінонім: верасавы.

Сядзе пчолка на верасовую галінку, гайдаецца, пасля нахіне яе аж да самай зямлі, абдыме ножкамі, перагнецца ўся, адтапырыць крыльцы і лезе з галоўкай у маленькую кветачку. Пасля застыне, не кранецца, як памерла — п'е. *І. Пташнікаў.*

## ВЕРБАВАНЫ / ВЯРБОВАНЫ // ВЯРБОВАЧНЫ

**Вербава́ны.** Тое, што і вярбованы.

Усе вербаваныя спадзяваліся на добрыя заработкі.

**Вярбо́ваны.** Такі, якога завербавалі, нанялі на работу; вербаваны.

Ехаў з вярбованымі ў тайгу, спадзяваўся — вальней сярод іх дыхнецца, бо, здавалася, роўны будзе між роўных. *М. Кусянкоў.*

**Вярбо́вачны.** Звязаны з вярбоўкай, вербаваннем.

Яна не баялася схадзіць на вярбовачны пункт на мэблевую фабрыку. *А. Якімовіч.*

### ВЕТРАВЫ // ВЕТРАВЫ // ВЕТРАНЫ // ВЕТРАНЫ

**Ве́травы.** Які мае адносіны да ветру.

**Ветравы:** павеў, подых, напор, шквал і г. д.

Лоўгач нечакана заўважыў, што няясны ветравы спеў за яго спінай, на другі бок парома, мацнее. *А. Савіцкі.*

**Ветравы́.** Прызначаны для засцярогі ад ветру.

**Ветравы** шчыток; **ветравое** шкло.

Ветравое шкло ў дробных кроплях — глядзіш на свет, што праз густое рэшата, пакуль не забегаюць знадворку дзве чорныя стрэлкі-вусікі. *І. Пташнікаў.*

**Ве́траны. 1.** З ветрам; які суправаджаецца ветрам.

Давялося вылазіць з цёплай машыны ў ветраны снегапад і пехатою ісці некалькі кіламетраў. *Я. Сіпакоў.*

**2.** *перан. Разм.* Легкадумны, несур'ёзны; пусты.

Яна здавалася Максіму Сцяпанавічу несур'ёзнай, ветранай. *У. Карпаў.*

**Ветраны́.** Які прыводзіцца ў дзеянне сілаю ветру.

**Ветраны:** млын, рухавік і г. д.

Сілу ветру чалавек скарыстоўвае вельмі даўно. Парусныя судны і ветраныя млыны прымяняліся ўжо ў глыбокай старажытнасці. *Фізічная геаграфія.*

### ВЕТРАЦЬ // ВЕТРЫЦЬ

**Ве́траць.** *Разм.* Прасушвацца, праветрывацца.

Хлеб, вядома, застаўся некранутым і ветраў пад страхою, аж пакуль не высах на сухар. *М. Лужанін.*

**Ве́трыць.** *што.* Ачышчаць збожжа ад мякіны на ветры; праветрываць.

Ветрыць пшаніцу. Ветрыць гарох.

### ВЕЧАРЭЦЬ // ВЯЧЭРАЦЬ

**Вечарэ́ць.** *безас.* Блізіцца к вечару.

Я доўга не бачыў цябе і, як толькі пачало вечарэць, заспяшаўся да тае альтанкі. *Я. Скрыган.*

**Вячэ́раць.** Есці ежу вечарам.

У хатах не запальвалі святла. Моўчкі вячэралі, моўчкі рабілі хатнія справы і клаліся спаць. *Л. Дайнека.*

**Віжава́ць.** *Разм.* Сачыць, наглядаць, цікаваць.

Прыцемкам, калі не віжуе чужое вока, захапіўшы дзяружку і кажух, Крамер кіруецца на агарод. *І. Навуменка.*

**Візава́ць.** *што.* Ставіць на дакуменце спецыяльную адзнаку — візу.

Візаваць пашпарт.

## ВІЛАВАТЫ // ВІЛАЧНЫ

**Вілава́ты.** Вілападобны, раздвоены.

На яе [хату] вілаватымі галінамі зморана хілілася старая высокая груша. *В. Адамчык.*

**Ві́лачны.** Які мае адносіны да вілак, вілаў.

Вілачны рог.

## ВІРАЖ[1] / ВІРАЖ[2] // ВІТРАЖ

**Іра́ж[1]. 1.** Паварот з крэнам самалёта, карабля або паварот па крывой аўтамабіля, веласіпеда і г. д.

Гэтак жа, як і яна, умеў захапляцца: мог гадзінамі расказваць пра самалёты, віражы, мёртвыя петлі. *І. Навуменка.*

**2.** Паварот спартыўнай дарожкі з нахілам унутр.

Бывае, што ў часіну адпачынку канькі і пада мною зазвіняць, і хочацца цыбатую дзяўчынку на віражы дагнаць і перагнаць. *С. Грахоўскі.*

**Віра́ж[2].** Раствор для апрацоўкі фотаадбіткаў.

Віражы служаць для таніравання фотаздымкаў у розныя колеры. *Таваразнаўства.*

**Вітра́ж.** Узор у вокнах, дзвярах са шкла рознага колеру.

Аддзелка кінатэатра яшчэ не зусім закончана. У хуткім часе тут з'явяцца каляровыя вітражы, арнаментальныя ўпрыгожанні, светлавая рэклама. *Звязда.*

## ВІТАМІНІЗАВАНЫ // ВІТАМІННЫ // ВІТАМІНОЗНЫ

**Вітамінізава́ны.** Насычаны вітамінамі; у які ўведзены вітаміны.

Вітамінізаваны прадукт.

**Вітамі́нны.** Які мае адносіны да вітамінаў; з вітамінамі.

Агрэгат па вытворчасці вітаміннай мукі дзейнічаў, і цяпер не толькі для свайго грамадскага статку рыхтуецца спажыўная падкормка, а колькі сотняў тон яе і на продаж ідзе. *Звязда.*

**Вітамі́нозны.** Асабліва багаты вітамінамі.

Вітамінозны рыбін тлушч.

Н я п р а в і л ь н а. На кожным квадратным метры грунту [у цяпліцы] агароднікі збіраюць да васьмі кілаграмаў вітамінізаваных (трэба: вітамінных) прадуктаў. *Звязда.*

### ВІХРАВАТЫ // ВІХРАВЫ / ВІХРАСТЫ

**Віхрава́ты.** *Разм.* З віхрамі; віхрасты.

Разарваўся шалёны снарад. Смерць? Ну што ж,— ёй мы ўсе вінаваты! А жыццё за каўнер ды назад: «Стой, куды ты, хлапец віхраваты!» *С. Дзяргай.*

**Віхравы́.** Які мае адносіны да віхру, віхуры; віхрападобны.

Канструктары прымянілі ў рухавіку віхравую камеру згарання. *Маладосць.*

**Віхра́сты.** З віхрамі (пра валасы на галаве); віхраваты.

Шапка-вушанка сядзела на самай макаўцы, з-пад шапкі выбіваўся віхрасты чуб. *М. Лынькоў.*

### ВОБЛАСЦЬ // ВОЛАСЦЬ

**Во́бласць. 1.** Буйная адміністрацыйна-тэрытарыяльная адзінка ў былым СССР.

Перад самай вайной яго .. паслалі на працу старшынёю калгаса ў заходнія вобласці. *П. Кавалёў.*

**2.** Раён пашырэння чаго-н.; зона.

Вобласць вечнай мерзлаты.

**Во́ласць.** У Расіі і ў СССР да 1930 г.: ніжэйшая адміністрацыйна-тэрытарыяльная адзінка, якая ўваходзіла ў склад павета.

Вы лепш спытайце самі пра палясоўшчыка Міхала: яго ўся воласць наша знала. *Я. Колас.*

### ВОКЛІК // ВОКЛІЧ // ВОКРЫК

**Во́клік.** Слова, якім аклікаюць; выгук.

Пасля яшчэ аднаго вокліку чалавек на дрэве абазваўся і сказаў, што ён як ёсць свой. *А. Кулакоўскі.*

**Во́кліч.** Гучны выкрык; гучнае ўсхваляванае акліканне.

Вокліч прагучаў ледзь не каля самага майго вуха і вывеў мяне з задумення. *М. Ткачоў.*

**Во́крык.** Рэзкі гучны вокліч з загадам, папярэджаннем, пагрозай каму-н.; слова-загад, пагроза.

Неўзабаве разгублена заякатаў сабака, пачуўся строгі гаспадарскі вокрык, нейкая нягучная кароткая фраза, і ён зразумеў, што сабакі згубілі след. *В. Быкаў.*

### ВОРАНЫ // ВОРНЫ / ВОРЫЎНЫ

**Вóраны.** Які ўзаралі, апрацавалі плугам; араны.

Паглядзі: на полі вораным след праложан калясом. *М. Чарот.*

**Вóрны.** Прыгодны, прыдатны для ворыва; не абложны.

На ўзмежку буяў бярэзнік, і пад ім ляжала каменне, пасабранае з ворнага поля. *А. Савіцкі.*

**Вóрыўны.** Тое, што і в о р н ы.

Былі ў пана і ворыўныя землі, і заліўныя лугі па Сажы над возерам, але найбольшым яго багаццем была пушча. *В. Карамазаў.*

### ВОСЦІ // ВОСЦЬ

**Вóсці.** *адз. няма.* Рыбалоўная прылада ў выглядзе віл.

Іліко .. схапіў свае восці і ўдарам пад жабры дакончыў рыбіну. *Э. Самуйлёнак.*

**Восць.** *зб.* Доўгія (і больш рэдкія) валасы на скуры жывёл у параўнанні з асноўным слоем шэрсці.

Зверху бабёр пакрыты восцю — доўгімі і параўнальна рэдкімі валасамі. *В. Вольскі.*

### ВОЧАП // ВОЧАПКА

**Вóчап.** Шост, да якога прымацоўваецца калодзежнае вядро.

Збоку, у лагчыне, стаіць невялікі хляўчук з паветкай для дроў, з-за хлява выступае рог варыўні, за якой на доўгім вочапе мерна пачэкваецца драўляная бодня. *В. Гардзей.*

**Вóчапка.** Ручка вядра, бітона і г. д.; восілка.

Ганька бярэ за вочапку збан вады і выходзіць з хаты. *А. Васілевіч.*

### ВУГЛАВАТЫ // ВУГЛАВЫ

**Вуглавáты.** З выступамі, няроўны.

На поўдні з-за небасхілу высунулася чорная вуглаватая хмара. *М. Гамолка.*

**Вуглавы́.** **1.** Які мае форму вугла, сагнуты пад вуглом.

Вуглавое злучэнне.

**2.** Які стаіць на вуглу, на перакрыжаванні вуліц.

Вуглавы дом.

### ВУЖ // ВУЖАКА

**Вуж.** Адна з неядавітых змей сямейства паўзуноў.

Старыя вужы, скруціўшыся ў клубок, ляжалі, блішчалі на цёплых пнях, як срэбныя талеркі. *Л. Дайнека.*

**Вужáка.** *Разм.* Змяя, гадзюка.

Мяне апанаваў не проста страх, а страх, змешаны з невы моўнаю гідлівасцю; кшталт таго страху я перажыў нядаўна лесе, убачыўшы на альховай галіне над галавою клубок вужакаў *У. Арлоў.*

### ВУЗЕЦЬ // ВУЗІЦЬ

**Вузéць.** Станавіцца вузейшым.

С і н о н і м: звужвацца.

Чырвоная паласа на захадзе ўсё вузела, апускаючыся за не басхіл. *У. Шахавец.*

**Вузíць.** *што.* Рабіць больш вузкім, вузейшым.

С і н о н і м: звужваць.

Вузіць штаны. Вузіць рукаў.

### ВУЗЛАВАТЫ // ВУЗЛАВЫ

**Вузлавáты. 1.** Які мае вузлы, вузялкі; з вузламі.

Пастушок бег па вуліцы і пальсквaў вузлаватаю пугак *К. Чорны.*

**2.** З патаўшчэннямі, наростамі, буграмі.

Пяць чорных вузлаватых сукоў узнімаюцца ў неба, і здаецца што гэта пальцы чыёйсьці вялізнай рукі. *А. Шашкоў.*

**Вузлавы́. 1.** Які з'яўляецца вузлом, месцам перакрыжаванн чаго-н.

Эшалон затрымліваўся на вузлавых станцыях — у Оршь Жлобіне, Гомелі. *Полымя.*

**2.** *перан.* Галоўны, асноўны, самы істотны.

Вузлавое пытанне.

### ВУЧАНЫ // ВУЧОНЫ

**Вýчаны.** Такі, якога навучылі чаму-н.; абучаны, навучань

А раніцай прыляцеў у балотны гарадок голуб. Усе адразу зда гадаліся, што птушка ручная, вучаная чалавекам. *Л. Дайнека*

**Вучóны. 1.** Які набыў спецыяльную падрыхтоўку ў галін якіх-н. ведаў; спецыяліст у якой-н. галіне навукі; даследчы

Партызан з першага ж дня падабаўся Маеўскаму сваёй эру дыцыяй вучонага і дапытлівасцю разведчыка. *І. Шамякін.* *Разм.* Дрэсіраваны *(пра жывёл).* Вучоны мядзведзь.

**2.** Які мае адносіны да навукі, звязаны з навукай.

Вучоны савет. Вучоная ступень.

## ВЫВАДАК // ВЫВАДКА

**Вы́вадак.** Чародка звяроў або птушак адной маткі.

У густой лістоце дрэў аж заходзіліся ад шчабятання маладыя вераб'іныя вывадкі. *І. Дуброўскі.*

**Вы́вадка.** Вывад коней для агляду ці размінкі.

Ранішняя вывадка стаенніка.

## ВЫГАДА // ВЫГОДА

**Вы́гада.** Карысць, прыбытак; разлік.

Да людзей у хаты ён [брыгадзір] ніколі не заходзіў, каб не сказалі, што п'е ці мае нейкую выгаду. *У. Дамашэвіч.*

**Выго́да.** Усё, што задавальняе максімальныя запатрабаванні, чым зручна карыстацца; прыволле.

Кювет зарос густой травою. На выгодзе яна пабуяла. Цяпер яе не выкошваў чалавек, не скубла і не клычыла жывёла. *М. Аўрамчык.*

## ВЫГАДАВАЦЬ // ВЫГАДВАЦЬ

**Вы́гадаваць.** Даглядаючы, вырасціць, выхаваць.

Доўгі час я лічыў сваімі бацькамі тых добрых людзей, якія мяне выгадавалі. *А. Кулакоўскі.*

**Выга́дваць.** Старацца атрымаць якую-н. выгаду, карысць, перавагу ў чым-н.

Я нічога не выгадваю для сябе. *І. Шамякін.*

## ВЫГЛЯДАЦЬ // ВЫГЛЯДЗЕЦЬ // ВЫГЛЯНУЦЬ

**Выгляда́ць.** *незак.* **1.** Мець пэўны выгляд.

Петраш быў на год пяць старэйшы за мяне — яму падбіралася пад сорак, але ён быў увесь сівы, хоць з твару выглядаў маладжава. *В. Адамчык.*

**2.** *Разм.* Уважліва гледзячы, шукаць, заўважаць, знаходзіць каго-што-н.

І пайшоў дзед па рынку хадзіць; ходзіць, па сваіх грашах тавар выглядае. *Я. Колас.*

**3.** Віднецца, паказвацца, быць відным.

То ўзбіраецца [дарога] на пагоркі, то нырае ў нізінкі, паўз старадаўнія валуны, змрочныя руіны нямецкага дота, што сярод шыдлам выглядае з пясчанага кар'ера . . *А. Жалязоўскі.*

**4.** Пазіраць, зіркаць, высоўваючыся адкуль-н.

З калідора выглядалі дзяўчаткі, а як толькі Вера ўзышла на ганак, усе сыпанулі ў клас і зачынілі дзверы. *С. Грахоўскі.*

**Вы́глядзець.** *зак., каго-што.* Уважліва гледзячы, знайсці, заўважыць, адшукаць каго-што-н.

Эшалон стаяў на апошняй каляіне: чалавек гэта ўжо ўдзень выглядзеў. *К. Чорны.*

**Вы́глянуць.** *зак.* **1.** Высунуўшыся з укрыцця, глянуць, паглядзець.

Смалякоў расчыніў дзверцы машыны, трывожна выглянуў з кабіны. *ЛіМ.*

**2.** Стаць бачным; паказацца, паявіцца.

Выглянула з-за хмар сонца, і ўсё навокал зазіхацела. *І. Мележ.*

## ВЫДЫХАЦЦА // ВЫТЫХАЦЦА

**Выдыха́цца.** Траціць апошнія сілы; знясільвацца.

Праціўнік быў спынены, і атакі яго на гэтым участку адна за адной выдыхаліся пад нашым агнём. *С. Смірноў.*

**Вытыха́цца.** Траціць пах, моц, мацунак.

І іншэ што іх рабіла падобнымі да другіх — гэта тая семінарская закваска, якая так трудна вытыхаецца з настаўніка — выхаванца семінарыі. *Я. Колас.*

## ВЫКЛАДАЦЬ // ВЫКЛАДВАЦЬ

**Выклада́ць.** Вучыць каго-н. чаму-н.; выказваць, тлумачыць.

Вучачыся ў Мінскім педагагічным тэхнікуме, Коласа мы сустракалі кожны дзень: Канстанцін Міхайлавіч выкладаў на старэйшых курсах методыку мовы. *М. Лужанін.*

**Выкла́дваць.** *што.* **1.** Вымаючы што-н. адкуль-н., класці на віду.

Дзеці пільнымі вачанятамі сачылі, як Сашка выкладваў з чамадана свае цацкі. *М. Даніленка.*

**2.** Будаваць, узводзіць; абліцоўваць; высцілаць.

Брыгада выкладвала сцены, вяла цяслярскія і сталярныя работы. *Т. Хадкевіч.*

**3.** *перан.* Падрабязна выказваць, паведамляць.

Прыйшоў чалавек да Маслячка — калі ласка, заходзь у кабінет, як у сваю хату, выкладвай свае патрэбы, скаргі або просьбы. *М. Пянкрат.*

## ВЫКЛЮЧАНЫ // ВЫКЛЮЧНЫ

**Вы́ключаны.** **1.** Выведзены са складу чаго-н.

Пан кіроўнік сказаў яму спакойна: «Малец, ты выключаны са школы». *Я. Брыль.*

**2.** Спынены, перарваны; адключаны.

На сцяне перастаў трашчаць не выключаны, відаць, да адказу рэпрадуктар. *В. Адамчык.*

**Выклю́чны. 1.** Які з'яўляецца выключэннем з агульных правіл, са звычайных норм.

У прыродзе сустракаюцца выключныя экземпляры,— выказаўся аднойчы Валерый Самасад.— Ім дадзена болей, чым астатнім. *І. Навуменка.*

**2.** Асаблівы, незвычайны; рэдкі.

Якуб Колас — паэт вельмі «зямны». Ён рэдка шукае выключнага, яркага, экзатычнага. *І. Навуменка.*

**3.** Які з'яўляецца асаблівасцю толькі дадзенай асобы, калектыву, рэчы.

Марына Паўлаўна — жанчына з выключным арганізатарскім талентам. *А. Васілевіч.*

### ВЫКРУТ // ВЫКРУТКА

**Вы́крут. 1.** Незвычайны паварот.

Сцежка з выкрутам. Скокі з выкрутамі.

**2.** *перан.* Хітрыкі пры ўхіленні ад прамога адказу, удзелу ў якой-н. справе; маскіроўка сапраўднай мэты.

Ягоная галава ледзьве не разрывалася ад таго, што ён не мог зразумець новыя выкруты ворага. *В. Быкаў.*

**Вы́крутка.** *Разм.* Выхад з цяжкага становішча.

Кукушкін. А чаго там разумець? Каб у іх была другая выкрутка — хіба яны малілі б мяне хрыстом-богам? *К. Губарэвіч.*

### ВЫКУПЛЕНЫ // ВЫКУПНЫ

**Вы́куплены.** Такі, каго (што) выкупілі; куплены.

Нарэшце, у 1929 годзе, у Швецыі і Германіі былі выкуплены чатыры белавежскія зубры. *В. Вольскі.*

**Выкупны́.** Які мае адносіны да выкупу; прызначаны для выкупу.

Над скляпеннямі царквы гучалі словы аб капіталізацыі аброку, аб выкупных сумах, аб шасці працэнтах выплаты ў год. *У. Караткевіч.*

### ВЫЛЕГЧЫ // ВЫЛЕЖАЦЬ

**Вы́легчы.** Прыпасці сцяблом да зямлі; палегчы (пра збажыну, травы).

А перабольшваць гною нельга, бо калі перабольшым, дык

бульба счарвівее, а ячмень ці яшчэ якая збажына пабуяе і вылежа. *Р. Сабаленка.*

**Вы́лежаць. 1.** Праляжаць пэўны (патрэбны) тэрмін пасля хваробы.

Міша хварэе. Ён быў прастудзіўся, не вылежаў, пайшоў рамантаваць свой грузавік. *Работніца і сялянка.*

**2.** Прабыць пэўны час у ляжачым становішчы.

Яму трэба было вылежаць паўгадзіны на гарачым пяску.

### ВЫЛЕЧАНЫ // ВЫЛЕЧНЫ

**Вы́лечаны.** Пазбаўлены ад хваробы лячэннем.

Вылечаны ад запалення лёгкіх хлопчык.

**Вылéчны.** Які можна вылечыць.

Вылечная хвароба.

### ВЫМЕРАНЫ // ВЫМЕРНЫ

**Вы́мераны.** Дакладна вызначаны па велічыні, памерах.

Вымераны ўчастак зямлі.

**Вымéрны.** Які можна вымераць; прызначаны для вымярэння.

Вымерная велічыня. Вымерная рулетка.

### ВЫМЫСЕЛ // ЗАМЫСЕЛ

**Вы́мысел. 1.** Тое, што створана фантазіяй, уяўленнем.

«Вайна — мір» — класічны прыклад таго, як трэба вырашаць праблему суадносін мастацкага вымыслу і дакументальнай верагоднасці. *Д. Палітыка.*

**2.** Тое, што супярэчыць рэчаіснасці; выдумка, хлусня.

Не ўсякім вымыслам трэба верыць.

**За́мысел. 1.** Задуманы план дзеяння; намер, задума.

Мне здалося, што Зарэцкі жыве нейкім новым замыслам. *Я. Скрыган.*

**2.** Асноўная думка, ідэя мастацкага твора.

Я ўпэўнена, што і крытык, для таго каб лепш зразумець твор, пранікнуць у замысел аўтара, павінен умець настроіцца на хвалю яго таленту. *Р. Шкраба.*

### ВЫНАСНЫ // ВЫНОСНЫ / ВЫНОСІСТЫ // ВЫНОСЛІВЫ

**Вынасны́. 1.** Прыстасаваны для вынасу, пераносу.

Пішчыкаў выйшаў з КП, сеў за столік, на якім ляжаў вынасны мікрафон радыёстанцыі. *А. Алешка.*

**2.** Вынесены за межы чаго-н.; звязаны з заўвагамі на палях кнігі або над тэкстам.

У сувязі з гэтым ускладняецца і пытанне аб правілах чытання слоў з вынасной літарай. *А. Булыка.*

**Вынóсны.** З прамым гладкім і высокім ствалом; гонкі; выносісты.

Сонца залаціла гладкія ствалы выносных соснаў, светлымі кавалкамі ляжала на ягадніку. *В. Адамчык.*

**Вынóсісты.** З прамым гладкім і высокім ствалом; гонкі; выносны.

Вось адна маладая выносістая хваінка не вытрымала першага шчодрага снегу, нахілілася. *А. Кулакоўскі.*

**Вынóслівы.** Фізічна дужы, стойкі, загартаваны; здольны пераносіць усякія цяжкасці, цярплівы.

Па-сялянску дужую і вынослівую, яе раптоўна падкасіла страшная, не зусім яшчэ асэнсаваная ёю сіла. *В. Іпатава.*

### ВЫНАХОДЛІВЫ // ВЫНАХОДНІЦКІ

**Вынахóдлівы.** Здольны ствараць новае, вынаходзіць; знаходлівы.

Перад Юркам і зараз, як жывы, стаяў смелы, рашучы, вынаходлівы і справядлівы капітан Немо. *Я. Курто.*

**Вынахóдніцкі.** Які мае адносіны да вынаходніка, вынаходніцтва.

Выхад чалавецтва за межы зямной атмасферы ў неабсяжныя прасторы космасу дае вялікі штуршок для развіцця касмічнай вынаходніцкай думкі. *А. Матрунёнак.*

### ВЫНАХОДЛІВАСЦЬ // ВЫНАХОДНІЦТВА // ВЫНАХОДСТВА

**Вынахóдлівасць.** Здольнасць ствараць новае, вынаходзіць; знаходлівасць.

Начны бой патрабуе значна больш сіл, вынаходлівасці. *А. Алешка.*

**Вынахóдніцтва.** Дзейнасць вынаходнікаў.

Зрабіць вынаходніцтва.

**Вынахóдства.** Тое, што вынайдзена, прыдумана; вынік творчай працы вынаходніка.

Вера, хвалюючыся, расказала Заруднаму пра сваё вынаходства. *І. Гурскі.*

бульба счарвівее, а ячмень ці яшчэ якая збажына пабуяе і вылежа. *Р. Сабаленка.*

**Вы́лежаць. 1.** Праляжаць пэўны (патрэбны) тэрмін пасля хваробы.

Міша хварэе. Ён быў прастудзіўся, не вылежаў, пайшоў рамантаваць свой грузавік. *Работніца і сялянка.*

**2.** Прабыць пэўны час у ляжачым становішчы.

Яму трэба было вылежаць паўгадзіны на гарачым пяску.

## ВЫЛЕЧАНЫ // ВЫЛЕЧНЫ

**Вы́лечаны.** Пазбаўлены ад хваробы лячэннем.

Вылечаны ад запалення лёгкіх хлопчык.

**Вылéчны.** Які можна вылечыць.

Вылечная хвароба.

## ВЫМЕРАНЫ // ВЫМЕРНЫ

**Вы́мераны.** Дакладна вызначаны па велічыні, памерах.

Вымераны ўчастак зямлі.

**Вымéрны.** Які можна вымераць; прызначаны для вымярэння.

Вымерная велічыня. Вымерная рулетка.

## ВЫМЫСЕЛ // ЗАМЫСЕЛ

**Вы́мысел. 1.** Тое, што створана фантазіяй, уяўленнем.

«Вайна — мір» — класічны прыклад таго, як трэба вырашаць праблему суадносін мастацкага вымыслу і дакументальнай верагоднасці. *Д. Палітыка.*

**2.** Тое, што супярэчыць рэчаіснасці; выдумка, хлусня.

Не ўсякім вымыслам трэба верыць.

**За́мысел. 1.** Задуманы план дзеяння; намер, задума.

Мне здалося, што Зарэцкі жыве нейкім новым замыслам. *Я. Скрыган.*

**2.** Асноўная думка, ідэя мастацкага твора.

Я ўпэўнена, што і крытык, для таго каб лепш зразумець твор, пранікнуць у замысел аўтара, павінен умець настроіцца на хвалю яго таленту. *Р. Шкраба.*

## ВЫНАСНЫ // ВЫНОСНЫ / ВЫНОСІСТЫ // ВЫНОСЛІВЫ

**Вынасны́. 1.** Прыстасаваны для вынасу, пераносу.

Пішчыкаў выйшаў з КП, сеў за столік, на якім ляжаў вынасны мікрафон радыёстанцыі. *А. Алешка.*

**2.** Вынесены за межы чаго-н.; звязаны з заўвагамі на палях кнігі або над тэкстам.

У сувязі з гэтым ускладняецца і пытанне аб правілах чытання слоў з вынасной літарай. *А. Булыка.*

**Вынóсны.** З прамым гладкім і высокім ствалом; гонкі; выносісты.

Сонца залаціла гладкія ствалы выносных соснаў, светлымі кавалкамі ляжала на ягадніку. *В. Адамчык.*

**Вынóсісты.** З прамым гладкім і высокім ствалом; гонкі; выносны.

Вось адна маладая выносістая хваінка не вытрымала першага шчодрага снегу, нахілілася. *А. Кулакоўскі.*

**Вынóслівы.** Фізічна дужы, стойкі, загартаваны; здольны пераносіць усякія цяжкасці, цярплівы.

Па-сялянску дужую і вынослівую, яе раптоўна падкасіла страшная, не зусім яшчэ асэнсаваная ёю сіла. *В. Іпатава.*

## ВЫНАХОДЛІВЫ // ВЫНАХОДНІЦКІ

**Вынахóдлівы.** Здольны ствараць новае, вынаходзіць; знаходлівы.

Перад Юркам і зараз, як жывы, стаяў смелы, рашучы, вынаходлівы і справядлівы капітан Немо. *Я. Курто.*

**Вынахóдніцкі.** Які мае адносіны да вынаходніка, вынаходніцтва.

Выхад чалавецтва за межы зямной атмасферы ў неабсяжныя прасторы космасу дае вялікі штуршок для развіцця касмічнай вынаходніцкай думкі. *А. Матрунёнак.*

## ВЫНАХОДЛІВАСЦЬ // ВЫНАХОДНІЦТВА // ВЫНАХОДСТВА

**Вынахóдлівасць.** Здольнасць ствараць новае, вынаходзіць; знаходлівасць.

Начны бой патрабуе значна больш сіл, вынаходлівасці. *А. Алешка.*

**Вынахóдніцтва.** Дзейнасць вынаходнікаў.

Зрабіць вынаходніцтва.

**Вынахóдства.** Тое, што вынайдзена, прыдумана; вынік творчай працы вынаходніка.

Вера, хвалюючыся, расказала Заруднаму пра сваё вынаходства. *І. Гурскі.*

### ВЫНАШАНЫ // ВЫНЕСЕНЫ

**Вы́нашаны. 1.** Стары, пацёрты ад працяглага нашэння.

Над плотам паказалася Есіпава галава ў вынашанай цялячай шапцы. *І. Дуброўскі.*

**2.** *перан.* Абдуманы да поўнай яснасці, закончанасці.

Вынашаны план. Вынашаны сюжэт.

**Вы́несены.** Які вынеслі; выдалены; выстаўлены.

Вынесены з пакоя стол.

### ВЫПАД // ВЫПАДАК

**Вы́пад. 1.** *Спарт.* Рэзкі рух уперад з апорай на выстаўленую нагу.

Чаратун усхапіўся на калені і зрабіў выпад рукою, нібы хацеў прапароць мяне шпагаю. *П. Місько.*

**2.** Варожае выступленне, нядобразычлівая выхадка.

Сярод гэтых «перамешчаных», мы ведалі, ёсць злачынцы, ворагі, гатовыя на ўсякі выпад. *І. Мележ.*

**Вы́падак. 1.** Тое, што здарылася; здарэнне; факт, з'ява.

Усе ёю цікавіліся, а яна не хацела бясконца расказваць пра той няшчасны выпадак. *І. Грамовіч.*

**2.** Пэўныя абставіны, стан рэчаў.

І от здарыўся выпадак, які парушыў нечакана спакой і ў нашым службовым жыцці і ў жыцці Марыны. *Я. Скрыган.*

**3.** Зручны момант.

Дзед любіў пры зручным выпадку ўжыць навуковае слова. *М. Лынькоў.*

### ВЫПІНАЦЦА // ВЫПІРАЦЦА

**Выпіна́цца.** *Разм.* Выстаўляцца, высоўвацца ўперад.

У некаторых выпадках ён не дужа любіў выпінацца наперад. *М. Лынькоў.*

**Выпіра́цца.** Выдавацца, высоўвацца за межы чаго-н.; **вытыркацца.**

Усё ў быльнягу і ажынніку, яно [печышча] выпіраецца аж на самую дарогу. *Б. Сачанка.*

### ВЫПРАБАВАЛЬНЫ // ВЫПРАБАВАНЫ

**Выпрабава́льны.** Прызначаны для выпрабавання.

Непадалёк за заводскай агароджай шырыўся лугавы прасцяг — выпрабавальны палігон. *ЛіМ.*

**Вы́прабаваны.** Правераны на справе.
Сінонім: надзейны.
Выпрабаваны метад.

### ВЫРАБАТАК // ВЫРАБАТКА

**Вы́рабатак.** Тое, што выпрацавана; выпрацоўка.
Дзённы вырабатак. Нормы вырабатку.
**Вы́рабатка.** Месца, дзе здабываюцца карысныя выкапні.
Глыбокая вырабатка. Старая вырабатка.

### ВЫРАЗАНЫ // ВЫРАЗНЫ // ВЫРАЗНЫ

**Вы́разаны.** *У розн. знач.* Які выразалі.
Адно сцябло — адна кветка. Але якая! Пяць ярка-малінавых пялёсткаў — яны нібы выразаныя па краях, нібы абсыпаныя белымі крапкамі, а ля пясцікаў — як усё роўна прастрочаныя кім. *Я. Сіпакоў.*
**Выразны́.** Выраблены вырэзваннем; з выразамі, разны́.
Выразны арнамент. Выразныя ножкі стала.
**Выра́зны. 1.** Такі, у якім кожная дэталь, момант яскрава вылучаюцца.
Думаючы пра ўсё гэта, працягваў перабіраць лісты ў шкатулцы, пакуль не выхапіў з яе, як апёкшыся, ліст са знаёмым выразным, буйнымі літарамі почыркам. *В. Карамазаў.*
**2.** Дакладна і ясна сфармуляваны.
Выразны адказ.

### ВЫРАТАВАЛЬНЫ // ВЫРАТАВАНЫ / ВЫРАТОЎНЫ / / ВЫРАТОЎЧЫ

**Выратава́льны.** Які служыць для выратавання; які выратоўвае, дае ратунак.
Што ж, зусім не страшна, не крычы, не ахай, круг выратавальны ў кожнага над пахай. *С. Шушкевіч.*
**Вы́ратаваны.** Пазбаўлены ад пагібелі, небяспекі, пагрозы.
Распытала ў мяне маці, як усё было, а сама і радуецца, што сынок выратаваны, і скардзіцца на яго. *А. Кулакоўскі.*
**Вырато́ўны.** Тое, што і выратавальны.
Вецер гудзеў бы шалёны, нацягваючы струнамі канаты абедзвюх мачтаў, цяжка пахлопваючы намоклымі брызентамі выратоўных шлюпак. *М. Лынькоў.*
**Вырато́ўчы.** Тое, што і выратавальны.
І з усіх бакоў пад вечар прыйшлі на электрастанцыю выратоўчыя брыгады. *П. Броўка.*

## ВЫСАДАК // ВЫСАДКА

**Вы́садак.** *часцей мн.* Корань мінулагодняй агароднай расліны, пасаджаны на насенне; насеннік; маладая расліна для пасадкі.

Падрос козлік і вельмі ж развалачыўся. Панадзіўся ў Пілінавы грады і ўсе капусныя высадкі абцерабіў. *Я. Брыль.*

**Вы́садка. 1.** Выхад і выгрузка (з судна, вагона і г. д.) прыехаўшых.

Капітан загадаў падрыхтавацца да магчымай высадкі на лёд. *Я. Бяганская.*

**2.** Перасадка раслін з пітомніка, парніка ў глебу.

Высадка ранніх кветак на гарадскія клумбы толькі пачалася.

## ВЫСЕЎ // ВЫСЕЎКІ

**Вы́сеў.** Тое, што высяваюць, колькасць высеянага.

Норма высеву на гектар.

**Вы́сеўкі.** *адз. няма.* Адсеянае пры прасейванні.

Высеўкі высыпалі на зямлю курам.

## ВЫСМАГНУЦЬ // ВЫСМАЖЫЦЬ

**Вы́смагнуць.** Стаць вельмі сухім ад гарачыні.

Жыта выгарыць адразу, поле высмагне зусім. *А. Бялевіч.*

**Вы́смажыць.** Добра ўсмажыць (пра сала); апаліць (пра сонца).

Усюды сонца высмажыла ягады, але я знаю ў лесе такую мясціну, дзе і ў сухое лета можна смагу прагнаць. *С. Александровіч.*

## ВЫСТАВАЧНЫ // ВЫСТАЎЛЕНЫ // ВЫСТАЎНЫ

**Вы́ставачны.** Які мае адносіны да выстаўкі.

У выставачнай зале на стэндах і вітрынах прадстаўлены сотні перадавых калгасаў. *Маладосць.*

**Вы́стаўлены.** *У розн. знач.* Які выставілі.

На змярканні на ўсіх дарогах будуць выстаўлены патрулі. *Х. Жычка.*

**Выстаўны́.** Які можна выстаўляць; які вымаецца.

Выстаўныя рамы.

## ВЫСТРУГАЦЬ // ВЫСТРЫГАЦЬ

**Вы́стругаць.** *зак. што.* Стругаючы, зрабіць што-н. гладкім або надаць чаму-н. патрэбную форму.

Выпаў снег. І сыну тата з дошкі выстругаў лапату. *С. Грахоўскі.*

**Выстрыга́ць.** *незак. што.* Зразаць нажніцамі або машынкай якую-н. частку валасоў, шэрсці і г. д.

Алёша ўжо не выстрыгае чупрыны пад бокс. *В. Вітка.*

## ВЫТВОРНЫ // ВЫТВОРЧЫ

**Вытво́рны.** Утвораны ад іншай формы, велічыні і г. д.

Асновы, якія складающца толькі з адной карэннай марфемы, называющца невытворнымі, асновы ж, у склад якіх уваходзіць больш за адну марфему, называющца вытворнымі. *Граматыка беларускай мовы.*

**Вытво́рчы. 1.** Які мае адносіны да вытворчасці.

Вытворчыя планы пачалі перавыконвацца. *К. Чорны.*

**2.** Які займаецца вытворчасцю, вырабам чаго-н.

Вытворчыя майстэрні вучылішча размяшчаюцца ў дрэваапрацоўчым цэху завода. *М. Даніленка.*

## ВЫТРЫВАЦЬ // ВЫТРЫМАЦЬ

**Вы́трываць. 1.** *што.* Цярпліва, стойка перанесці што-н.; выцерпець.

Я і гэта вытрываў моўчкі, бо ведаў, што сказаў праўду. *В. Казько.*

**2.** *без дап. (звычайна з адмоўем).* Праявіць вытрымку, стрымацца; сцярпець.

Памятаю, мароз на вуліцы — не вытрываць, а тут яшчэ вецер. *А. Васілевіч.*

**Вы́трымаць. 1.** *што.* Не паддацца ўздзеянню цяжару, ціску і г. д.; устаяць.

Першую машыну мост вытрымаў. *І. Мележ.*

**2.** *перан. што* і *без дап.* Стойка перанесці што-н.; праявіць вытрымку; выцерпець.

Збіраючыся ў дарогу, [Захар] не думаў, ці вытрымаюць дзеці, калі дарога выдасца доўгай, цяжкай? *В. Карамазаў.*

**3.** *што.* Выявіць сваю падрыхтоўку, годнасць у працэсе праверкі.

Усе ў доме з вялікай радасцю ўспрынялі вестку, што я вытрымаў экзамен і прыняты ў гімназію. *Я. Рамановіч.*

**4.** *перан.; што.* Не ўступіць, праявіць цвёрдасць.

Позірк яго я не мог вытрымаць, вочы адводзіў, быццам натыкаўся на нешта пякуча-вострае. *В. Хомчанка.*

**5.** Захаваць што-н.; не дапусціць адхілення.

Але калі яшчэ ў часы Пушкіна цяжка было вытрымаць класічны канон, то чаго чакаць сёння? *А. Лойка.*

**6.** *што.* Працяглым захоўваннем у адпаведных умовах давесці да высокай кандыцыі, якасці; даць выстаяцца, вылежацца.
Вытрымаць сыр. Вытрымаць віно.

### ВЫХАВАНАСЦЬ // ВЫХАВАННЕ

**Вы́хаванасць.** Уменне добра паводзіць сябе; добрае выхаванне.
Пра добрую выхаванасць чалавека пісар [Дубейка] мяркуе перш за ўсё па тым, ці ўмее ён гуляць у карты і ці напрактыкаваны куляць чарку. *Р. Шкраба.*
**Выхава́нне.** Уздзеянне школы, сям'і, асяроддзя на развіццё, склад думак, пачуццяў і паводзін каго-н.; агульнае развіццё, культура чалавека.
Выхаванне дзяцей — адна з найбольш важных задач нашага грамадства.

### ВЫЧАСКА // ВЫЧАСКІ

**Вы́часка.** Апрацоўка валакна часаннем.
Вычаска лёну.
**Вы́часкі.** *адз. няма.* Адходы пры часанні валакна.
Вычаскі з лёну.

### ВЫШКА // ВЫШКІ

**Вы́шка.** Высокае (звычайна конусападобнае) збудаванне спецыяльнага прызначэння.
За шлам, за Волгай, далёка-далёка ў нафтавых вышках стаяць Жыгулі. *П. Панчанка.*
**Вы́шкі.** *адз. няма.* Насціл пад страхой у хляве або ў канюшні для сена, розных гаспадарчых прылад.
Селянін некалі свой плужок здорам змазваў і на вышкі хаваў. *І. Шамякін.*

### ВЫШЫВАЛЬНЫ // ВЫШЫВАНЫ

**Вышыва́льны.** Прызначаны для вышывання.
Да вязальных і вышывальных нітак адносяцца крашэ, ірыс, мулінэ. *Гаваразнаўства.*
**Вышыва́ны.** Аздоблены вышыўкай; вышыты.
Увесь убор яе складаўся з палатнянай вышыванай кашулі, такога ж фартуха ды паласатага, у дробныя зборкі андарака. *З. Бандарына.*

## ВЫЯЎЛЕНЧЫ // ВЫЯЎЛЕНЫ // ВЫЯЎНЫ

**Выяўле́нчы.** Які дае магчымасць наглядна паказаць, адлюстраваць што-н.

Беларуская мова ўдасканальваецца, шліфуецца, робіцца больш багатая на выяўленчыя сродкі. *Р. Шкраба.*

У выразе: в ы я ў л е н ч а е   м а с т а ц т в а — агульная назва графікі, жывапісу, скульптуры.

Гурток выяўленчага мастацтва.

**Вы́яўлены.** Заўважаны, знойдзены; праяўлены; высветлены.

Ад танкістаў пачалі паступаць данясенні аб выяўленых цэлях. *Звязда.*

**Вы́яўны.** Бясспрэчны; выразны.

Выяўны кампраміс. Выяўны малюнак.

## ВЯЗАЛЬНЫ // ВЯЗАНЫ

**Вяза́льны.** Прызначаны для вязання.

У вязальным і швейным цэхах на фабрыцы працуюць школы перадавога вопыту. *Звязда.*

**Вя́заны.** Зроблены вязаннем.

Таніна маці ўжо некалькі хвілін сядзела, паклаўшы сваё вязанне на калені. Яна трымала ў руках жоўты вязаны платок, два вязальныя пруткі тырчалі з яе рук у бакі. *Л. Арабей.*

## ВЯНДЛІННЫ // ВЯНДЛЯРНЫ

**Вяндлі́нны.** Які мае адносіны да вяндліны.

Вяндлінныя вырабы.

**Вяндля́рны.** Прызначаны для вэнджання.

Вяндлярная печ.

## ВЯНЕЦ // ВЯНОК

**Вяне́ц. 1.** Карона, якую трымаюць над галовамі маладых у час вянчання ў царкве.

Яблыні яшчэ не распусціліся, а вішні, слівы і грушы стаялі белыя, як дзяўчаты пад вянцом. *У. Дамашэвіч.*

**2.** *Уст.* Каштоўны галаўны ўбор — сімвал царскай улады; карона.

Халоднае золата старога вянца лягло на лоб. *У. Караткевіч.*

**3.** *перан.* Апошняя, вышэйшая ступень, верх чаго-н.

Думка застаецца думкай. Вянцом яе заўсёды з'яўляецца справа. *М. Гамолка.*

**4.** Кожны рад бярвён у зрубе; вянок *(у 2 знач.)*.

Цяпер і самому не верыцца, што за лета паставіў хату. Сцены, пакуль мог дацягнуцца, складаў сам, апошнія вянцы памог сусед па забудове... *С. Грахоўскі.*

**Вянóк. 1.** Упрыгожанне з кветак або галінак, сплеценае ў выглядзе круга.

Зажурыліся дзяўчаты з дзеразовымі вянкамі на руках. *М. Лынькоў.*

**2.** Кожны рад бярвён у зрубе; вянец *(у 4 знач.)*.

Неўзабаве агонь ужо абгрызаў аголеныя краты кроквaў і латаў, што з трэскам абвальваліся ў сярэдзіну зруба пасля таго, як полымя салодка лізнула верхнія вянкі бярвення. *М. Аўрамчык.*

#### ВЯРТУХА // ВЯРТУШКА

**Вяртýха.** *Разм.* Непаседа; вяртлявая.

Гэта малая такая ўжо вяртуха, што ні хвіліны не ўседзіць на месцы.

**Вяртýшка.** Назва розных прадметаў, інструментаў, якія свабодна круцяцца.

Пры ўваходзе ў парк замест каліткі стаяла вяртушка.

## Г

#### ГАБЛЯВАЛЬНЫ // ГАБЛЯВАНЫ / ГАБЛЁВАНЫ

**Габлявáльны.** Прызначаны для габлявання.

Габлявальны інструмент.

**Габляваны.** Апрацаваны рубанкам (гэблем); струганы, гладкі.

Габляваная дошка.

**Габлёваны.** Тое, што і г а б л я в а н ы.

Габлёваная рэйка.

#### ГАДАВАЛЬНІК // ГАДАВАНЕЦ

**Гадавáльнік.** Месца для развядзення і вырошчвання раслін ці жывёл.

Пладова-ягадны гадавальнік.

**Гадавáнец.** Дзіця, юнак, увогуле чалавек у адносінах да свайго выхавальніка.

Пажылы мастак-педагог прывіваў сваім гадаванцам любоў да партрэтнага жанру. *А. Ліс.*

## ГАДАВАННЕ // ГАДОЎЛЯ

**Гадава́нне.** Дагляданне, выхоўванне каго-чаго-н.

Астаўшыся без бацькоў на восьмым годзе, ён выгадаваўся ў панскім маёнтку. Можна ўявіць, якое гэта было гадаванне і выхаванне. *А. Чарнышэвіч.*

**Гадо́ўля.** Развядзенне, вырошчванне (звычайна пра жывёл, расліны).

Кніжкі былі найбольш дробныя, пра гадоўлю коней, і не ўсе нават з малюнкамі. *А. Якімовіч.*

## ГАДЗІННІКАВЫ // ГАДЗІННЫ

**Гадзі́ннікавы.** Які мае адносіны да гадзінніка; звязаны з вытворчасцю і продажам гадзіннікаў.

Часу да выбуху, устаноўленага на гадзіннікавым механізме, заставалася ўсяго пяць мінут. *Звязда.*

**Гадзі́нны.** Які працягваецца гадзіну; атрыманы за гадзіну, разлічаны на гадзіну.

Гадзінная лекцыя. Гадзінная норма выпрацоўкі.

## ГАЗ // ГАЗА

**Газ.** Агульная назва гаручых газападобных ці парападобных рэчываў, якія скарыстоўваюцца для ацяплення, асвятлення і інш.

Газ — цудоўнае паліва. Ён з поспехам можа замяніць вугаль, дровы, нафту. *Беларусь.*

**Га́за.** Гаручая вадкасць, якая атрымліваецца пры перапрацоўцы нафты.

Сінонім: карасіна.

Газа была не чыстая, святла давала мала, капцела многа. *І. Новікаў.*

## ГАЗАВАЦЬ // ГАЗІРАВАЦЬ

**Газава́ць.** *Разм.* Уключаць матор на поўную магутнасць.

Трымаючы пілу ля зямлі на выпрастаных руках, надта не газуючы, упарта схіліўшы галаву, ён спакойна сачыў, як зубасты ланцуг уядаўся ў камель. *В. Карамазаў.*

**Газі́раваць.** *што.* Насычаць што-н. газам.

Газіраваць ваду. Газіраваць напітак.

## ГАЗЕТНІЦА // ГАЗЕТЧЫЦА

**Газе́тніца.** Папка для захоўвання газет.

Свежыя газеты ляжалі, як заўсёды, у газетніцы на старшынёўскім стале.

**Газе́тчыца. 1.** Прадаўшчыца газет.

Газетчыцы цяпер ужо скардзяцца, што не хапае ў кіёсках газет на продаж.

**2.** *Разм.* Супрацоўніца газеты; журналістка.

Пасля заканчэння факультэта журналістыкі суседка працуе газетчыцай, яе сяброўка — на рэспубліканскім радыё.

## ГАЙДАМАК // ГАЙДУК

**Гайдама́к. 1.** Удзельнік народна-вызваленчай барацьбы на Правабярэжнай Украіне і поўдні Беларусі супраць польска-шляхецкага прыгнёту ў 18 ст.

Сяляне і казакі, якія ўдзельнічалі ў гэтых паўстаннях, атрымалі назву гайдамакаў. *Гісторыя СССР.*

**2.** Салдат контррэвалюцыйных атрадаў на Украіне ў часы грамадзянскай вайны.

І вось разбіты гайдамакі, Пятлюра ледзь уцёк. *П. Броўка.*

**Гайду́к.** Слуга, выязны лакей багатага памешчыка ў часы прыгону.

Апаўдні пачуліся свіст бізуноў, грукат конскіх капытоў — імчаліся па вуліцы панскія гайдукі. *М. Лупсякоў.*

## ГАЙДАНКА // ГАЙДАННЕ

**Гайда́нка.** Пакалыхванне, неспакойны ход судна (самалёта, машыны і інш.) у час руху.

Як толькі наш параход увайшоў у яго [Баранцава мора] воды, пачалася гайданка. *Я. Бяганская.*

**Гайда́нне.** Рытмічнае пакалыхванне, хістанне з боку ў бок ці зверху ўніз.

Ён паслухаў: у гайданні гэтых голек спеў чуваць. *Я. Колас.*

## ГАЛАВЕШКА // ГАЛАЎНЯ

**Галаве́шка.** Абгарэлы кусок дрэва.

Печ ярка палала, дагаралі апошнія галавешкі — аж пякло ёй у плечы, а цеста на руках яе засыхала і лушчылася. *У. Дамашэвіч.*

**Галаўня́. 1.** Хвароба збожжавых злакаў, пры якой зерне ператвараецца ў пыл або ў цвёрдую чорную нарасць.

Жытні колас з галаўнёй.

2. *Абл.* Вялікая галавешка.

Праз хвіліну вогнішча было раскідана, чадныя галоўні шыпелі ў траве. *Э. Самуйлёнак.*

### ГАЛАНТАРЭЙНЫ // ГАЛАНТНЫ

**Галантарэ́йны.** Які мае адносіны да галантарэі — дробных прыналежнасцей туалету (пальчатак, гальштукаў, гузікаў, ніták і г. д.).

Дзяўчына несла ў кошыку пісталет, патроны або гранаты, прыкрытыя зверху няхітрым галантарэйным наборам. *Я. Брыль.*

**Гала́нтны.** Вытанчана ветлівы, ласкавы, далікатны ў абыходжанні.

Ён прыцiснуў левую руку да грудзей, схіліў галаву ў галантным паклоне. *Я. Васілёнак.*

### ГАЛАЎНЫ // ГАЛОЎНЫ

**Галаўны́.** 1. Які мае адносіны да галавы.

Дадому ён прыйшоў разбіты, з галаўным болем. Хацелася легчы ў ложак, выклікаць урача. *І. Шамякін.*

2. Які ідзе ўперадзе чаго-н.; перадавы.

Наперадзе, крокаў за трыста ад яго, ехалі тры коннікі — галаўныя дазорныя. *М. Ткачоў.*

**Гало́ўны.** 1. Самы важны, асноўны, найбольш істотны.

Ужо вечарэла, калі галоўныя часці паказаліся на дарозе *М. Лынькоў.*

2. Старшы па службоваму становішчу.

Алёна Зайчук была галоўным урачом партызанскага атрада. *І. Шамякін.*

### ГАЛЕРА // ГАЛЕТА

**Гале́ра.** Вялікае драўлянае мнагавёсельнае ваеннае судна (да пачатку 19 ст.).

Вясной 1696 г., на здзіўленне турак, пад Азовам паявіўся рускі флот з трыццаці галер і вялікай колькасці транспартных суднаў і лодак. *Гісторыя СССР.*

**Гале́та.** Плоскі тонкі сушаны праснак для паходных умоў

Ён дастае з шафкі і стаўляе на стол масла, галеты, вараную рыбу. *Я. Бяганская.*

**Гале́ць. 1.** Станавіцца голым (пра лес, поле і пад.).

Лес галеў, панура выстаўляючы сукі, шумна шумеў вятрамі. *І. Мележ.*

**2.** Беднець, упадаць у беднасць; жыць вельмі бедна.

Галеюць дзеці век без хлеба, падзёрты жончын чаравік, не маю грошы на патрэбу,— бо я мужык, дурны мужык. *Я. Купала.*

**Галіць.** *каго-што.* Зразаць валасы брытвай; брыць.

Ён насіў невялікія сівыя вусы, але акуратна галіў бараду. *І. Шамякін.*

## ГАЛІНАСТЫ // ГАЛІНІСТЫ // ГАЛІНОВЫ // // ГАЛЯНАСТЫ

**Галіна́сты.** З вялікімі галінамі; разложысты, разгалісты.

Полымя то ўспыхне, то патухне і галінасты стары дуб то раптам выступае з цемені, то тоне ў ёй. *М. Лупсякоў.*

**Галі́ністы.** З вялікай колькасцю галін.

Галіністае дрэва.

**Галіно́вы.** Які мае адносіны да пэўнай галіны (навукі, вытворчасці і г. д.).

Галіновыя органы кіравання, за некаторымі выключэннямі, асталіся тыя ж самыя. *Полымя.*

**Галяна́сты.** З тонкімі доўгімі галёнкамі.

Так яны стаялі моўчкі адзін супраць аднаго — малады, худы, галянасты хлопец і пажылы дзядзька з касматым тварам. *І. Дуброўскі.*

## ГАНАРЛІВЫ // ГАНАРЫСТЫ // ГАНАРОВЫ

**Ганарлі́вы.** Поўны гордасці, усведамлення сваёй важнасці, перавагі.

Хлопец ён быў, як і ўсе Альшэўскія, ганарлівы, але бязвольны. *М. Ваданосаў.*

**Ганары́сты.** Пагардлівы, пыхлівы; фанабэрысты.

Багатым лішне Вінцэнты ніколі не быў, але ганарыстым быў заўсёды. *К. Чорны.*

**Ганаро́вы. 1.** Які карыстаецца пашанай; пачэсны.

На сцэне за сталом чынна размясціліся выкладчыкі ў бліскучых віцмундзірах і ганаровыя госці. *С. Александровіч.*

**2.** Які даецца, прысвойваецца за вялікія заслугі.

Самая яго старэйшая дачка Сцепаніда працавала ўвесь час даяркай, і гэтай вясной ёй далі ганаровае званне Героя Сацыялістычнай Працы. *Я. Ермаловіч.*

**3.** Выбраны ў знак высокай павагі, пашаны.

Потым выбралі ганаровы прэзідыум, і ўсе доўга пляскалі ў далоні. *А. Асіпенка.*

**4.** Які з'яўляецца выражэннем гонару, праводзіцца ў знак павагі.

У свята Перамогі ля помнікаў і абеліскаў нясуць ганаровую вахту перадавікі фабрык і заводаў, калгасаў і саўгасаў. *Полымя.*

### ГАНДЛЁВЫ // ГАНДЛЯРСКІ

**Гандлёвы. 1.** Які мае адносіны да гандлю, звязаны з яго вядзеннем і арганізацыяй.

Зіна пасля вучобы ў Полацкім гандлёвым тэхнікуме працавала за прылаўкам. *С. Грахоўскі.*

**2.** Які вядзе гандаль, служыць месцам для яго, з'яўляецца прадметам гандлю.

Гандлёвая сістэма.

**Гандля́рскі.** Характэрны для гандляра, яго заняткаў; заснаваны на імкненні да нажывы, да асабістай выгады.

Крамку давялося ліквідаваць,— з яе не было ніякага прыбытку, бо Гінка не ведала гандлярскіх хітрыкаў. *У. Корбан.*

### ГАНТАЛЬ // ГАНТЭЛЬ

**Ганта́ль.** Цвік, якім прыбіваюць гонту.

— На выбар, браток Іван Іванавіч, можна і ганталёў выбраць. *І. Грамовіч.*

**Гантэль.** Гімнастычная гіра ў выглядзе двух чыгунных шароў, злучаных круглым кароткім дзяржаннем.

Да глыбокай восені Рыгор займаўся гімнастыкай на турніку, гантэлямі і абліваўся халоднай вадой. *Я. Рамановіч.*

### ГАНЬБАВАЦЬ // ГАНЬБІЦЬ // ГАНІЦЬ

**Ганьбава́ць. 1.** *каго-што.* Даваць ганьбу, знаходзіць заганы, недахопы.

Андрэй, як і кожны машыніст, не любіць гаварыць аб сваіх ахвярах, не прынята, дый нашто: сябе ганьбаваць, сказаць аб сваім недаглядзе. *М. Лынькоў.*

**2.** *кім-чым.* Грэбаваць, пагарджаць.

Не ганьбуй старым ботам, пакуль новага не пашыў. *Прыказка.*

**Га́ньбіць.** *каго-што.* **Ч.** Зневажаць чыю-н. годнасць; асуджваць, няславіць.

Завошта ж ганьбіць тых людзей, якія адбіваюць націск класавага ворага? *К. Чорны.*

**2.** Быць ганьбай для каго-чаго-н.; няславіць сваімі паводзінамі, учынкамі.

Не ўсякая беражлівасць упрыгожвае чалавека і не ўсякая неашчаднасць ганьбіць яго. *В. Каваленка.*

**Га́ніць.** Прызнаваць непрыгодным, дрэнным; даваць нізкую ацэнку; асуджаць, абгаворваць.

Заўсёды мімаволі з'яўляецца антыпатыя да чалавека, які пачынае ганіць іншых. *І. Шамякін.*

### ГАРАДАВЫ // ГАРАДНІЧЫ

**Гарадавы́.** Ніжні чын гарадской паліцыі ў царскай Расіі.

Чачотка — высокі, лёгкі мужчына ў акуратных лапціках — служыў пры цару гарадавым і дагэтуль не мог прывыкнуць да працы на гаспадарцы. *Я. Брыль.*

**Гарадні́чы.** Начальнік горада ў Расіі да сярэдзіны 19 ст.

Адміністрацыйнай уладай у горадзе з'яўляўся гараднічы, які назначаўся ўрадам. *Гісторыя СССР.*

### ГАРАНТАВАНЫ // ГАРАНТЫЙНЫ

**Гарантава́ны.** Забяспечаны, надзейны.

На сходзе калгаснікам устанавілі гарантаваную аплату працадня. *В. Дайліда.*

**Гаранты́йны.** Які заключае ў сабе гарантыю, з'яўляецца гарантыяй.

Гарантыйны тэрмін устаноўлен у залежнасці ад матэрыялу. *Таваразнаўства.*

### ГАРАПАШНІЦКІ // ГАРАПАШНЫ

**Гарапа́шніцкі.** *Разм.* Які належыць гарапашніку; такі, як у гарапашніка.

Гарапашніцкая гаспадарка. Гарапашніцкі абутак.

**Гарапа́шны.** *Разм.* Бедны, гаротны.

Цяжкае гарапашнае жыццё навучыла Дзям'яна любіць і паважаць чалавека працы. *В. Хомчанка.*

### ГАРАЧКАВЫ // ГАРАЧЛІВЫ

**Гара́чкавы.** Выкліканы гарачкай; які бывае пры гарачцы.

Гарачкавае трызненне.

**Гара́члівы.** Запальчывы, нястрыманы.

Ен [Ізяслаў] быў лёгкі на злосць, але гэтак жа лёгка адыходзіў, разумеючы, што нельга ўсё жыццё быць злым, што злы, гарачлівы чалавек сам сабе, урэшце, яму капáе. *Л. Дайнека.*

### ГАРБАР // ГРАБАР

**Гарбáр.** Работнік, які займаецца апрацоўкай і вырабам шкур.

Бацька Вользін быў гарбар, з сям'і патомных мінскіх гарбароў, якія ў далёкія часы выраблялі скуры саматужна... *І. Шамякін.*

**Грабáр.** Рабочы на зямляных работах.

Сінонім: землякоп.

Доўга ці коратка жыў так грабар, але нарэшце абрыдла яму штодня капаць дол. *Р. Шкраба.*

### ГАРБАЦЕЦЬ // ГАРБАЦІЦЬ

**Гарбацéць.** Станавіцца гарбатым.

Ні хвілінкі ж, бедныя [вучні], вольнай не маюць, на вуліцу амаль суткамі не выходзяць, крукам сядзяць за кніжкамі і падручнікамі. Слепнуць, гарбацеюць, дзічэюць, бо не маюць часу з сябрамі сустрэцца, пабегаць, пагуляць. *Б. Сачанка.*

**Гарбáціць.** *што.* Выгінаць гарбом; сутуліць; горбіць.

Гарбаціць спіну. Гарбаціць плечы.

### ГАРБУХА // ГАРБУША

**Гарбýха.** Гарбатая жанчына.

Сінонім: гарбуння.

Ад цяжкай работы і стала яна пад старасць гарбухай.

**Гарбýша.** Марская прамысловая рыба сямейства ласасёвых.

Даўжыня цела [гарбушы] у сярэднім 47—50 см, маса 1,4—1,7 кг *БелСЭ.*

### ГАРНІТУР // ГАРНІТУРА

**Гарнітýр. 1.** Поўны набор, камплект прадметаў пэўнага прызначэння.

..Гарнітур .. просты, прыгожы, з наборам рэчаў для аднаго пакоя: канапа-ложак, нізкі стол, разборная кніжная паліца, нізкія зручныя крэслы. *І. Шамякін.*

**2.** *Разм.* Мужчынскі касцюм.

Дзед адзеўся ў святочны гарнітур і доўга круціў перад люстэркам свае сівыя вусы. *К. Чорны.*

**Гарнітýра.** Камплект друкарскіх шрыфтоў рознага памеру, якія маюць аднолькавы характар контуру літар.

Шрыфты падзяляюцца на аднолькавыя па характару рысунка гарнітуры, кожная з якіх мае сваю назву (напрыклад, літаратурная, акадэмічная). *БелСЭ.*

### ГАРЫСТЫ // ГОРНЫ // ГОРСКІ

**Гары́сты.** Пакрыты гарамі, узвышшамі.

Па ручаі між зарасніку мы выйшлі ў гарысты лес. *Р. Няхай.*

**Го́рны. 1.** Які мае адносіны да гор.

Стала так ціха, што здавалася — ручай грыміць, як горны вадапад. *Э. Самуйлёнак.*

**2.** Які мае адносіны да распрацоўкі зямных нетраў.

Некалькі год назад прывезлі на шахту першы горны камбайн. *А. Кулакоўскі.*

**Го́рскі.** Які мае адносіны да горцаў — жыхароў гор.

Горскія плямёны.

### ГАСПАДАРЛІВЫ // ГАСПАДАРНІЦКІ // // ГАСПАДАРСКІ/ГАСПАДАРНЫ // ГАСПАДАРЧЫ

**Гаспада́рлівы.** Ашчадны, эканомны, руплівы ў вядзенні гаспадаркі.

Мне тады споўнілася васемнаццаць, і я адчуваў сябе дужа дарослым, разумным і гаспадарлівым. *А. Асіпенка.*

**Гаспада́рніцкі.** Які мае адносіны да гаспадарніка, кіраўніка.

Таварыш Міленькі згроб сваёй вопытнай рукою ўсю раскошу ў гаспадарніцкі вынослівы партфель. *Я. Брыль.*

**Гаспада́рскі. 1.** Які мае адносіны да гаспадара, належыць яму.

Гаспадарскі сын. Гаспадарскі пакой.

**2.** Характэрны для гаспадара; клапатлівы, руплівы.

Без патрэбы снаваў [Хвошч] па двары, заходзіў у клець, акідваў дабро гаспадарскім вокам і ўсё думаў, думаў. *М. Лупсякоў.*

**3.** Уласцівы гаспадару; упэўнены, уладны.

Жыгар ішоў няспешным, гаспадарскім крокам, як чалавек, які таксама не спіць і робіць работу, не тое што іншыя. *А. Жук.*

**Гаспада́рны.** Тое, што і г а с п а д а р л і в ы.

Каб я князем быў уладарным гэтых ніў і хат,— быў бы князем гаспадарным, вёў бы добры лад. *Я. Купала.*

**Гаспада́рчы. 1.** Які звязаны з вядзеннем гаспадаркі, з эканамічным, вытворчым бокам справы.

Ён завіхаўся ля чыгуннай печкі, шчапаў лучыну, адным словам, займаўся мірнымі гаспадарчымі справамі. *М. Лупсякоў.*

**2.** Які звязаны з прыладамі дамашняй гаспадаркі, неабходны для яе вядзення.

Шырокі двор акружалі гаспадарчыя пабудовы; у кутку двара, як буслiная шыя, падымаўся над калодзежам асвер. *Т. Хадкевіч.*

### ГАСЦІНІЧНЫ // ГАСЦІННЫ

**Гасцінічны.** Які мае адносіны да гасцініцы.

У гасцінічным нумары не спынялася напружаная творчая работа. Пісаў Чорны раніцаю і не любіў парушаць гэты распарадак. *М. Лужанін.*

**Гасцінны.** Які любіць прымаць і частаваць гасцей.

Хто б ні з'явіўся з больш паважаных у ваколіцы людзей, ён стараецца быць гасцінным гаспадаром. *М. Машара.*

### ГЕНЕРАЛЬНЫ // ГЕНЕРАЛЬСКІ

**Генера́льны. 1.** Галоўны, асноўны, вядучы.

Пры правядзенні гэтай аперацыі ўзялі ў палон гітлераўскага палкоўніка, прадстаўніка генеральнага штаба. *М. Лынькоў.*

**2.** Усеагульны, грунтоўны.

Учора вынялі падвойныя рамы, адчынілі ўпершыню вокны, зрабілі ва ўсіх пакоях генеральную ўборку. *М. Ткачоў.*

**Генера́льскі.** Які мае адносіны да генерала, належыць яму.

У гардэробе і вузкіх калідорах я аж зажмурыўся ад бляску генеральскіх пагонаў, гузікаў, ордэнаў і лампасаў, ад Зорак Герояў, ад кідкіх жаночых убораў. *С. Грахоўскі.*

### ГІМНАЗІСЦКІ // ГІМНАЗІЧНЫ

**Гімназі́сцкі.** Які мае адносіны да гімназіста, належыць яму; характэрны для гімназіста.

Гімназісцкія паводзіны. Гімназісцкія мары.

**Гімназічны.** Які мае адносіны да гімназіі.

Гімназічная форма. Гімназічнае выкладанне.

### ГЛАЗУРАВАНЫ // ГЛАЗУРНЫ // ГЛАЗУРОВАЧНЫ

**Глазурава́ны.** Пакрыты глазурай.

Глазураваная міска. Глазураваная плітка.

**Глазу́рны.** Які мае адносіны да глазуры; зроблены з глазуры.

Глазурная маса. Глазурнае пакрыццё.

**Глазуро́вачны.** Які мае адносіны да глазуравання; прызначаны для яго.

Глазуровачная машына. Глазуровачныя работы.

**Гліністы. 1.** Які мае ў сабе прымесь гліны.

Коні скрануліся з месца, дробна затупалі нагамі, выбіраючыся на гліністы ўзгорак. *М. Лынькоў.*

**2.** Колерам падобны на гліну.

На страсе побач з беласнежна-белым сядзіць прыгожы гліністы голуб. *ЛіМ.*

**Гліня́ны.** Зроблены з гліны; пакрыты слоем гліны.

У невялікай хаце з гліняною падлогай было цёпла і чыста. *П. Пестрак.*

Н я п р а в і л ь н а. І справа і злева ад дарогі ўзвышаецца гліняны (трэба: гліністы) бераг. *М. Лупсякоў.*

## ГЛУШАК // ГЛУШЭЦ

**Глуша́к.** *Абл.* Глухі чалавек; глушэц *(у 2 знач.)*.

Размаўляючы, глушак заўсёды крычыць, бо сам не ўсё чуе.

**Глушэ́ц. 1.** Вялікая лясная птушка сямейства цецерукоў.

Глушэц такуе на досвітку. Ён, такуючы, нічога не заўважае вакол і не чуе, акрамя свайго спеву. Нездарма ў народзе яго назвалі глушцом. *А. Курскоў.*

**2.** *Разм.* Глухі чалавек; глушак.

Стары крыўдзіўся, калі яго называлі глушцом.

## ГЛЫБІННЫ // ГЛЫБОЗНЫ // ГЛЫБОКІ

**Глыбі́нны. 1.** Які знаходзіцца (дзейнічае) на вялікай глыбіні; які выражае сутнасць, унутраны змест чаго-н.; істотна важны.

Драматург як бы намякае толькі на глыбінны сэнс фразы або метафары, дае штуршок нашаму ўяўленню, і яно само дамалёўвае карціны і вобразы. *Р. Шкраба.*

**2.** Які знаходзіцца ў глыбіні краіны, вобласці і г. д.

Абком выдзеліў ім на два тыдні аўтобус, і яны вырашылі з'ездзіць у самы глыбінны раён. *Маладосць.*

**Глыбо́зны.** *Разм.* Вельмі глыбокі.

Паветра стаяла ціхае, нібы налітае ў глыбозны сасуд. *В. Карамазаў.*

**Глыбо́кі. 1.** Які мае вялікую глыбіню; знаходзіцца на такой глыбіні.

Дзесяткі паўнаводных і глыбокіх рэк выцякаюць з топкай лясной багны. *В. Вольскі.*

**2.** Змястоўны, важны, грунтоўны; які характарызуецца глыбінёй.

Майстэрства сатырыка выявілася перш за ўсё ў глыбокім разуменні народнага жыцця. *Я. Казека.*

3. Які дасягнуў высокай ступені; поўны (пра пачуцці, стан і пад.).

Хлапца апанаваў такі глыбокі сум, што ён з хвіліну не мог прамовіць слова. *І. Навуменка.*

## ГЛЯНЦАВАЛЬНЫ // ГЛЯНЦАВАНЫ // // ГЛЯНЦАВІТЫ / ГЛЯНЦАВЫ

**Глянцава́льны.** Прызначаны для глянцавання.

Цяпер гэты цэх поўнасцю забяспечан глянцавальнымі машынамі. *Звязда.*

**Глянцава́ны.** З наведзеным бляскам; пакрыты глянцам.

У кароткім, да кален, футэрку, з кенгуровым каўняром, у каракулевай шапцы і глянцаваных ботах з галошамі, Сёмка Фартушнік вёў пад руку Амілію Снацкую. *К. Чорны.*

**Глянцаві́ты.** Тое, што і г л я н ц а в ы.

З зямлі прабіваліся глянцавітыя трубкі ландышаў. *В. Хомчанка.*

**Гля́нцавы.** Пакрыты глянцам; бліскучы.

За мундзірам ішлі боты, Энрыка чысціў іх аж да таго часу, пакуль у глянцавай іхняй паверхні не адлюстроўваўся яго твар. *Б. Мікуліч.*

## ГНЕЎНЫ // ГНЯЎЛІВЫ

**Гне́ўны.** Ахоплены гневам; раззлаваны; з гневам.

Па лагеры купкамі ходзяць людзі, сумныя, заплаканыя, гнеўныя. У кожнага тут сваё гора, свой боль. *І. Мележ.*

**Гняўлі́вы.** Схільны гневацца; які лёгка прыходзіць у стан гневу; крыўдлівы.

Ён стаяў на вечавой плошчы, кідаў рэзкія гняўлівыя словы ў твар вечу. *Л. Дайнека.*

## ГНІЕННЕ // ГНІЛАСЦЬ/ГНІЛАТА // ГНІЛІНА // // ГНІЛЛЁ // ГНІЛУШКА // ГНІЛЬ // ГНІЛЯК

**Гніе́нне.** Працэс разбурэння арганічных рэчываў пад уздзеяннем мікраарганізмаў.

Правая нага, на якой вышэй калена гнаілася рана, распухла і пакрылася фіялетавымі плямамі, быў моцны пах гніення. *І. Мележ.*

**Гні́ласць.** Стан распаду, разлажэння, разбурэння гніеннем; затхласць.

Паражэнне царызму ў Крымскай вайне, нягледзячы на гераізм рускіх салдат, паказала гніласць і бяссілле прыгоннай Расіі. *Р. Шкраба.*

**Гніла́та.** *Разм.* Тое, што і г н і л ь.

Гэта быў стары, разбураны і даўно закінуты склеп. З яго заўсёды, нават у гарачыя, спякотныя дні лета, патыхала холадам і гнілатою. *Б. Сачанка.*

**Гнілі́на.** *Разм.* Што-н. гнілое (звычайна пра старую будыніну).

Кватараваў [Кузьма] у такой гніліне, што сцены зямлёй пахлі, трава на даху расла. *Я. Ермаловіч.*

**Гніллё.** *зб. Разм.* Гнілыя прадметы, рэчы.

Страха яе [лазні] зусім абсунулася, сцены ледзь трымаліся. Не будыніна, а гніллё. *А. Чарнышэвіч.*

**Гнілу́шка. 1.** Абломак гнілога, спарахнелага дрэва; гніляк.

Адчыніў стрэшку вулля, рассунуў рамкі, каб быў вольны праход пчолам, насыпаў у дымар сухіх гнілушак і падпаліў іх, надзеў сетку. *А. Якімовіч.*

**2.** Спелая груша-дзічка (звычайна ляжалая — пацямнелая і мяккая).

Узрушана шалахцела дзедаўская груша-дзічка, самотныя пчолы ляталі, кружыліся вакол спелых груш-гнілушак. *М. Лынькоў.*

**Гніль. 1.** Што-н. гнілое, сапсаванае гніеннем; гнілы пах, затхласць.

Марыля ўлезла ў яму, наскрэбла першы кошык з бульбяной гніллю і кастрыцай і, падаючы яго свякрові,— раптам войкнула, кінула кошык і села. *Я. Брыль.*

**2.** Цвіль, грыбок.

Сукі — што скабы: засмаліліся на сонцы, іх ужо ніколі не возьме гніль. *І. Пташнікаў.*

**Гнiля́к. 1.** Абломак гнілога, спарахнелага дрэва; гнілушка *(у 1 знач.).*

Пень трэба .. узяць на падпалку: сухі гніляк і бяроста стануць гарэць, як смаляк. *І. Пташнікаў.*

**2.** *перан.* Хваравіты, слабы чалавек.

Не падобна гэта на Андрэя — даць па зубах, тым больш таму старому гніляку, пра якога ён збіраецца расказаць. *Я. Брыль.*

**ГНУТКІ // ГНУТЫ**

**Гну́ткі.** Здольны лёгка гнуцца і не ламацца.

Сінонім: гібкі.

Марат выразаў гнуткую лазінку, на таўсцейшым яе канцы завязаў вузельчык і спакойна пачаў збіраць уздоўж сцежкі маладыя баравічкі. *С. Шушкевіч.*

**Гну́ты.** Зроблены згінаннем, выгінаннем; які мае выгнутую форму.

У пакоі стол з букетам палявых кветак, гнутыя крэслы. *К. Чорны.*

## ГОНАЧНЫ // ГОНЧЫ

**Го́начны.** Прызначаны для гонак.

Гоначная лодка. Гоначны аўтамабіль.

**Го́нчы.** Шпаркі ў бегу, прывучаны гнаць звера (пра пароду паляўнічых сабак).

Сінонім: ганчак.

І пайшлі аднойчы мы на высокі груд з выжламі і гончымі — паглядзець на цуд. *П. Глебка.*

## ГОРАН // ГОРН

**Го́ран.** Спецыяльная печ з мяхамі і паддувалам для награвання металу ў кузні; печ для абпальвання керамічных вырабаў.

У кузні пры майстэрні гулка стукаў аўтаматычны молат і гудзеў горан. *І. Шамякін.*

**Горн.** Духавы медны музычны інструмент для падачы сігналаў.

Прагучаў горн. Ён клікаў нас на першую ў гэтым годзе лінейку. *Я. Бяганская.*

## ГРАБАРНЫ // ГРАБАРСКІ

**Граба́рны.** Прызначаны для земляных работ.

Грабарны інструмент.

**Граба́рскі.** Які мае адносіны да грабара, належыць яму. Грабарскае ўменне. Грабарская сумка.

## ГРАВІРАВАЛЬНЫ // ГРАВІРАВАНЫ

**Гравірава́льны.** Які мае адносіны да гравіравання; прызначаны для гравіравання.

Гравіравальнае мастацтва. Гравіравальныя інструменты.

**Гравірава́ны.** З выразанымі ўзорамі, надпісамі на метале, шкле і інш.; з гравіроўкай.

Гравіраваныя вырабы.

## ГРАМ // ГРАН

**Грам.** Адзінка вагі ў метрычнай сістэме мер, роўная вазе аднаго кубічнага сантыметра вады; тысячная доля кілаграма.

Дзед Вячэра ўжо аж надта прывык да гэтай куплі на вока: ён памыляўся толькі на грамы. *Я. Брыль.*

**Гран.** Адзінка аптэкарскай вагі, роўная 0,062 грама (звы-

чайна ў выразе: н і г р а н а — ніколькі, зусім нічога).

Купалаўскае асэнсаванне былога не мела ў сабе ні грана музейнага рэстаўратарства. *Р. Бярозкін.*

### ГРАМАДЗЯНСКІ // ГРАМАДСКІ

**Грамадзя́нскі. 1.** Які мае адносіны да прававога становішча грамадзян; уласцівы свядомаму грамадзяніну.

Адразу кінуўся ў фанабэрыю, забыўшыся на справу, на сяброўства, нават на звычайную грамадзянскую годнасць. *Я. Скрыган.*

**2.** Невасенны, цывільны, штатны.

Грамадзянская вопратка не магла схаваць ад вопытнага вока бездакорную выпраўку прафесіянальнага вайскоўца. *І. Новікаў.*

**Грама́дскі. 1.** Які мае адносіны да грамадства; звязаны з дзейнасцю людзей у грамадстве.

На новым этапе грамадскага жыцця будзе развівацца далей і форма мастацкіх твораў. *В. Каваленка.*

**2.** Калектыўны, непрыватны; які належыць усяму грамадству.

Між грамадскіх палёў застаўся стаяць у лагчыне адзінокі хутар. *І. Грамовіч.*

**3.** Звязаны з работай па добраахвотнаму абслугоўванню палітычных, культурных, прафесіянальных патрэб калектыву.

Старшынёй нашага сельсавета пры маім сакратарстве быў малапісьменны, але разумны чалавек. Пры ім я прайшоў першую школу грамадскай работы. *П. Глебка.*

### ГРАНАТАВЫ[1]/ГРАНАТАВЫ[2] // ГРАНАТНЫ

**Грана́тавы**[1]. Які мае адносіны да граната — паўднёвага фруктовага дрэва або да яго плода.

Мабед гучна, трымаючы ў левай руцэ стос гранатавых галінак, чытаў літанію. *В. Іпатава.*

**Грана́тавы**[2]. Які мае адносіны да гранату — каштоўнага каменя.

Гранатавы пярсцёнак. Гранатавы бранзалет.

**Грана́тны.** Які мае адносіны да гранаты.

Гранатны выбух. Гранатны асколак.

### ГРАНЁНЫ // ГРАНІЛЬНЫ

**Гранёны.** З абточанымі, шліфаванымі гранямі.

Ён перакінуў нагу праз заслончык, нібы знарок паказваючы свой новы чаравік у блішчастых гранёных шыпах і падкоўцы на абцасе. *В. Адамчык.*

**Гранільны.** Які мае адносіны да гранення — абточвання, шліфоўкі чаго-н.; прызначаны для гранення.

Гранільная майстэрня. Гранільны інструмент.

### ГРОГ // ГРОТ¹/ГРОТ²

**Грог.** Моцны напітак з каньяку або рому, разбаўленых салодкай гарачай вадой.

Здзіўлены перашэпт ззаду — столік, вядома, шчыльна абкружаны — асалода штабс-капітану. Як келіх гарачага грогу пасля цяжкага зімовага пераходу. *У. Мехаў.*

**Грот¹.** Штучная або натуральная пячора.

Пятрусь пражыў у Артэку многа дзён. Ён мог бы з завязанымі вачыма знайсці цудоўны грот Пушкіна. *М. Даніленка.*

**Грот².** Ніжні вялікі парус на грот-мачце — самай высокай мачце на парусных суднах.

Я сказаў ставіць грот, і парус пачаў падымацца. *Б. Жыткоў.*

### ГРОШ // ГРОШЫ

**Грош.** Даўнейшая медная манета ў Расіі з 1657 да 1917 г. (да 1838 г. двухкапеечная, а пасля паўкапеечная).

Спачатку ён [бацька] расклаў па слупочках медную драбязу — грашы, капейкі, двушкі, тройкі, пятачкі, потым сярэбраную, а ўжо затым пералічыў папяровыя грошы. *А. Асіпенка.*

**Гро́шы.** *адз. няма.* Металічныя ці папяровыя знакі, якія служаць мерай вартасці пры куплі-продажы; сродкі, капітал.

Грошы лік любяць. *Прымаўка.*

### ГРУД // ГРУДА

**Груд. 1.** Невялічкая горка, узгорак; сухадол.

На сухім грудзе пасярод густога лесу напаткалі мноства вялікіх і малых камянёў, якія стаялі і ляжалі асобнымі купкамі. *Л. Дайнека.*

**2.** Тое, што і г р у д а *(у 1 знач.).*

З двух грузавікоў у вялікі груд згружаюць цэглу. *І. Шамякін.*

**3.** *Абл.* Куча галля, хворасту; лоўж.

Пад зацішным кустом або ў грудзе ламачча вывела на свет першы вывадак даўгавухая зайчыха. *Звязда.*

**Гру́да. 1.** Куча зваленых у беспарадку прадметаў, рэчаў.

Быццам вузей стала вуліца, заваленая грудамі бярвення. *А. Васілевіч.*

**2.** Замёрзлая ці засохлая гразь.

Начы са дзве ці са тры ў лагчынах ля грэблі і ў аселіцах ля

ракі ляжаў іней, на двары ля хлява ўзялася грудай растаптаная гразь. *І. Пташнікаў.*

**3.** Бясформенны кусок цвёрдай зямлі.

Сінонім: камлыга.

Збіваючы да крыві аб каменне і груды босыя ногі, бяжыць цыбаты Гараська Бусел. *Б. Сачанка.*

### ГРУНТАВЫ // ГРУНТОВАЧНЫ // ГРУНТОЎНЫ

**Грунтавы́. 1.** Які мае адносіны да грунту — верхняга пласта зямлі.

Грунтавыя воды.

**2.** Які мае адносіны да грунту — саставу, якім пакрываюць палатно, рыхтуючы яго для малявання.

Грунтавыя фарбы.

**Грунто́вачны.** Які служыць для грунтоўкі — пакрыцця грунтам.

Грунтовачны састаў.

**Грунто́ўны.** Трывалы, глыбокі; сур'ёзны, падрабязны; абгрунтаваны.

Лабановіч здзівіўся, калі на цэлы рад яго запытанняў вучань даваў дакладныя і грунтоўныя адказы. *Я. Колас.*

### ГРЫЗНЯ // ЗГРЫЗОТА

**Грызня́. 1.** Кусанне адзін аднаго зубамі (пра жывёл).

Чутно, схопяцца там [ганчак з ваўком] — грызня, гіркат, трэск — і зноў загулялі па лесе далей. *М. Ракітны.*

**2.** *перан.* Сварка, спрэчка, лаянка.

Увесь трагізм вясковага побыту, грызня за зямлю і ўласнасць добра адлюстравана ў апавяданні С. Бірылы «Стражнік». *С. Александровіч.*

**Згрызо́та.** *Разм.* **1.** Душэўныя мукі, перажыванні.

На Максімавым твары не заўважалася нічога такога, што сведчыла б аб згрызотах і трывогах душы. *Я. Колас.*

**2.** *звычайна мн.* Спрэчкі, звадкі.

Добра было б жыць на свеце людзям, калі б яны маглі чытаць думкі другіх. Тады б мо не было паміж імі ні згрызот, ні непаразуменняў. *Р. Сабаленка.*

### ГРЫМЛІВЫ // ГРЫМОТНЫ // ГРЫМУЧЫ

**Грымлі́вы.** Які стварае моцны шум, грукат; з громам, грымотамі.

Парожняя фурманка больш грымлівая, чым з паклажай.

**Грымо́тны. 1.** Які стварае гром, грымотны; з грымотамі.

І шугнуў дождж налётам смелым, павіс абрусам густа-белым над гэтым лугам, над палямі і льецца коса ручаямі, бы невад цягнецца грымотны, і б'юцца кроплі ў пыл вільготны. *Я. Колас.*

**2.** Вельмі гучны, аглушальны; падобны па гучанню на гром.

А там, у далечыні за лесам, пачыналася грымотная начная бойка. *В. Быкаў.*

**Грыму́чы.** Які моцна грыміць; шумны, гучны.

Млын меле, млын меле ячмень гэты зорны, аж ходарам ходзяць грымучыя жорны. *М. Танк.*

## ГРЭЦКІ // ГРЭЧАСКІ // ГРЭЧКАВЫ

**Грэ́цкі.** Прыгатаваны з зерня грэчкі.

Да мачанкі маці пякла яшчэ і бліны з грэцкай або ячнай мукі. *А. Якімовіч.*

Н я п р а в і л ь н а. Над галавой гулі пчолы — у іх была тут дарога, па якой яны ляталі з вулляў на грэцкае (трэба: грэчкавае) поле. *І. Чыгрынаў.*

**Грэ́часкі.** Які мае адносіны да Грэцыі, грэкаў, характэрны для іх.

Грэчаскія словы, або так званыя грэцызмы, пачалі пранікаць у мову ўсходніх славян з вельмі старажытных часоў. *П. Юргелевіч.*

**Грэ́чкавы.** Які мае адносіны да грэчкі, звязаны з грэчкай.

Гудуць, бзынкаюць, пераважваючыся з гронкі на гронку грэчкавага цвету, пчолы. *Я. Ермаловіч.*

## ГУБІЦЬ // ГУБЛЯЦЬ

**Губі́ць. 1.** Нішчыць, псаваць, рабіць непрыгодным.

Ад лясоў, як даведаўся Петрык, і клімат робіцца мякчэйшым, і знікаюць засухі, што губяць пасевы. *А. Якімовіч.*

**2.** Зводзіць са свету, забіваць.

Маці заўсёды наказвала нам, каб мы не губілі нічога жывога.

**Губля́ць. 1.** Пазбаўляцца чаго-н., пакідаючы дзе-н. па няўважлівасці; скідваць, атрасаць з сябе (лісце, пер'е і пад.).

Часам адна з птушак губляла пёрка, і яно, успыхваючы на сонцы, кружачыся, павольна падала ўніз, у сінюю бездань. *Л. Дайнека.*

**2.** Пазбаўляцца часткова ці поўнасцю якіх-н. уласцівасцей, якасцей, стану.

Хлапчук глядзеў на жоўты, высушаны дашчэнту твар, які губляў свой звычайны, знаёмы выраз. *Э. Самуйлёнак.*

## ГУЗАВАТЫ // ГУЗАСТЫ

**Гузава́ты.** Няроўны, з гузамі і пукатасцямі.

Гузаваты ствол бярозы. Гузаваты лоб.

**Гуза́сты.** З вялікімі гузамі.

Дзед Талаш падняў вочы на .. каржакаваты гузасты дуб з магутнымі лапамі, як бы чакаючы адказу на свае сумненні. *Я. Колас.*

## ГУЛЬНЯ // ГУЛЯНКА

**Гульня́.** Занятак, які служыць для забавы, баўлення часу або з'яўляецца відам спорту.

У цікавай гульні, як і ў шчырай працы, непрыкметна бяжыць час. *А. Пальчэўскі.*

**Гуля́нка. 1.** Забава, баўленне часу; гульня.

І стаяць, сумуюць санкі, не знайсці хлапцам гулянкі, бо не выпаў снег. *К. Кірэенка.*

**2.** *Разм.* Вечарынка з песнямі, танцамі, гульнямі.

Эх, чаму я не скрыпач, не Янка, што заўсёды Зою праважае, што заўсёды ў клубе, на гулянках песні ёй лірычныя іграе. *М. Танк.*

**3.** *Разм.* Вясёлае застолле з частаваннем.

Вятох праплыў паўнеба, калі нарэшце пачала сціхаць у харомах гулянка. *С. Тарасаў.*

## ГУЛЬТАЙСКІ // ГУЛЬТАЯВАТЫ

**Гульта́йскі.** Характэрны для гультая; такі, як гультай.

Гультайскі характар. Гультайскае жыццё.

**Гультаява́ты.** Схільны да гультайства, крыху лянівы; ленаваты.

Лідзія Яўсееўна — выдатны педагог-універсал. Яна падцягвае па ўсіх прадметах гультаяватых дзетак мясцовага начальства, піша кантрольныя работы завочнікам, на тое і жыве. *С. Грахоўскі.*

## ГУМАНІСТЫЧНЫ // ГУМАННЫ

**Гуманісты́чны.** Які мае адносіны да гуманізму, гуманіста. Гуманістычныя ідэі.

**Гума́нны.** Прасякнуты павагай да людзей; чалавечны, чулы, спагадлівы.

Высакароднасць працы лесаводаў, што стараюцца для людзей будучага, робіць нашу прафесію вельмі гуманнай, чалавечнай. *У. Мяжэвіч.*

## ГУМАР // ГУМОР

**Гу́мар.** Дабрадушна-насмешлівыя, камічныя адносіны да каго-чаго-н.

З адценнем цёплага гумару малюе аўтар вобразы станоўчых сваіх герояў. *Л. Арабей.*

**Гумо́р.** Душэўны стан, настрой.

Калі Міхайла Іванавіч быў не ў гуморы, то Ксеня Паўлаўна прымала ўсе меры, каб вярнуць мужу спакой душы і адагнаць яго ліхія думкі. *Я. Колас.*

## ГУСЛЯРНЫ // ГУСЛЯРСКІ

**Гусля́рны.** Які мае адносіны да гусляў — музычнага інструменту.

Гуслярныя струны. Гуслярны звон.

**Гусля́рскі.** Які мае адносіны да гусляра, належыць яму; гусляроў.

Гуслярскі спеў. Гуслярская песня.

## ГУТАРКОВЫ // ГУТАРЛІВЫ

**Гутарко́вы.** Якім карыстаюцца ў гутарцы, размове; уласцівы вуснай народнай мове.

Сінтаксіс Багушэвіча блізкі да сінтаксісу гутарковай мовы *Л. Шакун.*

**Гутарлі́вы.** Схільны да размоў, ахвочы пагаварыць.

Сінонім: гаваркі.

Заўсёды гутарлівы Іван Мацвеевіч цяпер упарта маўчаў. *З. Бядуля.*

## ГУШЧА // ГУШЧАР / ГУШЧАРНІК / / ГУШЧАРНЯ / ГУШЧЫНЯ

**Гу́шча. 1.** Густы асадак (стравы, раствору і г. д.) на дне пасудзіны.

Валянцін, праўда, разабраўся ў гэтай смакаце трошкі пазнавата — калі ўжо вышмароўваў дно бляшанкі мякішам калача, падбіраючы апошнія кроплі таматнай гушчы. *Б. Стральцоў.*

**2.** *Разм.* Тое, што і гушчар.

Згаладнелая вавёрка скача ў гушчы сасняку. *В. Іпатава.*

**3.** *перан.* Глыбіня, асяроддзе чаго-н.

Цягнула .. пабыць у гушчы людзей, сабраць матэрыял для наступных уласных твораў і выканаць некаторыя планы рэдакцыі. *А. Кулакоўскі.*

**Гушча́р.** Густы ўчастак лесу; густы зараснік чаго-н.

Глухі шолах у лесе прымусіў дзеда прыслухацца і разглядзецца. І бачыць дзед Талаш — вялізны дзікі кабан павольна выходзіць з ляснога гушчару і брыдзе па чэрава ў снезе, не зважаючы на дзеда. *Я. Колас.*

**Гушча́рнік.** *Разм.* Тое, што і гушчар.

У гушчарніку спявалі птушкі, свісталі рабчыкі, шапацелі лісцем асіны і бярозы. *А. Чарнышэвіч.*

**Гушча́рня.** *Разм.* Тое, што і гушчар.

Закаўкалі каўкі на ўзвышшы. Затрэслася лісце ў гушчарні. *Я. Купала.*

**Гушчыня́.** **1.** Уласцівасць і стан густога.

Усюды прабіваюцца кусты арэшніку і каліны, павялічваючы яшчэ больш гушчыню і непраходнасць лесу. *В. Вольскі.*

**2.** Тое, што і гушчар.

Узыходзіла сонца, і яго зыркія промні пранікалі ў гушчыню дрэў і кустоў, высвечвалі кару на камлях, мох, пні. *Б. Сачанка.*

# Д

## ДАВЕРАНЫ // ДАВЕРЛІВЫ // ДАВЕРНЫ

**Даве́раны.** Які карыстаецца давер'ем або дзейнічае па чыйму-н. даручэнню; надзелены даверам.

Да мая сорак другога года мы карысталіся пераважна сувяззю праз нашых давераных людзей. *В. Казлоў.*

**Даве́рлівы.** Схільны аказваць давер'е; які лёгка давярае каму-н.

Ліда сустрэла настаўніка, паздароўкалася, абняла яго руку, прытулілася да яе, як даверлівае дзіця. *Я. Колас.*

**Даве́рны.** Які сведчыць аб даручэнні каму-н. чаго-н.

Яму зноў прапанавалі дыпламатычную работу, а неўзабаве ўручылі і даверную грамату. *Звязда.*

## ДАВЕР'Е // ДАВЕРЛІВАСЦЬ

**Даве́р'е.** Пераконанасць у чыёй-н. чэснасці; поўная вера ў добрасумленнасць і шчырасць каго-н.

Лабановіч шырока праводзіць растлумачальную работу сярод сялян і ўваходзіць у іх давер'е. *Л. Фіглоўская.*

**Даве́рлівасць.** Вельмі даверлівыя адносіны да іншых; адносіны, якія не дапускаюць магчымасці падману, ашуканства ці хлусні.

У голасе яго, у словах адчуваліся ноткі чалавечай даверлівасці, чалавечай спагады. *М. Лынькоў.*

## ДАГАВОР // ДАГАВОРАНАСЦЬ

**Дагавóр.** Пісьмовае або вуснае пагадненне, умова аб узаемных абавязацельствах.

Дагаворы страхавання заключаюцца інспектарамі Дзяржстраха. *Звязда.*

**Дагавóранасць.** Пагадненне на аснове папярэдніх перагавораў.

У гэтай сувязі неабходна перш за ўсё падкрэсліць выключна важнае значэнне дагаворанасці. *Звязда.*

## ДАГМАТЫЗМ // ДАГМАТЫЧНАСЦЬ

**Дагматы́зм.** Некрытычнае мысленне, якое апіраецца толькі на догмы — палажэнні, што прымаюцца за бясспрэчную ісціну для ўсіх часоў і ўсякіх умоў.

Сапраўдны вучоны не можа мірыцца з дагматызмам у навуцы.

**Дагматы́чнасць.** Адцягненасць, абстрактнасць, схематычнасць, адарванасць ад жыцця.

Так праяўлялася, між іншым, дагматычнасць формулы: як толькі паўсталі канкрэтныя пытанні творчасці, узнікла патрэба ў старых паняццях. *Н. Перкін.*

## ДАДАТКОВЫ // ДАДАТНЫ

**Дадаткóвы.** Які з'яўляецца дадаткам, дабаўкай да чаго-н. асноўнага.

Некалькі дзён яго не вадзілі на допыт, і ён зразумеў, што следчы рыхтуе дадатковыя матэрыялы па справе. *М. Лынькоў.*

**Дада́тны. 1.** Які заслугоўвае або выражае адабрэнне; станоўчы, добры.

Але былі і дадатныя бакі ў гэтых вандроўках: па дарозе добра абмяркоўваўся даклад. *Я. Колас.*

**2.** У матэматыцы: большы за нуль.

Лік са знакам плюс (які, між іншым, прынята апускаць) называецца дадатным. *Алгебра.*

**3.** У фізіцы: пра від электрычнасці, часцінкамі якой з'яўляюцца пратоны, пазітроны і інш.

Пратоны маюць дадатны зарад. *Маладосць.*

## ДАЖДЖАВАЛЬНЫ // ДАЖДЖАВЫ // // ДАЖДЖЛІВЫ / ДАЖДЖЫСТЫ

**Дажджава́льны.** Прызначаны для дажджавання — штучнага арашэння.

Затраты на будаўніцтва вадаёма і дажджавальнай устаноўкі акупяцца за паўтара-два гады. *Звязда.*

**Дажджавы́.** Які паходзіць з дажджу, утвораны дажджом.

Дажджавая вада застаецца на паверхні зямлі, а часткова прасочваецца ў зямлю. *Я. Колас* ‖ Які нясе дождж; багаты дажджом. Вецер за ноч разагнаў дажджавыя хмары, неба над лесам ззяла незвычайнай чысцінёй. *Я. Курто.* ‖ Прызначаны для засцярогі ад дажджу; дажджавік. Лысы чалавек у дажджавым плашчы прынёс Міколку пасылку ад бацькі. *З. Бядуля.*

У выразе: д а ж д ж а в ы ч а р в я к — чырвоны земляны чарвяк.

Гэтакай мясціне рады мы з табой, рыбак. У нас добрая прынада — дажджавы чарвяк. *А. Вялюгін.*

**Дажджлі́вы.** Шчодры на дождж, з частымі дажджамі.

Пачатак чэрвеня быў дажджлівы і халодны. *С. Грахоўскі.*

Н я п р а в і л ь н а. Ліхтары зусім патанулі ў дажджлівай (трэба: дажджавой) імгле. П. Пестрак.

**Дажджы́сты.** *Разм.* Тое, што і д а ж д ж л і в ы.

Ды што наробіш, надта ж ранняй і дажджыстай была вясна гэтая. *М. Вышынскі.*

## ДАКАЗАЛЬНЫ // ДАКАЗАНЫ // ДОКАЗНЫ

**Даказа́льны.** Які можа быць даказаны; доказны *(у 1 знач.)*.

Даказальнае палажэнне.

**Дака́заны.** Пацверджаны фактамі, пераканаўчымі довадамі; выяўлены.

Даказанае злачынства.

**До́казны. 1.** Які можа быць даказаны; даказальны.

Доказная тэарэма.

**2.** Які з'яўляецца добрым доказам, пацвярджае што-н.; пераканаўчы, грунтоўны.

Доказная аргументацыя.

## ДАЛЕЧЫНЯ // ДАЛЁКАСЦЬ / ДАЛЬ

**Далечыня́. 1.** Далёкі прастор, бачны вокам; прасцяг, шыр; даль.

На ўсёй далечыні ўнізе і па баках імчаў, клубіўся, ірваўся золкі імклівы туман. *В. Быкаў.*

**2.** *звычайна з азначэннем.* Далёкае месца, даль; вельмі аддаленае штосьці.

Вочы Андрэя глядзелі сур'ёзна, як заўсёды, у нейкую далечыню. *А. Васілевіч.*

**Далёкасць.** Значная працягласць чаго-н.; аддаленасць.

Савецкія стратэгічныя ракеты маюць практычна неабмежаваную далёкасць палёту. *Звязда.*

**Даль. 1.** Далёкі прастор, бачны вокам; прасцяг, шыр; далечыня.

За лясочкамі, за гаем далі, лёгшы сінім морам, вабяць душу мне прасторам. *Я. Колас.*

**2.** *звычайна з азначэннем.* Далёкае месца; вельмі аддаленае штосьці.

З далёкай прыамурскай далі хацеў я ўбачыць бераг свой. *С. Гаўрусёў.*

### ДАЛІКАТНЕЦЬ // ДАЛІКАТНІЧАЦЬ

**Далікатне́ць.** *Разм.* Станавіцца больш далікатным, ветлівым.

Міша і раней быў ветлівы, уважлівы, але цяпер ён далікатнеў проста на вачах.

**Даліка́тнічаць.** *Разм.* Быць залішне далікатным; выказваць празмерную далікатнасць.

У такія моманты сярод сваіх Шабуніха станавілася рэзкай, нават грубай, не далікатнічала. *І. Мележ.*

### ДАЛІКАТНЫ // ДАЛІКАТЭСНЫ

**Даліка́тны. 1.** Ветлівы, ласкавы ў абыходжанні з людзьмі; уважлівы.

Рашчэня, па характару чалавек далікатны, упершыню гаварыў галоўнаму ў вочы такую суровую праўду. *І. Шамякін.*

**2.** *Разм.* Які патрабуе асцярожных, тактоўных адносін.

Актывісты адмоўчваліся. Відаць, ім таксама не хацелася брацца за гэтую далікатную справу. *А. Асіпенка.*

**3.** Кволы, тонкі; выпеставаны.

Ваенрук узяў адразу два яйкі, стукнуў адно аб адно, тонкімі далікатнымі пальцамі спрытна абабраў іх, але есці не стаў, паклаў у шапку. *А. Асіпенка.*

**Далікатэ́сны.** Які мае адносіны да далікатэсаў — рэдкай, прыемнай на смак ежы.

Шырока развіваць вытворчасць паштэтных, языковых, фаршавых, курыных, вяндлінных і іншых далікатэсных мясных кансерваў. *Звязда.*

### ДАЛУЧАЛЬНЫ // ДАЛУЧАНЫ

**Далуча́льны.** Які служыць для далучэння, з'яўляецца далучэннем, дадаткам да чаго-н.; прызначаны для далучэння.

Словы, якія выражаюць дадатковае паведамленне да сказа-

нага з мэтай дапаўнення яго зместу або ўзмацнення, называюцца далучальнымі словамі. *Беларуская мова.*

**Далу́чаны.** Злучаны з чым-н., прыбаўлены да чаго-н.

У другой палове XVI стагоддзя Беларусь была далучана да Рэчы Паспалітай і трапіла пад цяжкі прыгнёт польскіх феадалаў. *А. Залескі.*

### ДАМАВІНА // ДАМІНА

**Дамаві́на.** Спецыяльная скрыня, у якую кладуць нябожчыка для пахавання; труна.

Калі спускалі дамавіну ў зямлю, не верылася, што Іны больш няма, што вот закідаюць яе сырой зямлёй — і ўсё... *І. Капыловіч.*

**Дамі́на.** *Разм.* Вялізны дом.

Шкада, канечне, хаты. Што тыя пятнаццаць тысяч? Разыдуцца туды-сюды — агледзецца не паспееш, а стаяла б даміна, то не-не ды і адскочылі б калі ўсім сямейным гамузам... *І. Капыловіч.*

### ДАМАВЫ // ДАМАШНІ

**Дамавы́.** Які мае адносіны да дома.

Дамавое кіраўніцтва. Дамавы камітэт.

У выразе: д а м а в а я  к н і г а — кніга для рэгістрацыі жыльцоў дома.

Праз хвіліну з'явілася Ева Аўсееўна і, падаючы дамавую кнігу, суха спытала, чым яна абавязана такому ранняму візіту. *М. Машара.*

**Дама́шні. 1.** Звязаны з домам, сям'ёй, бытам; сямейны; не куплены.

Бацька пазнаў мяне па дамашняй хустцы. *М. Танк.*

**2.** *У знач. наз., мн.* д а м а ш н і я — члены сям'і.

Як бы зарадаваўся, калі б пачуў пра сваіх дамашніх. *А. Кулакоўскі.*

### ДАМАЎЛЕННЕ // ДАМОЎЛЕНАСЦЬ

**Дамаўле́нне.** Узаемнае пагадненне пры перагаворах; сам працэс узгаднення.

Пракурор злёгку кіўнуў ім галавой у знак, што дамаўленне закончана. *М. Машара.*

**Дамо́ўленасць.** Пагадненне, згода як вынік папярэдніх перагавораў.

Паміж старымі была маўклівая дамоўленасць — пра справы без патрэбы нічога не пытаць. *І. Новікаў.*

## ДАПАЎНЯЛЬНЫ // ДАПОЎНЕНЫ

**Дапаўня́льны.** Які выконвае ролю дапаўнення.

Дадзеныя дапаўняльныя сказы адказваюць на пытанні ўскосных склонаў. *Беларуская мова.*

**Дапо́ўнены.** Які папоўнілі чым-н.; больш поўны, пашыраны.

Адказ вучня дапоўнены настаўнікам.

## ДАПУШЧАЛЬНЫ // ДАПУШЧАНЫ

**Дапушча́льны.** Які можна дапусціць, дазволіць; магчымы, дазволены.

Ён заўважыў, што разумная крытыка — не вышэй дапушчальнай нормы — выклікае прыхільнасць начальніка, калі ён не дурань, да таго, хто крытыкуе. *У. Караткевіч.*

**Дапу́шчаны. 1.** Які адбыўся; зроблены, здзейснены.

За дапушчаныя парушэнні вадзіцель быў прыцягнуты да адміністрацыйнай адказнасці. *Звязда.*

**2.** Прыладжаны, падагнаны так, каб дакладна падышло адно да аднаго па памерах, шчыльна прыстала.

Аконныя рамы так добра дапушчаны, што на зіму і ўцяпляць не трэба.

## ДАПЫТАНЫ // ДАПЫТЛІВЫ

**Дапыта́ны.** Той, каго дапыталі; які прайшоў допыт.

Дапытаны былі не толькі Павел, але таксама Магнушэўскі, Арлоўскі і Парфімовіч. *Маладосць.*

**Дапы́тлівы. 1.** Які ўсім цікавіцца; які імкнецца ўсё зразумець, пазнаць.

Майму дапытліваму спадарожніку хацелася як мага болей убачыць, пачуць, пагаварыць з кожным новым знаёмым. *В. Вітка.*

**2.** Праніклівы, вельмі ўважлівы, цікаўны (пра позірк).

Ніна гаварыла гучна, не зважаючы на дапытлівыя погляды прахожых. *А. Савіцкі.*

## ДАПЫТВАННЕ // ДАПЫТЛІВАСЦЬ // ДОПЫТ

**Дапы́тванне.** Настойлівае, падрабязнае распытванне пра што-н.

Нарэшце, ён, здаецца, уведаў пра ўсё, што яго цікавіла, і гэта даволі надакучлівае дапытванне, відаць, ужо канчалася. *ЛіМ.*

**Дапы́тлівасць.** Імкненне ўсё зразумець, пазнаць, набыць новыя веды; цікаўнасць.

Ярмоленку здалося, што ў гэтым пытанні было не то дзівац-

тва, не то кплівасць, не то як бы нават звычайная дзіцячая дапытлівасць. *І. Сіўцоў.*

**До́пыт.** Апытанне падследнага ці сведкі для высвятлення абставін справы; дазнанне.

Кожны дзень кагосьці выводзілі з камеры на допыт, кагосьці прыцягвалі напаўжывога. *І. Новікаў.*

### ДАРАВАЛЬНЫ // ДАРАВАНЫ

**Дарава́льны. 1.** Які можна дараваць, прабачыць, апраўдаць.

Вельмі часта рэцэнзіі заканчваюцца даравальнымі словамі: «Аднак, нягледзячы на пералічаныя недахопы...». *В. Рагойша.*

**2.** Які сведчыць, пацвярджае дар, падарунак.

На Коласавай аповесці быў даравальны надпіс, зроблены ўласнай рукою аўтара. *М. Лужанін.*

**Дарава́ны. 1.** Які прабачылі, не паставілі ў віну.

Смех і самыя словы здаліся Васілю ненатуральнымі, і ад гэтага пачуццё насцярожанасці мацнела, і побач з ёю вырастала старая, дагэтуль не дараваная крыўда. *А. Савіцкі.*

**2.** Падораны, прынесены ў дар каму-н. кім-н.

У яго асабістай бібліятэцы было нямала кніг, дараваных у розныя часы самімі аўтарамі.

### ДАРАВАЦЬ // ДАРЫЦЬ

**Дарава́ць. 1.** *што.* Прабачыць каму-н., апраўдаць каго-н.; не палічыць за віну чаго-н.

З гартаванаю зброяй паўстануць сыны. Не даруюць за матчыны слёзы яны. *У. Дубоўка.*

**2.** *што.* Падарыць што-н. каму-н.

У дзень нараджэння яму даравалі сябры прыгожы сувенір.

**3. Дару́й(це).** Ужываецца пры звароце да каго-н. для папярэджання аб чым-н. ці для выражэння просьбы прабачыць у чым-н.

Я ў людзей не папрашу: даруйце! Бо ў песнях не хлусіў. Не мог хлусіць. *П. Панчанка.*

**Дары́ць.** Рабіць падарунак.

Табе, Каўказ, паэты спеў дарылі, сягоння й я акорды падару. *П. Трус.*

### ДАРЭКТАР // ДЫРЭКТАР

**Дарэ́ктар.** *Уст.* Дамашні настаўнік.

Трахім шкадаваў свайго адзінага сына і вучыў яго спачатку ў вандроўных настаўнікаў, так званых «дарэктараў», потым

павёз у Строчын і аддаў у двухкласнае вучылішча. *А. Чарнышэвіч.*

**Дырэ́ктар.** Кіраўнік прадпрыемства, установы.

Галаўбух Варанецкі падпіша ўсё гэта, занясе на подпіс дырэктару. *Я. Скрыган.*

### ДАСЛЕДЧЫК // ДОСЛЕДНІК

**Дасле́дчык.** Той, хто вывучае, даследуе што-н.; вучоны.

Я, напрыклад, не ведаю ніводнага іншага даследчыка беларускай літаратуры, які б так глыбока, з такім тонкім і дакладным адчуваннем разнастайных нюансаў пісаў пра рускіх і зарубежных класікаў, як А. Адамовіч. *Д. Бугаёў.*

**До́следнік.** Той, хто займаецца доследамі (звычайна па вырошчванню якіх-н. раслін, вывядзенню новых гатункаў і г. д.).

Старэйшы доследнік нашага інстытута пасяхова працуе над вывядзеннем новага гатунку беларускай бульбы.

### ДАСЛЕДЧЫЦКІ // ДАСЛЕДЧЫ // // ДОСЛЕДНІЦКІ // ДОСЛЕДНЫ

**Дасле́дчыцкі.** Які мае адносіны да даследчыка, вучонага.

Ян Чачот — першы пісьменнік, які ў цэнтры ўвагі сваёй творчасці і даследчыцкай дзейнасці паставіў беларускага мужыка з яго мовай і духоўным светам. *У. Казбярук.*

**Дасле́дчы.** Звязаны з навуковым даследаваннем.

Навуковыя аграрныя арганізацыі па выдзеленых сродках на адзінку прадукцыі па-ранейшаму адстаюць ад даследчых цэнтраў прамысловасці, будаўніцтва, транспарту. *Полымя.*

**До́следніцкі.** Які мае адносіны да доследніка (звычайна пра вырошчванне якіх-н. раслін, вывядзенне новых гатункаў і г. д.).

Біялагічны гурток праводзіць вялікую доследніцкую работу на пришкольным участку.

**До́следны.** Прызначаны для правядзення доследаў.

Вывядзеннем новых гатункаў займаюцца спецыяльныя навуковыя інстанцыі ў сваіх доследных гаспадарках. *Я. Ермаловіч.*

### ДАСПЕЛЕНЫ // ДАСПЕЛЫ

**Даспе́лены.** Такі, якому далі магчымасць выспець, даведзены да поўнай спеласці.

Сінонім: выспелены.

Здаецца, нахіліўся б і набраў у акіяне чыстага блакіту, з лясных азёр — жывога серабра і золата — з даспеленага жыта. *С. Грахоўскі.*

**Даспе́лы.** Які даспеў, стаў спелым.

Сі н о н і м: наспелы.

Імжыў цёплы дожджык, шапацелі даспелыя аўсы, а недзе на захадзе буркатаў гром. *С. Грахоўскі.*

### ДАСТАСАВАЛЬНЫ // ДАСТАСАВАНЫ

**Дастасава́льны.** Які можна скарыстаць, прывесці ў адпаведнасць з чым-н.

Да акцёрскай работы дастасавальны цалкам словы Ул. Маякоўскага: «Изводишь единого слова ради тысячи тонн словесной руды». *Маладосць.*

**Дастасава́ны.** Скарыстаны пэўным чынам; прыведзены ў адпаведнасць з чым-н.

Усё тут узважана і дастасавана адно да другога. *Д. Бугаёў.*

### ДАСЯГАЛЬНАСЦЬ // ДАСЯГНЕННЕ/ДАСЯЖНАСЦЬ

**Дасяга́льнасць.** Магчымасць дасягнуць чаго-н.

Дасягальнасць гэтых жывых істот абуджае ў чалавеку дзіўныя інстынкты. *Маладосць.*

**Дасягне́нне.** Станоўчы вынік працы, дзейнасці, якіх-н. намаганняў; здабытак, поспех.

Вера і старанне — асноўнае ў дасягненні пастаўленай мэты. *А. Васілевіч.*

**Дася́жнасць.** Тое, што і д а с я г а л ь н а с ц ь.

Будуем заводы — машыны, машыны — усё бліжэй дасяжнасць пастаўленых мэт. *А. Гурло.*

### ДАХОДЛІВЫ // ДАХОДНЫ

**Дахо́длівы.** Які лёгка ўспрымаецца, даходзіць да свядомасці; зразумелы.

Сі н о н і м: даступны.

Манера пісьма Хв. Шынклера вельмі простая, даходлівая. *Л. Арабей.*

**Дахо́дны.** Які дае прыбытак, даход.

Сі н о н і м: прыбытковы.

А дзядзька і гаворыць: «Надумаў я цябе, Лявсей, на парыкмахера вывучыць. Даходнае месца. Кліентуру сваю будзеш мець». *І. Чыгрынаў.*

### ДВАІСТЫ // ДВАЙНЫ // ПАДВОЙНЫ

**Дваі́сты.** 1. Які сумяшчае ў сабе дзве розныя якасці.

Сі н о н і м: супярэчлівы.

Ганна слухала яго з дваістым пачуццём: павагі да смеласці, рашучасці яго і — трывогі. *І. Мележ.*

**2.** Які праяўляецца ў двух відах, формах.

Сінонім: двурушніцкі.

Устурбаваны чэрствасцю, пішу пра тых, што набылі душу дваістую, прыстасаванцаў коўзкую душу. *П. Панчанка.*

**Двайны́. 1.** У два разы большы; падвоены.

І, як ніколі, стала ясна Рыгору: жыць яму будзе нашмат горай, чым было дасюль. Баба без мужыка сірата, а мужык без бабы — двайная сірата. *А. Кудравец.*

**2.** Які складаецца з дзвюх аднародных ці падобных частак.

У двайным, вырваным са сшытка лісце, мноства граф, графачак, якія Іван, нібы бухгалтар, запаўняе дробнымі, акуратна выведзенымі лічбамі. *І. Навуменка.*

**3.** Які праяўляецца ў двух відах, формах.

Сінонім: двурушніцкі.

Задача пераарыентацыі грамадскай думкі на барацьбу з крывадушнасцю і двайной мараллю, распушчанасцю і цынізмам як ніколі актуальная сёння. *Звязда.*

**Падво́йны.** Які складаецца з дзвюх аднолькавых, аднародных частак; двайны.

Мы з таварышам пасля работы і ў святочныя дні падрыхтавалі дом для сябе. Уцяплілі яго, насыпалі прызбы, нацягалі на столь моху і пяску, зрабілі падвойныя рамы. *А. Чарнышэвіч.*

## ДВАРАНСКІ // ДВАРОВЫ // ДВАРЦОВЫ // // ДВАРЭЦКІ // ДВОРНІЦКІ

**Дwара́нскі.** Які мае адносіны да двараніна, дваранства.

Пан падлоўчы быў родам дзесь з Гродзеншчыны і паходзіў, як ён казаў сам, з старога дваранскага роду. *Я. Колас.*

**Дваро́вы. 1.** Які звязаны з дваром, знаходзіцца на двары; дворны.

На вялікія дваровыя драбіны мужыкі кладуць снапы. *З. Бядуля.*

**2.** Прыгонны селянін, узяты ў панскі двор для паслуг.

Увесь дзень прастаяў пан каля дрэва, пакуль не знайшлі яго там дваровыя людзі. *А. Якімовіч.*

**Дварцо́вы.** Які мае адносіны да дварца, палаца.

Дварцовай змовай буржуазія спрабавала больш трывала ўмацавацца ва ўладзе і працягвала вайну. *І. Саладкоў.*

**Двара́цкі.** Старшы лакей, які загадваў дамашняй гаспадаркай і кіраваў прыслугай у панскім доме.

Ні пан, ні дварэцкі, ні цівун не цікавіліся дзедавым ножыкам. *А. Якімовіч.*

**Дворніцкі.** Які мае адносіны да дворніка ці належыць яму.

Я калі ўвайшоў у тую дворніцкую кватэру, дык мне як зробіцца нядобра! *К. Чорны.*

### ДЗЕДАЎСКІ // ДЗЯДОЎСКІ

**Дзе́даўскі.** Які мае адносіны да дзеда; атрыманы ў спадчыну ад продкаў.

Ваяводам на Палессе трэба паслаць пана Даўнаровіча. Ён мясцовы, мае там дзедаўскія маёнткі. *П. Пестрак.*

**Дзядо́ўскі.** Характэрны для дзядоў; такі, як у дзядоў; старэчы.

Тодар лажыцца на бок і пачынае набіваць тытунём сваю дзядоўскую прасмаленую піпку. *М. Лупсякоў.*

### ДЗЕЙНЫ // ДЗЕЙСНЫ

**Дзе́йны.** Надзвычай энергічны, актыўны.

Цётка з выгляду камлюкаватая, някідкая, з нявідным, нібы высечаным са звычайнага кавалка дрэва тварам — вельмі дзейная і працавітая. *І. Навуменка.*

**Дзе́йсны.** Здольны актыўна ўздзейнічаць на што-н.

С і н о н і м: эфектыўны.

Мы вядзём сваю работу так, каб ніводзін выпадак браку не застаўся па-за ўвагай калектыву, каб яго рэакцыя на любое парушэнне была найбольш актыўная і дзейсная. *Полымя.*

Н я п р а в і л ь н а. Яго погляд, манера гаварыць выдавалі ў ім чалавека энергічнага, дзейснага (трэба: дзейнага). *Л. Арабей.*

### ДЗЕЛАВІТЫ // ДЗЕЛАВЫ

**Дзелаві́ты.** Стаpанны і ўмелы ў рабоце, талковы; вопытны, спрактыкаваны ў справах.

Ён, Францыск Скарына, хоць не багаты, але здольны і вучоны, настойлівы і дзелавіты, ён той, хто сваёю працай, воляй адолеў цяжкасці і перашкоды і ўзняўся да вышынь тагачаснай адукацыі. *А. Петрашкевіч.*

Н я п р а в і л ь н а. Аляксею надабалася простая, дзелавітая (трэба: дзелавая) гутарка надпалкоўніка. *І. Мележ.*

**Дзелавы́. 1.** Звязаны з работай, службай, якой-н. справай.

Толік дабавіў, што пісаць у газету трэба толькі што-небудзь дзелавое. *В. Мыслівец.*

**2.** Які раскрывае сутнасць справы, практычна карысны; істотны.

Гэта былі дзелавыя заўвагі, запытанні на сходах. *А. Якімовіч.*

**3.** Які ведае сваю справу, сур'ёзна ставіцца да яе.

І лёс чалавека залежыць не заўсёды ад яго дзелавых і чалавечых якасцей. *Б. Сачанка.*

Няправільна. Спявалі жаўранкі, бегалі па полі надта ж шустрыя і дзелавыя (трэба: дзелавітыя) шпакі. *Б. Сачанка.*

### ДЗІВАКАВАТЫ // ДЗІВАЦКІ // ДЗІВОСНЫ // ДЗІЎНЫ

**Дзівакава́ты.** Крыху дзівацкі, з адзнакамі дзівацтва.

Невялічкае і крыху дзівакаватае пісьмо павярнула зусім у іншы бок думкі Лабановіча. *Я. Колас.*

**Дзіва́цкі.** Характэрны для дзівака; здзіўляючы незвычайнасцю.

У групе ішлі і дзве жанчыны: адна маладая ў саламяным капелюшы з дзівацкім заломам наперадзе. *П. Пестрак.*

**Дзіво́сны. 1.** Небывалы, незвычайны; казачна дзіўны, фантастычны.

..Што недзе за блакітнымі лясамі, вядомы толькі з кніжак і газет, гукае нас жывымі галасамі яшчэ не знаны і дзівосны свет. *С. Грахоўскі.*

**2.** Вельмі добры, выдатны; цудоўны.

Невялікі звярок бабёр, а якія дзівосныя па сваёй велічыні і трываласці пабудовы ён узводзіць. *В. Вольскі.*

**Дзі́ўны.** Які выклікае здзіўленне; незвычайны; чароўны.

Аддаў бы я край самы райскі і дзіўны за цень ад сасны на далёкай Радзіме. *П. Панчанка.*

### ДЗІРВАНІСТЫ // ДЗЯРНІСТЫ // ДЗЯРНОВЫ

**Дзірвані́сты.** Пераплецены карэннем травы; пакрыты дзірваном.

За Парэччам, на дзірваністым, гладкім, як талерка, выгане прырода сама стварыла пасадачную пляцоўку. *І. Навуменка.*

**Дзярні́сты.** Густа парослы карэннем травы; удзірванелы.

І рухне [дрэва] на дзярністы дол, аж бор здрыгнецца векавечны. *С. Гаўрусёў.*

**Дзярно́вы.** Які мае адносіны да дзёрну; пакрыты дзёрнам; зроблены з дзёрну.

Дзеці абагнулі палац, горку, на якой распараджаўся гарматамі Кірдун, карцінны павільён і спыніліся ў гушчары парку, дзе была дзярновая лаўка. *У. Караткевіч.*

## ДЗЯЦІНЕЦЬ // ДЗЯЦІНІЦЦА

**Дзяці́нець.** *Разм.* Траціць развагу, выжываць з розуму (звычайна пра старых).

Дзяцінець ужо стаў стары, нічога не зробіш — гады...

**Дзяці́ніцца.** *Разм.* Паводзіць сябе несур'ёзна, па-дзіцячаму.

Вот абы-што робіць. І час мае. А кол свінчо адарвала — тыдзень прыбіць не можа. Трэба ж дзяцініцца на старасць — пісацелем захацеў стаць. *А. Жук.*

## ДОБРААХВОТНІЦКІ // ДОБРААХВОТНЫ

**Добраахво́тніцкі.** Які мае адносіны да добраахвотніка; з добраахвотнікаў.

У Беларусі фарміраваліся добраахвотніцкія атрады Чырвонага Крыжа для адпраўкі ў Балгарыю. *Звязда.*

**Добраахво́тны.** Які робіцца, ажыццяўляецца па ўласнаму жаданню, па сваёй волі, без прымусу.

Лукаш, зразумела, праходзіўся па дварах, збіраў статак і браў добраахвотныя падаткі. *Я. Колас.*

## ДОГМА // ДОГМАТ

**До́гма.** Палажэнне, якое прымаецца за бясспрэчную ісціну, нязменную для ўсіх часоў і розных умоў.

Сапраўдная навука не можа грунтавацца на догмах.

**До́гмат.** Асноўнае палажэнне ў рэлігійным веравучэнні, якое прымаецца на веру і не падлягае крытыцы.

Схаластычнасць і бязглуздасць гэтых сцвярджэнняў самі па сабе сведчаць аб ілжывасці рэлігійных догматаў. *А. Залескі.*

## ДОМБРА // ДОМРА

**До́мбра.** Казахскі народны струнны музычны інструмент (на дзве струны) з корпусам акруглай формы.

Домбра акына і яго песні славяць працу казахскага народа на сваёй зямлі.

**До́мра.** Рускі народны струнны музычны інструмент (на тры-чатыры струны), падобны на мандаліну.

Ён [І. Любан] даў мне домру і, праверыўшы маё ўмельства ў валоданні ёю, дазволіў наведваць заняткі аркестра. *А. Астрэйка.*

**Драбната́.** *зб.* Дробныя істоты, прадметы.

Заспявала, загаманіла лясная птушыная драбната. *М. Ваданосаў.* ‖ Пра дзяцей.— На руках у яе засталося чацвёра дзяцей, усё драбната. *І. Мележ.*

**Драбні́ца.** Падрабязнасць, дэталь; дробязь *(у 3 знач.)*.

Кожная паваротка дарогі да драбніцы вядомая, кожны камень ці дарожны слуп як стары знаёмы. *Р. Шкраба.*

**Драбязá.** **1.** *зб.* Невялікія прадметы; дробныя рэчы.

На возе стаяў куфар, калыска і пасылка ўсякай драбязы, завязаная на рагі. *М. Лобан.* ‖ Пра дробных жывых істот (і малых дзяцей). Цвіркун заганарыўся і звысака пазіраў на розную драбязу. *Я. Колас.*

**2.** Нешта неістотнае, нязначнае, не вартае ўвагі.

Усе нягоды, усе цяжкасці забываліся, усе перашкоды здаваліся драбязою пасля такой весткі. *П. Кавалёў.*

**Дрóбязь.** **1.** *зб.* Невялікія прадметы; дробныя рэчы.

Уласнай крамы ён не меў, але ездзіў па вёсках і прадаваў сярнічкі і іголкі, сіньку і соду, гузікі і іншую дробязь. *М. Хведаровіч.*

**2.** *зб.* Дробныя манеты.

[Хлопчык] дастаў жменю дробязі і адлічыў некалькі манет *Я. Курто.*

**3.** Падрабязнасць, дэталь; драбніца.

Паэта цікавілі і хвалявалі ўсе дробязі вясковага жыцця. *С. Кухарэй.*

## ДРАБНЕЦЬ // ДРАБНІЦЬ

**Драбне́ць.** Станавіцца драбнейшым, памяншацца.

Дождж драбнеў, далёка над ракой успыхвалі чырвоныя, што ноччу, сполахі. *І. Пташнікаў.*

**Драбні́ць.** **1.** Дзяліць на драбнейшыя часткі; расчляняць. С і н о н і м: драбіць.

— Я не схільны, таварыш Сініца, каб ты камандаваў атрадам, ды яшчэ такім маленькім, як у цябе. Нашто драбніць вашы сілы? *М. Лынькоў.*

**2.** Рабіць драбнейшым, часцейшым, чым звычайна.

Яна была маленькая, Люся, толькі па плячо мне, і мне прыходзілася трошкі драбніць крок, каб ісці з ёй у нагу. *І. Навуменка.*

## ДРАМАТУРГІЧНЫ // ДРАМАТЫЧНЫ

**Драматургі́чны.** Які мае адносіны да драматургіі.

Выкарыстоўваючы ўжо набыты вопыт, пісьменнікі ў пасля-

ваенныя гады разгарнулі працу ў розных драматургічных жанрах і дабіліся пэўных поспехаў. *М. Ярош.*

**Драматы́чны. 1.** Які мае адносіны да драмы — літаратурнага твора.

Было ў яго нешта ад драматычнага акцёра, які ведае сабе цану. *І. Шамякін.*

**2.** Поўны драматызму — напружанасці, духоўных пакут, складанасці чаго-н.

Я адразу адчуў давер і сімпатыю да яго і шчыра пачаў расказваць сваю драматычную біяграфію. *С. Грахоўскі.*

**3.** Разлічаны на эфект, напышлівы; ненатуральны.

— Жывы! — стукнуў ён кулаком у грудзі.— Без драматычнай дэкламацыі я магу сёння паабедаць? *М. Ваданосаў.*

**4.** Моцны, крыху рэзкі па тэмбру (пра голас спевака).

Драматычны тэнар.

## ДРАМЛІВЫ // ДРЫМОТНЫ // ДРЫМУЧЫ

**Драмлі́вы.** Схільны да дрымоты; паўсонны, санлівы.

На іх [стагах], асветленых надвячоркавым сонцам, закалыханыя цеплынёй, сям-там драмліва стаялі буслы. *А. Ліс.*

**Дрымо́тны.** Агорнуты дрымотай; паўсонны, санлівы.

Доўга прыслухоўваўся чалавек да тонкага срэбранага звону і ўсё не мог уцяміць, ці наяве ён чуе яго, ці ў дрымотным сне далятаюць да яго меладычныя гукі. *М. Лынькоў.*

**Дрыму́чы.** Стары, непраходны, густы (пра лес).

Рэха перакочвалася па дрымучым лесе з краю ў край. *П. Пестрак.*

## ДРАПЕЖНІЦКІ // ДРАПЕЖНЫ

**Драпе́жніцкі. 1.** Які мае адносіны да драпежных жывёл.

Драпежніцкія звычкі ваўкоў.

**2.** Накіраваны на захоп, аграбленне каго-чаго-н.

У нас усе Ладымера Стальмаховіча любяць і шануюць. Ён практык, увішны ў рабоце, не меў ніколі драпежніцкай хцівасці. *К. Чорны.*

**3.** Заснаваны на асабістай выгадзе; негаспадарлівы, шкодніцкі.

Танк выразна бачыць драпежніцкі нораў сістэмы, хоць і асуджанай, але дастаткова моцнай, каб праглынуць яшчэ не адну калонію. *Р. Бярозкін.*

**Драпе́жны. 1.** Які корміцца іншымі жывёлінамі (пра звяроў, птушак і інш.).

Вадзіліся у гэтым лесе мядзведзі, ласі і нават такі драпежны звер, як рысь. *М. Лупсякоў.*

**2.** *перан.* Поўны імкнення да нажывы; прагны (пра чалавека).

Заўсёды сціплы і прыемны выраз дзедавага твару здаецца цяпер не проста злосным, а нават драпежным. *Я. Брыль.*

## ДРАЎЛЯНЫ // ДРАЎНІННЫ // ДРАЎНЯНЫ // ДРЫВЯНЫ // // ДРЭВАВЫ

**Драўля́ны.** Зроблены з дрэва; дзеравянны.

На літую сталёвую матрыцу, якая ўжо мела неабходны малюнак-узор, Белавод накладваў ліст медзі або срэбра, прыціскаў ліст круглай свінцовай падушкаю і асцярожна, лёгка біў па ёй драўляным малатком. *Л. Дайнека.*

Н я п р а в і л ь н а. Ён сам расказваў у класе, што вы яму зрабілі ў прыбудоўцы лабараторыю, што вы яму прыносілі з фабрыкі драўляны (трэба: драўнінны) вугаль і саляную кіслату для вопытаў. *Полымя.*

**Драўні́нны.** Атрыманы з дрэва, з драўніны.

Драўнінны вугаль. Драўнінны спірт.

**Драўня́ны.** Які мае адносіны да драўніны.

Драўняныя валокны.

**Дрывяны́.** Які мае адносіны да дроў.

Дрывяны попел. ‖ Прызначаны для дроў. На дрывяных складах выстройваліся доўгімі штабелямі кубаметры нарыхтаваных дроў. *У. Мехаў.*

**Дрэ́вавы.** Які мае адносіны да дрэва, з'яўляецца дрэвам. Дрэвавыя пароды. Дрэвавыя расліны.

## ДРОБАВЫ // ДРОБНЫ // ДРОБЯЗНЫ

**Дро́бавы.** Які складаецца з дробаў — частак адзінкі.

Дробы і змешаныя лікі называюцца дробавымі лікамі, у адрозненне ад цэлых лікаў, складзеных з цэлых адзінак. *Алгебра.*

**Дро́бны. 1.** Невялікі па памерах, велічыні ці кошту; маларослы.

Каб паправіць свае справы, ён за пазычаныя грошы стаў перакупшчыкам дробнай жывёлы. *К. Чорны.*

**2.** Які складаецца з маленькіх аднародных часцінак.

Церушыць дробны цёплы дождждык. *В. Вольскі.*

**3.** Эканамічна слабы; з малымі матэрыяльнымі магчымасцямі.

Яшчэ праз два гады [Лагіза] заарандаваў дробны фальварак і на гэтым прагарэў. *К. Чорны.*

**4.** Які займае невысокае грамадскае або службовае становішча.

У Беларусі з яе спецыфічнымі ўмовамі ролю разначынцаў выконвалі дзеці дробнай шляхты. *І. Навуменка.*

**5.** Нязначны; неістотны.

Касцюк яшчэ не вярнуўся ў кабінет, на хаду вырашаў дробныя пытанні, з якімі да яго падыходзілі. *А. Жук.*

**6.** *перан.* Пазбаўлены ўнутранай значнасці; нікчэмны, нізкі.

Хто ўваходзіць у дачыненні з дробнымі людзьмі, сам не з буйных або неўзабаве здрабнее сэрцам. *М. Лужанін.*

**Дро́бязны. 1.** Нязначны, неістотны; дробны *(у 5 знач.).*

Нарады ў канторы выпісваліся на дробязныя работы, на якіх і спіны не наломіш, але і зарабіць не заробіш. *Я. Ермаловіч.*

**2.** Які надае занадта вялікае значэнне дробязям, неістотнаму, нязначнаму.

Недарэчнай будзе дробязная матчына апека, айчым не адважыцца ўжо, як хлапчуку, рабіць заўвагі. *У. Карпаў.*

## ДРЭЙФАВАЦЬ // ДРЭЙФІЦЬ

**Дрэйфава́ць.** Адхіляцца ад узятага курсу (або рухацца) пад уздзеяннем ветру, цячэння вады.

Карабель астаўся без кіравання і, ахоплены полымем, пачаў дрэйфаваць да берага. *Эстафета пакаленняў.*

**Дрэ́йфіць.** *Разм.* Адступаць перад цяжкасцямі, небяспекай; баяцца.

— І страшнавата робіцца, як успомню... Але ў баі не дрэйфіў, трымаўся... Потым паспакайнеў, паступова абвыкся. *І. Мележ.*

## ДРЭЎКА // ДРЭЎЦА

**Дрэ́ўка.** Доўгая круглая палка, да якой прымацоўваецца сцяг.

Крочылі сцяганосцы, высока ўзняўшы на дрэўках палотнішчы сцягоў з надпісамі рабочых арганізацый горада. *П. Пестрак.*

**Дрэ́ўца.** Невялічкае (звычайна маладое) дрэва.

Стаялі яны [будынкі] не ўпрытык, а аддзеленыя адзін ад аднаго прагаламі, засаджанымі маладымі дрэўцамі. *Т. Хадкевіч.*

## ДУБЕЦЬ // ДУБІЦЬ

**Дубе́ць.** Мерзнуць, калець; цвярдзець, лубянець ад холаду.

Колькі ні мёрз, колькі ні дубеў у мокрай адзежы на лютым марозе, ні правальваўся ў лапцях на тоненькую парцяначку ў заледзянелыя лужыны, ніякая хвароба не брала. *С. Грахоўскі.*

**Дубі́ць.** *што.* Апрацоўваць шкуры вымочваннем у спецыяльных растворах; падвяргаць дубленню.

Міхась папрасіў Леаніда, каб той напісаў, якія матэрыялы спатрэбяцца для чучала і якім спосабам выдубіць заячую шкурку. *М. Аўрамчык.*

## ДУБАЛЬТ // ДУБЛЕТ // ДУПЛЕТ // ДУБЛІКАТ // ДУБЛЬ

**Ду́бальт.** *Абл.* Зроблены з дзвюх аднародных ці падобных частак; падвойны.

Каб, не дай божа, з крамай што не здарылася, гаспадар закрываў дзверы жалезнымі дубальтамі, а вокны — жалезнымі аканіцамі. *М. Лобан.*

**Дубле́т. 1.** Адзін з двух аднолькавых прадметаў; другі экземпляр якой-н. рэчы ў калекцыі, бібліятэцы і г. д.

У помніках трапляюцца некаторыя польскія словы, якія з'яўляюцца лексічнымі дублетамі адпаведных беларускіх слоў і на першых парах ужываліся паралельна з імі. *А. Жураўскі.*

**2.** Адначасовы выстрал па адной цэлі з двух ствалоў паляўнічай стрэльбы; дуплет *(у 2 знач.)*.

Стрэл з двухстволкі дублетам.

**Дупле́т. 1.** У більярднай гульні: удар шарам у другі шар, які стукнуўшыся аб борт і адскочыўшы ад яго, трапляе ў лузу.

З усіх бакоў падыходзіў ён да гэтага шара, прыглядаўся, прымерваўся кіем і, нарэшце, прыгожым дуплетам паслаў яго ў лузу. *ЛіМ.*

**2.** Адначасовы выстрал па адной цэлі з двух ствалоў паляўнічай стрэльбы; дублет *(у 2 знач.)*.

Недзе пекануў стрэл. Глуха, далекавата. І яшчэ два — дуплетам. У тым жа месцы. *В. Карамазаў.*

**Дублíка́т.** Другі экземпляр якога-н. дакумента, які мае аднолькавую юрыдычную сілу з арыгіналам.

Я прыйшла прасіць вас, каб выдалі дублікат ці новую даведку на атрыманне пашпарта. *І. Грамовіч.*

**Дубль.** *Разм.* **1.** Другая, дубліруючая каманда спартыўнага калектыву, якая служыць рэзервам для асноўнай каманды.

Дубль футбалістаў лепшай каманды ўкамплектаваны няблага.

**2.** Адзін з дублетных кадраў пры кіназдымцы.

Пры здымцы найбольш адказных кадраў фільма амаль заўсёды рабілі і дубль.

## ДУБІЛЬНЫ // ДУБЛЁНЫ

**Дубі́льны.** Які мае адносіны да дублення — апрацоўкі шкур вымочваннем у спецыяльных растворах.

Цемра востра, па-начному пахнула грыбамі, вільготнай лісто-

тай, моцным дубільным духам дубовых хмызоў і трошкі душным, лазенным водарам бяроз. *У. Караткевіч.*

**Дублёны.** Выраблены дубленнем; зроблены са шкур, апрацаваных дубленнем.

Ён быў у добрым дублёным кажусе, і мароз, здаецца, адскокваў ад яго. *Маладосць.*

### ДУЖАЦЬ // ДУЖЭЦЬ / ДУЖАЦЬ

**Ду́жаць.** *каго-што. Разм.* Асільваць, перамагаць каго-што.

У васемнаццаць гадоў не сустракаў [Адам] па сіле роўнага, усіх дужаў — і аднагодкаў і старэйшых. *А. Чарнышэвіч.*

**Дужэ́ць.** *Разм.* Станавіцца дужэйшым, набірацца сіл; мацнець, узмацняцца.

Ён рос, дужэў, набываў сілы, каб у пэўны час цвёрдай нагой ступіць на сваю дарогу. *Э. Самуйлёнак.*

**Дужа́ць.** *Разм.* Тое, што і дужэць.

Гул набліжаецца, дужае, аж угінаецца зямля. *Я. Колас.*

### ДУРАСЛІВЫ // ДУРМАНЛІВЫ

**Дураслі́вы.** Схільны да свавольства, дураслівасці; гарэзлівы, дуроны.

Вясёлая, жывая, дураслівая, свавольніца і першая штукарка на розныя забаўкі і выдумкі,— вось якая была Кублікавых Аўгіння. *Я. Колас.*

**Дурма́нлівы.** Які дурманіць, ап'яняе.

Для нас, маладых, засталіся ў лугах яе несабраныя краскі, і белай чаромхі дурманлівы пах, і сонца гарачыя ласкі. *Н. Гілевіч.*

### ДУРНЕЦЬ // ДУРЫЦЦА // ДУРЫЦЬ //ДУРЭЦЬ

**Дурне́ць.** *Разм.* Страчваць разумовыя здольнасці, станавіцца дурным; проціл. разумнець.

А стары ўжо, бач, дурнее, як за семдзесят залез. *Я. Колас.*

**Дуры́цца.** *Разм.* Дурэць, сваволіць; блазнаваць.

— Пакінь дурыцца, Андрэй,— стаў строгім Пятро.— Не люблю такіх фокусаў. *У. Шахавец.*

**Дуры́ць.** *Разм.* **1.** *каго-што.* Уводзіць у зман, разлічваючы на даверлівасць.

Сінонімы: марочыць, маніць.

Пакуль пляскалася ў кузні жалеза, цыганкі дурылі вясковых жанчын і забіралі апошнія яйкі. *І. Чыгрынаў.*

**2.** Рабіць недарэчныя ўчынкі.

— Не дуры, хлопец, паслухай бацькоў і ўсё будзе добра.

**Дурэ́ць. 1.** Забаўляцца, сваволіць, гарэзаваць.

Мурзік дурэе ад радасці, бегае вакол мяне, ружовы язык ледзь не па зямлі валочыцца. *П. Місько.*

**2.** *Разм.* Прыходзіць у стан адурэння; ачмурацца.

Дурэць ад моцных пахаў кветак.

## ДУХАТА/ДУХМЕНЬ // ДУХМЯНАСЦЬ

**Духата́.** Гарачае душнае надвор'е; душнае паветра.

Духата і пыл гарадскіх вуліц гналі людзей у поле, да мора, на чыстае паветра. *Ц. Гартны.*

**Духме́нь.** *Разм.* Тое, што і д у х а т а.

Ад сонечнага ўгрэву ў палатках густая духмень. *М. Лынькоў.*

**Духмя́насць.** Прыемны пах, водар.

Паветра цякло шырокімі струменямі: то цёплае, напоенае пахам смалы і духмянасцю траў, то вільготнае. *І. Шамякін.*

## /ДУХАВІТЫ // ДУХАВЫ // ДУХМЯНЫ // ДУХОЎНЫ // // ДУШЭЎНЫ // ДУШАВЫ // ДУШНЫ

**Духаві́ты.** *Разм.* Тое, што і д у х м я н ы.

У мяне за плячыма рэчавы салдацкі мяшок, а ў ім для бабулі два брусочкі духавітага мыла, якія былі выдадзены мне для ўмывання. *І. Сяркоў.*

**Духавы́.** Які дзейнічае праз удзіманне паветра (пра музычныя інструменты); які складаецца з духавых інструментаў.

З парку даляталі гукі духавога аркестра, а над возерам разлягалася чароўная песня. *М. Ваданосаў.*

**Духмя́ны.** З прыемным моцным пахам; пахучы.

І дуб-крапак і куст малы стаяць у мудрым задуменні. А сосны сочаць і струменяць густы, духмяны пах смалы. *Я. Колас.*

**Духо́ўны. 1.** Звязаны з унутраным станам, псіхічнымі здольнасцямі чалавека, яго свядомасцю; душэўны *(у 1 знач.).*

Сапраўды-такі здараюцца духоўныя перавароты ў маладых людзей, здаецца часам, што перайначваецца ў чалавека натура. *К. Чорны.*

**2.** Звязаны з рэлігіяй, царквой.

Няхай злуе айцец духоўны, няхай суліць мне пекла ён,— люблю я больш, як звон царкоўны, скаварады аб прыпек звон. *Я. Колас.*

**Душэ́ўны. 1.** Звязаны з унутраным, псіхічным станам чалавека; духоўны *(у 1 знач.).*

Ядвіся, добра разумеючы сумленнасць і душэўную чысціню Лабановіча, як бы баіцца раскрыць перад ім сваю душу. *Р. Шкраба.*

**2.** Шчыры, адкрыты, сардэчны; чулы, спагадлівы.

Адразу завязалася душэўная размова, у якой усё было адкрыта і зразумела. *М. Ваданосаў.*

**Душаві́.** Які мае адносіны да душа.

У кватэрах прадугледжаны і газавыя пліты, і прасторныя балконы, і душавыя пакоі, і зручныя сцянныя шафы. *С. Грахоўскі.*

**Ду́шны.** Гарачы, насычаны выпарэннямі; з цяжкім паветрам.

І калоссі мнагазначна хіляць, гнуць галовы, нібы іх чым устрывожыў душны дзень ліпнёвы. *Я. Колас.*

## ДЫВІЗІЁН // ДЫВІЗІЯ

**Дывізіён.** Вайсковае падраздзяленне ракетных войск і артылерыі; атрад ваенных караблёў аднаго класа.

На паўночным схіле вялікага пагорка, добра замаскіраваныя на ўскрайку невялічкага і негустога лесу, схаваліся батарэі дывізіёна. *У. Дамашэвіч.*

**Дыві́зія.** Буйная вайсковая часць з некалькіх палкоў.

Ён прыехаў у дывізію са штаба арміі, калі палкі ўжо ледзь стрымлівалі націск танкавай групы праціўніка. *І. Чыгрынаў.*

## ДЫМЛІВЫ / ДЫМНЫ // ДЫМЧАСТЫ / ДЫМЧАТЫ

**Дымлі́вы.** Які дыміцца, дыміць, вылучае многа дыму; ахутаны дымкай.

Адкінуў агарак дымлівы, нагой прытаптаў. *М. Калачынскі.*

**Ды́мны.** Які дыміцца, дыміць, вылучае многа дыму; з дыму.

Капцілак у вёсках не стала, не стала і дымнай лучыны. *М. Машара.*

**Ды́мчасты.** Тое, што і д ы м ч а т ы.

Дымчастая сурвэтачка пакрывала абажур настольнай лямпы. *Т. Хадкевіч.*

**Ды́мчаты.** Шараваты, колерам падобны на дым; попельна-шэры.

У прасторнай машыне з дымчатым шклом і кандыцыянерам ехалі праз увесь Токіо. *А. Дзялендзік.*

## ДЫПЛАМАТ // ДЫПЛАМАНТ // ДЫПЛОМНІК

**Дыплама́т. 1.** Службовая асоба, упаўнаважаная ўрадам для зносін з замежнымі краінамі.

Нашым дыпламатам трэба было прыкласці нямала сіл, энергіі і вытрымкі, каб паказаць міжнародныя падзеі ў іх сапраўдным святле. *І. Новікаў.*

2. *перан.* Чалавек, які тонка і ўмела дзейнічае ў адносінах з іншымі.

Пракоп, як і кожны селянін, крыху дыпламат. *Я. Колас.*

**Дыплама́нт.** 1. Пераможца конкурсу, узнагароджаны дыпломам.

Хор створаны васемнаццаць гадоў назад. Ён не аднойчы з'яўляўся дыпламантам абласных конкурсаў харавых калектываў. *ЛіМ.*

2. *Устар.* Тое, што і д ы п л о м н і к.

— Я студэнт Ленінградскага архітэктурнага. Дыпламант. Гэта мой дыпломны праект. *І. Шамякін.*

**Дыпло́мнік.** Студэнт, які працуе над дыпломнай работай.

Ты ўжо не Павел, не дыпломнік, а Павел Мікалаевіч, настаўнік, будзь крыху болей салідны. *Г. Далідовіч.*

## ДЫСКАНТ / ДЫСКОНТ

**Ды́скант.** Высокі хлапечы голас.

Пераклікаюцца гудкі паравозаў, нібы жывыя людзі, то басам, то тэнарам, то дыскантам... *П. Броўка.*

**Дыско́нт.** Купля банкам вэксаля або іншага пазыковага абавязацельства да заканчэння іх тэрміну; працэнт, які ўтрымліваецца пры гэтым.

Вучыцца на курсах было нялёгка. Асабліва мучылі нас шматлікія дэбеты, крэдыты, сальда, дысконты і іншыя бухгалтарскія прамудрасці. *ЛіМ.*

## ДЫСКРЫМІНАЦЫЯ // ДЫСКРЭДЫТАЦЫЯ

**Дыскрыміна́цыя.** Абмежаванне ў правах, нераўнапраўнае становішча.

У нас не могуць развівацца актыўныя эканамічныя адносіны з тымі дзяржавамі, кіруючыя колы якіх праводзяць агрэсіўную палітыку, палітыку дыктату і дыскрымінацыі. *К. Мазураў.*

**Дыскрэдыта́цыя.** Падрыў давер'я да каго-чаго-н., прыніжэнне чыйго-н. аўтарытэту, значэння.

Дыскрэдытацыя ідэі. Дыскрэдытацыя асобы.

## ДЫСТЫЛЯВАНЫ // ДЫСТЫЛЯЦЫЙНЫ

**Дыстыля́ваны.** Ачышчаны перагонкай.

Праз два дні я ўжо стаяў на беразе Анежскага возера. Ля прыбярэжных валуноў гайдалася вада — ужо не тая рудая, што ў лесе, а чысцюткая, пра якую ў даведніках пішуць, што яна ў два разы чысцейшая за дыстыляваную. *В. Карамазаў.*

**Дыстыляцы́йны.** Які мае адносіны да дыстыляцыі — ачышчэння перагонкай.

Дыстыляцыйны апарат.

### ДЫСЦЫПЛІНАВАНЫ // ДЫСЦЫПЛІНАРНЫ

**Дысцыплінава́ны.** Прывучаны да захавання дысцыпліны, парадку; арганізаваны, вытрыманы.

Вартавы быў самым звычайным салдатам, дысцыплінаваным, вытрыманым. *М. Лынькоў.*

**Дысцыпліна́рны.** Які мае адносіны да дысцыпліны; звязаны з парушэннем дысцыпліны.

Я лічыў, што нашых хлопцаў .. не трэба падганяць у вучобе, што да іх непатрэбны нейкія дысцыплінарныя меры. *І. Мележ.*

### ДЫЭТНЫ / ДЫЭТЫЧНЫ // ДЫЭТЭТЫЧНЫ

**Дыэ́тны.** Тое, што і д ы э т ы ч н ы.

Дыэтнае харчаванне. Дыэтны рацыён.

**Дыэты́чны.** Які мае адносіны да дыэты.

Дыэтычныя прадукты. Дыэтычная сталовая.

**Дыэтэты́чны.** Які мае адносіны да дыэтэтыкі — навукі аб рацыянальным харчаванні.

Дыэтэтычныя патрабаванні. Дыэтэтычная праблема.

### ДЫЯГАНАЛЕВЫ // ДЫЯГАНАЛЬНЫ

**Дыягана́левы.** Зроблены з тканіны дыяганалю.

Ён узначальваў цяпер раённую кантору сувязі, насіў шапку з какардай, форменны дыяганалевы касцюм і бліскучыя хромавыя боты. *І. Навуменка.*

**Дыягана́льны.** Які мае адносіны да дыяганалі — прамой лініі, якая злучае вяршыні двух несумежных вуглоў многавугольніка, дзвюх вяршынь шматгранніка.

Плоскасць, праведзеная праз якія-небудзь канты, не прылеглыя да адной бакавой грані прызмы, называецца дыяганальнай плоскасцю. *Геаметрыя.*

### ДЫЯЛЕКТ // ДЫЯЛЕКТЫЗМ

**Дыяле́кт.** Гаворка, пашыраная на пэўнай тэрыторыі; мясцовая разнавіднасць мовы.

А старая гаварыла, усплёскваючы рукамі, і гучаў, пераліваўся, звінеў у яе вуснах пявучы палескі дыялект. *У. Караткевіч.*

Н я п р а в і л ь н а. Сакавітыя літаратурныя словы мяжуюцца

з гутарковымі, народнымі. Многа дыялектаў (трэба: дыялектызмаў), бытавой лексікі. *ЛіМ.*

**Дыялектызм.** Слова або моўны зварот якога-н. дыялекту ў літаратурным творы.

Ҡ. Чорны перасцерагаў пісьменнікаў ад празмернага захаплення дыялектызмамі і жаргонамі, якія засмечваюць мову твора. *І. Кудраўцаў.*

## ДЫЯЛЕҠТАЛАГІЧНЫ // ДЫЯЛЕҠТНЫ // ДЫЯЛЕҠТЫЧНЫ

**Дыялекталагічны.** Які мае адносіны да дыялекталогіі.

Я. Ф. Карскі падаў і абгрунтаваў ідэю стварэння беларускага дыялекталагічнага атласа. *Беларуская дыялекталогія.*

**Дыялектны.** Які мае адносіны да дыялекту.

Дыялектныя асаблівасці ствараюць цяжкасці пры перакладзе твораў пісьменніка. *Полымя.*

**Дыялектычны.** Які мае адносіны да дыялектыкі; заснаваны на дыялектыцы.

Дыялектычны метад. Дыялектычная філасофія.

Н я п р а в і л ь н а. Колькасная перавага коласаўскага слоўніка [перад «Слоўнікам мовы Пушкіна»] тлумачыцца тым, што ў ім шмат слоў дыялектычных (трэба: дыялектных), мясцовых, абласных. *І. Навуменка.*

## ДЭБЕТ // ДЭБІТ // ДЭБЮТ

**Дэбет.** Левая старонка прыходна-расходных кніг, куды заносяцца ўсе паступленні, а таксама даўгі і расходы па дадзенаму рахунку; п р о ц і л. крэдыт.

Тое, што Дудка паспеў запісаць за паўгода баявой дзейнасці, заняло дзве тоўстыя бухгалтарскія кнігі, разграфленыя па старонках на крэдыт і дэбет. *І. Навуменка.*

**Дэбіт.** Колькасць вадкасці (нафты, вады і пад.) або газу, якая даецца свідравінай за адзінку часу.

Штучную інтэнсіфікацыю здабычы трэба весці вельмі асцярожна, бо празмерна высокая закачка вады можа спачатку даць вялікі дэбіт паліва, а потым яго рэзка знізіць і сапсаваць. *Р. Гарэцкі.*

**Дэбют. 1.** Першае выступленне артыста на сцэне.

Для дэбюту мне далі ролю прынца ў інсцэніраванай казцы Андэрсена «Прынц і жабрак». *Я. Рамановіч.* ‖ Першае публічнае выступленне ў якой-н. галіне дзейнасці. Хоць мае літаратурныя дэбюты на рускай мове былі досыць удалыя, я ўсё ж перайшоў на беларускую мову. *З. Бядуля.*

**2.** Пачатак шахматнай ці шашачнай партыі; першыя хады.

З самага пачатку гульні, яшчэ ў дэбюце, грасмайстар захапіў ініцыятыву і захаваў яе да канца партыі. *Звязда.*

### ДЭБІТОР // ДЭБЮТАНТ

**Дэбітóр.** Даўжнік прадпрыемства, арганізацыі, установы.
Адны плацілі акуратна, другія цягнулі бог ведае колькі, і мы ніяк не маглі збавіцца ад даўжнікоў, ці як у нас казалі, дэбітораў. *Я. Скрыган.*

**Дэбютáнт.** Той, хто дэбютуе, упершыню выступае на сцэне.
Пад пільным позіркам касіра-чыгуначніка я адчуваў сябе, як артыст-дэбютант на сцэне. *С. Анісаў.*

### ДЭГЕНЕРАТЫЎНАСЦЬ // ДЭГЕНЕРАЦЫЯ

**Дэгенератыўнасць.** Наяўнасць прымет выраджэння, дэгенерацыі.
З першага ж погляду нельга было не заўважыць, што чалавек гэты з яўна выражанай дэгенератыўнасцю.

**Дэгенерáцыя.** Пагаршэнне біялагічных і псіхічных прымет арганізма.
Сінонім: выраджэнне.
Паняцце агульнай і частковай дэгенерацыі ўведзена акадэмікам А. М. Северцавым. *БелСЭ.*

### ДЭЗІНСЕКЦЫЯ // ДЭЗІНФЕКЦЫЯ

**Дэзінсéкцыя.** Знішчэнне шкодных насякомых спецыяльнымі сродкамі.
Дэзінсекцыю робяць супраць узбуджальнікаў і пераносчыкаў інфекцыйных хвароб чалавека, жывёл і раслін, свірнавых шкоднікаў і інш. *БелСЭ.*

**Дэзінфéкцыя.** Знішчэнне заразных мікробаў спецыяльнымі сродкамі.
Сінонім: абеззаражванне.
Удзень Сцяпан зрабіў агляд у яслях, праверыў усіх суседніх дзяцей, дапамог фельчарыцы зрабіць дэзінфекцыю і акуратна цераз тры гадзіны наведваў хворага. *І. Шамякін.*

### / ДЭКАДАНС // ДЭКАДЭНТ // ДЭКАДЭНЦТВА

**Дэкадáнс.** Тое, што і дэкадэнцтва.
Сатырычныя вершы [Крапівы] былі накіраваны супраць тых, хто спрабаваў перанесці ў нашу паэзію прыёмы паэтыкі дэкадансу. *Ю. Пшыркоў.*

**Дэкадэ́нт.** Прадстаўнік, прыхільнік дэкадэнцтва.

Ацэнка Купалы і Коласа даецца Горкім у плане проціпастаўлення іх народна-дэмакратычнай паэзіі ўпадніцкай, антыгрмадскай паэзіі дэкадэнтаў і сімвалістаў. *В. Івашын.*

**Дэкадэ́нцтва.** Упадніцкі кірунак у буржуазным мастацтве і літаратуры канца 19 і пачатку 20 ст., які характарызуецца крайнім індывідуалізмам, фармалізмам, прапаведдзю «чыстага мастацтва».

У рускай літаратуры плынь дэкадэнцтва найбольш праявілася ў пачатку 20 ст.

## ДЭКАРАТЫЎНЫ // ДЭКАРАЦЫЙНЫ

**Дэкараты́ўны. 1.** Які служыць для ўпрыгожвання; звязаны з афармленнем сцэны.

Дэкаратыўныя тканіны. Дэкаратыўнае афармленне.

**2.** *перан. Разм.* Ненатуральны, штучны; паказны.

Сіратліва, як бы яно не натуральнае, а зробленае, дэкаратыўнае, вісіць над сопкамі халоднае сонца. *І. Шамякін.*

**Дэкарацы́йны.** Які мае адносіны да дэкарацыі.

Дэкарацыйны склад.

## ДЭКЛАМАТАРСКІ // ДЭКЛАМАЦЫЙНЫ

**Дэклама́тарскі.** Які мае адносіны да дэкламатара.

Дэкламатарскія здольнасці.

**Дэкламацы́йны.** Які мае адносіны да дэкламацыі.

Андрэй таксама спяваў у хоры, удзельнічаў у дэкламацыйным гуртку. *М. Хведаровіч.*

## ДЭМАБІЛІЗАВАНЫ // ДЭМАБІЛІЗАЦЫЙНЫ

**Дэмабілізава́ны.** *у знач. наз.* Звольнены з арміі па дэмабілізацыі.

У Гомелі што ні дзень, што ні гадзіна — радасць: вяртаюцца дахаты дэмабілізаваныя. *А. Пальчэўскі.*

**Дэмабілізацы́йны. 1.** Звязаны з правядзеннем дэмабілізацыі.

У штабе батальёна ўсе былі заняты новымі, прыемнымі клопатамі — дэмабілізацыйнымі. *Звязда.*

**2.** *перан.* Які характарызуецца паніжэннем актыўнасці, пільнасці, спадам энергіі.

Дэмабілізацыйны настрой.

**Дэманстратыўны. 1.** Задзірлівы, знарок падкрэслены; дэманстрацыйны *(у 3 знач.)*.

Дэманстратыўны адказ. Дэманстратыўныя паводзіны.

**2.** Звязаны з дэманстрацыяй — ваеннай аперацыяй, якая мае на мэце адцягнуць увагу праціўніка ад месца галоўнага ўдару.

Адна рота трэцяга батальёна, якім камандаваў старшы лейтэнант Гусеў, агнём і дэманстратыўнымі дзеяннямі скавала праціўніка з фронту, а тым часам астатнія дзве абышлі з флангаў і ўдарылі ў тыл. *А. Капусцін.*

**Дэманстрацыйны. 1.** Які мае адносіны да дэманстрацыі — масавага шэсця.

Дэманстрацыйная калона. Дэманстрацыйныя лозунгі, заклікі.

**2.** Заснаваны на паказе, дэманстрацыі — наглядным азнаямленні з чым-н., публічным паказе чаго-н.

Дэманстрацыйная зала. Дэманстрацыйная ўстаноўка.

**3.** Задзірлівы, знарок падкрэслены; дэманстратыўны *(у 1 знач.)*.

Дэманстрацыйныя паводзіны. Дэманстрацыйная абыякавасць.

### ДЭФЕКТНЫ // ДЭФЕКТЫЎНЫ

**Дэфе́ктны.** Пашкоджаны, сапсаваны; з дэфектам.

Значна палепшылася паліграфічнае афармленне друкаванай прадукцыі, знізілася колькасць дэфектных экземпляраў кніг, якія паступаюць у гандлёвую сетку. *Звязда.*

**Дэфекты́ўны.** Ненармальны; з фізічнымі або псіхічнымі недахопамі.

Было модна насіць міні-спадніцы — і асобы жаночага полу, як на нейкіх дэфектыўных людзей, пазіралі на тых, хто хадзіў у доўгай спадніцы. *ЛіМ.*

## Е, Ё

### ЕВАНГЕЛІЧНЫ // ЕВАНГЕЛЬСКІ

**Евангелі́чны.** Які апіраецца на евангелле, зыходзіць з яго. Евангелічная секта. Евангелічная абшчына.

**Ева́нгельскі.** Які мае адносіны да евангелля, заснаваны на ім.

З-за боязі, што гэтая нянавісць магла б прывесці да злачынства, за якое была б «вышка», ён і пацягнуўся да бога, да евангельскіх запаветаў, да вучэння Ісуса Хрыста. *І. Шамякін.*

## ЕДКІ // ЯДКІ

**Е́дкі. 1.** Які раз'ядае, разбурае што-н. хімічна; які выклікае моцнае фізічнае раздражненне.

Абапал дарогі дагаралі хаты, і ўдушлівы едкі смурод пажарышчаў раздзіраў грудзі. *В. Быкаў.*

**2.** *перан.* З'едлівы, калючы.

І смех там быў, былі і жарты, і кпіны едкія, і злосць. *Я. Колас.*

**Ядкі́.** *Разм.* Які са смакам есца, ахвотна паядаецца; смачны, пажыўны.

Атава там ужо адрастаць пачала, а трава ядкая, спажыўная. *Я. Колас.*

## ЕДНАСЦЬ // ЯДНАННЕ

**Е́днасць.** Адзінства; агульнасць, супольнасць; суцэльнасць, непадзельнасць.

Вялічка — ціхі, ураўнаважаны, засяроджаны ў самім сабе, моцны разуменнем сваёй праваты, сваёй еднасцю з роднай зямлёй. *Полымя.*

**Ядна́нне.** Цесная сувязь; адзінства; згуртаванасць.

Вялікая Айчынная вайна, узнятая нямецкімі фашыстамі, навочна паказала нам, што ў нашай дружбе, у яднанні славянскіх народаў — наша неперaможная сіла. *Я. Колас.*

## ЕДЗІСТЫ // ЁДНЫ

**Ёдзісты.** Які ўтрымлівае ў сабе ёд.

А ты ляжыш на пляжы і поўнымі грудзьмі ўдыхаеш ёдзістасалёны пах водарасцей, выкінутых на бераг марскім прыбоем. *М. Чавускі.*

**Ёдны.** Які мае адносіны да ёду.

Ён у спіртавым растворы пад назвай ёдная настойка прымяняецца ў медыцыне як добры абеззаражваючы сродак. *Хімія.*

## ЕЛКА // ЁЛКА // ЯЛІНА

**Елка.** Вечназялёнае хваёвае дрэва з конусападобнай кронай.

Тут верх асіны круглалісты сплятаўся з хвоямі, з дубамі, а елкі хмурымі крыжамі высока ў небе выдзяляліся, таемна з хвоямі шапталіся. *Я. Колас.*

**Ёлка. 1.** тое, што і е л к а.

Башлыкі адзелі ёлкі з снегу і стаяць сплючы. *П. Панчанка.*

**2.** Елка, ссечаная і ўпрыгожаная к Новаму году.

Весяліцца каля ёлкі дзетвара шчаслівая. *Н. Гілевіч.*

**Яліна.** Высокая елка.

Старыя хвоі і яліны, высока кінуўшы галіны, глядзелі хараша, любоўна. *Я. Колас.*

## ЕЛАЧНЫ // ЯЛОВЫ // ЯДЛОЎЦАВЫ

**Ёлачны.** Які мае адносіны да навагодняй ёлкі.

Колькі гоману, радасці, вясёлай мітусні! І ў кожнага ў вачах гараць, пераліваюцца ёлачныя агні. *М. Лынькоў.*

**Яло́вы. 1.** Які мае адносіны да елкі (яліны).

І такая цішыня стаяла ў лесе, што, здавалася, чуваць было, як шарахцяць на яловых лапках сняжынкі. *М. Лынькоў.*

**2.** Зроблены з елкі (яліны).

На даху толькі што паставілі сухія яловыя кроквы. *С. Грахоўскі.*

**Ядло́ўцавы.** Які мае адносіны да ядлоўцу.

Мінку і Янку я знайшоў на тым самым умоўленым месцы. Толькі добра ведаючы, можна было напасці на яго паміж густых ядлоўцавых кустоў. *П. Броўка.*

## ЁМІСТЫ // ЁМКІ

**Ёмісты.** Здольны змясціць у сабе вялікую колькасць чаго-н.

Сінонім: умяшчальны.

У вялікай, ёмістай карзіне ён носіць цётцы соль, газу, брускі зеленаватага мыла. *І. Навуменка.*

**Ёмкі. 1.** Якім добра і прыемна карыстацца.

Сінонім: зручны.

Адзін з валуноў нагадвае шыракагрудага скакуна, які правaліўся нагамі ў зямлю, і я саджуся на яго, нібыта ў ёмкае сядло. *В. Карамазаў.*

**2.** Зграбны, спрытны.

Сінонім: лоўкі.

А пуга дужа ж ужо ёмкая была... *Я. Сіпакоў.*

# Ж

## ЖАДЗЁН // ЖАДЛІВЫ // ЖАДНЫ

**Жадзён.** *чаму. Разм.* Які церпіць нястачу ў самым неабходным; ахвочы да чаго-н.

У тыя дні былі жадны скарынцы чэрствай хлеба. *П. Глебка.*

**Жадлі́вы.** *Разм.* Зайздросны; прагны.

Жадлівы чалавек.

**Жа́дны.** *Абл.* Ніякі, ніводны.

Наблізіўшыся, ён заўважыў над страхою шары слупок дыму і адчуў, як пацягнула раптам зайсці ў тую хату. Проста так без жаднай патрэбы. *Х. Лялько.*

### ЖАЛАСЛІВЫ // ЖАЛАСНЫ / ЖАЛЛІВЫ // ЖАЛОБНЫ

**Жа́ласлівы.** Схільны да жаласці, спачування; жаласны (*у 2 знач.*).

Сінонімы: спагадлівы, чуллівы.

На іх тварах была напісана жаласлівая спагада. *І. Навуменка.*

**Жа́ласны. 1.** Які выклікае жаласць, спачуванне.

Сінонімы: журботны, сумны.

Ветру не было, а дрот бесперапынку гуў прыемным звонам, ціхім, аднатонным і жаласным. *Я. Колас.*

**2.** Схільны да жаласці, спачування; жаласлівы.

Сінонімы: спагадлівы, чуллівы.

Вочы старой пацяплелі, і ўсе рысы яе твару расплыліся ў жаласную ўсмешку. *М. Лынькоў.*

**Жаллі́вы.** *Разм.* Тое, што і жаласлівы; жаласны (*у 2 знач.*).

Пачынаў Алёша часцей за ўсё з песень, і песні любіў найбольш сумныя, жаллівыя. *І. Мележ.*

**Жало́бны. 1.** Які мае адносіны да жалобы, смутку.

Сцяг схіліўся чырвоны з жалобнай каймой. *А. Куляшоў.*

**2.** Сумны, тужлівы, журботны.

Стаю я маўкліва і чую, як бура жалобную песню заводзіць. *М. Чарот.*

### ЖАЛЕЗІСТЫ // ЖАЛЕЗНЫ

**Жале́зісты.** Які ўтрымлівае ў сабе жалеза, багаты жалезам.

У глыбокіх пластах воды нярэдка бываюць засоленымі, жалезістымі або жорсткімі (насычанымі вапнаю). *Геаграфія БССР.*

**Жале́зны. 1.** Зроблены з жалеза; металічны.

Пасярэдзіне вагона стаяла жалезная печка, і ад яе ва ўсе бакі разыходзілася цяпло. *М. Лобан.*

**2.** Які ўтрымлівае ў сабе многа жалеза, багаты жалезам; жалезісты.

Жалезная руда. Жалезны калчадан.

**3.** *перан.* Моцны, дужы.

І не паспеў Сяргей зрабіць і аднаго руху, як на яго ззаду навалілася нейчае, як дуб, крэпкае цела, і жалезныя рукі, як абцугі, здушылі плечы і рукі. *Я. Колас.*

**4.** *перан.* Неадступны, паслядоўны; цвёрды, стойкі.

Гушчык гаварыў да таго павольна, што складалася ўражанне, нібы ён выціскае слова. Але ў яго была жалезная логіка. *І. Гурскі.*

### ЖАЛОБА // ЖАЛЬБА

**Жало́ба. 1.** Смутак па памершым або ў сувязі з народным горам, бедствам.

Жалоба па бацьку яшчэ не адышла, а з Зоськай такое няшчасце прылучылася... *Я. Купала.*

**2.** Чорнае адзенне, павязка як сімвал смутку.

Чырвоны і чорны колеры — колер рэвалюцыі і колер жалобы ў гонар яе ахвяр. *Л. Арабей.*

**Жа́льба.** Смутак, туга, бедаванне.

Смутак жнеек тых апране, разагнуцца і стаяць, як Сымон на дудцы стане жальбу сэрца выяўляць. *Я. Колас.*

### ЖАМЧУЖНІЦА // ЖАМЧУЖЫНА

**Жамчу́жніца.** Малюск, у ракавіне якога ўтвараецца жэмчуг.

Марская жамчужніца здабываецца ў цёплых водах, каля берагоў Чырвонага мора, Індыйскага і Ціхага акіянаў. *Заалогія.*

**Жамчу́жына. 1.** Асобнае зерне жэмчуга; упрыгожанне з яго.

Прагныя вочы гасцей міжволі спыняліся на цудоўнай жамчужыне, якая вісела на грудзях у гэтай жанчыны. *М. Яфімава.*

**2.** *перан.* Непаўторны скарб, лепшае ўпрыгожанне чаго-н.

Яшчэ шырэйшая гама пачуццяў у вершы «Хлопчык і лётчык», сапраўднай жамчужыне нашай паэзіі. *І. Навуменка.*

### ЖАНОЦКІ // ЖАНОЧЫ

**Жано́цкі.** Характэрны для жанчыны; пяшчотны, ласкавы, прывабны.

Жанчына з твару не была прыгожая, але ва ўсёй ёй была тая жаноцкая дужасць, якая робіць жанчыну прывабнай. *І. Чыгрынаў.*

**Жано́чы.** Які мае адносіны да жанчыны; які належыць жанчыне; прызначаны для жанчын; п р о ц і л. мужчынскі.

Нічога няма прыгажэй за жаночы твар у прыцемку. *У. Караткевіч.*

**Жартаўлівы. 1.** Схільны да жартаў, ахвочы пажартаваць (пра чалавека).

На платформе мы сустрэлі Івана Дамінікавіча, вясёлага і, як заўсёды, жартаўлівага. *М. Хведаровіч.*

**2.** Які мае характар жарту; вясёлы, гарэзлівы.

Часам жартаўлівыя словы — самыя сур'ёзныя і самыя красамоўныя. *І. Шамякін.*

**Жартóўны.** Вясёлы, забаўны; які мае характар жарту.

Потым спявак выканаў жартоўную народную песню. *П. Кавалёў.*

## ЖАЎЦЕЦЬ // ЖАЎЦІЦЬ

**Жаўцéць. 1.** Вылучацца сваім колерам, віднецца.

Бераг быў высокі, жаўцеў глінаю, зеляне́ў лазовымі кустамі. *М. Лупсякоў.*

**2.** Станавіцца жоўтым, набываць жоўты колер.

Злева ляжалі яшчэ зялёныя гароды, рана пачыналі жаўцець і асыпацца сады. *В. Карамазаў.*

**Жаўці́ць.** *што.* Рабіць што-н. жоўтым, афарбоўваць у жоўты колер.

Кепска, аднак, рысаваць пры лямпе: святло жаўціць і цені вельмі вострыя, густыя. *Я. Брыль.*

## ЖНЕЙКА / ЖНЯЯ // ЖНЯЯРКА

**Жнéйка. 1.** Тое, што і ж н я я.

Спорна ўвіхаюцца жнейкі, кожная за сваім канцом. Але яшчэ і па снапу не нажалі. *Р. Мурашка.*

**2.** Тое, што і ж н я я р к а.

На двары, пад дашчатым навесам, у рад стаяць новенькія, толькі што прывезеныя жнейкі, касілкі, малацілкі. *У. Краўчанка.*

**Жнея́.** Жанчына, што жне сярпом збожжа на полі.

Свайго поля было ў іх няшмат: для такой жняі, як Данікава мама, няма дзе і разгарнуцца. *Я. Брыль.*

**Жняя́рка.** Машына, што жне збожжа.

Камбайн сюды не дойдзе па каменнях, жняярка можа паламаць крылле аб карчы, што засталіся яшчэ тырчаць на полі, аж пакуль не згніюць. *І. Пташнікаў.*

## ЖНІВЕНЬСКІ // ЖНІЎНЫ

**Жні́веньскі.** Які бывае ў жніўні.

Ціхая, млявая, плыве месячная жнівеньская ноч над зямлёю, асветленай ззяннем Млечнага Шляху. *С. Кухараў.*

**Жні́ўны.** Які мае адносіны да жніва, звязаны з ім.

Асабліва ў часе жніва захаплялі мяне мелодыі жніўных песень, якія, здавалася, коцяцца і коцяцца з шумам спелых жытніх каласоў у чыстыя блакітныя далі. *Я. Пушча.*

### ЖУЛІКАВАТЫ // ЖУЛЬНІЦКІ

**Жулікава́ты.** Схільны да жульніцтва, ашуканства, махлярства; хітры.

Свайго жулікаватага шафёра Толіка Сухі інакш і не называў, як Свісцёлік. *А. Жук.*

**Жу́льніцкі.** *толькі з неадуш. наз.* Характэрны для жуліка; заснаваны на жульніцтве.

Сінонім: махлярскі.

Жульніцкі прыём. Жульніцкая здзелка.

### ЖУРАВІНАВЫ / ЖУРАВІННЫ // ЖУРАЎЛІНЫ

**Журавíнавы.** Які мае адносіны да журавін; багаты журавінамі; прыгатаваны з журавін.

Пакуль мы былі ў школе, даглядаў і забаўляў яе дзед, Ганна Якаўлеўна прыносіла журавінавы і чаромушны кісялі, чытала і расказвала казкі, мерала тэмпературу і давала лекі. *С. Грахоўскі.*

**Журавíнны.** Тое, што і журавінавы.

Поле ахутваў змрок. Толькі вузкая палоска журавіннай чырвані распаўзалася па небасхіле. *С. Грахоўскі.*

**Жураўлíны.** Які мае адносіны да жураўля — вялікай балотнай птушкі.

У туманным полі трывожна крычалі гусі. Можа чулі ў высокім небе шэлест крылаў сваіх вольных родзічаў, трубную тугу жураўліных ключоў, што адплывалі ў вырай з таежных балацін і прырэчных плёсаў. *С. Грахоўскі.*

### ЖУРНАЛІСЦКІ // ЖУРНАЛЬНЫ

**Журналíсцкі.** Які мае адносіны да журналіста, журналістыкі.

Гістарычнае развіццё жанраў абумоўлена практычнымі задачамі, якія сталі на розных этапах перад журналістыкай, і самім характарам журналісцкай дзейнасці. *Б. Стральцоў.*

**Журна́льны.** Які мае адносіны да журнала.

Журнальныя запісы.

## ЖЫВІНКА // ЖЫВІЦА

**Жывінка.** Тое, што надае каму-чаму-н. жывасць, прываб-насць, своеасаблівасць.

Чалавек з жывінкай. Працаваць з жывінкай.

**Жывіца.** Празрыстая смала, што выцякае з хвойных дрэў пры іх пашкоджанні.

На смалістых суках свяціліся застылыя кроплі жывіцы *П. Кавалёў.*

## ЖЫЛЛЁВЫ // ЖЫЛЫ

**Жыллёвы.** Які мае адносіны да жылля, звязаны з яго выка-рыстаннем.

**Жыллёвы:** фонд, аддзел; **жыллёвая:** камісія, праблема; **жыл-лёвыя:** умовы, нормы і г. д.

Істотнай умовай уздыму народнага дабрабыту з'яўляецца паляпшэнне жыллёвых умоў працоўных. *Звязда.*

**Жылы.** Прызначаны, прыстасаваны для жылля людзей; на-селены.

**Жылы:** дом, будынак, масіў, раён; **жылое** памяшканне і г д.

Відны былі з лесу і бліжэйшыя жылыя будынкі. *А. Кулакоўскі.*

## ЖЫТНІК // ЖЫТНІЦА // ЖЫТНЯК

**Жытнік.** *Абл.* Хлеб з жытняй мукі.

Наўрад ці ёсць што на свеце смачнейшае за свежы жытнік! *А. Савіцкі.*

**Жытніца. 1.** *Разм.* Жытняя салома

Волька па-мужчынску падхоплівала [віламі] жытніцу і кідала яе ў тарпу. *А. Васілевіч.*

**2.** *перан.* Хлебаробная вобласць краіны, якая забяспечвае хлебам іншыя мясцовасці.

Паўднёвыя вобласці заўсёды былі жытніцай усёй краіны

**Жытняк.** Стэпавая кармавая расліна.

Зялёны жытняк. Малады жытняк.

# З

## ЗААХВОЧАНЫ // ЗААХВОЧВАЛЬНЫ

**Заахвочаны.** Такі, якому прывілі ахвоту, цягу да чаго-н., прыахвочаны да чаго-н., адзначаны, ухвалены.

А ён, заахвочаны ўвагаю, усё больш запальваўся. *Л Арабей.*

**Заахво́чвальны.** Прызначаны для заахвочвання.

Дзевяць кніг і альбомаў выдавецтва «Беларусь» адзначаны заахвочвальнымі дыпломамі конкурсу. *ЛіМ.*

### ЗАБАВІЦЦА // ЗАБАЎЛЯЦЦА

**Заба́віцца.** *зак.* Затрымацца дзе-н. даўжэй, чым меркавалася; зацягнуць, прамарудзіць з чым-н.

Аляксей выцягнуў з-пад мокрай травы ў перадку яе чамадан і пакунак з пасцеллю, панёс у хату і забавіўся. *С. Грахоўскі.*

**Забаўля́цца.** *незак.* Пацяшацца, праводзіць час у забавах, гульнях; гуляць з кім-чым-н.

Доўгімі гадзінамі я праседжваў у скверы каля агароджанае пляцоўкі, дзе ў пяску забаўляюцца дзеці. *Я. Скрыган.*

### ЗАБАРАНАВАЦЬ // ЗАБАРАНІЦЬ

**Забаранава́ць.** *што.* Апрацаваць глебу бараной.

Сінонім: заскародзіць.

Пасля таго як дзед забаранаваў загончык пад грэчку, Яша павёў пасвіць буланага. *І. Навуменка.*

**Забарані́ць.** *што* і *з інф.* Не дазволіць што-н. рабіць.

Трэба забараніць вываз дэфіцытных тавараў на экспарт да таго часу, пакуль імі не будзе насычаны ўнутраны рынак. *Звязда.*

### ЗАБАРОНЕНЫ // ЗАБАРОННЫ

**Забаро́нены.** На які накладзена забарона; які забаранілі.

Сінонім: недазволены.

На працягу больш двух стагоддзяў беларуская мова была забароненай у якасці дзяржаўнай і літаратурнай. *Ю. Пшыркоў.*

**Забаро́нны.** Які з'яўляецца забаронай, забяспечвае забарону; якім забаронена карыстацца.

Забаронная зона. Забаронныя дарожныя знакі.

### ЗАБЕСПЯЧЭННЕ // ЗАБЯСПЕЧАНАСЦЬ

**Забеспячэ́нне.** Грошы, матэрыяльныя сродкі для жыцця; тое, чым забяспечваюць каго-што-н.

Шаройка застаўся пры штабе намеснікам начальніка па забеспячэнню. *І. Шамякін.*

**Забяспе́чанасць.** Ступень забеспячэння чым-н.; матэрыяльны дабрабыт.

Сінонім: дастатак.

У выразах твараў людзей адчуваўся супакой, супакой сытнасці і забяспечанасці. *З. Бядуля.*

## ЗАБУРЫЦЬ // ЗАБУРЭЦЬ

**Забу́рыць.** *што. Разм.* Пабурыць, паламаць; абваліць.
С і н о н і м: абрушыць.
Забурыць плот. Забурыць будан.

**Забурэ́ць.** *Разм.* Пачаць бурэць, стаць бурым; паказацца, вылучыцца сваім бурым колерам.
С і н о н і м: забурэцца.
Твар забурэў ад загару. Жыта забурэла.

## ЗАБЫТЫ // ЗАБЫЎЧЫВЫ

**Забы́ты. 1.** Які не захаваўся ў памяці; пакінуты без увагі.
Ад снапа пахла паспелай збажынай — забыты за вайну і таму асабліва прыемны пах. *А. Асіпенка.*
**2.** Незнарок, па забыўчывасці пакінуты дзе-н.
На падлозе рассыпаны былі падраныя паперы, а на стале ляжаў грудок кніг — можа забыты, а можа наўмысля пакінуты тут. *М. Зарэцкі.*

**Забы́ўчывы.** Які лёгка і хутка забывае.
Страчаў і я згаворчывых, ласкавых і забыўчывых. *М. Лужанін.*

## ЗАВАБЛЕНЫ // ЗАВАБЛІВЫ / ЗАВАБНЫ

**Зава́блены.** Захоплены, зачараваны харством каго-чаго-н.
С і н о н і м: прываблены.
Усе турысты, якія ўпершыню ўбачылі Нарач, былі завабленыя непаўторнай прыгажосцю возера

**Зава́блівы.** Які заваблівае.
С і н о н і м: прывабны.
Заваблівыя вочы. Заваблівыя планы.

**Зава́бны.** *Разм.* Тое, што і з а в а б л і в ы.
Завабная будучыня. Завабная прапанова.

## / ЗАВАЁВАНЫ // ЗАВАЁЎНІЦКІ // // ЗАВАЯВАЛЬНЫ // ЗАВАЯВАНЫ

**Заваёваны.** Тое, што і з а в а я в а н ы.
Заваёваная свабода. Заваёваны аўтарытэт

**Заваёўніцкі.** Звязаны з захопам чужых зямель.
С і н о н і м: захопніцкі.
Заваёўніцкія намеры. Заваёўніцкія паходы.

**Заваява́льны.** Накіраваны на заваяванне, звязаны з заваяваннем.

Сінонім: захопніцкі.
Заваявальныя войны.
**Заваява́ны.** Пакораны, захоплены ўзброенай сілай; здабыты настойлівасцю, барацьбой.
Сінонім: заваёваны.
Заваяваныя землі. Заваяванае давер'е.

### ЗАВАЛ // ЗАВАЛА // ЗАВАЛІНА

**Зава́л.** Штосьці скіданае, зваленае ў беспарадку; штучная перашкода з дрэў, бярвён і г. д.
Па ўсіх правілах былі выкапаны глыбокія акопы, пракладзены траншэі, зроблены завалы. *Б. Сачанка.*
**Зава́ла. 1.** Прыстасаванне для запірання дзвярэй, для перакрыцця.
Казлейка пачакаў, пакуль самы апошні дзік увойдзе ў пастку, і махнуў рукой. Княжыя асочнікі і палясоўшчыкі з грукатам апусцілі цяжкія завалы. *Л. Дайнека.*
**2.** *перан.* Лянівы чалавек.
Сінонім: лежабок.
— Ну і народ, каб ён апрогся! Так запусціць зямлю нядбала? Не гаспадар быў, а завала! — Антось стаіць, штось разважае. *Я. Колас.*
**Зава́ліна.** *Абл.* Прызба.
Хто на заваліну ўсеўся, хто проста апёрся на плот. *В. Макарэвіч.*

### ЗАВІРУХА // ЗАВІРУШКА

**Заві́руха. 1.** Моцны вецер розных напрамкаў з сухім снегам.
Сінонім: завея.
Завіруха бушавала ўсю ноч і ўвесь дзень. Здавалася, не будзе канца яе лютай сіле, яе злоснаму завыванню. *Я. Колас.*
**2.** *перан. Разм.* Неспакой, сумятня, бязладзіца.
Ваенная завіруха падхапіла і Ганну, закінула яе ў далёкі ўральскі горад. *А. Марціновіч.*
**Заві́рушка.** Невялічкая пералётная птушка з шараватым апярэннем.
Месца для гнязда завірушка выбірае звычайна ў зарасніках, невысока над зямлёй.

### ЗАВУЖАНЫ // ЗАВУЗКІ

**Заву́жаны.** Зроблены вузей, чым трэба; звужаны.
Завужаны касцюм. Завужаны рукаў.

**Заву́зкі.** *Разм.* Вузкаваты, вузейшы, чым трэба.
[Лёдзі] не падабалася плацце — завузкае, хоць і перашытае. *У. Карпаў.*

### ЗАВУСЕНІЦА // ЗАВУШНІЦА

**Заву́сеніца.** Востры выступ, шурпатасць, няроўнасць на паверхні чаго-н.
Разец нібы ступіўся і рабіў на дрэве завусеніцы. Так працаваць нельга. Так можна ўсё сапсаваць. *І. Шамякін.*
**Завушні́ца.** Упрыгожанне, звычайна ў выглядзе кальца, якое прымацоўваецца да мочкі вуха.
Андрушка пабліскваў вачыма то на пярсцёнак з бліскучым сінім каменьчыкам у Раісы на руцэ, то на завушніцу ў правым вуху. *М. Лобан.*

### ЗАГАДКАВЫ // ЗАГАДНЫ

**Зага́дкавы.** Незразумелы, непазнаны, таямнічы.
Гэта былі ўжо не кусты і не дрэўцы, а загадкавыя белыя здані, ні на што не падобныя. *А. Чарнышэвіч.*
**Зага́дны.** Які выражае загад.
У полі стрэлы сціхлі, чуліся толькі фырканне матораў, ляскат гусеніц ды загадныя воклічы. *І. Мележ.*
У граматыцы: з а г а д н ы  л а д — катэгорыя дзеяслова, якая выражае загад, просьбу, чыю-н. волю.
Загадны лад выражае пабуджэнне да выканання дзеяння. *Граматыка беларускай мовы.*

### ЗАГАЛОВАЧНЫ // ЗАГАЛОЎНЫ

**Загало́вачны.** Які мае адносіны да загалоўка.
Загаловачны шрыфт.
**Загало́ўны.** Які пішацца ў слове на пачатку тэксту, раздзела, абзаца; вялікі.
Загалоўная літара.

### ЗАГАРТАВАНЫ / ЗАГАРТОВАНЫ // ЗАГАРТОВАЧНЫ

**Загартава́ны. 1.** Такі, якому надалі большую цвёрдасць і моц награваннем да высокай тэмпературы, а затым хуткім ахаладжэннем.
Загартаваная сякера.
**2.** Стойкі, вынослівы, здольны пераносіць цяжкасці, неспрыяльныя ўмовы.

Загартаваны ў суровых умовах чалавек не збаіцца цяжкасцей.

**Загарто́ваны.** Тое, што і з а г а р т а в а н ы.

Загартованы ў кузні серп. Загартованы ў паходах юнак.

**Загарто́вачны.** Прызначаны для загартоўкі.

Загартовачны працэс. Загартовачны агрэгат.

### ЗАГРУЖАНЫ // ЗАГРУЗАЧНЫ

**Загру́жаны. 1.** Запоўнены грузам; нагружаны.

Гарэў вялікі крыты пакгаўз, загружаны збожжам. *М. Лынькоў.*

**2.** *перан. Разм.* Забяспечаны работай на поўную сілу.

Бывае хвіліна загружанай, нібы век, што заўжды гістарычны. *У Нядзведскі.*

**Загру́зачны.** Які служыць, прызначаны для загрузкі.

Мадэль гэта мела недахоп у загрузачным бункеры. *Беларусь.*

### ЗАГУСЦЕЦЬ // ЗАГУСЦІЦЬ

**Загусце́ць.** Зрабіцца больш густым, гусцейшым.

Быў канец мая, вясна губляла свае блакітныя, салатнасрабрыстыя, ружова-жаўтлявыя таны, паветра нагрэлася і загусцела, сонечнае святло страчвала далікатнасць, лагоду. *В. Карамазаў.*

**Загусці́ць.** *што. Разм.* Зрабіць густым або занадта густым.

Залішне прарэдзіш — не дабярэш увосень ураджаю, загусціш — зноў жа толку будзе мала. *В. Палтаран.*

### ЗАДЗЁРТЫ // ЗАДЗЁРЫСТЫ / /ЗАДЗІРЛІВЫ / ЗАДЗІРЫСТЫ

**Задзёрты.** Падняты ўгору.

Нос быў трошачку задзёрты, але кірпатым яго нельга было назваць. *Я. Васілёнак.*

**Задзёрысты.** Тое, што і з а д з і р ы с т ы.

Задзёрысты певень на плоце, распасцёршы крылы, так грозна заліваўся, як бы крычаў: «Не падыходзь!» *П. Бройка.*

**Задзі́рлівы.** Тое, што і з а д з і р ы с т ы.

Дый характарам ён удаўся ў Ігнася — нахабны, задзірлівы і шкадлівы, як брыдкі кот. *І. Канановіч.*

**Задзі́рысты.** Схільны, ахвочы да боек, сварак; задзірлівы.

Волька, нібы дзяўчына, кідае час ад часу на Федзю свой задзірысты погляд, смяецца да яго, жартуе. *А. Васілевіч.*

## ЗАДНЕЦЬ // ЗАДНІЦЬ

**Задне́ць.** *безас.* Пра надыход світання; заднецца.

Калі ж заднела, заўважыў Калістрат суседа Янука. *У. Корбан.*

**Задні́ць.** *што. Абл.* Уставіць дно.

Астаецца толькі задніць, і дзежка гатова для адпраўкі. *Р. Мурашка.*

## ЗАДОРАНЫ // ЗАДОРЛІВЫ / ЗАДОРНЫ

**Задо́раны.** Адораны мноствам падарункаў.

Задораныя маладажоны. Задораны імяніннік.

**Задо́рлівы.** Тое, што і з а д о р н ы.

Усё радавала, бадзёрыла: і стомленасць, што ўчэпіста трымалася, і задорлівы смех моладзі. *І. Сіўцоў.*

**Задо́рны.** Поўны задору; палкі, бадзёры.

Вясёлыя, задорныя прыпеўкі рэхам адгукаліся ў бары. *М. Ваданосаў.*

## ЗАДУМАНЫ // ЗАДУМЕННЫ / ЗАДУМЛІВЫ / ЗАДУМНЫ

**Заду́маны. 1.** Вырашаны ў думках.

Усё задуманае раней ужо зроблена.

**2.** Агорнуты думкамі; заклапочаны.

Я запяю пра жыццё маладое, больш я не буду задуманым, сумным. *М. Танк.*

**Задуме́нны.** Паглыблены ў думкі, разважанні.

С і н о н і м: задумлівы.

Марынка сядзела задуменная, негаваркая, ні да чаго не дакраналася. *Т. Хадкевіч.*

**Заду́млівы.** Тое, што і з а д у м е н н ы.

Часам ён кідаў ручку, складваў на грудзях рукі .. і глядзеў некуды ў адну кропку, не варухнуўшыся, задумлівы, засяроджаны. *В. Хомчанка.*

**Заду́мны.** *Разм.* Задуменны, задумлівы.

Незвычайны агонь у задумных вачах, на каленях ляглі гуслібаі. *Я. Купала.*

## ЗАЕЗДЖАНЫ // ЗАЕЗДЖЫ // ЗАЕЗНЫ

**Зае́зджаны.** Знясілены частай і працяглай яздой, работай без адпачынку.

Заезджаны конь. ‖ *перан.* Даўно ўсім вядомы; збіты, зацяганы. Заезджаны анекдот. Заезджаны жарт.

**Заéзджы.** Які заехаў куды-н. мімаходам, на кароткі час. Сінонім: прыезджы.

Рэгіну запрасіў на танец нейкі заезджы хлопец, але Міцька на гэта і ўвагі не звярнуў. *М. Лупсякоў.*

**Заéзны.** У выразе: заезны двор (дом) *(уст.)* — памяшканне для начлегу з дваром для коней і фурманак, а таксама карчмой.

Аднойчы прыехаў у заезны дом, што побач з нашай вёскаю, багаты купец. *Л. Дайнека.*

### ЗАЗНАЦЦА // ЗАЗНАЦЬ

**Зазнáцца.** Заганарыцца, заважнічаць.

Зазнаўся, ой, мароз, зазнаўся! Ды дзень яшчэ не пачынаўся: пастой, мароз, пастой хваліцца — мо і цябе хто не збаіцца! *Я. Колас.*

**Зазнáць.** Зведаць на ўласным вопыце; перажыць, адчуць. Нямала ўсякіх бед зазнаў стары за сваё доўгае жыццё.

### ЗАЙМЕННЫ // ЗАМЕННЫ

**Займéнны.** Які мае адносіны да часціны мовы займенніка. Займенная форма прыметніка — гэта тое ж самае, што і поўны прыметнік.

**Замéнны.** Які падлягае замене, можа быць лёгка заменены. Лес — гэта .. нічым не заменная сыравіна для нашай айчыннай хіміі. *Б. Сачанка.*

### ЗАКРУГЛЕНАСЦЬ // ЗАКРУГЛЕННЕ

**Закрýгленасць.** Акругласць, круглявасць; закончанасць, завершанасць.

У Івана матэматычнае мысленне — любіць закругленасць. *І. Навуменка.*

**Закруглéнне. 1.** Наданне чаму-н. акруглай формы.

Суправаджэнне дзвюх ліній (прамой з дугой або дзвюх дуг) робіць пераход з адной лініі на другую плаўным, без выступаў; яно практыкуецца, напрыклад, пры пабудове закругленняў чыгуначных або трамвайных шляхоў. *Геаметрыя.*

**2.** Адхіленне ўбок па крывой; выгіб.

Чыгунка рабіла тут паварот направа, само закругленне ішло па высокім насыпе. *М. Лынькоў.*

**Закульга́вець.** *Разм.* Стаць кульгавым.

— Конь мой белы закульгавеў, то няма як ехаць мне сягоння. *К. Чорны.*

**Закульга́ць. 1.** Пайсці, пабегчы кульгаючы.

Салдат закульгаў шпарчэй. *К. Чорны.*

**2.** Стаць кульгавым; закульгавець.

— Кашаварам я не быў, а што нага ў мяне крывая, то гэта праўда, толькі ж закульгаў я ад ранення, а не так сабе ад чаго. *А. Кулакоўскі.*

## ЗАКУРЫЦЬ[1] / ЗАКУРЫЦЬ[2] // ЗАКУРЭЦЬ

**Закуры́ць**[1]. *каго-што.* Пакрыць сажай; задыміць.

— Цябе ж тут закурыць, матка родная не пазнае,— сказаў машыніст. *Л. Арабей.*

**Закуры́ць**[2]. Запаліўшы папяросу, люльку, пачаць курыць, зацягвацца дымам; пачаць курыць, стаць курцом.

Дзед закурыў люльку і доўга кашляў ненатуральным кашлем. *А. Якімовіч.*

**Закурэ́ць. 1.** Пакрыцца сажай; пацямнець ад сажы, дыму; задыміцца.

Столь, цёмная ад часу, пад абразамі аж чорная — закурэла, па вуглах — павуціна. *ЛіМ.*

**2.** Узняцца воблакам, слупам (пра пыл і пад.).

Дырэктар хвастануў каня ляйчынай, і толькі пыл закурэў з-пад капытоў. *С. Грахоўскі.*

## ЗАЛАЦЕЦЬ // ЗАЛАЦІЦЬ

**Залаце́ць.** *Разм.* Набываць адценне, колер золата; блішчаць, як золата.

Лістота на дубах, нягледзячы на жаўцізну, была яшчэ моцнай, вяршаліны пераможна залацелі ў яркім святле, і дзе-нідзе чырванелі кусты глогу. *В. Іпатава.*

**Залаці́ць.** *што.* **1.** Пакрываць золатам, пазалотай.

У гарадку бурылі сабор, расцягвалі абразы, скідалі крыжы, залачоныя *(дзеепрысл.)* Рыгорам Трахімавічам, у гразь са званіцы скінулі звон. *В. Карамазаў.*

**2.** *перан.* Асвятляючы, надаваць чаму-н. залацісты колер.

Сонца ўжо амаль схавалася за лес і толькі залаціла верхавіны дрэў. *У. Корбан.*

## ЗАЛІВАЧНЫ // ЗАЛІВІСТЫ // ЗАЛІЎНЫ

**Залі́вачны.** Прызначаны для заліўкі чаго-н.

Спецыяльныя электрацялежкі дастаўляюць каўшы да залівачных участкаў канвеера. *Беларусь.*

**Залі́вісты.** Гучны, звонкі, з пералівамі.

Недзе далёка — то ападаючы, то зноў падымаючыся — чутна залівістая песня начлежнікаў. *Я. Скрыган.*

**Заліўны́. 1.** Які затапляецца ў паводку вадой.

Ручай быў неглыбокі і гаманкі — шырокі паток ледзяной вады з гор шалёна імчаў па камянях, віруючы пенай і размашыста плёскаючы на нізкія заліўныя берагі. *В. Быкаў.*

**2.** Вельмі моцны, густы, праліўны (пра дождж).

Раптам каментатар з нейкім жалем, з нейкім унутраным шкадаваннем паведаміў, што над стадыёнам пайшоў заліўны дождж. *Р. Сабаленка.*

**3.** Заліты густым студзяністым наварам і астуджаны (пра стравы).

На стале была чырвоная ікра, заліўная курыца, паштэт, адмыслова ўпрыгожаная смажаная рыба. *Л. Арабей.*

## ЗАМОЖНІЦКІ // ЗАМОЖНЫ

**Замо́жніцкі.** *Разм.* Які мае адносіны да заможніка, належыць яму.

Скрозь мясцовасць то драбілася на яшчэ меншыя загончыкі, то збіралася ў асадніцкія фальваркі і заможніцкія хутары. *К Чорны.*

**Замо́жны.** Матэрыяльна добра забяспечаны, даволі багаты.

Бацькі Анежкі не такія ўжо заможныя людзі, каб гадаваць са свайго дзіцяці толькі лялькy. *П. Броўка.*

## ЗАМУРАВАЦЬ // ЗАМУРАВЕЦЬ

**Замурава́ць.** *каго-што.* Закласці наглуха муроўкай.

Апавядаў ён, як дзяўчыну замуравалі ў склеп каменны. *У Дубоўка.*

**Замураве́ць.** Зарасці муравой — зялёнай травой.

Замуравелі партызанскія сцежкі. *Маладосць.*

## ЗАМУТНЕЦЬ // ЗАМУТНІЦЬ / ЗАМУЦІЦЬ

**Замутне́ць.** *Разм.* Замуціцца, памутнець; стаць мутным.

Вада замутнела. Вочы замутнелі.

**Замутні́ць.** *што. Разм.* Тое, што і з а м у ц і ц ь.

Замутніць рэчку. Замутніць ваду.

**Замуці́ць.** *што.* Зрабіць мутным.

Жучок-плывунец спрытна даў нырца і замуціў з дна ваду. *М. Даніленка.*

## ЗАПАВЕДНЫ // ЗАПАВЕТНЫ

**Запаве́дны.** Які знаходзіцца пад аховай; непарушны, недатыкальны.

Створана аўтарытэтная камісія, якая абавязана распрацаваць навукова абгрунтаваныя прапановы аб раздзяленні [Белавежскай] пушчы на запаведную і паляўнічую зоны. *В. Ждановіч.*

**Запаве́тны. 1.** Які асабліва цэніцца, старанна аберагаецца; самы дарагі.

Кожнаму чалавеку рады ў гады хочацца расказаць пра самае запаветнае. *С. Грахоўскі.*

**2.** Атрыманы ў спадчыну ад мінулых пакаленняў; старадаўні.

Серадзібор можа нават пахваліцца, што там ніхто не замыкае дзвярэй нанач.. Так гэты запаветны звычай пачаў вяртацца і пасля вайны. *П. Пестрак.*

## ЗАПАЗЫЧАНАСЦЬ // ЗАПАЗЫЧАННЕ // ЗАПАЗЫЧВАННЕ

**Запазы́чанасць.** Наяўнасць даўгоў.

Вялікая запазычанасць. ‖ *Разм.* Адставанне па вучэбнай праграме; не здадзены студэнтам экзамен, залік і г. д. У [Юркі] зноў запазычанасць па англійскай мове, і ён пакуль ліквідаваў яе, адстаў ад хлопцаў. *У. Карпаў.*

**Запазы́чанне.** Тое, што запазычана, перанята, узята адкуль-н.

Лексічныя запазычанні старабеларускай мовы вывучаны пакуль што зусім слаба. *А. Жураўскі.*

**Запазы́чванне.** Перайманне, засваенне чаго-н. чужога.

Празмернае запазычванне чужаземных слоў не прыносіць карысці сваёй мове.

## ЗАПАЛЕНЧЫ // ЗАПАЛЕНЫ // ЗАПАЛЁНЫ //ЗАПАЛЬНЫ

**Запале́нчы.** Звязаны з запаленнем, які суправаджаецца запаленнем (пра хваробу).

Вакол паранення ўзнікае запаленчы працэс і ўтвараецца нарыў. *Анатомія і фізіялогія чалавека.*

**Запа́лены.** Які запалілі; падпалены.

Праз хвіліну яна вярнулася з запаленаю свечкаю. *Ц. Гартны.*

**Запалёны. 1.** Хворы на запаленне; прыпухлы, пачырванелы.

Саша, якая запалёнымі вачамі напружана сачыла за кожным рухам камандзіра, устрапянулася, імкліва села на ложку. *І. Шамякін.*

**2.** Узбуджаны, разгарачаны.

Але, запалёны, ён усё ж шчыра, ад душы расказваў усё, што паліла яго. Ён гаварыў горача, глядзеў у вочы Тураўца з надзеяй і верай. *І. Мележ.*

**Запа́льны. 1.** Які мае адносіны да запалу; прызначаны для запальвання.

Спачатку Міхась не звярнуў увагі на гэты стрэл. Толькі калі задыміла і загарэлася страха, яму стала зразумела, што немец стрэліў у яе запальнай куляю. *М. Аўрамчык.*

**2.** Гарачы, хвалюючы.

Кажуць, Слава перадала ёй частку сваёй сілы, і хто ідзе міма бярозкі, той чуе, якім запальным заклікам да помсты прасякнут яе шум. *Т. Хадкевіч.*

### ЗАПАЛОХАНАСЦЬ // ЗАПАЛОХВАННЕ

**Запало́ханасць.** Нясмеласць, баязлівасць каго-н. з-за пастаянных пагроз, пакаранняў; боязь усяго.

Адчувалася ў ім вечная запалоханасць, забітасць, якая спадарожнічала ўсяму яго жыццю. *П. Пестрак.*

**Запало́хванне.** Унушэнне каму-н. страху, боязі чаго-н. з мэтай зрабіць яго баязліўцам, нясмелым.

Ён вучыўся рускай мове, усім спосабам шпіянажу, допыту, запалохвання, стварэння фальшывых чутак. *К. Чорны.*

### ЗАПАСЛІВЫ // ЗАПАСНЫ

**Запа́слівы.** Які любіць і ўмее запасаць, ствараць запас.

Мы бачылі невялікія хлеўчукі, у якіх запаслівыя гаспадары складалі на зіму сена для сваіх кароў. *М. Даніленка.*

**Запасны́. 1.** Зроблены, пакінуты на ўсякі выпадак, пра запас.

Прывязаўшы лодку да лазняку, Сашка паставіў каля ног бляшанку з запаснымі блёснамі. *Б. Стральцоў.*

**2.** *у знач наз.* Ваеннаабавязаны запасу; які знаходзіцца ў запасе; запаснік.

Павалілі грамадою запасныя, дзержучы кірунак на бліжэйшыя чыгуначныя станцыі. *Я. Колас.*

### ЗАПРАЖНЫ // ЗАПРЭЖАНЫ

**Запражны́.** Прыгодны для запрэжкі; які ходзіць у запрэжцы.

У час сяўбы заўсёды трэба было лепш пакарміць запражных, рабочых коней, а не маладняк. *Звязда.*

**Запро́жаны.** Такі, якога запрэглі (у калёсы, сані і г. д.)

Пасярод Зазыбавага двара стаяў запрэжаны ў калёсы на жалезным хаду буланы конь — з тых, што пакінулі калгасу ўзамен артылерысты. *І. Чыгрынаў.*

### ЗАРАДЖАНЫ // ЗАРАДНЫ

**Зара́джаны.** З устаўленым зарадам, гатовы да дзеяння (пра агнястрэльную зброю, міну і інш.).

Кандрат загадаў дома добра завешваць вокны і клаў на ноч каля сябе зараджаную карабінку і пад падушкі наган. *М. Лобан.*

**Зара́дны. 1.** Які мае адносіны да зарада (пра снарад, патрон і пад.).

Разлікі кінуліся рыхтаваць гарматы да бою, паспешна забіваючы сашнікі ў зямлю і вымаючы з зарадных скрыняў на перадках латкі са снарадамі. *І. Чыгрынаў.*

**2.** Які служыць для зарадкі чаго-н. якой-н. энергіяй.

Неабходна адрэгуляваць зараднае прыстасаванне на машыне згодна патрабаванню сезона работы. *В. Ягорушкін.*

### ЗАРАЖАНЫ // ЗАРАЗЛІВЫ // ЗАРАЗНЫ

**Зара́жаны.** З хваробатворнымі мікробамі або шкоднымі рэчывамі, насякомымі.

Сяльчонак схадзіў у хлявок, насыпаў у марлевую анучку дусту, павязаў мяшочак на доўгую палку і пачаў апыляць заражаныя вусенем сучкі. *А. Асіпенка.*

**Зара́злівы. 1.** Тое, што і з а р а з н ы.

Кожны тып туберкулёзных бактэрый з'яўляецца найбольш заразлівым для таго віду жывёл, да паразітавання ў арганізме якіх ён прыстасаваўся. *Ф. Бухцілаў.*

**2.** *перан.* Які лёгка перадаецца іншым, пераймаецца іншымі.

Яшчэ ў калідоры ён пачуў выбухі дружнага заразлівага смеху. *М. Гамолка.*

**Зара́зны.** Які мае адносіны да заразы, нясе ў сабе заразу. С і н о н і м: інфекцыйны.

Над больніцай калыхалася зарава: гарэў заразны барак. *М. Лынькоў.*

### ЗАРАНІЦА / ЗАРАНКА[1] // ЗАРАНКА[2] // ЗАРНІЦА

**Зара́ніца.** *Паэт.* Тое, што і з а р а н к а[1].

Зара-заранiца гарыць у паднябессі, залоціць красою разлогі. *Я. Пушча.*

**Зара́нка**[1]. Яркая афарбоўка гарызонта пры захадзе і ўсходзе сонца.

Далёка наперадзе над дарогай успыхвалі густыя, чырвоныя заранкі. *І. Пташнікаў.*

**Зара́нка**[2]. Невялікая светла-шэрая пеўчая птушка; маліна́ўка.

Івалгі аспрэчвалі першынство па мастацкаму свісту ў чырванагрудых заранак, жаваранкі не ўступалі па спевах чарнапёрым драздам. *Л. Вірня.*

**Зарні́ца.** Светлавая ўспышка на небе, без грому — водбліск далёкай навальніцы.

Бывае часам, калі пасля доўгіх тыдняў духаты і спёкі загараюцца на далёкім вячэрнім небасхіле палахліва-мітуслівыя зарніцы. *М. Паслядовіч.*

## ЗАСЕК // ЗАСЕКА // ЗАСЕЧКА

**Засе́к.** Адгароджанае месца ў свірне, клеці для захавання збожжа, мукі.

Тады яны панасыпалі насенне ў мяшкі і развезлі па кустах — абы ў засеках не ляжала. *Я. Сіпакоў.*

**Засе́ка.** Штучнае ўмацаванне са ссечаных дрэў, звернутых верхавінамі ў бок непрыяцеля.

На ўсім стэпавым парубежжы Русь насыпала земляныя валы, рабіла засекі з дрэў, ставіла сігнальныя вышкі. *Л. Дайнека.*

**Засе́чка.** Знак, метка на чым-н., зробленая сякерай, нажом і г. д.

Сталовым нажом бацька ўрачыста робіць на вушаку засечку *І. Хадановіч.*

## ЗАСЛАНКА // ЗАСЛОН // ЗАСЛОНА // ЗАСЛОНКА

**За́сланка. 1.** Бляшаны ліст з ручкай, якім закрываюць топку печы

Ён ускочыў, замітусіўся, чамусьці зазірнуў у печ, але тут жа і прыкрыў чалеснікі засланкай. *А. Асіпенка.*

**2.** Прыстасаванне для закрывання якіх-н. адтулін.

Адзін з асобаатрадчыкаў пазваніў, за кратамі адсунулася засланка, нехта глянуў адтуль. *Э. Самуйлёнак.*

**Засло́н.** *Абл.* Пераносная лаўка.

Сінонім: услон.

Ён прысеў на заслон, маўчучы паўзіраўся на самаробны фанерны куфэрак, што ляжаў пры нагах. *В. Адамчык.*

**Засло́на. 1.** Тое, што прыкрывае, засланяе сабой што-н

Дажджавая заслона схавала ўсе горы, толькі бліжэйшыя скалы невыразна чарнеюцца. *Я. Маўр.*

**2.** Шырокае палотнішча, якое закрывае сцэну ад глядзельнай залы.

На сцэне, за заслонай, ішла дзейсная падрыхтоўка да канцэрта. *А. Чарнышэвіч.*

**Засло́нка.** Тое, што і з а с л а н к а.

Адчыніць заслонку ў печы. Зачыніць заслонку.

### / ЗАСМАГЛЫ // ЗАСМАЖАНЫ // ЗАСМЯГЛЫ

**Засма́глы.** Сухі, перасохлы; засмяглы.

[Байцы] дзялілі матчын хлеб счарсцвелы, пілі, абцёршы на хаду з засмаглых вуснаў пыл. *А. Лойка.*

**Засма́жаны.** Прыгатаваны для яды смажаннем.

Апетытназзяюць залацістым тлушчам засмажаныя, начыненыя яблыкамі індычкі. *І. Навуменка.*

**Засмя́глы.** Сухі, перасохлы; засмаглы.

Дзяды, дзяўчаты, хлапчукі, кабеты, засмяглыя на сонцы і вятрах, прайшоўшы войны, беды і камбеды, упершыню сабе брукуюць шлях. *С. Грахоўскі.*

### ЗАСМЕЧАНАСЦЬ // ЗАСМЕЧВАННЕ

**Засме́чанасць.** Забруджанасць смеццем, непатрэбнымі рэчамі.

Засмечанасць насення пустазеллем.

**Засме́чванне.** Забруджванне смеццем, непатрэбнымі рэчамі.

Засмечванне тэрыторыі адыходамі вытворчасці.

### ЗАСМУТКАВАЦЬ // ЗАСМУЦІЦЦА // ЗАСМУЦІЦЬ

**Засмуткава́ць.** Пачаць смуткаваць.

Так засмуткавала яго душа па працы, мірнай, стваральнай працы, што, ведаў Мікола, не вытрымае ён і тыдня без справы. *У. Крайчанка.*

**Засмуці́цца.** Засумаваць, замаркоціцца.

Засмуціцца па родных. Засмуціцца ад гора.

**Засмуці́ць.** *каго-што.* Выклікаць у каго-н. пачуццё смутку, суму; азмрочыць што-н.

Рэдка якая трывога ці небяспека магла вывесці яго з раўнавагі і засмуціць настрой. *А. Кулакоўскі.*

### ЗАСПАКАЯЛЬНЫ // ЗАСПАКОЕНЫ // ЗАСПАКОЙЛІВЫ

**Заспака́яльны.** Які памяншае ўзбуджанасць або знімае боль.

Заспакаяльныя кроплі. Заспакаяльныя сродкі.

**Заспако́ены.** Прыведзены ў стан спакою; супакоены.
Заспакоенае дзіця. Заспакоены пасажыр.
**Заспако́йлівы.** Які прыносіць заспакаенне, заспакойвае
Заспакойлівыя ўгаворы. Заспакойлівыя словы.

### ЗАСТАРЫ // ЗАСТАРЭЛЫ

**Застары́.** *Разм.* Стараваты для каго-чаго-н.
— Кастусь Серада — застары для старшыні,— сказаў Пілі-пёнак са шкадаваннем. *У. Шахавец.*
**Застарэ́лы.** *Разм.* **1.** Даўні па часу ўзнікнення, стары, са старэлы.
Застарэлы мазоль Застарэлая хвароба
**2.** Які не адпавядае сучасным патрабаванням, нормам, уста рэлы
Застарэлае абсталяванне. Застарэлыя звесткі.

### ЗАСТАЯЛЫ / ЗАСТОЕНЫ // ЗАСТОЙНЫ

**Застая́лы. 1.** Які доўгі час прастаяў, не рухаўся (пра каня)
Калёсы між тым ужо каціліся па шляху застаялыя коні ірваліся як не галопам. *М. Лупсякоў.*
**2.** Які страціў свежасць ад працяглай нерухомасці.
Застаялая вада. Застаялае паветра. ‖ *перан.* Закаснелы, нязменны. Гэта быў .. пратэст супраць застаялага патрыярхальнага быту *Р Сабаленка.*
**Засто́ены.** *Разм.* Тое, што і з а с т а я л ы.
Добра бяжыць па прымятай дарозе застоены за ноч конь. *М Машара.* [Венька] зайшоў у пакой У нос дало кіслым, застоеным паветрам. *І Навуменка.*
**Засто́йны.** Які мае адносіны да застою.
Крытыя саломай і чаротам некалькі вясковых хатак, лясы, пералескі, рукатворчасць застойнага часу — меліярацыйныя канавы з застойнай і сёння гнілой вадой. *В. Казько.*

### ЗАСУШАНЫ // ЗАСУШЛІВЫ

**Засу́шаны. 1.** Высушаны, сухі.
Засушаны бярозавы лісток.
**2.** *перан. Разм.* Пазбаўлены жывасці, яркасці
Засушаны спектакль.
**Засу́шлівы.** Які суправаджаецца засухамі; у якім бываюць засухі
Засушлівы год. Засушлівы раён.

## ЗАТОЧАНЫ // ЗАТОЧНЫ

**Зато́чаны.** Завостраны.
Заточаны аловак.
**Зато́чны.** Прызначаны для заточкі, заточвання.
Заточны станок.

## ЗАТРЫМАННЕ // ЗАТРЫМКА

**Затрыма́нне. 1.** Пакіданне чаго-н. дзе-н.
Калгас пачаў рыхтавацца да затрымання снегу на палях *І Дуброўскі.*
**2.** Узяцце пад варту; арышт
Знойдзеныя пры затрыманні грошы адразу навялі паліцыю на след злачынства. *М. Лынькоў.*
**Затры́мка.** Часовае спыненне чаго-н.; зацяжка, замінка.
Калі здарылася затрымка руху на вуліцы, я, стоячы ля краю тратуара якраз перад операй, зрабіў здымак. *І. Мележ.*

## ЗАХАВАНАСЦЬ // ЗАХАВАННЕ

**Захава́насць.** Цэласць, непашкоджанасць.
Захаванасць рэчаў гарантуецца.
**Захава́нне.** Зберажэнне ў цэласці чаго-н.
Беражлівае захаванне кнігі з аўтографам.

## ЗАХВАРАЛЬНАСЦЬ // ЗАХВОРВАННЕ

**Захвара́льнасць.** Адносная колькасць захворванняў за пэўны прамежак часу
Захваральнасць насельніцтва горада знізілася.
**Захво́рванне.** Парушэнне нармальнай жыццядзейнасці арга нізма, узнікненне хваробы; хвароба
Галоўная задача медыкаў — прадухіліць захворванні.

## ЗАЦЯЖКІ // ЗАЦЯЖНЫ

**Зацяжкі.** *Разм.* Залішне цяжкі; не пад сілу
Касянок вымушаны быў пайсці на новую, мо і зацяжкую для яго работу *Р Сабаленка.*
**Зацяжны́.** Працяглы; які доўга цягнецца.
Вясна таго года была зацяжная, халодная, спачатку, у кра савіку, сухая, а потым дажджлівая *І Шамякін*

**Зацямні́ць.** *каго-што.* **1.** Зрабіць цёмным, засланіўшы святло.

Вячэрнія змрокі, што шпарчэй, чым звычайна, згушчаліся ў непагадзь, зацямнілі далягляд. *І. Шамякін.*

**2.** *перан.* Зацьміць, адсунуць каго-што-н. на задні план; зрабіць незразумелым, заблытаць.

Аўтар высунуў на першы план няўдалае каханне юнакоў да Тані, якое зацямніла ўсё астатняе. *ЛіМ.*

**Зацяні́ць.** *каго-што.* Засланіць святло, пакрыўшы ценем; схаваць у цені.

Павалокаю белай туман не зацяніць дзявочай красы. *П. Глебка.*

## ЗБРОДЛІВЫ // ЗБРОДНЫ

**Збро́длівы.** *Разм.* Шкадлівы, памаўзлівы.

Збродлівы кот. Збродлівая карова.

**Збро́дны.** *Разм.* Выпадкова сабраны; разнародны, разнамасны.

Збродная кампанія. Збродная шайка.

## ЗВАДЛІВЫ / ЗВАДНЫ // ЗВОДНІЦКІ // ЗВОДНЫ

**Зва́длівы.** *Разм.* Які мае адносіны да звадкі — склокі, сваркі; схільны да звадкі.

Выходзіць, каб Адам не паслухаў сваёй звадлівай жонкі ды не паспытаў яблыка з забароненага богам райскага дрэва — усё было б добра. *А. Якімовіч.*

**Зва́дны.** Тое, што і з в а д л і в ы.

Пакінь брыдоту, не муці, змяні натуру звадную. *П. Броўка.*

**Зво́дніцкі.** Які мае адносіны да зводніка, зводніцтва.

Такая ўжо ў яе натура зводніцкая: яе хлебам не кармі, а дай толькі каго звесці, ажаніць. *ЛіМ.*

**Зво́дны.** **1.** Які з'яўляецца зводкай чаго-н.; які аб'ядноўвае, падсумоўвае якія-н. даныя.

Зводная ведамасць. Зводная справаздача.

**2.** Сфарміраваны з некалькіх самастойных частак, адзінак.

Зводны паліцэйскі батальён, настаўлены, каб перагарадзіць нам дарогу ў вялікі лес, быў разгромлены ўшчэнт. *І. Шамякін.*

**3.** Які даводзіцца братам ці сястрой па мачасе або айчыму.

Хоць былі яны і зводнымі братамі ў сям'і, але іх сяброўству маглі б пазайздросціць многія родныя браты. *ЛіМ.*

## ЗВАНАР // ЗВАНЕЦ

**Звана́р.** Царкоўны служыцель, які звоніць у званы.

Званару ж было строга загадана не спяшыць і не спазняцца а біць у звон дакладна тады, калі будзе гаварыць навагародскі князь-хрысціянін. *Л. Дайнека.*

**Зване́ц.** Травяністая расліна з жоўтымі кветкамі і плодам-каробачкай.

Цвіла вятроўніца, цвілі ключыкі, грамкі, смактушкі, цвіў званец, нівяннік, чысцік, цвілі герань лугавая і лісахвост.. *Я Сіпакоў.*

## ЗВАНІЦЬ // ЗВІНЕЦЬ

**Зва́ніць.** **1.** Ствараць звон; падаваць сігнал званком.

Зазвінеў званок. Гэта званіў наш маўклівы вартаўнік. *В. Адамчык.*

**2.** *перан.* Разносіць чуткі, плёткі, пагалоску.

Па ўсёй вёсцы званіла Раманава цётка: — Гэта ж радачкі дайце, людзі добрыя! Якое малое — і такое ўпраўнае *І. Кірэйчык.*

**3.** Выклікаць званком да тэлефона; гаварыць па тэлефоне

Дадому Алесь ехаў адзін: Кібрык пайшоў некаму званіць па тэлефоне. *У. Шыцік.*

**Звіне́ць.** Утвараць тонкі металічны гук; звонка гучаць.

Хаім біў малатком па агністай падкове, і малаток гучаў то глуха, то звінеў, ападаючы на пустое кавадла жывым, дрыготкім пераззвонам. *Я. Брыль.* ‖ *перан.* Поўніцца чым-н. звінючым К вечару пакідае звінець неабдымная шырыня летняга дня, і кладзецца цішыня на зямлю. *К. Чорны.*

## ЗВАНІЧНЫ // ЗВАНКОВЫ

**Зваўнічны.** Які мае адносіны да званіцы.

Званічнае акно.

**Званко́вы.** Які мае адносіны да званак — картачнай масці

Званковы туз.

## ЗВАРАНЫ // ЗВАРАЧНЫ // ЗВАРНЫ

**Зва́раны.** **1.** Прыгатаваны ці атрыманы пры дапамозе варкі

Яна [юшка] астывала ў вядры, што стаяла на росна траве і прываблівала такімі прыемнымі пахамі, якія могуць быць толькі ў юшкі, зваранай са свежай рыбы. *У Шахавец.*

**2.** Злучаны, змацаваны шляхам зваркі.

Зварания трубы. Зварания рэйкі.

**Зва́рачны.** Які мае адносіны да зваркі, прызначаны для зваркі.

— Адкуль гэта, хлопцы, перацягваеце зварачны апарат? — пытаецца начальнік у трох потных, ружовых у твары хлопцаў.— З падстанцыі. *В. Мысліве*ц.

**Зварны́.** Які атрымліваецца шляхам зваркі.

Зварныя канструкцыі — гэта не простыя копіі старых кляпаных канструкцый, дзе замест заклёпак накладзены швы. *Звязда.*

### ЗВЕРАВАТЫ // ЗВЕРСКІ // ЗВЯРЫНЫ

**Зверава́ты.** Падобны з выгляду на звера; грубы, страшны.

У вёску завітаў бургамістр воласці Бадзягін. Сярэдніх год мужчына, звераваты на выгляд. *У. Федасеенка.*

**Зве́рскі.** Характэрны для звера; жорскі, люты, дзікі.

Немцы шалелі, наладжвалі зверскія кары. *М. Лынькоў.*

**Звяры́ны. 1.** Які мае адносіны да звера; такі, як у звера.

Звярыны след. Звярыны твар.

**2.** *перан.* Жорсткі, бязлітасны.

Звярыная крыважэрнасць.

### ЗВЫКЛЫ // ЗВЫЧАЁВЫ // ЗВЫЧАЙНЫ // ЗВЫЧНЫ

**Звы́клы.** Які ўвайшоў у прывычку, стаў прывычкай; добра знаёмы.

Звыклым рухам хуценька зашчоўкнуў замок прывязных рамянёў. *А. Алешка.*

**Звычаёвы.** Які мае адносіны да звычаю, звязаны са звычаямі.

Паводле норм звычаёвага права, у адведкі нельга было ісці з пустымі рукамі, таму жанчыны неслі з сабой яешню, хлеб, кашу, сыр, мёд, масла .. *Т. Кухаронак.*

**Звыча́йны.** Які не вылучаецца сярод іншых, нічым не знамянальны.

Звычайная вёска стаяла, а ў вёсцы — звычайная хата, якіх і на свеце нямала, і на Беларусі багата. *У. Дубоўка.*

**Звы́чны.** Які прывык да чаго-н., звыкся з чым-н.; прывычны.

Да баявой прыгоды звычны, без меркаванняў і разваг, шынель скідае пагранічнік, бяжыць з вінтоўкай па слядах. *П. Глебка.*

### ЗВЯЗАНЫ // ЗВЯЗНЫ

**Звя́заны. 1.** Змацаваны, злучаны адзін з адным; зблізаны агульнымі справамі.

Сабралася дружная кампанія добрых сяброў, звязаных нечым большым, чым звычайная дружба. *І. Шамякін.*

**2.** Пазбаўлены свабоды, лёгкасці, натуральнасці.

Лабановіч усе гэтыя дні чуў сябе як бы чымся звязаным, як бы на ім была надзета цесная адзежына. *Я. Колас.*

**3.** Звязаны з якім-н. хімічным рэчывам; несвабодны.

Кожная тона звязанага азота, унесеная ў глебу ў выглядзе мінеральнага ўгнаення, павышае ўраджай бульбы ў сярэднім на 100 тон. *Р. Гацко.*

**Звя́зны.** Добра выкладзены, паслядоўны, лагічна стройны.

Вучыць звязнаму расказу па малюнку рэкамендуецца пачынаць з адказаў на пытанні, якія ставяцца дзецям у лагічнай паслядоўнасці. *М. Марчанка.*

## ЗГАДКА // ЗДАГАДКА // ЗДАГАДЛІВАСЦЬ

**Зга́дка.** *Разм.* Успамін пра што-н. між іншым; беглая заўвага.

Зорка Венера ўзышла над зямлёю, светлыя згадкі з сабой прынясла... *М. Багдановіч.*

**Здага́дка. 1.** Думка, меркаванне, заснаваныя на верагоднасці, магчымасці чаго-н.

Валя зусім разгубілася і не ведала, што рабіць, што яшчэ сказаць: здагадкі, адна страшнейшая за другую, апанавалі яе. *І. Шамякін.*

**2.** Здольнасць улоўліваць сутнасць чаго-н; кемлівасць, здагадлівасць.

Але дзе не хапае сілы, там выручае здагадка. *М. Лынькоў.*

**Здага́длівасць.** Здольнасць хутка разумець што-н., разбірацца ў чым-н.; кемлівасць.

Аўсееў сваёй хітрасцю, празмернай здагадлівасцю і кемнасцю наконт розных ходаў-выхадаў не падабаўся старшыні. *В. Быкаў.*

## ЗГОДЛІВЫ // ЗГОДНІЦКІ // ЗГОДНЫ

**Зго́длівы.** Які лёгка згаджаецца, паддаецца ўплыву, угавору; згаворлівы, уступчывы, памяркоўны.

Стаў даводзіць селяніну нехта нейкі ў чорным: як павінен быці ўслужным, згодлівым, пакорным. *Я. Купала.*

**Зго́дніцкі.** Які мае адносіны да згодніка, згодніцтва.

Згодніцкая тактыка. Згодніцкая палітыка.

**Зго́дны.** Які выражае згоду, прытрымліваецца адной думкі; аднадушны.

Сцяпан, хоць і не браў удзелу ў той іхняй гаворцы, але быў згодны са сваімі аднавяскоўцамі. *П. Кавалёў.*

**Згу́блены.** Страчаны; забыты па няўважлівасці; знішчаны. Згублены марна час. Згубленыя ключы.

**Згу́бны.** Які вядзе да згубы, пагражае згубай; пагібельны. Згубны ўплыў. Згубны намер.

## ЗДАВАЛЬНЯЮЧЫ // ЗДАВОЛЕНЫ

**Здавальня́ючы.** Які адпавядае пэўным патрабаванням; даволі поўны, правільны.

Колькі не было прапанавана азначэнняў віду, ні адно з іх не можа быць здавальняючым. *К. Ціміразеў.*

**Здаво́лены.** Які адчувае поўнае задавальненне; задаволены.

Дзядзька быў надзвычайна здаволены сваім спрытным пляменнікам. *З. Бядуля.*

## ЗДЗЕЙСНЕНЫ // ЗДЗЯЙСНЯЛЬНЫ

**Здзе́йснены.** Ажыццёўлены; які стаў рэальнасцю; выкананы. Здзейснены план. Здзейсненая задума.

**Здзяйсня́льны.** Такі, які можна здзейсніць, які можа здзейсніцца.

Здзяйсняльныя мары. Здзяйсняльныя жаданні.

## ЗДЗІЎЛЕНЫ // ЗДЗІЎЛЯЮЧЫ

**Здзі́ўлены.** Які выражае здзіўленне; прыведзены ў здзіўленне.

У Зосі вочы крыху расплюшчаны, на шчоках ямачкі, на вачах здзіўленая ўсмешка. *В. Хомчанка.*

**Здзіўля́ючы.** Які выклікае здзіўленне; незвычайны.

Шафёр круціць баранак, думае аб здзіўляючай упартасці хлапца і, азірнуўшыся, ківае на яго забінтаваныя рукі. *М. Ракітны.*

## ЗДЗЯЙСНЕННЕ // ЗДЗЯЙСНЯЛЬНАСЦЬ

**Здзяйсне́нне.** Ажыццяўленне, правядзенне ў жыццё; выкананне намеру.

Цяпер яго мара была блізка да здзяйснення. *І. Навуменка.*

**Здзяйсня́льнасць.** Магчымасць ажыццяўлення чаго-н.

У яго не было ніякага сумнення ў здзяйсняльнасці гэтых смелых планаў. *Звязда.*

## ЗДРАБНЕЛЫ // ЗДРОБНЕНЫ

**Здрабне́лы. 1.** Які здрабнеў, стаў дробным.

Пусцеў бераг, знікалі з вачэй здрабнелыя кропкі баркасаў за Марвенчынай касою, а Бамбака ўсё стаяў ля збуцвелага плота, паклаўшы на яго шырокія далоні. *В. Карамазаў.*

**2.** *перан.* Які страціў унутраную значнасць, стаў менш глыбокім.

Мастак адказвае за кожнае слова, за кожную коску, ён павінен помніць, што літаратура не церпіць дробных тэм, здрабнелых пачуццяў, бяздумнага апісальніцтва. *С. Грахоўскі.*

**Здро́бнены.** Раздроблены на частачкі, скрышаны; менш значны.

Два чалавекі, якія былі ў кузаве, ледзь паспявалі разраўноўваць здробненую зялёную масу. *Звязда.*

## ЗДРАДЛІВЫ // ЗДРАДНІЦКІ // ЗДРАДНЫ

**Здра́длівы. 1.** Які заключае ў сабе здраду, з'яўляецца здрадай; такі, на які нельга спадзявацца; прадажны, вераломны.

[Ворагам] удаецца мець уплыў толькі на здрадлівых і нікчэмных людзей. *М. Хведаровіч.*

**2.** Ненадзейны, падманлівы.

Здрадлівая дрыгва пагражала зацягнуць у сваю багну кожнага, хто аступіцца або зробіць неасцярожны крок. *Я. Колас.*

**3.** *перан.* Які выдае тое, што хацелася б утаіць.

На апалых лісцях ляжала начная шэрань, на растаптанай намаразі заставалася ад ног здрадлівая сцежка. *І. Шамякін.*

**Здра́дніцкі.** Які мае адносіны да здрадніка; уласцівы здрадніку.

У Аўгінні ніякіх сумненняў цяпер не заставалася: Саўку нанялі, купілі за грошы і ставілі на цёмную, здрадніцкую справу. *Я. Колас.*

**Здра́дны.** Тое, што і з д р а д л і в ы.

Здрадны чалавек. Здрадная ўсмешка.

## ЗДУРАВАЦЬ // ЗДУРНЕЦЬ // ЗДУРЭЦЬ

**Здурава́ць.** *Разм.* Сказаць, зрабіць, дапусціць якое-н. глупства, дурасць.

Ладымер думаў: да чаго яго прыставіць? Здураваў, што з самай вясны не пайшоў ён у мяне чараду ганяць у поле. *К. Чорны.*

**Здурне́ць.** *Разм.* Страціць розум; стаць дурным.

«Здурнеў ужо зусім»,— каб было чутна, гаварыла Параска,

папраўляючы хустачку і адводзіла адтуль Кандрата. *М. Лобан.*

**Здурэ́ць.** *Разм.* Зрабіць якое-н. глупства, дурасць.

Раз перад земскім шапкі, здурэў, забыўся зняць. *Я. Купала.*

### ЗДЫМАЧНЫ // ЗДЫМНЫ

**Зды́мачны.** Які мае адносіны да здымкі; прызначаны для здымкі.

Ён павінен своечасова забяспечыць здымачную групу тэхнікаю, машынамі, стужкамі, своечасова зрабіць апрацоўку знятага матэрыялу. *В. Гігевіч.*

**Зды́мны.** Такі, які можна зняць; не замацаваны наглуха. Здымная рама. Здымная сетка.

### ЗЕЛЯНЕЦЬ // ЗЕЛЯНІЦЬ

**Зеляне́ць.** Станавіцца зялёным; вылучацца зялёным колерам.

Каля плоту пачынаў зелянець чорны куст агрэсту. *В. Адамчык.*

**Зеляні́ць.** *што.* Рабіць зялёным, афарбоўваць у зялёны колер.

Якую хочаш працу дай: ён [Дняпро] можа зеляніць галіны, паіць калгасны ўраджай. *М. Лужанін.*

### ЗЕМЛЯНЫ // ЗЯМЕЛЬНЫ // ЗЯМЛІСТЫ // ЗЯМНЫ

**Земляны́. 1.** Які мае адносіны да зямлі — глебы, грунту.

А калодзеж ля гары, там, дзе мы стаялі, земляных работ майстры доўгі час капалі. *М. Калачынскі.*

**2.** Зроблены з зямлі.

Расце земляны вал, ніжэй у дол уваходзяць землякопы. *Я. Колас.*

**3.** Які жыве, расце або знаходзіцца ў зямлі.

Арахіс, або земляны арэх, культывуецца ў нас на Каўказе і ў Сярэдняй Азіі. *Звязда.*

**Зяме́льны.** Які мае адносіны да землеўладання ці землекарыстання.

Не дапамагла немцам і так званая зямельная рэформа, якую яны шырока разрэкламавалі і ў плакатах, і ў газетах, і па радыё. *М. Лынькоў.*

**Зямлі́сты. 1.** Такі, у якім многа зямлі; з зямлёю.

Зямлісты торф. Зямлістая гліна.

**2.** Шаравата-бледны (звычайна пра колер твару).

Твар яго быў худы, сухарлявы, з глыбокімі ўпадзінамі шэрых зямлістых шчок. *М. Лынькоў.*

Н я п р а в і л ь н а. Тут, у засені густой травы, поўзалі слізкія і слюнявыя слімакі, вадзіліся гадзюкі і зямлістыя (трэба: земляныя) жабы-рапухі. *Б. Сачанка.*

**Зямны́. 1.** Які мае адносіны да планеты Зямля.

Зямная кара. Зямная вось.

**2.** Які мае адносіны да зямлі як месца жыцця і дзейнасці чалавека.

Усё яшчэ хацелася спаць, але ён зразумеў, што гэта быў апошні ягоны зямны сон, што неўзабаве, магчыма, праз некалькі імгненняў, ён засне навекі. *Л. Дайнека.*

### ЗЕМСТВА // ЗЕМШЧЫНА

**Зе́мства.** Даволі абмежаванае ў правах мясцовае самакіраванне ў дарэвалюцыйнай Расіі.

Увосень земства не прыслала больш настаўніка, бо не магло, відаць, знайсці, і перастала плаціць за арэнду хаты. *А. Пальчэўскі.*

**Зе́мшчына.** Частка Рускай дзяржавы, выдзеленая Іванам IV (пасля ўвядзення апрычніны) у тэрыторыю з самастойным кіраваннем; жыхары гэтай тэрыторыі (або наогул сельскай мясцовасці).

Уся тэрыторыя дзяржавы была падзелена на дзве часткі: земшчыну, у якой кіраванне заставалася ў руках Баярскай думы, дзеючай пад кіраўніцтвам цара, і апрычніну, г. зн. асабістае ўладанне цара. *Гісторыя СССР.*

### ЗІМНІ / ЗІМОВЫ // ЗІМНЫ

**Зі́мні.** Тое, што і з і м о в ы.

Ні звер, ні чалавек, ні птушка не парушалі яго [лесу] ранішняга зімняга спакою. *Я. Колас.*

**Зімо́вы.** Звязаны з зімою; які бывае зімой; зімні.

Слупы дыму выцягваліся роўна, стромка, нібы падпіраючы невысокае зімовае неба. *М. Лынькоў.*

**Зі́мны.** *Разм.* Халодны, сцюдзёны.

Зімны вецер. Зімны дзень.

### ЗЛАДЗЕЙСКІ // ЗЛАДЗЕЯВАТЫ

**Зладзе́йскі.** Характэрны для злодзея, уласцівы яму.

Здагадалася яна, што гэта зладзейская работа, бо ад зладзеяў у іх аколіцы шмат хто бяду меў. *А. Якімовіч.*

**Зладзеява́ты.** Схільны да зладзейства; жулікаваты, хітры.

Перш за ўсё ён быў не толькі грубаваты, але зусім грубы,

вельмі неразумны, бязвольны, баязлівы, крыху падлюкаваты, крыху зладзеяваты. *А. Чарнышэвіч.*

### ЗЛАРАДНАСЦЬ // ЗЛАРАДСТВА

**Злара́днасць.** Пачуццё радасці пры няшчасці, няўдачы другіх.

«Што, даражэнькі, даездзіўся?!» — сказаў у думках Міхась, і нешта падобнае на зларадпасць заварушылася ў яго душы. *Я. Васілёнак.*

**Злара́дства.** Злая радасць пры няшчасці другіх.

— Не надта апшэрвайся, Ярмак. Голым пупам як свяціў, так і свяціць будзеш..,— аж прысеў Васіль у зларадстве. *І. Дуброўскі.*

### ЗЛАСЛІВЫ // ЗЛОСНІЦКІ // ЗЛОСНЫ

**Зласлі́вы.** Поўны злосці, варожасці.

Не йдзі да палаца шукаці пацехі — там толькі пачуеш зласлівыя смехі. *Я. Купала.*

**Зло́сніцкі.** Які мае адносіны да злосніка, не жадае дабра іншым.

Сінонім: нядобразычлівы.

Злосніцкую натуру гэтай жанчыны ўсе ведалі і нічога добрага ад яе не чакалі. *Звязда.*

**Зло́сны. 1.** Поўны злосці, варожасці, злых намераў.

Жыў некалі адзін пан, ды такі злосны, што бяда: ніхто не мог яму дагадзіць. *А. Якімовіч.*

**2.** Сярдзіты, злы, куслівы (пра жывёл).

Кудлаты сабака сустрэў іх злосным брэхам. *Я. Колас.*

**3.** Свядома нядобрасумленны; зламысны.

Злосны шкоднік быў раскрыты — заатэхнік той стары. *П. Броўка.*

### ЗЛАЧЫННАСЦЬ // ЗЛАЧЫНСТВА

**Злачы́ннасць.** Наяўнасць злачынстваў, іх колькасць.

Барацьба са злачыннасцю. Злачыннасць зніжаецца.

**Злачы́нства.** Грамадска небяспечнае дзеянне, якое парушае закон і падлягае крымінальнай адказнасці.

Філістовіч яшчэ пэўны час спрабаваў выкручвацца, але вопытны следчы крок за крокам выкрываў усё новыя злачынствы былога гітлераўскага служкі. *М. Паслядовіч.*

### ЗЛУЧНІК // ЗЛУЧОК

**Злу́чнік.** Службовае слова, якое служыць для сувязі слоў і сказаў.

Калі аднародныя члены сказа звязаны злучнікам **і** парамі,

то кожная пара аднародных членаў аддзяляецца адна ад другой коскай. *Беларуская мова.*

**Злучо́к.** Кароткая рыска, якая злучае два словы ў адно.

Сінонім: дэфіс.

Калі аднаслоўны прыдатак і азначаемы ім назоўнік з'яўляюцца назоўнікамі агульнымі, то яны пішуцца праз злучок. *Беларуская мова.*

### ЗМАРДАВАНЫ // ЗМАРНАВАНЫ

**Змардава́ны.** *Разм.* Вельмі змучаны, знясілены; крайне стомлены.

Змардаваныя, знясіленыя, яны [палонныя] марылі толькі аб тым, каб як вырвацца на волю. *І. Новікаў.*

**Змарнава́ны.** Марна страчаны, загублены.

А найгоршы хіба — змарнаваны без працы, дзень, які ў адзіноце, у безнадзейнасці страчан. *М. Танк.*

### ЗМЕНЛІВЫ // ЗМЕННЫ

**Зме́нлівы.** Які лёгка і часта мяняецца; няўстойлівы, непастаянны.

Але дзіўна зменлівы твар: часам здаецца — зусім стары, суровы, а часам па-юнацку малады і добры, як вось цяпер, калі асвяціўся ўсмешкай. *І. Шамякін.*

**Зме́нны. 1.** Звязаны з работай па зменах.

Значнае перавыкананне зменных заданняў зрабілася ў яго прыемным абавязкам. *А. Кулакоўскі.*

**2.** Які можна змяніць, памяняць; які змяняецца.

Прыметнік, як і назоўнік,— зменная часціна мовы.

### ЗМУЧАНЫ // ЗМУШАНЫ

**Зму́чаны.** Даведзены да поўнай знямогі; крайне стомлены, знясілены.

Андрэй убачыў апушчаныя вусы бацькі на худым, змучаным твары. *П. Пестрак.*

**Зму́шаны.** Зроблены пад прымусам або па неабходнасці; вымушаны.

Колас насумаваўся ў змушаным расставанні з роднаю зямлёй, сніць і бачыць яе. *М. Лужанін.*

**Знакаміты.** Шырока вядомы; знатны, славуты.

Лапацінскі, вядома, рад быў займець такога знакамітага зяця. *А. Якімовіч.*

**Знамяна́льны. 1.** Важны па свайму значэнню, выдатны.

Самыя раннія навелы Чорнага былі непасрэдным водгукам на знамянальныя падзеі ў жыцці краіны. *М. Луфераў.*

**2.** Які мае асаблівы сэнс, асаблівае значэнне.

Усе глядзелі на сцягі як на нейкую знамянальную з'яву. *І. Шамякін.*

**3.** Які мае самастойнае значэнне (у граматыцы).

Да разраду назоўнікаў належаць знамянальныя словы, якія маюць прадметнае значэнне. *Граматыка беларускай мовы.*

## ЗНЕВАЖАЛЬНЫ // ЗНЯВАЖАНЫ // ЗНЯВАЖЛІВЫ

**Знева́жальны.** Здольны зняважыць, поўны знявагі; зняважлівы.

Колькі ён напачакаў яе, .. поўнячыся нецярпеннем, злосцю, абразай, і адразу забываў усе колкія, зневажальныя словы, як толькі Яніна з'яўлялася. *І. Навуменка.*

**Зняўа́жаны.** Пакрыўджаны, абражаны, прыніжаны; зняслаўлены.

Янка Купала ўмеў быць пяшчотным, калі пісаў пра зняважаных і пакрыўджаных. *Р. Шкраба.*

**Знява́жлівы.** Які зневажае, поўны знявагі.

Барані божа, дайсці да такога стану. Лепш загінуць адразу без зняважлівых пакут. *С. Грахоўскі.*

## ЗНЕЛЮБЕЦЬ // ЗНЕЛЮБІЦЬ

**Знелюбе́ць.** *Разм.* Зрабіцца нялюбым.

Сінонім: абрыднуць.

Гэй, не адлятайце ў вырай, журавы! Хіба знелюбелі нашы паплавы? *Е. Лось.*

**Знелюбі́ць.** *каго-што. Разм.* Адчуць моцную непрыхільнасць, непрыязнасць да каго-чаго-н.

Сінонім: неўзлюбіць.

Віця за сённяшні дзень знелюбіў Апанаса. Можа, каб не ён, дык усё было б добра... *У. Нядзведскі.*

## ЗНЯСІЛЕЦЬ // ЗНЯСІЛІЦЬ

**Знясі́лець.** Стаць бяссільным; дайсці да знямогі.

Сінонімы: аслабець, знемагчы.

З вялікай натугай вылез з-пад цёплай коўдры, апрануўся,

пайшоў па дровы. Трэба прапаліць печ і хоць выпіць чаю. А то зусім можна знясілець. *І. Шамякін.*

**Знясі́ліць.** *каго-што.* Пазбавіць сілы, зрабіць бяссільным
Сінонім: аслабіць.

Ты хоць і выздаравеў, а цяжка працаваць не можаш, надта знясіліла цябе хвароба. *М. Машара.*

Няправільна. Па газетах поўзалі чамусьці чырвонарабыя божыя кароўкі, і была ў іхніх рухах такая ж марудлівасць, як і ў самім горадзе, які нібы знясіліў (трэба: знясілеў) ад гарачыні, гары і пылу. *І. Чыгрынаў.*

## ЗОЛКІ // ЗОЛЬНЫ

**Зо́лкі.** Сыры, пранізліва халодны (звычайна пра дождж, вецер).

Зверху сыпалася імжа, як увосень. Халодная, золкая. *І. Пташнікаў.*

**Зо́льны.** Які мае адносіны да золі — сырога, пранізлівага халоднага надвор'я.

Зольная вільгаць аблеплівала ўсё: і дрэвы, і кусты, і густую ігліцу на зямлі. *М. Лынькоў.*

## ЗОРНЫ // ЗОРЧАТЫ

**Зо́рны.** Пакрыты, усеяны зоркамі; з мноствам зорак; які мае адносіны да зоркі, зорак.

Высока ў зорным, чыстым небе вісеў сярпок-месяц. *В. Адамчык.*

**Зо́рчаты.** Які мае форму зоркі.

Сінонім: зоркападобны.

У аснове пакрыцця будынка ляжаць складаныя зорчатыя скляпенні. *А. Ліс.*

## ЗРАЗУМЕЛЫ // ЗРАЗУМЕТЫ

**Зразуме́лы. 1.** Даступны разуменню.

Сінонімы: просты, ясны.

Чаму ў сэрцы беларускім песня Тарасова адгукнулася, запела зразумелым словам? *Я. Купала.*

**2.** Небеспадстаўны, абгрунтаваны.

Сінонім: апраўданы.

Пасля доўгага роздуму і зразумелых ваганняў я асмеліўся зірнуць у пісьмо. *Я. Васілёнак.*

**Зразуме́ты.** Асэнсаваны, усвядомлены; які зразумелі.

Думка — найвялікшая, яшчэ не зразуметая намі крыніца сілы. *У Дубоўка.*

### ЗУБАСТЫ // ЗУБАТЫ // ЗУБНЫ // ЗУБЧАСТЫ

**Зуба́сты. 1.** З вялікімі, вострымі зубамі; з вялікай колькасцю зубоў.

Вялікі зубасты шчупак стаяў у вадзе нерухома, як затопленае палена, падпільноўваючы на мелкім месцы верхаводак, плотак і сяляў. *В. Вольскі.*

**2.** *перан.* Дзёрзкі і востры на язык; з'едліва-насмешлівы.

Ну і тая жанчына зубастая была. «Вы,— кажа,— не забывайцеся, што ў нашай вёсцы ёсць вельмі многа такіх культурных людзей, якім могуць пазайздросціць некаторыя гарадскія» *У. Дубоўка.*

**Зуба́ты.** З вялікімі зубамі; з зубамі наогул.

Акцызнік крычыць і крэкча, падымаючыся з-пад плота, усміхаецца нечага на ўвесь зубаты рот. *І. Пташнікаў.*

**Зубны́.** Які мае адносіны да зубоў.

Зубны лекар быў у яго ўяўленні нейкім зубатым дзядзькам. *З. Бядуля.*

**Зубча́сты.** З зубцамі, зуб'ём; з няроўнымі, ломанымі абрысамі.

Усё відаць, як на далоні: і кожнае дрэва на шляху, і калодзежны жураў у дальняй вёсцы, і зубчасты край лесу, і бялявы дымок далёка-далёка, дзе праходзіць чыгунка. *М Лынькоў*

### ЗЫХОДЗЯЧЫ // ЗЫХОДНЫ

**Зыхо́дзячы. 1.** *з чаго.* Грунтуючыся на чым-н., беручы за аснову

Зыходзячы са шматлікіх фактаў, ён і зрабіў такое заключэнне.

**2.** Які спадае, убывае; які выцякае (пра вадкасць).

Толькі нямногім часцям зыходзячай крывёю дывізіі ўдалося прарваць акружэнне. *Звязда.*

**Зыхо́дны.** Пачатковы, адпраўны.

Фальклорныя крыніцы з'явіліся ў некаторай ступені зыходным пунктам, ад якога пісьменнікі адштурхоўваліся. *Ю. Пшыркоў.*

### ЗЯБКІ // ЗЯБЛЕВЫ // ЗЯБЛЫ

**Зя́бкі.** Пранізліва халодны; вельмі адчувальны да холаду

Ад туману, ад балота павявала зябкай тарфяной сырасцю. *І Мележ.*

**Зя́блевы.** Які мае адносіны да зябліва — узаранага восенню поля.

[Лемяшэвіч] перасігнуў цераз плот і пайшоў гародам, па зяблевым ворыве, па светлай дарожцы, вытканай месяцам на белай зямлі. *І. Шамякін.*

**Зя́блы.** *Разм.* Змёрзлы, азяблы.

Асцярожна — стук у дзверы зяблаю рукою. *Я. Колас.*

### ЗЯМЛЯК // ЗЯМЛЯНІН

**Зямля́к.** Ураджэнец адной з кім-н. мясцовасці.

— Дык вядома, землякі! — ледзь не ўскрыкнуў баец.— З адной рэспублікі, значыць, і землякі. *А. Кулакоўскі.*

**Зямля́нін.** Насельнік, жыхар планеты Зямля.

Той час ужо нам бачыцца, калі вялікае яднанне явай стане, і будуць звацца людзі на Зямлі, усе на ўсёй, па-мірнаму — зямляне. *А. Зарыцкі.*

## І

### ІГОЛАЧНЫ // ІГОЛКАВЫ // ІГОЛЬЧАСТЫ // ІГОЛЬЧАТЫ

**Іго́лачны.** Які мае адносіны да іголкі.

Іголачнае вушка. Іголачны ўкол.

**Іго́лкавы.** Які мае адносіны да іголкі, вырабу іголак.

Іголкавы цэх. Іголкавая вытворчасць.

**Іго́льчасты.** Пакрыты вялікай колькасцю іголак (звычайна пра хвойныя дрэвы, кусты).

Igольчастая елачка. Igольчасты кактус.

**Іго́льчаты.** Падобны з выгляду на іголкі; з іголкамі.

Каля варот паміж гладкіх каменняў, якімі быў забрукаваны двор, расла высокая igольчатая трава. *Я. Радкевіч.*

### ІДЭАЛІЗАВАНЫ // ІДЭАЛІСТЫЧНЫ // ІДЭАЛЬНЫ

**Ідэалізава́ны.** Лепшы, чым у сапраўднасці.

Сінонім: прыхарошаны.

Людзі гэтыя — не так званыя ідэальныя героі і не ідэалізаваныя асобы, а самыя звычайныя, «зямныя» працаўнікі разумовай і часткова фізічнай працы. *Полымя.*

**Ідэалісты́чны.** Які мае адносіны да ідэалізму, ідэалістаў (у філасофіі).

Па прычыне ідэалістычнага светапогляду малады паэт не бачыў у звычайным жыцці прыгожага і ўзнёслага. *В. Каваленка.*

**Ідэа́льны. 1.** Які адпавядае паняццю аб ідэале; які існуе ва ўяўленні, незямны.

Сінонім: узнёслы.

Усім нам Алеся ў тыя гады здавалася ідэальным увасабленнем беларускай дзяўчыны. *Я. Рамановіч.*

**2.** *Разм.* Вельмі добры, выдатны; дасканалы.

Сінонім: узорны.

Вядома, ніводзін з аўтараў не змог сказаць, што ён напісаў ідэальную рэч. *М. Паслядовіч.*

### ІЗАЛЯВАНЫ // ІЗАЛЯТАРНЫ // ІЗАЛЯЦЫЙНЫ // ІЗАЛЯЦЫЯНІСЦКІ

**Ізалява́ны. 1.** Адасоблены, асобны.

Праўда, у астрозе ён сядзеў на другім паверсе і быў, па яго словах, ізаляваны ад усіх вязняў. *М. Машара.*

**2.** Пакрыты ізаляцыяй — матэрыялам, які засцерагае ад рассейвання і ўцечкі энергіі; не аголены.

Лёня выпрасіў у партызанскім атрадзе «Дзядзі Дзімы» метраў дзвесце ізаляванага проваду. *І. Новікаў.*

**Ізаля́тарны.** Які мае адносіны да ізалятара.

Ізалятарны ланцужок складаецца з двух фарфоравых арэшкавых або пальчыкавых ізалятараў. *Таваразнаўства.*

**Ізаляцы́йны.** Прызначаны для ізаляцыі.

Казачэнка і Сяргей паялі, Алёша нешта абмотваў ізаляцыйнай лентай, а дзяжурны электрык падпільваў ля акна, у цісках, нейкую металічную пласцінку. *І. Шамякін.*

**Ізаляцыяні́сцкі.** Які мае адносіны да ізаляцыянізму — палітыкі дзяржаўнай замкнёнасці, адасобленасці.

Ізаляцыяністкая палітыка.

### ІКРАНЫ // ІКРЫСТЫ

**Ікраны́.** Які мае ў сабе ікру; які мае адносіны да ікры.

Ікраная рыба. Ікраная бочка.

**Ікры́сты.** Які мае ў сабе многа ікры.

Ікрыстая плотка. Ікрысты шчупак.

### ІЛЮЗІЯНІСТЫЧНЫ // ІЛЮЗІЯНІСЦКІ

**Ілюзіяністы́чны.** Які мае адносіны да ілюзіянізму — антынавуковага светапогляду, згодна з якім свет з'яўляецца ілюзіяй.

Ілюзіяністычная філасофія.

**Ілюзіяні́сцкі.** Які мае адносіны да ілюзіяніста — цыркавога артыста.

Ілюзіяніскі нумар.

## ІЛЮСТРАВАНЫ // ІЛЮСТРАЦЫЙНЫ

**Ілюстрава́ны.** Які мае ілюстрацыі, з ілюстрацыямі.
Ілюстраваны часопіс. Ілюстраваная кніжка.

**Ілюстрацы́йны. 1.** Які служыць, з'яўляецца ілюстрацыяй. Ілюстрацыйны матэрыял. Ілюстрацыйныя малюнкі.

**2.** Пабудаваны на знешнім апісанні без пранікнення ў сутнасць справы (пра творы літаратуры, мастацтва і пад.).

У дыялогах І. Мележа няма таго пустаслоўя, якое часта надараецца сустракаць у творах ілюстрацыйных, не асветленых актыўнай думкай, не сагрэтых узрушанасцю сэрца. *У Юрэвіч.*

## ІМІГРАНТ // ЭМІГРАНТ

**Іміґра́нт.** Перасяленец з якой-н. краіны.

Ёсць у Канадзе шмат імігрантаў, у тым ліку славян. *Я. Брыль.*

**Эміґра́нт.** Чалавек, які перасяліўся са сваёй радзімы ў іншую краіну.

Частка эмігрантаў зрабіла свае вывады з урокаў гісторыі, зразумела свае памылкі, жыве добрымі патрыятычнымі настроямі. *І. Мележ.*

## ІМІТАТАРСКІ // ІМІТАЦЫЙНЫ

**Іміта́тарскі.** Які мае адносіны да імітатара, пераймальны.

Ён, відаць, быў бы добрым артыстам: імітатарскія здольнасці ў яго проста зайздросныя. *ЛіМ.*

**Імітацы́йны.** Які мае адносіны да імітацыі дакладнага ўзнаўлення, падробкі чаго-н.

Пафас гэтых і многіх падобных вершаў вонкавы, імітацыйны, у ім няма той глыбіні, ён непераборлівы ў сродках выяўлення. *Р. Бярозкін.*

## ІМПРАВІЗАВАНЫ // ІМПРАВІЗАТАРСКІ // ІМПРАВІЗАЦЫЙНЫ

**Імправізава́ны. 1.** Створаны адразу, у час выканання, без папярэдняй падрыхтоўкі.

Верш імправізаваны, лёгкі, нічым «староннім» не заклапочаны. *Р. Бярозкін.*

**2.** *перан.* Зроблены наспех, без папярэдніх прыгатаванняў

Чатыры грузавікі, пастаўленыя адкрытымі платформамі адзін да аднаго, стварылі імправізаваную эстраду *Я Рамановіч*

**Імправіза́тарскі.** Які мае адносіны да імправізатара.

Як ніколі раней, яго імправізатарскі талент праявіўся на тым памятным вечары самадзейнасці. *ЛіМ*

**Імправізацы́йны.** Які мае адносіны да імправізацыі; які ўзнікае ў час выканання, на хаду.

Імправізацыйныя матывы.

### ІМПУЛЬСІЎНЫ // ІМПУЛЬСНЫ

**Імпульсі́ўны. 1.** Абумоўлены несвядомым, непераадольным матывам; які не залежыць ад волі, свядомасці.

Сінонім: міжвольны.

Дзеці, паступіўшыя ў школу, шмат у чым яшчэ дзейнічаюць пад уплывам першых неўсвядомленых пабуджэнняў, захапленняў. Іх дзеянні часта імпульсіўныя. *Педагогіка.*

**2.** Схільны дзейнічаць пад уплывам раптоўнага імпульсу — унутранага штуршка; парывісты (пра чалавека).

Яму часта не хапае цярплівасці, спакою, метадычнасці, рытму ў працы. Гэта натура паэтычная, імпульсіўная. *Ф. Куляшоў.*

**І́мпульсны.** Які мае адносіны да электрычных імпульсаў, звязаны з імі.

Імпульсная радыёсувязь. Імпульсны генератар.

### ІМШЫЦЬ // ІМШЭЦЬ

**Імшы́ць.** *што.* Класці мох між бярвення ў новым зрубе; канапаціць мохам.

Вось і хата: дзед яшчэ імшыў зруб яе смалісты, сукаваты. *М. Танк.*

**Імшэ́ць.** Зарастаць мохам.

Дзе імшэла гнілое балота — сцяной стаяла густая, высокая пшаніца. *А. Якімовіч.*

### ІМЯНІННЫ // ІМЯННЫ

**Імянí нны.** Які прызначаецца, робіцца ў гонар імянін.

У 1843 годзе быў надрукаваны артыкул Цітовіча, дзе прыводзіўся імянінны верш. *Полымя.*

**Імянны́.** Памечаны імем уладальніка; выдадзены на чыё-н. імя.

На родны завод ён вярнуўся з падзякамі ад камандавання і імянным гадзіннікам. *А. Асіпенка.*

### ІНДЗЕЙЦЫ // ІНДУСЫ / ІНДЫЙЦЫ

**Індзе́йцы.** Агульная назва карэнных плямён і народнасцей, якія да паяўлення еўрапейцаў насялялі амерыканскі мацярык.

З пачатку 20 ст. [у Бразіліі] вымерла 87 плямёнаў індзейцаў, асталося 143, з іх 33 ізалявана жывуць у глыбіні лясоў. *БелСЭ.*

**Інду́сы.** Устарэлая назва ўсяго карэннага насельніцтва Індыі; індыйцы.

Уяўляю, як гэты «міністр калоній» адносіцца да якога-небудзь негра ці індуса, калі нават сваю суайчынніцу ён не супроць праглынуць. *І. Шамякін.*

**Інды́йцы.** Агульная назва ўсяго карэннага насельніцтва Індыі незалежна ад нацыянальнай і рэлігійнай прыналежнасці.

Захавалася таксама назва «індзейцы» (хоць яны не маюць нічога агульнага з жыхарамі Індыі — індыйцамі). *Геаграфія частак свету.*

### ІНДЫВІДУАЛІЗАВАНЫ // ІНДЫВІДУАЛІСТЫЧНЫ // // ІНДЫВІДУАЛЬНЫ

**Індывідуалізава́ны.** Не падобны на іншых, своеасаблівы.

Важнейшым сродкам характарыстыкі з'яўляецца мова герояў, выразная, строга індывідуалізаваная. *Л. Тамашова.*

**Індывідуалісты́чны.** Які мае адносіны да індывідуаліста, індывідуалізму — светапогляду, згодна з якім інтарэсы адной асобы вышэй за інтарэсы грамадства.

Герой асабістае шчасце мысліць не як індывідуалістычнае, «вырванае» з жыцця, а як звязанае са шчасцем грамадскім, агульным, калектыўным. *І Навуменка.*

**Індывідуа́льны.** Які мае адносіны да адной асобы ці з'явы. С і н о н і м: асабісты.

У кожным такім раёне ёсць свае школы, дзіцячыя сады, магазіны, кінатэатры, сталовыя, прадугледжаны і гаражы для індывідуальных машын. *С. Грахоўскі.*

### ІНЖЫНЕРНЫ // ІНЖЫНЕРСКІ

**Інжыне́рны.** Звязаны з дзейнасцю інжынера, інжынераў, тэхнічны.

**Інжынерны:** факультэт; **інжынерныя:** кадры, разлікі, войскі, **інжынерная:** прафесія, справа і інш.

Ператварыць інертны камень, а тым больш сталь і шкло у твор мастацтва — на гэта патрэбна нешта большае, чым інжынерныя разлікі і самыя дасканалыя стандарты. *І Шамякін.*

**Інжыне́рскі.** Які мае адносіны да інжынера, належыць яму, характэрны для інжынера.

**Інжынерскі:** дыплом, занятак, дом, сын; **інжынерскія:** абавязкі, традыцыі; **інжынерскае:** вока і інш.

Дзве пары вачэй — у гэтым выпадку, вядома ж, лепш, чым адна,— і дзве інжынерскія галавы таксама не на шкоду справе *А. Кулакоўскі.*

**Ініцыя́тарскі.** Які мае адносіны да ініцыятара.

Ініцыятарскі пачын юнака горача падтрымалі рабочыя цэха. *Чырвоная змена.*

Ініцыятарскі пачын. Ініцыятарскія здольнасці.

**Ініцыяты́ўны.** Які валодае ініцыятывай, здольны да самастойных актыўных дзеянняў.

Сінонім: прадпрымальны.

Дзе не было ініцыятыўных людзей, там не было і сур'ёзных змен. *І. Шамякін.*

## ІНКВІЗІТАРСКІ // ІНКВІЗІЦЫЙНЫ

**Інквізі́тарскі.** Які мае адносіны да інквізітара, уласцівы яму.

Інквізітарскія метады. Інквізітарскі суд.

**Інквізіцы́йны.** Які мае адносіны да інквізіцыі, характэрны ёй.

Інквізіцыйны трыбунал.

## ІНКУБАТАРНЫ // ІНКУБАЦЫЙНЫ

**Інкуба́тарны.** Які мае адносіны да інкубатара.

Развіццю птушкагадоўлі садзейнічае шырокая сетка інкубатарных станцый, якія забяспечваюць калгасы і саўгасы куранятамі. *Геаграфія БССР.*

**Інкубацы́йны.** Які мае адносіны да інкубацыі — скрытага перыяду хваробы.

Трапіўшы ў здаровы арганізм, вірус адзёра на працягу некаторага часу нічым сябе не выяўляе. Інкубацыйны перыяд працягваецца ад 7 да 21 дня. Потым з'яўляюцца першыя адзнакі захворвання. *Беларусь.*

## ІНСПЕКТАРСКІ // ІНСПЕКЦЫЙНЫ

**Інспе́ктарскі.** Які мае адносіны да інспектара; які мае на мэце праверку, інспектаванне.

Інспектарская строгасць. Інспектарскі кантроль.

**Інспекцы́йны.** Які мае адносіны да інспекцыі — праверкі чаго-н.

Інспекцыйныя свае абавязкі Бурмістрава выконвала шчыра. Правярала ўсю работу, не даравала прамашак, часам нават грубавата лаялася. *І. Шамякін.*

## ІНСТРУКТАРСКІ // ІНСТРУКЦЫЙНЫ

**Інстру́ктарскі.** Які мае адносіны да інструктара.

У гэты час ён [Я. Колас] знаходзіўся ў Курскай губерні і

працаваў настаўнікам, інструктарам па школах, членам інструктарскай калегіі. *Л. Фігloўская.*

**Інструкцы́йны.** Які мае адносіны да інструкцыі.

Прадстаўнік з раёна правёў семінарскія заняткі, даў карысныя практычныя парады і інструкцыйныя ўстаноўкі. *Звязда.*

### ІНТРЫГАНСКІ // ІНТРЫГОЎНЫ // ІНТРЫГУЮЧЫ

**Інтрыга́нскі.** Які характэрны для інтрыгана.

Інтрыганскі характар. Інтрыганскія ўчынкі.

**Інтрыго́ўны.** Які мае адносіны да інтрыгі — сюжэтнай лініі ў мастацкім творы, якой характэрны асаблівы драматызм і напружанасць дзеяння.

І ўсюды кожная рыска гэтага малюнка захапляе, хвалюе сама па сабе, з'яўляецца інтрыгоўнай і важнай у сюжэце. *М. Клімковіч.*

**Інтрыгу́ючы.** Які інтрыгуе, зацікаўлівае, узбуджае інтарэс сваёй таямнічасцю.

Інтрыгуючы загаловак артыкула. Інтрыгуючая назва кнігі.

### ІНТЭЛІГЕНТНЫ // ІНТЭЛІГЕНЦКІ

**Інтэлігéнтны. 1.** Характэрны для інтэлігента, інтэлігенцыі. **Інтэлігентны:** чалавек, выгляд; **інтэлігентная:** прафесія, праца, знешнасць, мова; **інтэлігентнае:** грамадства, аблічча і інш.

Я гляджу на невялікі бюст Янкі Купалы, што стаіць на маім пісьмовым стале, углядаюся ў тонкія, вельмі знаёмыя, інтэлігентныя рысы яго твару. *Я. Рамановіч.*

**2.** Адукаваны, культурны.

Камандзірам гэтага ўзвода быў Усевалад Жастоўскі, чалавек вельмі памяркоўны, ветлівы, інтэлігентны. *А. Кулакоўскі.*

**Інтэлігéнцкі.** Які мае адносіны да інтэлігента, інтэлігенцыі. **Інтэлігенцкія:** звычкі, погляды; **інтэлігенцкая:** бездапаможнасць, мяккацеласць, размова, сям'я і інш.

Тут мела свой уплыў інтэлігенцкае паходжанне Багдановіча, выхаванне таленту паэта на ўзорах класічнай паэзіі. *А. Лойка.*

### ІНТЭРНАЦЫЯНАЛІСТЫЧНЫ // ІНТЭРНАЦЫЯНАЛІСЦКІ // // ІНТЭРНАЦЫЯНАЛЬНЫ

**Інтэрнацыяналісты́чны.** Які мае адносіны да інтэрнацыяналізму.

Інтэрнацыяналістычная салідарнасць.

**Інтэрнацыяналíсцкі.** Які мае адносіны да інтэрнацыяналізму, інтэрнацыяналіста.

Можна назваць многа твораў, якія ўдала перадаюць інтэрнацыяналісцкія пачуцці беларускага народа. *Полымя.*

**Інтэрнацыяна́льны.** Які мае адносіны да ўсіх народаў і нацый.

Сінонім: міжнародны.

І да нас у атрад пачалі прыходзіць немцы, чэхі, палякі, французы, італьянцы. Праз год у нас ужо быў цэлы інтэрнацыянальны ўзвод. *І. Сіняўскі.*

## ІСКРАВЫ // ІСКРАНЫ // ІСКРАЎСКІ // ІСКРЫСТЫ

**Іскравы́.** Які мае адносіны да іскры.

Іскравых перадатчыкаў цяпер ужо не робяць, але ў фізічных кабінетах яны могуць яшчэ мець прымяненне для дэманстрацыі электрамагнітнага спрамянення. *Фізіка.*

**Іскраны́.** З іскраў, з іскрамі.

Іскраны слуп.

**Іскраўскі.** Які мае адносіны да дзейнасці бальшавіцкай газеты «Іскра».

Іскраўскі напрамак. Іскраўская група.

**Іскры́сты. 1.** Які вылучае або мае ў сабе многа іскраў.

Палае агонь іскрысты ля карча. *У. Ляпёшкін.*

**2.** Якіззяе, зіхаціць іскрамі; бліскучы.

Да самага гарызонта ляжаў белы іскрысты снег. *А. Алешка.* ‖ Пеністы, шыпучы. Барыс не хацеў ехаць у такую далячынь, дый кіеўскія прыгажуні былі даспадобы і віно, салодкае, іскрыстае, цякло бясконцым ручаём. *Л. Дайнека.*

## ІТАЛІЙСКІ // ІТАЛЬЯНСКІ

**Італі́йскі.** Які мае адносіны да італікаў, італійцаў — старажытных плямёнаў Апенінскага паўвострава.

Італійскія плямёны. Італійская культура.

**Италья́нскі.** Які мае адносіны да італьянцаў, Італіі.

Італьянская мова. Італьянская літаратура.

# К

## КАБЫЛА // КАБЫЛІЦА // КАБЫЛКА

**Кабы́ла.** Самка каня.

Кожны цыган сваю кабылу хваліць. *Прыказка.*

**Кабылі́ца.** Маладая рослая кабыла; жаробка.

Першая лёгка і размашыста ішла агністая .., з белай мецінкай на лбе кабыліца Зорка. *М. Ракітны.*

**Кабы́лка. 1.** *Памянш.-ласк. да* к а б ы л а.

Пярэстая кабылка худая, нядужая, а натурыстасць у яе была такая, што ва ўсім жывёльным свеце падобнай не знойдзеш. *А. Кулакоўскі.*

**2.** Драўляная падстаўка пад струны ў музычных інструментах (балалайцы, скрыпцы і пад.).

Скрыпічная кабылка.

## КАВАДЛА // КУВАЛДА

**Кава́дла.** Жалезная падстаўка асобай формы для ручной коўкі металу.

У кузнях глуха гухкаў аб кавадла молат і цяжка соп кавальскі мех. *Б. Сачанка.*

**Кува́лда.** Цяжкі кавальскі молат.

Не чуў я, як ля чорных катлаванаў узвывалі, глушачы крыкі будаўнікоў, бульдозеры і як бухалі кувалды ў майстэрнях, наспех збітых з дошак. *М. Вышынскі.*

Н я п р а в і л ь н а. Бацька ў гэты момант вынес ад горна распалены да чырвані прут, палажыў яго на кувалду (трэба: кавадла). *В. Хомчанка.*

## КАЛАНІЗАВАНЫ // КАЛАНІЗАТАРСКІ // КАЛАНІЗАЦЫЙНЫ // // КАЛАНІСЦКІ / КАЛАНІЯЛІСЦКІ // КАЛАНІЯЛЬНЫ

**Каланізава́ны. 1.** Насільна ператвораны ў калонію.

На афрыканскіх землях, каланізаваных еўрапейцамі, карэннае насельніцтва або вынішчалася, або станавілася рабамі. *Звязда.*

**2.** Заселены каланістамі, перасяленцамі.

У пачатку XIX ст. англічане занялі Капскую зямлю (раён мыса Добрай Надзеі), каланізаваную выхадцамі з Нідэрландаў (бурамі). *Геаграфія зарубежных краін.*

**Каланіза́тарскі.** Які мае адносіны да каланізатара, характэрны для яго.

Каланізатарская палітыка асабліва выразна праяўлялася ў такіх дзікіх формах нацыянальнага прыгнечання, як звальненне са службы, замена мясцовых чыгуначнікаў прывезенымі з карэннай Польшчы і г. д. *А. Ліс.*

**Каланізацы́йны.** Які мае адносіны да каланізацыі — насільнага ператварэння ў калонію або засялення каланістамі.

Беззваротна прайшоў той час, калі каланізацыйныя мэты імперыялістаў дасягаліся без асаблівых цяжкасцей. *Звязда.*

**Каланіцкі.** Які мае адносіны да каланіста — жыхара калоніі. Каланіцкая гаспадарка. Каланіцкая сям'я.

**Каланіялісцкі.** Які мае адносіны да каланіяліста, каланізатара; каланізатарскі.

Гарэцкі .. даў аб'ектыўны вобраз беларускага этнасу ў межах Польшчы .. Тым самым выбіваў аргументы з рук польскіх буржуазных палітыкаў, адэптаў каланіялісцкіх прэтэнзій. *А. Ліс.*

**Каланія́льны.** Які мае адносіны да калоніі.

Не культуру, а рабства і знішчэнне неслі еўрапейцы ў каланіяльныя краіны. *Гісторыя сярэдніх вякоў.*

## КАЛАСАВЫ // КАЛАСІСТЫ

**Каласавы́.** З суквеццем у выглядзе коласа; які мае адносіны да коласа.

Сцяной узняліся каласавыя, буйным зернем набрыняўшы. Удаліся яны, урадзіліся. Што азіміна, што ярына. *ЛіМ.*

**Каласі́сты.** З мноствам каласоў; з буйным калоссем.

Навокал стаіць густое, каласістае жыта, спакойна дыхаючы смачным гаркаватым пахам. *Я. Брыль.*

## КАЛГАСНІЦКІ // КАЛГАСНЫ

**Калга́сніцкі.** Які мае адносіны да калгасніка, належыць яму.

Хілюта з дня ў дзень — ці табе дождж, ці табе снег,— з году ў год ганяў у поле калгасніцкіх кароў. *Я. Сіпакоў.*

**Калга́сны.** Які мае адносіны да калгаса, належыць яму. Сінонім: калектыўны.

Недалёка ад хаты, на лужку, пасвіўся невялікі табунок калгасных коней. *Е. Лось.*

## КАЛЕДЖ // КАЛЕЖ

**Кале́дж.** Вышэйшая або сярэдняя навучальная ўстанова ў Англіі, ЗША і інш.; з 1992 г. і ў нашай рэспубліцы.

На працягу дня мы сустракаліся яшчэ са студэнтамі каледжа, заснаванага Гандзі, былі на спецыяльнай сустрэчы са студэнтамі універсітэта. *М. Лынькоў.* ‖ Савет Міністраў рэспублікі зацвердзіў палажэнне аб навучальных установах новага тыпу: ліцэях, гімназіях, каледжах, вышэйшых прафесіянальных вучылішчах. *Звязда.*

Няправільна. Нацыянальная адукацыя ў Францыі знаходзіцца ў стане крызісу. Не хапае памяшканняў. Не хапае

іх і для пачатковых класаў, і для ліцэяў, і для каледжаў (трэба: калежаў), і для універсітэтаў. *Звязда.*

**Калéж.** Сярэдняя навучальная ўстанова ў Францыі, Бельгіі, Швейцарыі і інш.

[У Францыі] дзейнічаюць: 9-гадовая пачатковая школа, 4-гадовая сярэдняя школа (агульнаадукацыйны калеж і калеж сярэдняй адукацыі) на базе 5 класаў пачатковай школы, поўная сярэдняя агульнаадукацыйная школа (7-гадовы ліцэй) на базе 5 класаў пачатковай школы. *БелСЭ.*

### КАЛЕКТЫВІСЦКІ // КАЛЕКТЫЎНЫ

**Калектывíсцкі.** Заснаваны на прынцыпах калектывізму.

Тут можа больш, чым у якой брыгадзе, адчуваецца калектывісцкі, камунарскі дух, зладжанасць у працы. *В. Палтаран.*

**Калектыўны.** Які мае адносіны да калектыву; агульны, сумесны.

Вялікую радасць прыносіць рабочаму чалавеку калектыўная праца.

### КАЛЕКЦЫЙНЫ // КАЛЕКЦЫЯНЕРСКІ

**Калекцы́йны.** Які мае адносіны да калекцыі, з'яўляецца калекцыяй.

Складзены ім спіс грунтуецца, галоўным чынам, на калекцыйным матэрыяле і толькі часткова на апытальных даных. *Весці АН БССР.*

**Калекцыянéрскі.** Які мае адносіны да калекцыянера, уласцівы яму.

Яшчэ ў дзяцінстве ў яго выявілася калекцыянерскае захапленне. *Звязда.*

### КАМАНДЗІРАВАНЫ / КАМАНДЗІРОВАНЫ // // КАМАНДЗІРОВАЧНЫ

**Камандзіравáны.** Які атрымаў камандзіроўку.

**Камандзіраваны** *(толькі з адуш. наз.):* журналіст, інжынер, рэгуліроўшчык апаратуры, настройшчык абсталявання, аграном і г. д.

Аб гасціннасці гасцініц марыць кожны камандзіраваны. *Звязда.*

**Камандзірóваны.** Тое, што і к а м а н д з і р а в а н ы.

Камандзіраваны адпачываў у сваім гасцінічным нумары.

**Камандзірóвачны.** Які мае адносіны да камандзіроўкі (звычайна пра пасведчанне, грошы на расходы па камандзіроўцы і інш.).

**Камандзіровачныя** *(толькі з неадуш. наз.):* грошы, справы,

**Каланісцкі.** Які мае адносіны да каланіста — жыхара калоніі. Каланісцкая гаспадарка. Каланісцкая сям'я.

**Каланіялісцкі.** Які мае адносіны да каланіяліста, каланізатара; каланізатарскі.

Гарэцкі .. даў аб'ектыўны вобраз беларускага этнасу ў межах Польшчы .. Тым самым выбіваў аргументы з рук польскіх буржуазных палітыкаў, адэптаў каланіялісцкіх прэтэнзій. *А. Ліс.*

**Каланія́льны.** Які мае адносіны да калоніі.

Не культуру, а рабства і знішчэнне неслі еўрапейцы ў каланіяльныя краіны. *Гісторыя сярэдніх вякоў.*

### КАЛАСАВЫ // КАЛАСІСТЫ

**Каласавы́.** З суквеццем у выглядзе коласа; які мае адносіны да коласа.

Сцяной узняліся каласавыя, буйным зернем набрыняўшы. Удаліся яны, урадзіліся. Што азіміна, што ярына. *ЛіМ.*

**Каласі́сты.** З мноствам каласоў; з буйным калоссем.

Навокал стаіць густое, каласістае жыта, спакойна дыхаючы смачным гаркаватым пахам. *Я. Брыль.*

### КАЛГАСНІЦКІ // КАЛГАСНЫ

**Калга́сніцкі.** Які мае адносіны да калгасніка, належыць яму.

Хілюта з дня ў дзень — ці табе дождж, ці табе снег,— з году ў год ганяў у поле калгасніцкіх кароў. *Я. Сіпакоў.*

**Калга́сны.** Які мае адносіны да калгаса, належыць яму. Сінонім: калектыўны.

Недалёка ад хаты, на лужку, пасвіўся невялікі табунок калгасных коней. *Е. Лось.*

### КАЛЕДЖ // КАЛЕЖ

**Кале́дж.** Вышэйшая або сярэдняя навучальная ўстанова ў Англіі, ЗША і інш.; з 1992 г. і ў нашай рэспубліцы.

На працягу дня мы сустракаліся яшчэ са студэнтамі каледжа, заснаванага Гандзі, былі на спецыяльнай сустрэчы са студэнтамі універсітэта. *М. Лынькоў.* ‖ Савет Міністраў рэспублікі зацвердзіў палажэнне аб навучальных установах новага тыпу: ліцэях, гімназіях, каледжах, вышэйшых прафесіянальных вучылішчах. *Звязда.*

Няправільна. Нацыянальная адукацыя ў Францыі знаходзіцца ў стане крызісу. Не хапае памяшканняў. Не хапае

іх і для пачатковых класаў, і для ліцэяў, і для каледжаў (трэба: калежаў), і для універсітэтаў. *Звязда.*

**Калéж.** Сярэдняя навучальная ўстанова ў Францыі, Бельгіі, Швейцарыі і інш.

[У Францыі] дзейнічаюць: 9-гадовая пачатковая школа, 4-гадовая сярэдняя школа (агульнаадукацыйны калеж і калеж сярэдняй адукацыі) на базе 5 класаў пачатковай школы, поўная сярэдняя агульнаадукацыйная школа (7-гадовы ліцэй) на базе 5 класаў пачатковай школы. *БелСЭ.*

### КАЛЕКТЫВІСЦКІ // КАЛЕКТЫЎНЫ

**Калектывíсцкі.** Заснаваны на прынцыпах калектывізму.

Тут можа больш, чым у якой брыгадзе, адчуваецца калектывісцкі, камунарскі дух, зладжанасць у працы. *В. Палтаран.*

**Калектыўны.** Які мае адносіны да калектыву; агульны, сумесны.

Вялікую радасць прыносіць рабочаму чалавеку калектыўная праца.

### КАЛЕКЦЫЙНЫ // КАЛЕКЦЫЯНЕРСКІ

**Калекцыйны.** Які мае адносіны да калекцыі, з'яўляецца калекцыяй.

Складзены ім спіс грунтуецца, галоўным чынам, на калекцыйным матэрыяле і толькі часткова на апытальных даных. *Весці АН БССР.*

**Калекцыянéрскі.** Які мае адносіны да калекцыянера, уласцівы яму.

Яшчэ ў дзяцінстве ў яго выявілася калекцыянерскае захапленне. *Звязда.*

### КАМАНДЗІРАВАНЫ / КАМАНДЗІРОВАНЫ // // КАМАНДЗІРОВАЧНЫ

**Камандзіравáны.** Які атрымаў камандзіроўку.

**Камандзіраваны** *(толькі з адуш. наз.):* журналіст, інжынер, рэгуліроўшчык апаратуры, настройшчык абсталявання, аграном і г. д.

Аб гасціннасці гасцініц марыць кожны камандзіраваны. *Звязда.*

**Камандзірóваны.** Тое, што і к а м а н д з і р а в а н ы.

Камандзіраваны адпачываў у сваім гасцінічным нумары.

**Камандзірóвачны.** Які мае адносіны да камандзіроўкі (звычайна пра пасведчанне, грошы на расходы па камандзіроўцы і інш.).

**Камандзіровачныя** *(толькі з неадуш. наз.):* грошы, справы,

расходы; **камандзіровачнае:** пасведчанне і інш.

Ён з асаблівай сур'ёзнасцю паклаў на стол сваё камандзіровачнае пасведчанне. *У. Корбан.*

### ҚАМАНДЗІРСКІ // ҚАМАНДНЫ

**Қамандзі́рскі.** Які мае адносіны да камандзіра, характэрны для яго.

Ніхто нічога не мае права рабіць без камандзірскага дазволу *І. Мележ.*

**Қама́нды. 1.** Які мае адносіны да каманды.

Каманднае першынство заваявалі гоншчыкі спартыўнага таварыства «Навука». *Беларусь.*

**2.** Які мае адносіны да камандавання.

Шутаў з каманднага пункта кіравау боем. *І. Мележ.*

### ҚАМБІНАВАНЫ // ҚАМБІНАТАРСКІ // ҚАМБІНАТАЎСКІ // // ҚАМБІНАЦКІ // ҚАМБІНАЦЫЙНЫ

**Қамбінава́ны.** Які з'яўляецца вынікам камбінацыі; заснаваны на камбінацыі.

У заключэнне рэйду быў нанесены магутны камбінаваны ўдар па чыгунцы. *І. Шамякін.*

**Қамбіна́тарскі.** Які мае адносіны да камбінатара, характэрны для яго.

Букрэй быў вядомы ў батальёне як адважная, смелая, камбінатарская галава. *Я. Колас.*

**Қамбіна́таўскі.** Які мае адносіны да камбіната.

Адным словам, камбінатаўскім дзяўчатам ёсць за што крыўдаваць на сваіх хлопцаў. *В. Палтаран.*

**Қамбіна́цкі.** Які належыць камбінату.

Працавалі з храбрасцю юнацкай, формулы зубрылі на хаду, сёрбалі ў сталоўцы камбінацкай вегетарыянскую бурду. *П. Панчанка.*

**Қамбінацы́йны.** Які асноўваецца на камбінацыі.

Камбінацыйныя табліцы. Камбінацыйная гульня шахматыста.

### ҚАМЕДЫЙНЫ // ҚАМІЧНЫ

**Қамеды́йны.** Які мае адносіны да камедыі, характэрны для гэтага літаратурнага жанру.

Цыбулька аказваецца не проста камедыйным персанажам, нейкім дзедам-балагурам «наогул», а жывым чалавекам з індывідуальным лёсам, шчодра надзеленым не толькі гумарам, практычнай кемнасцю, але і шырынёй мыслення. *ЛіМ.*

**Камі́чны. 1.** Які выклікае смех; забаўны.

— Вельмі арыгінальны чалавек і столькі розных камічных гісторый ведае. *Я. Рамановіч.*

**2.** Характэрны для камедыі; камедыйны.

Сумесь урачыстай біблейскай мовы з бытавымі вобразамі надае ўроку дзяка цікавы камічны эфект. *Р. Шкраба.*

### КАМЕННЫ // КАМЯНІСТЫ

**Каме́нны. 1.** Зроблены, пабудаваны з каменю.

Добра ісці па алеі паўз вуліцу, мінаць свежыя ад начы каменныя будынкі. *І. Пташнікаў.*

**2.** *перан.* Нерухомы, застылы, безжыццёвы.

Бабрук стаіць адзін, маўчыць. Якраз як той старадаўні каменны ідал. *Я. Брыль.*

**3.** *перан.* Абыякавы, нячулы, раўнадушны.

Галосяць яны цяпер, небаракі, так, што, здаецца, каменнае сэрца не вытрымае. *А. Якімовіч.*

**4.** Непахісны, стойкі, цвёрды.

Каменнаму трэба быць, каб жыць у сям'і Верамейчыкаў. *К. Крапіва.*

**Камяні́сты.** Пакрыты, усыпаны каменнем, з вялікай колькасцю камення.

Работа [капаць ямы] марудная і цяжкая, бо зямля камяністая і глiністая. *М. Танк.*

### КАМІСАРСКІ // КАМІСАРЫЯЦКІ

**Каміса́рскі.** Які мае адносіны да камісара.

Камісарская скуранка. Камісарскія абавязкі.

**Камісарыя́цкі.** Які мае адносіны да камісарыята.

Камісарыяцкі работнік. Камісарыяцкая пастанова.

### КАМЛЁВЫ // КАМЛІСТЫ

**Камлёвы.** Які мае адносіны да камля.

Паставілі на магіле [бацькі] вялізны крыж са смольнага камлёвага кедра. *В. Карамазаў.*

**Камлі́сты.** З тоўстым камлём.

Мы рассыпаліся па лесе, заляглі за валунамі і камлістымі дрэвамі. Перачакалі абстрэл і выглянулі на ўзлессе. *Р. Няхай.*

### КАМПАЗІТАРСКІ // КАМПАЗІЦЫЙНЫ

**Кампазі́тарскі.** Які мае адносіны да кампазітара, належыць яму.

Кампазітарская дзейнасць.

**Кампазіцы́йны.** Які мае адносіны да кампазіцыі, звязаны з ёю.

Любімы коласаўскі вобраз дарогі ў творы — не толькі дэталь пейзажу. Дарога нясе, апроч усяго іншага, кампазіцыйную ролю, злучаючы між сабой не толькі населеныя пункты, але і часткі трылогіі. *Р. Шкраба.*

## КАМПАСТАВАЦЬ // КАМПАСЦІРАВАЦЬ

**Кампастава́ць.** *што.* Рыхтаваць, рабіць кампост — угнаенне.

Зіма цяпер у калгасе не такая, як раней. Павялічылася работ, трэба кампаставаць гной з торфам. *І. Дуброўскі.*

**Кампасці́раваць.** *што.* Прабіваць кампосцерам які-н. дакумент пры праверцы.

Да цягніка на Мінск яшчэ некалькі гадзін, можна не спяшацца кампасціраваць. *І. Мележ.*

## КАМПЕТЭНТНАСЦЬ // КАМПЕТЭНЦЫЯ

**Кампетэ́нтнасць.** Добрая дасведчанасць; кваліфікаванасць, аўтарытэтнасць у якой-н. галіне.

Раней [Кіслюк] спрабаваў спрачацца, але, адчуўшы вопыт, кампетэнтнасць і сілу волі Ігнатовіча, скарыўся і цяпер нават трохі баяўся яго. *І. Шамякін.*

**Кампетэ́нцыя.** Сукупнасць правоў і абавязкаў якой-н. установы ці адказнай асобы.

Іх [наведвальнікаў] трэба выслухоўваць, бо справы, якія ўваходзяць у кампетэнцыю галоўнага архітэктара, як правіла, заблытаныя. *І. Шамякін.*

## КАМПЛЕМЕНТ // КАМПЛІМЕНТ

**Камплеме́нт.** Бялковае рэчыва ў сываратцы крыві чалавека і жывёл.

Камплемент — спецыяльны тэрмін, у мове сустракаецца рэдка.

**Кампліме́нт.** Прыемная заўвага, пахвала каму-н.

— Я рады, што пасля мяне школа пераходзіць у моцныя, умелыя рукі, залатыя рукі,— зусім несвядома і шчыра зрабіў камплімент настаўніцы Іван Паўлавіч. *А. Васілевіч.*

## КАМПОСТ // КАМПОСЦЕР

**Кампо́ст.** Угнаенне, атрыманае шляхам змешвання розных адкідаў раслiннага і жывёльнага паходжання з зямлёй або торфам.

Пад нагамі ў жывёлы — тарфяная, упярэмешку з саломай, подсцілка — рыхтуюцца торфа-гноевыя кампосты. *У. Дамашэвіч.*

**Кампо́сцер.** Прыстасаванне для прабівання ўмоўных знакаў кантролю на пасажырскіх білетах і іншых дакументах.

У руках у кантралёра кампосцер заўсёды нагатове.

## КАМПРЭСАРНЫ // КАМПРЭСНЫ

**Кампрэ́сарны.** Які мае адносіны да кампрэсара, звязаны з ім

Непадалёк ад капра ў машынным зале змантыравалі кампрэсарную ўстаноўку. *А. Чаркасаў.*

**Кампрэ́сны.** Прызначаны для кампрэса.

Яна ўсхапілася, ірванула павязку з шыі. На падлогу ўпала кампрэсная папера і жоўтая ад лякарства вата. *І. Шамякін.*

## КАМУНІКАТЫЎНЫ // КАМУНІКАЦЫЙНЫ

**Камунікаты́ўны.** Звязаны з моўным паняццем — камунікацыяй: адносінамі, сувяззю пры дапамозе мовы.

Трэба заўсёды адрозніваць камунікатыўную ролю мовы ад яе вобразнай ролі. *Р. Шкраба.*

**Камунікацы́йны.** Звязаны з агульным паняццем — камунікацыяй: шляхамі зносін, сувяззю аднаго месца з другім (часцей пра сувязь арміі з яе базамі).

Знаходзячыся на старажытнай камунікацыйнай лініі паміж Вільняй і Масквой, Крэўскі замак меў вялікае стратэгічнае значэнне. *С. Палеес.*

## КАНАПЕЛЬКА // КАНАПЛЯНКА

**Канапе́лька.** Народная назва некаторых відаў лугавых траў

Жаўцее луг ад канапелькі ў цвеце.

**Канапля́нка. 1.** Невялічкая пеўчая птушка.

Якіх толькі птушак не было ў Васевай клетцы! І маленькія канаплянкі, і шчабятлівыя сінічкі, і асцярожныя снегіры. *А. Пальчэўскі.*

**2.** Цёплая шарсцяная хустка фабрычнага вырабу

Жанчына паспешліва паднялася, паправіла на галаве рабую канаплянку, завязаную пад падбародкам. *А. Васілевіч*

## КАНВЕКЦЫЙНЫ // КАНВЕНЦЫЙНЫ

**Канвекцы́йны.** Які мае адносіны да канвекцыі — пераносу цяпла або электрычных зарадаў у выніку перамяшчэння навакольнага асяроддзя.

Канвекцыйныя працэсы ў атмасферы.

**Канвенцы́йны.** Устаноўлены канвенцыяй — міжнародным дагаворам.

Канвенцыйны тарыф. Канвенцыйныя правілы.

### КАНВЕРТАРНЫ // КАНВЕРТНЫ

**Канве́ртарны.** Які мае адносіны да канвертара — апарата для атрымання сталі.

Канвертарная вытворчасць сталі.

**Канве́ртны.** Прызначаны для вырабу канвертаў.

Канвертная папера. Канвертны цэх.

### КАНЕЧНЫ // КАНЦАВЫ // КАНЧАТКОВЫ

**Кане́чны.** Які з'яўляецца канцом чаго-н.

Мы мелі намер хутчэй прыбыць на канечны пункт нашага падарожжа. *Маладосць.*

**Канцавы́.** Які знаходзіцца на канцы чаго-н.; крайні.

Вёска — за ўзгоркам, адсюль, з чыгуначнага палатна, відаць нават стрэхі канцавых хат. *М. Лупсякоў.*

**Канчатко́вы.** Які не падлягае змяненню, перагляду або адмене; беспаваротны.

Я хачу пачуць сёння тваё канчатковае слова. *А. Васілевіч*

### КАНСЕРВАВАНЫ // КАНСЕРВАВЫ

**Кансервава́ны.** Перапрацаваны ў кансервы; у выглядзе кансерваў.

Рыба скарыстоўваецца ў ежу ў розным выглядзе: свежая, салёная, капчоная, кансерваваная, сушаная. *Заалогія.*

**Кансе́рвавы.** Звязаны з кансервамі, іх прыгатаваннем; прызначаны для кансерваў, з-пад кансерваў.

Зробленая з кансервавай бляшанкі конаўка ў руках старога дрыжала. *І. Навуменка.*

### КАНСЕРВАЦЫЯ // КАНСЕРВАВАННЕ

**Кансерва́цыя. 1.** Засцярога ад псавання, разбурэння спецыяльнай апрацоўкай або стварэннем адпаведных умоў захоўвання.

Амаль вырашанай праблемай з'яўляецца кансервацыя крыві і захавання яе на працягу доўгага часу. *Маладосць.*

**2.** Часовае спыненне дзейнасці, ходу, развіцця чаго-н.

А ў артылерыйскім палку ўжо здымаліся з кансервацыі цягачы, адна за адной на дарогу выязджалі пушкі-гаўбіцы. *А. Бачыла.*

**Кансерваванне.** Перапрацоўка прадуктаў у кансервы; прыгатаванне кансерваў.

Кансерваванне харчовых прадуктаў — апрацоўка харчовых прадуктаў, каб засцерагчы іх ад псавання мікраарганізмамі. *БелСЭ.*

### КАНСЕРВАТАРСКІ // КАНСЕРВАТОРСКІ // // КАНСЕРВАТЫЎНЫ // КАНСЕРВАЦЫЙНЫ

**Кансерватарскі.** Які мае адносіны да кансерватара, уласцівы яму.

Кансерватарскія погляды. Кансерватарскія прынцыпы.

**Кансерваторскі.** Які мае адносіны да кансерваторыі.

Ён атрымаў добрую кансерваторскую адукацыю і сам цяпер працаваў у кансерваторыі. *ЛіМ.*

**Кансерватыўны.** Варожы новаму, прагрэсіўнаму, прыхільны да старога, аджыўшага.

Маладыя настаўнік — вораг дэспатызму, прымусу, усяго аджываючага, кансерватыўнага. *Л. Фіглоўская.*

**Кансервацыйны.** Звязаны з кансервацыяй — засцярогай ад псавання, разбурэння спецыяльнай апрацоўкай або стварэннем адпаведных умоў захоўвання.

Працягваюцца кансервацыйныя работы на Мірскім замку, ідзе аднаўленне кальвінісцкага храма ў Смаргоні. *Помнікі гісторыі і культуры Беларусі.*

### КАНСТРУКТАРСКІ // КАНСТРУКТЫЎНЫ // КАНСТРУКЦЫЙНЫ

**Канструктарскі.** Які мае адносіны да канструктара.

Завод яшчэ не меў неабходнага абсталявання, лабараторый, канструктарскага бюро. *Беларусь.*

**Канструктыўны.** Які стварае аснову для далейшай работы; важны, істотны.

Навука можа ісці наперад толькі ў абстаноўцы калектыўнага абмену думкамі, канструктыўнага абмеркавання праблем. *Звязда.*

**Канструкцыйны.** Які мае адносіны да канструкцыі — будовы, узаемнага размяшчэння частак, дэталей якога-н. збудавання, механізма і г. д.

З аўтапалігона Аляксей Паўлавіч вярнуўся сярдзіты, раздражнёны, і тут жа напісаў загад: за самавольнае ўнясенне ў новую мадэль канструкцыйных змяненняў самавольшчыкаў сурова пакараць. *І. Капыловіч.*

## КАНСТЫТУТЫЎНЫ // КАНСТЫТУЦЫЙНЫ

**Канстытуты́ўны.** *Кніжн.* Які складае аснову чаго-н.; вызначальны.

Канстытутыўныя палажэнні.

**Канстытуцы́йны.** Які мае адносіны да канстытуцыі — асноўнага закону дзяржавы.

Права рэспублік валодаць тэрыторыяй і яе рэсурсамі, а таксама прадпрыемствамі на гэтай тэрыторыі выводзіцца з канстытуцыйнага суверэнітэту саюзных рэспублік, права на самавызначэнне *ЛіМ*

## КАНСУЛЬТАТЫЎНЫ // КАНСУЛЬТАЦЫЙНЫ

**Кансультаты́ўны.** Дарадчы; з дарадчымі правамі.

Кансультатыўны савет. Кансультатыўны орган.

**Кансультацы́йны.** Які мае адносіны да кансультацыі, прызначаны для яе.

Створаны кансультацыйныя пункты, дзе можна атрымаць патрэбную параду, адказ на хвалюючае пытанне. *Маладосць*

## КАНТРАБАНДНЫ // КАНТРАБАНДЫСЦКІ

**Кантраба́ндны.** Які з'яўляецца кантрабандай; забаронены, тайны.

У часе ж вайны з немцамі пан Зыгмусь некалькі разоў перавозіў кантрабандным парадкам цара Мікалая, каб за граніцай ён мог пабачыцца і пагутарыць з Вільгельмам. *Я Колас*

**Кантрабанды́сцкі.** Які мае адносіны да кантрабандыста, належыць яму.

Ноч была непагодлівая. Буйны вецер хістаў вершаліны ялін і сосен, голле рыпела так, што спадзявацца на тое, што мы пачуем, як рыпіць кантрабандысцкая каламажка, было дарэмна *П Бройка.*

## КАНТРАЛЁР // КАНТРОЛЕР

**Кантралёр.** Службовая асоба, якая робіць кантроль, праверку каго-чаго-н.

Мяне турбуе толькі адно: раптам увойдзе кантралёр? *А Асіпенка.*

**Кантро́лер.** Прыбор для рэгулявання работы электрарухавіка у трамваях, тралейбусах, электравозах і г д.)

Ніколі яшчэ рычагі кантролера не былі такія паслухмяныя Таніным рукам *В Гарбук.*

**Қантынге́нт. 1.** Сукупнасць людзей, якія складаюць аднародную ў якіх-н. адносінах групу, катэгорыю.

Сёлета ў нас павялічыўся кантынгент вучняў на два класы. *І Грамовіч.*

**2.** Устаноўленая для пэўных мэт найбольшая, гранічная колькасць (норма) чаго-н.

Па ўсёй Расіі ішла мабілізацыя новых і новых кантынгентаў *М. Лобан.*

**Қантыне́нт.** Адна з асноўных вялікіх частак сушы, акружаная акіянам

Сінонім: мацярык.

Буйныя ўчасткі сухазем'я называюцца мацерыкамі, або кантынентамі, а больш дробныя — астравамі. *Фізічная геаграфія.*

## ҚАНФЕРАНС // ҚАНФЕРАНСЬЕ

**Қанфера́нс.** Выступленне на сцэне, звязанае з вядзеннем праграмы, а таксама тэкст такога выступлення.

Не маючы перад сабой раней падрыхтаванага тэксту, ён [І. Любан] паміж двума нумарамі музыкі ўстаўляў нешта накшталт цяперашняга канферансу, звычайна досыць дасціпнага і смешнага. *А. Астрэйка.*

**Қанферансье́.** Артыст, які аб'яўляе нумары канцэрта і займае гледачоў у перапынках паміж выступленнямі

У гэты час перад заслонай з'явіўся канферансье, пастаяў пакуль у зале супакоіліся, і аб'явіў першы нумар праграмы *У Ляўданскі.*

## ҚАНФУЗЛІВЫ // ҚАНФУЗНЫ

**Қанфу́злівы.** *толькі з адуш. наз.* Які лёгка канфузіцца, бянтэжыцца, сарамлівы.

На фронце не быў ні палахлівым, ні канфузлівым, а тут — канфузіцца. *З Бядуля.*

**Қанфу́зны.** *толькі з неадуш. наз* Які канфузіць, ставіць у няёмкае становішча.

Ніхто з нас і не думаў, што ўся гэта даволі паспяховая ў пачатку справа прыйдзе да такога канфузнага канца. *ЛіМ*

## ҚАНЦЭНТРАВАНЫ // ҚАНЦЭНТРАЦЫЙНЫ // ҚАНЦЭНТРЫЧНЫ

**Қанцэнтрава́ны.** Які характарызуецца высокай канцэнтрацыяй.

У вельмі моцнай канцэнтраванай салянай кіслаце змяшчаец

ца каля 40 % хлорыстага вадароду. Такая кіслата «дыміць» на паветры. *Хімія.*

**Канцэнтрацы́йны.** У выразе: к а н ц э н т р а ц ы й н ы л а г е р — месца масавага зняволення і знішчэння барацьбітоў за дэмакратыю і сацыялізм, ваеннапалонных і інш.

Не скарыстаў Макар Шаблін і магчымасці ўцячы з канцэнтрацыйнага лагера, куды яго адправілі гітлераўцы. *Р. Шкраба.*

**Канцэнтры́чны. 1.** Які мае агульны цэнтр; з агульным цэнтрам.

Светлыя плямы ліхтароў заблыталіся ў вільготных, бліскучых галінках дрэў .. І ад святла галіны блішчэлі канцэнтрычнымі кругамі, блішчэлі, як блішчыць летнім ранкам роснае павуцінне дзе-нідзе ў лесе, між дрэў. *У. Караткевіч.*

**2.** Заснаваны на канцэнтрызме — паўтаральнасці вучэбнага матэрыялу праграм ніжэйшай ступені навучання ў праграмах наступных яго ступеней.

Нашы падручнікі па мове заснаваны на так званай канцэнтрычнай сістэме: тэмы паўтараюцца, але змест іх пастаянна паглыбляецца, кожны раз даюцца новыя звесткі, і такім чынам вучань набывае больш глыбокія веды па прадмету. *Народная асвета.*

## КАПАТЛІВЫ // КАРПАТЛІВЫ

**Капатлі́вы.** *Разм.* Марудлівы, непаваротлівы.

Нейкі ж вельмі капатлівы ён чалавек: здаецца, і не сядзіць склаўшы рукі — робіць увесь час, але і да палавіны яшчэ не дайшоў, хоць час было б і канчаць гэту работу. *ЛіМ.*

**Карпатлі́вы.** Які патрабуе шмат увагі, цярплівасці; старанны, руплівы.

Цяжкія гэта былі пошукі — патрабавалася карпатлівая даследчая праца. *ЛіМ.*

## КАРАНАВАНЫ // КАРАНАЦЫЙНЫ

**Каранава́ны.** Надзелены манархічнай уладай; вянчаны на царства.

Апошні расійскі імператар Мікалай II быў каранаваны ў 1894 г.

**Каранацы́йны.** Які мае адносіны да каранацыі — урачыстай цырымоніі ўскладання кароны на манарха, які ўступае на прастол.

Каранацыйныя ўрачыстасці.

**Карана́сты. 1.** Які мае тоўстыя, моцныя карані.

Дуб галлё распусціў каранасты над ім [курганом], сухазелле у грудзі ўпілося. *Я. Купала.*

**2.** Невысокі, шыракаплечы, моцнага целаскладу (пра чалавека).

Сінонім: каржакаваты.

У пакой, атрымаўшы дазвол, увайшоў каранасты барадач у ватоўцы, у высокіх юхтовых ботах. *І. Шамякін.*

**Каранёвы. 1.** Які мае адносіны да кораня (дрэва, расліны і г. д.).

У журавіны ішлі бабы з усёй вёскі, з мяшкамі і вялікімі круглымі белымі каранёвымі кошыкамі — ішлі на ўвесь дзень, з дзяцьмі. *І. Пташнікаў.*

**2.** Які мае адносіны да кораня слова; карэнны *(у 3 знач.)*

Каранёвая марфема. Каранёвы галосны гук.

**Кара́ністы.** З шырока разгалінаванымі каранямі; пераплецены каранямі.

Лабановіч уздыхнуў лягчэй, як бы з яго плячэй зваліўся нейкі цяжар, бо дарога, траская і каранiстая, і лес усё ж такі дакучылі яму. *Я. Колас.*

**Карэ́нны. 1.** Спрадвечны, пастаянны.

Большасць карэнных местачкоўцаў, асабліва мужчын, яшчэ ў калектывізацыю падаліся на чыгунку — у стрэлачнікі, грузчыкі. *І. Навуменка.*

**2.** Які закранае асновы чаго-н., асноўны, самы істотны.

Рэвалюцыя карэнным чынам змяніла лёс беларускага народа *А. Адамовіч.*

**3.** Які мае адносіны да кораня слова.

Пасля зычнага прыстаўкі карэннае **і** пераходзіць у **ы,** напрыклад: *с-ыграць, раз-ыграць, пад-ысці, пад-ымчацца, без-ыдэйны. Беларуская мова.*

## КАРДЫНАЛЬНЫ // КАРДЫНАЛЬСКІ

**Кардына́льны.** Галоўны, важны, самы істотны.

На працягу ўсяго свайго творчага шляху захаваў Дастаеўскі палымяную цікавасць да самых істотных, кардынальных праблем чалавечага існавання. *І. Навуменка.*

**Кардына́льскі.** Які мае адносіны да кардынала, належыць яму.

Але сёння Эразму верылася ў лепшае. Дыпламатычныя перамогі ўжо блізка. Іхняй зарукаю будзе кардынальская мантыя, якую дапаможа атрымаць ліра Гусоўскага. *У. Арлоў*

## ҚАРОБАЧНЫ // ҚАРОБЧАТЫ

**Қаро́бачны.** Які мае адносіны да каробкі.

Қаробачная майстэрня.

**Қаро́бчаты.** Які мае выгляд кораба; выгнуты.

Аўтамат быў новы, зараджаны доўгім каробчатым магазінам. *А. Якімовіч.*

## ҚАРОНІСТЫ // ҚАРОННЫ

**Қаро́ністы.** З вялікай кронай — каронай дрэва.

С і н о н і м: купчасты.

Қаро́ністае дрэва. Қаро́ністая ліпа.

**Қаро́нны. 1.** Які мае адносіны да кароны — царскага галаўнога ўбора.

Қароннае войска стаяла кругом, мястэчкі і сёлы карала агнём. *А. Вялюгін.*

**2.** Лепшы, найбольш удалы.

Қаронны нумар праграмы. Қаронная роля артыста.

## ҚАРОСЛІВЫ // ҚАРОСТАВЫ

**Қаро́слівы.** Хворы каростай; у каросце.

Сям-там грэліся на сонцы каросліўыя сабакі. *М. Лынькоў.*

**Қаро́ставы.** У выразе: к а р о с т а в ы к л е ш ч — клешч, які выклікае і пераносіць каросту ў жывёл і чалавека.

Қароста — заразная хвароба скуры чалавека і жывёлы, узбуджальнікі якой кароставыя кляшчы. *БелСЭ.*

## ҚАРУНДАВЫ // ҚАРУНҚАВЫ

**Қару́ндавы.** Які мае адносіны да цвёрдага мінералу — карунду.

Қарундавыя іголкі для патэфонных пласцінак.

**Қару́нкавы.** Які мае адносіны да карункаў — ажурных вырабаў для аздобы бялізны, адзення; зроблены з карункаў; падобны на карункі.

Яна была ў доўгай сукенцы з карункавым каўняром і такімі ж манжэтамі, у капелюшы з букецікам прыколатых да яго штучных пралесак. *Л. Арабей.*

## ҚАРЫСЛІВЫ // ҚАРЫСНЫ

**Қары́слівы.** Які мае на ўвазе выгаду, карысць, заснаваны на карысці; які імкнецца да асабістай выгады, карысці.

Мне гаварылі, што хлопцы ў групе недалюблівалі яго. Қа-

рыслівы ён чалавек. Прыхільны толькі да таго, ад каго можа нешта мець сабе. *А. Марціновіч.*

**Кары́сны.** Які прыносіць карысць.

— Я думаю, скончыўшы рабфак, падавацца ва універсітэт. Трэба добра павучыцца, каб быць карысным у жыцці. *Я. Колас.*

### КАРЭЙКА // КАРЭЯНКА

**Карэ́йка.** Свіная або цялячая грудзінка спецыяльнага прыгатавання.

Хоць ён і не любіў свініны, але карэйка халоднага капчэння яму падабалася, і ён часта браў яе сабе на снеданне. *ЛіМ.*

**Карэя́нка.** Прадстаўніца народа, які складае асноўнае насельніцтва Карэі.

Як і многія жанчыны Усходу, карэянкі прызвычаены пераносіць на галаве значны цяжар. *Звязда.*

### КАРЭКТАРСКІ // КАРЭКТНЫ // КАРЭКТУРНЫ

**Карэ́ктарскі.** Які мае адносіны да карэктара.

Але праз два гады цяжкія ўмовы прымусілі яго [Караленку] пакінуць інстытут і заняцца карэктарскай работай. *Беларусь.*

**Карэ́ктны.** Тактоўны ў абыходжанні з людзьмі.

С і н о н і м ы: ветлівы, далікатны.

Акуратны, карэктны, працавіты, ён бездакорна выконваў свае службовыя абавязкі. *І. Новікаў.*

**Карэкту́рны.** Які мае адносіны да карэктуры.

Верагодна, ён [Багушэвіч] не меў магчымасці зрабіць карэктурныя праўкі, і гэта з'яўляецца адной з прычын пэўнай арфаграфічнай непаслядоўнасці. *І. Крамко.*

### КАРЭТАЧНЫ // КАРЭТНЫ

**Карэ́тачны.** Які мае адносіны да карэткі — рухомай часткі некаторых машын, механізмаў, апаратаў.

Карэтачны валік пішучай машынкі.

**Карэ́тны.** Які мае адносіны да карэты — коннага экіпажа на рысорах.

Карэтныя колы. Карэтныя рысоры.

### КАСМАГОНІЯ // КАСМАЛОГІЯ

**Касмаго́нія.** Навука аб паходжанні, развіцці нябесных цел і іх сістэм.

Аддзел астраноміі, які займаецца пытаннямі паходжання і развіцця нябесных цел, называецца касмагоніяй. *Астраномія.*

**Касмало́гія.** Вучэнне пра Сусвет як пра адзінае цэлае.

Касмалогія развівалася як аддзел астраноміі; сучасная касмалогія выкарыстоўвае таксама агульныя палажэнні фізікі, астрафізікі, філасофіі. *БелСЭ.*

### КАСМЕТЫЧНЫ // КАСМІЧНЫ

**Касметы́чны.** Які мае адносіны да касметыкі — сродкаў для надання свежасці і прыгажосці твару, целу.

Па тэлефоне Фінця Паўлаўна дазналася, што ў Маскве ёсць інстытут касметычнай медыцыны. *І. Грамовіч.*

**Касмі́чны.** Які мае адносіны да космасу, звязаны з яго асваеннем.

І спадарожнік каля зор, у той касмічнай далечы, звініць, шуміць на ўвесь прастор, Зямлі сваёй сігналячы. *Г. Кляўко.*

### КАСТЛЯВЫ // КАСЦЯВЫ // КАСЦЯНЫ // // КАСЦІСТЫ // КОСНЫ[1] / КОСНЫ[2]

**Кастля́вы.** Схуднелы, высахлы, з выступаючымі касцямі; сухарлявы.

Бабцы было гадоў пад дзевяноста. У твары і ў кастляв іх руках ні крывінкі, вочы выцвілі, высахлі. *М. Лобан.*

**Касцявы́.** Які мае адносіны да косці; з касцей.

У ніжэйшых пазваночных шкілет храстковы, у вышэйшых і чалавека пераважна касцявы. *Звязда.*

**Касцяны́.** **1.** Выраблены з косці.

Сярод простай мэблі кідалася ў вочы толькі вялізная старасвецкая канапа, палічка якой была ўстаўлена касцянымі слонікамі рознай велічыні і пакрыта вышыванымі сурвэткамі. *М. Вадановаў.*

**2.** Атрыманы, здабыты з касцей жывёлы.

У якасці змазкі прымяняюцца мінеральныя маслы, вырабляемыя з нафты, касторавае масла (для змазкі матораў самалётаў), кедравае і касцяное масла. *Курс фізікі.*

**Касці́сты.** **1.** З шырокімі, буйнымі касцямі, якія прыметна выступаюць.

Праз якую гадзіну ён ужо ў прыцемках сядзеў і гаварыў з худым касцістым, можа, сямідзесяцігадовым старым. *І. Чыгрынаў.*

**2.** З мноствам дробных касцей (звычайна пра рыбу).

Акуні і плоткі — дробная касцістая рыба, і таму ў культурных вадаёмах іх не разводзяць. *П. Рунец.*

**Ко́сны[1].** Схільны да ўсяго прывычнага; неўспрымальны да новага, перадавога; адсталы.

Нашай літаратуры не хапае гнеўнага, вострасатырычнага слова, вялікай нянавісці да недахопаў, да ўсяго гнілога і коснага, пошлага і дробязнага. *Д. Палітыка.*

**Ко́сны**[2]. Тое, што і к а сц я в ы.

Косныя хваробы. Коснае рэчыва. Косны клей.

### КАСЦЮМЕРНЫ // КАСЦЮМІРАВАНЫ // КАСЦЮМНЫ

**Касцюме́рны.** Які мае адносіны да тэатральных і маскарадных касцюмаў, да іх вырабу і захоўвання.

Якраз на гэтым месцы быў некалі касцюмерны магазін, у якім артысты і падбіралі сабе касцюмы. *ЛіМ.*

**Касцюміраваны.** Адзеты ў маскарадны або тэатральны касцюм.

Усе ўдзельнікі вечара касцюміраваныя і таму ўрачыстыя, святочныя, але як быццам бы нейкія незнаёмыя, чужыя. *ЛіМ.*

**Касцю́мны.** Які мае адносіны да касцюма, прызначаны для яго.

Добрыя касцюмныя тканіны з натуральнай шэрсці і сінтэтычных матэрыялаў вырабляюцца на Мінскім камвольным камбінаце. *Звязда.*

### КАШАМІРАВЫ / КАШМІРАВЫ / КАШМІРОВЫ // КАШМІРСКІ

**Кашаміравы.** Тое, што і к а ш м і р о в ы.

Цёмная, завязаная пад бараду кашаміравая хустка з чырвонымі кветкамі па ёй была насунута нізка на лоб, як не на самыя вочы, і ад гэтага Пёклін твар здаваўся яшчэ больш худым і цёмным, нават чорным. *Я. Сіпакоў.*

**Кашміравы.** Тое, што і к а ш м і р о в ы.

Кашміравая хустка. Кашміравая сукенка.

**Кашміро́вы.** Зроблены з кашміру — тонкай мяккай тканіны (звычайна шарсцяной).

Маці была захутана чорнай кашміровай хусткай і хавала позірк ад дачкі. *І. Грамовіч.*

**Кашмірскі.** Які мае адносіны да індыйскага штата Кашміра, да кашмірца.

Кашмірскі народ. Кашмірскія звычаі.

### КВАДРА // КВАРТА

**Ква́дра.** Адна з чатырох фаз месяца (маладзік, сход, поўня, ветах).

У Верамейках сонца гэтае бачылі адны лічаныя хвіліны,

але надзея на перамену надвор'я была ўжо — як і заўсёды, з надыходам новай квадры. *І. Чыгрынаў.*

**Ква́рта.** Даўнейшая мера вадкіх і сыпкіх рэчываў (крыху менш за літр).

Гаспадыня ўвайшла ў хату спакойная і ласкавая, наліла яму вялікую кварту малака, накроіла сала, і ён, памятае, адчуў нешта вельмі ўдзячнае да яе. *В. Быкаў.*

## КВАДРАНТ // КВАДРАТ

**Квадра́нт. 1.** Чацвёртая частка круга.

Возьмем цяпер поўны круг і правядзём у ім гарызантальны і вертыкальны дыяметры. Гэтыя дыяметры падзеляць круг на чатыры чвэрці (квадранты). *Геаметрыя.*

**2.** Прыстасаванне для наводкі артылерыйскіх гармат; старажытны астранамічны інструмент.

Квадрант — прылада для вертыкальнай наводкі гарматы паводле зададзенага вугла ўзвышэння. *БелСЭ.*

**Квадра́т. 1.** Роўнастаронні прамавугольнік; усё, што мае такую форму.

З гарышча праз аконца віднеўся сіні квадрат неба. *В. Хомчанка.*

**2.** Здабытак ад памнажэння пэўнага ліку на самога сябе.

Квадрат адмоўнага ліку ёсць лік дадатны. *Алгебра.*

## КВАКАННЕ // КВАКТАННЕ / КВАХТАННЕ

**Ква́канне.** Гучанне, падобнае на «ква-ква» (звычайна пра лягушак). Жабак

Мы падышлі да белых парэнчаў на мастках рэчкі, якой амаль зусім не было відаць. Праўда, яна адчувалася ў ціхім плёскаце вады аб берагі ды ў журботным кваканні жаб. *Я. Рамановіч.*

**Квакта́нне.** Кароткае адрывістае гучанне (пра курыц-квактух і некаторых іншых птушак).

Нечакана з-пад куста моцна залопалі крылы, і проста да ранішняга сонца з квактаннем кінулася матка-цяцерка *Я. Ціхановіч.*

**Квахта́нне.** Тое, што к в а к т а н н е.

Падыходзячы да сасняку, мы пачулі квахтанне глушцоў, пачулі, як яны пералятаюць з месца на месца — верныя адзнакі такавішча. *А. Гавеман.*

## КВАКВА // КВАКТУХА / КВАХТУХА // КВАКША

**Ква́ква.** Птушка сямейства чаплевых з кароткімі нагамі і чубком на галаве.

Чорнагаловая кваква.

**Кваку́ха.** Курыца, якая выседжвае або водзіць куранят.

Чутна — дзесьці куранят кліча позняя квактуха. *М. Калачынскі.*

**Квахту́ха.** Тое, што квактуха.

Чуўся ўстрывожаны голас квахтухі — яна збірала куранят.

**Ква́кша.** Лягушка, якая жыве на дрэвах.

З паўзуноў неабходна назваць вераценніцу, балотную чарапаху, а з амфібій — квакшу, трытона грабенчатага і некаторых іншых. *В. Дзяменцьеў.*

## КВАЛІФІКАВАНЫ // КВАЛІФІКАЦЫЙНЫ

**Кваліфікава́ны.** Які мае спецыяльныя веды, навыкі; з высокай кваліфікацыяй; умелы, вопытны.

Заслонаў скардзіўся на адсутнасць металу, на тое, што не хапае кваліфікаваных рабочых. *М. Лынькоў.*

**Кваліфікацы́йны.** Які вызначае, устанаўлівае кваліфікацыю — ступень годнасці, падрыхтаванасці да якой-н. работы.

Пасля выпускных кваліфікацыйных экзаменаў па добрай традыцыі праводзіцца свята працоўнага абраду — урачыстае пасвячэнне ў рабочыя. *Звязда.*

## КВЕТАЧНЫ // КВЕТКАВЫ // КВЕТНІКАВЫ // КВЯЦІСТЫ

**Кве́тачны.** Прыгатаваны з кветак.

Кветачны адэкалон. Кветачная эсенцыя.

**Кве́ткавы. 1.** Які мае адносіны да кветкі, кветак.

Кветкавы пыл лёгка распыляецца ў паветры. *К. Ціміразеў.*

**2.** Прызначаны для кветак.

На лаўках, што стаяць пасярэдзіне вуліцы, навокал кветкавай клумбы, групкамі сядзяць людзі з кнігамі. *П. Пестрак.*

**Кве́тнікавы.** Які мае адносіны да кветніка.

У Матруны кветнікавы ўчастак зусім маленькі, але ж так дагледжаны, што гладыёлусаў на ім заўсёды больш, чым у суседак. *Звязда.*

**Квяці́сты. 1.** З вялікай колькасцю кветак; пакрыты, усеяны кветкамі.

Люблю лугі квяцістыя, як закрасуе май, палеткі залацістыя, цябе, мой родны край. *А. Русак.*

**2.** З узорам у кветкі; яркі, каляровы.

Дзяўчаты стаялі асобнай купкай у яркіх квяцістых плацця х. *А. Асіпенка.*

**3.** *перан.* Залішне напышлівы, занадта ўпрыгожаны (пра мову, стыль і г. д.).

Атрымаўся верш квяцісты, як і тая вясна, што нарадзіла яго. *А. Асіпенка.*

## КЛАВІР // КЛАВІШ / КЛАВІША // КЛАВІЯТУРА

**Кла́вір. 1.** Агульная назва ўсіх струнных клавішных інструментаў: клавікордаў, клавесіна, раяля, піяніна і інш.

— Гэта толькі клавір, а як мая сімфонія будзе выконвацца аркестрам, тады і дзіцё зразумее. *З. Бядуля.*

**2.** Пералажэнне опернага ці сімфанічнага твора для спявання ў суправаджэнні фартэпіяна або для выканання на фартэпіяна.

У музыцы, у музыкантаў, кампазітараў шмат праблем. Галоўнае — выданне клавіраў, партытур, твораў кампазітараў мінулага. *І. Лучанок.*

**Кла́віш.** Пласцінка ў музычным інструменце (фартэпіяна, баяне і інш.), якую націскаюць для атрымання гуку.

Рука які ўжо раз цягнецца да клавіша магнітафона. *Т. Бондар.*

**Кла́віша.** тое, што і к л а в і ш.

Твае лёгкія пальцы не кранаюць клавішаў. Яны лунаюць над імі. *Г. Ланеўская.*

**Клавiяту́ра.** Сукупнасць усіх клавішаў.

Праз хвіліну дзяўчына-тэлеграфістка спрытнымі пальцамі шпарка пачала стукаць па клавіятуры апарата. *Беларусь.*

## КЛАСАВЫ // КЛАСІЧНЫ // КЛАСНЫ

**Кла́савы.** Які мае адносіны да грамадскіх класаў.

Класавыя інтарэсы. Класавыя супярэчнасці.

**Класі́чны. 1.** Створаны класікам; узорны, дасканалы.

Апавяданне класічнай спадчынай мела важнае значэнне для развіцця самабытнага таленту Коласа. *Л. Фігло́ўская.*

**2.** Які мае адносіны да старажытных грэкаў і рымлян.

С і н о н і м: антычны.

Інтэрнацыянальныя словы з'яўляюцца, як правіла, запазычаннямі з класічных моў — грэчаскай і лацінскай. *Полымя.*

**Кла́сны. 1.** Які мае адносіны да вучнёўскага класа.

Дзеці вельмі любілі сваю класную настаўніцу — чулую, добрую жанчыну. *Р. Няхай.*

**2.** Які паказвае клас, мае высокую ступень чаго-н.

Класны спартсмен. Класная гульня.

У выразе: к л а с н ы   в а г о н *(уст.)* — пасажырскі вагон у адрозненне ад таварнага.

Даўно пад пагрузкай даўгі эшалон: платформы, цяплушкі і класны вагон. *М. Калачынскі.*

## КЛЕЙКАВІНА // КЛЕЙКАСЦЬ

**Клейкавíна.** Клейкае бялковае рэчыва, якое знаходзіцца ў зерні злакаў і не раствараецца ў вадзе.

Гэты крухмал, ператварыўшыся ў растваральны цукар, пасля доўгіх вандраванняў па расліне адкладаўся, нарэшце, у зерні ў выглядзе крухмалу або ў выглядзе клейкавіны. *Б. Розен.*

**Клéйкасць.** Здольнасць склейваць, прыклейвацца; ліпучасць, ліпкасць.

Яны (былінкі) церушыліся, як сухія, і ў той жа час у іх заўважалася нейкая клейкасць, уласцівая толькі жывым раслінам. *У. Шыцік.*

## КЛЕРК // КЛЕРЫКАЛ

**Клерк.** Канторскі служачы ў некаторых зарубежных краінах.

І дзіўна было Алесю, што і вахман, з выгляду мяшчаністы, востраносенькі акулярнік,— не клерк які-небудзь ды не дробны гаспадар, а селянін таксама. *Я. Брыль.*

**Клерыкáл.** Член клерыкальнай партыі; прыхільнік клерыкалізму — рэакцыйнага палітычнага напрамку, які імкнецца ўзмацніць уплыў царквы на грамадска-палітычнае і культурнае жыццё.

Гэту навіну Лабановіч успрыняў без асаблівага задавальнення, бо тады ўжо хадзілі гутаркі, што да беларускай газеты прымазваюцца польскія клерыкалы. *Я. Колас.*

## КЛІМАТАЛАГІЧНЫ // КЛІМАТЫЧНЫ

**Кліматалагíчны.** Які мае адносіны да кліматалогіі — навукі аб клімаце.

Вельмі важным кліматалагічным фактарам, які робіць уплыў на прыхода-расход праменнай энергіі, з'яўляецца воблачнасць. *В. Дзяменцьеў.*

**Кліматы́чны.** Які мае адносіны да клімату.

Кліматычныя ўмовы цалкам адпавядаюць умовам паспяховага вырошчвання цукровых буракоў. *Беларусь.*

**Клю́чніца.** *Уст.* Служанка ў панскім маёнтку, у распараджэнні якой былі прадукты харчавання і ключы ад месц іх захоўвання.

Старая ўспаміна́ла пра тое, як яе маці служыла ў пані ключніцай, і вельмі ж ганарылася гэтым.

**Ключы́ца.** Парная косць плечавога пояса, якая злучае лапатку з грудзінай.

Куля трапіла яму ў шыю ля самай ключыцы. *У. Дамашэвіч.*

## КЛЮШКА // КЛЮШНЯ

**Клю́шка.** Лёгкая палка з загнутым канцом для гульні ў хакей

Не простая гэта рэч — хакейная клюшка. Ды і сам хакей, скажу я вам, гульня не абы-якая. *Р. Няхай.*

**Клю́шня.** Канечная частка ножкі рака і ракападобных, якая нагадвае клешчы і служыць для хапання.

Маленькі краб, выкінуты хваляю на бераг, затаіўся пад каменем, дзе засталося крыху вільгаці, і пагражальна варушыць чорнымі клюшнямі. *Я. Брганская.*

## КЛЯЙМЕНЫ // КЛЯЙМОВЫ

**Кляймёны.** З кляймом.

Кляймёны конь. Кляймёны тавар.

**Кляймо́вы.** Які мае адносіны да кляйма; які з'яўляецца кляймом.

Кляймовы знак. Кляймовы след.

## КЛЯПАЛЬНЫ // КЛЯПАНЫ

**Кляпа́льны.** Звязаны з кляпаннем; прызначаны для кляпання.

Кляпальны малаток. Кляпальная работа.

**Кляпа́ны.** Зроблены кляпаннем; навостраны кляпаннем (пра касу).

Кляпаныя канструкцыі. Кляпаная каса.

## КНЯГІНЯ // КНЯЖНА / КНЯЗЕЎНА

**Княгі́ня.** Жонка князя.

Даўно пра княгіню забыла Княгініна, Халопенічы — пра халопаў даўно. *П. Панчанка.*

Н я п р а в і л ь н а. Падарожнік, што сядзіць у вазку, едзе да будучай нявесты — маладой княгіні (трэба: князёўны) Друцкай. *М. Лупсякоў.*

**Круглявы.** *Разм.* Круглаваты, акруглены.

Глечык, поўны ўвагі на круглявым хлапечым твары, абапіраўся на руку і слухаў. *В. Быкаў.*

### КРУМКАЧОВЫЯ // КРУМКАЧЫНЫ

**Крумкачовыя.** *мн.* Сямейства птушак, да якога адносяцца крумкач, варона, грак, галка і інш.

Сойка — прыгожая птушка нашых лясоў — таксама з сямейства крумкачовых.

**Крумкачыны.** Які мае адносіны да крумкача, характэрны для яго.

Крумкачыны крык. Крумкачынае гняздо.

### КРУПОЗНЫ // КРУПЧАСТЫ[1] // КРУПЧАСТЫ[2] // КРУПЯНЫ

**Крупозны.** Які мае адносіны да крупу — запалення гартані і трахеі, якое суправаджаецца задышкай.

Ход крупознай пнеўманії іншы раз зацягваецца, тэмпература даволі доўга не зніжаецца, а ў далейшым развіваюцца ўскладненні. *Звязда.*

**Крупчасты**[1]. Рассыпісты, зярністы; падобны на крупы.

Ціхі ранак. Снег крупчасты пад падэшвамі рыпіць. *Н. Гілевіч.*

**Крупчасты**[2]. *Разм.* Заражаны трыхінелай.

Кій быў з асмаленага ядлоўцу, ім Марцін расшчамляў свінням пашчэнкі, глядзеў, ці не крупчастыя. *А. Карпюк.*

**Крупяны.** Які мае адносіны да круп, іх вырабу; прыгатаваны з круп.

Неабходна значнае павелічэнне пасяўных плошчаў пад крупяныя культуры, і ў першую чаргу такой непатрабавальнай да ўмоў культуры, як грэчка. *Звязда.*

### КРУХМАЛЕНЫ // КРУХМАЛІСТЫ // КРУХМАЛЬНЫ

**Крухмалены.** Прамочаны растворам крухмалу; крухмальны *(у 2 знач.).*

Выдалі ўсім нам свежую пасцельную бялізну — адпрасаваную, крухмаленую, снежна-белую. *ЛіМ.*

**Крухмалісты.** Багаты крухмалам.

Плошчы, занятыя лепшымі гатункамі крухмалістай бульбы, з кожным годам павялічваюцца ў нашай рэспубліцы. *Звязда.*

**Крухмальны. 1.** Які мае адносіны да крухмалу; прыгатаваны з крухмалу.

У зонах спіртавых і крухмальных заводаў трэба ўкараняць гатункі бульбы з высокім утрыманнем крухмалу. *Звязда.*

**2.** Прамочаны растворам крухмалу; накрухмалены.

З-пад крухмальных манжэтаў высунуліся рукі — тонкія, белыя, амаль празрыстыя пальцы. *Б. Мікуліч.*

### КРУШНЯ // КРУШЫНА

**Кру́шня.** Вялікая куча камення.

Лясок, а за ляском — узгоркі, ля крушні крушня, нібы горкі. *А. Лойка.*

**Крушы́на.** Невялікае лісцёвае дрэва з чорнымі неядомымі ягадамі.

Кусты крушыны маладой карэннем дол прышылі. *Г. Кляўко.*

### КРЫВЕЦЬ // КРЫВІЦЬ

**Крыве́ць.** *Разм.* Станавіцца крывым.

Пачаў ён крывець даўно ўжо, спачатку амаль непрыкметна неяк, а цяпер дык зусім кульгавіць.

**Крыві́ць.** *што.* Рабіць крывым, перакошаным.

«Следчы» паціскае плячамі. Злая ўсмешка крывіць яго губы. *Я. Колас.*

### КРЫЖАВАНЫ // КРЫЖАВЫ // КРЫЖОВЫ

**Крыжава́ны.** Які перасякаецца крыж-накрыж; перакрыжаваны.

З маёнтка Зоська пускаецца ў панскую каплічку, якая стаіць недалёка на крыжаванай дарозе. *З. Бядуля.*

**Крыжавы́. 1.** Перакрыжаваны, скрыжаваны.

На крыжавых пуцінах з ёю я сустрэўся — куды ісці, не ведала яна. *Я. Купала.*

**2.** Які мае адносіны да ніжняй часткі хрыбетніка — крыжа.

Крыжавыя пазванкі зрастаюцца ў адну масіўную косць — крыж. *Анатомія і фізіялогія чалавека.*

**Крыжо́вы.** Які мае адносіны да крыжа або нагадвае яго па форме.

На фоне чыстага неба цямнее крыжовым верхам старая яліна. *ЛіМ.*

### КРЫМІНАЛАГІЧНЫ // КРЫМІНАЛІСТЫЧНЫ // КРЫМІНАЛЬНЫ

**Крыміналагі́чны.** Які мае адносіны да крыміналогіі — вучэння аб злачыннасці як сацыяльнай з'яве.

Крыміналагічныя даследаванні.

**Крыміналісты́чны.** Які мае адносіны да крыміналістыкі —

юрыдычнай дысцыпліны, якая вывучае метады расследавання злачынстваў.

Крыміналістычная экспертыза.

**Крыміна́льны.** Звязаны са злачынствам; злачынны.

Разведчыкі, сувязныя данеслі, што ва ўсёй гэтай справе вінаваты салдаты спецыяльнага батальёна, які фарміравалі гітлераўцы з паліцаяў ды з рознага крымінальнага зброду. *М. Лынькоў.*

### КРЫТЫКАНСКІ // КРЫТЫЧНЫ[1] / КРЫТЫЧНЫ[2]

**Крытыка́нскі.** Характэрны для крытыкана — чалавека, схільнага да прыдзірлівай, неабгрунтаванай крытыкі, звычайна павярхоўнай.

Цалкам крытыканскі характар яго выступлення выклікаў рэзка адмоўную рэакцыю ўсіх прысутных на сходзе. *Звязда.*

**Крыты́чны**[1]. **1.** Які заключае ў сабе крытыку, з'яўляецца крытыкай.

У апошні час з'явілася нямала крытычных прац, якія чытаюцца з карысцю, выклікаюць сур'ёзны роздум над жыццём і літаратурай. *А. Гардзіцкі.*

**2.** Здольны крытычна адносіцца да каго-чаго-н.

Першы раз за гады замужства акінула Аўгіння крытычным вокам хату свайго мужа. *Я. Колас.*

**Крыты́чны**[2]. Вельмі цяжкі, небяспечны; пераломны.

Яму ўвогуле падабаюцца вострыя, крытычныя моманты, калі жыццё вісіць на валаску, калі за нейкі міг трэба прыняць важнае, адказнае рашэнне. *І. Навуменка.*

### КРЫЎДАВАЦЬ / КРЫЎДЗІЦЦА // КРЫЎДЗІЦЬ

**Крыўдава́ць.** Мець крыўду на каго-н.; крыўдзіцца.

Я не памятаю, каб хто-небудзь, калі-небудзь крыўдаваў на яго [Я. Коласа] крытычны разбор, на яго добразычлівыя парады. *М. Лынькоў.*

**Кры́ўдзіцца.** Адчуваць крыўду, прымаць што-н. за крыўду.

Ціхон Ціханавіч не ўмеў крыўдзіцца і мірыўся з усім, што тварылася дома. *І. Грамовіч.*

**Кры́ўдзіць.** *каго.* Наносіць крыўду.

Ён [Е. А. Міровіч] мог і ўзлавацца, накрычаць на акцёра, скарыстаць сваю рэжысёрскую ўладу, але гэта ніколі не крыўдзіла, не зневажала, бо ішло ад шчырага сэрца, ад бацькоўскіх клопатаў і пачуцця адказнасці за спектакль і кожнага выканаўцу. *Я. Рамановіч.*

**Крыўдлі́вы.** Які лёгка крыўдзіцца, схільны бачыць крыўду, знявагу там, дзе іх і няма.

Чалавек я па сваёй натуры не крыўдлівы, даваў кожнаму, хто толькі таго хацеў, у ахвоту пасмяяцца з сябе і са сваёй пісаніны. *Б. Сачанка.*

**Кры́ўдны.** Які наносіць каму-н. крыўду, які заключае ў сабе крыўду.

Сяргей Іванавіч раптам пашкадаваў, што ўчора нагаварыў ёй шмат непрыемнага, крыўднага. *А. Марціновіч.*

## КРЫШТАЛЕВЫ / КРЫШТАЛІЧНЫ // // КРЫШТАЛЬНЫ // ХРУСТАЛЬНЫ

**Крышталёвы. 1.** Тое, што і крышталічны.

Крышталёвая будова рэчыва.

**2.** Тое, што і крыштальны *(у 2 знач.).*

Крышталёвая вада.

**Крышталі́чны.** Які мае адносіны да крышталя; які складаецца з крышталёў.

Сапраўднае цвёрдае цела мае крышталічную будову і плавіцца толькі пры пэўнай тэмпературы. *Б. Розен.*

**Крышта́льны. 1.** Тое, што і крышталічны.

Крыштальная каніфоль.

**2.** *перан.* Празрысты, светлы, чысты.

Крыштальнымі кроплямі цёплай жывіцы слязіліся свежыя пні і акоранае яловае бярвенне. *М. Машара.*

**3.** *перан.* Бездакорны, беззаганны (пра чалавека, яго якасці).

Павінна ж быць усё ў жыцці крыштальным, як сумленне, чэсць,— калі ржу не саскрасці, іржа й жалеза пераесць. *П. Броўка.*

**Хруста́льны. 1.** Які мае адносіны да хрусталю — шкла высокай якасці.

У думках ён ужо вызначыў, дзе развесіць дываны, паставіць, вядома, новы гарнітур, .. у залу, на відным месцы, павесіць чэшскую хрустальную люстру. *А. Дзятлаў.*

**2.** *перан.* Празрысты; чысты, звонкі.

Хрустальная капля расы. Хрустальны звон.

## КРЫШТАЛЬ // ХРУСТАЛЬ

**Крышта́ль.** Цвёрдае цела, якое мае натуральную форму мнагагранніка.

Крышталі кварцу. Крышталі солі.

**Хрусталь. 1.** Шкло высокай якасці, якое мае асобы бляск і здольнасць моцна праламляць святло.

Бакалы, вазы і кілішкі са штучнага хрусталю пераліваліся ўсімі колерамі вясёлкі. *І. Шамякін.*

**2.** Вырабы з такога шкла.

Сервант з фарфорам, хрусталём.

### КРЭМЕНЬ // КРЭМНІЙ

**Крэ́мень. 1.** Вельмі цвёрды мінерал (раней выкарыстоўваўся для высякання агню).

Сінонім: скалка.

Крэмень высякаў іскру за іскрай, але вогнішча не хацела распальвацца... *В. Іпатава.*

**2.** *перан.* Пра чалавека з цвёрдым, стойкім характарам.

— Вы ў гэтага хлапчука ні аб чым не пытайцеся. Не скажа. Гэта не хлопец, а крэмень. *М. Лынькоў.*

**Крэ́мній.** Хімічны элемент, які ўваходзіць у састаў большасці горных парод.

[Крэмній] займае другое месца паводле распаўсюджанасці ў прыродзе пасля кіслароду. *БелСЭ.*

### КУДЗЕЛІСТЫ // КУДЗЕЛЬНЫ

**Кудзе́лісты.** *Разм.* Падобны на кудзелю; лахматы, пушысты.

Трапяткім золатам пераліваліся кудзелістыя хмаркі. *М. Лынькоў.*

**Кудзе́льны.** Зроблены з кудзелі — прадзіва з прасніцы.

Ночкамі нядзельнымі маці ніткі там з барады кудзельнае выскубала нам. *А. Куляшоў.*

### КУЛЬТЫВАВАННЕ // КУЛЬТЫВАЦЫЯ

**Культывава́нне. 1.** Развядзенне, вырошчванне (пра расліны).

Спрыяльныя глебавыя ўмовы для культывавання цукровых буракоў маюцца ў Віцебскай і Мінскай абласцях. *Беларусь.*

**2.** Развіццё, удасканальванне чаго-н. кім-н. спосабам; садзейнічанне развіццю чаго-н.

Культывavанне патрыятызму. Культываванне калектывізму.

**Культыва́цыя.** Апрацоўка глебы культыватарам.

Ранняй вясной было праведзена баранаванне і культывацыя зябліва. *М. Арочка.*

Няправільна. Культывацыя (трэба: культываванне) толькі адной культуры, як вядома, прыводзіць да масавага размнажэння шкоднікаў лесу. *Звязда.*

## КУПАЛЬНЫ // КУПАЛЬСКІ

**Купа́льны.** Які мае адносіны да купання; прызначаны для купання.

Купальны сезон. Купальны касцюм.

**Купа́льскі.** Які мае адносіны да купалля, да абрадаў, звязаных з гэтым старажытным святам.

На купалле моладзь звычайна выпраўлялася з купальскімі песнямі, заклікала ўсіх ісці на гулянне. *А. Ліс.*

## КУПІСТЫ / КУП'ІСТЫ // КУПЧАСТЫ

**Ку́пісты.** Тое, што і к у п' і с т ы.

На купістым балоце стаяў рэдзенькі і невысокі хмызняк. *У. Федасеенка.*

**Куп'і́сты.** Пакрыты купінамі, з купінамі.

І выйшла [Тэкля] у канец поля, да сенажаці, якая пераходзіла ў куп'істае балота, якое цягнулася аж да рэчкі. *А. Жук.*

**Купча́сты. 1.** З пышнай густой кронай (пра дрэвы); кароністы.

Як і да вайны, тут перад вокнамі зелянелі ў два рады купчастыя клёны. *І. Мележ.*

**2.** Пакрыты купінамі; куп'істы.

Калі Віктар выбраўся на купчастую балоцістую палянку, дык убачыў, што Мірон схіліўся над журавінамі. *Я. Маўр.*

## КУПЛЕНЫ // КУПЛЁНЫ

**Ку́плены.** Які купілі, набылі за грошы.

Бацька ягоны не меў надзелу, і сям'і даводзілася жыць з няпэўных і непастаянных заробкаў, на ўсім купленым. *М. Стральцоў.*

**Куплёны.** Не свайго вырабу, набыты за грошы.

І валёнкі ў яе з куплёнымі галёшамі — бліскучымі-бліскучымі. *А. Васілевіч.*

## КУРАВА // КУРЫВА

**Ку́рава.** *Разм.* Асадак дыму; копаць, сажа.

С і н о н і м: куродым.

Мы зналі: за дымам і куравам чорным навек праясніцца за цьмелая даль. *А. Гурло.*

**Ку́рыва.** *Разм.* Тое, што кураць; папяросы, цыгарэты, тытунь.

— Курцу, ведаеш, без курыва, што п'яніцы без гарэлкі. *А. Васілевіч.*

# Л

## ЛАБАРАНЦКІ // ЛАБАРАТОРНЫ

**Лабара́нцкі.** Які мае адносіны да лабаранта.

Усе заданні кіраўніка групы ён выконваў добрасумленна і кваліфікавана, свае лабаранцкія абавязкі ведаў дасканала.

**Лабарато́рны.** Які мае адносіны да лабараторыі.

Аднак усе іх доследы не выйшлі са стадыі лабараторных даследаванняў. *Б. Розен.*

## ЛАГЧЫНІСТЫ // ЛАГЧЫННЫ

**Лагчы́ністы.** З мноствам лагчын, багаты лагчынамі.

Грэблі і лагчыністыя дарогі скрозь былі выбрукаваны тонкім бярвеннем і плашкамі. *К. Чорны.*

**Лагчы́нны.** Які мае адносіны да лагчыны; звязаны з лагчынай.

Лагчыннае месца. Лагчынная вільгаць.

## ЛАЗУРАК // ЛАЗУРЫТ

**Лазу́рак. 1.** Светла-сіні колер, колер яснага неба.

Сінонім: блакіт.

На хмарным небе вызначылася мясцінка сіняга лазурку. *Ц. Гартны.*

**2.** Фарба светла-сіняга, блакітнага колеру.

Сінія фарбы — ультрамарын і малярны лазурак. *Таваразнаўства.*

**Лазуры́т.** Мінерал цёмна-сіняга колеру; выкарыстоўваецца для дробных вырабаў, упрыгожанняў, прыгатавання фарбаў (ультрамарыну).

Трапляецца лазурыт у суцэльных шчыльных масах, часам у крышталях кубічнай сістэмы. Колер лазурна-сіні, блакітны, фіялетавы. Бляск шкляны. *БелСЭ.*

## ЛАКАЛІЗАВАНЫ // ЛАКАЛЬНЫ

**Лакалізава́ны.** Абмежаваны пэўным месцам.

Праўда, прастора гэта не лакалізавана, але яна заўсёды рэальная і канкрэтная ў сваіх дэталях. *У. Дубоўка.*

**Ляка́льны.** Уласцівы толькі пэўнаму месцу, мясцовасці.

Сінонім: мясцовы.

Лакальны характар вывадаў і абагульненняў, заснаваны на мясцовых фактах, не засланяе сабой сутнасці справы *Б. Стральцоў.*

## ЛАКАМАБІЛЬ // ЛАКАМАТЫЎ

**Лакамабіль.** Паравая ўстаноўка, якая прыводзіць у рух розныя машыны; паравік.

Электрастанцыю будуць пачынаць. Пакуль што прывезлі толькі лакамабіль. Во, чуеш, і цыркулярка заспявала. *Я Брыль.*

**Лакаматы́ў.** Машына (паравоз, цеплавоз, электравоз) для перамяшчэння па рэйках чыгуначных вагонаў

Заўсёды, калі лакаматыву выпадала патрэба развярнуцца, ён бег сюды, спыняўся на крузе, круг круціўся і скіроўваў лака матыў лупатым вокам наперад. *В. Казько.*

## ЛАКІРАВАЛЬНЫ // ЛАКІРАВАНЫ // // ЛАКІРОВАНЫ // ЛАКІРОВАЧНЫ

**Лакірава́льны.** Які мае адносіны да лакіравання, прызначаны для яго.

Цэх атрымаў новыя лакіравальныя машыны, і таму ёсць усе падставы значна палепшыць якасць прадукцыі. *Звязда.*

**Лакірава́ны. 1.** Пакрыты лакам.

Праўда, самога пана бачылі ў Руднічах толькі адзін раз. Прыкаціў у лакіраванай брычцы, агледзеў дом, палеткі, параначаваў і паехаў. *Я. Курто.*

**2.** *перан.* Бліскучы, глянцавіты.

Росы сплывалі з абмытых, нібы лакіраваных дрэў *У Караткевіч.*

**Лакіро́ваны.** Тое, што і л а к і р а в а н ы.

Лакірованая шафа. Лакірованыя чаравікі

**Лакіро́вачны.** Які мае адносіны да лакіравання; звязаны з лакіраваннем, прызначаны для яго.

У лакіровачным цэху я наглядаў за лакіроўкай абадоў і рам. *Беларусь.*

## ЛАКТАЦЫЯ // ЛАКТОЗА

**Лакта́цыя.** Працэс утварэння і выдзялення малака ў самак млекакормячых; перыяд такога выдзялення малака.

Прадукцыйнасць хоць і невысокая (у межах 3000—3500), удоі на працягу ўсёй лактацыі раўнамерныя. *М. Кавалёва.*

**Лакто́за.** *Спец.* Цукар, які ўтрымліваецца ў малацэ млекакормячых.

Сінонім: малочны цукар.

Ад браджэння лактозы малака атрымліваюць кісламалочныя прадукты. *БелСЭ.*

## ЛАПЦЮЖНІЦКІ // ЛАПЦЮЖНЫ

**Лапцю́жніцкі.** *Разм.* Які мае адносіны да лапцюжніка.

Лапцюжніцкая апратка. Лапцюжніцкая гаспадарка.

**Лапцю́жны.** *Разм.* Бедны, адсталы; цяжкі, жабрацкі (пра лёс, долю)

Дзед заплятае аборы, лёс свой лапцюжны кляне. *М Калачынскі.*

## ЛАПЧАСТЫ // ЛАПЧАТЫ

**Лапча́сты. 1.** Падобны па форме на лапу, лапы.

Стаіць вялізны стары лось, гарбаносы, з цёмнаю шэрсцю на спіне, са здаравеннымі лапчастымі рагамі. *Я. Колас.*

**2.** З мноствам лап, з вялікімі пышнымі лапамі (пра дрэвы)

Млее над хатаю светлы, лапчасты маньчжурскі арэх. *У. Караткевіч.*

**Лапча́ты. 1.** Які мае лапы з перапонкамі.

Лапчаты гусак. Лапчатая качка.

**2.** Які мае лапу, лапы (пра інструменты, прыстасаванні)

Лапчаты культыватар.

## ЛАРОК // ЛАТАК // ЛАТОК

**Laро́к.** Гандлёвая палатка.

Прадавалі ў палатках арцельны тавар ганчары, а ў ларках садаводы — калгаснага лета дары. *А. Куляшоў.*

**Лата́к.** Адкрыты жолаб для сцёку, ссыпання чаго-н.; латок *(у 2 знач.)*

Тут вясной уся вёска спускае сок з бяроз. І сцякае ён у гладышы і дзежачкі па тонкіх латаках. *А. Васілевіч.*

**Лато́к. 1.** Адкрыты прылавак (або пераносная скрынка, столік) для гандлю на вуліцы.

Гандлявалі з латкоў, з крам, з будак, а старызнікі раскладвалі свой тавар проста на зямлі. *Я. Скрыган.*

**2.** Адкрыты жолаб для сцёку, ссыпання чаго-н.; латак.

Алёша прыпыняе камбайн і любуецца, як цераз латок льецца з бункера ў скрыні жывы вясёлы струмень збожжа. *І. Шамякін.*

## ЛАСАСЁВЫ // ЛАСАСІНАВЫ

**Ласасёвы.** Які мае адносіны да ласося; звязаны з лоўляй і развядзеннем ласося.

Ласасёвая ікра. Ласасёвая пуціна.

**Ласасінавы.** Які мае адносіны да ласасіны — мяса ласося Ласасінавыя кансервы.

### ЛАСІНАВЫ // ЛАСІНЫ

**Ласінавы.** Зроблены, сшыты з ласіны — вырабленай скуры лася.

Ласінавая куртка. Ласінавыя боты.

**Ласіны.** Які мае адносіны да лася, належыць яму

Наўкол тайга і тайга, ні прагаліны, ні сцежкі, ні аднае жывое душы, ні дымка, ні жывога гуку, толькі сям-там дарогу перакрыжавалі ласіныя сляды ды заечыя сцяжынкі *С Грахоўскі*

### ЛАСКАВЫ // ЛАСКАЛЬНЫ

**Ла́ска́вы.** Поўны ласкі, любві; пяшчотны, ветлівы

Сухенькая, тоненькая, як былінка, твар увесь у зморшчынах, як печаная груша, але якая прыветная і ласкавая была гэта ба булька. *А. Чарнышэвіч.*

**Ласка́льны.** У граматыцы: які ўносіць сваёй формай адценне ласкі ў значэнне слова.

Вельмі разнастайныя эмацыянальна-ацэначныя формы, сярод якіх можна бачыць ласкальныя і неадабральна-зняважлівыя *П. Сцяцко.*

### ЛАЎР // ЛА́ЎРА

**Лаўр. 1.** Паўднёвае вечназялёнае дрэва з пахучым лісцем, якое ўжываецца як прыправа.

Прыгожы лаўр, услаўлены паэтамі ўсяго свету, але ён расце не на ўсякай глебе. *Р. Шкраба.*

**2.** *звычайна мн.* Вянок з лісця гэтага дрэва ці галінка як сімвал перамогі, узнагароды.

Веру, што лаўры вам не патрэбны. *У Шыцік.*

**Ла́ўра.** Назва буйных і важных па свайму становішчу муж чынскіх манастыроў.

З захапленнем разглядалі турысты залатыя, бліскучыя на сонцы купалы Кіева-Пячэрскай лаўры і старажытных цэркваў *ЛіМ.*

### ЛАФЕТ // ЛАФІТ

**Лафе́т.** Станок, на якім замацоўваецца ствол артылерыйскай гарматы.

Выводзіў з бою свае батарэі і маёр. Раненыя ляжалі на лафетах. Услед за батарэяй пайшлі і мы. *Р. Няхай.*

**Лафіт.** Гатунак чырвонага вінаграднага віна.

Бутэлька лафіту.

### / ЛЕДАВІКОВЫ // ЛЕДЗЯНІСТЫ // ЛЕДЗЯНЫ // // ЛЕДНІКОВЫ // ЛЁДАВЫ / ЛЯДОВЫ

**Ледавікóвы.** *Разм.* Тое, што і л е д н і к о в ы.

На самай ростаньцы, з-пад аграмаднага ледавіковага каменя-валуна біла крыніца, і над ёю стаяў вялізны дубовы крыж. *В. Карамазаў.*

**Ледзянíсты.** Які ператварыўся ў лёд; падобны на лёд.

Было пуста на вуліцы, паціскаў восеньскі марозік, пачынаў дзьмуць пранізлівы вецер, прапахлы ледзяністым халадком снегу. *А. Жук.*

**Ледзяны́. 1.** Які мае адносіны да лёду; з лёду; абледзянелы.

Уначы яшчэ задыхаліся ад сцюжы, а ўдзень сляпіла вочы зыркае сонца, звінелі капяжы, з-пад сумётаў выбіваліся каламутныя раўчукі, Біязінка злізвала апошнія ледзяныя закрайкі і набухала празрыстай крынічнай вадою. *С. Грахоўскі.*

**2.** Вельмі халодны; халодны як лёд; застылы, адубелы.

Дакладная прыкмета: цецерукі нанач у снег зашываюцца — трашчаць марозу, гуляць ледзяным ветрам. *Р. Ігнаценка.*

**3.** *перан.* Пагардліва-халодны, знішчальны; халодна-раўнадушны, абыякавы.

Ледзяны позірк. Ледзяны выраз твару.

**Ледніко́вы.** Які мае адносіны да ледніка, глетчара.

Ледніковае покрыва. Ледніковыя азёры.

**Лёдавы.** Які адбываецца ў ільдах; які складаецца з ільдоў (часцей пра Паўночны Ледавіты акіян).

Дзякуй богу, ззаду засталіся лёдавыя прасторы паўночных мораў, айсбергі, туманы, праліў Вількіцкага, моцна забіты льдамі .. *Я. Бяганская.*

**Лядо́вы.** Тое, што і л ё д а в ы.

Карабель наш «Арол», атрыманы ў часе вайны ад амерыканцаў, не быў прыстасаваны для плавання ў лядовых шыротах, і нашы сябры і знаёмыя глядзелі на нас як на вельмі рызыкоўных людзей. *Я. Бяганская.*

Н я п р а в і л ь н а. Зноў дыхнуў лядовы (трэба: ледзяны) вецер. *К. Буйло.*

## ЛЕДЗЯНЕЦЬ // ЛЕДЗЯНІЦЬ

**Ледзяне́ць. 1.** Пакрываецца зверху лёдам.

Зіма ніяк не клалася на зямлю — з неба імжэў дождж са снегам, на эстакадзе рабілася коўзка, а ўначы пры марозе ўсё ледзянела. *В. Карамазаў.*

**2.** Станавіцца халодным, як лёд, мерзнуць, дубець, нямець.

Далібор павольна ехаў на кані і адчуваў, як мярцвее і ледзянее зямля і неба. *Л. Дайнека.*

**Ледзяні́ць.** *каго-што.* **1.** Ператвараць у лёд; замарожваць.

Браўся мароз — ды на суткі, не болей, ледзяніў толькі снег, не выйсці, не высунуцца на дарогу. *І. Пташнікаў.* ‖ Пранізваць холадам. Холад настойліва забіраўся пад майкі і ледзяніў цела. *У. Карпаў.*

**2.** *перан., звычайна са словамі «кроў», «сэрца», «душу» і пад.* Даводзіць да стану здранцвення, жаху

Ці могуць людзі, паміраючы, адчуваць сябе шчаслівымі? Та кога, мусіць, не бывае: усведамленне рэальнай смерці ледзяніць усе пачуцці чалавека. *А. Капусцін.*

## ЛЕЖАНЬ // ЛЕЖНЯ

**Ле́жань.** *Разм.* Чалавек, які любіць доўга спаць, ляжаць.
Сінонім: лодар.

Спіць гэты лежань пад цёплымі хмарамі, а мы гаспадарым як гаспадарылі. *М. Лужанін.*

**Ле́жня. 1.** Месца, дзе ляжаць, хаваюцца гуртамі дзікія жывёлы; след звера, які ляжаў на зямлі.

Каб не снег, каб не загледзеўся, каб лежня бадзягі была трохі далей, каб не паслізнулася нага — ехаў бы жывы-здаровы. *У Караткевіч.*

**2.** Працяглае, доўгае ляжанне; вылежванне ў пасцелі.

Пачынаюць балець плечы і спіна ў крыжы — ад лежні. *І. Пташнікаў.*

## ЛЕЙКЕМІЯ // ЛЕЙКОМА

**Лейкемі́я.** Захворванне крыві, пры якім рэзка павялічваецца колькасць лейкацытаў.

Сінонімы: лейкоз, белакроўе.

Любое павышэнне абпраменьвання звязана з павышэннем колькасці ракавых захворванняў, у прыватнасці лейкеміі. *ЛіМ*

**Лейко́ма.** Пляма на рагавой абалонцы вока.

Сінонім: бяльмо.

Доктар, відаць па звычцы, спачатку так і казаў — лейкома,

але стары не зразумеў і перапытаў яго. Тады ён проста сказаў — бяльмо ў вас, трэба ехаць у Мінск на аперацыю. *ЛіМ.*

### ЛЕКАВЫ // ЛЕКАРСКІ // ЛЯЧЭБНЫ

**Ле́кавы.** Які мае адносіны да лекаў, уласцівы ім; прызначаны для лекаў; які мае лекавыя якасці.

У горадзе ён спецыяльна хадзіў на рынак, каб пагаварыць з такімі вось нястомнымі шукальнікамі лекавых траў. *А. Асіпенка.*

**Ле́карскі.** *Разм.* Які мае адносіны да лекара, належыць яму.

Сам дзядзька прамыў рану, аблажыў лісткамі трыпутніку, харашэнька забінтаваў. Ён цяпер з задавальненнем расказваў пра сваю лекарскую работу, ганарыўся ёю. *П. Пестрак.*

**Лячэ́бны.** Прызначаны для лячэння, звязаны з ім.

Лячэбная фізкультура. Лячэбны кабінет.

### ЛЕКСІКАГРАФІЧНЫ // ЛЕКСІКАЛАГІЧНЫ // ЛЕКСІЧНЫ

**Лексікаграфі́чны.** Які мае адносіны да лексікаграфіі — тэорыі і практыкі складання слоўнікаў.

Лексікаграфічны зборнік. Лексікаграфічная работа.

**Лексікалагі́чны.** Які мае адносіны да лексікалогіі — раздзела мовазнаўства, які вывучае лексіку, слоўнікавы састаў.

Пабудаваная на ўзроўні навейшых патрабаванняў лексікалагічнай і лексікаграфічнай навукі картатэка з'явіцца базай не толькі для слоўнікавых работ, але і для даследаванняў шырокага лексікалагічнага плана. *М. Суднік.*

**Лексі́чны.** Які мае адносіны да лексікі.

Сінонім: слоўнікавы.

Займаючы самы крайні абшар усходнеславянскай тэрыторыі, беларусы, натуральна, у першую чаргу ўспрымалі лексічныя запазычанні, якія ішлі з захаду. *А. Жураўскі.*

### ЛЕКТАРСКІ // ЛЕКЦЫЙНЫ

**Ле́ктарскі.** Які мае адносіны да лектара, характэрны для яго.

Шыковіч не хлусіў: кожны раз, выязджаючы ў раён, ён браў у абкоме лектарскую пуцёўку. *І. Шамякін.*

**Лекцы́йны.** Які мае адносіны да лекцый, звязаны з ёю.

Страшным ворагам лекцыйнай прапаганды з'яўляецца фармалізм. *Пытанні рэлігіі і атэізму.*

### ЛЁСКА // ЛЁСТКА // ЛЁСТКІ

**Лёска.** Прымацаваная да вудзільна нітка (капронавая жылка і пад.) з рыбалоўным кручком на канцы.

Лёска з'яўляецца адной з самых важных, самых адказных частак вуды. *А. Матрунёнак.*

**Лёстка.** Кожная з папярочных планак у калёсных драбінах.

Сымон прывязаў лейцы да лёсткі, саскочыў з воза і пайшоў поруч. *А. Чарнышэвіч.*

**Лёсткі.** *звычайна мн. Разм.* Ліслівыя словы, усхваленні

П'юць за здароўе, па парадку, усіх прысутных за сталом, а графу лёсткі сцелюць гладка і славяць чуць не каралём *М. Машара.*

## ЛІЛЕЯ / ЛІЛІЯ // ЛІЯНА

**Лілéя.** *Паэт., уст.* Тое, што л і л і я.

У ціхай затоцы распусціліся лілеі. Здавалася, быццам не кветкі, а расцвіла сама рака, бо ўся вада была ўкрыта бела-жоўтымі гарлачыкамі. *І. Капыловіч.*

**Лíлія.** Цыбульная расліна сямейства лілейных з прамым сцяблом і буйнымі кветкамі ў выглядзе званка.

Але, як я чуў, вельмі прыгожа паляць у Гішпаніі: перад кастром нават засмоленую да чорнага бочку з вадой ставяць, а ў яе спускаюць плаваць лілію — сімвал чысціні духу чалавечага *А. Лойка.*

**Ліяна.** Агульная назва павойных раслін, пашыраных у тра пічных лясах.

Там бразільскі лес, ліяны, тут дыван зялёны прэрый, іх ад сіні акіяна аддзяляюць Кардыльеры. *К. Крапіва.*

## ЛІМАННЫ // ЛІМОННЫ

**Лімáнны.** Які мае адносіны да лімана — заліва ў нізоўях ракі або салёнага возера паблізу мора.

Месца нам спадабалася, і мы рашылі адпачыць на беразе Гэта быў ліманны бераг, як пазней даведаліся ад мясцовых жы хароў. *ЛіМ.*

**Лімóнны. 1.** Які мае адносіны да лімона, характэрны для яго

Пан Мусатаў сядзеў за сталом і папіваў ледзяную ваду з лі монным сокам. *У. Караткевіч.*

**2.** Светла-жоўты, колеру спелага лімона.

Вось лімонны, з тонкімі зялёнымі прожылкамі лісток бярозы *Р. Ігнаценка.*

## ЛІНЕЕНЫ // ЛІНЕЙНЫ

**Лінéены.** Такі, на якім праведзены лініі для пісьма

Лінееная папера. Лінеены лісток.

## ЛІНЮЧЫ // ЛІНЯЛЫ

**Лінючы.** **1.** Які лёгка ліняе, выцвітае, змяняе колер.

Нейкая вельмі ж лінючая матэрыя: яшчэ зусім новая кофтачка, а за месяц выгарала на сонцы, пабялела ўся. *ЛіМ.*

**2.** Які знаходзіцца ў стане ліньці; які ліняе.

Недалёка ад хаты, на лужку, пасвіўся невялікі табунок калгасных коней. Коні, як коні, брыгадныя рабацягі, з падупалымі лінючымі бакамі. *Е. Лось.*

**Лінялы.** **1.** Які страціў першапачатковую афарбоўку, стаў няяркім; выцвілы.

Нячутна падышла жанчына ў лінялай жакетцы нараспашку. *А. Кулакоўскі.*

**2.** Які скінуў, змяніў сваё верхняе покрыва; вылінялы (пра жывёл, птушак).

Гладкі, лінялы конь. Лінялая курыца.

## ЛІПЕЦЬ // ЛІПНУЦЬ

**Ліпець.** *Разм.* **1.** Ледзь-ледзь трымацца (пра каго-што-н.).

Усё сяло абнесена высокім плотам. Пры ўездзе ледзь ліпяць на адной закрутцы вароты. *С. Грахоўскі.*

**2.** *перан.* Пра вельмі слабае праяўленне якіх-н. працэсаў, пра стан заняпаду чаго-н.

Ледзь ліпіць аганёк, смольны корч дагарае. *А. Зарыцкі.*

**Ліпнуць.** Прыставаць, прыліпаць; аблепліваць, усыпаць.

У твары несла гарам, попелам, які ліпнуў да цела і пёк, нібы агонь. *В. Карамазаў.*

## ЛІСТАВЫ[1] / ЛІСТАВЫ[2] // ЛІСЦВЯНЫ / ЛІСЦЕВЫ / / ЛІСЦЁВЫ / ЛІСЦЯНЫ

**Ліставы**[1]**.** Які мае адносіны да ліста дрэў; у лістах.

[Марцін] ачышчаў стол ад свайго тытуню, і крышанага і ліставога. *К. Чорны.* ‖ Які мае лісце; пакрыты лісцем; лісцевы.

За засцянковай прысадай адразу пачынаўся сад. З поўначы яго ахоўвала ад вятроў шырокая паласа ліставога лесу — бяроз, асін і грабаў. *М. Машара.*

**Ліставы́**[2]. Зроблены з якога-н. матэрыялу ў выглядзе ліста.

Дзверы былі абшыты тоўстым ліставым жалезам, і на іх таксама вісеў замок. *А. Шашкоў.*

**Лісцвяны́.** **1.** Які мае адносіны да лісця; пакрыты, услань лісцем.

Неўзабаве ні голасу чалавечага, ні шолаху лісцвянага не стала чутно. *Л. Дайнека.*

**2.** Які мае лісце, з лістамі; лісцевы *(у 2 знач.)*; п р о ц і л. хвойны.

Вакол стаялі высокія хвоі, між іх зелянелі махнатыя елачкі, лісцвяных дрэў не было відаць, не відаць было і кустарніку. *Л. Арабей.*

**Лісцевы.** **1.** Які мае адносіны да лісця, утвораны лісцем.

У лясной глушы пад густым лісцевым навесам заўсёды пануе паўзмрок і вільгаць. *В. Вольскі.*

**2.** Які мае лісце, з лістамі; лісцвяны *(у 2 знач.)*; лісцёвы; п р о ц і л. хвойны.

Лісцевае вецце і хвойныя лапы іншы раз спляталіся над дарогай, і сонечнае святло цадзілася праз зялёную страху, як праз сіта. *Т. Хадкевіч.*

**Лісцёвы.** Які мае лісце, з лістамі; лісцевы *(у 2 знач.)*; лісцвяны *(у 2 знач.)*; п р о ц і л. хвойны.

Там-сям хаваліся ў траве недарэчна кволыя елачкі і сасонкі, чакалі жыватворчага цэню, каб потым адразу вымахнуць пад неба, прыглушыць лісцёвыя дрэвы. *А. Асіпенка.*

**Лісцяны́.** *Разм.* Тое, што і л і с ц в я н ы *(у 2 знач.)*; лісцевы *(у 2 знач.)*.

Ляжым на лісцяной, раней падсушанай каля агню пасцелі. *Я. Брыль.* На крокаў трыста ад хаткі быў густы лісцяны лес. *З. Бядуля.*

### ЛІТАРАЛЬНЫ // ЛІТАРНЫ

**Літара́льны.** **1.** Які дакладна адпавядае чаму-н.

С і н о н і м: даслоўны.

У практыцы беларуска-ўкраінскага паэтычнага ўзаемаперакладу мы часта сустракаемся з цэлымі радкамі, часам страфамі літаральнага перакладу. *Э. Мартынава.*

**2.** Дакладны; прамы, не пераносны.

Літаральны сэнс слова.

**Лі́тарны.** Які мае адносіны да літары, літар.

У час навучання грамаце павінна шырока прымяняцца разразная азбука і літарная каса. *М. Марчанка.*

## ЛІХТАР // ЛІХТЭР

**Ліхта́р.** Асвятляльны прыбор з крыніцай святла ў шкляным шары або ў футляры, скрынцы са шклянымі сценкамі.

Недалёка на сценцы мігае закапцелы чыгуначны ліхтар. *М. Лынькоў.*

**Лі́хтэр.** Невялікае грузавое, звычайна несамаходнае судна, прызначанае для пагрузкі і разгрузкі вялікіх суднаў або для мясцовых перавозак.

У навігацыю гэтага года першыя чатыры рабочыя колы турбін перавязе караван ліхтэраў. *Звязда.*

## ЛОТАС // ЛОТАЦЬ

**Ло́тас.** Паўднёвая шматгадовая травяністая водная расліна з прыгожымі буйнымі кветкамі.

[Лотас] — харчовая, лекавая і дэкаратыўная расліна. *БелСЭ.*

**Ло́таць.** Шматгадовая травяністая расліна з жоўтымі кветкамі, якая расце звычайна на нізінных лугах, на балотах.

На балоце разгарнула галоўкі лотаць — усё, вясна... І так далей — лета, восень. Прырода завяла парадак — прырода яго блюдзе. *А. Кудравец.*

## ЛЮДНЫ // ЛЮДСКІ // ЛЮДСКІ

**Лю́дны.** Такі, дзе прысутнічае многа людзей; мнагалюдны.

На гэтай заазёрнай паўвыспе стаялі спрадвеку дзве людныя вёскі. Улетку сорак трэцяга года фашысты-карнікі спалілі іх разам з людзьмі. *Я. Брыль.* ‖ Такі, дзе бывае звычайна многа прахожых, праезджых. Людны і шумны хвіліну таму назад перон пачаў пусцець. *Т. Хадкевіч.*

**Лю́дскі. 1.** Такі, як і трэба; прыстойны; чалавечны.

Надзвычай просты, людскі, шчыры, ён [Глебка] сустракаў кожнага з мяккай усмешкай і добразычлівым позіркам карых вачэй, гаварыў ціха, павольна, выразна, у добрай інтэлігентнай манеры. *Я. Рамановіч.*

**2.** Добры, прыгодны для чаго-н. (як у людзей)

Мы жывём у падпаветцы, у якой бацька выразаў невялікае, на чатыры бalонкі, акенца, паклаў столь, зрабіў печ, выбіў гліняны ток,— але якая гэта хата, і мы хочам зрабіць, як кажа маці, людскую. *В. Адамчык.*

**Людскí. 1.** Які мае адносіны да людзей, належыць ім.

Сярод адвечнай цішыні першабытных лясоў рэдка сустрака ліся людскія паселішчы. *В. Вольскі.*

**2.** Уласцівы людзям; чалавечы.

Салігорцы шануюць слаўную памяць аб героях-партызанах, якія аддалі тут сваё жыццё за шчасце людское. *А. Кулакоўскі.*

### ЛЯМЕШ // ЛЯМЕШКА

**Ляме́ш.** Частка плуга, якая падразае зямлю знізу.

Сінонім: нарог.

Баразна вылузвалася з-пад лемяша, бегла за плугам, цьмяна пабліскваючы на сонцы. *М. Капыловіч.*

**Ляме́шка.** *Абл.* Страва з запаранага цеста, разведзенага вадой (з маслам ці салам).

Кармілі звычайна лямешкай, што складалася толькі з вады і мукі, без усялякай прыправы. *Р. Няхай.*

### ЛЯСІСТЫ // ЛЯСНЫ

**Лясі́сты.** Густа парослы лесам, багаты лесам.

У гэтым глухім лясістым месцы, дзе лес часта саступаў месца балоту, трэба было разведваць кожны крок. *К. Чорны.*

**Лясны́. 1.** Характэрны для лесу; які жыве ці расце, знаходзіцца ў лесе.

Ён ледзь не заснуў, калі насцярожанае вуха пачула падазроныя гукі на лясной дарозе. *М. Лынькоў.* ‖ Багаты лесам, лясісты. Колькі раздолля ты дорыш жыццю, край мой узгоркавы, край мой лясны. *Н. Гілевіч.*

**2.** Які мае адносіны да лесаводства, да эксплуатацыі лесу.

Усе асноўныя лясныя масівы Беларусі знаходзяцца ў веданні дзяржаўных гаспадарак. *Геаграфія БССР.*

### ЛЯСНІК // ЛЯСНІЧЫ // ЛЯСУН

**Лясні́к.** Даглядчык, вартаўнік лесу.

Сялянства ад веку адносіцца да леснікоў з пашанай і бояззю, бо ад іх залежыць многае. *П. Пестрак.*

**Лясні́чы.** Загадчык лясніцтва; спецыяліст па лясной гаспадарцы.

Ляснічы, стары чалавек, адступіў са сваімі, каб не трапіць у рукі фашыстаў. *І. Шамякін.*

**Лясу́н.** У славянскай міфалогіі: казачны жыхар лесу, лясны дух.

Стаяў калісь тут бор стары, і жыў лясун у тым бары. *М. Багдановіч.*

# М

## МАБІЛІЗАВАНЫ // МАБІЛІЗАЦЫЙНЫ

**Мабілізава́ны.** Прызваны ў армію па мабілізацыі.

Аказваецца, муж маладзічкі быў мабілізаваны ў войска, а цётчын сын служыў тэрміновую ў арміі, таму абедзве яны асабліва спачувалі і спагадалі нашым салдатам, якіх фашысты захапілі ў палон. *М. Аўрамчык.*

**Мабілізацы́йны.** Які мае адносіны да мабілізацыі.

У ваенкамаце Яўгену Клімчанку перш за ўсё далі тэрміновае заданне: разнесці мабілізацыйныя павесткі. *М. Гроднеў.*

## МАГІСТР // МАГІСТРАНТ // МАГІСТРАТ

**Магі́стр. 1.** Першая вучоная ступень у некаторых зарубежных краінах і дарэвалюцыйнай Расіі; з 1992 г. і ў нашай рэспубліцы; асоба, якая мае гэту ступень.

Дык яны ўсе маюць вышэйшую адукацыю. Кожны з іх магістр, а то і доктар. *М. Машара.* ‖ Ужо з новага навучальнага года [1992] па некаторых спецыяльнасцях у БДУ ўводзяцца дзве акадэмічныя ступені — бакалаўра і магістра. *Звязда.*

**2.** У сярэднія вякі: тытул кіраўніка каталіцкага духоўнарыцарскага ордэна; асоба, якая мела такі тытул.

У бітве загінуў вялікі магістр (глава ордэна) і большасць рыцараў. Грунвальдскі бой зламаў сілы ордэна і паклаў канец захопам нямецкіх рыцараў у Прыбалтыцы. *Гісторыя сярэдніх вякоў.*

**Магістра́нт.** Асоба, якая рыхтуецца да абароны дысертацыі на ступень магістра.

Дысертацыя магістранта. Выступленне магістранта.

**Магістра́т.** Гарадское ўпраўленне ў некаторых краінах; будынак, у якім яно размяшчаецца.

Суседзі ж былі як суседзі, усе службовы народ — адны працавалі ў магістраце, другія ў іншых гарадскіх і нямецкіх установах. *М. Лынькоў.*

## МАДОННА // ПРЫМАДОННА

**Мадо́нна.** У каталікаў: божая маці, багародзіца.

Да смерці прыеліся храмы, касцёлы, і нават краса чарнавокіх мадонн. *П. Панчанка.*

**Прымадо́нна.** Оперная спявачка, якая выконвае першыя ролі.

Комік Дар'ялаў, аперэтачная прымадонна Чарская заўладалі нашымі пачуццямі іназаўсёды выклікалі захапленне сваім майстэрствам. *Я. Рамановіч.*

МАДУЛЯТАРНЫ // МАДУЛЯЦЫЙНЫ

**Мадуля́тарны.** У радыётэхніцы: які мае адносіны да мадуляцыі — змянення характару ваганняў высокай частаты пад уплывам ваганняў больш нізкай частаты.

Мадулятарная лямпа.

**Мадуляцы́йны.** У музыцы: які мае адносіны да мадуляцыі — пераходу з адной танальнасці ў другую.

Мадуляцыйны пераход у ґучанні.

МАЁМАСНЫ // МАЁМНЫ

**Маёмасны.** Які мае адносіны да маёмасці, звязаны з уладаннем ёю.

Маёмасныя правы. Маёмасныя адносіны.

**Маёмны.** Заможны, багаты.

З асяроддзя абшчыннікаў паступова выдзяляецца група больш маёмных старэйшын, або «старцаў», у руках якіх сканцэнтроўваюцца буйныя ўчасткі зямлі. *Гісторыя СССР.*

МАЗОЛІСТЫ // МАЗОЛЬНЫ

**Мазо́лісты.** Пакрыты мазалямі; з мазалямі.

Аксіння працягнула да Евы рукі: былі яны парэпаныя, мазолістыя ад цяжкай работы. *А. Асіпенка.*

**Мазо́льны. 1.** Які мае адносіны да мазаля; звязаны з вялікай затратай працы, цяжкі; прызначаны для вывядзення мазалёў.

Каралёк не хацеў пазычаць грошы — парабчанскія мазольныя капейкі. *С. Александровіч.*

**2.** Тое, што і м а з о л і с т ы.

Мудрыя законы Краіны Саветаў пісаны рукою рабочай, мазольнай. *Я. Купала.*

МАЙСТРАВЫ // МАЙСТРОЎСКІ // МАЙСТЭРСКІ

**Майстравы́.** *Уст.* Рабочы, рамеснік.

З усіх вагонаў пайшлі: мужчыны .. з чамаданамі, партфелямі, дзеці, сяляне ў лапцях, армяках, майстравыя з інструментамі. *П. Галавач.*

**Майстро́ўскі.** Які належыць майстру.

Майстроўскі метр. Майстроўскі цыркуль.

**Майстэ́рскі.** Уласцівы сапраўднаму майстру; вельмі добра, дасканала выкананы.

Майстэрская работа. Майстэрскае выкананне.

## МАКАРАНІЧНЫ // МАКАРОННЫ

**Макаранічны.** *Кніжн.* Багаты макаранізмамі — замежнымі словамі або выразамі, якія праніклі ў родную мову ў нязменным выглядзе.

Аб уласцівасцях і якасцях характару, аб абстаноўцы, у якой ён складаўся, падкрэслівае Я. Колас, калі гаворыць пра макаранічную мову шляхціца Бусыгі. *Полымя.*

**Макаро́нны.** Які мае адносіны да макароны; прыгатаваны з макароны.

Я хадзіў ля педінстытута, макароннай фабрыкі, глядзеў на дамы, на іх доўгія вадасцёкавыя трубы, .. на балконы, невялічкія, наіўна адкрытыя староннему воку. *Л. Дайнека.*

## МАКРАСКАПІЧНЫ // МІКРАСКАПІЧНЫ

**Макраскапі́чны.** Бачны простым, няўзброеным вокам.

Макраскапічная анатомія вывучае будову арганізма, што можна бачыць няўзброеным вокам. *Птушкагадоўля.*

**Мікраскапі́чны. 1.** Зроблены, даследаваны пры дапамозе мікраскопа.

Мікраскапічныя назіранні.

**2.** Вельмі малы, які можна ўбачыць толькі пад мікраскопам.

У мікраскапічных арганізмах мы бачым прасцейшыя праяўленні жыцця. *К. Ціміразеў.*

**3.** *перан.* Вельмі маленькі, нязначны па велічыні, памерах.

У Веркі з'яўлялася на сукенцы мікраскапічная плямка — сукенку мянялі. *А. Карпюк.*

## МАКСІМАЛІСЦКІ // МАКСІМАЛЬНЫ

**Максімалі́сцкі.** Які мае адносіны да максімаліста, максімалізму — празмернай, без уліку рэальных умоў, крайнасці ў якіх-н. патрабаваннях.

Максімалісцкія патрабаванні.

**Максіма́льны.** Самы большы сярод іншых, найбольшы; п р о ц і л. мінімальны.

Цяпер рабі правы ці левы разварот — і можна весці бой. Ён жа пайшоў на поўдзень па простай лініі на максімальнай хуткасці. *А. Алешка.*

## МАЛАВАЖКІ // МАЛАВАЖНЫ

**Малава́жкі.** Які мае невялікую вагу

С і н о н і м: **лёгкі**

Яшчэ і цяпер некаторыя гаспадаркі здаюць недарослую, малаважкую жывёлу. *Жывёлагадоўля.*

**Малава́жны.** Які не мае вялікай важнасці; нязначны.

С і н о н і м: неістотны.

Малая, малаважная тэма так і астаецца малаважнай, якімі б літаратурнымі аздобамі яе ні ўпрыгожвалі. *Я. Скрыган.*

### МАЛАДЖАВЫ // МАЛАДЗЕЙШЫ // МАЛОДШЫ

**Маладжа́вы.** Які выглядае маладзей сваіх год.

Адчуваючы няёмкасць, Казік нахмурыўся, і яго тонкі маладжавы твар стаў ненатуральна строгім, сур'ёзным. *У. Краўчанка.*

Н я п р а в і л ь н а. Яны [ахоўнікі] былі маладжавыя (трэба: маладыя) па ўзросту і бялявыя з выгляду. *М. Аўрамчык.*

**Маладзе́йшы.** *Выш. ст. да прым.* м а л а д ы; больш малады.

Аблуплены на сонцапёку нос і шчокі Алёшы былі густа абсыпаны вяснушкамі, і ад гэтага ён выглядаў маладзейшым за свае семнаццаць год — здаваўся хлапчуком. *І. Шамякін.*

**Мало́дшы. 1.** Якому менш год у параўнанні з кім-н.; самы малады сярод іншых.

Следам за гэтым пачуліся лёгкія і частыя крокі, і ў пакой увайшла малодшая дачка пана падлоўчага. *Я. Колас.*

**2.** Ніжэйшы чынам, званнем; ніжэйшы па службоваму становішчу.

Яфрэйтарскі чын быў адзін, ні малодшых, ні старшых яфрэйтараў не было. *К. Чорны.*

### МАЛАДЗЕЦЬ // МАЛАДЗІЦЬ

**Маладзе́ць.** Мець больш малады выгляд, адчуваць сябе маладзейшым.

— Як ён [Л. Талстой] любіў Рэпіна! Мяняўся з твару, маладзеў, калі дазнаваўся, што Рэпін збіраецца ў Ясенькі. *В. Карамазаў.*

**Маладзі́ць.** Надаваць больш малады выгляд.

Коратка астрыжаныя цёмныя валасы маладзілі худы, энергічны твар з тонкімі рысамі, разумнымі светлымі вачыма. *В. Іпатава.*

### МАЛАДЗІЦА // МАЛАДУХА

**Маладзі́ца.** Маладая замужняя жанчына.

Дзяўчаты і маладзіцы вадзілі ля яго [кастра] карагоды, мужчыны і хлопцы спявалі і танцавалі. *У. Дубоўка.*

**Маладу́ха.** *Разм.* **1.** Маладая, нявеста.

Сват Рыгорка стрыг вачамі, стараючыся непрыкметна кінуць позірк на маладуху, улавіць яе настрой. *І. Дуброўскі.*

**2.** Тое, што і маладзіца.

Ля варот на вуліцы бразнулі пустыя вёдры, і на плот узлокцілася Каця Сідоркава, бойкая маладуха, суседка Тодаравых: — Што гэта за вайна ў вас тутака!.. *М. Ракітны.*

## МАЛЯР // МУЛЯР

**Маля́р. 1.** Рабочы, які беліць, фарбуе дамы, памяшканні і г. д.

Удзень тут працавалі маляры, і ў клубе моцна пахла фарбамі. *І. Шамякін.*

**2.** *перан.* Пра дрэннага мастака, жывапісца.

Бажкам не веру маляваным, што мажуць фарбай маляры. *Я. Купала.*

**Му́ляр. 1.** Рабочы, які будуе што-н. з каменю, цэглы.

Муляр з цэглы дом складае, сценка ў сценку роўныя, вы не знойдзеце нідзе працы больш шаноўнае. *А. Астрэйка.*

**2.** Майстар па кладцы і рамонту печаў.

Сінонім: пячнік.

Цяпер у нашай вёсцы, калі трэба скласці печ,— цэлая праблема: муляра не знойдзеш. *Звязда.*

## МАЛЯРНЫ // МАЛЯРСКІ

**Маля́рны.** Звязаны з рамяством, работай маляра *(у 1 знач.)*.

Дом адпачынку ўжо, можна сказаць, гатовы, а ў піянерскім лагеры заканчваюцца малярныя работы. *Б. Сачанка.*

**Маля́рскі.** Прызначаны для работы маляра *(у 1 знач.)*.

Малярскі халат. Малярскі пэндзаль.

## МАНАПАЛІЗАВАНЫ // МАНАПАЛІСТЫЧНЫ // МАНАПАЛІСЦКІ // МАНАПОЛЬНЫ

**Манапалізава́ны.** Такі, на які ўстаноўлена манаполія — выключнае права на вытворчасць або продаж чаго-н.

Манапалізаваная вытворчасць спірту.

**Манапалісты́чны.** Які мае адносіны да манаполіі — капіталістычнага аб'яднання.

Імена ў ЗША і Германіі стварыліся самыя магутныя манапалістычныя саюзы .. — трэсты, канцэрны, картэлі. *Эканамічная геаграфія зарубежных краін.*

**Манапалі́сцкі.** Які мае адносіны да манапаліста.
Манапалісцкі план. Манапалісцкія прыбыткі.

**Манапо́льны.** Які мае адносіны да манаполіі — выключнага права на вытворчасць або продаж чаго-н.

Паны хочуць сілаю прымусіць нас курыць манапольную махорку. *С. Анісаў.*

### МАНАРХ // МАНАХ

**Мана́рх.** Асоба, якая стаіць на чале манархіі (цар, кароль, імператар і г. д.).

У часы бурных народных выступленняў злятэлі галовы не толькі паноў, але і саміх манархаў. *А. Якімовіч.*

**Мана́х.** Член царкоўнай абшчыны, які жыве ў манастыры, даўшы абяцанне весці аскетычны спосаб жыцця.

Маці і тая плюецца, калі хто часам скажа пра манаха. *М. Лынькоў.*

### МАНАРХІСЦКІ // МАНАРХІЧНЫ // МАНАРШЫ

**Манархі́сцкі.** Які мае адносіны да манархіста.
Манархісцкая змова. Манархісцкая група.

**Манархі́чны.** Які мае адносіны да манархіі.
Манархічнае кіраванне. Манархічная дзяржава.

**Мана́ршы.** Які мае адносіны да манарха, належыць яму.
Манаршая ўлада. Манаршы ўказ.

### МАНЕЎРАВАННЕ // МАНЕЎРАНАСЦЬ

**Манеўрава́нне.** Пераразмеркаванне чаго-н. у мэтах лепшага выкарыстання; лавіраванне.

У руках фашыстаў усе падыходы, велізарныя плошчы стэпаў для манеўравання і перадыслакацыі. *Полымя.*

**Мане́ўранасць.** Здольнасць манеўраваць.
С і н о н і м: рухомасць.

Асабліва звярні ўвагу на баявую гатоўнасць атрада, на яго манеўранасць. *М. Джагараў.*

### МАНЕЎРАНЫ // МАНЕЎРОВЫ

**Манеўраны. 1.** Які вядзецца без доўгачасовых умацаванняў, шляхам манеўравання; п р о ц і л. пазіцыйны.

Партызаны вялі манеўраную вайну, наносячы ўдары па гітлераўцах, дзе яны не чакалі. *Звязда.*

**2.** Здольны хутка мяняць напрамак руху.

Самалёт гэты [«Фоке-Вульф-189»] манеўраны, з вялікім дыяпазонам хуткасцей. *А. Алешка.*

**Манеўро́вы.** *Спец.* Прызначаны для перагону вагонаў, паравозаў або цеплавозаў на станцыйных пуцях пры фарміраванні чыгуначных саставаў.

Манеўровыя паравозы стаяць пад парай. Яны адцягваюць на запасныя пуці пустыя вагоны, платформы, падганяючы пад выгрузку новыя. *І. Навуменка.*

### МАНТЫЛЬЯ // МАНТЫЯ

**Манты́лья.** *Уст.* Кароткая жаночая накідка без рукавоў.

Дзяўчынка .. стрымалася і знешне спакойна паправіла на плячах доўгую карункавую мантылью. *У. Караткевіч.*

**Ма́нтыя. 1.** Доўгая шырокая адзежына ў выглядзе плашча.

За сталом — трое суддзяў у чорных мантыях. *М. Машара.*

**2.** Дзве складкі скуры, якія звешваюцца са спіны некаторых беспазваночных жывёл.

Мантыя прадстаўляе сабой дзве складкі скуры, якія звешваюцца справа і злева ўніз са спіны малюска. Яны, нібы плашч, пакрываюць мяккае цела малюска. Адсюль і назва мантыя. *Заалогія.*

### МАНУМЕНТ // ПАСТАМЕНТ

**Манумéнт.** Велічнае збудаванне ў гонар якой-н. выдатнай падзеі або асобы.

Сінонім: помнік.

Нашчадкамі героі не забыты: на плошчах манументы ім стаяць. *Х. Жычка.*

**Пастамéнт.** Аснова, фундамент помніка, статуі, калоны і г. д.

Сінонім: п'едэстал.

Афіцэр, скамандаваўшы «на плячо», кінуўся да помніка, узлез на пастамент і пачаў зрываць сцяг, але паслізнуўся і пляснуўся на зямлю. *І. Гурскі.*

### МАРАЛІСТЫЧНЫ // МАРАЛЬНЫ

**Маралісты́чны.** Схільны прапаведаваць мараль, павучаць.

Сам ведаеш: маралістычных заўваг ніхто не любіць. Не трэба і мне рабіць іх. *ЛіМ.*

**Мара́льны. 1.** Які мае адносіны да маралі; які адпавядае правілам маралі, вызначаецца высокай маральнасцю.

У народзе жывуць вякамі выпрацаваныя маральныя погляды на праўду і крыўду, на дабро і справядлівасць. *Р. Шкраба.*

**2.** Звязаны з унутранымі, духоўнымі перажываннямі чалавека.

Вялікае маральнае задавальненне адчуў дзед Талаш пасля гэтага ўдалага стрэлу. *Я. Колас.*

#### МАРКЕРНЫ // МАРКЕРСКІ

**Маркёрны.** Які мае адносіны да маркёра — прыстасавання, якім праводзяцца пасяўныя або пасадачныя разоркі ці радкі.

Маркёрная лінія.

**Маркёрскі.** Які мае адносіны да маркёра — асобы, што прыслужвае і вядзе падлік пры гульні ў більярд.

Маркёрскі падлік.

#### МАРМУРАВАНЫ // МАРМУРОВЫ

**Мармурава́ны.** *Спец.* Апрацаваны пад мармур.

Мармураваная папера.

**Мармуро́вы.** Які мае адносіны да мармуру; зроблены з мармуру.

Ён адзінока прыходзіў у белую, абліцаваную мармуровай пліткай сталоўку, падымаўся на другі паверх па вінтавой лесвіцы, абапіраючыся рукой на парэнчу. *А. Жук.*

#### МАРОКА // МАРОШКА

**Маро́ка.** *Разм.* Аб чым-н. заблытаным, валакітным, клопатным.

— Павязём [яблыкі] у Гомель — збудзем дзешавей. Затое ніякай марокі з гэтай паездкай не будзе. *М. Даніленка.*

**Маро́шка.** Балотная расліна з белымі кветачкамі і аранжавымі ягадамі; ягады гэтай расліны.

Спелай марошкай ірдзее скрозь і лагчына і яр. *А. Александровіч.*

#### МАРУДЛІВЫ // МАРУДНЫ

**Мару́длівы.** Які павольна, без паспешлівасці робіць што-н.

[Якуб] скрозь сачыў за Сініцкім, не зводзячы з яго гарачых вачэй, як дзіця з марудлівага бацькі, што, прыехаўшы з кірмашу, ніяк не збярэцца паказаць прывезенага гасцінца. *М. Зарэцкі.*

**Мару́дны. 1.** Павольны, няспешны; п р о ц і л. хуткі.

Жанчына асцярожна павярнулася .. і пайшла ў кватэру марудным крокам. *З. Бядуля.*

**2.** Карпатлівы.

Пачалася марудная праца — вылузванне рыбы з вочак сеткі ў скрыні: для адпраўкі, калі падыдзе рыбгасаўскі катэр. *Я. Брыль.*

### МАРОЖАНЫ // МАРОЗЛІВЫ / МАРОЗНЫ

**Маро́жаны.** Замарожаны; папсаваны марозам, мёрзлы.

Марожаны корм з'яўляецца нядобраякасным. *Птушкагадоўля.*

**Маро́злівы.** Тое, што і марозны.

Ясныя былі дні і марозлівыя, і, як заўсёды ў тую восень, ціхія. *К. Чорны.*

**Маро́зны.** З марозам, вельмі халодны.

Надакучыла ноччу марознаю вішням сніць аб далёкай вясне. *А. Лойка.*

### МАРЭНАВЫ // МАРЭННЫ

**Марэ́навы.** Які мае адносіны да травяністай расліны марэны, з карэнняў якой атрымліваюць чырвоную фарбу; ярка-чырвоны, колеру марэны.

Астроўскі важна сеў у крэсла з высокай спінкай і вычварнай разьбою, за стол марэнавай афарбоўкі. *І. Гурскі.*

**Марэ́нны.** Які мае адносіны да марэны — вялікай колькасці абломкаў горных парод ледніковага паходжання.

Марэнныя ўзгоркі і ўзвышшы ў Палессі даволі рэдкія. *Прырода Беларусі.*

### МАСКІРАВАНЫ // МАСКІРОВАЧНЫ

**Маскірава́ны.** Скрыты ад праціўніка пры дапамозе маскіроўкі.

Сінонім: замаскіраваны.

Кулямёт быў добра маскіраваны, але як толькі адкрыў агонь, яго адразу ж вывелі са строю. *ЛіМ.*

**Маскіро́вачны.** Які служыць, прызначаны для маскіроўкі.

Вунь стаіць накрыты з аднаго боку маскіровачнай сеткай магутны КВ. *С. Александровіч.*

### МАСЦІСТЫ // МАСЦІТЫ

**Масці́сты.** Чыстай, добрай масці (пра каня).

Масцістая кабыліца. Масцісты стаеннік.

**Масці́ты.** Які заслужыў сваёй шматгадовай плённай дзейнасцю павагу і прызнанне.

Як ні вярці, як ні круці — ёсць нявесткі, ёсць зяці! Зразумела, што сумесна жыць масцітым з імі цесна. *Р. Барадулін.*

## МАТАЦЦА // МАТЛЯЦЦА

**Мата́цца. 1.** Рухацца з аднаго боку ў другі, будучы ў вісячым становішчы; матляцца *(у 1 знач.)*.

У руках жанчын маталіся белыя хустачкі. *Ц. Гартны.*

**2.** *Разм.* Праводзіць час у раз'ездах, клапоцячыся пра што-н.

[Муж] усё прападаў у камандзіроўках. Матаўся па ўсёй Мурманскай вобласці. *А. Кудравец.*

**Матля́цца.** *Разм.* **1.** Рухацца з аднаго боку ў другі, будучы ў вісячым становішчы; матацца *(у 1 знач.)*.

Стаяла позняя восень. Дзе-нідзе на дрэвах бездапаможна матлялася ад ветру пабурэлае лісце. *І. Новікаў.*

**2.** Часта рухацца з боку ў бок; хістацца.

Кнот гарэў няроўна, як на ветры, агеньчык матляўся, і святлацені гулялі на яе маршчыністым твары. *В. Карамазаў.*

Н я п р а в і л ь н а. Вось .. Бародка — ён нібыта заўсёды заняты справамі: некага «разносіць» за нядбайнасць, ганяе па калгасах упаўнаважаных і сам матляецца (трэба: матаецца) па раёне, але ад яго кіпучай дзейнасці шкоды больш, чым карысці. *А. Адамовіч.*

## МАТЧАВЫ // МАЧТАВЫ

**Ма́тчавы.** Які мае адносіны да матча.

Форма спаборніцтва па традыцыі засталася матчавай. *Маладосць.*

**Ма́чтавы.** Які мае адносіны да мачты; з якога робяць мачты.

На ўзлессі вынесліся пад неба мачтавыя сосны, побач з імі раскінуліся цёмна-зялёныя шатры елак, а па схілах яроў разрослся малiннiк. *З. Бандарына.*

## МАТЫВАВАНЫ // МАТЫВІРОВАЧНЫ

**Матывава́ны.** Абаснаваны матывамі, довадамі.

С і н о н і м: абгрунтаваны.

Аблічча героя раскрываецца матывавана *(прысл.)*, як з'ява рэальнага парадку, як чалавечая істота. *Н. Перкін.*

**Матывіро́вачны.** Які заключае ў сабе матывіроўкі, з'яўляецца падставай чаго-н.; з матывіроўкай.

Рашэнне складаецца з уводнай, апісальнай, матывіровачнай і рэзалютыўнай частак. *Грамадзянскі працоўны кодэкс БССР.*

## МАТЭРЫЯЛІСТЫЧНЫ // МАТЭРЫЯЛЬНЫ

**Матэрыялісты́чны.** Які мае адносіны да матэрыялізму, заснаваны на яго прынцыпах.

Прыродазнаўчыя артыкулы, якія чытаюцца ў пачатковай школе, даюць багаты і змястоўны матэрыял для выхавання ў вучняў пачатковых класаў асноў матэрыялістычнага светапогляду. *М. Марчанка.*

**Матэрыя́льны. 1.** Які існуе незалежна ад свядомасці; рэальны.

С і н о н і м: рэчыўны.

У адносінах да свядомасці матэрыя першасная, бо існуе да свядомасці, спараджае свядомасць, з'яўляецца крыніцаю нашых ведаў і папярэднічае вобразам матэрыяльных аб'ектаў у адчуваннях чалавека. *БелСЭ.*

**2.** Які мае адносіны да матэрыялаў.

[Багуцкі] зайшоў на матэрыяльны склад. Ля сцелажоў корпаўся Чычын. *М. Лынькоў.*

**3.** Звязаны з маёмасцю, уласнасцю, даходамі, грашамі.

Былі прыняты неабходныя меры па ўмацаванню выдавецтваў кадрамі, матэрыяльнаму іх забеспячэнню. *А. Волк.*

## МАХРАВАТЫ / МАХРАСТЫ // МАХРОВЫ // МАХРЫСТЫ

**Махрава́ты.** З невялікімі махрамі.

Махраватыя канцы ручніка.

**Махра́сты.** Тое, што і м а х р ы с т ы.

Махрасты шалік.

**Махро́вы. 1.** Які мае вялікую колькасць пялёсткаў (пра кветку); махрысты *(у 2 знач.).*

Шыпшына — продак ружы, ад якой яна адрозніваецца тым, што кветкі яе простыя, а не махровыя. *Беларусь.*

**2.** Пра тканіны, вырабы з высокім ворсам.

Махровыя ручнікі.

**3.** *перан.* Ярка выражаны, дасягнуўшы вышэйшай ступені (пра якую-н. адмоўную якасць, пра чалавека з такой якасцю).

Махровы рэакцыянер.

**Махры́сты. 1.** З махрамі.

Міця прайшоў у святліцу з вялікім махрыстым абажурам і апынуўся ў знаёмым вузенькім пакойчыку. *В. Адамчык.*

**2.** З вялікай колькасцю пялёсткаў (пра кветку); махровы *(у 1 знач.).*

Яна нагнулася, сарвала махрыстую кветку дзьмухаўца і панюхала яе, пакінуўшы на кончыку носа жоўты пылок. *В. Адамчык.*

## МЕДАЛЬЕР // МЕДАЛЬЕН

**Медалье́р.** Спецыяліст па вырабу форм для адліўкі і чаканкі манет і медалёў.

Філіграннае майстэрства савецкіх медальераў атрымала заслужанае прызнанне. *ЛіМ.*

**Медальён.** Ювелірны выраб авальнай або круглай формы, у які звычайна ўстаўляецца партрэт; носіцца на ланцужку, шнурку на шыі.

Апусціўшы галаву, яна церабіла кароткімі пальчыкамі шаўковы шнурок медальёна. *Б. Стральцоў.*

## МЕЛІЯРАВАНЫ // МЕЛІЯРАЦЫЙНЫ

**Мелірава́ны.** Палепшаны шляхам асушэння (пра землі)

Роўным, без хмызоў і беразнякоў, без канавак праз кожныя сто метраў, усеяным высокімі травамі і збажынай стаяла меліяраванае поле. *В. Мыслівец.*

**Меліяцы́йны.** Які мае адносіны да меліярацыі — сістэмы мерапрыемстваў па паляпшэнню непрыдатных зямель шляхам асушэння, меліярацыі і інш.

Мы будзем берагчы тарфянікі, ашчадней выкарыстоўваць іх, не дапусцім ранейшых памылак, якія назіраліся пры меліярацыйных работах у паўднёвых раёнах. *І. Мележ.*

## МЕМАРЫЯЛЬНЫ // МЕМУАРНЫ

**Мемарыя́льны.** Які служыць для ўвекавечання памяці **якой-н.** асобы ці падзеі.

У дваццатыя і трыццатыя гады Вітольд Каятанавіч [Біруля] актыўна працуе ў жанры мемарыяльнага пейзажа. Пэўна, можна лічыць, што ён якраз і пачаў ствараць савецкі мемарыяльны пейзаж. *В. Карамазаў.*

**Мемуа́рны.** Які мае адносіны да мемуараў — літаратурнага твора ў форме ўспамінаў аўтара пра падзеі мінулага.

Большасць фактаў, што прыводзяцца ў «Летапісе», выверацы намі па першакрыніцах (архіўных дакументах і мемуарнай літаратуры). *Г. Кісялёў.*

## МЕНЗУЛА // МЕНЗУРКА

**Мензу́ла.** *Спец.* Інструмент для тапаграфічных здымак.

— Гэта ж мая любімая работа — мензула, нівелір, планшэт, калька і прасторы зямлі, запісаныя на паперу лініямі і матэматычнымі знакамі. *Я. Скрыган.*

**Мензу́рка.** Пасудзіна з дзяленнямі для дакладнага адмервання вадкасцей.

Дзецюкі і дзяўчаты ля кніжак сядзяць, ля прабірак, мензурак, мадэляў і карт. *У. Дубоўка.*

### МЕСНІЦКІ // МЕСНЫ // МЕСТАЧКОВЫ // МЯСЦОВЫ

**Ме́сніцкі.** Які абараняе вузкамясцовыя інтарэсы.

МТС больш зыходзяць з дзяржаўных інтарэсаў, многія ж калгасы — з мясніцкіх і нават спажывецкіх, гэта, маўляў, і так зразумела. *Т. Хадкевіч.*

**Ме́сны.** У выразе: месны склон — склон, які адказвае на пытанні: аб кім? аб чым? і ўжываецца толькі з прыназоўнікам.

З прыназоўнікам «пры» назоўнікі ў месным склоне маюць значэнне паказу часу або прадмета, пры якім знаходзіцца або існуе прадмет. *М. Марчанка.*

**Местачко́вы.** Які мае адносіны да мястэчка, характэрны для яго.

Мы хадзілі ў парк, блукалі па прыціхлых сонных местачковых вуліцах. *Б. Сачанка.*

**Мясцо́вы.** Які жыве, дзейнічае ў пэўнай мясцовасці, не прыезджы; звязаны з пэўнай мясцовасцю.

Супрацоўніцтва з мясцовым насельніцтвам наладжана на глебе суседскага абмену. *Я. Брыль.*

### МЕТАДАЛОГІЯ // МЕТАДЫЧНАСЦЬ // МЕТОДЫКА

**Метадало́гія.** Вучэнне аб навуковым метадзе наогул і аб метадах асобных навук.

Катэгорыя формы і зместу вельмі складаная агульнафіласофская праблема, правільнае вырашэнне якой з'яўляецца неабходнай умовай навуковай метадалогіі і тэорыі творчасці. *Беларусь.*

**Метады́чнасць.** Планамернасць; строгая паслядоўнасць.

Васіль Малюк зноў адчыніў топку і з нейкай упартай метадычнасцю пачаў кідаць у яе ненажэрнае чэрава паліва. *Я. Васілёнак.*

**Мето́дыка.** Сукупнасць метадаў практычнага выканання чаго-н.; вучэнне аб метадах выкладання той ці іншай навукі.

З усіх дысцыплін студэнты найбольш ведалі методыку мовы бо навучыліся любіць самую мову, чуючы жывыя ўзоры яе з вуснаў паэта [Я. Коласа]. *М. Лужанін.*

## МЕТРАПОЛІЯ // МІТРАПОЛІЯ

**Метрапо̂лія. 1.** У Старажытнай Грэцыі: горад-дзяржава (поліс) у адносінах да заснаваных ім пасяленняў-калоній на тэрыторыі іншых краін.

Парадкі калоній у асноўным узнаўлялі лад сваіх метраполій, але радавыя сувязі ў калоніях былі значна слабейшымі, чым у метраполіях. *В. Сяргееў.*

**2.** Капіталістычная краіна ў адносінах да сваіх калоній.

Метраполія эксплуатавала калоніі, якія з'яўляліся для яе прамысловасці пастаўшчыкамі сыравіны і спажыўцамі гатовых вырабаў. *Эканамічная геаграфія СССР.*

**Мітрапо̂лія.** Царкоўна-адміністрацыйная акруга, якая знаходзіцца пад кіраўніцтвам мітрапаліта; галоўны горад гэтай акругі.

Стараючыся забыцца на сваё паганскае мінулае, Кіеў паспешліва будуе цэрквы. Лепшая з лепшых між іх Сафія, мітраполія Русі. *Л. Дайнека.*

## МЕТЭАРЫТ // МЕТЭОР

**Метэары́т.** Цвёрдае цела касмічнага паходжання, якое ўпала на Зямлю з міжпланетнай прасторы.

Тады я паверыў, што ўчора сапраўды недзе ўпаў метэарыт, і мне пашчасціла якраз у той момант загадаць цудоўнае жаданне, і гэта жаданне здзейснілася. *Я. Радкевіч.*

**Метэо́р.** Распаленае цела касмічнага паходжання, якое ярка свеціцца і хутка рухаецца ў зямной атмасферы.

С і н о н і м ы: знічка, падаючая зорка.

Усё яго [М. Багдановіча] жыццё — гэта подзвіг. Напорлівае і роўнае гарэнне адной страсці. І кароткатэрміновае. Вось чаму яго жыццё нагадвае нам успышку метэора. *М. Стральцоў.*

Н я п р а в і л ь н а. — А зараз даводзяць, што яны [кратэры] ад падзення метэораў!.. (трэба: метэарытаў). *А. Карпюк.*

## МЕХАНІЗАВАНЫ // МЕХАНІЗАТАРСКІ

**Механізава́ны.** Аснашчаны машынамі і механізмамі.

Камандзіры механізаваных часцей вывучаюць гэтыя ўзгоркі, дарогі, масты, пераправы. *А. Алешка.*

**Механіза́тарскі.** Які мае адносіны да механізатара.

«Дзяўчо! Што з цябе толку. Механізатарскага хлеба паспытаць захацела! Паспытай, які ён лёгкі...» *Т. Хадкевіч.*

**Механісты́чны.** Заснаваны на прынцыпах механіцызму — антыдыялектычнага напрамку ў філасофіі, які зводзіць усю разнастайнасць быцця да простых законаў механікі.

Пастаноўка пытання аб поўнай аналогіі кожнага ўрока з адукацыйным працэсам у цэлым механістычная. *І. Казанцаў.*

**Механі́чны. 1.** Які мае адносіны да механікі — раздзела фізікі, што вывучае законы перамяшчэння цел у прыродзе.

Кожная пакоўка праходзіла механічную апрацоўку ў пяці пазіцыях. *Беларусь.*

**2.** Які мае адносіны да механізмаў, машын.

Максім разумеў, што сапраўды няблага б увесці на ферме механічнае даенне кароў. *В. Дайліда.*

**3.** *перан.* Несвядомы; машынальны, аўтаматычны.

Аднак механічнае паўтарэнне рухаў, якія маюць яшчэ істотныя недахопы, прывядзе толькі да замацавання гэтых недахопаў. *Р. Дзмітрыеў.*

## МІГАЛЬНЫ // МІГАТЛІВЫ

**Міга́льны.** Які служыць для мігання або знаходзіцца ў пастаянным руху.

Калі мікробы трапляюць у трахею і бронхі, яны і там сустракаюць перашкоду на сваім шляху: раснічкі мігальнага эпітэлію могуць рухацца супроць току паветра і нібы вымятаюць мікробаў разам са слізззю. *К. Шарыкаў.*

**Мігатлі́вы.** Які свеціцца слабым, няроўным, зменлівым бляскам; які мігціць; трапяткі, дрыготкі.

Неба шэрае, толькі дзе-нідзе на ім прабіваліся дробныя мігатлівыя зоркі. *Г. Бураўкін.*

## МІГРАЦЫЯ // ЭМІГРАЦЫЯ

**Мігра́цыя.** *Спец.* Перамяшчэнне, перасяленне (насельніцтва ўнутры краіны ці за яе межы; жывёлы, птушак з адной мясцовасці ў іншую і г. д.).

Для літаратуры, як і для сацыялогіі, важна даследаваць, чаму і цяпер, калі на вёску прыйшоў матэрыяльны дастатак, міграцыя сельскага насельніцтва ў горад не змяншаецца. *Полымя.*

**Эмігра́цыя.** Перасяленне з сваёй айчыны ў іншую краіну па палітычных, эканамічных ці іншых прычынах; знаходжанне за межамі сваёй айчыны ў выніку такога перасялення.

Левандоўскі якраз два дні таму назад вярнуўся з эміграцыі. *А. Карпюк.*

## МІКРАМЕР // МІКРОМЕТР

**Мікраме́р.** Прыбор для вымярэння лінейных размераў дэталей машын.

Так у рабочых на «ўзбраенні» з'явіліся універсальны вугламер для праверкі габарыта інструмента, мікрамер і інш. *Беларусь.*

**Мікро́метр.** Інструмент для дакладнага вымярэння лінейных велічынь.

Ішлі ў ход і кранцыркуль, і мікрометр, і сталёвая лінейка. *М. Ваданосаў.*

## МІНЕРАЛАГІЧНЫ // МІНЕРАЛЬНЫ

**Мінералагі́чны.** Які мае адносіны да мінералогіі — навукі аб мінералах.

Цяпер керны выходзілі такія, што хоць у мінералагічны музей адпраўляй,— роўныя, нібы адпаліраваныя, без адзінай шчарбінкі. *А. Чаркасаў.*

**Мінера́льны.** Які мае адносіны да мінералаў, утрымлівае іх у сваім саставе.

Кіраўнікі калгаса і спецыялісты клапоцяцца, каб зямля была запраўлена дастатковай колькасцю мінеральных і арганічных угнаенняў. *Звязда.*

## МІС // МІСІС

**Міс.** Форма звароту да незамужняй жанчыны ў Англіі і Амерыцы; незамужняя жанчына; дзяўчына.

Міс — ветлівы зварот да дзяўчыны ў Англіі і Амерыцы (звычайна перад імем, прозвішчам). *Тлумачальны слоўнік для сярэдняй школы.*

**Місіс.** Форма звароту да замужняй жанчыны ў Англіі і Амерыцы; замужняя жанчына.

Грукоча машына. Маўчы, качагар, і пылам вугальным давіся! Хай з топкі тваёй не праб'ецца ўгар да містэраў хмельных і місіс. *А. Дудар.*

## МІСТЫКА // МІСТЫЧНАСЦЬ

**Мі́стыка. 1.** Рэлігійна-ідэалістычны погляд, які прызнае існаванне надпрыродных, таямнічых сіл і магчымасць зносін з імі чалавека.

Па сумяшчальніцтву з містыкай гэты чалавек займаўся яшчэ выхаваннем юнацтва ў духу адданасці радзіме і прастолу, таму што займаў пасаду начальніка штаба ваенна-навучальных устаноў. *У. Караткевіч*

2. *перан. Разм.* Штосьці загадкавае, незразумелае.

Над горам яго маленства яна плакала. Сама будучы ўжо спрацаваная і хворая, яна да містыкі ўжо тады даводзіла сваё замілаванне да яго. *К. Чорны.*

**Містычнасць.** Таямнічая загадкавасць, незразумеласць.

Жах раптам апанаваў чалавека, набыўшы адценні містычнасці. *К. Чорны.*

## МІСТЫФІКАЦЫЯ // МІСТЫЦЫЗМ

**Містыфікацыя.** Наўмыснае ўвядзенне каго-н. у зман.

Няўжо гэта так і будзе? Гэта ж проста нейкая недарэчная містыфікацыя. *М. Зарэцкі.*

**Містыцызм.** Рэлігійна-ідэалістычны светапогляд, заснаваны на містыцы; схільнасць да містыкі.

Працэс пераадолення рэштак семінарскай «навукі» ў Лабановіча — чалавека з выразным нахілам да містыцызму — адбываўся амаль пакутліва. *Полымя.*

## МІФАЛАГІЧНЫ // МІФІЧНЫ

**Міфалагічны.** Які мае адносіны да міфалогіі — сукупнасці міфаў якога-н. народа.

У пошуках гераічнага паэт [М. Багдановіч] часта звяртаецца да міфалагічных вобразаў. *С. Майхровіч.*

**Міфічны. 1.** Які мае адносіны да старажытных міфаў.

Фігура міфічнага героя Праметэя, намаляваная на шкатулцы, сімвалізуе сабой беларускага селяніна, які разрывае ланцугі панскай няволі. *Беларусь.*

**2.** *перан.* Авеяны паданнямі; легендарны, казачны.

На Піншчыне старыя людзі любяць расказваць пра здарэнне з недарэчным прыставам. Ен ужо даўно зрабіўся міфічнай фігурай. *В. Вольскі.*

**3.** *перан. Разм.* Які не існуе ў сапраўднасці; прыдуманы, неверагодны.

У сапраўднасці ж навукай даўно даказана, што і Хрыстос, і апостал Пётр — гэта асобы выдуманыя, міфічныя. *А. Залескі.*

## МІЯКАРД // МІЯКАРДЫТ

**Міякард.** Мышачная сценка сэрца.

Інфаркт міякарда — цяжкая хвароба. Але медыцынскай навукай даўно даказана: асобы, што перанеслі яго, павінны вярнуцца да актыўнай працы. *Звязда.*

**Міякардыт.** Захворванне сардэчнай мышцы — міякарда.

Прыкметы міякардыту залежаць ад парушэння сардэчнага рытму і недастатковай скарачальнай функцыі міякарда (агульная слабасць, задышка ў спакоі, хуткая стамляльнасць, сэрцабіцце, боль у вобласці сэрца). *БелСЭ.*

### МУЗЫКАЛЬНЫ // МУЗЫКАНЦКІ // МУЗЫЧНЫ

**Музыка́льны. 1.** Здольны да музыкі; які тонка разумее, адчувае музыку.

— Вы ж самі хваліліся, што ў вас музыкальныя здольнасці. *І. Шамякін.*

**2.** Прыемны для слыху; меладычны.

Купала як паэт вельмі даражыць музыкальным бокам паэзіі. *І. Навуменка.*

**Музыка́нцкі.** Які мае адносіны да музыканта; з музыкантаў. Музыканцкі ўзвод.

**Музы́чны.** Які мае адносіны да музыкі, характэрны для яе.

Пашырэнне музычнай культуры сярод шырокіх мас працоўных патрабавала і павелічэння музычнай літаратуры. *А. Волк.*

### МУСКУЛІСТЫ // МУСКУЛЬНЫ

**Му́скулісты.** З развітымі мускуламі.

Павел, прыземісты, мускулісты хлопец, неахвотна падняўся з-за стала. *У. Шахавец.*

**Му́скульны.** Які мае адносіны да мускулаў.

Гладкая мускульная тканка складаецца з верацёнападобных клетак. *Птушкагадоўля.*

### МУЧНІСТЫ // МУЧНЫ

**Мучні́сты.** Падобны чым-н. на муку.

Дзякуючы гэтаму тут застаецца толькі амаль нерастварымы, мучністы навобмацак, кварцавы пясок. *Геаграфія БССР.*

**Мучны́.** Які мае адносіны да мукі; прыгатаваны з мукі.

Вось ужо апошняя крама, крама мучная, а далей пойдуць хаты земляробаў. *П. Пестрак.*

Н я п р а в і л ь н а. Суха стукаюць нашы малаткі, б'юць буйное каменне. Шэры, мучны (трэба: мучністы) пыл садзіцца на руках, на твары. *Я. Каршукоў.*

### МУШКЕТНЫ // МУШКЕЦЁРСКІ

**Мушке́тны.** Які мае адносіны да мушкета — старажытнага ружжа.

Мушкетны выстрал. Мушкетны ствол.

**Мушкецёрскі.** Які мае адносіны да мушкецёра — салдата, узброенага мушкетам.

Мушкецёрскі полк. Мушкецёрская форма.

### МЫЛІЦЬ // МЫЛЯЦЦА // МЫЛЯЦЬ

**Мы́ліць.** *каго-што.* Намыльваць мылам з вадою.

Пакуль [Юхневіч] мыліў і мыў рукі, ад якіх ішоў пах бензіну, сястра Андрэя пачысціла яму пінжак. *А. Савіцкі.*

**Мыля́цца.** *Абл.* Рабіць памылкі, памыляцца.

Дзеці мардаваліся, мыляліся, некаторыя плакалі, пішучы гэтае слова. *Я. Колас.*

**Мыля́ць.** Варушыць губамі.

Суддзя надзімаўся, як індык, нешта хацеў сказаць, але ў разгубленасці толькі мыляў губамі. *М. Лынькоў.*

### МЫЛКІ // МЫЛЬНЫ

**Мы́лкі.** Які лёгка распускаецца ў вадзе, дае многа пены. Мылкае мыла. Мылкая шампунь.

**Мы́льны.** Які мае адносіны да мыла; з мыла; намылены. Мыльная пена. Мыльная вада.

### МЫСЛЕННЫ // МЫСЛІЦЕЛЬНЫ

**Мы́сленны.** Які паўстае ў думках, мыслях; уяўны.

Мысленныя вобразы ўзнікаюць з адчуванняў. *І. Казанцаў.*

**Мысл́іцельны.** Які мае адносіны да мыслення; звязаны са здольнасцю думаць, мысліць.

Настаўнік развівае мысліцельныя здольнасці вучняў. *І. Казанцаў.*

### МЭБЛЕВЫ // МЭБЛЯВАНЫ

**Мэ́блевы.** Які мае адносіны да мэблі; звазаны з яе вырабам або продажам.

Ясень цэніцца і шырока выкарыстоўваецца ў мэблевай вытворчасці, сталярнай справе, сельскагаспадарчым машынабудаванні, вагона- і авіябудаванні, у вытворчасці спартыўнага інвентару. *Звязда.*

**Мэбляв́аны.** Абстаўлены мэбляю; з мэбляю.

Гэта вельмі скромна мэбляваны кабінет. *І. Новікаў.*

## МЯДЗВЕДЗІЦА // МЯДЗВЕДКА

**Мядзве́дзіца.** Самка мядзведзя.

Бегала мядзведзіца па лясах наўкола, пытала, дзе гнездзяцца меданосы-пчолы. *М. Калачынскі.*

**Мядзве́дка.** Земляное насякомае з тоўстым целам, пакрытым кароткімі мяккімі валаскамі; шкоднік сельскагаспадарчых культур.

У рацыёне бусла пераважаюць шкодныя насякомыя (напрыклад, мядзведкі, якія знішчаюць пасевы гароднінных культур). *Звязда.*

## МЯЗГА // МЯЗДРА

**Мязга́. 1.** Мяккая частка дрэва між карой і драўнінай.

І пні [я] памагаў капаць, і драў тую ж бяросту. Асабліва ўлетку, на канікулах. Тады акурат пачынала адставаць ад мязгі свежая бяроста. *Б. Сачанка.*

**2.** Маса, якая ўтвараецца пасля таўчэння, расцірання чаго-н.

Эол сядзеў тады ля печкі,— мязгу скабліў на перапечкі ды лапці лыкам падплятаў. *Энеіда навыварат.*

**Мяздра́.** Падскурная клятчатка ў жывёл; сподні бок выробленай скуры.

Падскурную клятчатку называюць мяздрой. *Таваразнаўства.*

## МЯРЦВЕЦЬ // МЯРЦВІЦЬ

**Мярцве́ць. 1.** Страчваць прыметы жывога, станавіцца мёртвым; нямець.

Было горача, як ля агню, і мярцвелі рукі. *І. Пташнікаў.*

**2.** *перан.* Рабіцца пустынным, змярцвелым.

Позняй восенню мярцвее поле, лес, усё навакольнае.

**Мярцві́ць.** *каго-што.* **1.** Пазбаўляць жыцця, губіць.

Нармальнаму чалавеку звычайна шкода мярцвіць любую жывую істоту.

**2.** *перан. Разм.* Рабіць пустынным, змярцвелым.

У яўрэйскім канцы вуліцы было яшчэ цішэй. Субота мярцвіла ўсе праявы будзённага жыцця. *Ц. Гартны.*

## МЯРЭЖАНЫ // МЯРЭЖКАВЫ // МЯРЭЖЫСТЫ

**Мярэ́жаны.** Вышыты мярэжкай — на тым месцы, дзе з тканіны выцягнуты ніткі.

Мярэжаная сурвэтка.

**Мярэ́жкавы.** Які мае адносіны да мярэжкі.

Мярэжкавая вышыўка.

**Мярэ́жысты.** Такі, як мярэжка, узорысты.

Мярэжысты ўзор.

### МЯСІСТЫ // МЯСНЫ

**Мясі́сты. 1.** З вялікай колькасцю мяса, які дае многа мяса.

Я з цікавасцю слухаў расказы дзядзькі пра невядомых мне рыб. Мне і сёння чамусьці добра памятаецца, як ён даводзіў, што бялуга — самая мясістая рыба. *ЛіМ.*

**2.** *Разм.* Тоўсты, поўны (пра чалавека або часткі яго цела).

На мясістым носе сядзелі рагавыя акуляры, якія надавалі эсэсаўцу вучоны выгляд. *І. Мележ.*

**3.** Багаты сакавітай мякаццю (пра расліны, плады).

На падаконніках ружавелі мясістыя памідоры. *Л. Гаўрылкін.*

**Мясны́.** Які мае адносіны да мяса; прыгатаваны з мяса.

Яны сядзелі на нарах і елі лыжкамі мясныя кансервы з хлебам. *І. Шамякін.*

### МЯТЛА // МЯТЛІЦА // МЯТЛУШКА // МЯЦЁЛКА

**Мятла́.** Пучок звязаных галінак (без лісцяў) для падмятання.

Відаць, баковачка гэтая некалі прымяркоўвалася для кладоўкі прыбіральшчыцам: там зручна было складваць мётлы, скрабкі, вешаць спецвопратку. *А. Кулакоўскі.*

**Мя́тліца.** Пустазелле азімых злакаў з суквеццем у выглядзе мяцёлкі.

Паўз лес, між кустоў, трава ў пояс. Усё цвіце, буяе. Мятліца, званочкі, слёзкі, гарошак, браткі, валяр'яна. *А. Кудравец.*

**Мя́тлушка.** *Абл.* Насякомае з дзвюма парамі крылаў, пакрытых пылком рознага колеру, ад якога залежыць іх афарбоўка.

Сінонім: матылёк.

Дзятліна зелянее патройнымі лісцінкамі. Клякоча скакунецкаваль... Трапыхаецца і снуе туды-сюды над жытам жоўценькая мятлушка. *М. Гарэцкі.*

**Мяцёлка. 1.** Тое, што і мятла.

А вілы, граблі і мяцёлкі, .. каля варот адны стаялі — таксама працы ўжо чакалі. *Я. Колас.*

**2.** Суквецце некаторых раслін, якое нагадвае па форме мятлу.

Алекса зірнуў вакол — відаць, на той гары раслі такія ж каржакаватыя, падобныя да полацкіх соснаў магутныя дрэвы з пушыстымі мяцёлкамі светла-зялёных іголак. *В. Іпатава.*

### МЯТЛІСТЫ // МЯТЛІЧНЫ // МЯЦЕЛЧАТЫ

**Мятлі́сты.** Такі, як мяцёлка, пышны.

Зусім не відаць Агаткі: вусаты ячмень з аднаго боку, а з другога — мятлісты авёс. *Я. Колас.*

**Мятлі́чны.** Які мае адносіны да пустазелля мятліцы.

Руневіч выплюнуў мятлічную саломінку, якую ўсё жаваў, на глядзеў на Крушыну. *Я. Брыль.*

**Мяцё́лчаты.** Які мае суквецце ў выглядзе мяцёлкі.

Мяцёлчатае суквецце.

### МЯЦЕЖНІЦКІ // МЯЦЕЖНЫ

**Мяцё́жніцкі.** Які мае адносіны да мяцежніка, характэрны для яго.

Яго бунтарскі, мяцежніцкі дух стаў праяўляцца цяпер усё часцей і часцей. *ЛіМ.*

**Мяцё́жны. 1.** Які мае непасрэдныя адносіны да мяцяжу.

І помніць дагэтуль Замосце і Снежна, як беглі палкі генералаў мяцежных. *П. Глебка.*

**2.** *перан.* Трывожны, неспакойны.

Вы не такая, як усе, вы такая ж, як і я, мяцежная шукальніца незвычайнага і прыгожага. *А. Асіпенка.*

## Н

### НАБАЖЭНСТВА // НАБОЖНАСЦЬ

**Набажэ́нства.** Царкоўная служба.

Сінонім: богаслужэнне.

Назаўтра зранку таксама ішла споведзь, а потым ужо служылася абедніца, набажэнства, спецыяльна створанае для палешукоў, бо звычайна іх доўга ў царкве не затрымлівалі. *Я. Колас.*

**Набо́жнасць.** Шчырая вера ў бога.

Сінонім: багамольнасць.

Цельшынцы не вызначаліся асаблівай набожнасцю і рэлігійнасцю, але царкоўныя абрады спраўлялі. *Ю. Пшыркоў.*

### НАБІВАЧНЫ // НАБІЎНЫ

**Набі́вачны.** Які мае адносіны да набіўкі; які служыць, прызначаны для набіўкі, набівання.

Набівачным матэрыялам для мяккіх цацак служыць пілавінне або вата. *Таваразнаўства.*

**Набіўны́.** Зроблены пры дапамозе набівання; з набітым узорам (пра тканіны).

Тканіны бываюць адбеленыя, гладкафарбаваныя, набіўныя і інш. *Таваразнаўства.*

## НАБОЙ // НАБОЙКА

**Набóй.** Зарад пораху са шротам, карцеччу або куляй для паляўнічай стрэльбы; патрон з такім зарадам.

Дзед Пілiп узяў сваю двухстволку, праверыў набоі і павесіў над самым ложкам. *М. Ваданосаў.*

**Набóйка.** Ніжні слой абцаса; металічная пласцінка, якая набіваецца на абцас і насок абутку.

Бадай на ўвесь тэрмін навучання холіць вопраткі і абутку. Калі што парвецца, можна зашыць, а на абцасы чаравікаў набіць набойкі. *І. Навуменка.*

## НАВЕСНЫ // НАВЕШАНЫ // НАВЯСНЫ

**Навéсны.** Такі, пры якім міны, снарады, апісваючы ў паветры крутую дугу, падаюць зверху.

Навесны агонь.

**Навéшаны.** Павешаны, прымацаваны да чаго-н., надзеты на што-н.

Дзверы навешаны.

**Навясны́.** Прыстасаваны для навешвання; які навешваецца.

Навясныя рамы.

## НАВІЗНА // НАВІНА

**Навізнá.** Штосьці новае, незнаёмае; нешта нядаўна адкрытае, вынайдзенае, выпрабаванае і г. д.

Дзеці ў нас харошыя, сумленныя, працавітыя, хочуць усё ведаць. Вось мы і павінны даць ім радасць хоць маленькіх адкрыццяў, захапіць навізною ведаў, адагрэць душу ўвагаю і добрым словам. *С. Грахоўскі.*

**Навінá.** Толькі што атрыманая вестка, паведамленне пра што-н.; нешта новае, незнаёмае.

Зводку Міця прачытаў на калідоры двухпавярховага чыгуначнага дома. З'явілася жаданне зараз жа пабегчы да хлопцаў падзяліцца навіной. *І. Навуменка.*

## НАВУКОВЫ // НАВУЧАЛЬНЫ

**Навукóвы.** Які мае адносіны да навукі, характэрны для яе; які адпавядае патрабаванням навукі.

Дзед любіў пры зручным выпадку ўжыць навуковае слова. *М. Лынькоў.*

**Навуча́льны.** Які мае адносіны да вучобы, навучання; звязаны з арганізацыяй працэсу навучання.

Набліжаўся канец першай чвэрці навучальнага года... *А. Карпюк.*

### НАГАРНЫ // НАГАРЭЛЫ

**Нага́рны.** Які мае адносіны да нагару; які служыць для знімання нагару.

Нагарныя шчыпцы.

**Нагарэ́лы.** На якім утварыўся нагар, з нагарам.

Нагарэлы кнот.

### НАГЛЯДАЛЬНІЦКІ // НАГЛЯДАЛЬНЫ // // НАГЛЯДНЫ // НАГЛЯДЧЫЦКІ

**Нагляда́льніцкі.** Які мае адносіны да наглядальніка, наглядання.

Наглядальніцкія абавязкі.

**Нагляда́льны. 1.** Той, хто ўмее наглядаць.

Вока ў яго наглядальнае. *П. Броўка.*

**2.** Які служыць для наглядання,назірання; назіральны.

Лазячы на хвою, на наглядальны пункт, Міколка часта бачыў, як праходзяць зрэдку па Дняпры параходы. *М. Лынькоў.*

**Нагля́дны. 1.** Заснаваны на паказе таго, што вывучаецца; які служыць для паказу.

У ходзе вывучэння біялогіі, фізікі, хіміі шырока выкарыстоўваюцца наглядныя дапаможнікі. *Беларусь.*

**2.** Зусім відавочны з непасрэднага назірання; пераканаўчы.

Зборнік — наглядны паказчык, якіх поспехаў дабіліся беларускія пісьменнікі. *А. Лойка.*

**Нагля́дчыцкі.** Які мае адносіны да наглядчыка, належыць наглядчыку.

Паглядаючы раз-пораз на рыдлёўку, палонныя разам з тым спадылба зіркалі па баках, асцерагаючыся *наглядчыцкіх* кіёў. *М. Аўрамчык.*

### НАГОДА // НЯГОДА

**Нагóда.** Прычына, выпадак, зручны момант.

Разбор архіва быў папярэдні, мне яшчэ трэба будзе, хочацца заглянуць у тую папку, як толькі прыйдзе нагода. *Я. Брыль.*

**Нягóда. 1.** *звычайна мн.* Няшчасце; цяжкасці, непрыемнасці.

Нягледзячы на свае шэсцьдзесят год, Раман Дзянісавіч быў чалавек моцнага складу, рослы і не сагнуты нягодамі, што сустрэў у жыцці. *Т. Хадкевіч.*

**2.** Дрэннае надвор'е, непагода.

У нягоду не было патрэбы высоўвацца з хаты, глыбока, да вокан другога паверха, занесенай снегам. *У. Калеснік.*

#### НАДБАЎКА // ПАДБАЎКА

**Надба́ўка.** Надбаўленая да чаго-н. сума, частка.

Бацька мой, калі на разрубы зямлю бралі, захацеў палучыць большы хутар. Далі яму дзве дзесяціны надбаўкі, за тое, што ён палез у балота. *А. Асіпенка.*

**Падба́ўка.** Тое, што падбаўлена, дабаўлена; дабаўка.

Ён з'еў вялікую міску супу, хутка ачысціў яе, ды яшчэ й падбаўкі папрасіў. *ЛіМ.*

#### / НАДВОРАК // НАДВОР'Е // ПАДВОРАК

**Надво́рак.** Двор каля хаты, дома.

С і н о н і м: падворак.

А вакол — хаткі і хаткі, працюсенькія, з саламянымі стрэхамі; на шырокіх надворках — свірны, клуні, пуні, відцеюцца высокія жураўлі студняў. *М. Багдановіч.*

**Надво́р'е.** Стан атмасферы ў пэўным месцы ў пэўны час.

С і н о н і м: пагода.

На другі дзень надвор'е выдалася зусім добрае. *Я. Маўр.*

**Падво́рак.** *Разм.* Двор каля хаты, дома.

С і н о н і м: надворак.

Яшчэ завідна Лукаш упраўляўся па гаспадарцы — паіў карову, кідаў у яслі ахапак трасянкі і, парыпваючы дзеравяшкаю, якую прывёз з аўстрыйскага палону, нецярпліва тантаўся па панадворку. *Я. Пархута.*

#### НАДВЯЧОРАК // ПАДВЯЧОРАК

**Надвячо́рак.** Пара перад самым вечарам.

Насустрач дыхнула вільгаццю, мокрым пахам травы, алешніку і ракітніку — гэтак, як заўсёды пахне надвячоркам ад ракі. *А. Жук.*

**Падвячо́рак.** Лёгкая ежа для спажывання між абедам і вячэрай.

Юзя вынесла ёй падвячорак — зацукраваныя чарэшні і кавалак пірага. *А. Бажко.*

#### НАДЗВЫЧАЙНЫ // НЕЗВЫЧАЙНЫ

**Надзвыча́йны. 1.** Спецыяльна прызначаны, прыняты, скліканы і г. д.

Становішча для рэспублікі стваралася небяспечнае, прыходзілася прымаць надзвычайныя меры. *Я. Колас.*

**2.** Вельмі вялікі, моцны па сваёй сіле, праяўленню; які мае вялікае значэнне.

Поспех «Балад і рамансаў» Міцкевіча ў чытача быў надзвычайны. *А. Лойка.*

**Незвыча́йны. 1.** Які вылучаецца сярод іншых; выключны.

Пакою гэтаму надаваў незвычайную, шматвугольную форму дах, яго адмысловыя выступы. *І. Шамякін.*

**2.** Не такі, як звычайна, як заўсёды; непрывычны.

Вера адчула раптам незвычайную лёгкасць. *А. Асіпенка.*

## НАДЗЕЛЕНЫ // НАДЗЕЛЬНЫ

**Надзе́лены.** Дадзены ў асабістае карыстанне, выдзелены каму-н.

Надзелены зямлёю.

**Надзе́льны.** Які мае адносіны да надзелу — зямельнага ўчастка, што выдзяляўся сялянскай сям'і.

Надзельная зямля.

## НАДЗЁННЫ // ПАДЗЁННЫ

**Надзённы. 1.** Які мае важнае жыццёвае значэнне, неабходны.

Сінонім: актуальны.

Надзённае пытанне. Надзённыя праблемы.

**2.** Які бывае кожны дзень.

Надзённыя клопаты. Надзённыя заняткі.

**Падзённы.** Які налічваецца з разліку за кожны рабочы дзень; які выконвае работу з аплатай за кожны рабочы дзень.

Стаў Мікола хадзіць на падзённыя заробкі, парабкаваць па маёнтках. *А. Місько.*

## НАДРЫЎ // НАРЫЎ

**Надры́ў. 1.** Надарванае месца.

Кніга сапсавана: на шэрагу старонак выяўлены надрывы, некалькіх старонак зусім няма. *Настаўніцкая газета.*

**2.** *перан.* Узбуджанасць, хваравітасць у праяўленні сваіх пачуццяў; фізічнае напружанне.

Ілья Рыгоравіч прыгорбіўся, апусціў галаву, схапіўся рукою за горла і ўжо не стрымліваў кашлю, а бухаў і бухаў з нейкім надрывам. *Я. Герцовіч.*

**Нары́ў.** Гнойныя пухліны ў тканцы арганізма.

Сінонім: абсцэс.

Каравая ануча на яго назе разматалася, і на чорнай пяце быў бачны жоўты, выспелены нарыў. *М. Капыловіч.*

### НАДУМ // НАДУМАНАСЦЬ

**Надýм.** Задума, жаданне, намер зрабіць што-н.

Ну, якая ж ахвота на прывязі хадзіць, калі да гэтага часу Мішка хадзіў усюды па сваёй ахвоце, па свайму надуму. *М. Лынькоў.*

**Надýманасць.** Нерэальнасць, ненатуральнасць, штучнасць.

У такіх тэарэтычных пабудовах нельга не бачыць надуманасці і абстрактнасці. *Н. Перкін.*

### НАЕДАК // НАЕДЗЬ

**Наéдак.** *Разм.* Тое, чым можна наесціся; пажыўнасць ежы.

Яблыкі — не вялікі наедак.

**Нáедзь.** Камень на зубах у каня.

Цёмная наедзь. Старая наедзь.

### НАЕЗДЖАНЫ // НАЕЗДЖЫ

**Наéзджаны.** Які стаў роўным, гладкім ад частай язды (звычайна пра дарогу).

Сінонім: уезджаны.

Дарога наезджаная, накатаная, прыбітая машынамі і людзьмі. *В. Хомчанка.*

**Наéзджы.** *Разм.* Які прыехаў, наехаў адкуль-н.

Сінонім: прыезджы.

Наезджы чалавек.

### НАЁМНІЦКІ // НАЁМНЫ

**Наёмніцкі.** Які належыць наёмніку, характэрны для яго.

Наёмніцкія атрады адпетых галаварэзаў учынялі жорсткія расправы над карэннымі жыхарамі калоній. *Звязда.*

**Наёмны. 1.** Які мае адносіны да найму; які працуе па найму.

Гэта быў такі ж наёмны працаўнік, як і ўсе мы, рабочыя гаража, але трымаў ён сябе крышачку гэтак з гонарам — механік усё ж. *В. Быкаў.*

**2.** *перан.* Падкуплены, прадажны.

Вялікі паэт выклікаў на дуэль паклёпніка і загінуў ад рукі наёмнага забойцы Дантэса. *А. Матрунёнак.*

**Нажавы́.** Які мае адносіны да нажа; зроблены нажом.

У .. [байцоў] былі самазарадныя вінтоўкі з нажавымі штыхамі, поўныя падсумкі патронаў. *У. Дамашэвіч.*

**Нажны́.** Які прызначаны для ног або прыводзіцца ў дзеянне нагамі.

Негр-гігант згінае на рэйках бранзалеты нажных кайданаў, я вызваляюся з жалезных путаў. *У. Дамашэвіч.*

**Нажо́вачны.** Які мае адносіны да пілы-нажоўкі.

Нажовачнае палатно.

## НАЖЫВА // НАЖЫТАК

**Нажы́ва.** Лёгкі даход, які прыходзіць не ў выніку працы; нажыванне грошай, матэрыяльных каштоўнасцей.

Прага да нажывы.

**Нажы́так.** Тое, што нажыта, набыта, куплена.

Ля новага, з белай цэглы, чатырохпавярховага гмаха, сталі дзве машыны з мэбляй, розным хатнім нажыткам. *А. Савіцкі.*

## НАЖЫТЫ // НАЖЫЎНЫ

**Нажы́ты.** Пастунова набыты, прыдбаны на працягу якога-н. часу.

Працоўны чалавек ніколі не спакушаўся багаццем, нажытым нядобрасумленным шляхам. *Р. Шкраба.*

**Нажыўны́.** Які можна нажыць, набыць, прыдбаць.

— Да ведаў яшчэ трэба вопыт .. — А вопыт — справа нажыўная. *М. Пянкрат.*

## НАЗДРАВАТЫ // НАЗДРАТЫ

**Наздрава́ты.** З невялікімі, частымі дзірачкамі.

Сінонім: порысты.

Сонца ўзнялося, прасвечвае голы лес і на аселым, наздраватым зашэрхлым снезе сплятаюцца дзівосныя карункі святла і ценю. *І. Шамякін.*

**Наздра́ты.** З вялікімі ноздрамі.

Нос у яго быў кірпаты, як перабіты, але шырокі, наздраты і рабіў твар нечым падобным на малпін. *ЛіМ.*

## НАЗІРАЛЬНАСЦЬ // НАЗІРАННЕ

**Назіра́льнасць.** Здольнасць бачыць, заўважаць факты, з'явы, якіх не бачаць, не заўважаюць іншыя.

Андрэйка вызначаўся дасціпнасцю і не па гадах вялікай назіральнасцю. *П. Кавалёў.*

**Назіра́нне. 1.** Разглядванне; нагляданне; сузіранне.
Назіранне навакольнага. Назіранне за тэмпературай паветра.
**2.** Тое, што заўважана ў працэсе вывучэння, разгляду чаго-н.
Навуковыя назіранні. Апошнія даныя назіранняў за надвор'ем.

### НАЗІРАЛЬНІЦКІ // НАЗІРАЛЬНЫ

**Назіра́льніцкі.** Які мае адносіны да назіральніка, назірання.
Назіральніцкія абавязкі. Назіральніцкія запісы.
**Назіра́льны. 1.** Які прызначаны для назірання.
Назіральная вышка. Назіральны пункт.
**2.** Які валодае назіральнасцю, умее назіраць.
Каб Адам быў больш назіральны, то ён бы ўбачыў у затуманеным позірку прыгожых жончыных вачэй нешта падобнае на вінаватасць і папрок. *А. Чарнышэвіч.*

### НАЗНАРОК // НЕЗНАРОК

**Назнаро́к.** *Разм.* Спецыяльна, з якой-н. мэтай.
Сінонім: знарок.
— Значыць, назнарок накіравалі мяне на луг, каб я вам не перашкаджаў! *М. Гамолка.*
**Незнаро́к.** Выпадкова, ненаўмысна.
Сінонім: ненарокам.
Маці збіралася даіць карову, незнарок бразнула вядром. *Х. Жычка.*

### НАКУСАЦЬ // НАКУСІЦЬ

**Накуса́ць. 1.** *1 і 2 ас. не ўжыв.; каго-што.* Пакусаць, нарабіць укусаў у многіх месцах (пра насякомых).
Конь злосна махае галавою, спыняецца і трэ вочы аб калены пярэдніх ног або дастае галавою і зубамі хапае за месцы, дзе накусалі сляпні. *П. Галавач.*
**2.** *чаго. Разм.* Адкусваючы шчыпчыкамі, нарабіць кавалкаў.
Маці накусала шчыпчыкамі цукру, наліла ў кубак чаю і пачала яго піць упрыкуску, як заўсёды. *ЛіМ.*
**Накусі́ць.** Пракусіць злёгку, зверху, не да канца.
Малы нарэшце зусім здаволіўся, выбраў самы прыгожы яблык з чырвоным бокам, накусіў яго, але есці ўжо не стаў. *ЛіМ.*

## НАМАРАЗЬ // НАМАРЗЕНЬ

**На́маразь.** Асадак снегу, падобны на шэрань, які ўтвараецца ў сырое надвор'е на галінах, дроце і г. д.; слой лёду на чым-н.

Заглянуць з вуліцы ў хату ніхто не мог: шыбы пакрыліся тоўстым пластом намаразі. *І. Шамякін.*

**На́марзень.** Падоўжны брусок, які набіваецца на капылы ў санях.

Трашчаць намарзні, сціснутыя з бакоў .. вязамі. *І. Пташнікаў.*

## НАПОРНЫ // НАПОРЫСТЫ

**Напо́рны. 1.** Які служыць для ўтварэння напору вадкасці.

Для падключэння лазні да ачышчальных збудаванняў саўгаса пабудаван напорны калектар, але не ўведзена помпавая станцыя. *Звязда.*

**2.** Які дзейнічае з вялікім напорам.

Зашумелі воды, узняліся хвалі, у напорнай плыні крыгі паплылі. *А. Русак.*

**Напо́рысты.** Які ўпарта і настойліва дабіваецца сваёй мэты; вельмі настойлівы.

Гэта быў шчыры, прынцыповы, вельмі востры на слова чалавек, баявіты, напорысты журналіст. *А. Бялевіч.*

## НАСТУПАЛЬНЫ // НАСТУПНЫ // НАСТУПАЮЧЫ

**Наступа́льны.** Які мае адносіны да наступлення; баявы, рашучы.

Уначы асобныя падраздзяленні зрабілі некалькі спроб наступальнага характару. *І. Сіўцоў.*

**Насту́пны. 1.** Які падыходзіць, настае непасрэдна ўслед за чым-н.; самы блізкі па чарзе.

Лёха тым самым ключом адчыняе яшчэ адны дзверы, мы заходзім у тамбур наступнага вагона, з яго — у вагон. *В. Карамазаў.*

**2.** Тое, аб чым гаворыцца далей.

Здзейсніць маё заданне дапамог выпадак. Але пра гэта — у наступным раздзеле. *А. Карпюк.*

**Наступа́ючы.** Які вядзе наступленне.

Мікіта Палазок быў на левым флангу наступаючай часткі. *Я. Колас.*

## НАТАРЫУС // НАТАРЫЯТ

**Натары́ус.** Службовая асоба, упаўнаважаная сведчыць, афармляць розныя юрыдычныя акты, дакументы.

З дакументаў я здыму ў натарыуса копіі і вярну табе. *Х. Жычка.*

**Натарыя́т.** Дзяржаўны орган, у абавязак якога ўваходзіць сведчанне, афармленне розных юрыдычных актаў, дакументаў.

Сінонім: натарыяльная кантора.

Натарыят забяспечвае лепшую ахову набываемых грамадзянамі і арганізацыямі правоў, замацоўвае іх ва ўстаноўленай юрыдычнай форме. *Звязда.*

### НАТАТКА // НАТАЦЫЯ

**Ната́тка.** Кароткі запіс для памяці.

Спадзеючыся на сваю памяць, Міхась ніякіх нататак не рабіў — ліст паперы, што ляжаў перад ім, застаўся чысты. *У. Шахавец.*

**Ната́цыя.** Настаўленне, павучанне.

Давялося яму выслухаць суровую натацыю камандзіра батарэі. *І. Грамовіч.*

### НАТУРАЛЬНЫ // НАТУРНЫ // НАТУРЛІВЫ / НАТУРЫСТЫ

**Натура́льны. 1.** Уласцівы прыродзе, створаны прыродай; не штучны.

Усе падзолістыя глебы патрабуюць натуральнага ўгнаення, бо яны бедныя азотам. *Геаграфія частак свету.*

**2.** Нармальны, звычайны.

Гэтыя словы яму здаліся такімі ж натуральнымі і блізкімі, як і тое, што яна сядзела поплеч. *І. Сіўцоў.*

**Нату́рны.** Звязаны з маляваннем, лепкай з натуры; які здымаецца па-за павільёнам.

Міхась Савіцкі, перш чым прыступіць да асноўнай працы, збірае натурны матэрыял, аналізуе яго, абагульняе. *В. Зуёнак.*

**Нату́рлівы.** *Разм.* Тое, што і натурысты.

— Дык ён жа [конь], кажуць, вельмі натурлівы, апроч вас, нікога не слухае,— паспрабавала запярэчыць Лісавета. *Р. Сабаленка.*

**Нату́рысты.** Наравісты, з норавам; упарты.

Часам я, можа б, і сам адважыўся павесці сваю кабылу ў гурт, але гэтаму перашкаджала тое, што мая стракатая была жывёлінай натурыстай і вельмі хітрай. *А. Кулакоўскі.*

### НАХАБНЫ // ПАХАБНЫ

**Наха́бны.** Бессаромна назойлівы, крайне бесцырымонны.

[Зняволеныя] толькі маглі перастуквацца праз сцяну і ганяць нахабных рудых пацукоў. *С. Грахоўскі.*

**Пахáбны.** *Разм.* Вельмі непрыстойны, бессаромны.

Вэня міргнуў Стафанковічыку, той адказаў яму такім жа пахабным міргам. *К. Чорны.*

## НАЦЫЯНАЛІСТЫЧНЫ // НАЦЫЯНАЛЬНЫ

**Нацыяналісты́чны.** Які мае адносіны да нацыяналізму — ідэалогіі і палітыкі, якая прапаведуе нацыянальную выключнасць адной нацыі і пагарду да іншых.

Непрымірымы вораг самаўладства, Алесь Гарун, вярнуўшыся з ссылкі, не разабраўся ў складанай абстаноўцы, паддаўся нацыяналістычнаму ўплыву. *М. Ярош.*

**Нацыяна́льны. 1.** Які мае адносіны да нацыі, нацыянальнасці, звязаны з іх грамадскім жыццём.

Мы за той нацыянальны рух, які з'ядноўвае сілы пралетарыяту, а не разбівае іх. *Л. Арабей.*

**2.** Які ўласцівы нацыі, выражае яе характар.

Верашчака — гэта страва такая, нацыянальная беларуская страва. *Я. Васілёнак.*

**3.** Які належыць пэўнай краіне; дзяржаўны.

Нашы лясы з'яўляюцца адным з буйнейшых нацыянальных багаццяў. *Эканамічная геаграфія СССР.*

## НАЧЛЕЖНІЦКІ / НАЧЛЕЖНЫ

**Начлéжніцкі.** Які мае адносіны да начлежніка.

Толькі калі пачало ўжо днець, аказалася, што жывёліна хадзіла тут жа, зусім недалёка ад начлежніцкага агню. *А. Кулакоўскі.*

**Начлéжны.** Які мае адносіны да начлегу; прызначаны для начлегу.

Захмяліла нас дарога ў вербах прыбярэжных пахам сена маладога і дымкоў начлежных. *А. Вялюгін.*

## НАЧЫНКА // НАЧЫННЕ

**Начы́нка.** Тое, чым начынена, напоўнена што-н.

Дзеці будуць ласавацца цукеркамі з барбарысавай начынкай. *В. Хомчанка.*

**Начы́нне.** *зб.* **1.** Набор прадметаў, інструментаў для выканання якой-н. работы.

Улетку цесляры вандравалі са сваім начыннем — пілкаю і сякерамі — па ўсёй ваколіцы. *С. Александровіч.*

**2.** Сукупнасць прадметаў хатняга, гаспадарчага ўжытку і г. д.

Цётка Арына бразгала на кухні начыннем, нешта гаварыла напаўголас, відаць, толькі для сябе. *А. Асіпенка.*

## НАЧЫСТА // НАЧЫСТАТУ / НАЧЫСТУЮ

**На́чыста. 1.** Без памарак, канчаткова; вельмі чыста.

Лепшыя канспекты, як правіла, былі ў Васіна, які адзін рэгулярна перапісваў іх начыста. *У. Карпаў.*

**2.** Цалкам; поўнасцю.

Спалілі фашысты ўсё начыста. Людзей каго пазабівалі, а каго ў Нямеччыну пагналі. *Б. Сачанка.*

**Начыстату́.** *Разм.* Нічога не ўтойваючы; без хітрыкаў; начыстую.

Сакратар жвава адсунуў сваё крэсла, падсеў бліжэй да Жывіцы:— Гавары ўсё, начыстату. *М. Ваданосаў.*

**Начысту́ю.** Нічога не ўтойваючы; без хітрыкаў; шчыра; начыстату.

Бергер здзівіўся:— Будзем гаварыць начыстую? *І. Гурскі.*

## НЕАПІСАЛЬНЫ // НЕАПІСАНЫ // НЯПІСАНЫ

**Неапіса́льны.** Які цяжка ці немагчыма апісаць, перадаць словамі; вельмі моцны, незвычайны.

Загарэлася маё сэрца да дзяўчыны неапісальнай прыгажосці. *С. Свірыдаў.*

**Неапі́саны.** Які не апісалі, не ўключылі ў вопіс, апісанне.

Заолаг Акен выказаў меркаванне, што ў прыродзе існуе яшчэ прыкладна 60 тысяч неапісаных відаў. *Я. Цынгер.*

**Ня́пісаны.** Які існуе па традыцыі, не прыняты, не ўстаноўлены афіцыйна, у заканадаўчым парадку.

Ён [аканом] ідзе на любыя махінацыі: пісаныя і няпісаныя законы панскага двара проста артыстычна выкарыстоўвае, каб дамагчыся асабістай удачы. *А. Лойка.*

## НЕБЫЛЬ // НЕБЫТ // НЕБЫЦЦЁ / НЯБЫТ

**Не́быль.** Тое, чаго не было, не бывае; небыліца.

— Няўжо, калі часам узвядуць на мяне якую небыль, ты не закінеш слова, Сямён Іванавіч? *Т. Хадкевіч.*

**Не́быт.** *Разм.* Клопат, цяжар; абуза.

Душу грызла пакута ад таго, што занемагла [Зіна] у такі суровы час, што робіць многа небыту хлопцам у гэтакім складаным паходзе. *А. Кулакоўскі.*

**Небыццё.** Адсутнасць існавання, жыццядзейнасці; нябыт.

Гора, качэўная доля ў небыццё адышлі. *А. Александровіч.*

**Нябы́т.** Адсутнасць быцця, існавання, жыцця; небыццё.

Мяне кудысьці імчыць, як лісцінку. У жыццё? **У** нябыт? *З. Бядуля.*

## НЕВЫКАЗНЫ // НЯВЫКАЗАНЫ

**Невыка́зны.** Які цяжка ці немагчыма выказаць, перадаць словамі.

Аж сэрца заходзілася ад хараства і невыказнай тугі, ад пачуцця адзіноты, ад жадання некаму адкрыць душу, расказаць усё, што думаеш і адчуваеш. *С. Грахоўскі.*

**Навы́казаны.** Не выражаны ў словах; не выяўлены якім-н. чынам.

Тое, што заўсёды старанна хаваецца ад пабочных вачэй, сваё, нявыказанае, таямнічае, цяпер нібы выносілася на людскі суд. *У. Шахавец.*

## / НЕДАВЕР // НЕДАВЕРАК // НЕДАВЕР'Е // НЕДАВЯРАК

**Недаве́р.** Тое, што і н е д а в е р ' е.

Слухалі яго кіраўнікі вобласці ўважліва, але часам Мікола чытаў на іх тварах недавер. *І. Новікаў.*

**Недаве́рак.** *Разм.* Той, хто не верыць у што-н.; недаверлівы чалавек.

Старэйшыя сачылі за пошукамі Сазонава, і кожны імкнуўся падтрымаць яго. Насмешнікаў або недаверкаў не было. *Е. Лось.*

**Недаве́р'е.** Адсутнасць давер'я, падазроныя адносіны да каго-чаго-н.; недавер.

Людское недавер'е — бадай самая страшная рэч. *У. Карпаў.*

**Недавя́рак.** *Разм.* **1.** Бязлітасны, жорсткі чалавек; ліхадзей; бязбожнік.

[Ласянё] яшчэ з тыдзень хадзіла. А потым і яго не стала. Таксама забілі, недаваркі. *Я. Ермаловіч.*

**2.** Тое, што і н е д а в е р а к.

Алік падсунуўся бліжэй да Лёнькі і папрасіў:— Раскажы гэтаму недавярку, як твой бацька позняй восенню пераплыў Дняпро са зброяй, з радыёстанцыяй. *А. Шашкоў.*

## НЕНАСЫТНЫ // НЕНАСЫЧАНЫ

**Ненасы́тны.** Такі, якога цяжка насыціць, накарміць; пражэрлівы.

С і н о н і м: ненажэрны.

Двое сутак падрад налятвлі чорныя, ненасытныя птахі. *М. Лынькоў.*

**Ненасы́чаны.** Які не змяшчае ў сабе найбольшай (гранічнай) колькасці якога-н. рэчыва.

Ненасычаным растворам называецца такі раствор, у якім пры дадзеных умовах можа растварыцца яшчэ некаторая колькасць узятага рэчыва. *Хімія.*

## НЕПАРАЗУМЕННЕ // НЕРАЗУМЕННЕ

**Непаразуме́нне.** Няправільнае ці недастатковае разуменне чаго-н., выпадковая памылка; адсутнасць узаемнага разумення.

Усе, зразумеўшы сутнасць справы, заўсміхаліся. Непаразуменне, здавалася, было поўнасцю вырашана. *П. Кавалёў.*

**Неразуме́нне.** Адсутнасць разумення; няздольнасць зразумець што-н.

Неразуменне сэнсу бурлівых падзей, якія тварыліся ў краіне, часта выклікала ў пісьменніка роспач. *В. Каваленка.*

## НЕПАТРЭБНАСЦЬ // НЕПАТРЭБШЧЫНА

**Непатрэ́бнасць.** Адсутнасць патрэбы ў кім-чым-н.

Непатрэбнасць у раскошы — гэта яго жыццёвы прынцып, яго натура.

**Непатрэ́бшчына.** Тое, у чым няма патрэбы, неабходнасці; непатрэбныя рэчы, хлам.

Стары хляўчук застаўлены каністрамі, вёдрамі, завалены рознай непатрэбшчынай. *М. Ваданосаў.*

## НЕПРАДБАЧАНЫ // НЕПРАДБАЧЛІВЫ

**Непрадба́чаны.** Такі, якога нельга было прадбачыць.

Сінонім: нечаканы.

І імчыць зялёны легкавічок за вёску, у непрадбачаны рэйс... *М. Ракітны.*

**Непрадба́члівы.** Які не прадбачыць магчымых вынікаў.

Сінонім: недальнабачны.

Непрадбачлівы чалавек.

## НЕПРЫВЫКЛЫ // НЕПРЫВЫЧНЫ

**Непрывы́клы.** *Разм.* Які не прывык да каго-чаго-н.

Непрывыклыя да работы рукі сяк-так перакорпвалі дзялянку зямлі. *К. Чорны.*

**Непрывы́чны.** Такі, да якога не прывыклі; які з'яўляецца новым для каго-н.; які не мае прывычкі да чаго-н.

У вестыбюлі была цішыня. Непрывычная, нейкая застыглая. *Я. Васілёнак.*

## НЕРАСТ // НЕРАТ

**Не́раст.** Адкладанне рыбамі ікры і апладненне яе.

Толькі ў час нерасту збіраюцца самы сутак на трое ці каля гэтага ў невялікія чароды. *В. Вольскі.*

**Нéрат.** Рыбалоўная снасць з лазы ў выглядзе доўгага конуса.

Вунь за тым алешнікам пачынаецца балота, дзе ў глыбокіх ямах, невялічкіх аеравых азёрах хлапчукі кошыкамі і нератамі лавілі ўюноў і карасёў. *А. Бялевіч.*

## НЕСУМЛЕННЫ // НЕСУМНЕННЫ

**Несумлéнны.** Які страціў сумленнасць.

Сінонім: нячэсны.

Знаходзіліся такія куточкі, хоць і мала іх было, дзе несумленны чалавек, вядома, з хітрасцю ды асцярожнасцю мог свае рукі пагрэць. *А. Васілевіч.*

**Несумнéнны.** Які не выклікае ніякага сумнення.

Сінонім: бясспрэчны.

Несумненны ўплыў Міцкевіча на творчасць пісьменнікаў іншых краін. *А. Лойка.*

## НЕСУЦЕШНЫ // НЕСУЦІШНЫ // НЕСУЦЯШАЛЬНЫ

**Несуцéшны.** Такі, якога цяжка або немагчыма суцешыць; надта моцны па сіле праяўлення (пра гора, смутак, слёзы і г. д.).

Нешта падсвядомае падсказвала ёй, што скора яна навек разлучыцца з імі; што надыходзіць страшны час, які нясе яе сям'і нясцерпнае, несуцешнае гора. *А. Чарнышэвіч.*

**Несуцíшны. 1.** Які не змаўкае, гучыць безупынна; несціханы.

І запрашаюць вокны клуба ў несуцішны вулей свой. *С. Гаўрусёў.*

**2.** Які немагчыма суняць, стрымаць (пра боль).

А якая патрабавалася ад нашых жанчын душэўная стойкасць, каб пераадолець несуцішны боль, выкліканы стратай сваіх мужоў, сыноў, бацькоў і братоў! *П. Машэраў.*

**Несуцяшáльны.** Які не прыносіць суцяшэння, заспакаення.

А зводкі Саўінформбюро па-ранейшаму былі несуцяшальныя. *Полымя.*

## НЕЎЖЫВАЛЬНЫ // НЕЎЖЫВАНЫ

**Неўжывáльны.** Які не ўжываецца, не выкарыстоўваецца. Неўжывальнае слова. Неўжывальны выраз.

**Неўжывáльны.** Які не быў ва ўжыванні; якім не карысталіся. Неўжываны інструмент. Неўжываная бялізна.

## НЕЎСПРЫІМЛІВЫ // НЕЎСПРЫМАЛЬНЫ

**Неўспрыі́млівы.** Які дрэнна ўспрымае, засвойвае, разумее што-н.

Неўспрыімлівы вучань. Неўспрыімлівае дзіця.

**Неўспрыма́льны.** *Спец.* Які мае імунітэт да якой-н. хваробы. Яго арганізм неўспрымальны да грыпу.

## НЕЧУВАНЫ // НЯЧУТНЫ

**Нечува́ны.** Які перасягае ўсё вядомае сваёй незвычайнасцю; небывалы.

Больш за два тыдні ішлі бесперапынныя, нечуванай лютасці баі. *А. Кулакоўскі.*

**Нячу́тны.** Такі, якога не чуваць зусім; вельмі ціхі, ледзь чутны.

Абвостраны слых злавіў ззаду таропкія крокі, амаль нячутныя на мяккім снезе. *А. Асіпенка.*

## НЕЧУЛЛІВЫ // НЯЧУЛЫ

**Нечуллі́вы.** Які слаба ўспрымае знешнія раздражненні; пазбаўлены ўражлівасці; абыякавы.

Да гэтага чалавека нічога не даходзіць: у яго зусім нечуллівае сэрца, нібы каменнае. *ЛіМ.*

**Нячу́лы.** Пазбаўлены чуласці, спагадлівасці; які не рэагуе на што-н.; раўнадушны.

Радасць сустрэчы рабіла людзей нячулымі да ўсяго іншага. *І. Мележ.*

## НЕШЧАСЛІВЫ // НЯШЧАСНЫ

**Нешчаслі́вы.** Пазбаўлены шчасця, радасці; які прыносіць няшчасце, гора.

— У маёй мамы таксама былі раскошныя валасы, але доля яе была нешчаслівая,— у засмучэнні прамовіла яна. *Я. Колас.*

**Няшча́сны.** Які церпіць гора, бяду, перажывае няшчасце; які з'яўляецца няшчасцем; гаротны.

Леанід лічыў, што людзі часта няшчасныя ад таго, што загадваюць на ўсё жыццё, тады як трэба жыць тым, што ёсць. *І. Мележ.*

## НІЖНІ // НІЗАВЫ // НІЗІННЫ // НІЗКІ

**Ні́жні. 1.** Які знаходзіцца ўнізе; п р о ц і л. верхні.

Сонца сваім ніжнім краем кранулася чорнай рысы далягляду, пачало апускацца за лес. *У. Крайчанка.*

**2.** Блізкі да вусця ракі.

У ніжнім цячэнні яе [ракі], якраз вось у гэтым месцы, знаходзяцца славутыя дняпроўскія парогі. *Я. Курто.*

**Нізаві́.** **1.** Які мае адносіны, дзейнічае, расце на самай паверхні зямлі, вады і пад.

Гутарка ў Максіма ішла пра беларускія лясы, што гэтак пацярпелі ад вайны, пра сосны, пашкоджаныя нізавымі пажарамі, і пра лячэнне іх. *Я. Брыль.*

**2.** Звязаны непасрэдна з масамі, з народам.

Ён, Шэлег,— раёншчык, нізавы работнік, доўгія гады працуе з людзьмі, якіх не назавеш анёламі. *І. Навуменка.*

**Нізі́нны.** Які мае адносіны да нізіны; які знаходзіцца, расце ў нізіне.

Дарогай вольнай, зорнаю, нізіннаю і горнаю прайдзі ты, юны Май. *Я. Колас.*

**Ні́зкі.** **1.** Які мае невялікую працягласць знізу ўверх; малы па вышыні; п р о ц і л. высокі.

Злева, за светла-сіняй стужкай ціхай Лані, узвышаліся парослыя нізкім хмызняком узгоркі. *А. Шашкоў.*

**2.** Які не дасягнуў звычайнай сярэдняй нормы, пэўнага ўзроўню.

Горш за ўсё, што Зося хворая, увесь час у яе трымаецца нізкая, «гнілая» тэмпература. *У. Дамашэвіч.*

**3.** Невысокай якасці або наогул дрэнны.

Нізкі сорт паперы.

**4.** *перан.* Подлы, ганебны.

— Падхалім — гэта самы нізкі і самы страшны чалавек. *І. Гурскі.*

### НОСЧЫК // НОСЬБІТ

**Но́счык.** Рабочы па пераносцы чаго-н.

С і н о н і м: насільшчык.

Бацька ўсю зіму працаваў у горадзе грузчыкам, носчыкам дроў, дворнікам, але заробленых грошай зноў не хапіла. *ЛіМ.*

**Но́сьбіт.** Той, хто валодае, надзелены чым-н., можа быць выразнікам, прадстаўніком чаго-н.

Носьбітам думак і пачуццяў аўтара выступае ў апавяданні электраправодчык Базыль. *Л. Арабей.*

### НУДЗЕЦЬ / НУДЗІЦЦА // НУДЗІЦЬ // НУДЗІЦЬ

**Нудзе́ць.** Тое, што і н у д з і ц ц а.

Сын трымаўся адзін, нудзеў, бадзяўся з кута ў кут і да ўсяго быў халодны і абыякавы. *К. Чорны.*

**Нудзіцца.** Адчуваць нуду, сумаваць, тужыць; нудзець.

Ен [бацька Алі] быў не вялікі грамацей і лісты пісаў не так часта, а мы іх чакалі кожны дзень і нудзіліся моўчкі, каб не вярэдзіць душу адно аднаму. *С. Грахоўскі.*

**Ну́дзіць.** *безас.* Пра млосны стан, які бывае перад ірвотай.

Ванду нудзіла. Каб не зваліцца з ног, яна прытулілася да сцяны. *У. Мяжэвіч.*

**Нудзі́ць.** *каго* і *без дап.* Выклікаць, наганяць нуду.

Апошні агеньчык мой дагарае. І студзіць, і нудзіць асенні дождж. *В. Вярба.*

## НЯБАЧАНЫ // НЯБАЧНЫ

**Нябáчаны.** Які не сустракаўся раней, якога не даводзілася бачыць; незвычайны, выключны.

У рамане «Векапомныя дні» даецца многа прыкладаў нябачанага гераізму савецкіх людзей. *Д. Бугаёў.*

Н я п р а в і л ь н а. Ужо недзе з сярэдзіны кастрычніка восень з зімою нібыта пачалі пераважваць адна адну на нябачаных (трэба: нябачных) шалях. *І. Чыгрынаў.*

**Нябáчны.** Недаступны для зроку; скрыты, непрыкметны.

Навокал, вельмі блізка для слыху, у траве сакаталі нябачныя конікі. *Я. Брыль.*

## НЯВЕСТА // НЯВЕСТКА

**Нявéста.** Дзяўчына (або жанчына), якая выходзіць замуж.

С і н о н і м ы: маладая, маладуха.

Нявеста была як нявеста: у беласнежным вэлюме, з вянком, з букецікам красак на грудзях. *М. Лынькоў.*

**Нявéстка.** Жонка сына.

Рабілі яны ў хаце ўсё звычайна ўдзвюх, і свякроў паказвала нявестцы многае, чаго не паспела навучыць маці. *Я. Брыль.*

## НЯСІЛЕЦЬ // НЯСІЛІЦЬ

**Нясíлець.** Страчваць сілы, станавіцца слабым, бяссільным.

Ад доўгай хады нясілелі ногі.

**Нясíліць.** *каго-што.* Пазбаўляць сілы, рабіць бяссільным.

Стома нясіліць рукі.

### НЯСТРЫМАНЫ // НЯСТРЫМНЫ

**Нястры́маны. 1.** Які не можа валодаць сабой, стрымлівацца.

Усе ведаюць, што Булай нястрыманы, што любіць пакамандаваць. *У. Шыцік.*

**2.** Якога немагчыма стрымаць.

Яна яшчэ не ведала навальніц. Гэта адразу можна было заўважыць па выразу шэрых вачэй, якія шырока і даверліва глядзелі на свет, па шчырай, трохі нястрыманай, хутчэй юнай чым жаноцкай усмешцы. *У. Караткевіч.*

**Нястры́мны. 1.** Якога немагчыма стрымаць, цяжка ўтаймаваць.

Стараючыся перацяць кашаль, [Сотнікаў] захінуўся рукавом, але ад таго кашаль стаў яшчэ больш нястрымны. *В. Быкаў.*

**2.** Такі, што цяжка вытрымаць; нясцерпны, невыносны.

Жыхары Рагачова, якія ў час бою знаходзіліся хто дзе, павылазілі са сваіх схованак, з нястрымнай радасцю абдымалі чырвонаармейцаў, частавалі іх чым хто мог. *А. Капусцін.*

### НЯЎЦЯМНЫ // НЯЦЯМЛІВЫ

**Няўця́мны.** *Разм.* **1.** Такі, які цяжка зразумець, усвядоміць; незразумелы.

І незразумелая, няўцямная трывога ўсё больш і больш агартала мяне. *Б. Сачанка.*

**2.** Які выяўляе неразуменне чаго-н. або адсутнасць думак пра што-н.

На гэты раз Сцяпан даўжэй глядзеў няўцямнымі вачыма на прысутных. *М. Паслядовіч.*

**Няця́млівы.** *Разм.* Які цяміць з цяжкасцю; нездагадлівы.

С і н о н і м: някемлівы.

Няцямлівы чалавек. Няцямлівы вучань.

## П

### ПАБЛАЖЛІВЫ // ПАБЛАЖЭЛЫ

**Пабла́жлівы.** Нястрогі, непатрабавальны; які робіць паблажкі.

Яна лічыла, што мела права на такі насмешлівы і паблажлівы тон. *А. Васілевіч.*

**Паблажэ́лы.** Які прыкметна пахудзеў, страціў прываблівасць, прыгажосць.

Паблажэлы выгляд. Паблажэлы чалавек.

### ПАБОЛЬШАЦЬ // ПАБОЛЬШЫЦЬ

**Пабо́льшаць.** Стаць большым, павялічыцца; прыбавіцца.

Вочы ў яе пабольшалі, сталі вялікія, чыстыя і блакітныя, як неба,— што ўсё роўна чым вымытыя. *І. Пташнікаў.*

**Пабо́льшыць.** *што.* Зрабіць большым.

Аднойчы Косця вярнуўся ў палатку, пабольшыў у лямпе кнот і, сеўшы за стол, напісаў Валі доўгае, аж на чатыры старонкі пісьмо. *В. Адамчык.*

### ПАБУДЖАЦЬ // ПАБУДЗІЦЬ

**Пабуджа́ць.** *незак., каго, да чаго і з інф. Кніжн.* Выклікаць жаданне рабіць што-н.; заахвочваць да чаго-н.

Вострая патрэба дня, аператыўнасць малых жанраў пабуджалі пісьменнікаў у пачатку вайны аддаваць перавагу малым формам. *П. Дзюбайла.*

**Пабудзі́ць.** *зак., каго.* Перарваць чый-н. сон.

Сінонім: разбудзіць.

Асцярожна, каб не пабудзіць суседзяў, я ўстаў, прыбраўся і расчыніў дзверы на балкон. *Т. Хадкевіч.*

### ПАВАДЫР // ПРАВАДНІК // ПРАВАДЫР

**Павады́р.** Той, хто водзіць каго-н.

Лірнік іграў-спяваў пра нялёгкую долю людскую, а павадыр прымаў міласціну — капейчыну, хлеба кавалак... *Я. Пархута.*

**Праваднік.** 1. Той, хто паказвае дарогу ў незнаёмай мясцовасці.

Праваднік павінен ведаць не менш за разведчыка, дзе падпільноўвае вораг. Праваднік павінен ведаць больш за разведчыка, як абысці ворага. *А. Кулакоўскі.*

**2.** Чыгуначны работнік, які наглядае за парадкам у вагоне.

Праваднік быў рады, што ў душным вагоне знайшлася жывая душа, з якой можна было бавіць час. *А. Кудравец.*

**Правады́р.** Агульнапрызнаны ідэйны, палітычны кіраўнік (партыі, класа).

Пасля адыходу ў «лепшы свет» правадыра і бацькі народаў нішто не парушылася і не развалілася. *С. Грахоўскі.*

### ПАВАЖАНЫ // ПАВАЖЛІВЫ // ПАВАЖНЫ

**Паважа́ны.** Які выклікае пачуццё павагі, да якога адчуваюць павагу.

Трэба гэтага паважанага гаспадара запрасіць на адкрыты сход. *І. Шамякін.*

**Пава́жлівы.** Які выражае павагу, пашану да каго-н.

Сінонімы: пачцівы, добразычлівы.

У свае таямніцы ён нікога не пасвячаў, быў з усімі аднолькава ветлівы, паважлівы. *Б. Сачанка.*

**Паважны. 1.** Важны, поўны ўласнай годнасці, самавітасці.

Гэта быў паважны, не маладога ўжо веку чалавек, заўсёды акуратна адзеты, ветлівы, з прыемнымі манерамі. *М. Лынькоў.*

**2.** Спакойны, няспешны, павольны.

Калі Мікіта дайшоў да гэтага месца, голас яго стаў званчэйшы, а тэмп чытання больш паважны. *Я. Колас.*

**3.** Старэчы (пра ўзрост).

Прага да славы, знакамітасці жыве ў чалавеку нават у такім [васьмідзесяцігадовым] паважным узросце. *І. Навуменка.*

## ПАВАРОТЛІВЫ // ПАВАРОТНЫ

**Паваротлівы.** Здольны лёгка і хутка паварочвацца; які ўсё робіць лёгка і хутка.

Сінонімы: спрытны, увішны.

Дзяцюк спрытны і паваротлівы, разам з ім будзе лягчэй пераносіць цяжкасці і нягоды. *М. Аўрамчык.*

**Паваротны. 1.** Які служыць для павароту, паварочвання чаго-н.

Пралёт перакрыты старой фермай паваротнага круга. *Х. Шынклер.*

**2.** *перан.* Пераломны, пасля якога пачынаецца нешта новае.

Ульянін прыход на Гармізаў хутар быў паваротным пунктам у Арыніным жыцці. *Я. Колас.*

## ПАВЕР'Е // ПАВЕРКА

**Павер'е.** Паданне, якое заснавана на забабонах.

Паводле павер'я, у жытнёвым полі жылі зерневыя духі, якія нібыта давалі жыццё сцяблінам, напаўнялі каласы зернем. *М. Піліпенка.*

**Паверка.** Пераклічка, якая робіцца для праверкі наяўнасці людзей.

Сосны, як салдаты на паверцы, пераклічку між сабой вядуць. *П. Прыходзька.*

## ПАВЕРХАВЫ // ПАВЕРХНЕВЫ // ПАВЯРХОЎНЫ

**Паверхавы.** Які мае адносіны да паверха дома, звязаны з ім.

Брыгада датэрмінова закончыла апошняе паверхавае перакрыцце ў шматкватэрным доме. *Звязда.*

**Паве́рхневы.** Які знаходзіцца на паверхні, недалёка ад па верхні.

Падземныя воды ўсюды знаходзяцца ва ўзаемасувязі з па верхневымі вадасцёкамі. *Звязда.*

**Павярхо́ўны.** Які не дае глыбокага аналізу, не ўнікае ў сут насць справы; несур'ёзны.

У творах павярхоўных і тэма звычайна ляжыць на паверхн *Р. Шкраба.*

### ПАВЕСЯЛЕЦЬ // ПАВЕСЯЛІЦЬ

**Павесяле́ць.** Стаць вясёлым, весялейшым.

Бачачы, як павесялелі дарослыя, сталі радавацца і дзец *І. Мележ.*

**Павесялі́ць.** *каго-што.* Крыху забавіць, пацешыць.

Што ж, салдату часам не грэх павесяліць душу. *І. Ша мякін.*

### ПАВІННАСЦЬ // ПРАВІННАСЦЬ

**Паві́ннасць.** Абавязак, які ўскладаецца дзяржавай ці грамад ствам на насельніцтва.

Гэта былі звычайныя позвы, якія пасылаліся паліцыяй у па радку нямецкага закона аб працоўнай павіннасці. *М. Лынькоў.*

**Праві́ннасць.** Учынак, які парушае якія-н. нормы, правілі паводзін.

С і н о н і м: віна.

Комліка было шкада, але абурала, што яго турбуе адно – пакаранне, якое навісла над ім, а не сама правіннасць *У. Карпаў.*

### ПАВЫШАНЫ // ПАВЫШЭЛЫ

**Павы́шаны.** Больш высокі ў параўнанні са звычайным, нар мальным.

Усю невялікую дарогу, хвілін па пяць, Шырокі не пераства у значна павышаным тоне расказваць аб затхласці мястэчковаг жыцця, аб нікчэмнасці інтарэсаў панямонскай інтэлігенцы *Я. Колас.*

**Павышэ́лы.** *Разм.* Які стаў вышэйшым.

Рэшткі снегу хутка расталі пад [прамянямі] павышэлаг сонца. *У. Шахавец.*

### ПАГАРДЖАЛЬНЫ // ПАГАРДЖАНЫ // ПАГАРДЛІВЫ

**Пагаржа́льны.** 1. Тое, што і п а г а р д л і в ы.

Пагарджальныя адносіны. Пагарджальныя словы.

**2.** У граматыцы: які мае ці ўносіць адценне пагардлівасці, зневажальнасці.

Асобна стаіць назоўнік жаночага роду *хаціна*, для якога характэрна памяншальна-пагарджальнае адценне. *Граматыка беларускай мовы.*

**Пагарджа́ны.** Той, да каго ставяцца з пагардай, кім пагарджаюць.

— А чаго ж, чаго захацелася ім, пагарджаным век, ім, сляпым, глухім? — Людзьмі звацца. *Я. Купала.*

**Пага́рдлівы.** Які ставіцца з пагардай да каго-чаго-н.

С і н о н і м: ганарысты.

Паны ўсе пагардлівыя да ніжэйшых за сябе. *І. Навуменка.*

## ПАГЛЫБЕЦЬ // ПАГЛЫБІЦЬ

**Паглыбе́ць.** Стаць больш глыбокім, глыбейшым.

Але вось крок яго зноў запаволіўся: паглыбеў снег — гэта ён збег па схіле ў лагчыну і, ахоплены новай трывогай, спыніўся. *В. Быкаў.*

**Паглыбі́ць.** *што.* Зрабіць больш глыбокім, глыбейшым.

Геня раскапаў дно адной лужынкі, паглыбіў яго. *А. Якімовіч.*

## ПАГЛЫБЛЕНАСЦЬ // ПАГЛЫБЛЕННЕ

**Паглы́бленасць.** Грунтоўнасць, сур'ёзнасць, засяроджанасць на чым-н., занятасць чым-н.

Новы зборнік выявіў разам з тым і большую паглыбленасць паэтэсы ў тэму радзімы. *А. Лойка.*

**Паглыбле́нне. 1.** Выманне грунту, капанне ўглыб.

Пры нас закончылі паглыбленне канала, пабудавалі над ім новы мост, які быў распачаты даўно. *П. Пестрак.*

**2.** Паглыбленае месца на якой-н. паверхні; выемка, яма.

На паверхні скалы вада ў гарачай крыніцы ўтварыла паглыбленне, якое мае форму самага сапраўднага катла. *А. Матрунёнак.*

## ПАДАЗРОНАСЦЬ // ПАДАЗРЭННЕ

**Падазро́насць.** Апасліва-асцярожныя адносіны да каго-чаго-н.

С і н о н і м: недаверлівасць.

Абкружаны тайнамі кулацкага хутара, пастушок Скуратовіча прывыкае глядзець на ўсё з падазронасцю. *М. Луфераў.*

**Падазрэ́нне.** Меркаванне пра вінаватасць каго-н., пра несумленнасць чыіх-н. паводзін ці намераў.

Лабановіч часцей заўважаў нейкія патаемныя цені пад вокнамі свае кватэры. Пачаў прыглядацца. Ясна, што ён быў на падазрэнні, і за ім сачылі. *Я. Колас.*

### ПАДАРАЖАЦЬ // ПАДАРАЖЫЦЬ

**Падаражáць.** Стаць даражэйшым, павысіцца ў цане.

— Зямлі так і не купілі? — Не. Пакуль збіралі грошы, зямля падаражала. *А. Пальчэўскі.*

**Падаражы́ць.** *што. Разм.* Зрабіць даражэйшым, павысіць у цане.

Падаражыць цэглу. Падаражыць мяса.

### ПАДАРОЖНІЦКІ // ПАДАРОЖНЫ // СПАДАРОЖНЫ

**Падаро́жніцкі.** Які мае адносіны да падарожніка, вандроўніка.

Падарожніцкае адзенне. Падарожніцкі рыштунак.

**Падаро́жны.** Які мае адносіны да падарожжа; які знаходзіцца ў дарозе.

Між гэтых дрэў асабліва кідалася ў вочы падарожнага старадрэвіна-хвоя, што стаяла зусім адна на высокім грудзе непадалёку ад Нёмана. *Я. Колас.*

**Спадаро́жны. 1.** Які рухаецца ў адным кірунку з кім-чым-н.

Пастаяў яшчэ трошкі і рашыў: спадарожнай машыны яму не дачакацца. *Я. Пархута.*

**2.** Які існуе побач, разам з чым-н., спадарожнічае чаму-н. асноўнаму.

Спадарожныя газы.

### ПАДАЎЖАЦЬ // ПАДАЎЖЭЦЬ // ПАДОЎЖЫЦЬ

**Падаўжáць.** *незак., што.* Рабіць даўжэйшым; рабіць больш працяглым.

Выкарыстанне падношаных дэталей падаўжае тэрмін службы машын, падзешаўляе кошт рамонту, а значыць, і гектара ўмоўнага ворыва. *А. Арлоў.*

**Падаўжэ́ць.** *зак.* Стаць даўжэйшым; стаць больш працяглым.

Цені ад вяргінь падаўжэлі, працягнуліся цераз увесь пакой. *М. Даніленка.*

**Падо́ўжыць.** *зак., што.* Зрабіць даўжэйшым; зрабіць больш працяглым.

Няхай хвіліна, што прыйшла сягоння, падоўжыць дзень намераў і здзяйсненняў! *Е. Лось.*

## ПАДБАДЗЁРАНЫ // ПАДБАДЗЁРЛІВЫ

**Падбадзёраны.** Такі, якому надалі ўпэўненасці, сілы, бадзёрасці; якому паднялі настрой; якога падбадзёрылі.

Вучань, падбадзёраны настаўнікам, пачаў даваць больш упэўненыя і глыбокія адказы на пытанні.

**Падбадзёрлівы.** *Разм.* Які надае ўпэўненасць, сілу, падымае настрой.

Халоднае золкае паветра ўварвалася ў пакой, прынёсшы з сабой непаўторныя пахі вясны — свежыя, падбадзёрлівыя, поўныя неспакою, абнаўлення. *У. Шыцік.*

## ПАДБАРОДАК / ПАДБАРОДДЗЕ // ПАДБАРОДНІК

**Падбаро́дак.** Акруглая пярэдняя частка твару, якая ўтворана ніжняй сківіцай.

Сінонімы: падбароддзе.

Зламыўшы на каленях рукі і ўспёршыся на іх дзіцячым вострым падбародкам, дзяўчынка глядзіць на нас, не зводзячы вачэй. *Я. Брыль.*

**Падбаро́ддзе.** *Разм.* Тое, што і падбародак.

Канстанцін Міхайлавіч хавае хворыя рукі пад кажух і нацягвае яго амаль да падбароддзя. *М. Лужанін.*

**Падбаро́днік.** Раменьчык аброці пад мордай у каня.

— Не, ты пачакай, Віця! — Дзяўчына ўчапілася за падбароднік аброці.— Прыязджае з райкома нейкі прадстаўнік. *А. Кулакоўскі.*

## ПАДВЕСАЧНЫ // ПАДВЕСНЫ

**Падве́сачны.** Які служыць для падвешвання.

Асталося зрабіць падвесачнае прыстасаванне, і можна пачынаць праверку лініі ў дзеянні. *Звязда.*

**Падве́сны.** Замацаваны ў вісячым становішчы, падвешаны.

Трэба было падладзіць плугі, паправіць падвесную дарогу на свінаферме. *М. Даніленка.*

## ПАДВОРАК // ПАДВОР'Е

**Падво́рак.** *Разм.* Двор каля хаты, дома.

Сінонім: надворак.

Даверлівыя да людзей, яны [буслы] кружылі зусім нізка над хатай, а часам спускаліся і на падворак. *В. Вітка.*

**Падвор'е. 1.** Тое, што і падворак.

Кузня ўжо была замкнёная, вакол на падвор'і валяліся

старыя колы, бароны, кавалкі ржавага жалеза. *А. Марціновіч.*

**2.** *Уст.* Дом, які належыць загараднаму манастыру ці архірэю.

— Я не магу, я хачу на Дняпро... у Ліпецк, у Кіеў, на манастырскае падвор'е, дзе заўсёды спыняецца маці, і дзе грэцкія арэхі падаюць з дрэў!.. *У. Караткевіч.*

### ПАДЗЁНКА // ПАДЗЁННІК / ПАДЗЁНШЧЫК

**Падзёнка.** Крылатае насякомае, якое жыве ўсяго некалькі дзён.

Сінонім: аўсянік.

Падзёнкі — прывабная здабыча для рыбы. *В. Вольскі.*

**Падзённік.** Тое, што і падзёншчык.

Кінуў Арцём парабкоўства .., падзённікам зрабіўся. *З. Бядуля.*

**Падзёншчык.** Рабочы, які выконвае падзённую работу.

Праца падзёншчыка. Заробак падзёншчыка.

### ПАДЗЕНШЧЫНА // ПАДЗЕНШЧЫЦА

**Падзёншчына.** Падзённая работа.

Жывучы ў Сілцах, Рыгор заўсёды хадзіў чорны і брудны, цяжка і многа працаваў, і на падзёншчыне, і за балагола. *Ц. Гартны.*

**Падзёншчыца.** Жанчына, якая выконвае падзённую работу

Маці яго працавала некаторы час падзёншчыцай.

### ПАДЗОЛІСТЫ // ПАДЗОЛЬНЫ

**Падзо́лісты.** Такі, у якім шмат падзолу; з падзолам — неўрадлівай глебай шаравата-белага колеру.

Пахла сырая падзолістая зямля. Неба было чыстае. *І. Пташнікаў.*

**Падзо́льны.** Які мае адносіны да падзолу; падобны на падзол.

І прабівалася з-пад мокрых скіб чырвоная падзольная іржа. *М. Танк.*

### ПАДКЛАДАЧНЫ // ПАДКЛАДЗЕНЫ // ПАДКЛАДНЫ

**Падкла́дачны.** Які служыць, прызначаны для падкладкі ў адзенні.

Падкладачныя тканіны — каленкор, тканіна кішэнная, бартоўка. *Таваразнаўства.*

**Падкла́дзены.** Пакладзены пад што-н., падсунуты; дабаўлены.

Сінонім: падложаны.

З падкладзенымі рукамі яна ляжала і чула вялікую лёгкасць на ўсім целе. *К. Чорны.*

**Падкладны́.** Які служыць для падкладання пад што-н.

Перш чым прыступіць к рамонту, трэба было замяніць падкладную планку, якая ўжо зусім састарэла. *Звязда.*

## ПАДЛЕТАК // ПАДЛЁТАК / ПОДЛЕТАК

**Падле́так.** Хлопчык ці дзяўчынка ў пераходным ад дзяцінства да юнацтва ўзросце (ад 12 да 16 гадоў).

З таго канца вуліцы, адкуль ішоў дзед Талаш, бяжыць ва ўвесь дух падлетак гадоў шаснаццаці. *Я. Колас.*

**Падлётак.** Маладая птушка, якая толькі пачала вылятаць з гнязда.

Сінонім: подлетак.

Старыя качкі ўзляталі, а сыты, цяжкі падлётак застываў, прытаіўшыся ў асацэ ці між куп'я, пакуль не трапляўся на нюх Цюліку. *Я. Брыль.*

**По́длетак.** Маладая птушка, якая толькі пачала вылятаць з гнязда.

Сінонім: падлётак.

Подлеткі — лёгкая здабыча ганчакоў.

## ПАДЛОЖАНЫ // ПАДЛОЖНЫ

**Падло́жаны.** Падкладзены пад што-н. ці куды-н.

Ад ярусаў да самай вады падложаны тонкія, доўгія бярвенні. *Я. Колас.*

**Падло́жны.** Які з'яўляецца падлогам, падробкай.

Сінонім: фальшывы.

Няма ў адсеках лішняй плошчы, у рундуках — паліц пустых, і кантрабандай груз падложны у мора ўзяць не зможаш ты *Х. Жычка.*

## ПАДМАЦАВАЛЬНЫ // ПАДМАЦАВАНЫ

**Падмацава́льны.** Які служыць для падмацавання, які падмацоўвае.

У паветры ўжо роўна адсякае падмацавальны такт рука *Х. Шынклер.*

**Падмацава́ны.** Які падмацавалі, зрабілі больш моцным; пацверджаны.

Любая практыка павінна быць падмацавана тэорыяй. *І. Шамякін.*

**Падму́рак.** Аснова, якая звычайна служыць апорай для сцен будынкаў.

Сінонім: фундамент.

Калісьці тут стаяла адзінокая хата лесніка. Цяпер ад яе застаўся толькі цагляны падмурак. *М. Ваданосаў.*

**Падмуро́ўка.** Падвядзенне, закладванне фундамента пад што-н.

Каля навезенага на падмуроўку камення тупалі Каспар Крумінь і Захар Рудак. *П. Броўка.*

## ПАДНАРАД // ПАНАРАД

**Паднара́д.** *Спец.* Падкладка ў абутку ад пад'ёму да наска.

Шавец падшыў паднарад пад перады ботаў.

**Панара́д. 1.** Каркас, аснова калёс.

Скрыпяць калёсы, панарад іх дрыжыць, ляскае. *В. Каваль.*

**2.** Калёсы без драбін.

А пад паветкаю прылады: вазок, калёсы, панарады, старыя сані, восі, колы і вулляў некалькі на пчолы. *Я. Колас.*

## ПАДНОС // ПАДНОСАК // ПАДОСАК

**Падно́с.** Спецыяльны металічны ці пластмасавы ліст для падачы ежы на стол, для пераноскі посуду.

Ды спяшаецца не надта дзеўчына з падносам; толькі рыжая цырата ў дзядзькі перад носам. *Н. Гілевіч.*

**Падно́сак.** Частка другой падэшвы ў абутку ад наска да палавіны ступні.

Асцерагаючыся, каб не пакінуць у гэтым месіве падноскаў, Віця нарэшце перабраўся цераз плошчу і ступіў на тратуар. *У. Нядзведскі.*

**Пadóсак.** Вузкая жалезная паласа, якой падбіваецца ніз драўлянай восі ў калёсах.

Ён падосак бярэ ў рукі, каб з тым справіцца замком; ідзе ціха, а ні гуку, бы кот, крадзецца цішком. *Я. Колас.*

## ПАДНЯБЕННЫ // ПАДНЯБЕСНЫ

**Паднябе́нны.** Які мае адносіны да верхняй часткі поласці рота — паднябення.

Поласць рота адмяжоўваецца ад поласці носа паднябеннымі касцямі і адросткамі верхнясківічных касцей. *Анатомія і фізіялогія чалавека.*

**Паднябесны.** Які знаходзіцца або адбываецца ў паднябессі.

Жаваранак з паднябеснай высі перадае на зямлю па радыё весткі аб хітрыках нябеснай дыпламатыі. *К. Крапіва.*

### ПАДОЎЖАНЫ // ПАДОЎЖНЫ

**Падо́ўжаны.** Які мае даўгаватую форму; больш працяглы, доўгі.

Большасць азёр мае падоўжаную форму і быццам выцягнута з паўночнага захаду на паўднёвы ўсход — у напрамку руху ледніка. *А. Гавеман.*

**Падо́ўжны.** Які праходзіць у кірунку даўжыні ці размешчаны па даўжыні чаго-н.; п р о ц і л. папярочны.

Падоўжная сцяна з трыма вокнамі стаяла на поўдзень. *К. Чорны.*

### / ПАДПАЛ // ПАДПАЛІНА // ПАДПАЛКА

**Падпа́л.** Смалякі, трэскі, сухія галінкі для распальвання.

Даніла працаваў блізка ля балаціны і, калі ехаў пад вечар дадому, укінуў у воз пару пнёў — жонка наказала, каб прывёз на падпал смалякоў. *М. Капыловіч.*

**Падпа́ліна. 1.** *Разм.* Абпаленае месца.

На раненым была парваная акрываўленая гімнасцёрка, з вялікімі падпалінамі, ад якіх, здаецца, яшчэ пахла дымам. *ЛіМ.*

**2.** Рыжавата-жоўтая пляма на валасах, на футры іншага колеру.

Вялізны, з падпалінамі на баках ваўкадаў, шырока выкідваючы лапы, з дыхавічным сапам імчаў угору. *В. Быкаў.*

**Падпа́лка.** Тое, што і п а д п а л.

Як дзяўчо ўстане і пад'есць, вынесеш яе на двор, пасадзіш на пясок, а сам насячэш карчагі на падпалку. *І. Гурскі.*

### ПАДПЛЁТ // ПАПЛЁТ

**Падплёт.** Двайное перапляценне на падэшве лапцей.

На лапцях матляліся канцамі стаптаныя акраўкі з падплёту, злёгку шлёгалі раз за разам то па нагах, то па пяску *П. Галавач.*

**Паплёт.** *зб.* **1.** Пруты, якімі жэрдкі з саломай мацуюцца да лат пры крыцці страхі.

Лазовы паплёт.

**2.** *Абл.* Латы, жэрдкі, якія насцілаюцца на кроквы пад страху, дах.

А пад нагамі чаго толькі няма: тут і прэлая са страхі салома, і гнілы паплёт, і цэгла ў сажы. *М. Гроднеў.*

### ПАДПЯТАК // ПАДПЯТНІК

**Падпя́так.** Падсцілка ў абутку для засцярогі пяткі ад цвікоў, якімі прыбіты каблук.

Выручаў ён, трэба сказаць, многіх, усякае ж здараецца з абуткам: то падпятак у каго нечакана адляціць, то падмётка адстане, а блізка шавецкай майстэрні не было. *В. Хомчанка.*

**Падпя́тнік.** Прыстасаванне для апоры ног весляра.

У лодцы быў зручны, надзейны падпятнік.

### ПАДРАХУНАК // ПАРАХУНАК

**Падраху́нак.** Агульная сума; вынік чаго-н.

Скончыўшы навучанне і перагледзеўшы работы вучняў, Лабановіч часта падводзіў падрахунак дня. *Я. Колас.*

**Параху́нак.** *Разм.* Асабістыя прэтэнзіі, узаемная незадаволенасць; помста, расправа.

— Мяркуем нават, што гэта правакацыя ідзе ад славутай глыбоцкай дэфензівы, у якой ёсць асабістыя парахункі з гэтымі хлопцамі. *М. Машара.*

### ПАДРУБА // ПАДРУБКА

**Падру́ба.** Ніжняе бервяно ў зрубе.

Сваёй старэнькай хаты я не пазнаў. Новая падруба выпрастала яе, прыўзняла над зямлёй. *А. Асіпенка.*

**Падру́бка.** Падшыўка краю якой-н. адзежыны.

Падрубка хусцінкі.

### ПАДСАДА / ПАДСАДКА // ПАСАДКА

**Падса́да.** Малыя дрэвы, кусты, якія выраслі ў лесе сярод дрэў іншай пароды; дадатковае падсаджванне якіх-н. раслін.

За просекай то тут, то там зелянеў бярэзнік з лазовай падсадай. *А. Асіпенка.*

**Падса́дка.** Тое, што і п а д с а д а.

Першай вясной Ігнат гэтак жа поўзаў на каленях і абполваў ледзь бачныя ў траве парасткі, зрабіў падсадку там, дзе жалуды не далі ўсходаў, загінулі. *І. Шамякін.*

**Паса́дка. 1.** Высадка ў зямлю насення, карэння раслін, саджанцаў для далейшага росту.

Раман нікому не давяраў ні пасадку, ні нават падрыхтоўку глебы пад бульбу. Сам араў глебу пад зябліва, сам правёў перадпасяўную апрацоўку, сам сеў за руль трактара на пасадцы. *Звязда.*

**2.** *звычайна мн.* Тое, што пасаджана; пасаджаныя расліны, дрэвы.

Вельмі дарагімі сталі для яго гэтыя пасадкі. *І. Шамякін.*

## ПАДСМАЛЬВАЦЬ // ПАДСМОЛЬВАЦЬ

**Падсма́льваць.** *каго-што.* Злёгку ці дадаткова абпальваць агнём.

Нейкая галавешка смылела каля яго галавы, падсмальвала валасы. *Х. Жычка.*

**Падсмо́льваць.** *што.* Мазаць, насычаць смалой у асобных месцах; смаліць пакрысе ці падмазваць смалой дадаткова.

Падсмольваць сваю лодку ён збіраўся даўно, але ўсё ніяк не выпадала. *ЛіМ.*

## ПАДСТРЭШАК // ПАДСТРЭШША

**Падстрэ́шак.** Ніжні край страхі, які навісае над сцяною якога-н. будынка.

Аціхлі на двары вераб'і, пахаваліся пад падстрэшкі, натапырыліся, як зімой. *І. Пташнікаў.*

**Падстрэ́шша.** Ніжняя (унутраная) старана страхі якога-н. будынка.

Вераб'і ўжо збіраліся ў падстрэшшы на начлег і там заводзілі свае звычайныя сваркі з-за ўтульных мясцін. *А. Якімовіч.*

## ПАДСУМАВАЦЬ // ПАСУМАВАЦЬ

**Падсумава́ць.** Падвесці падрахунак чаму-н.; абагульніць сказанае.

Ён нібы падсумоўваў гаворанае, а на самай справе аддаваў свой загад на жніво. *А. Жук.*

**Пасумава́ць.** Сумаваць некаторы час, пабыць сумным.

Мы сягоння на чужой чужыне сядзем па-сяброўску за сталом, пасумуем па сваёй краіне, песню «А ў бары, бары» спяём. *П. Панчанка.*

## ПАДТЭКСТ // ПАДТЭКСТОЎКА

**Падтэ́кст.** Унутраны, скрыты сэнс якога-н. тэксту, выказвання.

Брыль многае гаворыць не толькі самім тэкстам мастацкага твора, але і яго падтэкстам. *Д. Бугаёў.*

**Падтэкстóўка.** *Спец.* **1.** Складанне тэксту для песеннай музыкі; сам тэкст для яе.

Ен лічыў, што стварыць падтэкстоўку намнога лягчэй, калі табе ўжо вядома музыка. *ЛіМ.*

**2.** Тэкст для растлумачвання чаго-н. (пад малюнкам, карыкатурай і інш.).

Журналісцкая работа з гадамі, бадай, брала верх над паэзіяй. Я пісаў замалёўкі, нарысы, артыкулы, фельетоны, вершаваныя падтэкстоўкі. *І. Калеснік.*

#### ПАЗАБІРАЦЬ // ПАЗБІРАЦЬ

**Пазабірáць.** Забраць усё ці многае, усіх ці многіх; канфіскаваць.

Верстакі палякі пазабіралі пры адыходзе, не было тут каму перашкодзіць ім. *П. Галавач.*

**Пазбірáць.** Сабраць, падняць што-н. кінутае, рассыпанае; сканцэнтраваць у адным месцы.

Вось першы промень над зямлёю блісnуў — і іскраў у расе не пазбіраць. *П. Панчанка.*

#### ПАЗВАНОК // ПАЗВАНОЧНІК

**Пазванóк.** Асобная частка пазваночніка ў чалавека і некаторых жывёл.

Пазванок прадстаўляе сабой кароткую, тоўстую, даволі складаную па сваёй будове косць: ён мае цела, дугу і рад адросткаў. *Анатомія і фізіялогія чалавека.*

**Пазванóчнік.** Спінны хрыбет, які складаецца з пазванкоў.

Яна нават паводзіла час ад часу плячыма і прагіналася ўперад пазваночнікам. *У. Мехаў.*

#### ПАКАЗАЛЬНЫ // ПАКАЗНЫ

**Паказáльны. 1.** Характэрны, тыповы; які дае падставы для вывадаў.

І вартасці, і недахопы рамана «Святло над Ліпскам» паказальныя для свайго часу. *А. Адамовіч.*

**2.** Арганізаваны для ўсеагульнага азнаямлення.

Пракурор патрабуе тэрміновага суда над браканьерам і паняжоўшчыкам і хоча зрабіць гэты суд паказальным на ўвесь раён. *У. Крайчанка.*

**3.** Які служыць прыкладам для іншых.

С і н о н і м: узорны.

Яго, кажуць, немцы пасылаюць у Германію, хочуць даручыць яму стварыць у Цішкаўцы паказальны маёнтак. *М. Лынькоў.*

**Паказны́.** Разлічаны на знешні эфект, на знешняе ўражанне; які не адпавядае сапраўднасці, прытворны.

Усё паказное там, быццам цябе ў тэатр прывялі. *А. Васілевіч.*

## ПАЛАВІННЫ // ПАЛАВІНЧАТЫ

**Палаві́нны.** Які складае палавіну чаго-н.

Сінонім: няпоўны.

Няўжо ён не можа знайсці сабе — хай не зусім поўнага, хай палавіннага, але сапраўднага чалавечага шчасця. *М. Зарэцкі.*

**Палаві́нчаты.** *перан.* Пазбаўлены паслядоўнасці.

Сінонім: кампрамісны.

Мера гэтая была, аднак, палавінчатая і нікога не задавальняла. *У. Караткевіч.*

## ПАЛАТАЧНЫ / ПАЛАТКАВЫ // ПАЛАТНЫ

**Пала́тачны.** Прызначаны для палатак; які складаецца з палатак.

Паміж сопкамі бялеюць дамы адпачынку, піянерскія лагеры, палатачныя табары турыстаў. *С. Грахоўскі.*

**Пала́ткавы.** Тое, што і палатачны.

Палаткавы матэрыял. Палаткавы гарадок.

**Пала́тны.** Які мае адносіны да палаты — пакоя для хворых у лячэбнай установе.

Таццяна Іванаўна — наш палатны ўрач. *І. Шамякін.*

## ПАЛЕПШАЦЬ // ПАЛЕПШЫЦЬ

**Пале́пшаць.** Стаць лепшым.

Ад гэтага стан майго здароўя хоць не палепшае, але і не пагоршае. *З. Бядуля.*

**Пале́пшыць.** *каго-што.* Зрабіць лепшым.

Яны адчувалі нейкае нездавальненне жыццём, але не ведалі, чым і як яго палепшыць. *М. Чарот.*

## / ПАЛІВАЛЬНЫ // ПАЛІВАНЫ // ПАЛІВАЧНЫ // ПАЛІЎНЫ

**Паліва́льны.** Тое, што і палівачны.

Яны [крокі] гучалі мякка па чыстым, памытым палівальнай машынай тратуары. *А. Капусцін.*

**Палiва́ны.** Пакрыты палівай — шклопадобнай масай, якая наносіцца на керамічныя вырабы.

На стале ў вялікай паліванай місцы дымілася сопкая бульба, на сподачку ляжалі скрылёчкі ружовага з прорасцю сала і стаялі крамяныя салёныя агуркі. *С. Грахоўскі.*

**Палі́вачны.** Прызначаны для палiўкі.

Па кар'еры хадзілі дзве ці тры палівачныя машыны, увесь час лілі ваду на дарогу і ў забоях, але гарачыня, нават начная, высушвала дарогі і пароду імгненна — не паспявалі ліць. *В. Карамазаў.*

**Паліўны́.** Які мае адносіны да паліўкі; які мае патрэбу ў паліўцы.

На паліўных землях вырастуць новыя сельскагаспадарчыя культуры, яшчэ невядомыя ў нашай вобласці. *Полымя.*

### ПАЛІРАВАЛЬНЫ // ПАЛІРАВАНЫ / ПАЛІРОВАЧНЫ

**Паліра́ва́льны.** Прызначаны для паліравання.

Усё патрэбнае для работы цэха абсталяванне змантыравана, ідзе наладка паліравальных станкоў. *Звязда.*

**Паліра́ва́ны.** Які адпаліравалі; гладкі, з люстраным бляскам.

Шэрае, з паліраванымі падлакотнікамі крэсла было мяккім, блакітнае неонавае святло — няяркім. *В. Іпатава.*

**Палiро́вачны.** Тое, што і п а л і р а в а л ь н ы.

Паліровачная машына. Паліровачная паста.

### ПАЛІСМЕН // ПАЛІЦАЙ // ПАЛІЦЫЯНТ // // ПАЛІЦЭЙСКІ // ПАЛІЦМАЙСТАР

**Палiсме́н.** Паліцэйскі ў Англіі і ЗША.

І, быццам палісмены, небаскробы за статуяй стаяць і ноч і дзень. *П. Панчанка.*

**Паліца́й.** *Разм.* У час Вялікай Айчыннай вайны ў акупіраваных раёнах: паліцэйскі, завербаваны немцамі з мясцовага насельніцтва.

Па глухіх лясных дарогах, што вядуць у глыб лесу, радзей можна сустрэць паліцаяў і немцаў, асабліва ўвечары і ўночы. *Б. Сачанка.*

**Паліцыя́нт.** *Разм.* Асоба, якая служыць у паліцыі; паліцэйскі.

Бачу: ідуць два паліцыянты, нехта ў цывільнай вопратцы і дворнічыха. *М. Танк.*

**Паліцэ́йскі. 1.** Які мае адносіны да паліцыі, належыць да яе або ажыццяўляецца ёю.

Джыавані праз сілу мог яшчэ ступаць на нагах, і яго

адвялі да паліцэйскай машыны, каб везці ў паліцэйскі ўчастак. *М. Лынькоў.*

**2.** *у знач. наз.* Чалавек, які служыць у паліцыі, ніжні чын паліцыі.

Калона дэманстрантаў, поўных гневу, усё ішла і ішла. Раптам з дамоў ударылі па дэманстрантах з кулямётаў, гэта стралялі паліцэйскія. *І. Гурскі.*

**Паліцмáйстар.** У дарэвалюцыйнай Расіі і некаторых замежных краінах: начальнік паліцыі ў буйных гарадах.

Віленскі паліцмайстар палкоўнік М. А. Саранчоў асабіста праглядае дамавую кнігу, але з прычыны спешкі не знаходзіць у ёй імя Вітажэнца. *Г. Кісялёў.*

## ПАЛІТРА // ПАЛІТУРА

**Палі́тра. 1.** Дошчачка, на якой мастак расцірае і змешвае фарбы.

Маладыя хлопцы з палітрамі і пэндзлямі ў руках працавалі за мальбертамі. *М. Машара.*

**2.** *перан.* Сукупнасць фарбаў, іх спалучэнне ў асобнай карціне, у творчасці мастака; сукупнасць вобразна-выяўленчых сродкаў у творчасці пісьменніка, кампазітара і г. д.

Сучасная мода прапануе шырокую палітру фарбаў — ад насычаных сакавітых жыццярадасных колераў да пяшчотных пастэльных. *Беларусь.*

**Паліту́ра.** Спіртавы лак для паліроўкі вырабаў з дрэва.

Валянцін унюхаў густы букет пахаў — смалістага дрэва, сталярнага клею, паліту́ры і яшчэ нечага няўлоўнага, чым заўсёды патыхае там, дзе працуюць з дрэвам. *Б. Стральцоў.*

## ПАМЯТЛІВЫ // ПАМЯТНЫ

**Па́мятлівы.** Які мае добрую памяць, здольны лёгка запамінаць што-н.

Вася быў лагодным і не памятлівым на зло чалавекам. *І. Мележ.*

**Па́мятны. 1.** Які добра захаваўся ў памяці, незабыўны.

У той памятны чэрвеньскі дзень яна бачыла Пракопа апошні раз. *І. Грамовіч.*

**2.** Які служыць для запісаў, заметак, для даведак.

— А як ты яго знойдзеш? — Па памятных кніжках Мінскай губерні. *Я. Колас.*

**3.** Які служыць для напаміну пра каго-што-н.; які зроблены ў знак памяці пра каго-што-н.

Памятны медаль Скарыны быў устаноўлены ў 1967 годзе ў гонар 450-годдзя беларускага кнігадрукавання.

### ПАНІЖАЦЬ // ПАНІЖЭЦЬ

**Паніжа́ць.** *каго-што.* Рабіць больш нізкім, ніжэйшым; памяншаць.

Ірына і Алесь ідуць далей. Яна паніжае голас амаль да шэпту. *І. Шамякін.*

**Паніжэ́ць.** Стаць ніжэйшым, знізіцца; паменшыцца.

Матчын дом, здаецца, яшчэ глыбей уехаў у зямлю, паніжэў, паблажэў. *І. Навуменка.*

### ПАНСІЁН // ПАНСІЯНАТ

**Пансіён. 1.** У дарэвалюцыйнай Расіі і некаторых зарубежных краінах: закрытая навучальная ўстанова, выхаванцы якой жывуць на поўным утрыманні.

Выхаванцы пансіёна адразу гуртам высыпалі на прасторны двор і пачалі гуляць у лапту. *Б. Розен.*

**2.** Утрыманне на поўным забеспячэнні.

Некалькі месяцаў жанчыны жылі на поўным пансіёне непадалёку ад Стакгольма. *Звязда.*

**Пансіяна́т.** Від гасцініцы з поўным утрыманнем тых, хто ў іх жыве.

Прадугледжаны прасторныя набярэжныя і лодачныя станцыі ў прыдняпроўскім Рагачове, сучасныя пансіянаты і дамы адпачынку ў курортным Браславе. *Звязда.*

### ПАПАДДЗЯ // ПАПАДЗЯНКА

**Пападдзя́.** *Разм.* Жонка папа.

Сінонім: ~~матушка~~.

Пападдзя павінна быць з папоўскага роду, бо на тое яна матушка, ёй часам і ў руку прыйдзецца пацалаваць. *Я. Колас*

**Пападзя́нка.** *Разм.* Дачка папа.

Прыйдзе пападзянка ці не — так і не ведалі, але да яе прыходу падрыхтаваліся. *М. Лобан.*

### ПАПРАЎНЫ // ПАПРАЎЧЫ

**Папра́ўны.** Які можна паправіць.

Звычайная памылка, і лёгка папраўная. *Х. Шынклер.*

**Папра́ўчы.** Прызначаны для папраўлення, перавыхоўвання каго-н.

Байсака судзіў Ваенны трыбунал, які пазбавіў яго годнасці маёра і перавёў у радавыя папраўчага батальёна. *М. Лынькоў.*

### ПАПЯЛІСТЫ // ПАПЯЛОВЫ // ПОПЕЛЬНЫ

**Папялі́сты.** Які мае колер попелу.

Сонца пякло без жалю, бясхмарнае неба было папялістым *В. Хомчанка.*

**Папяло́вы.** Які ўтвораны з попелу.

Ілья стаяў побач, між пальцаў трымаючы цыгарку, з папяловага канца якой угару цягнулася танклявая нітачка сівога дыму. *В. Карамазаў.*

**По́пельны. 1.** Які мае адносіны да попелу; для попелу.

Стары прысеў каля топкі, зазірнуў у попельную скрынку, паківаў галавой. *Я. Васілёнак.*

**2.** Сівы, колеру попелу.

Ён апрытомнеў, узяў яе галаву за скроні, пагладзіў попельныя валасы. *У. Караткевіч.*

### ПАПЯРЭДЖВАЦЬ // ПАПЯРЭДНІЧАЦЬ

**Папярэ́джваць.** *каго-што.* **1.** Загадзя паведамляць каму-н. пра што-н.

З раёна званяць і папярэджваюць, што да нас выязджае гэтае самае абласное начальства. *М. Ракітны.*

**2.** Загадзя ліквідаваць тое, што пагражае; перашкодзіць ажыццяўленню чаго-н.

Па свайму вопыту майстар ведае, якія памылкі можа дапусціць навічок, а таму ён іх папярэджвае загадзя. *Звязда.*

**Папярэ́днічаць.** Адбывацца, здарацца раней чаго-н., перад чым-н.

Навела ў Лынькова не толькі папярэднічала аповесці і раману, але ў пэўнай меры і падрыхтавала іх. *Д. Бугаёў.*

### ПАРАДКАВЫ // ПАРАДКОВЫ

**Пара́дкавы.** Які паказвае месца і паслядоўнасць па прынятаму парадку лічэння.

Пасля тлумачэння значэння колькасных і парадкавых лічэбнікаў вучні самі павінны прыводзіць свае прыклады вусна *М. Марчанка.*

**Парадко́вы.** Які робіцца, выконваецца па радках, на кожным радку ці за кожны радок.

Апекаванне Чорнага ў адносінах да пачынаючых не было нудным і прыдзірлівым і не выяўлялася ў парадковай праўцы. *М. Лужанін.*

### ПАРАМЕТР // ПЕРЫМЕТР

**Пара́метр.** *Спец.* **1.** У матэматыцы: велічыня, якая ўваходзіць у матэматычную формулу і захоўвае сваё пастаяннае значэнне толькі для пэўнага выпадку.

Задачу можна рашыць толькі тады, калі вядомы ўсе параметры, ад якіх залежыць яе рашэнне. *Настаўніцкая газета.*

**2.** Велічыня або велічыні, якія характарызуюць асноўныя ўласцівасці якога-н. прадмета ці з'явы.

Цяпер работа ў яе лёгкая: раз на тыдзень ёй прыносяць прыборчыкі з цэха, якія называюцца індыкатарамі. Яна робіць замер параметраў, запісвае лічбы ў сшытак роўненькай, прыгожай таблічкай і аддае начальніку. *Маладосць.*

**Пер́ыметр.** *Спец.* Сума даўжынь усіх старон многавугольніка.

— Сам ведаеш, гэтая работа на выключную дакладнасць. Яе перыметры — мікроны. Словам, работа складаная, а галоўнае — творчая. *М. Гроднеў.*

### ПАРАФІНАВАНЫ // ПАРАФІНАВЫ // // ПАРАФІНІСТЫ // ПАРАФІРАВАНЫ

**Парафінава́ны.** Пакрыты ці насычаны парафінам.

У папяровых кандэнсатарах лісточкі фольгі перакладзены парафінаванай (кандэнсатарнай) паперай. *Таваразнаўства.*

**Парафі́навы.** Які мае адносіны да парафіну; з парафіну.

Ён ухапіў новую гільзу, вырваў парафінавае донца. *В Быкаў.*

**Парафі́ністы.** Які змяшчае ў сабе парафін.

Парафіністая нафта.

**Парафі́раваны.** *Спец.* Папярэдне падпісаны (да афіцыйнага падпісання) ініцыяламі ўпаўнаважаных асоб кожнага з дагаворных бакоў у знак згоды з тэкстам (пра міжнародныя дагаворы, пагадненні).

У Александрыі Егіптам і Ізраілем парафіравана пагадненне аб другім этапе раз'яднання егіпецкіх і ізраільскіх войск на Сінайскім паўвостраве. *Звязда.*

### ПАРЛАМЕНТАРЫЙ // ПАРЛАМЕНЦЁР

**Парламента́рый.** Член парламента.

Народных дэпутатаў Вярхоўнага Савета нярэдка называюць цяпер парламентарыямі, як і ў некаторых заходніх краінах.

**Парламенцёр.** Асоба, упаўнаважаная адным з ваюючых бакоў для перагавораў з праціўнікам.

Праз нейкі час з-за дома выйшаў, размахваючы белым сцягам, парламенцёр. *В. Хомчанка.*

### ПАРТАЛ // ПОРТ // ПОРЦІК

**Партáл.** Архітэктурна аформлены галоўны ўваход вялікага будынка.

На левым баку вуліцы, трохі воддаль — загадкавая кірха баптыстаў з нямецкім надпісам над парталам. *Полымя.*

**Порт.** Спецыяльна прыстасаванае месца для стаянкі, пагрузкі, разгрузкі і рамонту суднаў.

Я бачыў не раз, як буруны ўставалі і з мора спяшаліся ў порт караблі. *М. Лужанін.*

**Пóрцік.** Крытая галерэя з калонамі, якая звычайна бывае часткай асноўнага будынка.

Новы гмах з каланадай і порцікам пры ўваходзе сапраўды можна было назваць палацам. *М. Хведаровіч.*

### ПАРУСІНАВЫ // ПАРУСНЫ

**Парусíнавы.** Зроблены з парусіны — грубай моцнай ільняной тканіны.

Я моўчкі збіваў парусінавымі туфлямі халодную расу і ўсё спяшаўся. *І. Чыгрынаў.*

**Пáрусны.** Які мае адносіны да паруса; з парусамі.

Дзеці плывуць усё далей на лёгкай парусnай лодцы. *Полымя.*

### ПАРЦЬЕ // ПАРЦЬЕРА

**Парцьé.** Швейцар у гасцініцы.

Строгі парцье. Знаёмы парцье.

**Парцьéра.** Занавеска з цяжкай тканіны на дзвярах ці вокнах.

Пачуўшы такое жаданне, следчы адкінуўся на спінку крэсла. Потым моўчкі адхінуў чорную парцьеру на акне. *А. Алешка.*

### ПАСІНЕЛЫ // ПАСІНЕНЫ

**Пасінéлы.** Які стаў сінім, пасінеў.

Твар у чалавека быў пасінелы, вочы глядзелі не на свет, а як бы ў сярэдзіну самога чалавека. *К. Чорны.*

**Пасíнены.** Які зрабілі сінім, пасінілі.

Цьмяны месяц прарочыць халепу і слату, ясны — сухія дзянькі, пасінены кажа, што задажджыцца, пачырвонены — вецер усходзіцца. *М. Лужанін.*

### ПАСІРАЦЕЦЬ // ПАСІРАЦІЦЬ

**Пасірацéць.** Стаць сіротамі, асірацець — пра ўсіх, многіх.

Пасірацелі і мы і суседскія дзеці ў адзін і той жа год.

**Пасіраціць.** *каго.* Зрабіць сіротамі ўсіх, многіх.

Вораг спапяліў нашы вёскі, пасіраціў нашых дзяцей, заліў нашу зямлю крывёю і слязамі нашага народа. *Я. Купала.*

### ПАСЛАНЕЦ // ПАСЛАННІК // ПАСОЛ

**Пасланéц.** Той, хто пасланы кім-н. з якім-н. даручэннем.

Пасланец з воласці прымчаўся ў нашу вёску надвячоркам. Ён спытаўся ў нас, дзяцей, што гулялі на вуліцы, дзе жыве стараста, і мы не толькі сказалі дзе, але і пайшлі паказаць хату. *А. Пальчэўскі.*

**Паслáннік.** Дыпламатычны прадстаўнік адной дзяржавы ў другой, рангам ніжэй за пасла.

Г р а ф і н я. Які француз? Г л а ш а. Ды ён часцяком бывае ў вас... Пасланнік, ці што. *К. Губарэвіч.*

**Пасóл. 1.** Дыпламатычны прадстаўнік вышэйшага рангу адной дзяржавы ў другой.

Так, іх з Гусоўскім можна назваць сябрамі, але ён — каралеўскі пасол пры двары яго святасці, а Мікола — усяго толькі ягоны сакратар. *У. Арлоў.*

**2.** Тое, што і п а с л а н е ц.

Народ усім сэрцам, як роднага брата, шануе і любіць яго панад свет. І сэрца аддасць за свайго дэпутата, пасла-дэлегата ў Вярхоўны Савет. *Я. Купала.*

### ПАСЛУЖЛІВЫ // ПАСЛУЖНЫ

**Паслýжлівы.** *Разм.* Які ахвотна робіць паслугі каму-н., гатовы ўслужыць.

С і н о н і м: услужлівы.

Іван, відаць, быў чалавек добры, ціхі, паслужлівы, бо ўрэшце згадзіўся. *І. Шамякін.*

**Паслужны́.** У выразе: п а с л у ж н ы с п і с — дакумент са звесткамі аб праходжанні службы.

Вось коратка яе расказ, пацверджаны выпіскай з паслужнога спіска Шчакаціхіна. *А. Ліс.*

## ПАСПЕШЛІВЫ / ПАСПЕШНЫ // ПАСПЯХОВЫ

**Паспе́шлівы. 1.** Які прывык спяшацца; які спяшаецца.

С і н о н і м: таропкі.

Дзімін паспакайнеў, стаў не такім паспешлівым, пачаў больш думаць. *У. Карпаў.*

**2.** Неабдуманы, заўчасны.

А можа трэба было не згадзіцца на гэта паспешлівае вяселле? *І. Шамякін.*

**Паспе́шны.** Тое, што і п а с п е ш л і в ы.

Лабановіч дагадваўся аб прычыне такога паспешнага ад'езду яго прыяцеля і госця, але маўчаў пра гэта. *Я. Колас.*

**Паспяховы.** Які вызначаецца поспехам, заключае ў сабе поспех.

Паспяховае выкананне плана.

## ПАСРЭДНАСЦЬ // ПАСРЭДНІЦТВА

**Пасрэ́днасць.** Штосьці бясталентнае, нічым не выдатнае.

Байка стала прыстанішчам шаблону і штампаў, шэрасці і пасрэднасці. *Я. Казека.*

**Пасрэ́дніцтва.** Садзейнічанне ў наладжванні сувязей, адносін паміж кім-н. ці ў прымірэнні двух бакоў, якія варагуюць, сварачаюцца.

Трэба меркаваць, што калі б Змітрок Бядуля быў раней знаёмы з рэдакцыяй, ён наўрад ці меў бы патрэбу ў пасрэдніцтве В. А. Сасенскага. *В. Каваленка.*

## ПАСТАР // ПАСТЫР

**Па́стар.** Пратэстанцкі святар.

Адным са штуршкоў да разрыву з рэлігіяй з'явіліся разбэшчанасць, амаральныя паводзіны вядомых ім духоўных пастараў. *К. Пракошына.*

**Па́стыр. 1.** *Уст. паэт.* Пастух.

Пастыр статка ў поле гоніць і пяе. Дзе ж кароўкі, валы, коні, дзе мае? *Я. Купала.*

**2.** Свяшчэннік, кіраўнік паствы — веруючых адной царквы.

Паслухала якую хвілінку, але нічога не зразумела — гаварылася пра нейкіх пастыраў, авечак, рабоў божых, святых праведнікаў. *Л. Гаўрылкін.*

## ПАСТУПАЛЬНЫ // ПАСТУПОВЫ

**Паступа́льны.** Накіраваны ўперад, у будучае.

Уплыў духоўнага фактару ў паступальным развіцці грамадства нельга перабольшваць. *А. Галаўнёў.*

**Паступо́вы.** Які адбываецца паслядоўна, не адразу, без рэзкіх змен.

Не паступовае абядненне, а катастрофа ўпала на Гальвасавы галовы: у дваццатым годзе настаў момант кінуць усё. *К. Чорны.*

### ПАСУШЫЦЬ // ПАСУШЭЦЬ

**Пасушы́ць.** *што.* Высушыць, перасушыць што-н.

Расчыніла неба сені, пазганяла сонца цені, пасушыла вільгаць росы, распусціла ў неба косы. *Я. Колас.*

**Пасушэ́ць.** Зрабіцца сухім, сушэйшым.

Раптам пасушэла. Ногі патанулі ў пяску, мы пачалі ўзбірацца на ўзгорак. *М. Лупсякоў.*

### ПАСЫЛАЧНЫ // ПАСЫЛЬНЫ

**Пасы́лачны.** Які мае адносіны да пасылкі, звязаны з прыёмам, адпраўкай, атрыманнем пасылак.

Вось пакуль што чаю кубак і пасылачны сухар. *А. Александровіч.*

**Пасы́льны.** Той, хто пасылаецца куды-н. з якім-н. даручэннем.

Сувязным паміж штабам і ротамі я быў увесь час. Але пасыльным у штаб палка раней не хадзіў. А ў тое гарачае лета Залонскі пасылаў часта. *І. Шамякін.*

### ПАТАГЕННЫ // ПАТАГОННЫ

**Патаге́нны.** *Спец.* Хваробатворны; які выклікае хваробу.

Балотная вада і гразь таксама з'яўляюцца крыніцамі забруджання канечнасцей патагеннымі мікробамі. *А. Ганчароў.*

**Патаго́нны. 1.** Які выклікае ўзмоцненае выдзяленне поту.

Маліна здаўна выкарыстоўваецца ў народнай медыцыне як добры патагонны сродак. *Звязда.*

**2.** *перан.* Які надта стамляе, вымотвае ўсе сілы.

Увесь гэты патагонны апарат, які знаходзіцца на службе прыгоннікаў-памешчыкаў, удасканальваецца ўрадам, каб лепш выціскаць сокі з сялян. *А. Смірноў.*

### ПАТАЎСЦЕЦЬ // ПАТАЎСЦІЦЬ

**Патаўсце́ць.** Стаць больш тоўстым, таўсцейшым.

Толькі дзве ніжнія галіны [бярозы] значна патаўсцелі, сталі даўжэйшымі. *П. Пестрак.*

**Патаўсціць.** *што.* Зрабіць таўсцейшым.

Патаўсціць нітку.

## ПАТРОЕНЫ // ПАТРОЙНЫ

**Патро́ены.** Большы ў тры разы.

— Я ведаю толькі адно: выберуць — буду працаваць з патроенай энергіяй, каб апраўдаць давер'е. *І. Шамякін.*

**Патро́йны.** Які складаецца з трох частак, трайны.

Патройны канат.

## ПАТУЖЫЦЬ / ПАТУЖЫЦЬ // ПАТУЖЭЦЬ

**Патужы́ць.** Пасумаваць, пагараваць; тужыць некаторы час.

Як пачаў ён [камар] параю з мушкай жыць — давялося беднаму патужыць. *М. Багдановіч.*

**Пату́жыць.** Зрабіць больш тугім, тужэйшым.

Патужыць пояс. Патужыць рэмень.

**Патужэ́ць.** Зрабіцца больш тугім, стаць тужэйшым.

Зямля зляжалася, патужэла.

## ПАТУПАЦЬ // ПАТУПІЦЬ / ПАТУПІЦЬ

**Пату́паць.** *Разм.* **1.** Тупаць некаторы час; тупнуць некалькі разоў.

Стары патупаў у парозе, ускінуў на плечы мяшэчак, намацаў клямку і пайшоў. *С. Грахоўскі.*

**2.** Пахадзіць туды-сюды.

Пархвен як сам не свой патупаў па двары, зазірнуў ва ўсе куткі, увайшоў у хату. *К. Чорны.*

**3.** Пайсці, накіравацца куды-н.

Усе пайшлі спаць, а маці патупала ў камору збіраць Максіму клумак у дарогу. *М. Машара.*

**Пату́піць.** *што.* Апусціць уніз (вочы, галаву).

Лена прыкінулася, што плача, патупіла вочы і пачала выціскаць слязу. *Р. Няхай.*

**Патупі́ць.** *што.* Зрабіць тупым, ступіць усё, многае.

Патупіць нажы. Патупіць сякеры.

## ПАТЭТЫЧНЫ // ПАЭТЫЧНЫ

**Патэты́чны.** Поўны пафасу; усхваляваны, страсны.

Кафедру зноў займае ксёндз Пацейкоўскі. Яго папярэднія казанні толькі ўступ, падрыхтоўка да трэцяга, самага асноўнага і патэтычнага. *Я. Колас.*

**Паэты́чны. 1.** Які звязаны з паэзіяй; здольны да паэзіі.

Безумоўна, нельга не адзначыць, што паэтычнаму перакладу «Слова» папярэднічала работа па празаічнаму перакладу яго. *Д. Палітыка.*

**2.** Павышана эмацыянальны, вельмі ўражлівы, чуллівы; узвышаны, лірычны.

Дзядзька любіць і моцна адчувае сваёй паэтычнай душой усё прыгожае на зямлі. *С. Майхровіч.*

### ПАЎСТАНАК // ПАЎСТАНЕЦ

**Паўста́нак.** Невялікая чыгуначная станцыя.

Яны чакалі на паўстанку больш за суткі, бо не было яшчэ тут ні сталага графіка, ні цвёрдага раскладу. *А. Кулакоўскі.*

**Паўста́нец.** Удзельнік паўстання.

З паўстанцамі жорстка расправяляліся карныя атрады, якія пасылаў у вёску царскі ўрад. *М. Ларчанка.*

### ПАХА // ПАХВІНА

**Па́ха.** Унутраная частка плечавога выгібу.

Хлапчук падняў вопратку, моўчкі надзеў шапку, узяў пад паху халацік і знік за дзвярыма. *А. Пальчэўскі.*

**Пахві́на.** Месца паміж бядром і ніжняй часткай жывата.

Ззаду каля ласіхі мітусілася цыбатае ласянё і мордай тоўхала яе ў пахвіну. *У. Федасеенка.*

### ПАХВАЛЕНЫ // ПАХВАЛЬНЫ

**Пахва́лены.** Такі, якога пахвалілі, адобрылі.

Хлопчык, пахвалены пры ўсіх за дапамогу малой, неяк нечакана прыціх, як бы засаромеўся. *ЛіМ.*

**Пахва́льны. 1.** Які выражае пахвалу, адабрэнне.

Пахвальныя словы пачулі мы і пра заатэхніка Антона Каляду. *А. Бялевіч.*

**2.** Які заслугоўвае пахвалы, адабрэння.

Гэтае ж пахвальнае жаданне кіравала аўтарам і тады, калі ён даволі шчыра і ўпэўнена маляваў карціну літаратурнага жыцця. *М. Ярош.*

### ПАХОДКА // ПАХОДНЯ

**Пахо́дка.** Манера хадзіць; хада, поступ.

Ішоў чалавек паволі, стомленай паходкай. *К. Чорны.*

**Пахо́дня.** *Уст.* Пераносная свяцільня ў выглядзе наматанага на канец доўгай палкі прасмоленага пакулля.

Сінонім: факел.

Не вельмі далёка, над зіхатлівай волжскай гладдзю ён убачыў россып гарадскіх агнёў і дзве ўзнятыя ў неба паходні. *У. Карпаў.*

### ПАЦЕРКІ // ПАЦЕРЫ

**Па́церкі.** Упрыгожанне на шыю ў выглядзе нанізаных шарыкаў ці іншых дробных прадметаў.

Сінонім: каралі.

Дзяўчаты былі апрануты таксама па-выхадному. Плечы і стан Аліны шчыльна аблягаў клятчасты жакецік, на шыі зіхацелі рознакаляровыя пацеркі. *Т. Хадкевіч.*

**Па́церы.** *адз. няма.* Малітва.

Нічога не разумелі сінія вочы Ядвісі, але яна стаяла маўклівая і прыслухоўвалася, як голасна шэпча цётка Зося божыя пацеры. *М. Лынькоў.*

### ПАШТАМТ // ПОШТА

**Пашта́мт.** Галоўная паштовая ўстанова горада.

[Іна] не прыкмеціла, як апынулася каля будынка паштамта *М. Ваданосаў.*

**По́шта. 1.** Установа для перасылкі пісем, грошай, пасылак і г. д.

На пошце было чалавек з дзесяць наведвальнікаў. *А. Якімовіч.*

**2.** Тое, што дастаўляецца гэтай установай; карэспандэнцыя.

Захар штодзённа ездзіў на фурманцы ў раён, прывозіў пошту. *І. Дубро́ўскі.*

### ПАШЫРЫЦЬ // ПАШЫРЭЦЬ

**Пашы́рыць.** *што.* Зрабіць больш шырокім, расшырыць; павялічыць.

Спрабаваў Ісай пашырыць свае гоні, карчаваў лес. *Х. Жычка.*

**Пашырэ́ць.** *Разм.* Стаць больш шырокім, шырэйшым.

Пашырэла раптам дарога — гэта да яе далучылася другая, што вяла з Хадакоў праз ельнік, які вунь далёка збоку *І. Пташнікаў.*

## ПАЯСНЕЦЬ // ПАЯСНІЦЬ

**Паясне́ць.** Стаць больш ясным, яснейшым.

Нарэшце на ўсходзе за гарамі паявілася нешта затоена-светлае, паяснеў гарызонт, горы ў сіняй смузе яшчэ больш пачарнелі. *В. Хомчанка.*

**Паясні́ць.** Зрабіць больш ясным, зразумелым.

Сінонім: растлумачыць.

Паясніць рашэнне задачы. Паясніць граматычнае правіла.

## ПАЯСНІЧНЫ // ПАЯСНЫ

**Паясні́чны.** Які мае адносіны да пояснiцы.

Выгіны ў шыйнай і паяснічнай частках пазваночніка звернуты выпукласцямі ўперад, а ў груднoй і крыжавой — назад. *Анатомія і фізіялогія чалавека.*

**Паясны́. 1.** Які мае адносіны да пояса; які носіцца на поясе.

Чацвёрты павольна адышоўся і ўзяў з купіны шырокі паясны рэмень. *Э. Самуйлёнак.*

**2.** Выкананы да пояса, да таліі.

Купала запытаўся, які ў мяне настрой. Я сказаў, што вельмі творчы. Пачаў ляпіць паясны партрэт Сурыкава, раблю праект помніка лётчыку Грыцаўцу. *З. Азгур.*

## ПЕРААДОЛЕНЫ // ПЕРААДОЛЬНЫ

**Пераадо́лены.** Які перасілілі, перамаглі, з якім справіліся.

Яшчэ да апошняга часу не пераадолены вузкі, схематычны падыход да вырашэння пытання аб нацыянальнай форме культуры. *А. Галаўнёў.*

**Пераадо́льны.** Які можна пераадолець, з якім можна справіцца.

Цяжкасці гэтыя пры добрым гаспадарчым кіраўніцтве цалкам пераадольныя. *Звязда.*

## ПЕРАВОЗАЧНЫ // ПЕРАВОЗНЫ // ПЕРАВОЗЧЫЦКІ

**Перавóзачны.** Які мае адносіны да перавозкі.

Перавозачны транспарт.

**Перавóзны.** Які мае адносіны да перавозу — пераправы цераз раку.

Перавозны паром.

**Перавóзчыцкі.** Які мае адносіны да перавозчыка.

Перавозчыцкі абавязак.

**Перавя́зка.** Тое, чым перавязана рана.

Сінонім: павязка.

Я прысеў на ўзбочыне. Абмацаў перавязку: яна зусім ссунулася з раны. *А. Якімовіч.*

**Пе́равязь.** Палоска матэрыі, перакінутая цераз плячо, для падтрымання пашкоджанай рукі.

У першую хвіліну сустрэчы яны нават не заўважылі, што ў бацькі пусты правы рукаў, а левая рука вісіць на перавязі... *М. Паслядовіч.*

## ПЕРАГРУЖАНЫ // ПЕРАГРУЗАЧНЫ

**Перагру́жаны.** Перамешчаны з аднаго месца на іншае; нагружаны звыш нормы.

Дарогі былі перагружаны, паязды рухаліся марудна, падоўгу прастойвалі. *А. Марціновіч.*

**Перагру́зачны.** Які мае адносіны да перагрузкі; які прызначаны для перагрузкі.

Уся перагрузачная пляцоўка была застаўлена кантэйнерамі, скрынкамі розных памераў, і нам спачатку здалося, што прайсці тут зусім немагчыма. *ЛіМ.*

## ПЕРАЕМНАСЦЬ // ПЕРАЙМАЛЬНАСЦЬ

**Пера́емнасць.** Паслядоўнае развіццё, непасрэдны пераход ад аднаго да другога.

Адзінства пакаленняў і пераемнасць у справах іх — адзін з самых моцных бакоў нашага грамадства. *А. Жураў.*

**Перайма́льнасць.** Адсутнасць самастойнасці ў чым-н.; сляпое, некрытычнае перайманне.

Трус, як і некаторыя другія маладыя пісьменнікі той пары, быў схільны да пераймальнасці і яўна не пазбег імажыніскай квяцістасці. *Д. Бугаёў.*

## / ПЕРАКАНАЛЬНЫ // ПЕРАКАНАНЫ // ПЕРАКАНАЎЧЫ

**Перакана́льны.** *Разм.* Тое, што і п е р а к а н а ў ч ы.

Апавяданне «Жыве чалавек» — добры прыклад таго, як шмат дае пісьменніку вернасць праўдзе жыцця, нават бытавой праўдзе. Характары герояў жывыя, сюжэт пераканальны, вобразы змястоўныя. *В. Каваленка.*

**Перакана́ны.** Цвёрда ўпэўнены ў чым-н.; непахісны, паслядоўны ў сваіх поглядах.

Паэт, відаць, ні на хвіліну не спыняе работу творчай думкі, але аддае твор «у людзі» толькі тады, калі перакананы, што ён закончаны. *Полымя.*

**Пераканáўчы.** Які пераконвае, прымушае паверыць у правільнасць, праўдзівасць чаго-н.

Як заўсёды, самыя пераканаўчыя словы не прыйшлі ў галаву ў патрэбную хвіліну. *У. Шыцік.*

### ПЕРАКУЛЕНЫ // ПЕРАКУЛЬНЫ

**Пераку́лены.** *Разм.* Перавернуты ўверх дном; павалены набок; абернуты.

Перакулены воз з сенам.

**Пераку́льны.** Які перакульваецца пры разгрузцы.

Перакульны кузаў аўтамашыны.

### ПЕРАКУПЛЕНЫ // ПЕРАКУПНІЦКІ // ПЕРАКУПНЫ

**Перакýплены.** Куплены, адкуплены ў каго-н. (пра раней купленае ім).

Перакуплены матэрыял.

**Перакýпніцкі.** Які мае адносіны да перакупніцтва, спекуляцыі.

Перакупніцкі занятак.

**Перакупны́.** Куплены на перапродаж.

Перакупны касцюм.

### ПЕРАЛЕСАК // УЗЛЕСАК // УЗЛЕССЕ

**Пералéсак.** Невялікі лес, аддзелены полем ад іншых лясных участкаў; рэдкі ці малады лес паміжляснымі масівамі.

На паляне ў светлым пералеску расцвілі налітыя расой сінія падснежныя пралескі пад ахоўвай урачыстых хвой. *П. Панчанка.*

**Узлéсак.** Тое, што і у з л е с с е.

Яны павярнулі між соснаў управа і, не выходзячы на ўзлесак, накіраваліся да чыгункі. *В. Быкаў.*

**Узлéссе.** Край лесу.

Выйшаў [я] на ўзлессе, прымасціўся на шырокім бярозавым пні. *У. Ляўданскі.*

### ПЕРАМЕНЛІВЫ // ПЕРАМЕННЫ

**Перамéнлівы.** Які часта мяняецца, зменлівы; няўстойлівы.

Пачуцці лірычнага героя абвострана, настроі пераменлівыя, часам супярэчлівыя. *М. Ярош.*

**Пераме́нны.** Які мяняецца, чаргуецца з чым-н.; непастаянны.
Гульня ішла з пераменным поспехам. *М. Гамолка.*

### ПЕРАМОЖАНЫ // ПЕРАМОЖНЫ

**Перамо́жаны.** Той, якога перамаглі; які пацярпеў паражэнне.
Пісьменнік аказаўся пераможаным тым матэрыялам, які ён вельмі некрытычна чэрпаў не столькі з жыцця, колькі з кніг. *А. Адамовіч.*

**Перамо́жны.** Які закончыўся перамогай, прынёс перамогу.
Людзі ж без праўдзівага слова занудзіліся, ім толькі давай зараз нашы газеты. Тым больш, што зводкі з франтоў ідуць пераможныя — не сорамна даць пачытаць. *І. Новікаў.*

### ПЕРАНАСЕЛЕНАСЦЬ // ПЕРАНАСЯЛЕННЕ // ПЕРАСЯЛЕННЕ

**Перанасе́ленасць.** Празмерная населенасць.
Прычыну натуральнага адбору Дарвін бачыў у асноўным у барацьбе за існаванне, якая выцякае з перанаселенасці. *Пытанні мічурынскай біялогіі.*

**Перанасяле́нне.** Становішча, пры якім частка працаздольнага насельніцтва пазбаўлена магчымасці прымяняць свае сілы для здабывання сродкаў існавання.
Беспрацоўе часта з'яўляецца вынікам перанасялення ў краіне ці асобных яе раёнах.

**Перасяле́нне.** Пасяленне ў другім месцы.
Перасяленне людзей з заражаных радыяцыяй тэрыторый пачалося, на жаль, не адразу пасля Чарнобыльскай аварыі.

### ПЕРАПОНА // ПЕРАПОНКА

**Перапо́на.** Тое, што стрымлівае доступ куды-н.
І вось земснарад зварухнуў перапону, што воды трымала ў апошнія дні. *М. Калачынскі.*

**Перапо́нка.** Тонкая пругкая плёнка, якая служыць перагародкай ці абалонкай у жывым арганізме.
Хоць і няма на лапках у вадзяной курачкі перапонак, але плавае і нырае яна не горш за качку. *В. Вольскі.*

### ПЕРАСМЕШКА // ПЕРАСМЕШКІ // ПЕРАСМЕШНІЦА

**Перасме́шка.** Невялічкая лясная птушка, здольная імітаваць галасы іншых птушак.
Перасмешку можна сустрэць не толькі ў лесе, але і ў парках, садах, нават гарадскіх скверах.

**Перасме́шкі.** *адз. няма. Разм.* Смешкі, жарты з каго-чаго-н.

Збіраецца, бывала, моладзь пасля работы і пайшлі адразу бяскрыўдныя смешкі-перасмешкі, жарты, смех.

**Перасме́шніца.** *Разм.* Жанчына, якая любіць высмейваць, перадражніваць каго-н.

С і н о н і м: насмешніца.

Вядомая на ўсю вёску перасмешніца, яна і тут не абышлася без колкіх жартаў і кпінаў.

### ПЕРАСТУПАЦЬ // ПЕРАЎСТУПАЦЬ

**Перасту́па́ць. 1.** Пераходзіць на другі бок чаго-н.

Пераступаць парог у хату.

**2.** Ісці, руханца; не стаяць спакойна на месцы.

Конь, запрэжаны ў лёгкія драбіны, нецярпліва пераступаў з нагі на нагу. *М. Даніленка.*

**Пераўступа́ць.** *што.* Аддаваць, уступаць каму-н. за тую ж цану што-н. купленае.

Раніцай я зразумеў, што не магу скарыстацца з такога дарагога падарунка, і велікадушна пераўступіў руку муміі майму сябру. *У. Караткевіч.*

### ПЕРАТВАРАЦЬ // ПЕРАЎТВАРАЦЬ

**Ператвара́ць.** *што.* Рабіць з аднаго што-н. другое, перарабляць, пераводзіць у новы стан; надаваць зусім іншы выгляд; змяняць.

Хлапчукі здзіўляліся, як гэта лоўка Вера ператварала мёртвыя літары ў жывыя словы. *Настаўніцкая газета.*

**Пераўтвара́ць.** *што.* Змяняць што-н. карэнным чынам; перабудоўваць.

Чалавек, безумоўна, нараджаецца дзеля таго, каб упрыгожваць зямлю, пераўтвараць яе. *У. Карпаў.*

### ПЕРГАМЕН / ПЕРГАМЕНТ // ПЕРМАНЕНТ

**Перга́мен.** Тое ж, што і п е р г а м е н т.

Самы тонкі пергамен даюць шкуркі трусоў і вавёрак. Але спыніліся на шкурках абяскроўленых цялят, бо з іх атрымліваецца на дзіва беласнежны, прыемны воку пергамен. *Л. Дайнека.*

**Перга́мент. 1.** Спецыяльна апрацаваная цялячая скура, на якой пісалі да вынаходства паперы.

Матэрыял для пісьма — пергамент — каштаваў вельмі дорага. *Гісторыя БССР.*

**2.** Старажытны рукапіс, напісаны на такой скуры.

Замест адказу Раўбіч хрумснуў вялікім пергаментам, раскручваючы яго на стале. *У. Караткевіч.*

**Перманéнт.** Доўгатэрміновая завіўка валасоў.

Да нас далучаецца Валя, прыгожая, досыць маладая жанчына з вялікімі сінімі вачыма і бялявымі завіткамі перманенту *І. Навуменка.*

## ПЕРШАСНЫ // ПЕРШЫ

**Пéршасны.** *Кніжн.* Які з'яўляецца першай, зыходнай ступенню чаго-н.

С і н о н і м: першапачатковы.

Праўда, тое першаснае лексічнае значэнне, якое кладзецца ў аснову тэрміналагічнага словаўжывання, не заўсёды можа быць вызначана з усёй відавочнасцю. *А. Яновіч.*

**Пéршы. 1.** Парадкавы лічэбнік да а д з і н.

Ды ўжо просіць ён цяпер дазволу, каб пайсці вучыцца ў першы клас. *М. Смагаровіч.*

**2.** Які з'яўляецца, здараецца ў самым пачатку чаго-н.; самы ранні.

Дажджы скончыліся, сухія паўночныя вятры прынеслі першы холад. *І. Навуменка.*

**3.** Лепшы за ўсіх у якіх-н. адносінах; вядучы, перадавы.

Калі ж бывае вольны дзень, дзе там спачын такой натуры. Хлапцоў на стрэльбішча вядзе,— першы стралок і фізкультурнік. *М. Чарот.*

## ПЕРЫГЕЙ // ПЕРЫГЕЛІЙ

**Перыгéй.** Найбліжэйшы да Зямлі пункт арбіты якога-н. спадарожніка; п р о ц і л. апагей.

Спадарожнік выведзены на арбіту з параметрамі: максімальная адлегласць ад паверхні Зямлі (у апагеі) — 350 кіламетраў, мінімальная адлегласць ад паверхні Зямлі (у перыгеі) — 212 кіламетраў. *Звязда.*

**Перыгéлій.** Найбліжэйшы да Сонца пункт арбіты якога-н. нябеснага цела.

Бліжэйшы ад Сонца пункт арбіты называецца перыгеліем. *Астраномія.*

## ПЕРЫФЕРЫЙНЫ // ПЕРЫФЕРЫЧНЫ

**Перыферы́йны.** Які мае адносіны да перыферыі, знаходзіцца на перыферыі — мясцовасці, аддаленай ад цэнтра.

Краязнаўчая работа прадугледжвала масавы ўдзел перыфе-

рыйных карэспандэнтаў, якія мелі патрэбу ў неабходнай даведачнай літаратуры. *Д. Бугаёў.*

**Перыферы́чны.** *Спец.* Размешчаны на паверхні, аддалены ад цэнтра.

Тая частка перыферычнай нервовай сістэмы, якая звязвае мозг з унутранымі органамі, называецца вегетатыўнай нервовай сістэмай. *Анатомія і фізіялогія чалавека.*

### ПІЛАВАННЕ // ПІЛАВІННЕ

**Пілава́нне.** Разразанне пілой; рэзанне.

Раней звычайна дзяўчат вызвалялі ад пілавання дроў, зараз гэтае правіла было скасавана. *П. Галавач.*

Н я п р а в і л ь н а. У цэнтры ўвагі кожнай групкі быў той шчасліўчык, у руці якога трапіла невялікая цаглінка нямецкага эрзац-хлеба, асыпанага пілаваннем (трэба: пілавіннем). *С. Александровіч.*

**Пілаві́нне.** Адходы пры пілаванні.

С і н о н і м: апілкі.

Плыве з-над пілы лёгкі смаляны водар, пырскаюць у снег струменьчыкі жоўтага пілавіння. *Б. Стральцоў.*

### ПІЛЯСТР / ПІЛЯСТРА // ПІЯСТР

**Піля́стр.** Тое, што і п і л я с т р а.

Паўднёвы і паўночны фасады [Спаскай царквы ў Полацку] расчляняюцца пілястрамі з паўкалонамі. *У. Арлоў.*

**Піля́стра.** *Спец.* Чатырохгранная калона, уробленая адной гранню ў сцяну.

Капітэлі калон і пілястраў аформлены рэльефамі піянерскага значка і вогнішча — сімваламі піянерскага руху. *М. Кацар.*

**Пія́стр.** Назва манеты ў Турцыі, Егіпце, Сірыі і некаторых іншых краінах.

Мільён піястраў былога марыянетачнага рэжыму складаў прыкладна паўтары тысячы амерыканскіх долараў. *Звязда.*

### ПІРАМІДАЛЬНЫ // ПІРАМІДНЫ

**Пірамі́да́льны.** Які мае форму піраміды.

Пірамідальны ядловец малы ростам — амаль рукой дастаць. Сярэдняя вышыня 1 метр, а максімальная — 3,5 метра. *Звязда.*

**Пірамі́дны.** Які мае адносіны да піраміды.

Пірамідная аснова. Пірамідныя грані.

## ПІСЬМЕННАСЦЬ // ПІСЬМЕННАСЦЬ / ПІСЬМЕНСТВА

**Пісьменнасць. 1.** Сістэма графічных знакаў, якія выкарыстоўваюцца для пісання.

Гісторыя чалавецтва да ўзнікнення СССР не ведала такіх прыкладаў, каб за кароткі час каля пяцідзесяці народнасцей, якія былі неадукаванымі, стварылі сваю пісьменнасць, літаратуру. *Звязда.*

**2.** Сукупнасць пісьмовых помнікаў якой-н. гістарычнай эпохі пэўнага народа.

Раннія дысертацыі лексікалагічнага напрамку прысвечаны аналізу лексічнага саставу паасобных помнікаў старабеларускай пісьменнасці. *А. Жураўскі.*

**Пісьме́ннасць.** Уменне чытаць і пісаць; граматнасць; наяўнасць ведаў у якой-н. галіне.

Аксён ужо нават можа і распісацца, што яго вельмі цешыць, але гэта яшчэ не сведчыць аб яго пісьменнасці. *Я. Колас.*

**Пісьме́нства.** Тое, што і пісьменнасць.

Цераз пераклады ўваходзіць нацыянальнае пісьменства ў скарбніцу сусветнай літаратуры. *У. Калеснік.*

## ПІСЬМЕННІЦКІ // ПІСЬМЕННЫ // ПІСЬМОВЫ

**Пісьме́нніцкі.** Які мае адносіны да пісьменніка, характэрны для яго.

Пры гэтых умовах пісьменніцкая праца не магла быць колькінебудзь напружанай, што і адбілася на малым ліку твораў Неслухоўскага. *М. Багдановіч.*

**Пісьме́нны.** Які ўмее чытаць і пісаць.

Сінонім: граматны.

Сам ён [Міхал] не надта пісьменны, але дзяцей да навукі заахвочвае, выяўляючы гэтым самым пэўнае разуменне новых павеваў у жыцці. *І. Навуменка.* ‖ Які мае неабходныя веды ў якой-н. галіне. Лукаш ведаў, што з цягам часу загадчыкам фермы настаўяць чалавека з дыпломам, пісьменнага. *Я. Ермаловіч.*

**Пісьмо́вы. 1.** Выяўлены сродкамі пісьма.

Сінонім: напісаны.

[Лідзія Пятроўна] пасля праверкі пісьмовых прац паказала яго сшытак усяму класу. *Я. Колас.*

**2.** Які прызначаны, служыць для пісання, пісьма.

У невялікім пакоі, насупраць дзвярэй, стаяў пісьмовы стол, два крэслы і ў куце — тумбачка з графінам вады. *М. Ваданосаў.*

## ПІТКІ // ПІТНЫ // ПІЎНЫ

**Піткі.** *Разм.* Які добра, прыемна піць.

Піткая вада з нашай крыніцы, асабліва ў летнюю спёку.

**Пітны́.** Прыгодны для піцця; які п'юць.

У асобных паілках заўсёды павінна знаходзіцца чыстая пітная вада. *Птушкагадоўля.*

**Піўны́.** Які мае адносіны да піва; прызначаны для піва.

Каля піўнога ларка ўжо сабралася чарга мужчын. *В. Адамчык.*

## ПІЯЛА // ПІЯНА

**Піяла́.** У Сярэдняй Азіі: неглыбокі, шырэйшы ўверсе кубак без ручкі.

Баласпай трымаў у растапыранай пяцярні піялу і час ад часу паглядваў на госця. *П. Беразняк.*

**Пія́на.** *Спец.* Ціха, не гучна (пра выкананне музычнага твора).

Няхай дзеці праспяваюць 3—4 разы гэтае слова павольна, лёгка і піяна. *Выкладанне спеваў у школе.*

## ПЛАНАВАЦЬ // ПЛАНІРАВАЦЬ

**Планава́ць. 1.** Складаць план чаго-н.

— Трэба нам планаваць разумна, правільна планаваць, але не хавацца за гэтыя планы, не планамі перад людзьмі адчытвацца, а тым, што зроблена. *А. Жук.*

**2.** Мець намер, разлічваць зрабіць што-н., меркаваць.

Гітлераўскія генералы плануюць новыя аблавы на партызан і падпольшчыкаў. *Р. Няхай.*

**Плані́раваць.** Плаўна зніжацца на лятальным апараце.

Скала недалёка, і цяпер можна спакойна плані́раваць. *М. Гамолка.* ‖ Спакойна, не махаючы крыламі, доўга плаваць у паднябессі (пра птушак). Плаўна планіруе каршун у сінім небе, карыстаючыся нябачнымі струменямі паветра. *В. Вольскі.*

## ПЛАНТАТАРСКІ // ПЛАНТАЦЫЙНЫ

**Планта́тарскі.** Які мае адносіны да плантатара, належыць яму.

Плантатарская зямля.

**Плантацы́йны.** Які мае адносіны да плантацыі.

У 1900 годзе на рынку з'явіліся першыя чатыры тоны плантацыйнага каўчуку. *Б. Розен.*

## ПЛАСТЫЛІН // ПЛАСТЫР

**Пластылі́н.** Незасыхаючая маса для лепкі, прыгатаваная з гліны, воску з дабаўленнем тлушчаў і іншых рэчываў.

У руках ён мяў пластылін і нешта ляпіў на фанернай дошчачцы, што ляжала ў яго на каленях. *Я. Скрыган.*

**Пла́стыр.** Ліпкі лекавы састаў, нанесены на паверхню тканіны, які прыкладваецца да нарываў, ран і г. д.

У Любецкага была падвязана чорнай хусцінкай рука, галава забінтавана і заклеены пластырам твар. *А. Карпюк.*

## ПЛАЎКІ // ПЛАЎНЫ

**Пла́ўкі.** Здольны плавіцца.

Галоўнай часткай плаўкага засцерагальніка з'яўляецца праваднік, які мае сячэнне значна меншае, чым сячэнне правадоў лініі. *Фізіка.*

**Пла́ўны.** Роўны, без рэзкіх пераходаў; непаспешлівы, мерны.

Я адразу злавіла лёгкі і плаўны рытм танца. *А. Савіцкі.*

## ПЛЫВЕЦ // ПЛЫВУН // ПЛЫВУНЕЦ

**Плыве́ц.** Той, хто плавае; хто ўмее плаваць.

Яны кінуліся ў адзежы ў глыбокія воды ракі. Каляда быў добрым плыўцом. *І. Гурскі.*

**Плыву́н.** Насычаны вадою дробны пясок, супесак ці суглінак.

Каб суняць плывуны і зрабіць іх падатлівымі людзям, непадалёку .. была пабудавана магутная станцыя замарожвання глебы. *А. Кулакоўскі.*

**Плывуне́ц.** Жук, які звычайна жыве ў стаячай вадзе.

Плывунец — жук-драпежнік.

## ПЛЫТКІ // ПЛЫЎКІ

**Плы́ткі.** Неглыбокі, мелкі.

Скрозь плыткую ваду было відаць пазелянелае, загнанае тванню дно. *А. Жук.*

**Плы́ўкі.** Які лёгка размываецца, расплываецца; плывучы (пра грунт).

Усе ішлі напрасткі, пакідаючы сляды на мяккай, плыўкай зямлі. *А. Кудравец.*

## ПНЕЎМАНІЯ // ПНЕЎМАТЫКА

**Пнеўмані́я.** Запаленне лёгкіх.

— Рэдкі па цяжкасці выпадак двухбаковай пнеўманіі... Чакаем крызісу... *І. Шамякін.*

**Пнеўма́тыка.** Прыстасаванне для сціскання і разрэджвання паветра; раздзел фізікі.

Многія станкі на заводзе працуюць зараз на пнеўматыцы, з дапамогай сціснутага паветра. *П. Рунец.*

### ПРАБЛЕМА // ПРАБЛЕМАТЫКА // ПРАБЛЕМАТЫЧНАСЦЬ

**Прабле́ма.** Важнае пытанне, якое патрабуе вырашэння.

Гэта, аднак, зусім не азначае, што ад савецкага пісьменніка не патрабуецца роздуму над жыццёвымі праблемамі. *А. Адамовіч.*

**Праблема́тыка.** Сукупнасць праблем.

Развіццё нашай прозы ішло ў напрамку пашырэння яе тэматыкі і праблематыкі. *Ю. Пшыркоў.*

**Праблематы́чнасць.** Недаказанасць; няпэўнасць.

Праблематычнасць задумы.

### ПРАБЛЕМАТЫЧНЫ // ПРАБЛЕМНЫ

**Праблематы́чны.** Які з'яўляецца праблемай, недаказаны; малаверагодны, няпэўны.

У аповесці «Пастка» В. Быкаў пайшоў самым цяжкім шляхам. Ён гэтак ускладніў і завастрыў сітуацыю, што давер'е сапраўды становіцца праблематычным, і праблема здаецца амаль невырашальнай. *Наднёманскія былі.*

**Праблё́мны.** Прысвечаны вырашэнню якой-н. праблемы.

Праблемны твор. Праблемнае пытанне.

### ПРАБОЙ // ПРАБОЙНІК

**Прабо́й.** Металічная дужка, убітая ў дзверы, вечка і інш., якая служыць для навешвання замка.

Дзверы ў сенцах былі замкнёны; клямка надзета на прабой, у ім — доўгі сасновы сук. *І. Пташнікаў.*

**Прабо́йнік.** Інструмент для прабівання невялікіх дзірак у метале, скуры і г. д.

Сіліч утаропіўся ў [брызентавы] канверт, з вузенькіх кішэнек якога тырчалі пласкагубцы, адвёрткі, абцугі, прабойнікі. *М. Аўрамчык.*

### ПРАВАКАТАРСКІ // ПРАВАКАЦЫЙНЫ

**Правака́тарскі.** Які мае адносіны да правакатара.

А гэта апраўдвала яго [Золатава] дзейнасць тут, тлумачыла правалы яго разведчыкаў у Мінску, нельга не праваліцца, калі

фашысцкае камандаванне стварыла такую правакатарскую сетку. *І. Шамякін.*

**Правакацы́йны.** Які мае адносіны да правакацыі; у якім скрываецца, тоіцца правакацыя.

Пытанні, як здалося Максіму, былі нядобразычлівыя, а часам правакацыйныя, быццам гэты юрыст наўмысна стараўся збіць яго з панталыку, пазбавіць логікі. *М. Машара.*

## ПРАВЕРАНЫ // ПРАВЕРАЧНЫ

**Праве́раны.** Які даказаў сваімі паводзінамі, работай наяўнасць патрэбных якасцей; які праверылі.

Сінонім: выпрабаваны.

Узаемная прыязнь, правераная і загартаваная ў агні, стварала шчыльную баявую сям'ю. *Я. Брыль.*

**Праве́рачны.** Прызначаны для праверкі.

Сінонім: кантрольны.

Усе вучні класа паспяхова справіліся з напісаннем праверачнага дыктанта.

## ПРАВІЗАРСКІ // ПРАВІЗІЙНЫ

**Праві́зарскі.** Які мае адносіны да правізара — аптэчнага работніка вышэйшай кваліфікацыі.

Правізарская практыка. Правізарская работа.

**Правізі́йны.** Які мае адносіны да правізіі; прызначаны для правізіі.

Правізійны склад.

## ПРАГМАТЫЧНЫ // ПРАГНАСТЫЧНЫ // ПРАГНАТЫЧНЫ

**Прагматы́чны.** Які мае адносіны да прагматызму — плыні ў філасофіі, якая прызнае за ісціну толькі тое, што дае практычна карысныя вынікі.

[М. Гарэцкаму] аднолькава чужыя .. прагматычны погляд на літаратуру як ілюстрацыю сацыялагічных тэзісаў і эстэтычныя тэорыі прыхільнікаў чыстага мастацтва. *М. Мушынскі.*

**Прагнасты́чны.** Які мае адносіны да прагнозу.

Прагнастычная карта надвор'я.

**Прагнаты́чны.** Які вызначаецца прагнатызмам — выступленнем уперад верхняй і ніжняй сківіц чалавека.

Прагнатычны твар.

## ПРАДАЖНІЦКІ // ПРАДАЖНЫ

**Прада́жніцкі.** Характэрны для прадажніка, здрадніка; каварны, падманлівы; на якога нельга спадзявацца.

С і н о н і м: здрадніцкі.

Ну, от, дамагліся вы, скажам, сваіх ідэалаў. Ты сваіх, гандлярскіх, прадажніцкіх. *К. Чорны.*

**Прада́жны. 1.** Які мае адносіны да продажу.

Прадажныя цэны кааператыў стараецца падтрымліваць ніжэй тых, што ўстанаўлівае на той жа від прадукцыі спажыўкааперацыя. *Звязда.*

**2.** Прызначаны для продажу.

— Зайдзі, папытайся, ці не ёсць у каго прадажныя сёдлы. *Казка.*

**3.** Гатовы прадаць сябе, свае пачуцці за грошы; здольны за грошы на ганебныя ўчынкі.

Гэтыя прадажныя тварыны рабілі выгляд, што ў асобе высокага госця яны вітаюць вялікую Расію. *У. Караткевіч.*

## ПРАДВЕСНЕ // ПРАДВЕСЦЕ

**Прадве́сне.** Час, які папярэднічае вясне; перадвясенняя пара.

Дарогі пачарнелі. На двары прадвесне. *А. Алешка.*

**Прадве́сце.** З'ява, прымета, якая прадвяшчае надыход, наступленне чаго-н.

Кожны раз ёй здавалася, што гэта прадвесце новай крывавай падзеі. *І. Шамякін.*

## / ПРАДПРЫЕМЛІВЫ // ПРАДПРЫЕМНІЦКІ / / ПРАДПРЫМАЛЬНІЦКІ // ПРАДПРЫМАЛЬНЫ

**Прадпрые́млівы.** Тое, што і п р а д п р ы м а л ь н ы.

Прадпрыемлівы кіраўнік.

**Прадпрые́мніцкі.** Які мае адносіны да прадпрыемца — арганізатара ці ўласніка гандлёвага або прамысловага прадпрыемства.

Прадпрыемніцкая арганізацыя.

**Прадпрыма́льніцкі.** Тое, што і п р а д п р ы е м н і ц к і.

Прадпрыемніцкія клопаты.

**Прадпрыма́льны.** Энергічны, ініцыятыўны.

Глянеш на цвёрды рот такога — і разумееш, што прыйшлі сюды самыя прадпрымальныя. *У. Караткевіч.*

## ПРАДУКТЫЎНЫ // ПРАДУКЦЫЙНЫ

**Прадукты́ўны.** У граматыцы: здольны ўтвараць новыя словы ці формы; які дзейнічае ў сучасны перыяд.

У адпаведнасці з гэтым [актыўнасцю розных марфем] адрозніваюцца марфемы прадуктыўныя, малапрадуктыўныя і непрадуктыўныя. *Граматыка беларускай мовы.*

**Прадукцы́йны. 1.** Плённы.

Прадукцыйныя заняткі.

**2.** Здольны даваць прадукцыю; такі, ад якога атрымліваюць прадукты жывёлагадоўлі (пра сельскагаспадарчую жывёлу, птушку).

Прадукцыйная жывёла.

## ПРАЕЗДЖАНЫ // ПРАЕЗДЖЫ

**Прае́зджаны.** Такі, па якім ездзілі; абкатаны; наезджаны.

Конь спорнаю хадой ішоў па праезджанай саньмі дарозе. *П. Пестрак.*

**Прае́зджы. 1.** Які праязджае міма, падарожнічае.

Людзі тут былі такія ж, як мы — праезджыя ды прахожыя, старыя і малыя. *А. Якімовіч.*

**2.** Прыгодны, прызначаны для праезду; па якім можна праехаць.

Палявая дарога сапраўды аказалася сухой і праезджаю. *Р. Сабаленка.*

## ПРАЕЗНЫ // ПРАЯЗНЫ

**Прае́зны.** Прыгодны, прызначаны для язды, праезду.

Парогам гэтым быў моцны праезны масток, настолькі нізкі, што пад яго не праедзеш, і настолькі высокі, што лодку на яго не ўсцягнеш. *Я. Брыль.*

**Праязны́.** Які дае права на праезд якім-н. відам транспарту.

Тым, чый дом быў яшчэ на акупіраванай зямлі, шпіталь не выдаваў праязных пасведчанняў, а ўладжваў на працу ў горадку. *А. Асіпенка.*

Н я п р а в і л ь н а. Надзвычай велічная дваццацідвухметровая праязная (трэба: праезная) вежа. *Помнікі гісторыі і культуры Беларусі.*

## ПРАЖЭКТАР // ПРАЖЭКЦЕР

**Пражэ́ктар.** Асвятляльны прыбор, які дае яркі пук святла ў патрэбным напрамку.

Прамень пражэктара здаваўся бясконцай, моцнай і злавеснай рукой нейкага страшыдла. *Л. Дайнека.*

**Пражэкцёр.** *Іран.* Той, хто захапляецца несур'ёзнымі і непатрэбнымі, неажыццявімымі праектамі.

Я запісаў на выдатак гісторыі варожых пражэкцёраў. *Х. Шынклер.*

### ПРАЕКТНЫ // ПРАЕКЦІРОВАЧНЫ

**Прае́ктны.** Які мае адносіны да праекта; прадугледжаны праектам.

Хуткасць вышэй за праектную на два вузлы ў гадзіну. *М. Гамолка.*

**Праекціро́вачны.** Які мае адносіны да праекціроўкі — распрацоўкі праекта.

Праекціровачная экспедыцыя.

### ПРАЕКТЫЎНЫ // ПРАЕКЦЫЙНЫ

**Праекты́ўны.** *Спец.* Які мае адносіны да праекцыі — перадачы прасторавых фігур на плоскасці.

Праектыўная геаметрыя — раздзел геаметрыі, які вывучае ўласцівасці фігур, што змяньваюцца пры пэўных (праектыўных) пераўтварэннях. *БелСЭ.*

**Праекцы́йны.** *Спец.* Які мае адносіны да праекцыі — павелічэння здымка на экране.

Мікрафільмы былі тут. Павел зарадзіў іх у праекцыйны апарат. *У. Шыцік.*

### ПРАКТЫК // ПРАКТЫКАНТ

**Пра́ктык. 1.** Той, хто добра вывучыў сваю справу на практыцы.

Маладзі сярод іх было мала, пераважалі пажылыя людзі, старыя практыкі і арганізатары сельскай гаспадаркі, многія з якіх яшчэ ўдзельнічалі ў стварэнні першых калгасаў. *Т. Хадкевіч.*

**2.** Практычны, дзелавы чалавек.

Чалавек, які выпадкова трапіў бы на сход, мог бы з першага разу падумаць, што гэты чалавек вельмі вялікі практык, вельмі ўсё і разумна ведае і да ўсяго можа сказаць патрэбнае слова. *К. Чорны.*

**Практыка́нт.** Студэнт ці навучэнец, які праходзіць практыку — замацоўвае тэарэтычныя веды на вытворчасці.

У памяшканні на біялагічнай станцыі, дзе займаюцца практыканты, парна і душна, хаця ўсе вокны расчынены насцеж. *В. Вольскі.*

### ПРАКУС // ПРЫКУС

**Пракýс.** Рана ад укусу; пракушанае месца.

З раны ўвесь час ішла кроў: пракус быў глыбокі і, відаць, пашкодзіў крываносны сасуд. *ЛіМ.*

**Прыкýс.** Становішча зубоў пры самкнутых сківіцах.

Жорсткі прыкус Іванавага рота змяніўся ўсмешкай: на адным краёчку вуснаў. *У. Караткевіч.*

### ПРАКУРАТ // ПРАКУРАТАР

**Пракурáт.** *Абл.* Прайдзісвет.

— Не чапай ты яго, пракурата. Я ж кажу, няхай яго сарочка так не чапае. *Р. Сабаленка.*

**Пракурáтар.** У Старажытным Рыме: асоба, якая кіравала чыёй-н. маёмасцю, гаспадаркай, маёнткам і пад.; чыноўнік, які ведаў фінансамі, зборам налогаў, харчаваннем і г. д.

Строгі пракуратар. Непадкупны пракуратар.

### ПРАЛАЗ // ПРАЛАЗА

**Прaлáз.** Вузкі, цесны праход, праз які можна пралезці, прайсці.

[Васіль] пачаў яшчэ больш упарта і настойліва другой рукой разграбаць пралаз. *Б. Сачанка.*

**Пралáза.** *Разм.* Пранырлівы чалавек, прайдзісвет, спрытнюга.

Памятаюць і зараз былыя работнікі рэдакцыі Ілья Гурскі, Алесь Звонак, Міхась Модэль, Анатолій Астрэйка, як няшчадна высмейваў Самуйлёнак усякіх пралаз і прайдзісветаў. *М. Хведаровіч.*

### ПРАЛЛЯ // ПРАЛЬНЯ/ПРАЛЯ

**Прáлля.** *Разм.* Жанчына, якая прадзе ўручную.

С і н о н і м: папрадуха.

Мастак паказаў на палатне маладую зграбную праллю з доўгай касой. *А. Ліс.*

**Прáльня.** Установа бытавога абслугоўвання для мыцця і далейшай апрацоўкі бялізны.

У калгасах будуць дзіцячыя яслі, сады, пляцоўкі, там з часам можа ўстановяцца пральні, кравецкія майстэрні, хлебапякарні, а можа нават і грамадскія кухні. *І. Дуброўскі.*

**Пра́ля.** *Абл.* Тое, што і п р а л л я.

Бывала ў цёмную зімнюю ноч самая позняя праля патушыць агонь у сваёй хаце, а ў Маланні блішчыць акенца ледзь не да дня. *Беларусь.*

### ПРАНІКЛІВЫ // ПРАНІКАЛЬНЫ // ПРАНІКНЕНЫ

**Прані́клівы.** Які хутка і правільна разгадвае, глыбока разумее што-н.; здольны пранікнуць у сутнасць чаго-н.

С і н о н і м: здагадлівы.

Паўлюк не такі быў пранікліва, каб убачыць, што ў Чачыка на душы нешта кіпіць. *І. Пташнікаў.*

**Праніка́льны.** Які прапускае праз сябе што-н. (ваду, святло і інш.).

Насенне зернебабовых культур уладае менш пранікальнай абалонкай у параўнанні са збожжавымі. *А. Мароз.*

**Пранікнёны.** Для якога характэрна хвалюючая шчырасць, сардэчнасць, унутраная перакананасць.

Я шукаў пранікнёных, узнёслых слоў, і словы такія знаходзіліся, яны клаліся на паперу прачулымі, шчырымі радкамі. *І. Навуменка.*

Н я п р а в і л ь н а. Пранікнёнае (трэба: пранікліваe) вока мастака ўбачыла ўсё гэта, душа адчула важнасць і глыбіню ўбачанага, і з'явілася задума — смелая, высакародная, мастацкая. *Полымя.*

### ПРАПІСКА // ПРЫПІСКА

**Прапі́ска.** Афіцыйная рэгістрацыя пражывання каго-н. па пэўнаму адрасу; паметка ў пашпарце аб гэтай рэгістрацыі.

Я хаце абавязаны прапіскаю — калыскаю, падвешанай пад столь. *А. Куляшоў.*

**Прыпі́ска.** Дапаўненне, дадатак да раней напісанага.

У канцы ліста сябар зрабіў прыпіску. *Я. Колас.*

### ПРАСТУДЖАНЫ // ПРАСТУДЛІВЫ // ПРАСТУДНЫ

**Прасту́джаны. 1.** Хворы ад прастуды.

У класе запанавала напружаная цішыня — стала чуваць, як у прастуджанага Паўла Баранца хрыпіць у грудзях. *І. Шамякін.*

**2.** Які бывае пры прастудзе; з прастудай.

Другі голас быў мяккі, грудны, крышку хрыплаваты, як бы прастуджаны. *А. Кудравец.*

**Прасту́дліві.** *Разм.* Схільны да прастуды; які лёгка прастуджваецца.

Нейкае вельмі ж прастудлівае дзіця: чуць пабыло на холадзе ці крыху праняло скразняком — і захварэла ўжо адразу. *ЛіМ.*

**Прасту́дны.** Які мае адносіны да прастуды; выкліканы прастудай.

Абвостраным слыхам ён [урач] улоўлівае прастудныя хрыпы ў грудзях. *В. Гарбук.*

### ПРАТЭКТАР // ПРАТЭКТАРАТ

**Пратэ́ктар. 1.** Дзяржава, якая ажыццяўляе пратэктарат.

Пратэктарат — форма міжнароднай залежнасці дзяржаў, пры якой дзяржава-пратэктар вызначае знешнюю палітыку дзяржавы, якая пратэжыруецца. *БелСЭ.*

**2.** Патоўшчаная, больш трывалая частка знешняй паверхні ў пакрышцы.

На сухой зямлі следу ад пратэктара не асталося. *А. Жук.*

*Няправільна.* З гэтага моманту Туніс страціў незалежнасць і стаў французскім пратэктарам (трэба: пратэктаратам). *В. Вольскі.*

**Пратэктара́т.** Форма каланіяльнай залежнасці, пры якой больш слабая краіна, фармальна захоўваючы свой дзяржаўны лад, фактычна залежыць ад больш моцнай; сама краіна, што знаходзіцца ў такой залежнасці.

Англія, якая дабівалася панавання над Суэцкім каналам і мела патрэбу ў егіпецкай бавоўне, з 1883 года ўстанавіла фактычны пратэктарат над Егіптам (які ўваходзіў тады ў састаў Турцыі). *Эканамічная геаграфія зарубежных краін.*

### ПРАХАДНЫ/ПРАХОДНЫ//ПРАХОДЧЫ//ПРАХОЖЫ

**Прахадны́. 1.** Які мае скразны праход, служыць для праходу.

Хто б ні стаяў вартавым ля прахадной будкі, усякі прапускаў Святлану ў вайсковы двор. *А. Кулакоўскі.*

**2.** Які дае права ці магчымасць прайсці па конкурсу куды-н.

— Семнаццаць з дваццаці набраў. Прахадны бал... А Лёня Хазанскі праваліў. *В. Мыслівец.*

**Прахо́дны.** Тое, што і *прахадны* *(у 1 знач.).*

У зацямнелым кутку каля праходнай будкі Антон прыпыніўся і не зводзіў вачэй з дзвярэй. *П. Кавалёў.*

**Прахо́дчы.** *Спец.* Які мае адносіны да праходкі — распрацоўкі горных вырабатак у пэўным напрамку.

Праходчы камбайн.

**Прахо́жы.** Які ідзе куды-н., праходзіць міма каго-чаго-н. Бралася на мароз. Асфальт падсох. Крокі рэдкіх прахожых ляскалі, як стралялі, асабліва абцасікі жанчын. *І. Шамякін.*

## ПРАЦВЕРАЗЕЦЬ // ПРАЦВЕРАЗІЦЬ

**Працвераз́ець.** Стаць цвярозым.

Сінонім: працверазіцца.

Чуліся выпадковыя несуладныя стрэлы і крыкі — п'яныя адразу працверазелі, рызыканты беглі, як зайцы. *С. Грахоўскі.*

**Працверазіць.** *каго.* Зрабіць цвярозым; зрабіць здольным цвяроза разважаць аб чым-н., вызваліць ад ілюзій.

Цемрадзь на хвіліну працверазіла распаленую галаву, ён выцер спацелы лоб, падбадзёрыў сябе і весялей пакрочыў наперад. *Маладосць.*

## ПРАЧЫНІЦЬ // ПРЫЧЫНІЦЬ

**Прачыні́ць.** *што.* Крыху, не поўнасцю адчыніць.

Сінонім: прыадчыніць.

Бурчанка павёў іх да сябе ў кабінет, па дарозе прачыніў дзверы ў пакой Вольгі Паўлаўны, каб сказаць, што вярнуўся. *Т. Хадкевіч.*

**Прычыні́ць.** *што.* Зачыніць, звычайна няпоўнасцю або няшчыльна.

Сымон Данілавіч ад нечаканасці нават забыўся прычыніць сенцы. *І. Грамовіч.*

## ПРАЯСНЕЦЬ // ПРАЯСНІЦЬ

**Праясн́ець. 1.** Стаць ясным, бязвоблачным.

Упершыню пасля некалькіх дажджлівых дзён неба праяснела. *Х. Жычка.*

**2.** Стаць ясным, праясніцца (пра свядомасць, думкі і інш.).

Сухі, гарачы махорачны дым вострa заказытаў у носе, і неяк адразу праяснела ў галаве. *М. Стральцоў.*

**3.** Стаць спакойным, вясёлым, ветлівым.

Твары суседніх жанчын неяк раптоўна, на адно імгненне, праяснелі ўсмешкай. *П. Пестрак.*

**Праясні́ць.** *што.* **1.** Зрабіць ясным, выразным, добра бачным.

[Зазімак] падмарозіў зямлю, размаляваў ледзь прыкметнымі ўзорамі шыбы на вокнах, праясніў неба. *М. Даніленка.*

**2.** Зрабіць ясным, зразумелым; высніць.

Гэтыя звесткі не вельмі праяснілі абстаноўку. *У. Шыцік.*

**Прыбало́тны.** Які знаходзіцца паблізу балота.

Скончылася жыта, пачынаўся прыбалотны хмызняк. *П. Кавалёў.*

**Прыбало́чаны.** Трохі забалочаны, крыху балоцісты.

Бумажкоў ляжаў на мокрай прыбалочанай зямлі і кідаў бутэльку за бутэлькай. *К. Чорны.*

## ПРЫВАТНІЦКІ // ПРЫВАТНЫ

**Прыва́тніцкі.** Які мае адносіны да прыватніка, уласцівы яму.

Гэты кар'ерыст і дэмагог, каб больш настрашыць Гарошку, абзывае яго сабатажнікам, абвінавачвае ў прыватніцкіх настроях і кулацкай тэндэнцыі. *Маладосць.*

**Прыва́тны. 1.** Які належыць пэўнай асобе, не грамадскі.

Сінонім: асабісты.

Гэта была звычайная ўскраінная вуліца — ціхая, з невялікімі прыватнымі домікамі, садамі і агародамі. *В. Быкаў.*

**2.** Які з'яўляецца часткай, дэталлю чаго-н.; не агульны; асобны.

Як сур'ёзны, сталы пісьменнік, Я. Брыль умее адкрыць, здавалася б, у вельмі прыватным выпадку вялікую і хвалюючую праўду жыцця. *В. Каваленка.*

## ПРЫВЕТЛІВЫ / ПРЫВЕТНЫ // ПРЫВІТАЛЬНЫ

**Прыве́тлівы.** Добразычлівы, гасцінны.

Сінонім: ветлівы.

Крышачку ўзрушаныя, узаемна прыветлівыя, настаўнікі жартамі сустракалі кожнага свайго калегу. *І. Шамякін.*

**Прыве́тны.** Тое, што і прыветлівы.

З-пад брывей прыветных палінялых журыцца даверлівы пагляд. *Р. Барадулін.*

**Прывіта́льны.** Які мае адносіны да прывітання, звязаны з ім.

[Алеся] ловіць мой позірк і прывітальны жэст рукі і з непаўторным хараством ківае галавой — вітаецца. *Я. Брыль.*

## ПРЫВЫКЛЫ // ПРЫВЫЧНЫ

**Прывы́клы.** Які прывык да чаго-н., мае прывычку да чаго-н.

Сінонімы: звыклы, звычны.

Прывыклае да цішыні вуха ўлавіла частае тупанне мноства ног. *І. Пташнікаў.*

**Прывы́чны. 1.** Які стаў прывычкай, увайшоў у прывычку.
Сінонім: звычайны.

Полаз і Вітушка паабедалі з прывычнай сялянскай паважнасцю. *І. Шамякін.*

**2.** Які выпрацаваў прывычку, прывык да чаго-н.

Але прывычны паляўнічы зрок адгадваў сярод густой травы, па росах збітых воўчыя сляды. *М. Танк.*

### ПРЫВЯЗКА // ПРЫВЯЗЬ

**Пры́вязка.** Вяровачка, шнурок, раменьчык і пад. для прывязвання чаго-н.

Парвалася сырамятная прывязка, трэба было ісці ў хату па нож, каб прарэзаць пяцельку. *К. Крапіва.*

**Пры́вязь.** Вяроўка, рэмень, ланцуг, якім звычайна прывязваюць жывёлу.

Ласяня тупала каля дубка, наравіла сарвацца з прывязі. *С. Александровіч.*

### ПРЫВЯЛЕНЫ // ПРЫВЯЛЫ

**Прывя́лены.** Крыху правялены — падсушаны на сонцы, ветры (звычайна пра мяса, рыбу).

Прывялены кумпяк. Прывяленая рыба.

Няправільна. Дзесьці далёка ў тумане драчы дралі горла, востра пахла прывяленай (трэба: прывялай) травою. *В. Гігевіч.*

**Прывя́лы.** Які трохі звяў, прывяў (звычайна пра расліны, траву).

Ён угледзеў [з акна машыны] поле, запалавелае ўжо, з рамонкамі абапал палявой дарогі і сіняй, нібыта прывялай ад спякоты, але на самай справе халаднавата-пяшчотнай валошкі. *А. Жук.*

### ПРЫГОДНІЦКІ // ПРЫГОДНЫ

**Прыго́дніцкі.** Заснаваны на прыгодах, звязаны з прыгодамі.

Па сваёй тэматыцы прыгодніцкія аповесці Янкі Маўра ўваходзяць у цыкл твораў аб іншых краінах. *М. Яфімава.*

**Прыго́дны.** Які падыходзіць, гадзіцца для чаго-н., прыдатны да чаго-н.

Дайце мне хатку, хатку прыгодную, вечная радасць жыла каб у ёй. *Я. Купала.*

## ПРЫГОННІК // ПРЫГОННЫ

**Прыго́ннік.** Памешчык, які карыстаўся прыгонным правам, меў прыгонных сялян; прыхільнік прыгону.

Адмена прыгоннага права, праведзеная рукамі прыгоннікаў, не ўціхамірыла край. *Полымя.*

**Прыго́нны.** Які мае адносіны да прыгону; які з'яўляецца ўласнасцю памешчыка-прыгонніка, належыць яму.

Ракой, фантанамі з зямлі б'е нафта, б'е стуль, скуль і не сніў прыгонны дзед. *Я. Купала.*

## ПРЫДЗІРА // ПРЫДЗІРКА

**Прыдзі́ра.** *Разм.* Прыдзірлівы чалавек.

Адны знаходзілі .. інспектара чалавекам, з якім яшчэ жыць можна; другія ж, наадварот, даводзілі, што ён — прыдзіра, з кожнага глупства робіць цэлую справу. *Я. Колас.*

**Прыдзі́рка.** Папрок, заўвага, абвінавачанне, зробленае без дастатковых падстаў.

А я думаю, таварыш Собіч, што гэта проста прыдзірка. Няма ў нас злодзеяў! *Я. Скрыган.*

## ПРЫЗЕМІСТЫ // ПРЫЗЕМЛЕНЫ // ПРЫЗЕМНЫ

**Пры́земісты.** Нізкі на выгляд; прысадзісты.

[Мужчыны] падышлі да гаража — жоўтага прыземістага будынка, разлічанага машын на дзесяць. *Т. Хадкевіч.* || Невысокі, але моцнага целаскладу; каржакаваты (пра чалавека). Наперадзе цвёрдай паходкай з аўтаматам напагатове крочыў прыземісты і плячысты дзяцюк. *Р. Няхай.*

**Прызе́млены.** Пазбаўлены ўзвышанага, незвычайнага; прыніжаны.

Хоць і многа яшчэ ў творы прыземленага бытавізму, але і бытавізм гэты своеасаблівы. *А. Адамовіч.*

**Прызе́мны.** *Спец.* Які прылягае непасрэдна да зямной паверхні.

Прыземны слой паветра.

## ПРЫНАДА // ПРЫНАДЖВАННЕ

**Прына́да.** Тое, чым прынаджваюць птушак, рыб, жывёл.

Гэтакай мясціне рады мы з табой, рыбак. У нас добрая прынада — дажджавы чарвяк. *А. Вялюгін.*

**Прына́джванне.** Прыкормліванне (звычайна пра рыбу, птушак).

Рэгулярная падкормка, умелае прынаджванне прывучае і рыбу к пэўнаму месцу. *Звязда.*

### ПРЫСМАК // ПРЫСМАКІ

**Пры́смак.** Дадатковы, пабочны смак у чым-н.

Сцяблінкі жуючы, яна адчула не водар сена — водарасці пах, і далі той, што зноў іх паглынула,— чужы, салёны прысмак на губах. *А. Куляшоў.*

**Прысма́кі.** *звычайна мн.* Ласункі, салодкае.

Мой бацька рэдка калі дастаўляў такія прысмакі, ашчаджаючы капейку на рэчы больш сур'ёзныя. *І. Навуменка.* ‖ *Разм.* Прыправа. Хоць невялікія прысмакі — цыбуля, перчык, ліст бабкоў ды сальца некалькі брускоў. *Я. Колас.*

### ПРЫСТАЎЛЕНЫ // ПРЫСТАЎНЫ

**Паста́ўлены.** Пастаўлены, прысунуты блізка да чаго-н.; прыхілены да чаго-н.; далучаны да чаго-н., пастаўлены дадаткова.

Яму чамусьці ўбачылася зноў усё тое, што бачылася не раз: на двух прыстаўленых заслонах стаіць труна, а ў ёй ляжыць, як жывая, нават з нейкім прытоеным смяшком у сіняватых губах яго Караліна. *В. Адамчык.*

**Прыстаўны́.** Які прыстаўляецца або прыстаўлены да чаго-н.

Люся ўсё парывалася падняцца ў самалёт па шырокай прыстаўной лесвіцы. *М. Даніленка.*

### ПРЫСЯГА // ПРЫСЯГАННЕ

**Прыся́га.** Афіцыйнае ўрачыстае абяцанне, клятва захоўваць вернасць, выконваць якія-н. абавязкі; словы такога абяцання.

Мо каля гэтае сасны, пад партызанскім сцягам, Радзімы верныя сыны прыносілі прысягу. *П. Панчанка.*

**Прысяга́нне.** Прынясенне прысягі; клятвеннае абяцанне. Прысяганне на вернасць.

### ПРЫТВОР // ПРЫТВОРА

**Прытво́р.** Пярэдняя частка царквы непасрэдна за ўваходам.

Ён увайшоў у царкву. У прытворы гарэла тоненькая свечка. *К. Чорны.*

**Прытво́ра.** *м.* і *ж.* *Разм.* Той, хто прытвараецца, прыкідваецца.

Сінонімы: прытворшчык, прытворшчыца.

А ты не прачытаў бы дзённіка сястры, каб ён трапіў табе на вочы? Не люблю прытвораў! *І. Шамякін.*

## ПРЫТОМЛЕНЫ // ПРЫТОМНЫ

**Прыто́млены.** Які прытаміўся; змораны.

Сінонім: стомлены.

Здаволеныя гульнямі і трошкі прытомленыя, малыя крочаць паламаным строем. *М. Ракітны.*

**Прыто́мны.** Які знаходзіцца ў прытомнасці, пры памяці.

— Хутчэй выходзьце! — выратавальныя словы вырваліся з грудзей Ягора, і сам ён ледзь прытомны адскочыў ад дома. *П. Кавалёў.*

## ПРЫЦІСКЛІВЫ // ПРЫЦІСКНЫ

**Прыці́склівы.** Які пазбягае траты, выдаткаў.

Сінонім: скупы.

Кастусь Верамейчык — чалавек прыціскліvы, скрытны і на словы асцярожны. *К. Крапіва.*

**Прыціскны́.** *Спец.* Які служыць для прыціскання чаго-н.

Трэба праверыць мацаванне пальцавага бруса да папярэдняга бруса жняяркі, усіх секцый пальцаў, прыціскных лапак да пальцавага бруса, а таксама дэталей да сценак жняяркі. *В. Ягорушкін.*

## ПРЫЦІШЫЦЬ // ПРЫЦІШЭЦЬ

**Прыці́шыць.** *што.* Зрабіць цішэй, слабей; зменшыць хуткасць.

Сінонім: суцішыць.

Андрэй падумаў, што, мусіць, спяшыць, і прыцішыў хаду *І. Пташнікаў.*

**Прыцішэ́ць.** Перастаць падаваць гукі; сцішыцца.

Сінонім: сціхнуць.

Костусь асеў і прыцішэў у тыя дні, хадзіў сам не свой. *К. Чорны.*

## ПРЫЦЬМЕЦЬ // ПРЫЦЬМІЦЬ

**Прыцьме́ць.** Страціць сваю яркасць, бляск.

Сінонім: патускнець.

Святло дрыготка пасунулася на небасхіле, прыцьмела і неяк раптоўна згасла. *В. Быкаў.*

**Прыцьміць.** *каго-што.* Засланіўшы сабой, зрабіць менш прыкметным, менш бачным.

Ты ўсё золатам хочаш прыцьміць, загаціць... Ці ж прыгледзеўся, харамны княжа? Кроў на золаце гэтым людская блішчыць, кроў, якой і твая моц не змажа. *Я. Купала.*

### ПРЫЧЫНА // ПРЫЧЫННАСЦЬ

**Прычы́на. 1.** З'ява, акалічнасць, якая выклікае, абумоўлівае ўзнікненне другой з'явы.

Адбылося неяк дзіва: сонца ход свой прыпыніла. Прастаяла тры гадзіны з невядомае прычыны. *У. Дубоўка.*

**2.** Падстава, зачэпка для якіх-н. дзеянняў.

[Сімон] любіў смяяцца, і для гэтага яму не трэба было шукаць асаблівай прычыны. *Э. Самуйлёнак.*

**Прычы́ннасць. 1.** Дачыненне да чаго-н., удзел у чым-н. Абгрунтаванне думкі аб прычыннасці «Новай зямлі» да генезісу беларускага рамана атрымалася неглыбокім і скамечаным. *Полымя.*

**2.** У філасофіі: узаемная сувязь з'яў, пры якой адна з іх з'яўляецца прычынай другой.

Аб'ектыўная прычыннасць.

### ПРЫШЧЭП / ПРЫШЧЭПА // ПРЫШЧЭПАК // ПРЫШЧЭПКА

**Прышчэ́п.** Прышчэпленая расліна, прышчэпленае дрэўца. У гэтую восень будуць гатовы да пасадкі сорак тысяч прышчэпаў. *М. Паслядовіч.*

**Прышчэ́па.** Тое, што і п р ы ш ч э п.

Вывучаецца абмен рэчываў прышчэпка пад уплывам абмену рэчываў прышчэпы. *Л. Чаркасава.*

Н я п р а в і л ь н а. Кабінет садоўніцтва мае вялікі садова-ягадны гадавальнік, дзе навучэнцы вырошчваюць розную садавіну, робяць прышчэпы (трэба: прышчэпкі) і акуліроўку *М. Замскі.*

**Прышчэ́пак.** Частка расліны (чаранок, вочка), якую прышчэпліваюць (або прышчапілі раней) на другой расліне.

Юных садаводаў радавала, што ўсе мінулагоднія прышчэпкі развіваліся добра.

**Прышчэ́пка. 1.** Перасадка часткі расліны (чаранка, вочка) на другую расліну; прышчэпліванне.

Улетку гэтага года мы рабілі прышчэпку пладовых дрэўцаў *І Сіняўскі.*

**2.** Прышчэпачны прэпарат (вакцына); увядзенне ў арганізм такога прэпарату, каб папярэдзіць або вылечыць якую-н. хваробу.

У цяперашні час прышчэпкі робяцца спецыяльнымі прэпаратамі — вакцынамі, якія вырабляюцца на заводах. *Анатомія і фізіялогія чалавека.*

**3.** Тое, што і прышчэп.

Нарэшце Ваня зайшоў да гаспадара, у якога яшчэ зусім не было саду, а ў агародзе тырчала ўсяго толькі каля дзесятка прышчэпак. *А. Кулакоўскі.*

**4.** Зацiскачка для прымацавання чаго-н.

У такую хвіліну вязка драўляных прышчэпак, што вісіць на шыі ў дзеўчаняці, можа здацца прыгажэй любых караляў *А. Гардзіцкі.*

### / ПРЭМІРАВАЛЬНЫ // ПРЭМІРАВАНЫ // ПРЭМІЯЛЬНЫ

**Прэміраваáльны.** Тое, што і прэміяльны.

Прэміравальная камісія. Прэміравальныя грошы.

**Прэміраваáны.** Той, хто атрымаў прэмію; узнагароджаны прэміяй.

Пасля вячэры дзед Мікалай расказваў мне ўвесь свой даволі доўгі жыццёвы шлях: шлях панскага батрака-селяніна-бедняка-калгасніка-ўдарніка, тройчы прэміраванага за старанную работу. *А. Якімовіч.*

**Прэміяáльны.** Які мае адносіны да прэміі; які з'яўляецца прэміяй.

З дому выйшаў дзед Аўсей з прэміяльным патэфонам. *М. Калачынскі.* || *у знач. наз.* прэміяльныя. Грошы, якія выплачваюцца ў якасці прэміі. Яна павесіла на плячо чорную дарагую сумачку, якой не мела ніводная настаўніца ў іхняй школе. Ісідар падарыў за прэміяльныя, калі каманда заняла першае месца ў рэспубліцы. *В. Супрунчук.*

### ПРЭТЭНДЭНТ // ПРЭЦЭДЭНТ

**Прэтэндэ́нт.** Той, хто прэтэндуе на што-н., мае падставы на атрыманне чаго-н.

Разумеў хлапец — час падумаць, як будзе жыцца далей. Яшчэ пад ім двое меншых братоў — прэтэндэнтаў на бацькаву гаспадарку. *А. Пальчэўскі.*

Няправільна. Удар нашай авіяцыі быў закончан з надыходам цемры. Па эфектыўнасці яе дзеянняў гэты выпадак, на думку многіх відавочцаў, не мае прэтэндэнта (трэба: прэцэдэнту) у ходзе Вялікай Айчыннай вайны. *Звязда.*

**Прэцэдэ́нт.** *Кніжн.* Выпадак у мінулым, які служыць прыкладам ці апраўданнем для падобных выпадкаў у будучым.

Мяне заўважылі праз акно, і ўсе выйшлі насустрач. Важны быў прэцэдэнт — ссыльнаму дазволілі працаваць у школе, і ўжо з'яўляліся надзеі, строіліся меркаванні на «пацяпленне», на палёгкі ў рэжыме. *С. Грахоўскі.*

## ПУЖАНЫ // ПУЖЛІВЫ

**Пужа́ны.** Такі, якога часта і многа пужалі.

Сінонім: напужаны.

Дзяўчат поўная вёска, а жаніхі надта пужаныя сталі, у сваты баяцца ездзіць. *А. Асіпенка.*

**Пужлі́вы.** Які лёгка пужаецца, якога лёгка напужаць.

Сінонім: палахлівы.

Крыкі пужлівых людзей не стрымаюць хай бітвы размах. *М. Багдановіч.*

## ПУНКТУАЛЬНЫ // ПУНКТУАЦЫЙНЫ

**Пунктуа́льны.** Вельмі акуратны, дакладны.

Хоць звычайна старшы лейтэнант і не любіў «пісаніны», тут стараўся быць пунктуальным. *І. Мележ.*

**Пунктуацы́йны.** Які мае адносіны да пунктуацыі — правіл аб пастаноўцы знакаў прыпынку.

Пунктуацыйны разбор павінен заўсёды суправаджацца сінтаксічным разборам. *М. Марчанка.*

## ПУНКЦІРАВАЛЬНЫ // ПУНКЦІРНЫ

**Пункціравáльны.** Які служыць для нанясення пункціру, для чарчэння пункцірам.

Для заканчэння работы ў яго было ўсё неабходнае, і ў першую чаргу добрая пункціравальная лінейка, без якой не абысціся. *ЛіМ.*

**Пункці́рны.** Які мае адносіны да пункціру; падобны на пункцір.

Вертыкальныя палосы ўтвараліся рознакаляровымі пракідкамі ўтоку, якія то шырокімі пасамі, то вузкімі пункціркымі шнурочкамі запаўнялі ўсё поле спадніцы. *Маладосць.*

## ПУСТЭЛЬНІЦКІ // ПУСТЭЛЬНЫ

**Пустэ́льніцкі.** Які мае адносіны да пустэльніка.

Пустэльніцкае жыццё.

**Пустэ́льны.** Які мае адносіны да пустэльні, пустыні.

С і н о н і м: бязлюдны.

Другі конь спалохана кінуўся па пустэльнай дарозе і таксама хутка растварыўся ў цемры. *В. Іпатава.*

### ПУХЛАСЦЬ // ПУХЛІНА

**Пу́хласць.** Паўната, мяккасць; рыхласць.

Пухласць ног. Пухласць твару.

**Пухлі́на.** Хваравітае ўздуцце тканак арганізма.

Недагледжаная рана гнаілася, вакол яе распаўзалася чырвоная пухліна. *Л. Арабей.*

### ПУШНЫ // ПУШЫСТЫ

**Пушны́. 1.** З каштоўнай шкурай (пра звяроў).

Звяроў, ад якіх атрымліваюць футравіну, называюць пушнымі. *Заалогія.*

**2.** Які мае адносіны да пушніны.

Прадстаўнік пушной фірмы яўна нудзіўся гутаркай на пушныя тэмы. *М. Лынькоў.*

**Пушы́сты.** З мяккім пухам ці шэрсцю; лёгкі, вельмі мяккі.

Максім сеў у крэсла, узяў на калені ката, пагладзіў пушыстую поўсць. *І. Шамякін.*

### ПЧАЛАВОДНЫ / ПЧАЛАВОДЧЫ // // ПЧАЛЬНІКОВЫ // ПЧАЛЯРСКІ

**Пчалаво́дны.** Які мае адносіны да пчалавода, пчалаводства; пчалаводчы.

Пчалаводны занятак.

**Пчалаво́дчы.** Які звязаны з развядзеннем пчол, пчалярствам; пчалаводны.

Асаблівую ўвагу ў нашых умовах неабходна ўдзяліць арганізацыі пчалаводчых гаспадарак. *Звязда.*

**Пчальніко́вы.** Які мае адносіны да пчальніка, пасекі.

Пчальніковая гаспадарка.

**Пчаля́рскі.** Які мае адносіны да пчаляра, пчалярства; прызначаны для пчаляра ці належыць яму.

Толькі старанна ўцяпліўшы і цалкам падрыхтаваўшы вуллі да зімоўкі, ён пачаў парадкаваць свой пчалярскі інвентар і складваць яго да наступнай вясны. *Звязда.*

### ПЫЛАВЫ // ПЫЛКОВЫ // ПЫЛЬНЫ

**Пылавы́.** Які мае адносіны да пылу; з пылу.

Захар здзівіўся, якая яна [Панасаўна] у гэтым жоўтасонечным пыле непадобная на сябе, састарэлая, нібыта праз

пылавую заслону зазірнуў у іншы час, не той, што быў пражыты, а ў той, што пільнаваў наперадзе. *В. Карамазаў.*

**Пылко́вы.** Які мае адносіны да пылку з кветак.

Насякомыя з такімі пылковымі камячкамі на галаве трапляюцца нярэдка. *К. Ціміразеў.*

**Пы́льны.** Пакрыты пылам; з вялікай колькасцю пылу.

Я сышоў на ўзбочыну насыпу, і паўз мяне, абдаўшы мяне хваляй цёплага, пыльнага паветра, пранясласяі доўгая чарада вагонаў. *І. Навуменка.*

## ПЯКАРНЫ // ПЯКАРСКІ

**Пяка́рны.** Які мае адносіны да выпечкі хлебных вырабаў; прызначаны для такой выпечкі.

Пякарная справа. Пякарная печ.

**Пяка́рскі.** Які мае адносіны да пекара, належыць яму.

Пякарскае майстэрства. Пякарскі фартух.

## ПЯКОТКА // ПЯКУЧКА

**Пяко́тка.** Адчуванне пякучага болю ў страваводзе.

— Нешта хварэю, брат .. Пякотка, на яе ліха, не дае спакою... *М. Хведаровіч.*

**Пяку́чка.** Пякучая крапіва.

Сінонім: жыгучка.

Хто сустрэўся быў са мною, дакрануўся раз ці два, дык той ведае ўжо хто я: я — пякучка-крапіва. *К. Крапіва.*

## П'ЯНЕЦЬ // П'ЯНІЦЬ

**П'яне́ць. 1.** Станавіцца п'яным.

Сінонім: хмялець.

Мар'я не любіла самагонку, але маці прымусіла і яе выпіць, а сама выпівала амаль нараўне з Янам і не п'янела. *А. Жук.*

**2.** *перан.* Узбуджацца, узрушвацца ад чаго-н.

Нам да вар'яцтва хацелася жыць. Ненавідзець, любіць, колькі выстарчыць сэрца. І п'янець ад вясны, ад смалістых ажын. *П. Глебка.*

**П'яні́ць.** *каго-што.* Прыводзіць да стану ап'янення ці падобнага ап'яненню.

Сінонім: хмяліць.

І цяпер, як Андрэй адзначыў неўзабаве для сябе, яго гэтак жа, як і тады, п'яніў пах свежаўскапанай зямлі і гною. *Б. Сачанка.*

## ПЯСКОВЫ / ПЯСОЧНЫ // ПЯСЧАНЫ

**Пяско́вы.** Тое, што і п я с о ч н ы.

Нібы ў гадзінніку пясковым, плыве цурок драбніц-клапот *У. Жылка.*

**Пясо́чны. 1.** Які мае адносіны да пяску, прызначаны для яго; з пяску.

У ліпені — жніўні, падобна на хатніх курэй, любяць прымаць пясочныя ванны глушцы, цецерукі, курапаткі. *А. Ставер.*

**2.** Шаравата-жоўты, колеру пяску.

Да яго ішла, гулка ступаючы абцасікамі лакіраваных басаножак, паўнаватая, у плашчы пясочнага колеру, жанчына. *В. Адамчык.*

**3.** Прыгатаваны з сухога, рассыпістага цеста.

Пясочнае піражнае. Пясочнае пячэнне.

**Пясча́ны. 1.** Пакрыты пяском, пяскамі; з аднаго пяску.

Здавалася, усё навакол занямела, зачараванае цудоўнымі тонамі песні гэтага вольнага песняра ўзлескаў і пясчаных пустак між лесу. *Я. Колас.*

**2.** З вялікай прымессю пяску; у якім шмат пяску; пескаваты.

Ворная зямля ў малінаўцаў была .. напалову палеская — пустая і пясчаная. *А. Чарнышэвіч.*

## ПЯТЛІЧНЫ // ПЯТЛЯСТЫ // ПЯЦЕЛЬНЫ

**Пятлі́чны.** Які мае адносіны да пятліцы; які носяць у пятліцы.

Пятлічная акантоўка. Пятлічная эмблема.

**Пятля́сты.** *Разм.* Які ўтварае петлі; пакручасты.

С і н о н і м: звілісты.

Паеўшы і адпачыўшы, мы зноў ідзём. Спыняемся, як цямнее, на беразе пятлястай рэчачкі. *В. Карамазаў.*

**Пяце́льны.** Які мае адносіны да пятлі; прызначаны для пятляў, для іх апрацоўкі.

Пяцельная дзірка. Пяцельная абшыўка.

# Р

## РАБАК // РЫБАК

**Раба́к.** *Разм.* Гліст.

— Ды замоўкніце вы са сваімі літаннямі. Яны тут зусім не патрэбны. У яго рабакі. Дайце яму бярозавага дзёгцю. Ад сэрца і адыдзе. *У. Дубоўка.*

**Рыбáк.** Чалавек, які займаецца лоўляй рыбы.

На шчасце закінуўшы вуду ізноў, рыбак аглядае свой першы улоў. *П. Глебка.*

### РАБАЦЕЦЬ // РАБАЦІЦЬ

**Рабацéць.** Пакрывацца рабізной, невялікімі хвалямі.

Дзьмуў лёгкі ветрык, рабацела рака, а калі выглядала сонца з-за хмар, вада серабрылася. *І. Гурскі.*

**Рабацíць.** *што.* Пакрываць рабізной — лёгкім хваляваннем воднай паверхні.

Вуліца падсохла за ноч, толькі дзе-нідзе слабы ветрык злёгку рабаціў плыткія лужыны. *В. Адамчык.*

### РАДКАВЫ // РАДКОВЫ

**Радкáвы.** *Абл.* Радкаваты.

Дождж быў малы і радкавы, але калі парывамі налятаў вецер, то невялікія і рэдкія кроплі секлі ў твар, як шротам. *У. Дамашэвіч.*

**Радкóвы.** Звязаны з пасевам ці пасадкай радкамі.

Вясною значная частка зямлі была засеяна радковай сеялкай. *М. Паслядовіч.*

### РАДЫЯЛЬНЫ // РАДЫЯННЫ

**Радыя́льны.** Размешчаны па радыусе.

Радыяльныя магістралі горада.

**Радыя́нны.** Які мае адносіны да радыяна — вугла, што адпавядае дузе, даўжыня якой роўна яе радыусу.

Радыяннае вымярэнне вуглоў.

### РАЗБІТНЫ // РАЗБІТЫ

**Разбітны́.** *Разм.* Лоўкі, праворны, бойкі.

Чыгунок бянтэжыцца зноў. Як ні кажы, які б ён ні быў разбітны, а ўсё ж урачысты, хвалюючы момант у хлопца!.. *Я. Брыль.*

**Разбíты. 1.** Расколаты на кускі ці з адбітым краем; разбураны.

Праз два разбітыя акны і адкрытыя насцеж дзверы гуляў вецер. *М. Лынькоў.*

**2.** Пашкоджаны ўдарам.

Трымаючыся за разбітую шчаку і распухлы нос, бокам высунуўся Слімак. *М. Лынькоў.*

**3.** Які пацярпеў паражэнне; параможаны.

У гэты час рэшткі разбітых часцей ворага сапраўды каціліся назад па шляху, што ляжаў кіламетраў за тры ад вёскі. *Л. Якімовіч.*

### РАЗБОЙНІЦКІ // РАЗБОЙНЫ

**Разбóйніцкі.** Які мае адносіны да разбойніка, характэрны для яго.

Сашка падскочыў бліжэй да акна — у два пальцы — свіснуў разбойніцкім, чацвярным свістам. *У. Караткевіч.*

**Разбóйны. 1.** Які мае адносіны да разбою.

Разбойны налёт. Разбойная банда.

**2.** Тое, што і р а з б о й н і ц к і.

Разбойны напад фашысцкай Германіі на Савецкі Саюз абарваў мірную працу паэта. *М. Клімковіч.*

### РАЗБОРАЧНЫ // РАЗБОРЛІВЫ // РАЗБОРНЫ

**Разбóрачны.** Які мае адносіны да разборкі.

Разборачны цэх. Разборачныя работы.

**Разбóрлівы. 1.** Які лёгка разабраць, успрыняць на слых ці зрокам.

С і н о н і м: выразны.

Спісаныя разборлівымі друкаванымі літарамі лісткі, у якіх звесткі пра воінскія часці, Міця аддае Міколу. *І. Навуменка.*

**2.** Патрабавальны, строгі ў выбары або ацэнцы каго-чаго-н.

Больш разборлівыя танцоры, якім надакучыць прасіць прабачэння за штуршкі, пакідаюць залу. *А. Карпюк.*

**Разбóрны.** Які можна разабраць, разняць на часткі і зноў сабраць.

І вось яшчэ!.. Яшчэ! Амаль увесь эшалон — разборныя дамы! *А. Савіцкі.*

### РАЗБУРАЛЬНЫ // РАЗБУРАНЫ

**Разбурáльны.** Які прыносіць разбурэнне.

Калгас .. пачынаў усё нанава пасля разбуральнай вайны. *Л. Марціновіч.*

**Разбýраны.** Разбіты, развалены.

[Аня] адразу не заўважыла хударлявага мужчыны ў акулярах, які выйшаў з разбуранага пад'езда гэтага дома. *А. Васілевіч.*

**Разважа́нне.** Думкі, меркаванні, вывады, якія з'явіліся пасля роздуму над чым-н.

Нягледзячы на ўсе гэтыя разважанні, Лабановіч чуў, што яму страшна, што яму бракуе сілы павесці змаганне з гэтым страхам. *Я. Колас.*

**Разва́жлівасць.** Здольнасць разумна, правільна думаць, разважаць; абдуманасць у дзеяннях, учынках; цвярозы розум.

Кіламетры праз тры пачаўся лес, і тут адразу стала спакойна і ціха. Можа таму беларускі чалавек прывык да роздуму і жыццёвай разважлівасці, што спрадвеку знаўся з лясамі. *Я. Скрыган.*

### РАЗВАЛЕНЫ // РАЗВАЛІСТЫ

**Разва́лены.** Які развaліўся; разламаны, паламаны.

[Максім Астапавіч] абышоў навокал хату — усё было старое, трухлявае, разваленае. *К. Чорны.*

**Разва́лісты.** *Разм.* З пахістваннем з боку ў бок (пра паходку).

Камлюкаваты Пшанічны развалістай хадой ступіў наперад. *В. Быкаў.*

### РАЗВАЛІНА // РАЗВАЛІНЫ / /РАЗВАЛКІ / РАЗВАЛЫ // РАЗВАЛЮХА

**Разва́ліна. 1.** *звычайна мн.* Рэшткі разваленай пабудовы ці групы пабудоў.

Некалькі раненых афіцэраў, цудам уцалеўшых і выкапаных з-пад развалін школы, расказалі аб гераічнай смерці Андрэя. *І. Шамякін.*

**2.** *перан. Разм.* Пра старога ці разбітага хваробай чалавека.

За апошні год ён ужо зусім развалінай стаў.

**Разва́ліны.** *адз. няма. Разм.* Тое, што і р а з в а л к і.

Антон вынес з пуні і палажыў на развалiны і адзін ахапак сена, і другі, і трэці. *Я. Ермаловіч.*

**Разва́лкі.** *адз. няма.* Нізкія і шырокія сані (з рамай для большай умяшчальнасці); развалы.

Антон падцягнуў пасак, падабраў да каліўца сена і кінуў у развалкі. *М. Ракітны.*

**Разва́лы.** *адз. няма.* Нізкія і шырокія сані (з рамай для большай умяшчальнасці); развалкі.

Павялі старых коней на бойню, што са мной адслужылі

усе войны, і аралі, і баранавалі, і бярвенне на зруб тралявалі, і вазілі на карах, развалах, тых, каго адпачыць зямля звала. *М. Танк.*

**Развалю́ха.** *Разм.* Старая, напаўразбураная будыніна, хаціна.

На ўскрайку лесу стаяла халупа-развалюха і маленькі хляўчук з плоскім дахам. *А. Асіпенка.*

### РАЗВАРАНЫ // РАЗВАРНЫ // РАЗВАРЫСТЫ

**Разва́раны.** Які добра ўварыўся, разварыўся.

Ясачка любіла піць развараную макуху. *Р. Сабаленка.*

**Разварны́.** Рассыпчаты ў вараным выглядзе.

Разварная бульба. Разварная грэчка.

**Разва́рысты.** Які добра разварваецца.

Спехам праглынуўшы разварыстую бульбу з агуркамі, якую падала на стол гаспадыня, мы падзякавалі як маглі і пакінулі гасцінную хату. *І. Чыгрынаў.*

### РАЗВОДДЗЕ // РАЗВОДКА

**Разво́ддзе.** Вясенняя паводка, вясенні разліў.

Васіль бачыў рэкі там, каля свайго дома, але ж такой шырокай не наглядаў нават у самае бурлівае разводдзе. *А. Кулакоўскі.*

**Разво́дка.** Інструмент для развядзення зубоў пілы.

Прынёс напілак, разводку, прысеўшы на козлах, пачаў вастрыць пілу. *М. Гроднеў.*

### РАЗВЯЗАНЫ // РАЗВЯЗНЫ

**Развя́заны.** Распушчаны, расслаблены (пра канцы чаго-н. звязанага).

Развязаны вузел. Развязаны мех.

**Развя́зны.** Празмерна вольны, бесцырымонны (пра чалавека, яго паводзіны, абыходжанне).

Між тым Славік вырас грубым, развязным, самалюбівым хлопцам без ясных ідэалаў, без веры, без працоўных навыкаў. *Полымя.*

### РАЗВЯСЕЛЕНЫ // РАЗВЯСЁЛЫ

**Развясе́лены.** Прыведзены ў вясёлы настрой.

Развяселеныя жартам слухачы. Развяселеныя дзеці.

**Развясёлы.** *Разм.* Вельмі вясёлы.

Ліха рэзаў гармонік, екатаў бубен, з подсвістам, з прыпеўкамі таптала вулкавы пыл развясёлае войска. *М. Стральцоў.*

### РАЗГАДВАННЕ // РАЗГАДКА

**Разга́дванне.** Знаходжанне правільнага адказу на што-н. загаданае.

Сінонім: адгадванне.

Разгадванне загадкі. Разгадванне рэбуса.

**Разга́дка.** Адказ, рашэнне загадкі, чаго-н. тайнага, незразумелага.

Сінонім: адгадка.

Захар каторы ўжо раз заўважыў, што думку сваю Максім Іванавіч усё роўна як не дагаворвае, абрывае ў такім месцы, дзе застаецца загадка, але і разгадка сама напрошваецца. *В. Карамазаў.*

### РАЗДРАЖНЕНЫ // РАЗДРАЖНЕНЫ // РАЗДРАЖНЯЛЬНЫ

**Раздра́жнены.** Такі, у якога выклікалі злосць, раздражненне.

Сінонім: раззлаваны.

І яго мала відно на занятках. А калі і паказваецца, то маўклівы, раздражнены. *А. Васілевіч.*

**Раздражнёны. 1.** Які стаў хваравітым ад якога-н. раздражняльніка.

Раздражнёная скура.

**2.** Які знаходзіцца ў стане злоснага ўзбуджэння; абвостраны, усхваляваны (пра пачуцці).

Андрэй, прыклаўшы трубку да вуха, пачаў слухаць. Адразу ж быццам холадам дыхнула — голас быў чужы, раздражнёны. *Б. Сачанка.*

**Раздражня́льны.** Які лёгка раздражняецца; уразлівы, чуллівы.

Хворае дзіця звычайна капрызіць, становіцца раздражняльным, часта плача. *Звязда.*

### РАЗЛАГОДЗІЦЬ // РАЗЛАГОДНЕЦЬ

**Разлаго́дзіць.** *каго. Разм.* Зрабіць лагодным, больш лагодным.

— Ну чаго, чаго ты так маркоцішся? — змяніла тон Адэля і абняла яго .. — і гэтым разлагодзіла бацьку. *П. Броўка.*

**Разлаго́днець.** *Разм.* Паддацца лагоднасці, стаць лагодным.

Васіль развесяліўся, разлагоднеў, быццам не ён сам, а Хведар зрабіў яму даўно жаданую ласку. *М. Стральцоў.*

## РАЗЛІВАЛЬНЫ // РАЗЛІВАЧНЫ // РАЗЛІЎНЫ

**Разліва́льны.** Які служыць для разлівання чаго-н.

Разлівальны чарпак. Разлівальная лыжка.

**Разліва́чны.** *Спец.* Які мае адносіны да разліўкі, прызначаны для разліўкі.

Разлівачны пункт нафтабазы. Разлівачны цэх вінзавода.

**Разліўны́.** Які прадаецца ў разліў; які наліваецца ў посуд пакупнікоў.

Разліўное піва. Разліўное малако.

## РАЗМЕНЕНЫ // РАЗМЕННЫ

**Разме́нены.** Абменены грашовы знак ці манета на больш дробныя ў адпаведнай колькасці.

Ад размененага раніцай чырвонца ў кішэні не засталося і дробязі. *ЛіМ.*

**Разме́нны.** Які служыць, прызначаны для размену.

У каго няма разменнай манеты, перадавайце грошы на талоны. *Х. Жычка.*

## РАЗУМНЕЦЬ // РАЗУМНІЧАЦЬ

**Разумне́ць.** Набірацца розуму, станавіцца разумнейшым. Расце сынок і разумнее, а долі хлопчыку няма. *Я. Колас.*

**Разу́мнічаць.** *Разм.* Паступаць па-свойму, лічачы сябе разумней за іншых; пускацца ў абстрактныя непатрэбныя разважанні.

Такі ўжо чалавек гэта: ён заўсёды разумнічае, мудрагеліць нешта, калі нават можна проста ўзяць ды зрабіць, як робяць усе людзі.

## РАЗЬБОВЫ // РАЗЬБЯНЫ // РАЗЬБЯРНЫ // РАЗЬБЯРСКІ

**Разьбо́вы.** Які мае адносіны да разьбы — вінтавой нарэзкі. Разьбовае кальцо. Разьбовы разец.

**Разьбя́ны.** Зроблены разьбой — узорамі, малюнкамі, выразанымі на цвёрдых матэрыялах; разны́.

Сані стаялі каля даволі вялікай хаты з прыгожымі ўзорнымі аканіцамі і разьбяным ганкам. *Я. Васілёнак.*

**Разьбя́рны.** Які мае адносіны да мастацкай разьбы, прызначаны для разьбы.

Разьбярныя работы. Разьбярны інструмент.

**Разьбя́рскі.** Які мае адносіны да разьбяра, разьбярства. Разьбярскае майстэрства.

**Раз'ярыць.** *каго.* Прывесці ў ярасць.

Раз'ярыць звера. Раз'ярыць сабаку.

**Раз'ярэць.** Прыйсці ў ярасць.

Сінонім: раз'ярыцца.

Але Семяняка толькі раз'ярэў ад гэтага: — Як, мне слова не хочаце даць? *М. Лобан.*

### РАМАНІЧНЫ / РАМАННЫ // РАМАНСКІ // РАМАНТЫЧНЫ

**Раманічны. 1.** Які мае адносіны да рамана — літаратурнага твора.

Проза Я. Коласа савецкага перыяду — гэта пераважна эпас буйных, раманічных форм і жанраў. *Д. Гальмакоў.*

**2.** Звязаны з любоўнымі адносінамі.

Лабановіч заходзіць у кухню. Яму цікава паглядзець на сваю старожку, чыя асоба звязвалася раманічнаю гісторыяй з асобаю яго папярэдніка, гэтага самага Мітрафана Васільевіча. *Я. Колас.*

**Раманны.** Які мае адносіны да рамана — літаратурнага твора; уласцівы яму; раманічны.

Раманная пабудова твора. Раманны жанр.

**Раманскі.** Які ўзнік на аснове старажытнарымскай культуры або цесна звязаны з гэтай культурай.

Да раманскай групы належаць народы, мова якіх развілася на аснове лацінскай мовы. *Эканамічная геаграфія зарубежных краін.*

**Рамантычны. 1.** Які мае адносіны да рамантызму — напрамку ў літаратуры.

У гісторыі савецкай літаратуры гэты ранні этап вызначаецца звычайна як рамантычны. *Н. Перкін.*

**2.** Прасякнуты рамантыкай, незвычайны, таямнічы; летуценна настроены; эмацыянальна-прыўзняты.

З цікавасцю гляджу я на гэтыя рамантычныя мясціны. Мазыр — горад старажытны, і нямала адбылося тут розных падзей у даўно мінулыя часы. *В. Вольскі.*

### РАМЕСНІЦКІ // РАМЕСНЫ

**Рамесніцкі. 1.** Які мае адносіны да рамяства, займаецца рамяством, саматужнай работай; рамесны.

Напярэдадні XVI стагоддзя Мінск ператвараецца ў важны гандлёвы і рамесніцкі горад. *Полымя.*

**2.** Які працуе без творчай ініцыятывы, па ўстаноўленаму шаблону.

Л. Кістаў лічыў ворагамі сапраўднага рэалістычнага мастацтва рамесніцкія штампы, халодную абыякавасць і банальнасць, напышлівую дэкламацыю. *Маладосць.*

**Раме́сны. 1.** Які мае адносіны да рамяства, займаецца рамяством, саматужнай работай; рамесніцкі.

Жывуць там шаўцы, краўцы, бондары, цесляры,— люд рамесны,— сядзяць на месцы, іх і за вуха з тае Назараўкі не выцягнеш. *Б. Стральцоў.*

**2.** Які рыхтуе кадры кваліфікаваных рабочых.

Здаецца, яму споўнілася толькі шаснаццаць, калі ён развітаўся з вёскай і паехаў вучыцца ў рамеснае вучылішча. *В. Хомчанка.*

## РАНІШНІ // РАННІ

**Ра́нішні.** Які мае адносіны да раніцы; які бывае раніцай.

Увесь панылы настрой, пад уплывам якога быў нядаўна Лабановіч, развеяўся, як ранішні туман перад гарачым летнім днём. *Я. Колас.*

**Ра́нні. 1.** Які мае адносіны да раніцы; ранішні.

Ранняя летняя раса ападаць стала на густую траву. *Р. Мурашка.*

**2.** Які з'яўляецца самай першай, пачатковай парой чаго-н., пачаткам пэўнага працэсу, першай стадыі развіцця.

Паўтарэнне купалаўскіх матываў знаходзіў у ранніх вершах Міхася Васілька Валянцін Таўлай. *Д. Бугаёў.*

**3.** Які наступае, адбываецца раней, чым звычайна.

Нявольнікі працы адплацяць паўстаннем за раннюю старасць, за слёзы маленства. *П. Глебка.*

## РАСАДНІК // РАССАДНІК

**Раса́днік.** Месца, дзе вырошчваюць маладыя расліны (расаду) для высадкі ў грунт.

Спуджаныя хаты разбегліся ў бакі ды так і скучыліся там вакол вузкіх завулкаў і на пляц пазіраюць нясмела з-за густа зачастаколеных расаднікаў. *П. Галавач.*

**Расса́днік.** Крыніца з'яўлення, размнажэння, распаўсюджання чаго-н.

Мова мастацкай літаратуры выступае як рассаднік і папулярызатар узорных сродкаў і прыёмаў літаратурнага выражэння. *Л. Шакун.*

## РАСКІДЗІСТЫ // РАСКІДЛІВЫ // РАСКІДНЫ

**Раскі́дзісты.** Шырока раскінуты ў бакі.

Я спыніўся ў роздуме, паглядзеў на неба і прылёг пад раскідзістым дубам. *В. Вольскі.*

**Раскідлівы.** *Разм.* Неашчадны, неэканомны.

Дзіўна было б іншае: калі б у такога раскідлівага чалавека ды было нешта. *ЛіМ.*

**Раскідны́.** Які мае адносіны да раскідання чаго-н. або служыць для раскідання.

Па спосабу сяўбы адрозніваюць сеялкі радковыя, гняздавыя, пункцірныя і раскідныя. *А. Тачыцкі.*

## РАСПАРАДАК // РАСПАРАДЛІВАСЦЬ / РАСПАРАДЧАСЦЬ

**Распара́дак.** Устаноўлены парадак якіх-н. спраў, заняткаў і інш.; сукупнасць правіл, якія рэгулююць што-н.

Хлопцы ведаюць хатні распарадак на памяць і не спяшаюцца дадому. *М. Лужанін.*

**Распара́длівасць.** Уменне добра кіраваць, распараджацца чым-н.; энергічнасць у арганізацыі чаго-н.

Распарадлівасць брыгадзіра. Распарадлівасць гаспадыні.

**Распара́дчасць.** Тое, што і р а с п а р а д л і в а с ц ь.

Пётр I палюбіў Меншыкава за кемлівасць, распарадчасць і храбрасць. *Гісторыя СССР.*

## РАСПАРАДЛІВЫ // РАСПАРАДЧЫ

**Распара́длівы.** Які ўмее добра кіраваць, распараджацца чым-н.

Распарадлівы камандзір. Распарадлівы гаспадар.

**Распара́дчы.** Які мае адносіны да распараджэння, служыць для распараджэння.

Распарадчая камісія.

## РАСПРАЦАВАНАСЦЬ // РАСПРАЦОЎКА

**Распрацава́насць.** Падрыхтаванасць, вывучанасць, гатоўнасць чаго-н.

Моўная фактура гэтага твора наглядна паказвае стан распрацаванасці стылю прозы ў той час. *І. Навуменка.*

**Распрацо́ўка. 1.** Усебаковае вывучэнне, даследаванне, апісанне чаго-н.

Такія пісьменнікі, як К. Чорны, бачылі сваё прызванне ў распрацоўцы якраз эпічных твораў. *А. Адамовіч.*

2. Месца, дзе распрацоўваюцца якія-н. карысныя выкапні. У апошні час на распрацоўцы кар'ераў пачалі выкарыстоўваць новы спосаб. *П. Рунец.*

### РАССЛАБЕЦЬ // РАССЛАБІЦЬ

**Расслабе́ць. 1.** Стаць слабым, слабейшым.
Сінонімы: пaслабець, аслабнуць.
Апошнім часам зусім расслабеў стары — няма здароўя.
**2.** Стаць слабкім.
Сінонім: пасвабаднець.
Максім паварушыў кісцямі, адчуў, што ланцужок крыху расслабеў. *М. Машара.*
**Рассла́біць.** *каго-што.* **1.** Зрабіць слабейшым, менш напружаным.
Сінонім: аслабіць.
Стары расхваляваўся, успамінаючы, і хваляванне зусім расслабіла яго. *К. Кірэенка.*
**2.** Адпусціць, зрабіць слабкім (што-н. туга звязанае, нацягнутае).
Жанчына расслабіла туга завязаную пуховую хустку, лёгка пакруціла маленькай галавой, а потым пачала расшпільваць паліто. *В. Адамчык.*

### РАССЫЛАЧНЫ // РАССЫЛЬНЫ

**Рассы́лачны.** Прызначаны для рассылкі.
Рассылачнае аддзяленне паштамта.
**Рассы́льны. 1.** Які мае адносіны да рассылкі, звязаны з рассылкай.
Рассыльная кніга.
**2.** Той, хто разносіць службовую карэспандэнцыю.
Сінонімы: кур'ер, пасыльны.
Тэрміновы пакет адправілі рассыльным.

### / РАССЫПІСТЫ // РАССЫПНЫ // РАССЫПЧАТЫ

**Рассы́пісты. 1.** Які лёгка рассыпаецца на крупінкі, крошкі.
[Снег] рассыпісты і, здаецца, зусім не падобны на той, што гурбамі асеў вакол на палях, на чорных ялінах, што стаяць ля самай чыгункі. *А. Савіцкі.*
**2.** *перан.* Дробны, перарывісты.
Недзе ўдалечыні дробным рассыпістым рэхам пракацілася кулямётная чарга. *В. Быкаў.*

**Рассыпны́.** Які складаецца з асобных крупінак, зерняў; сыпучы; які прадаецца паштучна.
Рассыпны корм. Рассыпны тавар.
**Рассы́пчаты.** Тое, што і р а с с ы п і с т ы.
Пасярод стала з вялізнай глінянай міскі дыхала пахучай парай бялюткая рассыпчатая бульба. *І. Шамякін.*

### РАСТЛУМАЧАЛЬНЫ // РАСТЛУМАЧАНЫ

**Растлумача́льны.** Які мае на мэце растлумачыць што-н.
Растлумачальная работа.
**Растлума́чаны.** Такі, які растлумачылі, пояснілі.
Растлумачаная задача. Растлумачанае правіла.

### РАСХЛЯБАНЫ // РАСХЛЯБІСТЫ

**Расхля́баны. 1.** Такі, у якім аслаблі мацаванні (ад неахайнага доўгага карыстання); расхлістаны.
Расхлябаныя дзверы.
**2.** *перан.* Няцвёрды, віхлясты; недысцыплінаваны, неарганізаваны.
Зноў шаша, і зноў аднастайны, расхлябаны крок. *І. Навуменка.*
**Расхля́бісты.** *Абл.* Гразкі, пакрыты калюжынамі; няроўны.
Ісці па расхлябістай дарозе было нязручна і цяжка. *А. Асіпенка.*

### РАСЧАПІЦЬ // РАСШЧАПІЦЬ

**Расчапі́ць.** *што.* Адчапіць адно ад другога, раз'яднаць счэпленае.
Замест таго каб расчапіць дрот каля калка, хлопец лёгка падняў веласіпед і пераставіў яго на другі бок загарадзі. *У. Дамашэвіч.*
**Расшчапі́ць.** *што.* **1.** Раскалоць, раздзяліць на часткі.
У ежу яны ўжывалі чорную і горкую каменную соль, умелі расшчапіць запалку на чатыры часткі. *М. Арочка.*
**2.** Перастаць сціскаць; разняць, раз'яднаць; п р о ц і л. сашчапіць.
Аксеня адсунулася ад замка і апусціла рукі. А потым працягнула адну з іх у бок Гаўруся і расшчапіла кулак. Ключ упаў на зямлю. *Я. Брыль.*
Н я п р а в і л ь н а. «Прэзідэнт» расчапіў (трэба: расшчапіў) сціснутыя губы, пазіраючы праз акуляры ў залу, загаварыў глуха, важка і цвёрда. *І. Мележ.* Параўн.: Ён прысеў на абпалены камень, сашчапіў на каленях рукі. Задумаўся. *ЛіМ.*

**3.** *Спец.* Фізічным уздзеяннем прымусіць распасціся (пра атам).

Савецкія вучоныя расшчапілі атам і паслалі спадарожнікі вакол Зямлі і Сонца. *Звязда.*

### РАСЧЫНІЦЬ // РАШЧЫНІЦЬ

**Расчыні́ць.** *што.* Адчыніць што-н. зачыненае.

На першых двух уроках мы павінны былі пісаць сачыненне. Я прыйшоў у клас першы, расчыніў вокны. Раніца, а сонца ўжо высока ў небе. *Маладосць.*

**Рашчыні́ць.** *што.* Прыгатаваць цеста (рошчыну), развёўшы муку вадою ці малаком.

Вярнуўшыся з поля, маці рашчыніла хлеб у дзежцы — першы хлеб з маладога жыта! *М. Парахневіч.*

### РАСЯНЫ // РОСНЫ

**Рася́ны́.** Які мае адносіны да расы; з расы.

Расяныя кроплі густа сядзелі на дробных лісточках ружаў; на пукатых дробных бутонах яны былі не празрыстыя, а быццам варсістыя ад тонкіх промняў, што адбіваліся ў іх. *А. Савіцкі.*

**Ро́сны.** Пакрыты расою; з расою.

Палотны рассцілалі на росным лузе ці на атаве, і па доўгай палатнянай дарожцы можна было бегчы на ўвесь дух, не баючыся пракалоць аб іржэўнік ногі. *І. Навуменка.*

### РАУНД // РАУТ

**Ра́унд.** У боксе: прамежак часу (звычайна тры мінуты), на працягу якога адбываецца адна схватка бою.

Трэці раунд, здаецца, больш нагадваў вольную барацьбу, а не бокс. Мы абодва проста павісалі адзін на адным. *Маладосць.*

**Ра́ут.** *Уст.* Урачысты, званы вечар, прыём.

На балях, раутах, прыёмах паміж гасцей, сяброў, знаёмых ішло спаборніцтва — хто лепш для памяці напіша верш. *В. Вітка.*

### РАФІНАВАНЫ // РАФІНАДНЫ // РАФІНЕРНЫ // // РАФІНОВАЧНЫ

**Рафінава́ны. 1.** *Спец.* Ачышчаны.

Рафінаваны алей патрэбны Оршы і Полацку, і цыстэрну не варта было забіраць з Віцебскай вобласці. *Звязда.*

**2.** *перан. Кніжн.* Вытанчаны, тонкі, удасканалены.

Гэта быў час [пасля рэвалюцыі 1905 г.], калі .. у літаратуры спрабавалі даць нейкі сінтэз самага грубага натуралізму з рафінаваным дэкадэнцтвам. *М. Клімковіч.*

**Рафінáдны.** Які мае адносіны да рафінаду — ачышчанага кускавога цукру.

Калі Васілёк быў яшчэ зусім малым, бацька яго працаваў на рафінадным заводзе і зрэдку прыносіў невялічкія кавалачкі цукру. Які ж ён быў салодкі! *ЛіМ.*

**Рафінёрны.** *Спец.* **1.** Прызначаны для рафінавання.

Рафінёрны цэх.

**2.** Які паддаецца, падлягае рафінаванню.

Рафінёрная маса.

**Рафінóвачны.** *Спец.* Які прызначаны, служыць для рафінавання.

Рафіновачная печ.

## РАХУНКАВОДЧЫ // РАХУНКОВЫ

**Рахункавóдчы.** Які мае адносіны да рахункавода, рахункаводства.

Пасля шпіталю яго, як і іншых інвалідаў вайны, накіравалі на рахункаводчыя курсы, якія ён паспяхова закончыў і пачаў працаваць у калгасе рахункаводам. *Звязда.*

**Рахункóвы.** Які мае адносіны да рахункаводства, звязаны з вядзеннем падлікаў, рахункаў.

Вылічэнне і ўтрыманне падатку з заработнай платы рабочых і служачых праводзяць рахунковыя работнікі прадпрыемстваў, устаноў і арганізацый. *Звязда.*

## РАЦЫЯНАЛІЗАВАНЫ // РАЦЫЯНАЛІЗАТАРСКІ

**Рацыяналізавáны.** Удасканалены, больш прадукцыйны; больш мэтазгодны.

Рацыяналізаваны працэс вытворчасці.

**Рацыяналізáтарскі.** Які мае адносіны да рацыяналізатара, рацыяналізацыі.

За год унесена больш за тры тысячы рацыяналізатарскіх прапаноў, якія далі заводу шэсць мільёнаў эканоміі. *У. Карпаў.*

## РАЦЫЯНАЛІСТЫЧНЫ // РАЦЫЯНАЛЬНЫ

**Рацыяналістычны.** **1.** Які мае адносіны да рацыяналізму — напрамку ў ідэалістычнай філасофіі, які лічыць розум адзінай крыніцай пазнання.

Дэкарт — заснавальнік рацыяналістычнай філасофіі. *Звязда.*

2. Які апіраецца толькі на патрабаванні логікі, розуму.

У параўнанні з іншымі маладнякоўцамі Змітрок Бядуля ...льш рацыяналістычны ў сваёй творчасці. *В. Каваленка.*

**Рацыяна́льны. 1.** Разумны, мэтазгодны.

Створаная сетка чыгунак пры іх рацыянальным выкарыстанні, належным забеспячэнні рухомым саставам і тэхнічным абсталяваннем магла б параўнальна нядрэнна забяспечваць патрэбы ў перавозках. *Полымя.*

**2.** У матэматыцы: сувымерны з адзінкай ці з часткаю адзінкі, без знака радыкала.

Лікі цэлыя і дробавыя называюцца рацыянальнымі лікамі. *Алгебра.*

## РУЖАВЕЦЬ // РУЖОВІЦЬ

**Ружаве́ць. 1.** Станавіцца ружовым.

Светлая паласа на ўсходзе ўсё шырэла, край неба над самаю зямлёй пачынаў ружавець. *Маладосць.*

**2.** Чырванець, пакрывацца румянцам.

А яна глядзіць на дзіця, шчокі яе ледзь прыкметна ружавеюць, а ў позірку пачынае свяціцца тое адвечнае, пяшчотнае, чыстае, чым надзяліла жанчыну шчодрая прырода і чым яна налівае свет. *В. Палтаран.*

**3.** Выдзяляцца сваім ружовым колерам, віднецца (пра што-н. ружовае).

Сям-там ружавеюць шапкі цыбатых мухамораў. *А. Кандрусевіч.*

**Ружо́віць.** *што.* Афарбоўваць у ружовы колер, рабіць ружовым.

Сонейка хмарку ружовіла, ветрык яе лёгкім адзеннем пагойдваў. *А. Карпюк.*

## РУЛЬ // РУЛЯ

**Руль. 1.** Прыстасаванне для кіравання рухам судна, самалёта, аўтамабіля і інш. у патрэбным кірунку.

Ён больш звыклы быў за рулём трактара, нават не цяперашняга «беларуса», а таго, першых выпускаў, яшчэ без кабіны. *А. Жук.*

**2.** *перан. Кніжн.* Пра органы кіравання, кіраўніцтва чаго-н.

Руль дзяржаўнай улады.

**Ру́ля.** Ствол агнястрэльнай зброі.

С і н о н і м: дула.

Далей адбылося ўсё — як у адно імгненне. Адчуў: руля аўтамата ўперлася ў яго плячо, пачулася кароткае «Шнэль!», і ён нават подбегам пайшоў да канавы. *Я. Пархута.*

## РУМЯНЕЦЬ // РУМЯНІЦЬ

**Румянець.** Станавіцца румяным; чырванець.

Агаладалыя людзі папраўляюцца на вачах, ружавеюць, ажываюць вочы, паступова вяртаецца сіла. *С. Грахоўскі.*

**Румяніць.** *каго-што.* **1.** Выклікаць румянец на твары, шчоках.

Наста завіхалася каля печы. Барвовае полымя асвятляла яе твар, нібы на сонцы, добра румяніла шчокі. *Маладосць.*

**2.** Пакрываць румянамі (пра твар, шчокі).

Каб выглядаць маладзей за свае гады, яна заўсёды румяніла свой твар, але і гэта не вельмі памагала. *ЛіМ.*

**3.** Рабіць чырвоным, пакрываць румянцам (пра ўсход сонца).

Зара чырвонай пазалотай румяніць хат падзорны бок. *М. Машара.*

## РУНО // РУНЫ // РУНЬ // РУМ

**Руно.** Воўна, знятая пры стрыжцы суцэльным пластом; наогул воўна, шэрсць авечкі.

Асобныя шарсцінкі (валасы) склеены ліпкім тлушчапотам, які выдзяляецца сальнымі і потавымі залозамі. Утвараецца руно — густая футравіна, якая не змочваецца ад дажджу і не распадаецца нават пры стрыжцы. *Заалогія.*

**Руны.** *адз.* р у н а. **1.** Старажытныя пісьмёны, якімі карысталіся пераважна скандынавы і якія захаваліся ў надпісах на камянях і іншых прадметах.

Шмат якія руны відавочна маюць сляды апрацоўкі, але зроблена яна тонка. *М. Лужанін.*

**2.** Старадаўнія народныя песні ў карэлаў, фінаў і эстонцаў.

Цётка Улы і цётка Мары адмовіліся спяваць мне руны, пакуль я не абыду, не аб'еду лясы, камяні, азёры Карэліі. *В. Карамазаў.*

**Рунь.** Зялёныя ўсходы азімых пасеваў.

Свежая рунь дрыжала над ветрам, і ў нізінах стаяла чыстая, як сляза, вада. *К. Чорны.*

**Рум.** *Разм.* Месца, на якое ўзімку вывозіцца лес для сплаву і дзе вяжуць з бярвення плыты.

Вакол Каранькоў лес валілі няшчадна, на рум вазіць не паспявалі, а вясна выдалася гнілая, зацяжная, з неба ліло і ліло, як з рэшата. *В. Карамазаў.*

## РУСІНСКІ // РУСІЦКІ

**Русінскі.** Які мае адносіны да русінаў — украінцаў заходнеўкраінскіх зямель (так называлі іх у час знаходжання ў складзе Аўстра-Венгрыі).

Руская мова.

**Русісцкі.** Які мае адносіны да русіста — вучонага, спецыяліста ў галіне рускай філалогіі.

Русісцкая тэматыка філалагічнага зборніка.

## РУХАВЫ // РУХЛІВЫ / РУХОМЫ

**Руха́вы.** Які характарызуецца жвавасцю, лёгкасцю, хуткасцю ў руках.

С і н о н і м ы: жвавы, непаседлівы.

Цікава жонка, малая, як недарослая, але на дзіва прыгожая рухавая жанчына, сустрэла іх на ганку. *І. Чыгрынаў.* || Які часта мяняе свой выраз (пра твар). Твар яго, жывы і рухавы, мяняўся на вачах, і кожны выраз яго прымушаў смяяцца. *У. Караткевіч.*

**Рухлівы.** *Разм.* Тое, што і р у х а в ы.

У печцы ўсё паспела выгараць, рухлівыя язычкі полымя снуюць над вуголлем, ліжуць яго, абдымаюць. *А. Кудравец.*

**Рухо́мы. 1.** Здольны рухацца (пра механізмы, прыстасаванні і пад.).

Зроблены новы рухомы круг і прыстасаванні для дэкарацый. *Беларусь.*

2. Які не знаходзіцца на адным месцы; які пераязджае з месца на месца.

— Будзем ствараць невялікія рухомыя атрады, якія б змаглі вынесці прытулак і ў стэпе,— прапанаваў Андрэй. *Р. Няхай.*

У выразе: р у х о м а я  м а ё м а с ц ь — маёмасць, якая складаецца з каштоўнасцей, рэчаў, мэблі і пад.

Калі першыя фашысты зазірнулі ў вёску, Паўла Мажэйка ўжо распарадкаваўся ледзь не з усёй рухомай калгаснай маёмасцю. *У. Шахавец.*

У выразе: р у х о м ы  с а с т а ў — сукупнасць лакаматываў і вагонаў на чыгунцы.

Прымаліся таксама захады па тэхнічным развіцці чыгуначных вузлоў, больш поўным забеспячэнні перавозак рухомым саставам. *Полымя.*

## РЫБАЦКІ / РЫБАЧЫ // РЫБНЫ

**Рыба́цкі.** Які мае адносіны да рыбака, рыбацтва.

Пагаслі агеньчыкі ў вокнах рыбацкага пасёлка. *Т. Хадкевіч.*

**Рыба́чы.** Які мае адносіны да рыбака, належыць яму.

Рыбачая лодка. Рыбачая вопратка.

**Ры́бны. 1.** Які мае адносіны да рыбы.

Рыбныя запасы. Рыбны рынак.

2. Багаты рыбай.

Рыбная рэчка. Рыбнае месца.

**Рэа́ктар.** Апарат або ўстаноўка, якая дзейнічае на аснове розных тыпаў фізіка-хімічных рэакцый.

Распрацоўваюцца новыя, усё больш дасканалыя віды рэактараў. *Маладосць.*

**Рэакты́ў.** Рэчыва, якое выклікае характэрную рэакцыю ў злучэнні з іншым рэчывам і тым самым дапамагае выявіць наяўнасць апошняга ў якім-н. саставе, злучэнні.

Лабараторнае даследаванне тавараў праводзіцца з дапамогай прыбораў, апаратаў і рэактываў. *Таваразнаўства.*

## РЭАЛІСТЫЧНЫ // РЭАЛЬНЫ

**Рэалісты́чны. 1.** Які разумее і ўлічвае рэальныя абставіны; практычны.

Глыбока рэалістычнае мастацтва — па-сапраўднаму народнае, выяўляе вызваленчыя імкненні працоўных мас, іх гуманістычныя ідэалы. *БелСЭ.*

**2.** Які мае адносіны да рэалізму — творчага метаду ў літаратуры і мастацтве.

Спосаб паказу Кулакоўскім калектыву таксама цікавы, глыбока рэалістычны. *Я. Скрыган.*

**Рэа́льны. 1.** Які існуе ў рэчаіснасці; не выдуманы, сапраўдны.

Адлюстраванне лодкі ў возеры нічым не адрознівалася ад рэальнай лодкі на паверхні. *В. Вольскі.*

**2.** Заснаваны на разуменні і ўліку наяўных умоў, абставін; магчымы для выканання, ажыццяўлення.

Калі да гэтага разведка вялася толькі на падставе навуковых прагнозаў, то цяпер ідэя вялікай нафты атрымала рэальную аснову. *В. Якавенка.*

## РЭВЕРАНС // РЭВЕРС

**Рэвера́нс.** Пачцівы наклон з лёгкім прысяданнем на правую нагу.

Дзяўчынка ў чырвонай хустачцы няўмела прысядала, стараючыся зрабіць рэверанс. *К. Чорны.*

**Рэ́верс.** *Спец.* Прыстасаванне, якое дае магчымасць мяняць напрамак руху машыны ў процілеглы бок.

Многія з яго вучняў ужо самі стаяць за рэверсам паравоза, умела водзяць цяжкавагавыя саставы. *Звязда.*

**Рэгрэ́с.** Упадак у развіцці, рух назад, дэградацыя.

Пэўная група старой тэхнічнай інтэлігенцыі з усёй катастрафічнасцю адчула аднойчы, што іх клас гіне, што лінія іхняга класа — не прагрэс, а рэгрэс. *Б. Мікуліч.*

**Рэгрэ́сія.** *Спец.* Адступленне мора з занятай ім раней тэрыторыі, за кошт чаго павялічваецца суша.

У кнігах па геалогіі часта сустракаюцца выразы: «наступленне мора», «адступленне мора» або, па-вучонаму, «трансгрэсія» і «рэгрэсія мора», што азначае тое ж самае. *А. Чаркасаў.*

## РЭГУЛІРОВАЧНЫ // РЭГУЛЯРНЫ // РЭГУЛЯТАРНЫ // // РЭГУЛЯЦЫЙНЫ

**Рэгуліро́вачны.** Які прызначаны, служыць для рэгуліроўкі, рэгулявання.

Утраіх спыніліся каля рэгуліровачнага паста, дзе сярод вуліцы стаяла русявая загарэлая дзяўчына са сцяжкамі. *І. Мележ.*

**Рэгуля́рны. 1.** Які раўнамерна і правільна адбываецца праз пэўныя прамежкі часу.

З гэтага часу пачаліся рэгулярныя рэйсы ўздоўж паўночных берагоў Азіі як з захаду на ўсход, так і з усходу на захад. *Геаграфія СССР.*

**2.** Які мае цвёрда ўстаноўленую арганізацыю і сістэматычны курс ваеннага навучання (пра армію, войска і пад.).

За Нёманам, у далейшых вёсках, падковай абдымаючы пушчу з захаду, збіраюцца варожыя часці: не толькі паліцэйскі зброд, але і рэгулярнае войска. *Я. Брыль.*

**Рэгуля́тарны.** Які мае адносіны да рэгулятара.

Рэгулятарная каробка.

**Рэгуляцы́йны.** Які мае адносіны да рэгуляцыі; які служыць для рэгуляцыі, рэгулявання.

Рэгуляцыйныя работы. Рэгуляцыйныя збудаванні.

## РЭДАКТАРСКІ // РЭДАКЦЫЙНЫ

**Рэда́ктарскі.** Які мае адносіны да рэдактара, належыць яму.

Рэдактарскі кабінет знаходзіўся ў другім канцы калідора. *П. Ткачоў.*

**Рэдакцы́йны.** Які мае адносіны да рэдакцыі, да рэдагавання.

Рэдакцыйная праца з маладым пісьменнікам заключаецца ў выхаванні і навучанні яго пісаць добрыя рэчы, а не ў паспешлівым і некрытычным друкаванні кожнага слова. *Я. Колас.*

## РЭЙД[1] / РЭЙД[2] // РЭЙС

**Рэйд**[1]. Месца стаянкі суднаў на якары каля берага.

Водгаласкі вайны чуліся на рэйдзе, дзе стаяў абпалены крэйсер ці браняносец. *М. Лынькоў.*

**Рэйд**[2]. **1.** Пранікненне, налёт войск у тыл праціўніка з якой-н. баявой мэтай.

Наслухаўся я пра баі з белапалякамі, пра паходы, налёты, рэйды па тылах і — бывай астраномія. *А. Асіпенка.*

**2.** Нечаканая, раптоўная рэвізія, праверка каго-чаго-н. групай актывістаў па заданню грамадскіх арганізацый.

Кожную суботу праводзім рэйды праверкі. *Звязда.*

**Рэйс.** Шлях якога-н. транспарту па пэўнаму маршруту.

Шафёру не было як затрымлівацца. Ён спяшаўся ў рэйс. *М. Гроднеў.*

## РЭКВІЗІТ // РЭКВІЗІТАР

**Рэквізі́т.** Розныя рэчы, неабходныя для пастаноўкі спектакля або здымкі кінафільмаў.

Усе дэкарацыі і рэквізіт здабываліся акцёрамі на месцы. Тэатру Галубка не трэба было нічога асабліва тэхнічнага, ён мог выступаць на любым памосце і нават проста на лужку. *Я. Рамановіч.*

Няправільна. Ён успомніў, як на дваццаць сёмым годзе жыцця яго ахапіла неадольная прага маляваць. Ён купіў фарбы, мальберт, палатно, словам, увесь неабходны мастаку рэквізіт (можа: рыштунак?). *І. Клімянкоў.*

**Рэквізі́тар.** Той, хто адказвае за рэквізіт.

Я хутка пазнаёміўся з касцюмерамі, што апраналі мяне на спектаклях, з грымёрам і з рэквізітарам. *Я. Рамановіч.*

## РЭКЛАМА // РЭКЛАМАЦЫЯ

**Рэкла́ма. 1.** Мерапрыемствы, якія праводзяцца для таго, каб стварыць шырокую вядомасць, папулярнасць каму-чаму-н.

Відаць, гэтым людзям была патрэбна гучная рэклама і доказы энергічнай дзейнасці для справаздачы перад сваімі гаспадарамі-філантропамі. *М. Машара.*

**2.** Аб'ява, паведамленне з мэтай прыцягнуць увагу да чаго-н.

Насупраць на другім баку вуліцы мігцела агнямі малінавая рэклама кафэ. *М. Вышынскі.*

**Рэклама́цыя.** Прэтэнзія прадпрыемству, скарга на нізкую якасць яго тавару з патрабаваннем аплаціць страты.

Наступныя два прыборы выйшлі са строю пасля таго як

фірмы была адпраўлена рэкламацыя. Новую рэкламацыю не выклікалі, спадзяваліся, што прыедзе спецыяліст фірмы і заадно наладзіць астатнія прыборы. *М. Гродней.*

**РЭЛІКВІЯ // РЭЛІКТ**

**Рэліквія.** Рэч, якая беражліва захоўваецца і шануецца як памяць пра мінулае.

З маленькаю латкай і локцем працёртым вісіць у кутку на цвіку гімнасцёрка — мая франтавая рэліквія. *П. Панчанка.*

**Рэлікт.** Рэч або арганізм, якія засталіся як перажыткі ад старажытных эпох.

Некаторыя віды рыб у нас цяпер такія рэдкія, што аб іх можна гаварыць толькі як аб рэліктах. *Полымя.*

**РЭМЕЗ // РАМІЗ**

**Рэмез.** Маленькая птушка з атрада вераб'іных.

Сінічка-рэмез, якая жыве на поўдні, будуе з пушынак насення вярбы і таполі гняздо, закрытае з усіх бакоў, толькі з адной акруглінай для ўваходу (рэдка з дзвюма). *Заалогія.*

**Раміз.** 1. У некаторых картачных гульнях: недабор пэўнай колькасці бітак, а таксама штраф за такі недабор.

— Першы раміз — золата! — сказаў Ілья і стукнуў кулаком па сваіх картах, што паклаў перад ім Мікіта. *Я. Васілёнак.*

2. Паўторны нападаючы ўдар (укол) у фехтаванні. Апошні раміз.

**РЭПАРАЦЫЯ // РЭПАТРЫЯЦЫЯ**

**Рэпара́цыя.** *звычайна мн.* Плацяжы пераможанай краіны, якая развязала вайну, краіне-пераможцы на пакрыццё страт ад вайны.

Савецкі ўрад лічыць неабходным, каб, пачынаючы з 1 студзеня 1954 года, Германія была поўнасцю вызвалена ад уплаты рэпарацый. *Звязда.*

**Рэпатрыя́цыя.** Зварот на радзіму ваеннапалонных, бежанцаў, перасяленцаў, якія аказаліся за межамі сваёй краіны ў выніку вайны.

Ёй паабяцалі перадаць справу пошукаў яе дзяцей у камісію па рэпатрыяцыі, якая пачала працаваць. *Я. Шарахоўскі.*

**РЭПЕТЫТАРСКІ // РЭПЕТЫЦЫЙНЫ**

**Рэпеты́тарскі.** Які мае адносіны да рэпетытара.

У Магілёве з кожным годам жыць станавілася цяжэй. Мі-

хайла з шостага класа гімназіі займаецца рэпетытарскай працай. *С. Шушкевіч.*

**Рэпетыцы́йны.** Які мае адносіны да рэпетыцыі, прызначаны для яе.

У рэпетыцыйным пакоі Міхайлава чакалі ўдзельнікі драматычнага гуртка. *Беларусь.*

### РЭПРЭСІРАВАНЫ // РЭПРЭСІЎНЫ

**Рэпрэсі́раваны.** Падвергнуты пакаранню дзяржаўнымі органамі.

Муж Алены Загорскай у трыццаць сёмым годзе быў рэпрэсіраваны, таму фашысты адносіліся да гэтай сям'і з поўным даверам. *І. Новікаў.*

**Рэпрэсі́ўны.** Які з'яўляецца пакараннем з боку дзяржаўных органаў; карны.

Аднак, нягледзячы на рэпрэсіўныя меры буржуазіі і царскіх улад, рэвалюцыйны рух у краіне разрастаўся. *І. Саладкоў.*

### РЭСТАЎРАТАРСКІ // РЭСТАЎРАЦЫЙНЫ // // РЭСТАЎРЫРАВАНЫ

**Рэстаўра́тарскі.** Які мае адносіны да рэстаўратара, рэстаўрацыі — аднаўлення ранейшага, звергнутага палітычнага ладу.

Маскіруючыся высокімі словамі пра незалежнасць краіны, гэтыя антынародныя групоўкі галоўным у сваёй дзейнасці лічылі рэстаўратарскія мэты. *Звязда.*

Н я п р а в і л ь н а. Галерэя вядзе вялікую даследчую і рэстаўратарскую (трэба: рэстаўрацыйную) работу. *Беларусь.*

**Рэстаўрацы́йны.** Які мае адносіны да рэстаўрацыі — аднаўлення старых ці пашкоджаных помнікаў культуры.

У час мінулай вайны частка калекцыі была страчана. Запатрабаваліся многія гады ўпартых пошукаў, складаныя рэстаўрацыйныя работы, перш чым у музейных залах Петрадварца зноў пачалі перазвоньвацца гадзіннікі-ветэраны. *Звязда.*

**Рэстаўры́раваны.** Адноўлены *(у розн. знач.).*

Рэстаўрыраваная карціна. Рэстаўрыраваныя старыя парадкі.

### РЭФЕРАТ // РЭФЕРЭНТ

**Рэфера́т. 1.** Кароткі пераказ зместу навуковай працы, кнігі, артыкула і г. д.

Усё, аб чым .. [Рыгор] пісаў у дысертацыі, трэба было выкласці ў рэфераце. *Л. Арабей.*

2. Даклад, заснаваны на крытычным аглядзе кніг, артыкулаў і г. д.

Максім Танк тады прачытаў рэферат аб беларускай літаратуры і вершы. *Д. Бугаёў.*

**Рэферэ́нт.** Службовая асоба, якая з'яўляецца дакладчыкам ці кансультантам па пэўных пытаннях.

— Кацар быў спецыяліст, светлая галава, найлепшы рэферэнт па эканоміцы. *І. Шамякін.*

### РЭФЕРАТНЫ // РЭФЕРАТЫЎНЫ

**Рэфера́тны.** Які мае адносіны да рэферата; у форме рэферата.

Хоць паведамленне, зробленае ў рэфератнай форме, і не заняло шмат часу, аднак пастаноўкай новай праблемы яно зацікавіла ўсіх прысутных. *ЛіМ.*

**Рэфераты́ўны.** Які мае кароткі, у форме рэферата, выклад зместу кніг, артыкулаў і г д.

Тут аўтар рэфератыўна *(прысл.)* выкладае змест ужо вядомых публікацый. *Полымя.*

### / РЭФЛЕКСІЎНЫ // РЭФЛЕКТАРНЫ // РЭФЛЕКТОРНЫ // // РЭФЛЕКТЫЎНЫ

**Рэфлексі́ўны.** Тое, што і рэфлекторны.

Рэфлексіўны рух. Рэфлексіўная рэакцыя.

**Рэфле́ктарны.** Які мае адносіны да рэфлектара — увагнутага люстра для адбіцця светлавых промняў.

Убранне пакоя дапаўняе яшчэ вялізны рэфлектарны ліхтар і тэлефонны апарат. *Д. Цябут.*

**Рэфлекто́рны.** Які мае адносіны да рэфлексу — рэакцыі жывога арганізма на знешнія раздражненні; міжвольны, машынальны, несвядомы.

Адпаведнасць паміж дзейнасцю розных органаў і работай сэрца ўстанаўліваецца рэфлекторным шляхам. *Анатомія і фізіялогія чалавека.*

**Рэфлекты́ўны.** Міжвольны, машынальны, несвядомы; рэфлекторны.

У рэфлектыўнай свядомасці героя «Паўлюковых дум» узнікае пакутлівы роздум аб неўладкаванні грамадскага жыцця, аб несправядлівасці, якая пануе ў свеце. *Д. Гальмакоў.*

### РЭЦЫДЫВІСТ // РЭЦЫДЫЎ

**Рэцыдыві́ст.** Чалавек, які зрабіў паўторнае злачынства.

Наўкол узбуджана гаманілі людзі, і з іх гамонкі Алесь дазнаў-

ся, што гэты рэцыдывіст пырнуў нажом нейкага чалавека, які, казалі, наўрад ці выжыве ад раны. *В. Быкаў.*

**Рэцыды́ў. 1.** Зварот, паўтарэнне якой-н. з'явы пасля таго, як яна, здавалася, знікла.

Не заўсёды мы дзейнічаем рашуча ў барацьбе з антыподамі нашай маралі, з рэцыдывамі дробнабуржуазнай, спажывецкай псіхалогіі. *П. Машэраў.*

**2.** Новае абвастрэнне хваробы пасля таго, калі чалавек, здаецца, направіўся.

У наш час такой хваробы няма. Але рэцыдывы яе часам даюць аб сабе знаць. *Л. Прокша.*

**3.** Паўторнае злачынства пасля адбывання тэрміну зняволення.

Адстойваць дабро — значыць раззбройваць зло, вынішчаць яго карэнне і рэцыдывы. *С. Грахоўскі.*

### РЭЦЭПТАР // РЭЦЭПТАР

**Рэцэ́птар.** Канцавое ўтварэнне адчувальных нервовых валокнаў, якое ўспрымае раздражненні; орган пачуццяў.

Канцы нервовых валокнаў, якія ўспрымаюць раздражненне, называюць рэцэптарамі. *Анатомія і фізіялогія чалавека.*

**Рэцэпта́р.** Работнік аптэкі, які прымае заказы на прыгатаванне лякарства па рэцэпту ўрача.

С і н о н і м: фармацэўт.

Асабліва прывязалася да дзяўчынкі рэцэптар Софія Уласаўна Латышава — тая, што нядаўна кожны дзень падавала ёй гаючае зелле для маці. *Звязда.*

## С

### САБАКАРНЫ // САБАКАРСКІ

**Сабака́рны.** Які мае адносіны да сабакарні — памяшкання для сабак.

Сабакарны двор. Сабакарны дух.

**Сабака́рскі.** Які мае адносіны да сабакара, належыць яму.

Сабакарская пасада. Сабакарскія абавязкі.

### САБАЛЕВЫ // САБАЛІНЫ

**Сабалёвы.** Зроблены з футра собаля.

Сабалёвая шапка.

**Сабалі́ны.** Які мае адносіны да собаля.
Сабаліны запаведнік.

### САДАВОДСКІ / САДАВОДЧЫ // САДОЎНІЦКІ

**Садаво́дскі.** Тое, што і с а д а в о д ч ы.
Садаводскі ўчастак.
**Садаво́дчы.** Які мае адносіны да садаводства, звязаны з ім.
Садаводчы калектыў.
**Садо́ўніцкі.** Які мае адносіны да садоўніцтва, садоўніка.
Садоўніцкі інвентар.

### САЛАДЖАВЫ // САЛАДКАВАТЫ / / САЛАДКАВЫ // САЛАДКОВЫ

**Саладжа́вы.** 1. З прысмакам салодкага; саладкаваты.
Прыемны, саладжавы водар адцвітання плыве з агародаў. *І. Навуменка.*
2. *перан.* Празмерна ветлівы, да прыкрасці ласкавы; прытворна-пяшчотны.
Паліне зрабілася непрыемна ад яго саладжавай усмешкі, яна заспяшалася і развіталася суха. *А. Савіцкі.*
**Саладкава́ты.** Не зусім салодкі, трохі салодкі.
Ад высокіх ліп, што вартаўнікамі стаялі ўздоўж вуліцы, разносіўся саладкаваты водар кветкі. *М. Ваданосаў.*
**Саладка́вы.** *Разм.* Тое, што і с а л а д к а в а т ы.
У хаце, змораныя цемнатой, саладкавым пахам памідораў, што ляжалі навалам на падаконніку, сонна гулі мухі. *М. Стральцоў.*
**Саладко́вы.** Які мае адносіны да расліны салодкі.
Саладковы корань.

### САЛАДЗЕЦЬ // САЛАДЗІЦЬ

**Саладзе́ць.** Станавіцца больш салодкім, саладзейшым.
Цукар раствараўся — чай саладзеў.
**Саладзі́ць.** *што.* 1. Рабіць больш салодкім, падсаложваць.
Бабы ж ля печы завіхаюцца, частай і ветлівай гаворкай рассыпаюцца, цукрам пампушкі салодзяць. *П. Галавач.*
2. Прарошчваць зерне для атрымання соладу.
Саладзіць ячмень.

### САЛАМЯНЫ // САЛОМІСТЫ

**Салама́ны.** 1. Які мае адносіны да саломы; зроблены з саломы.
Саламяны стог. Саламяная страха.

**2.** Светла-жоўты, колеру саломы.

У блакітных вачах [Якуба], што сядзелі глыбока пад колкімі саламянымі бровамі, усё яшчэ жыла незадаволенасць сынам. *А. Савіцкі.*

**Сало́місты.** З вялікімі сцёбламі; які дае многа саломы (пра злакі).

Саломістае жыта. Саломісты авёс.

## САЛІТЭР // САЛІЦЁР

**Салітэ́р.** Буйны брыльянт.

Прыгожы салітэр. Дарагі салітэр.

Н я п р а в і л ь н а. У кішэчніку чалавека сустракаецца доўгі і плоскі, падобны да белай істужкі чарвяк — салітэр (трэба: саліцёр), або цэпень. *Заалогія.*

**Саліцёр.** Доўгі плоскі чарвяк, які паразітуе ў кішэчніку чалавека і жывёлы.

Калі такая лічынка (фінка) у нядобра правараным або прасмажаным мясе трапляе ў кішэчнік чалавека, то ў кішэчніку яна вырастае ў стужачнага чарвяка — саліцёра. *В. Іванова.*

## САЛЬДА // САЛЬТА

**Са́льда.** Астатак, розніца па рахунку паміж прыходам і расходам (дэбітам і крэдытам).

— Ніякай катастрофы не відаць... Хоць бы раз Дзямід Мікалаевіч прапіў паўсотню грамадскіх грошай. А так — усё сальда ў нас дэбітовае. *М. Паслядовіч.*

**Са́льта.** Пераварот у паветры цераз галаву (уперад ці назад).

Раптам з вады ракетай уверх выскачыў вялізны шчупак. Ён зрабіў у паветры адмысловае сальта і плюхнуўся назад у ваду. *Р. Ігнаценка.*

## САМАДЗЕЙНЫ // САМАДЗЕЮЧЫ

**Самадзе́йны. 1.** Які дзейнічае актыўна сам, па ўласнаму пачыну; заснаваны на самастойнай ініцыятыве.

Самадзейным спосабам узведзены і цэлы пасёлак з васьмі драўляных дамоў. *Звязда.*

**2.** Які мае адносіны да мастацкай творчасці народных мас; які ўдзельнічае ў самадзейнасці.

Моладзь, пажылыя, старыя калгаснікі і калгасніцы актыўна ўдзельнічаюць у самадзейных гуртках. *А. Бялевіч.*

**Самадзе́ючы.** Які дзейнічае аўтаматычна, сам сабою
Самадзеючыя апараты.

## САМАЛЮБАВАННЕ // САМАЛЮБІВАСЦЬ / САМАЛЮБНАСЦЬ / / САМАЛЮБСТВА // САМАЎЛЮБЕНАСЦЬ

**Самалюбава́нне.** Любаванне самім сабой, сваімі здольнасцямі, поспехамі, заслугамі і г. д.

Яго характару ўласцівы ліхацтва, самалюбаванне, паказны гераізм. *В. Хомчанка.*

**Самалю́бівасць.** Тое, што і с а м а л ю б с т в а.

[Шыковіч] не вызначаўся залішняй самалюбівасцю, але яго заўсёды абурала, калі дзе пачыналася палітыканства — гульня ў важнасць і строгасць. *І. Шамякін.*

**Самалю́бнасць.** Тое, што і с а м а л ю б с т в а.

Ісці дзе-небудзь у сярэдзіне не дазваляла .. Ермакову самалюбнасць. *І. Мележ.*

**Самалю́бства.** Пачуццё ўласнай годнасці, якое звычайна спалучаецца з раўнівымі адносінамі да думкі пра сябе іншых людзей.

А цяпер .. [Платон], бадай, з аднаго самалюбства, хацеў давесці, што і ў яго галава не так сабе на плячах. *М. Ракітны.*

**Самаўлюбёнасць.** Улюбёнасць у сябе самога, упэўненасць у выключнасці сваёй асобы, сваёй знешнасці, у сваіх незвычайных здольнасцях і г. д.

Унутраная пустата, якая прыкрываецца самаўпэўненасцю, «фанабэрыяй», самаўлюбёнасць здаровай жывёлы — вось і ўвесь Задарожны. *Наднёманскія былі.*

## САМАТУЖНІЦКІ // САМАТУЖНЫ

**Самату́жніцкі.** Які мае адносіны да саматужніцтва.
Саматужніцкія вырабы. Саматужніцкі занятак.

**Самату́жны. 1.** Які мае адносіны да саматужнікаў; зроблены ўручную; прымітыўны па выкананню, недасканалы.

Дзядзька Марцін рэзаў сечку на саматужнай сячкарні,— відаць, збіраўся ехаць араць папар. *Я. Колас.*

**2.** *перан.* Неарганізаваны, распылены, адасоблены; малакваліфікаваны.

Адным словам, падрыхтоўка мая была неважнецкая, саматужная. *М. Лужанін.*

## САНАЦЫЯ // САНКЦЫЯ

**Сана́цыя.** Папераджальныя меры па аздараўленню, паляпшэнню стану здароўя (звычайна пра поласць рота).

Вельмі пажадана, каб санацыя поласці рота праводзілася рэгулярна ў зубаўрачэбным кабінеце. *Звязда.*

**Са́нкцыя. 1.** Зацвярджэнне вышэйшай інстанцыяй якога-н. акта, што надае яму прававую сілу; прызнанне законнасці якой-н. з'явы.

Увечары, маючы санкцыю на высяленне, ён прыйшоў разам з міліцыянерам. *Я. Скрыган.*

**2.** Меры ўздзеяння за парушэнне закона.

Не паблажлівы смяшок, не хіхіканне ў жменьку, а жалезная непрымірымасць і суровыя санкцыі да ўсяго і кожнага, хто робіць зло і хто патурае злу, у чым бы яно не выяўлялася. *А. Петрашкевіч.*

**3.** У міжнародным праве: мера ўздзеяння ў адносінах да дзяржавы, якая парушае свае абавязацельствы, дагаворы.

Эканамічныя санкцыі. Ваенныя санкцыі.

### САНЛІВЫ // СОННЫ

**Санлі́вы.** Які вельмі любіць спаць, схільны да празмернага сну, які хоча спаць; вялы.

Відаць, змагаючыся са сном, яна гаварыла ўсё цішэй, голас яе рабіўся ўсё болей санлівы, і неўзабаве дзяўчына сціхла *В. Быкаў.*

**Со́нны.** Які спіць; які не зусім прачнуўся; агорнуты сном.

Паабапал чыгункі праплывалі ў цемнаце сонныя вёскі, рэдка дзе свяціліся ў вокнах адзінокія агні. *І. Чыгрынаў.*

### САП[1] / САП[2] // САПА

**Сап[1].** Заразная хвароба коней і іншых няпарнакапытных, якая небяспечна і для людзей.

— Уявіце самі, у шасцярых коней выяўлены сап. Іх трэба неадкладна знішчыць. *І. Гурскі.*

**Сап[2].** *Разм.* Гукі сапення, цяжкага дыхання.

Вялізны, з падпалінамі на баках ваўкадаў, шырока выкідваючы лапы, з дыхавічным сапам імчаў угору. *В. Быкаў.*

**Са́па.** *Спец.* Акоп, траншэя, падкоп, які робіцца ў напрамку да пазіцыі праціўніка для паступовага і скрытага набліжэння да яго.

Часцей у выразе: ц і х а й  с а п а й — непрыкметна, цішком.
— Ён усё робіць ціхай сапай. *І. Грамовіч.*

**Саслóўе. 1.** Грамадская група, якая склалася на аснове класавых адносін феадалізму са спадчыннымі правамі і абавязкамі.

Селянін атрымаў права выйсці з сялянскага саслоўя і прыпісацца ў мяшчане або купцы. *Гісторыя СССР.*

**2.** У дарэвалюцыйнай Расіі: група асоб, аб'яднаных прафесіянальнымі інтарэсамі.

Акалічнасці далучэння Багушэвіча да адвакацкага саслоўя ўстанаўліваюцца дастаткова поўна па іншых дакументах. *Г. Кісялёў.*

**Саслóўнасць.** Падзел грамадства на саслоўі; прыналежнасць да таго ці іншага саслоўя.

Школьная сістэма была пабудавана на прынцыпах саслоўнасці, прыгнёту шматлікіх народаў, нераўнапраўі жанчын. *І. Ільюшын.*

## САСТАРЫЦЬ // САСТАРЭЦЬ

**Састáрыць.** *каго-што.* Зрабіць старым, больш старым.

Бацьку страта адзінага сына скасіла, састарыла адразу. *Е. Лось.*

**Састарэ́ць.** Стаць старым, больш старым; састарыцца.

Пражыў інжынер жыццё, састарэў, а чаго ён дасягнуў? *У. Шыцік.*

## САТЫР // САТЫРЫК

**Саты́р.** У грэчаскай міфалогіі: істота з казлінымі нагамі, барадой і рагамі — спадарожнік бога віна і весялосці Дыяніса.

Яны такім чынам прадстаўлялі казларогіх сатыраў — спадарожнікаў Дыяніса. *Гісторыя сярэдніх вякоў.*

**Сатырык.** Аўтар сатырычных твораў.

Майстэрства сатырыка выявілася перш за ўсё ў глыбокім разуменні народнага жыцця. *Я. Казека.*

## САЦІНАВЫ // САЦІНЕТАВЫ

**Сацíнавы.** Які мае адносіны да саціну, зроблены з гэтай тканіны.

Сацінавая касаваротка.

**Сацінéтавы.** Які мае адносіны да сацінету — тонкага саціну; зроблены з сацінету.

Ён быў у новай сацінетавай кашулі. *С. Грахоўскі.*

## САЮЗНІЦКІ // САЮЗНЫ

**Саю́зніцкі.** Які мае адносіны да саюзніка.

Раптам схопяць яго за вуха і пацягнуць, куды трэба, выконваючы саюзніцкі дагавор аб выдачы ваенных злачынцаў. *М. Паслядовіч.*

**Саю́зны.** Які мае адносіны да саюза; які ўваходзіць у саюз.

Данбас, Кузбас і Караганда — гэта вугальныя базы саюзнага значэння. *Эканамічная геаграфія СССР.*

## СВІНТУХ // СВІНУХ

**Свінту́х.** *Разм. (звычайна з дружалюбна-дакорлівым адценнем).* Чалавек, які незаслужана робіць непрыемнасці каму-н.; няўдзячны чалавек; брудны, неахайны.

А гэты свінтух Чарлі пад самым носам не бачыць нічога. *М. Гамолка.*

**Свіну́х.** Хлеў для свіней.

С і н о н і м: свінарнік.

Больш як месяц праляжаў .. [Лук'янскі] у чалавека ў нейкім свінуху, укрыты па бараду кудзеляй, кажушынамі і саломай. *К. Чорны.*

## / СВІРЭПА // СВІРЭПІЦА // СВІРЭПКА

**Свірэ́па.** Пустазелле, палявая шматгадовая расліна з жоўтымі кветкамі.

Паміж зялёнага мора, якое хвалямі пералівалася на сонцы, месцамі былі спрэс жоўтыя плямы свірэпы. *І. Гурскі.*

**Свірэ́піца.** Аднагадовая культурная расліна, з насення якой здабываецца тэхнічны алей.

Свірэпіцу іншы раз называюць яшчэ і капустай палявой.

**Свірэ́пка.** Тое, што і с в і р э п а.

— Усё выгарала. Праўда, пустазелле расце. Спякоты не баіцца. Аж жоўта на полі ад свірэпкі. *І. Навуменка.*

## СВЯТЛАФОР // СЕМАФОР

**Святлафо́р.** Сігнальны электрычны ліхтар з чырвоным, жоўтым і зялёным шкельцамі для рэгулявання руху на вуліцах, дарогах і г. д.

Віктар Іванавіч, падышоўшы да акна, адсунуўшы штору, глядзіць на пустую вуліцу, дзе на рагу раўнамерна мігае жоўты ліхтар святлафора. *В. Гігевіч.*

**Семафо́р.** Сігнальнае прыстасаванне на чыгуначных пуцях для перадачы сігналаў па руху паяздоў.

І калі замігцяць семафоры за станцыяй і абалье месяц рэйкі сярэбраным святлом — тады адпачынак. *М. Лынькоў.*

### СЕДЛАВАТЫ // СЕДЛАВЫ

**Седлава́ты.** Які мае форму сядла; выгнуты; з седлавінай (пра каня).

Той матацыкліст, што быў збоку, злез з сядзення і мінуты яшче нешта гаварыў немцу ў высокай седлаватай шапцы. *Б. Стральцоў.*

**Седлавы́.** Які мае адносіны да сядла.

Седлавая папруга. Седлавы майстар.

### СЕКТА // СЕКЦЫЯ

**Се́кта. 1.** Рэлігійная абшчына, якая адасобілася ад царквы.

Рэлігійнымі сектамі называюцца арганізацыі і групы веруючых, якія адкалоліся ад галоўнай, пануючай царквы. *Пытанні рэлігіі і атэізму.*

**2.** *перан.* Наогул усякая адасобленая група людзей.

Усе заклінальнікі змей у Марока — берберы, якія належаць да асобнай секты ці брацтва заклінальнікаў. *В. Вольскі.*

**Секцыя. 1.** Аддзел установы, арганізацыі з пэўнай спецыялізацыяй.

Адбыліся справаздачна-перавыбарчыя сходы творчых секцый Саюза пісьменнікаў БССР. *Полымя.*

2. Адна з частак, якія складаюць штосьці цэлае.

У сіласнай вежы занялі толькі адну секцыю, і кукурузы болей не было. *Я. Ермаловіч.*

### СЕКСТАН / СЕКСТАНТ // СЕКТАНТ

**Секста́н.** Тое, што і с е к с т а н т.

Паказчыкі секстана надзейныя і беспамылковыя.

**Секста́нт.** Вугламерны інструмент, які выкарыстоўваецца ў мараходстве і авіяцыі.

Усе выступаючыя часткі самалёта: антэны, купал астранавігацыйнага секстанта, абцякальнікі крылаў, паветразборнікі — ззялі блакітным халодным агнём. *Звязда.*

**Секта́нт.** Паслядоўнік якой-н. рэлігійнай секты; прадстаўнік якой-н. групы, секты.

Сектантаў Валуеў ненавідзеў. Таксама ён цярпець не мог раскольнікаў. *У. Караткевіч.*

## СЕЛЕКТАР // СЕЛЕКЦЫЯНЕР

**Селе́ктар.** Апарат для адначасовага тэлефоннага выкліку некалькіх або ўсіх абанентаў пэўнай лініі.

[У пакоі] стаяць селектары і тэлефонныя апараты, звязаныя дзесяткамі правадоў з усімі ўчасткамі і службамі будоўлі. *С. Грахоўскі.*

**Селекцыяне́р.** Спецыяліст па селекцыі — паляпшэнню гатункаў раслін ці парод жывёл, вывядзенню новых гатункаў і парод шляхам штучнага адбору.

Красан даведаўся аб цудоўных выніках селекцыянераў [доследнай] станцыі Лошыца. *А. Стаховіч.*

## СЕЛЕКТАРНЫ // СЕЛЕКТЫЎНЫ // СЕЛЕКЦЫЙНЫ

**Селе́ктарны.** Які мае адносіны да селектара — апарата для адначасовага выкліку некалькіх ці ўсіх тэлефонных абанентаў лініі.

Цяпер яго кабінет звязаны з усімі раёнамі вобласці селектарнай сувяззю — адразу можна гаварыць з усімі кіраўнікамі раёна. *Звязда.*

**Селекты́ўны.** Здольны рабіць адбор; выбіральны.

Селектыўная ачыстка нафтапрадуктаў.

**Селекцы́йны.** Які мае адносіны да селекцыі — паляпшэння гатункаў раслін ці парод жывёл, вывядзення новых гатункаў і парод шляхам штучнага адбору.

Яна расказала, што іхні гурток некалькі год праводзіць селекцыйную работу па вывядзенню шыпшыны з больш сакавітымі пладамі, з меншаю колькасцю насення. *У. Дубоўка.*

## СЕЛЯДЗЕЧНЫ // СЕЛЯДЦОВЫ

**Селядзе́чны.** Характэрны для селядца; прыгатаваны з селядцоў.

Селядзечны пах. Селядзечны паштэт.

**Селядцо́вы.** Які мае адносіны да селядца; прызначаны для селядцоў.

Селядцовы хвост. Селядцовы промысел. Селядцовая бочка.

## СЕНАТАРСКІ // СЕНАЦКІ

**Сена́тарскі.** Які мае адносіны да сенатара, належыць яму.

[Містэр Лаян] марыў ужо аб сенатарскім альбо кангрэсменаўскім крэсле, нават думаў часам аб тым, як пачуваў бы ён сябе ў ролі губернатара. *М. Лынькоў.*

**Сена́цкі.** Які мае адносіны да сената, звязаны з яго дзейнасцю.

Большасць членаў сенацкай камісіі выступілі ў падтрымку гэтай прапановы. *Звязда.*

### СЕПАРАТАРНЫ // СЕПАРАЦЫЙНЫ

**Сепара́тарны.** Які мае адносіны да сепаратара — апарата для аддзялення аднаго рэчыва ад другога.

Даяркі памаглі Харбіну паставіць на калёсы бітоны — сённяшняе ён завязе малако ў Белае на сепаратарны пункт. *І. Пташнікаў.*

**Сепарацы́йны.** Які мае адносіны да сепарацыі, прызначаны для сепарацыі — аддзялення аднаго рэчыва ад другога.

Сепарацыйны цэх.

### СЕПАРАТНЫ // СЕПАРАТЫСЦКІ // СЕПАРАТЫЎНЫ

**Сепара́тны.** Асобны, які вядзецца без ведама і згоды саюзнікаў.

Сепаратны мір — у міжнародным праве мір ці перамір'е, што заключаецца паміж дзяржавамі асобна ад сваіх саюзнікаў у вайне. З'яўляецца парушэннем абавязкаў у адносінах да сваіх саюзнікаў. *БелСЭ.*

**Сепараты́сцкі.** Які мае адносіны да сепаратызму — імкнення да аддзялення, адасаблення.

Капітану не вельмі верылі як нашчадку сепаратысцкай фаміліі і ўраджэнцу Магілёва. *У. Караткевіч.*

**Сепараты́ўны.** Які вызначаецца сепаратызмам, прасякнуты сепаратызмам — імкненнем да аддзялення, адасаблення.

Сепаратыўны настрой. Сепаратыўныя выступленні.

### СЕПСІС // СКЕПСІС

**Се́псіс.** Цяжкае інфекцыйнае захворванне: агульнае заражэнне арганізма хваробатворнымі мікробамі, якія трапілі ў кроў.

Праз два дні мяне даставілі ў клініку. Пачалося запаленне тканей, а неўзабаве і сепсіс — агульнае заражэнне крыві. *І. Асіпенка.*

**Ске́псіс.** Крытычна-недаверлівыя, скептычныя адносіны да чаго-н., крайняе сумненне ў чым-н.

Здарылася так, што перад Іванавымі вачыма прамільгнуў вельмі яскравы выпадак з жыцця, які надоўга засмуціў яго нявер'ем і скепсісам. *В. Быкаў.*

## СЕРВІЗ // СЕРВІС

**Сервіз.** Поўны набор сталовай ці чайнай пасуды на пэўную колькасць асоб.

Вось толькі кафейнага сервіза не было, і давялося піць каму з кубкаў, каму са шклянак. *У. Шыцік.*

**Сéрвіс.** Абслугоўванне бытавых патрэб насельніцтва.

Сучаснае прадпрыемства, сучасныя формы сервісу — вось што такое Мінскі цэнтр па рамонту і абслугоўванню аўтамабіляў «Жыгулі». *Звязда.*

## СЕРПАНЦІН // СЕРПЕНЦІН

**Серпанцін. 1.** Доўгая вузкая лента з каляровай паперы, якой упрыгожваюць святочную залу на балях, карнавалах і пад.

Настаўнікі весяліліся гэты вечар. Са столі звісалі рамонкі, і серпанцін, і цацачныя зямныя шарыкі. *Е. Лось.*

**2.** *перан.* Участак звілістай горнай дарогі.

Адхон, зарослы векавымі дрэвамі, цягнуўся з левага боку. У адным месцы на яго ўзбягалі звілістым серпанцінам мармуровыя сходы з шырокімі прыступкамі. *У. Караткевіч.*

**Серпенцін.** Паласаты мінерал белага, зялёнага і іншых колераў з разнастайнымі адценнямі.

Правая рука з каменным бранзалетам з серпенціну адкінута. *У. Караткевіч.*

## СІБЕРНЫ // СІБІРСКІ // СІВЕРНЫ

**Сібéрны.** *Разм.* **1.** Крайне суровы; бязлітасны, жорсткі.

І на гэты раз паэт піша з думкай пра народ, пра яго нялёгкую долю на сіберных паўстанках гісторыі. *А. Марціновіч.*

**2.** Вельмі моцны, рэзкі, люты (пра вецер, мароз і пад.).

Сіберны холад прабіраўся пад вынашаныя шынялі і разлезлыя ад поту гімнасцёркі. *М. Аўрамчык.*

**Сібірскі.** Які мае адносіны да Сібіры, уласцівы ёй; які жыве ў Сібіры.

Пышна закусцілася на сібірскіх аблогах цёмна-зялёным дываном пшаніца. *А. Пальчэўскі.*

**Сіверны.** *Разм.* Паўночны (пра вецер); халодны з рэзкім пранізлівым ветрам (пра пагоду).

Хоць быў сакавік, а яшчэ маразы даходзілі да трыццаці градусаў, бушавалі завеі і секлі сіверныя ветры. *С. Грахоўскі.*

## СІМПАТЫЧНЫ[1] / СІМПАТЫЧНЫ[2] // СІМПТАМАТЫЧНЫ

**Сімпаты́чны**[1]. Які выклікае сімпатыю, прывабны (пра чалавека).

На незнаёмым касцюм, гальштук, белы каўнерык былі вельмі акуратныя, а сам твар мужчыны — сімпатычны. *А. Карпюк.*

**Сімпаты́чны**[2]. *Спец.* Які мае адносіны да вегетатыўнай нервовай сістэмы.

Сімпатычная нервовая сістэма. Сімпатычны нерв.

**Сімптаматы́чны.** Які з'яўляецца знешняй прыкметаю чаго-н.; паказальны ў якіх-н. адносінах.

Зварот да рэальных жыццёвых фактаў быў з'явай глыбока сімптаматычнай і заканамернай. *М. Мушынскі.*

## СІМУЛЯЦЫЯ // СТЫМУЛЯЦЫЯ // СТЫМУЛЯВАННЕ

**Сімуля́цыя.** Прытворства; стварэнне фальшывага ўражання, уяўлення пра што-н.

— Уставай і ты, Максім,— бадзёра гаварыў ён,— хопіць сімуляцыі. Нам у дарогу пара. *М. Машара.*

**Стымуля́цыя.** Выкарыстанне стымулятара — рэчыва, якое стымулюе развіццё раслін і жывёл ці лекавага прэпарата для павышэння працаздольнасці, вынослівасці, для паляпшэння самаадчування.

Стварэнне дадатковых біялагічных крыніц стымуляцыі таго ці іншага ўнутранага органа чалавека можа ў недалёкім будучым ператварыцца з даўняй мары ўрачоў у рэальнасць. *Звязда.*

**Стымулява́нне.** Стварэнне стымулаў да чаго-н., заахвочванне; паскарэнне ажыццяўлення чаго-н.

Эканамічнае стымуляванне вытворчасці.

## СІНДЫКАЛІСЦКІ // СІНДЫКАЛЬНЫ // // СІНДЫКАТНЫ / СІНДЫКАЦКІ

**Сіндыкалі́сцкі.** Які мае адносіны да сіндыкалізму — апартуністычнай плыні ў рабочым руху, прыхільнікі якой разглядалі эканамічную барацьбу як адзіны шлях да сацыялізму.

Сіндыкалісцкія прафсаюзы. Сіндыкалісцкі ўхіл.

**Сіндыка́льны.** Які мае адносіны да сіндыката — прафесіянальных саюзаў у Францыі і некаторых іншых краінах.

Сіндыкальны кангрэс.

**Сіндыка́тны.** Які мае адносіны да сіндыката — капіталістычнай манаполіі, аб'яднання прадпрыемцаў.

Сіндыкатныя арганізацыі.

**Сіндыка́цкі.** Тое, што і с і н д ы к а т н ы.

Сіндыкацкія праблемы.

## СІНЕЦЬ // СІНІЦЬ

**Сінéць. 1.** Станавіцца сінім; світаць, віднець або цямнець, вечарэць.

Косця прачнуўся зацемна: у акне толькі пачынаў сінець блізкі дзень. *В. Адамчык.*

**2.** Вылучацца сваім сінім колерам, віднецца (пра што-н. сіняе).

Дзень быў хмурны, халодны, наўкол сінеў першы сняжок, далікатны такі з выгляду, што шкада было наступаць на яго. *В. Праскураў.*

**Сінíць.** *што.* Фарбаваць у сіні колер, рабіць што-н. сінім; падсіньваць.

Ночка сініць хвалі, многа сіні ў іх. *З. Бядуля.*

## СІРАТЛІВЫ // СІРОЦКІ / СІРОЧЫ

**Сіратлíвы.** Усімі забыты, пакінуты, адзінокі; сумны, тужлівы.

Тады на ўзгорку стаяла адна сіратлівая палясоўшчыкава хатка, і мне, памятаю, заўсёды здавалася, што яму аднаму тут, мабыць, страшна жыць. *Я. Скрыган.*

**Сірóцкі.** Тое, што і сірочы.

Праўда, бацька ў Анціка жыў, але дастатку ў хаце ў іх было не болей, чым у іхняй, сіроцкай. *А. Жук.*

**Сірóчы.** Які мае адносіны да сіраты, характэрны для сіраты; бедны, убогі, мізэрны.

Хлеб сірочы, вядома, нялёгкі, аднак пра яго пакуль што больш думала мама. *Я. Брыль.*

## СІРАЦЕЦЬ //СІРАЦІЦЬ

**Сірацéць. 1.** Станавіцца сіратой, траціць сваіх бацькоў; быць сіратой.

І вось — Алеся сірацее. *Ю. Таўбін.*

**2.** *перан.* Жыць гаротна, цяжка, не мець сувязі з блізкімі; быць у адзіноце, мець самотны выгляд.

Нарэшце Лявон дайшоў да хмызняку, за якім разбягаўся папар, шарэла бязлюдная шаша і сірацеў адзінокі грузавік. *І. Хадановіч.*

**Сірацíць.** *каго-што.* Рабіць сіратою.

— І я падумаў сабе — ну, а чаму я павінен сіраціць сваіх дзяцей? *К. Чорны.*

## СІСТЭМАТЫКА //СІСТЭМАТЫЗАЦЫЯ // // СІСТЭМАТЫЧНАСЦЬ // СІСТЭМНАСЦЬ

**Сістэма́тыка. 1.** *Спец.* Класіфікацыя, групоўка прадметаў, з'яў.

Абгрунтаваўшы гістарычны працэс развіцця відаў, тэорыя Дарвіна запатрабавала іншага падыходу да сістэматыкі арганізмаў. *Народная асвета.*

2. Навука аб размеркаванні жывёл і раслін па класіфікацыйных групах (відах, родах і г. д.).

У наступныя гады мы вывучалі фізіялогію, сістэматыку пазваночных жывёл, параўнальную анатомію, гісталогію і многа іншых прадметаў. *Я. Цынгер.*

**Сістэматы́чнасць.** Наяўнасць сістэмы ў чым-н.; паслядоўнасць, планамернасць.

Чацвёртая ўмова поспеху практыкаванняў — іх сістэматычнасць. *Педагогіка.*

**Сістэматыза́цыя.** Прывядзенне чаго-н. у сістэму, парадак.

Настаў час для работы па сістэматызацыі і апрацоўцы песень і вершаў. *Полымя.*

**Сістэ́мнасць.** Заканамернасць, паслядоўнасць; парадак.

Строгая сістэмнасць у падачы матэрыялу.

## СІТАВАТЫ //СІТАВЫ // СІТНЫ

**Сітава́ты.** Падобны на сіта; з порамі, дробнымі дзірачкамі, пустотамі.

Хрупала пад нагамі падшэрхлая наледзь, а з палёў пахла [illegible] праталін і набраклым сітаватым снегам. *С. Грахоўскі.*

**Сі́тавы.** *Спец.* Які мае адносіны да сіта, сітаў; з сітам, сітамі.

Раней на ўвесь калгас не так ужо многа сітавых веялак, а праз [illegible] трэба было прапусціць увесь змалочаны хлеб, каб ачысціць. *Звязда.*

**Сі́тны.** Прасеяны праз сіта — спечаны з прасеянай праз сіта мукі.

Частавала белым сырам, хлебам сітным, мёдам пчолім. *Я. Купала.*

## СІТАЎКА // СІТНІЦА // СІТНІК / СІТНЕГ / СІТНЯК

**Сітаўка.** Невялічкая птушка шэра-белага колеру з доўгім хвастом, які пастаянна хістаецца.

Скачуць, нібы на спружынах, вёрткія шэрыя пліскі. Тут наловяць іх яшчэ сіткамі ці сітаўкамі. *В. Вольскі.*

**Сі́тніца.** *разм.* Белы хлеб, спечаны з прасеянай праз сіта мукі.

С і н о н і м: сітны хлеб.

Пах [булачкі] нагадваў волю, тую пару, калі можна было купіць пульхную сітніцу, батон, сайку ці свежую французскую булку. *С. Грахоўскі.*

**Сітнік.** Травяністая расліна з мяцёлчатым суквеццем, якая расце звычайна на сырых, балоцістых месцах.

На берагах пасівеў няскошаны сітнік. *С. Грахоўскі.*

**Сітнёг.** Тое, што і с і т н і к.

То цень, то святло прабягаюць па моры сітнягоў. Ад рабізны і аблокаў вада здаецца глыбокай, бяздоннай, свінцова-сіняй. *У. Караткевіч.*

**Сітня́к.** Тое, што і с і т н і к.

І ўздоўж і ўпоперак луг перасякаўся вузкімі, доўгімі і глыбокімі тонямі, заросшымі аерам, сітняком, чаротамі і мяккімі ніцымі лозамі, дзе хаваліся розныя лугавыя птушкі. *Я. Колас.*

### СІТУАТЫЎНЫ // СІТУАЦЫЙНЫ

**Сітуаты́ўны.** Які ўзнікае ў пэўных умовах; выкліканы пэўнымі ўмовамі.

Сітуатыўны падыход.

**Сітуацы́йны.** *Спец.* Які мае адносіны да сітуацыі — сукупнасці водных прастораў, лугоў, гор, населеных пунктаў і г. д., якія паказаны на карце ці плане ўмоўнымі знакамі.

Сітуацыйны план. Сітуацыйная здымка.

### СКАВАРОДКА // СКАВАРОДНІК

**Скаваро́дка.** *Разм.* Невялікая скаварада.

З кашы .. [бабка] рабіла піражкі і падсмажвала іх на скаварodцы. *Я. Колас.*

**Скаваро́днік.** Плоскі круглы хлеб, спечаны на скаварадзе; праснак.

У кутку на доўгай лаве сядзела старая жанчына і жавала кавалак падгарэлага скавародніка. *С. Грахоўскі.*

### СКАЛЬП // СКАЛЬПЕЛЬ

**Скальп.** Скура з валасамі, знятая з галавы (ваенны трафей у некаторых дзікіх плямён).

Гэта ты здзіраеш скальпы, бледнатвары подлы брат. *П. Панчанка.*

**Ска́льпель.** Невялікі хірургічны нож.

Даглядаючы лес, чалавек карыстаецца сякерай, як хірург скальпелем, калі выдаляе пухліну. *В. Шымук.*

## СКАРБНІЦА // СКАРБОНКА

**Ска́рбніца.** Сукупнасць культурных, духоўных ці матэрыяльных каштоўнасцей; месца іх захоўвання; крыніца чаго-н.

Міхась Чарот .. напісаў добрыя паэмы і вершы, якія назаўсёды засталіся ў скарбніцы беларускай літаратуры. *М. Хведаровіч.*

**Скарбо́нка. 1.** Невялікая скрыначка (гліняная пасудзіна рознай формы) з вузкай шчылінай для апускання манет з мэтай іх накаплення, захоўвання, зберажэння.

На камодзе яго ўвагу прыцягнула скарбонка, зробленая ў выглядзе прыгожага белага сабачкі з чырвоным банцікам на шыі. *Я. Васілёнак.*

**2.** Бляшанка для збору ахвяраванняў (у царкве, на водвішчах і г. д.).

Поп да хвоі скарбонку прыбіў, пачалі людзі грошы кідаць багародзіцы, а хто палатно панёс, сала, збожжа. *П. Галавач.*

## СКЛАДНЫ // СКЛАДНЫ // СКЛАДСКІ

**Скла́дны.** *Разм.* **1.** Стройны, зладжаны; рыфмаваны.

Я шчаслівы, што я разам пяю песні з камсамолам. Пяём песні складным сказам, ажно рэхі йдуць наўкола! *Я. Купала.*

**2.** Добра складзены, зграбны, стройны.

[Васіль] быў нават крыху вышэйшы за мяне, складны ў плячах. *П. Кавалёў.*

**Складны́.** Які можна складваць; які складваецца.

Абапал прысунутага да тыльнай сцяны невысокага на перакрыжаваных дашчаных ножках стала адкінуліся сваімі спінкамі два складныя, зробленыя з дубовых лясак, пацямнелыя крэслы. *В. Адамчык.*

**Складскі́.** Які мае адносіны да склада — спецыяльнага памяшкання для складвання і захоўвання чаго-н.

Справа .. на высокім падмурку стаяў прасторны драўляны будынак, абнесены калючай агароджаю, з ахоўнымі вышкамі на вуглах, а злева былі не то гаражы, не то майстэрні, не то складскія памяшканні. *М. Аўрамчык.*

## СКРУГЛЕЦЬ // СКРУГЛІЦЬ

**Скругле́ць.** *Разм.* Патаўсцець, паправіцца; набыць круглявую форму.

Таму й Сычыха сытая, скруглела, як пірог. Сукенкай аксамітавай змятае пыл з дарог! *А. Бялевіч.*

**Скругліць.** *што. Разм.* Зрабіць круглым; надаць круглявую форму.

Скругліць кант дошкі. Скругліць капу сена.

## СКРЫТНЫ // СКРЫТЫ

**Скры́тны.** Які скрывае ад іншых свае пачуцці, настроі, думкі і г. д.

Паглыблены ў сябе, скрытны, ён нібы знарок хаваў, што там у яго душы. *І. Мележ.*

**Скры́ты. 1.** Схаваны ад чыіх-н. вачэй; нябачны; тайны.

Сяргей хацеў ісці скрытымі мясцінамі, па лазняку, а Валодзя ведаў карацейшую дарогу. *У. Федасеенка.*

**2.** Без характэрных знешніх прымет; унутраны.

Скрытая форма хваробы.

## СКУЛАВАТЫ // СКУЛАВЫ // СКУЛАСТЫ

**Скулава́ты.** Пакрыты гнойнымі нарывамі, скуламі; са скуламі.

Скулаватае цела.

**Скулавы́.** Які мае адносіны да скулы — адной з парных касцей твару ніжэй вочніцы над верхняй сківіцай.

Тварная частка чэрапа складаецца з парных касцей — верхнясківічных, скулавых, насавых, паднябенных, няпарнай ніжнясківічнай і некаторых іншых. *Анатомія і фізіялогія чалавека.*

**Скула́сты.** З шырокімі скуламі (пра твар).

Яна была смуглая з твару, чорнавалосая і такая ж скуластая, як маці. *А. Асіпенка.*

## СКУЛЬПТАРСКІ // СКУЛЬПТУРНЫ

**Ску́льптарскі.** Які мае адносіны да скульптара.

У яго яшчэ ў дзяцінстве праявіліся скульптарскія здольнасці, пазней скульптура стала яго захапленнем, якому ён верны ўсё жыццё. *ЛіМ.*

**Скульпту́рны.** Які мае адносіны да скульптуры; які з'яўляецца скульптурай; які перадаецца ў скульптуры; рэльефны.

Выстаўка займала некалькі вялікіх залаў. Сцены былі ўвешаны палотнамі ў рамах з залачонага багету, залы ўстаўлены скульптурнымі і разьбярнымі работамі. *Я. Скрыган.*

## СКУРА // ШКУРА

**Ску́ра. 1.** Верхняе покрыва цела чалавека (радзей — жывёлы).

Зімавец стаяў нерухома, як скамянеў. Адно крылы носа нер-

вова торгаліся ды жаўлакі над скураю на сківіцах бегалі. *В. Карамазаў.*

**2.** Вырабленая шкура жывёлы.

Партфель з жоўтай скуры.

**Шку́ра. 1.** Скура з поўсцю, знешняе покрыва цела жывёл; знятая з забітай жывёлы скура.

Шкурамі таргаваць было лягчэй, чым кнігамі,— гэта адразу ж на сваёй скуры пачаў адчуваць Францыск Скарына. *А. Лойка.*

**2.** *звычайна са словамі «свая», «уласная». перан. Разм.* Пра жыццё, існаванне, стан чалавека.

[У атрадзе] пачыналі ўжо думаць, што .. [Грыцко] пакарыстаўся спадарожнай машынай, каб выратаваць сваю шкуру, уцячы. *Я. Скрыган.*

**3.** *Разм., лаянк.* Пра подлага, нізкага чалавека, які вызначаецца адмоўнымі якасцямі.

— Хацеў прымазацца, шкура,— зноў не стрымаўся невысокі. *У. Дамашэвіч.*

## СКУРАНЫ // СКУРНЫ

**Скураны́. 1.** Які мае адносіны да вырабу скур і да рэчаў са скуры.

З краю гарадка, на беразе рэчкі, некалькі ўжо год існаваў скураны заводзік. *К. Чорны.*

**2.** Зроблены, пашыты са скуры.

Густыя чорныя валасы тапырыліся над смуглым ілбом залатара, лезлі ў вочы, і ён перахопліваў, прыціскаў іх тонкім скураным раменьчыкам. *Л. Дайнека.*

**Ску́рны.** Які мае адносіны да верхняга покрыва цела чалавека і жывёлы.

Скурныя захворванні.

## СЛЕПНУЦЬ // СЛЯПІЦЬ

**Сле́пнуць.** Станавіцца сляпым; траціць здольнасць бачыць.

Гэта быў, бадай, самы шчаслівы дзень у яе жыцці. Дзеля яго можна было слепнуць над газаваю лямпай, недасынаць, каб толькі адчуць, што ты прынёс людзям карысць, што ты патрэбен ім. *С. Грахоўскі.*

**Сляпі́ць.** *каго-што.* **1.** Пазбаўляць зроку, рабіць сляпым; пагаршаць зрок, псаваць вочы.

Твая дзяўчына пры кудзелі сляпіць не будзе ясных вочак. *Я. Купала.*

**2.** *1 і 2 ас. не ўжыв.* Асляпляць яркім, моцным святлом.

Не любіў ігумен срэбра і золата, што слепяць чалавека ў зямным жыцці. *Л. Дайнека.*

**3.** *1 і 2 ас. не ўжыв.* Перашкаджаць глядзець, бачыць, засыпаючы ці залепліваючы, засцілаючы чым-н. вочы.

Пад вечар разгуляўся буран. Вільготны снег сляпіў вочы. Хутка раслі гарбатыя сумёты. *В. Лукша.*

### СЛІЗІСТЫ // СЛІЗКІ

**Слізісты.** Які мае адносіны да слізі, з'яўляецца сліззю; які выдзяляе слізь.

Асцюкаватая мякіна раніць слізістыя абалонкі поласці рота і можа прывесці да розных захворванняў жывёлы. *В. Сапуноў.*

**Слізкі. 1.** Такі, на якім цяжка ўтрымацца, устаяць, або які цяжка ўтрымаць; гладкі.

Мянтуз слізкі, цяжка яго рукамі ўзяць. *М. Лынькоў.*

**2.** *перан.* Ненадзейны, небяспечны; які мае ў сабе што-н. няпэўнае, двухсэнсавае.

Па застылым твары Саладухі паўзе слізкая ўсмешка. *І. Шамякін.*

### СЛОЎНІКАВЫ // СЛОЎНЫ

**Слóўнікавы. 1.** Які мае адносіны да складання і выдання слоўнікаў.

Не выклікае пярэчання і структура слоўнікавых артыкулаў. Яна надзвычай простая, матэрыял падаецца прадумана, эканомна. *Полымя.*

**2.** Які мае адносіны да слоўнікавага саставу, лексікі.

Сінонім: лексічны.

Мова паэта, яго слоўнікавы запас у вершы «Адыходзячы з хаты» здзіўляюць сваім багаццем і сваёй разнастайнасцю. *Р. Бярозкін.*

**Слóўны.** Які мае адносіны да слова, складаецца са слоў; выказаны словамі.

Найлепшы твор — гэта той, які мае найбольшую ідэйную нагрузку пры найкарацейшым і найдасканалейшым слоўным выражэнні. *Я. Колас.*

### СЛУЖАЧЫ // СЛУЖБОВЫ // СЛУЖЫВЫ / СЛУЖЫЛЫ

**Слýжачы.** Той, хто працуе па найму ў сферы разумовай ці фізічнай працы, звязанай не з вытворчасцю, а са сферай абслугі.

Сярод рабочых і служачых жанчыны складаюць 47 працэнтаў. *Звязда.*

**Службо́вы.** Звязаны са службай; які мае адносіны да выканання абавязкаў па службе.

Гэткай вось раніцай ехаў я ў сваю вёску па неадкладных службовых справах. *М. Ніканові́ч.*

**Служы́вы.** *Уст.* Салдат, ваеннаслужачы.

— Здароў, служывы! — махнуў галавою Міця, ідучы водле фуры, зацярушанай ахапкаю сена, на якім ляжала бельгійская з крывою рукаяткаю вінтоўка. *В. Адамчык.*

**Служы́лы.** *Гіст.* Які знаходзіўся на службе; які атрымаў званне, чын не па спадчыне, а як узнагароду за дзяржаўную службу.

Равінскія былі старадаўнім служылым дваранскім родам. *Полымя.*

### СЛЯЗІСТЫ // СЛЯЗЛІВЫ

**Слязі́сты.** Які выдзяляе слёзы; які хварэе на слёзацячэнне.

Хутка ўсе пайшлі на работу, у бараку засталіся толькі Федзя з маці ды старая сербка з сівай галавой і слязістымі вачыма. *В. Хомчанка.*

**Слязлі́вы. 1.** Які часта плача (пра чалавека); схільны да слёз.

Твары ў людзей прасветленыя, шмат хто выцірае вочы, не адна Ніна такая слязлівая. *Л. Арабей.*

**2.** Які выклікае жаласць, спачуванне.

Слязлівы расказ.

**3.** *Разм.* Напоўнены слязамі, са слязамі (пра вочы).

Кабыла navярнула галаву і зірнула сумнымі слязлівымі вачыма. *А. Чарнышэвіч.*

### СЛЯПАК // СЛЯПЕНЬ

**Сляпа́к.** *Разм.* **1.** Чалавек, які не заўважае чаго-н.; ашуканецца ў чым-н.

— Чым ён адрозніваецца ад Сядураў? Тым, што своечасова не перафарбаваўся? Слепакі! *М. Лобан.*

**2.** Тое, што і с л я п е н ь.

На тым востраве — непралазныя карчы, камары, куслівыя слепакі. Але ж і трава там у пояс. *І. Капыловіч.*

**Сляпе́нь.** Двухкрылае насякомае, самка якога жывіцца крывёю жывёлы і чалавека.

Мухі і сляпні не давалі спакою каню, атакуючы яго з усіх бакоў. *І. Мележ.*

### СМАГЛЫ // СМУГЛЫ

**Сма́глы.** Перасохлы, сасмаглы (звычайна пра губы).

Лаянкі і праклянцці хацелі зрывацца са смаглых губ, але нема маўчалі яны. *З. Бядуля.*

**Смýглы.** Больш цёмнай афарбоўкі (пра скуру).

Смуглы твар яго пацямнеў яшчэ больш. *П. Рунец.*

## СМАЛІСТЫ / СМАЛОВЫ // СМАЛЯНЫ / СМОЛЬНЫ

**Смалíсты. 1.** Багаты смалою; у якім многа смалы.

Полымя зырка гарэла, прагна хапалася за сырую смалістую іглiцу, якая спачатку густа дымілася, тлела, потым з трэскам успыхвала, як порах. *М. Лынькоў.*

**2.** Характэрны для смалы; насычаны пахам смалы.

Пах смалісты п'ю і не нап'юся. *П. Панчанка.*

**Смалóвы.** Тое, што і с м а л і с т ы.

Вецер пах вадою і смаловым настоем далёкіх і блізкіх бароў. *С. Грахоўскі.*

**Смаляны́. 1.** Які мае адносіны да смалы, уласцівы ёй.

Сасонкі ў заводскім парку выпусцілі бледна-зялёныя кволенькія іголачкі, напаілі паветра стойкім смаляным водарам. *У. Шыцік.* ‖ Які мае адносіны да здабычы ці атрымліваецца са смалы, прадуктаў яе перапрацоўкі. Апрача асноўнай прадукцыі — каніфолі і шкіпінару — завод будзе выпускаць смаляныя маслы для гумавай прамысловасці. *Беларусь.*

**2.** Апрацаваны смалой; прасмолены.

Кончыўся прыгарад, потым была рэчка, на яе пясчаным беразе ляжалі, як вялікія рыбіны, чаўны і грэлі на сонцы свае смаляныя бакі. *Л. Гаўрылкін.*

**3.** Чорны і бліскучы (пра валасы).

Яна ведала, што накладная смаляная каса будзе віцца так, як захоча гаспадыня. *У. Караткевіч.*

**Смóльны.** Тое, што і с м а л і с т ы.

Горад .. сухі, выветраны на вятрах, смалісты, бо смольныя сцены шашаль не бярэ, бо як смаловы, то ўжо лічаць — вечны. *А. Лойка.*

## СОТНІК // СОЦКІ

**Сóтнік.** У дарэвалюцыйнай Расіі: афіцэрскі чын у казацкіх войсках, які адпавядаў чыну паручніка ў пяхоце.

Прыбег казацкі сотнік. *З. Бядуля.*

**Сóцкі.** У дарэвалюцыйнай Расіі: выбарная асоба з сялян, якая дапамагала паліцыі падтрымліваць парадак у вёсках.

Ураднік, стражнік, соцкі і дзесяцкія ўзышлі на ганак папоўскага дома і пастукалі. *Я. Колас.*

## СПАДЧЫНА // СПАДЧЫННАСЦЬ

**Спа́дчына. 1.** Маёмасць, якая пераходзіць каму-н. пасля смерці яе ўладальніка; тое, што пакінута папярэднікам у якой-н. галіне дзейнасці, справе.

Фарфоравыя талеркі, па-мастацку распісаныя,— спадчына пана Скірмунта — былі напоўнены закускамі. *А. Чарнышэвіч.*

2. З'явы культурнага жыцця, быту, якія ўспрыняты ад папярэдніх дзеячаў.

Авалоданне класічнай спадчынай мела важнае значэнне для развіцця самабытнага таленту Коласа. *Л. Фігдоўская.*

**Спа́дчыннасць. 1.** Сукупнасць прыродных асаблівасцей арганізма, атрыманых ад бацькоў ці папярэднікаў.

Гэтыя працы паказалі, што пад уплывам угнаенняў можна змяняць і спадчыннасць расліны, змяняць прыроду расліны. *Беларусь.*

**2.** Тое, што і с п а д ч ы н а.

Уласнік гэтага пляца, наспеўшы зацвердзіцца ў правах спадчыннасці, падаў на ўласніка завода ў суд. *К. Чорны.*

## СПЕКУЛЯНЦКІ // СПЕКУЛЯЦЫЙНЫ[1] / СПЕКУЛЯЦЫЙНЫ[2]

**Спекуля́нцкі.** Які мае адносіны да спекулянта, спекуляцыі.

Ад спекулянцкай той зарплаты разбагацеў, раззлаваўся. *П. Панчанка.*

**Спекуляцы́йны**[1]. Які мае адносіны да спекуляцыі, заснаваны на спекуляцыі.

Удзельнікамі буйных спекуляцыйных аперацый з'яўляліся і прадстаўнікі мясцовых улад. *І. Саладкоў.*

**Спекуляцы́йны**[2]. У філасофіі: заснаваны на абстрактных разважаннях; адарваны ад вопыту і практыкі, разумова-абстрактны.

Спекуляцыйная філасофія.

## СПРУЖЫНІСТЫ // СПРУЖЫННЫ // СПРУЖЫНОВЫ

**Спружы́ністы.** Пругкі, як спружына; здольны спружыніць.

Адным кароткім спружыністым рухам [вугор], як змяя, выслізне з вашых рук — і толькі яго і бачылі. *А. Матрунёнак.*

**Спружы́нны.** Які ідзе на выраб спружын; які мае спружыны, зроблены на спружынах (пра мэблю).

Дамы драўляныя, вялікія, на чатыры ды пяць пакояў, з мяккімі спружыннымі канапамі і крэсламі. *А. Русецкі.* ‖ Які дзейнічае пры дапамозе спружыны. Спружынная жарліца — больш дасканалая і надзейная снасць. *А. Матрунёнак.*

**Спружыно́вы.** Які дзейнічае пры дапамозе спружын.

Спружыновая барана.

**Стабілізава́ны.** Зроблены стабільным, устойлівым.

Стабілізаваны ўчастак фронту.

**Стабілізацы́йны.** Які мае адносіны да стабілізацыі, накіраваны на захаванне ці дасягненне раўнавагі.

Стабілізацыйныя гандлёвыя пагадненні.

## СТАЖОРКА // СТАЖЫРОЎКА

**Стажо́рка.** Жанчына, якая праходзіць стажыроўку.

Танклявы дзявочы галасок нешта намагаўся яму загадваць. Гэта крычала Дашына стажорка, свінарка з суседняга саўгаса. *В. Хомчанка.*

**Стажыро́ўка. 1.** Праходжанне выпрабавальнага тэрміну перад залічэннем на работу.

Прыглядаўся да калегі, выпытваў розныя дробязі, і калі рашыў, што стажыроўку паспяхова прайшоў, выехаў у злучэнне. *А. Алешка.*

**2.** Праходжанне навучэнцамі вытворчай практыкі для набыцця вопыту і авалодання спецыяльнасцю.

Штосьці падобнае Чарняхоўскі адчуваў у Бабруйску, прыехаўшы туды з Акадэміі на стажыроўку. *І. Мележ.*

## СТАЛАГМІТ // СТАЛАКТЫТ // СТАМАТЫТ

**Сталагмі́т.** Канічны вапнавы нарост на дне пячоры, утвораны кроплямі вады з растворанай у ёй вапнаю.

А на падлозе пячоры вырастаюць вапнавыя слупкі — сталагміты. *У. Мезенцаў.*

**Сталакты́т.** Канічны вапнавы нарост на верхняй частцы ўнутры пячоры, утвораны кроплямі вады з растворанай у ёй вапнаю.

Ледзяшы-сталактыты ружовае солі ў падзямеллі чамусьці нагадвалі мне позні сок на бярозах. *М. Аўрамчык.*

**Стамата́т.** Запаленне слізістай абалонкі поласці рота.

Пры захворванні інфекцыйным стаматытам ужываем белы стрэптацыд. *С. Лаўшук.*

## СТАМЛЕННЕ // СТАМЛЯЛЬНАСЦЬ // СТОМА // СТОМЛЕНАСЦЬ

**Стамле́нне.** Страта сіл; зморанасць, стома.

Свежа стала на зямлі; лёгкае стамленне ахапіла ўсё цела. *А. Чарнышэвіч.*

**Стамля́льнасць.** Схільнасць да хуткага стамлення.

Збядненне арганізма чалавека фосфарам прыводзіць да па-

ння працаздольнасці, стамляльнасці, нервовасці, раздражняльнасці. *Хімія.*

**Сто́ма.** Аслабленне сіл, зморанасць ад цяжкай работы ці чаго-н. занятку.

Зараз ён быў у нейкім забыцці ад нечалавечай стомы. *І. Мележ.*

**Сто́мленасць. 1.** Абяссіленне, зморанасць; бяссілле.

Адчуваючы вялікую млявасць і моцную стомленасць, мы выбраліся на край лесу і разораю між аўса рушылі ў цёмнае знямелае поле. *В. Адамчык.*

**2.** *Спец.* Змяненне механічных і фізічных уласцівасцей матэрыялу пад уздзеяннем напружання і дэфармацыі.

Стомленасць металу.

## СТАНІЦА // СТАНЦЫЯ

**Стані́ца.** Вялікае казацкае сяло на Доне, Кубані і ў некаторых іншых абласцях.

Дзень, што перагарэў на вачах і асыпаўся попелам за станіцаю ў стэпе, выдаўся, можа, занадта ўжо спякотны і для поўдня краіны. *І. Чыгрынаў.*

**Ста́нцыя. 1.** Пункт астаноўкі чыгуначных паяздоў, якія курсіруюць па пэўнаму маршруту.

Яны ішлі на станцыю, але не па дарозе, а праз сасновы лясок, што рос астраўком паміж мястэчкам і чыгункай. *І. Чыгрынаў.*

**2.** Спецыяльная ўстанова, якая абслугоўвае ў якіх-н. адносінах насельніцтва, арганізацыі раёна і інш.

Лодачная станцыя. Тэлефонная станцыя. Станцыя юных натуралістаў.

## СТАНІЧНЫ // СТАНЦЫЙНЫ

**Стані́чны.** Які мае адносіны да станіцы, характэрны для яе.

Са станічнага парку, які пачынаўся адразу па той бок вуліцы, улівалася ў пакой, затапляючы яго да краёў, музыка. *І. Чыгрынаў.*

**Станцы́йны.** Які мае адносіны да чыгуначнай станцыі, характэрны для яе.

Максім глянуў на станцыйны гадзіннік — да цягніка заставалася трохі больш за дзесяць хвілін. *І. Чыгрынаў.*

## СТАНКОВЫ // СТАНОЧНЫ

**Станко́вы. 1.** Які ўмацаваны на станку — на металічнай аснове, лафеце.

З вокнаў, з дахаў вялікіх і малых пристанцыйных будынкаў касілі станковыя кулямёты. *А. Капусцін.*

**2.** Які мае адносіны да твораў мастацтва, створаных на станку — прыстасаванню для ўмацавання палатна.

Акрамя кніжнай графікі, пачынаючы з XVI ст. [на Беларусі] развіваецца станковая. *В. Шматаў.*

**Станóчны.** Які мае адносіны да станка для апрацоўкі якіх-н. матэрыялаў (металу, драўніны і г. д.).

Станочнае абсталяванне. Аўтаматычныя станочныя лініі.

### СТАНЧЫЦЬ // СТАНЧЭЦЬ

**Станчы́ць.** *што.* Зрабіць вельмі тонкім, танчэй, чым трэба. Станчыць нітку. Станчыць вяроўку.

**Станчэ́ць.** Стаць вельмі тонкім.

Рукі зусім станчэлі пасля хваробы.

### СТАРАННЫ // СТАРАЦЕЛЬСКІ

**Стара́нны.** Які адносіцца да работы, справы са стараннем; дбайны.

С і н о н і м: руплівы.

Ён меў выдатныя здольнасці і быў незвычайна старанны. *Я. Колас.*

**Стара́цельскі.** Які мае адносіны да старацеля — чалавека, што займаецца саматужнай здабычай золата.

Чым ён толькі не займаўся на сваім вяку! Спачатку працаваў у лесе, на шахце, быў рыбаком, паспрабаваў і старацельскі занятак, але грошай вялікіх не нажыў. *ЛіМ.*

### СТАРТЭР // СТАТАР

**Ста́ртэр. 1.** Той, хто дае сігнал старту — пачатку спартыўных спаборніцтваў

Раздаўся выстрал суддзі-стартэра, і група красменаў памкнулася наперад. *Беларусь.*

**2.** Прыстасаванне для пуску ў ход рухавікоў унутранага згарання.

Асцярожным рухам нагі націснуў на стартэр. Матор загуў роўна, прыглушана. *А. Шашкоў.*

**Ста́тар.** *Спец.* Нерухомая частка электрычнай машыны (генератара, рухавіка і інш.).

На статары — нерухомай аснове генератара — у такіх жа пазах размешчана абмотка. *П. Рунец.*

## СТАРШЫ // СТАРЭЙШЫ // СТАРЭЧЫ

**Стáршы. 1.** Вышэйшы па званню, пасадзе, службоваму становішчу.

Калышаў ужо сам сабой як бы стаў іх камандзірам. Ён быў старэй іх старшы па званні, і ўсе, нават сяржант, камандзір аддзялення, чакалі яго каманд. *І. Мележ.*

2. Той, хто стаіць на чале якой-н. групы людзей; начальнік.

Выйшаў нарад пагранічнікаў, прыпыніўся і, пад каманду старшага, з вінтоўкамі на плячах, пашыбаваў па беразе абводнага канала крэпасці, гулка адбіваючы крок. *М. Лупсякоў.*

3. Больш блізкі да выпуску, да завяршэння вучобы (звычайна пра клас, курс).

Вучні старшых класаў рабілі кармушкі для птушак, шпакоўні. *Беларусь.*

**Старэ́йшы. 1.** Той, якому больш гадоў у параўнанні з кім-н.; самы дарослы сярод каго-н.

Мама заўсёды патрабавала ад нас гаварыць праўду, не ашукваць, не крыўдзіць слабых, паважаць старэйшых. *У. Дамашэвіч.*

2. Які даўно існуе, узнік, утварыўся.

Добрушскі цэлюлозна-папяровы камбінат «Герой працы» — старэйшае прадпрыемства Беларусі. *ЛіМ.* ‖ Які даўно займаецца чым-н.; вопытны, спрактыкаваны. П'ер Паола Пазаліні — старэйшы майстар італьянскага кіно. *Маладосць.*

**Старэ́чы.** Які мае адносіны да старога, характэрны для яго.

Бабка не спіць. Яна проста думае свае старэчыя думкі, сухія, як і сама старасць, простыя, як і ўсё жыццё яе, нецікавыя, як і яе доля. *Я. Колас.*

## СТАРШЫНА // СТАРШЫНЯ

**Старшынá.** Старшае званне малодшага каманднага саставу былой Савецкай Арміі.

Заўжды абавязкова ёсць знаёмыя ў нас — ці то лекар, ці то повар, ці то ротны старшына. *П. Панчанка.*

**Старшыня́.** Кіраўнік пасяджэння, сходу, арганізацыі, установы і інш.

Калгасны старшыня чымсьці нагадваў былога вайсковага старшыну: таксама ўмеў прыпукаць да працы. *А. Асіпенка.*

## СТАРЫЦЬ // СТАРЭЦЬ

**Стáрыць.** *каго-што.* Рабіць больш старым, падобным на старога.

Сур'ёзнасць старыць малады твар. *Л. Калюга.*

**Старэ́ць. 1.** Станавіцца старым ці больш старым.

— Настаўнікі старэюць, вучні сталеюць. Усё як трэба. *В. Карамазаў.*

**2.** Станавіцца ўстарэлым.

Лепшае з тае творчае спадчыны, якую пакінуў Андрэй Александровіч, не старэе. *А. Звонак.*

### СТАТУС // СТАТУТ

**Ста́тус.** У міжнародным праве: становішча, стан.

Вілейка, якая атрымала статус паветовага горада ў 1796 годзе, на працягу ўсяго XIX стагоддзя была невялікім горадам са слаба развітой эканомікай. *Звязда.*

**Ста́тут.** Звод палажэнняў, якія вызначаюць структуру, прынцыпы і парадак дзейнасці якой-н. арганізацыі, установы; парадак выканання, прымянення чаго-н.

У школьнікаў ёсць свой участак і свой статут, свой брыгадзір і свая зарплата. *Маладосць.*

### СТАТЫСТЫЧНЫ // СТАТЫЧНЫ

**Статысты́чны.** Які ажыццяўляе колькасны ўлік у якой-н. галіне народнай гаспадаркі, грамадскім жыцці.

Шырока скарыстаны даведчны і статыстычны матэрыял, які дае поўнае ўяўленне пра колькасць розных звёнаў Саветаў і іх органаў. *Полымя.*

**Статы́чны.** Звязаны са станам раўнавагі, спакою, нерухомасці — у якім няма руху, дзеяння, развіцця; п р о ц і л. дынамічны.

Янка Купала дасканала ўмеў перадаваць праз карціны прыроды плыннасць часу. Такім чынам, пейзаж у Купалы не статычны, а дзейсны і дынамічны элемент. *Р. Шкраба.*

### СТВАЛАВАТЫ // СТВАЛАВЫ // СТВАЛІСТЫ // СТВАЛОВЫ // СТВОЛЬНЫ

**Ствалава́ты.** Падобны на ствол, цвёрды (пра расліны).

Ствалаватае сцябло.

**Ствалавы́.** Які мае адносіны да ствала (пра дрэвы, агнястрэльную зброю).

Ствалавая частка сасны. Ствалавы канал вінтоўкі.

**Ствалі́сты.** Які мае шмат ствалоў (пра дрэва, куст).

Ствалісты граб.

**Ствало́вы. 1.** Тое, што і с т в а л а в ы.

Ствалавая драўніна. Ствалавая частка зброі.

**2.** *у знач. наз.* Той, хто кіруе спускавым механізмам у шахце.

Яго брат працуе ў шахце ствалавым.

**Ство́льны.** Які мае адносіны да ствала (пра агнястрэльную зброю).

Ствольная каробка. Ствольныя нарэзы.

## СТРАКАТАЦЬ // СТРАКАЦЕЦЬ // СТРАКАЦІЦЬ

**Страката́ць.** Утвараць строкат (пра некаторых насякомых, птушак).

Стракаталі конікі, густа і моцна пахла падсохлымі краскамі, аж кружылася галава ад гэтага духавітага настою. *Л. Леванович.* ‖ Утвараць рэзкія кароткія і частыя гукі (пра матор, кулямёт і інш.). Поле поўніцца жыццём — спорна і дробна стракоча жнярка. *І. Мележ.*

**Стракаце́ць. 1.** Вылучацца сваёй стракатасцю; пярэсціцца; здавацца стракатым, рознакаляровым.

Імшары стракацяць рознакаляровымі сыраежкамі, бабкамі, падасінавікамі. *Б. Сачанка.*

2. *перан.* Змяшчаць шмат чаго-н. аднароднага, што часта паўтараецца.

Таўбін любіў ужываць словы-абрубкі, яго юныя вершы часамі стракацелі іншамоўнымі слоўцамі. *С. Шушкевіч.*

**Страка́ціць.** *што.* Рабіць стракатым, надаваць стракаты выгляд.

Скрозь лісце бярозы, пад якой сядзела Зоя, прасочвалася мяккае святло і стракаціла зямлю, лаўку, Зоіны рукі, сукенку. *А. Пальчэўскі.*

## СТРАЛЕЦКІ // СТРАЛКОВЫ

**Страле́цкі.** Які мае адносіны да стральцоў — ваеннаслужачых асобага пастаяннага войска ў Рускай дзяржаве XVI — пачатку XVIII ст.

Прымаліся меры па ўмацаванню ваенных сіл: былі павялічаны пастаянныя стралецкія войскі, былі сфарміраваны конныя і пешыя палкі, навучаныя іншаземцамі. *Гісторыя сярэдніх вякоў.*

**Стралковы. 1.** Які мае адносіны да стралкоў; сфарміраваны са стралкоў.

Стралковы полк выгрузілі на невялікай станцыі, назву якой ніхто не ведаў. *І. Навуменка.*

2. Які мае адносіны да стральбы з агнястрэльнай зброі, звязаны з такой стральбой.

Болей вобмацкам, чым што-небудзь бачачы, байцы скраблі ў цемры лапаткамі — капалі траншэю, каб злучыць яе стралковыя ячэйкі. *В. Быкаў.*

## СТРАЛЬБА // СТРАЛЯНІНА // СТРЭЛЬБА

**Стральба́.** Выстралы, а таксама гукі ад іх.

За мястэчкам стральба чутна была да самай раніцы. *К. Чорны.* ‖ Вучэбныя, трэніровачныя заняткі, у час якіх страляюць па цэлях. Гэты выпадак здарыўся, калі я быў ваенным лётчыкам. Мы займаліся тады стральбой па наземных цэлях. *В. Хомчанка.*

**Стралянíна.** Частая стральба з многіх ружжаў, гармат і пад.

Ішлі б, можа, далей, ды на ўзгорку, з якога ва ўсе бакі адкрываліся палі, жыта і жыта, спелае, сумнае ў гэтую пару без людзей, жаночых белых хусцінак, данеслася стралянína. *В. Карамазаў.*

**Стрэ́льба.** Ручная агнястрэльная зброя з доўгім ствалом.

Заціснуў дзед стрэльбу між ног, адрэзаў гамёлку хлеба і сала і сілкуецца. *Я. Колас.*

## СТРУКАВАТЫ // СТРУКАВЫ / СТРУКОВЫ

**Струкава́ты. 1.** Які мае шмат струкоў.

Струкаваты гарох. Струкаватая фасоля.

2. *Разм.* Кучаравы (пра шэрсць, пра валасы чалавека).

Адкінуліся дзверцы і высунулася белавалосая струкаватая галава шафёра, яшчэ зусім маладога хлопца. *І. Пташнікаў.*

**Стру́кавы.** Са струкамі, у струках; з зярнятамі ў струках.

Струкавыя культуры.

**Струко́вы.** Тое, што і с т р у к а в ы.

Струковая расліна.

## СТРУКТУРА // СТРУКТУРНАСЦЬ

**Структу́ра.** Узаемнае размяшчэнне і сувязь састаўных частак, элементаў чаго-н., якія забяспечваюць цэласнасць.

С і н о н і м: будова.

Усё большая колькасць прадпрыемстваў пераходзіць на брыгадную структуру. *Маладосць.*

**Структу́рнасць.** Наяўнасць пэўнай структуры ў чым-н.

Многія намагалі на тое, каб як мага больш пасеяць канюшыны, бо гэта не толькі добры корм, але і самы лепшы метад паляпшання структурнасці глебы. *А. Кулакоўскі.*

## СТРЭЛАЧНЫ // СТРЭЛКАВЫ

**Стрэ́лачны. 1.** Які мае адносіны да стрэлкі ў розных вымяральных прыборах.

Стрэлачны гадзіннік. Стрэлачны манометр.

2. Які мае адносіны да стрэлкі на чыгунцы.

Стрэлачны пост. Стрэлачны рычаг.

**Стрэлкавы.** Які даў, пусціў стрэлку — бязлістае тонкае сцябло з суквеццем (пра расліны).

Стрэлкавы куст цыбулі. Стрэлкавы часнок.

## СТУПА // СТУПЕНЬ // СТУПНЯ

**Ступá.** Тэмп руху пры хадзьбе, яздзе на кані.

С і н о н і м ы: поступ, паходка.

Раман запрог каня, палажыў на драбінкі плуг і мернаю ступою паехаў паўскрай яру. *Я. Колас.*

**Ступéнь. 1.** Гарызантальны выступ лесвіцы, на які ступаюць пры ўздыме ці спуску.

С і н о н і м ы: ступенька, прыступка.

Сесія ў самым разгары. Студэнты чытаюць як ніколі раней. Чытаюць усюды: дома, у бібліятэках, у аўдыторыях, на галіло- [illegible] акон, навет на ступенях лесвіцы — перад заходам на экзамен. *ЛіМ.*

2. *перан.* Этап у развіцці, здзяйсненні чаго-н.

Ступень развіцця грамадства не бывае аднолькавай для розных краін.

**Ступня́.** Ніжняя частка нагі ад шчыкалаткі ўніз.

Ён пераступіў з нагі на нагу: ступні балелі, саднелі, заходзілі ад спёкі, але цяпер ён не зважаў на іх. *В. Быкаў.*

## СТЭРЫЛІЗАЦЫЯ // СТЭРЫЛЬНАСЦЬ

**Стэрылізáцыя.** Знішчэнне мікраарганізмаў кіпячэннем, прапрасаваннем, уздзеяннем хімічных рэчываў і г. д.

С і н о н і м: абеззаражванне.

Мала куды ідзе аперацыйная сястра з біксаю, можа нясе інструмент у стэрылізацыю, ды мала яшчэ што можна рабіць пасля аперацыі. *Л. Арабей.*

**Стэрыльнасць.** Адсутнасць на чым-н. мікраарганізмаў.

Не маючы ўяўлення аб мікробах, стэрыльнасці, дэзінфекцыі, прымяняючы самыя розныя брудныя інструменты, яны [знахары] калечаць сваіх пацыентаў, а то і зусім прыводзяць да гібелі. *Пытанні рэлігіі і атэізму.*

## СУБ'ЕКТЫВІСЦКІ // СУБ'ЕКТЫЎНЫ

**Суб'ектывíсцкі.** Які мае адносіны да суб'ектывіста, суб'ектывізму — ідэалістычнага напрамку ў філасофіі, які сцвярджае, што развіццё грамадства вызначаецца не аб'ектыўнымі закана-

мернасцямі, а суб'ектыўнымі фактарамі — воляй, жаданнямі, імкненнямі пэўных асоб.

Усе суб'ектывісцкія тэорыі мастацтва адрываюць творчую дзейнасць пісьменніка ад аб'ектыўнай рэчаіснасці, ігнаруюць грамадскую прыроду мастацкага мыслення. *Полымя.*

**Суб'екты́ўны.** Які мае адносіны да суб'екта, чалавека, да яго асобы, дзеяння, паводзін; пазбаўлены аб'ектыўнасці, аднабаковы.

Лірычнае «я», здаецца, па-ранейшаму густа засеяла творы паэта, але яно не заўсёды выказвала суб'ектыўнае ўспрыманне свету. *М. Арочка.*

### СУБСТАНТЫВАВАНЫ // СУБСТАНТЫЎНЫ

**Субстантывава́ны.** У мовазнаўстве: які перайшоў у катэгорыю назоўнікаў.

Субстантываваныя словы выступаюць у сказе ў той жа сінтаксічнай функцыі, што і назоўнікі.

**Субстанты́ўны.** У мовазнаўстве: **1.** Такі, у якім галоўным словам з'яўляецца назоўнік.

Аўтары твораў на-рознаму ўводзяць субстантыўныя перыфразы ў моўнае палатно. *Г. Малажай.*

**2.** Які выступае ў ролі назоўніка.

Субстантыўны прыметнік. Субстантыўныя словы.

### СУДЗЕЙСКІ // СУДОВЫ

**Судзе́йскі. 1.** Які мае адносіны да суддзі — службовай асобы ў органах суда.

Патраціўшы дзесяць тысяч долараў на набыццё судзейскай пасады, [Грынфілд] хацеў як мага хутчэй вярнуць назад патрачаныя грошы. *М. Лынькоў.*

**2.** *Уст.* Які служыць у судзе, судовым апараце.

Гэты знак зіхацеў на кожным гузіку форменнага мундзіра судзейскіх чыноўнікаў. *Г. Кісялёў.*

**Судо́вы. 1.** Які мае адносіны да суда.

— Я не веру, што Іван Мікалаевіч мог зрабіць гэта. Паверу наконт многіх, але наконт яго — ніколі. Тут відавочна судовая памылка. У ёй разбяруцца. *У. Караткевіч.*

**2.** Які мае адносіны да судаводства — разгляду крымінальных і грамадзянскіх спраў у судзе.

Вядома, што ў судовых працэсах памешчыкаў з сялянамі Багушэвіч заўсёды абараняў інтарэсы сялян. *М. Ларчанка.*

## СУКЕНКА // СУКОНКА

**Сукéнка.** Жаночае адзенне, верхняя частка якога, што адпавядае кофце, складае адзінае цэлае з ніжняй часткай, якая адпавядае спадніцы.

Сінонім: плацце.

На Лёдзі была новая, з залацістым зіхценнем муаравая сукенка. *У. Карпаў.*

**Сукóнка. 1.** Абрэзак сукна ці іншай шарсцяной тканіны для чысткі, націрання чаго-н.

Свідзерскі знайшоў на кватэры начальніка станцыі шчотку і доўга шоргаў ёю па чаравіках, потым драіў яшчэ і суконкай. *В. Хомчанка.*

2. Суконная ануча.

[Пракоп] рашуча падымаецца з пасцелі, запальвае газоўку. Абуваецца. Накручвае на ногі суконкі, надзявае лепшыя боты. *Я. Колас.*

## СУМАВЫ // СУМАРНЫ

**Сýмавы.** *Спец.* Які характарызуе што-н. з боку вартасці, грашовай сумы.

Сумавыя паказчыкі выканання плана ўвогуле былі даволі высокія, што сведчыла аб паспяховым ажыццяўленні пастаўленых задач. *Звязда.*

**Сумáрны.** *Кніжн.* **1.** Які атрыманы ў выніку складання, з'яўляецца агульнай сумай чаго-н.

Сумарны расход вады на патрэбы прамысловасці цяпер перавышае расход яе на бытавыя патрэбы. *Звязда.*

**2.** Не канкрэтызаваны, абагульнены.

Коласаўскі селянін — асоба даволі ўстойлівая, надзеленая пэўнымі псіхалагічнымі рысамі, рэальнымі прыкметамі характару, – з'яўляецца ўсё ж героем сумарным. *І. Навуменка.*

## СУМЕЦЦА // СУМЕЦЬ

**Сумéцца.** Збянтэжыцца; разгубіцца.

З непрывычкі кіраваць гэтакім вялікім сходам чалавек спачатку сумеўся. *К. Чорны.*

**Сумéць.** *звычайна з інф.* Здолець, змагчы што-н зрабіць, ажыццявіць.

Ваганаў так сумеў паставіць свае гарматы і так спрытна мяняў іх месцы, што агонь праціўніка не рабіў ніякай шкоды. *Я. Колас.*

## СУМЛЕННАСЦЬ // СУМЛЕННЕ // СУМНЕННЕ

**Сумле́ннасць.** Сумленныя паводзіны, сумленныя адносіны да каго-чаго-н.; чэснасць; праўдзівасць.

Прыемна было адвесці душу з блізкім чалавекам, у сумленнасці якога не было сумненняў. *І. Новікаў.*

**Сумле́нне.** Маральная ацэнка сваіх дзеянняў і ўчынкаў на аснове разумення абавязку перад грамадствам, радзімай, калектывам, сям'ёй.

Шчырая душа, чалавечае глыбокае сумленне, спакойная працавітасць — былі яе натурай. *К. Чорны.*

**Сумне́нне.** Няўпэўненасць у праўдзівасці, магчымасці чаго-н.; адсутнасць веры ў каго-н.; упэўненасці ў чым-н.

Няма сумнення, што выявіцца нямала новых помнікаў беларускай гісторыі і культуры, якія заслугоўваюць увагі патомкаў і павінны быць пастаўлены пад ахову дзяржавы. *П. Глебка.*

## СУМЯШЧАЛЬНАСЦЬ // СУМЯШЧАЛЬНІЦТВА

**Сумяшча́льнасць.** Злучальнасць, магчымасць сумяшчання.

Характэрным для некаторых ідэалагічных абаронцаў капіталізму з'яўляецца сцверджанне аб сумяшчальніцтве навукі і рэлігіі. *В. Кавалгін.*

**Сумяшча́льніцтва.** Выкананне работы на якой-н. платнай пасадзе адначасова з асноўнай работай.

Сярод мастацкіх кіраўнікоў самадзейнасці ўкаранілася заганная практыка сумяшчальніцтва. *Маладосць.*

## СУПОЛЬНІЦКІ // СУПОЛЬНЫ

**Супо́льніцкі.** Які мае адносіны да супольніка — саўдзельніка, хаўрусніка ў якіх-н. непрыгожых справах, злачынстве.

Супольніцкія інтарэсы. Супольніцкая змова.

**Супо́льны.** Агульны, сумесны.

Тады якраз пачыналіся першыя крокі супольнай працы. *І. Грамовіч.*

## СУПЯРЭЧЛІВАСЦЬ // СУПЯРЭЧНАСЦЬ

**Супярэ́члівасць.** Наяўнасць супярэчнасцей у чым-н.

Праз увесь раман адчуваеш гэтую супярэчлівасць. *У. Юрэвіч.*

**Супя́рэчнасць.** 1. Становішча, пры якім адно выключае другое, не сумяшчальнае з ім, процілеглае яму; неадпаведнасць, няўзгодненасць.

Для нас важным з'яўляецца не толькі самі супярэчнасці твораў Бядулі, а асноўны сэнс гэтых супярэчнасцей. *В. Кавалёнка.*

2. *звычайна мн.* У філасофіі: адносіны процілегласцей, уласцівых прадметам і з'явам прыроды і грамадства.

Максім Танк даў праўдзівую ацэнку тым супярэчнасцям, якія рэвалюцыянізіравалі рыбацкія вёскі, улавіў сутнасць самымальнага канфлікту. *У. Калеснік.*

## СУСЕДНІ // СУСЕДСКІ

**Сусе́дні.** Які знаходзіцца, размяшчаецца побач, паблізу, па суседству.

Увосень школа памагала суседняму калгасу на ўборны агарода. *І. Грамовіч.*

**Сусе́дскі. 1.** Які мае адносіны да суседа, належыць яму.

Я павярнуў да старшынёвага дома, не дайшоў да яго, спыніўся перад суседскім свірнам. *В. Карамазаў.*

**2.** Які жыве па суседству.

Пасля жніва або пасля ўкосу калюшыны суседскія хлапчукі пускалі па свае загоны коней. *А. Куляшоўскі.*

## СУЦЕШЫЦЬ // СУЦІШЫЦЬ

**Суце́шыць.** *каго-што.* Спачуваннем, уга́ворамі аблягчыць чыё-н. гора, перажыванне, заспакоіць; парадаваць, абрадаваць каго-н.

У самыя змрочныя, цяжкія часы маці не траціла надзеі на лепшае, умела і суцешыць і натхніць. *Б. Сачанка.*

**Суці́шыць.** *каго-што.* **1.** Супакоіць — уціхамірыць, утаймаваць.

Грамыка суцішыў моладзь і аб'явіў пачатак канцэрта. *І. Дуброўскі.*

**2.** Паменшыць, змякчыць, зрабіць менш адчувальным.

Пятро стагнаў — яна пяшчотна гладзіла яго рукі, шчокі, быццам хацела гэтак суцішыць боль. *І. Шамякін.*

## СУШЫЦЬ // СУШЭЦЬ

**Сушы́ць.** *каго-што.* Высушваць, прасушваць; рабіць сухім.

Гады два валялася на нашым двары разбітая трохтонка. Мачылі яе ўсе дажджы, абдзімалі ўсе вятры і сушылі ўсе сонцы. *Я. Скрыган.*

**Сушэ́ць.** Высыхаць, падсыхаць; станавіцца больш сухім.

Пацягнула з поўначы здаровым халадком. Зямля сушэла, пакрывалася цвёрдаю скарынкаю. *Я. Колас.*

## СХЕМАТЫЗМ // СХЕМАТЫЧНАСЦЬ

**Схематы́зм.** Спрошчанасць, трафарэтнасць у чым-н.

Акцёры, якія стаялі на рэалістычных пазіцыях, змагаліся супроць фармалізму і схематызму. *Беларусь.*

**Схематы́чнасць.** Спрошчаная перадача, апісанне чаго-н.

У вобразах К. Чорнага няма схематычнасці. *Полымя.*

## СЦЭНАРНЫ // СЦЭНІЧНЫ

**Сцэна́рны.** Які мае адносіны да сцэнарыя; звязаны са стварэннем кінасцэнарыяў.

Ён толькі што закончыў работу над сцэнарным варыянтам свайго твора, а таму і сам працягваў жыць жыццём сваіх герояў. *ЛіМ.*

**Сцэні́чны.** Звязаны з тэатральнай дзейнасцю; які мае адносіны да паказу на сцэне; характэрны для сцэны; прыняты на сцэне.

На працягу трох гадзін сцэнічнага жыцця Несцеркі не змаўкае ў глядзельнай зале смех. *Полымя.*

## СЦЯБЛІНІСТЫ // СЦЯБЛІСТЫ // СЦЯБЛОВЫ

**Сцябліні́сты.** Які мае сцябло, сцябліну.

Ён .. сышоў з зарослай сцежачкі, па якой, мусіць, даўно ніхто не хадзіў, якую і так цяжка было пазнаць між сцяблiністага смарганцу, між сухога галля. *Я. Сіпакоў.*

**Сцяблі́сты.** З вялікім сцяблом ці з вялікай колькасцю сцёблаў.

Лён доўга стаяў там на покуці — высокі, сцяблісты, жоўты, як воск. *В. Палтаран.*

**Сцябло́вы.** Які мае адносіны да сцябла; размешчаны на сцябле; са сцяблом.

Сцябловыя парасткі. Сцябловыя вузлы.

## СЫВАРАТКА // СЫРОВАТКА

**Сы́варатка.** *Спец.* Лячэбны прэпарат: вадкасць з крыві і лімфы.

Дзейнасць сэрца была падтрымана. Але ці надоўга? Ён увёў сываратку і пачаў чакаць. *І. Шамякін.*

**Сыро́ватка.** Вадкі адстой кіслага малака ці адтопленага тварагу.

Старая яшчэ карміла парасят на двары, стаяла, трымаючы чыгунок у руках, і пакрысе падлівала ў карытца сыроваткі. *Полымя.*

**Сырко́вы.** Які мае адносіны да сырка.

Сырковая маса.

**Сы́рны.** Які мае адносіны да сыру.

Сырны пах.

**Сырцо́вы.** Які мае адносіны да сырцу — не да канца выраблена́га ці не ачышчанага прадукту.

Байніцы, прыступкі лесвіц, аркі — усё зроблена з сырцовай цэглы, пашчэрбленай ужо часам. *В. Іпатава.*

**СЫТНЫ // СЫТЫ**

**Сы́тны.** Які добра насычае; пажыўны.

Чырвоны, распараны сном, духатою і сытным абедам, Шаліма выйшаў з-за шырмы ў расхрыстанай сарочцы, з касматымі грудзьмі, босы. *І. Дубро́ўскі.* ‖ Заможны, без нястач; не бедны на яду. Шаліма ва ўсіх дэталях ведае гісторыю свайго суседа: заможны сваяк зычыў яму сытнае жыццё. *Б. Мікуліч.*

**Сы́ты. 1.** Які поўнасцю задаволіўся; які не адчувае голаду.

А як вярта́ўся важна статак! Сказаў, напэўна, не хвалько, што сыты ўсе і ёсць дастатак, калі вядзецца малако. *С. Гаўрусёў.*

**2.** *Разм.* Добра ўкормлены, тлусты.

Лукаш ехаў на фурманцы, правіў коньмі. Сытыя коні беглі хутка і радасна — вырваліся на прастору. *В. Іпатава.*

**СЫЦЕЦЬ // СЫЦІЦЬ**

**Сыце́ць.** Станавіцца сытым — укормленым, тлустым.

А ў паўночных малых народаў, калі выбіралі сабе кіраўніка, то праз год узважвалі — пацяжэў хоць на кілаграм, здымалі: значыцца, думаць, клапаціцца пра іншых перастаў, таму і сыцее. *Б. Сачанка.*

**Сыці́ць.** *што.* Падсалоджваць ваду, квас і інш. мёдам; разбаўляць мёд вадою; настойваць мёд на чым-н.

Сыціць квас.

**СЫЧАЦЬ // СЫЧЭЦЬ**

**Сыча́ць.** *Разм.* Станавіцца сытым; сыцець.

І ёсць жа прыказка такая: «Кляні ты пана — пан сычае!» *Я. Колас.*

**Сычэ́ць** ./тварацъ глухія гукі, якія нагадваюць працяжнае вымаўленне гука «с».

Гусак выцягвае шыю, грозна сычыць на хлопчыка: не падыходзь да малых гусянят.

### СЯДЗІБА // СЯЛІБА

**Сядзі́ба.** Жылыя і гаспадарчыя пабудовы разам з садам, агародам (звычайна ў сельскай мясцовасці).

Тое, што яшчэ здаля звярнула на сябе іх увагу, зблізку аказалася нейкай будынінай — ускраіннай сядзібай вёскі або якім хутарам. *В. Быкаў.*

Н я п р а в і л ь н а. Каля вёскі Койтава Віцебскага раёна ёсць сядзіба (трэба: сяліба) Здраўнева. Яна звязана з імем выдатнага рускага мастака Рэпіна. Тут на маляўнічым беразе Заходняй Дзвіны мастак жыў з 1892 па 1900 год. *Полымя.*

**Сялі́ба.** Невялікі населены пункт у сельскай мясцовасці.

Яна сустрэла яго пад крайняю ад Вуглоў ліпай, у самым далёкім кутку сялібы. *Я. Брыль.*

Н я п р а в і л ь н а. Калі герой намерваецца падпаліць сялібу (трэба: сядзібу) аб'ездчыка, у чытача ўзнікае ўяўленне аб ім як аб чалавеку, у якога стыхійныя інстынкты ў часы глыбокага ўзбуджэння могуць узяць верх над свядомасцю. *Д. Гальмакоў.*

### СЯДОК // СЯДУН / СЯДУРА

**Сядо́к. 1.** Коннік, верхавы; той, хто едзе на матацыкле, веласіпедзе.

Праз якую хвіліну два ці тры матацыклы ўжо кульнуліся ў канаву, адзін стаяў на сярэдзіне, пакінуты седакамі, толькі задні, спрытна завярнуўшыся, паімчаў па дарозе ўгору. *В. Быкаў.*

**2.** Той, хто едзе ў якой-н. павозцы, санях, карэце.

Карэта рушыла. Сядок усміхнуўся, прыкрыў ногі .. і адхінуў фіранку са слюдзянога акенца. *У. Караткевіч.*

**Сяду́н.** *Разм.* Нерухавы, пасіўны, бяздзейны чалавек; дамасед.

Прырода быццам знарок імкнулася ва ўсім падкрэсліць непадобнасць Мішы да Гены. Калі Гена рухавы, імклівы, дык Міша сядун. Любіць чытаць і за кніжкай можа прабавіцца цэлы дзень. *А. Марціновіч.*

**Сяду́ра.** *Разм.* Тое, што с я д у н.

Гэтае мясцовае слова «сядура», распаўсюджанае сярод насельніцтва Калінаўшчыны, Злобін нярэдка ўжываў, калі гаварыў пра якога-небудзь чалавека-маруду. *М. Ткачоў.*

# Т

## ТАЕМНЫ // ТАЙНЫ // ТАЯМНІЧЫ

**Тае́мны. 1.** Скрыты, невядомы, непрыкметны для іншых.

Калі б толькі Альміна ведала, што сваімі словамі ў каторы раз закранаецца ў маёй душы да таго таемнага і балючага, пра што нікому не гаварыў і не мог сказаць. *В. Гігевіч.*

2. Загадкавы, акружаны тайнай; не зусім усвядомлены, няясны.

Населіся па лесе нейкія таемныя гукі, пагрозліва шумелі верхавіны ялін, і абамшэлыя ствалы гудзелі працягла і сумна. *М. Лынькоў.*

**Та́йны. 1.** Які з'яўляецца тайнай, скрываецца ад іншых, невядомы многім.

І вось на тайную сходку у ціхі лясок на Няве — жывая людская паводка на плошчу няспынна плыве. *М. Смагаровіч.*

2. Звязаны з сакрэтнасцю; прызначаны для вядзення сакрэтных спраў, для сакрэтнай службы.

На двары пан убачыў свайго цівуна, акружанага такімі ж тайнымі агентамі Лелякова. *А. Якімовіч.*

**Таямні́чы. 1.** Поўны таямніцы, непазнанага, невядомага; загадкавы, незразумелы.

Кожны раз, калі Яўген Іванавіч браўся ажывіць новы прыбор, ён адчуваў, што наперадзе шмат чаго загадкавага, таямнічага. *М. Гроднеў.*

**2.** Які сведчыць пра наяўнасць таямніцы, сакрэтнасці.

Пры сустрэчы з калегам ён надаваў свайму твару таямнічы выгляд і ціхенька апраўдваўся. *А. Пальчэўскі.*

## ТАКТОЎНЫ // ТАКТЫЧНЫ

**Такто́ўны.** Які валодае тактам, захоўвае правілы прыстойнасці ў адносінах да каго-чаго-н.

— Цябе выратавала тое, што ты аказаўся надзіва тактоўным чалавекам. *Я. Рамановіч.*

**Такты́чны. 1.** Які мае адносіны да ваеннай тактыкі; які звязаны з вядзеннем бою.

Днём ён быў на тактычных занятках у першым батальёне. *К. Крапіва.*

2. Які мае адносіны да сродкаў і прыёмаў грамадскай і палітычнай барацьбы.

Але ў сітуацыі, калі СД размножыла яго фатаграфію, самае правільнае — знікнуць з горада на пэўны час. Гэта не ўцёкі — тактычнае адступленне, каб перагрупавацца. *І. Шамякін.*

**Такса́цыя.** *Спец.* **1.** Устанаўленне таксы — дакладнай расцэнкі тавараў ці размеру аплаты за працу, паслугі.

— Учора таксама позна ішла, прыцемкам. Таксацыю пілавачніку па кнігах шукала. *В. Карамазаў.*

**2.** Улік і матэрыяльная ацэнка лесу: вызначэнне запасаў драўніны, аб'ёму дрэў, прыросту і г. д.

— Адпачынку засталося тры дні,— кажу я.— А там работа. Адна таксацыя выматае дух. *І. Навуменка.*

**Таксі́чнасць.** Здольнасць выклікаць атручванне; ядавітасць.

Трэба ўлічваць, што ў сонечныя дні таксічнасць некаторых ядахімікатаў значна зніжаецца. *Звязда.*

## ТАНКАВЫ // ТАНКІСЦКІ

**Та́нкавы.** Які мае адносіны да танка, звязаны з вырабам танкаў; які звязаны з падрыхтоўкай танкістаў.

Залпы і паасобныя стрэлы ўсё мацнелі, гусцелі і ўрэшце зліліся ў суцэльны гул. Святло трапятала на дрэвах, на тварах байцоў, на танкавых вежах. *І. Мележ.*

**Танкі́сцкі.** Які мае адносіны да танкіста, належыць яму або прызначаны для яго.

На маленькім хлопчыку быў танкісцкі шлем з тугімі рэбрамі. *С. Грахоўскі.*

## ТАННЕЦЬ // ТАНЧЭЦЬ

**Танне́ць.** Станавіцца больш танным, паніжацца ў цане.

Сінонім: дзешавець.

Ям, залітых вадой, на лузе з кожным годам больш ды больш. Сена ад гэтага не робіцца больш і дровы ў казённым ці ў купецкім лесе не таннеюць. *Я. Брыль.*

**Танчэ́ць.** *Разм.* Станавіцца больш тонкім, танчэйшым.

Паступова вяроўка танчэла і заканчвалася тоненькім пяньковым хвосцікам з дзесяткамі вузельчыкаў. *Я. Колас.*

## ТАРФЯНІК // ТАРФЯНІШЧА

**Тарфя́нік.** Залежы торфу, тарфяное балота.

Нядрэнная кармавая база, вялікія плошчы асушаных тарфянікаў былі багаццем калгаса і яго рэальным рэзервам. *Звязда.*

**Тарфя́нішча.** Месца, дзе раней здабывалі торф; асушанае балота.

Лета было сухім, без дажджынкі, зямля сасмягла, патрэскалася, лесавыя тарфянішчы парабіліся на порах. *М. Лынькоў.*

**Таталіта́рны.** *Кніжн.* З адкрыта тэрарыстычнай дыктатурай; фашысцкі.

Любы таталітарны рэжым трымаецца на хлусні, гэта яго афіцыйная ідэалогія, і любая праўда для яе небяспечная. *А. Лукашук.*

**Тата́льны.** Усеагульны, усеабдымны.

Татальная мабілізацыя.

## ТАЎШЧЫНЯ // ТОЎШЧА

**Таўшчыня́.** Велічыня папярочнага сячэння прадмета; размер у абхваце, па акружнасці; паўната.

Рады былі пераплецены між сабою, утвараючы калючую сцяну ў метр таўшчынёю. *А. Ставер.*

**То́ўшча.** Маса, пласт якога-н. рэчыва вялікай таўшчыні.

Праз зеленаватую тоўшчу вады быў відаць кожны каменьчык, кожная самая маленькая ракавінка. *Я. Брыганская.*

## ТАФТА // ТАХТА

**Тафта́.** Грубая шаўковая ці баваўняная тканіна з папярочнымі дробнымі рубчыкамі.

З двара ў гэты час выйшла Ірачка, у клёшным вішнёвым плацці з тафты, з бліскучай брошкай — падарункам маладога, у туфліках на шпільках. *В. Дайліда.*

**Тахта́.** Шырокая і нізкая канапа без спінкі.

Даша ўселася на тахту, скінула туфлі і падкурчыла пад сябе ногі. *Я. Шарахоўскі.*

## ТВАРОЖНЫ // ТВАРОЖЫСТЫ

**Тваро́жны.** Які мае адносіны да тварагу, яго вырабу; прыгатаваны з тварагу.

Над застрэшшамі сушацца тваражныя сыры. *К. Чорны.*

**Тваро́жысты.** Знешне падобны на тварог.

Пры гэтай рэакцыі выпадае характэрны белы тварожысты асадак хлорыстага срэбра, які не раствараецца ў вадзе і разбаўленай кіслаце. *Хімія.*

## ТОЛ // ТОЛЬ

**Тол.** Выбуховае рэчыва, якое выкарыстоўваецца ў артылерыі і падрыўной справе.

С і н о н і м: тратыл.

Мікола дастаў са снарадаў тол, складаў у кош і некуды адносіў. *І. Новікаў.*

**Толь.** Дахавы і ізаляцыйны матэрыял з асобага кардону, насычанага воданепранікальным саставам.

На даху, накрытым толем, нацерушылася ігліца. *М. Даніленка.*

#### ТОЛАВЫ // ТОЛЕВЫ

**То́лавы.** Зроблены з толу; характэрны для толу.

Чаборавы водар перабіваў кіслы толавы пах, які кружыў галаву. *А. Алешка.*

**То́левы.** Які мае адносіны да толю, звязаны з яго вытворчасцю; зроблены з толю.

Толевы завод. Толевы дах.

#### ТРАВЯНІСТЫ // ТРАВЯНЫ

**Травяні́сты. 1.** Які з'яўляецца травою, падобны да травы. Травяністыя расліны. ‖ У якім шмат травы. Жыта ўрадзіла рэдкае і травяністае. *І. Сяркоў.*

**2.** Які зарос густою травой.

Адзін край лугу стыкаўся з лесам, уразаўся ў яго, аднаўляючы дугаватыя лукі і навязчываючы свае травяністыя прасторы. *Я. Колас.*

**Травяны́. 1.** Які мае адносіны да травы; з травы.

Пакуль данёс — вада крыху расплюскалася, а ў вёдры аграча эўса ды травянога пылку насыпалася яшчэ багата нейкіх мошак, жучкоў, казявак. *Я. Сіпакоў.* ‖ Зроблены з травы. Будан з травяной стрэшкай. ‖ Прыгатаваны з траў, на травах. Травяная мука. Травяны корм. Травяная настойка. ‖ Які жыве ў траве. Травяная жаба. Травяное пасякомае.

**2.** Які парос, пакрыўся травою.

На змярканні [хлопцы] прыйшлі да ракі. І паселі на травяным абрывістым беразе. *Я. Брыль.*

**3.** Характэрны для травы, зялёны (пра колер).

Гімнасцёрка травянога колеру.

#### ТРАК // ТРАКТ // ТРАКТАТ

**Трак.** Звяно гусеніцы ( у трактара, танка і пад.).

Карпенка не спускаў вачэй з калоны, якая ўсё расла і расла на дарозе, ужо чуваць было, як дрыжала зямля ад танкаў, як лескацелі іх цяжкія шырокія тракі. *В. Быкаў.*

**Тракт.** Шырокая праезная дарога.

С і н о н і м: шлях.

Ад станцыі да бальніцы было з вярсту, і вёў да яе самы сапраўдны тракт — вымашчаны брусчаткаю, абсаджаны маладымі таполямі. *Л. Арабей.*

**Трактáт.** Навуковая праца, у якой разглядаецца асобнае пытанне, праблема; разважанне на спецыяльную тэму.

Газета застаецца газетай — не пацяшальнай чытанкай і не навуковым трактатам, а трыбунай мас і трыбунай для мас. *Б. Стральцоў.*

### ТРАЛІЦЬ // ТРАЛЯВАЦЬ

**Тралíць.** *Спец.* **1.** Лавіць тралам — вялікай сеткай для лоўлі рыбы з суднаў.

Сёння першы выхад у мора. Дзень быў урачысты, як свята. Пачалі траліць таксама ўдала — ні адзін трал не падымаўся на борт пустым, у кожным было поўна рыбы. *Звязда.*

2. Вылоўліваць і знішчаць падводныя міны.

Траліць можна было толькі на сярэдняй і поўнай вадзе — пры адліве тралы чапляліся за грунт. *Звязда.*

**Траляваць.** *Спец.* Падцягваць, падвозіць спілаваны лес з месца нарыхтоўкі да дарогі ці да месца сплаву.

Быў бы жывы тата, ён даўно б новы дом збудаваў. Ён ужо тады пачаў траляваць бярвенне з лесу. *А. Кудравец.*

### ТРАМБІН // ТРАМБОЗ // ТРАМБОН // ТРОМБ

**Трамбíн.** Фермент, які выклікае згортванне крыві.

У крыві знаходзіцца некалькі розных ферментаў. Пры ўдзеле аднаго з іх — трамбіну — адбываецца згортванне крыві. *Анатомія і фізіялогія чалавека.*

**Трамбóз.** Працэс утварэння тромбаў у сасудах.

Яе [смерць] выклікала, мабыць, закупарка ныркавых вен альбо трамбоз нырачных артэрыяў. *А. Савіцкі.*

**Трамбóн.** Духавы музычны інструмент нізкага і рэзкага тэмбру, які мае выгляд двойчы выгнутай трубкі з шырокай гарлавінай.

Падвывалі трамбоны, раскаціста грымела піяніна, тоненькім ручайком ліўся голас скрыпкі. *М. Калыловіч.*

**Тромб.** Згустак крыві, які ўтварыўся ў крываносным сасудзе ці ў сэрцы.

Часам пры рэўматызме і некаторых іншых хваробах пашкоджваецца ўнутраная абалонка сэрца ці крываноснага сасуда. На месцы пашкоджання кроў пачынае згортвацца і ўтвараюцца згусткі крыві, ці тромбы. *Анатомія і фізіялогія чалавека.*

## ТРАНЗІСТАРНЫ // ТРАНЗІТНЫ

**Транзістарны.** Заснаваны на выкарыстанні транзістараў — паўправаднікоў, прызначаных для ўзмацнення, пераўтварэння электрычных сігналаў.

Радыё ўвайшло ў наш быт, і сёння немагчыма ўжо ўявіць кватэру без звычайнага сецявога ці транзістарнага прыёмніка або просценькага дынаміка. *ЛіМ.*

**Транзітны.** Які едзе да месца прызначэння з перасадкай у якім-н. пункце (пра пасажыраў); прызначаны для такіх пасажыраў; які ідзе без перагрузкі на прамежкавых станцыях.

У транзітнага пасажыра ўражанне пра гарады звычайна складваецца па вакзалах. *Я. Сіпакоў.*

## ТРАНСПАРЦЕР // ТРАНСПАРЦІР

**Транспарцёр. 1.** Механічнае прыстасаванне для бесперапыннага перамяшчэння грузаў, асобных дэталей.

Сінонім: канвеер.

Узяліся мы дружна, стужка транспарцёра аж прагіналася, несучы ў вагон бясконцую плынь жытніх зярнят. *У. Дамашэвіч.*

**2.** Браніраваная машына для перавозкі пяхоты на поле бою і для разведкі.

Сінонім: бронетранспарцёр.

Два танкі вельмі асцярожна, адзін па правым баку дарогі, другі па левым мінулі транспарцёры і набліжаліся да мастка. *В. Быкаў.*

**Транспарцір.** Прыбор у выглядзе падзеленага на градусы паўкруга і лінейкі, прызначаны для пабудовы і вымярэння вуглоў на чарцяжах.

Для вымярэння вуглоў прымяняецца асобы прыбор — транспарцір. *Геаметрыя.*

## ТРАСЯНІНА // ТРАСЯНКА

**Трасяніна. 1.** Калыванне, падкідванне пры яздзе па няроўнай дарозе.

— Я, напрыклад, нядаўна ехаў у поездзе, дык такая была страшэнная трасяніна, што ледзь на нагах трымаўся. *Звязда.*

**2.** *Разм.* Сварка, калатня.

І ўсё ўставала прад вачыма беднае кабеты: .. сваркі, трасяніна. *Я. Колас.*

**Трася́нка.** Стрэсенае з саломай сена на корм жывёле.

З катуха, у які мы кідалі Падласцы трасянку з саломы і сена, мне ўжо не вельмі цяжка было дабірацца да бэлькі. *Я. Брыль.*

ТРАФЕЙНЫ // ТРАХЕЙНЫ

**Трафе́йны.** Які з'яўляецца трафеем, захоплены як трафей.
Дачка Алеся ў цёмны бор пайшла з трафейным аўтаматам. *М. Айрамчык.*

**Трахе́йны.** *Спец.* Які мае адносіны да трахеі — дыхальнага горла.
Трахейная трубка.

ТРАФІЧНЫ // ТРАХЕІЧНЫ

**Трафі́чны.** *Спец.* Які мае адносіны да жыўлення органаў і тканак, да абмену рэчываў.
Трафічная функцыя нервовай сістэмы — гэта такая функцыя, якая альбо паскарае, альбо, наадварот, замаруджвае працэс харчавання. *Беларусь.*

**Трахеі́чны.** Які мае адносіны да трахея — двухскладовай стапы ў антычным вершаскладанні.
Трахеічны размер верша.

ТРУБАЧНЫ / ТРУБКАВАТЫ // ТРУБКАВЫ //
// ТРУБНЫ // ТРУБЧАСТЫ

**Тру́бачны.** Зроблены з труб, трубак.
Трубачныя рыштаванні.

**Трубкава́ты.** Тое, што і т р у б ч а с т ы.
Трубкаватае сцябло. Трубкаватыя фільтры.

**Тру́бкавы.** Які мае адносіны да трубкі — трубы невялікага сячэння.
Трубкавая падача паліва.

**Тру́бны. 1.** Які мае адносіны да трубы; звязаны з вытворчасцю труб.
Трубны завод. Трубны дым.

**2.** Які ўтвараецца музычным інструментам — трубой; які нагадвае гукі трубы.
Над галавой, дзесьці высока ў небе, чуваць трубныя крыкі адлётных жураўлёў. *У. Крайчанка.*

**Трубча́сты.** Які мае форму трубы, трубкі; які складаецца з трубачак (пра будову рэчыва).
Трубчастая косць. Трубчастая будова глебы.

ТРУМ // ТРУМО

**Трум.** Унутранае памяшканне карабля паміж палубай і днішчам, прызначанае для розных грузаў.
Пагода была ціхая, агні відаць далёка, ну і паклалі мяшкі

з мукою не ў трум, а перад рулявою рубкаю, каб лягчэй згружаць. *В. Карамазаў.*

**Трумó.** *нескл.* Высокае стаячае люстра.

Сярожка, пакуль маці гаварыла з бацькам, насцярожана прыціх ля трумо, скруціў стружку і засунуў за канапу, абтрос на грудзях кашульку. *Полымя.*

## ТРЭНІРАВАНЫ // ТРЭНІРОВАЧНЫ

**Трэніравáны.** Які прайшоў добрую трэніроўку; добра развіты рэгулярнай трэніроўкай.

Рослы, зграбны .. у дасканала падагнаным кіцелі, пад якім адчувалася дужая, трэніраваная постаць, з залатой зоркай на кіцелі, з дасканалай выпраўкай, ён [Чарняхоўскі] быў у гэты час вельмі прыгожы, мужна прыгожы.. *І. Мележ.*

**Трэнірóвачны.** Які мае адносіны да трэніроўкі; прызначаны для яе.

Мужчына .. хутка, па-вайсковаму надзеў трэніровачны касцюм, абуў кеды .. і лёгенька, паволі пабег па сцежцы. *А. Жук.*

## ТУЛІЦЦА // ТУЛЯЦЦА

**Тулíцца. 1.** Гарнуцца, прыціскацца, хінуцца.

Там і тут чадзелі агні, людзі туліліся да іх, кашлялі, адмахваючыся ад камарэчы. *Р. Шкраба.*

2. Мець прытулак, прыстанішча, размяшчацца дзе-н. у цеснаце.

Вялізная Маніна сям'я з шасці дачок, двух сыноў і бацькі з маткай туліцца ў старой цеснай хаце. *А. Васілевіч.*

3. *перан.* Размяшчацца дзе-н. у зацішным месцы, пад аховай чаго-н.

Па-над Прыпяццю між лясоў, пяскоў і балот туліцца невялічкая вёсачка, хат можа так трыццаць ці сорак. *Я. Колас.*

**Туля́цца.** Блукаць, хадзіць без пэўнай мэты; бадзяцца; сланяцца са скрытнымі намерамі.

Акрамя усяго, ён [Баццяноўскі] шпіён і даносчык. Лабановіч потым не раз прыкмячаў, як дзяк туляўся па падвоканню. *Р. Шкраба.*

## ТЫЛАВЫ // ТЫЛЬНЫ

**Тылавы́.** Які мае адносіны да тылу, знаходзіцца ў тыле, абслугоўвае тыл.

Хвойнікі і бярэзнікі дзядзька абыходзіў, ведаючы, што ў іх

[illegible] размешчаны нямецкія батарэі ды іншыя тылавыя часці. *І. Шамякін.*

**Тыльны.** Які знаходзіцца за чым-н.; знешні; адваротны.

[illegible] жэстах яго, па тым, што ён, напрыклад, выціраў пот з [illegible] не далоняй, а тыльнай стараной рукі, я вызначыў, што [illegible] з механізатараў, і не памыліўся. *І. Шамякін.*

## ТЫНК // ТЫНКАВАННЕ // ТЫНКОЎКА

**[illegible]нк.** Маса густога вапнавага раствору з пяском, глінай [illegible] які наносяць на паверхню будынкаў, унутраных сцен і г. д.

[illegible] ў будаўнікоў: — Мо прымеце ўжо навасёлаў? — [illegible] пірагі для вас, а вы не падаеце вестак,— дзяўчына [illegible] ў адказ і тынк замешвае, як цеста. *М. Аўрамчык.* ‖ [illegible] слой такога раствору на паверхні будынкаў, на ўнутра[illegible]. Недалёкі выбух. Падлога страсянулася, са столі і [illegible] тынк. Дзынкнула разбітая шыба. *І. Мележ.*

**[illegible]ванне.** Пакрыццё сцен ці столі тынкам, каб зрабіць [illegible] гладкай.

[illegible] сцен закончана ў тэрмін.

**Тынкоўка.** 1. Пакрыццё сцен ці столі тынкам; тынкаванне.

[illegible] пачатку гэтага рова было глінішча, там брала гліну для [illegible] і на печы ўся вёска, таму аж да заўсёды ўлетку дарога [illegible] вокнамі ў завулку была як нафарбаваная. *І. Чыгрынаў.*

2. Слой тынку на паверхні будынкаў, на столі і сценах уну[illegible] памяшканняў.

[illegible] балконных дзвярэй на сцяне жаўцела адбітая тынкоў[illegible] *Даніленка.*

## ТЫПАВЫ // ТЫПОВЫ

**Тыпавы.** Які з'яўляецца ўзорам, мадэллю для чаго-н.; стан[illegible].

[illegible] магазіны размешчаны ў параўнаўча падрэнных тыпа[illegible] памяшканнях. *Звязда.*

**[illegible]повы.** Які часта сустракаецца; характэрны, звычайны.

[illegible] самым аддаленым кутку тыповым селянінам, на [illegible] якога лягла адказнасць за ўраджай, стаў механізатар. *[illegible]менка.*

Н е п р а в і л ь н а. Школа была зусім новая, у два паверхі, як [illegible] будаваныя перад вайною па тыповаму (трэба: па тыпаво[illegible]) праекту сельскія дзесяцігодкі. *І. Грамовіч.*

**Тыта́навы.** Які мае ў сваім саставе хімічны элемент тытан, мае адносіны да тытану.

Тытан і тытанавыя сплавы маюць вялікую трываласць, вязкасць, каразійную ўстойлівасць і шырока выкарыстоўваюцца ў турба- і караблебудаванні, ракетнай, авіяцыйнай тэхніцы і інш. *БелСЭ.*

**Тытані́чны.** Незвычайны па фізічнай ці маральнай сіле, розуму, таленту; вельмі вялікі па сіле, размаху, напружанасці; грандыёзны.

Нельга не здзіўляцца яго [А. Я. Багдановіча] сапраўды тытанічнай працаздольнасці. *Полымя.*

## ТЭЛЕВІЗАРНЫ //ТЭЛЕВІЗІЙНЫ

**Тэлеві́зарны.** Які мае адносіны да тэлевізара, прызначаны для яго.

Цяпер тэлевізарныя экраны вялікія, добра глядзіцца ўсякая перадача. Тэлевізары нашы ўжо не такія, якімі былі першыя выпускі. *Звязда.*

**Тэлевізі́йны.** Прызначаны для прыёму ці перадачы па тэлебачанню; які ажыццяўляецца пры дапамозе тэлебачання.

Падчас размовы Ігнатовіч круціў у руках мадэль Астанкінскай тэлевізійнай вежы, соты раз разглядаў драбнюткія дэталі яе, захапляўся ўмельствам юных майстроў — выхаванцаў прафтэхвучылішча. *І. Шамякін.*

Н я п р а в і л ь н а. Усё знаёма, прывычна, і Куляшу здавалася, што нібы і не з ім гэта ўсё робіцца, а з некім другім, у другой хаце, а ён глядзіць на ўсё гэта на маўклівым тэлевізійным (трэба: тэлевізарным) экране. *А. Жук.*

## ТЭЛЕФАНІЗАВАЦЬ // ТЭЛЕФАНАВАЦЬ

**Тэлефанізава́ць.** *што.* Правесці тэлефанізацыю чаго-н., забяспечыць тэлефонам.

Тэлефанізаваць дамы пасёлка.

**Тэлефанава́ць.** Пазваніць па тэлефоне; паведаміць што-н па тэлефоне.

Ён табе ўвечары раз тэлефанаваў на кватэру, але гаспадыня сказала, што ты позна прыходзіш. *Х. Лялько.*

## ТЭМА // ТЭМАТЫКА

**Тэ́ма.** Кола жыццёвых з'яў, падзей, якія з'яўляюцца зместам мастацкага твора ці ляжаць у аснове навуковага даследавання, даклада і інш.; прадмет гутаркі.

Для аўтара важна не толькі вызначыць тэму, глыбока разабрацца ў сутнасці праблемы, назапасіць факты і аргументы, але і ў кожным выпадку знайсці такую форму арганізацыі матэрыялу, якая б адпавядала менавіта гэтай тэме, гэтым фактам. *Б. Стральцоў.*

**Тэма́тыка.** Сукупнасць тэм.

Тэматыка лірычных твораў Я. Коласа надзвычай разнастайная. *Беларусь.*

## У

### УБЕГЧЫ // УЗБЕГЧЫ

**Убе́гчы.** Увайсці куды-н. бягом.

З раніцы, як толькі я сеў за стол апрацоўваць допісы, у пакой убегла Валя. *Р. Сабаленка.*

**Узбе́гчы. 1.** Падняцца бягом куды-н. уверх, на больш высокае месца.

Разгневаны княжыч па адкрытай, засланай мядзведжымі і барсуковымі шкурамі галерэі ўзбег на другі ярус церама і вока ў вока сутыкнуўся з маці і братам Някрасам. *Л. Дайнека.*

2. Бягом зайсці, трапіць куды-н.; забегчы.

Стукнула брамка, і на двор узбегла дзяўчынка. *А. Асіпенка.* ‖ Імгненна з'явіцца, выступіць; набегчы. Крывавая падцечына ўзбегла на вока. *Р. Сабаленка.* ‖ *перан.* Раптоўна ўзнікнуць, павявіцца, прыйсці. І тут, як кажуць, мімаволі ўзбегла на памяць вядомая песня. *І. Грамовіч.*

### УБІЦЦА // УЗБІЦЦА

**Убі́цца. 1.** *Разм.* Улезці, забрацца ўнутр чаго-н., куды-н.

Захоплены такімі думкамі, Далібор і не заўважыў, як ад'ехаўся ад сваёй дружыны і ўбіўся ў строй навагародскіх пешцаў *Л. Дайнека.* ‖ Зайсці, залезці ў недазволенае месца, у шкоду. Хлопчык так задумаўся, што не заўважыў, як Красуля і цялушка пярэзімак убіліся ў шкоду. *С. Александровіч.*

2. *перан. Разм.* Пранікнуць у якое-н. асяроддзе; уцерціся, улезці куды-н.

І Стаха знаходзяць — убіўся ў прымакі да палескага дзядзькі. *М. Лужанін.*

3. *Разм.* Не выходзіць, не ісці (з галавы, думак)

Тыдні са два не бачыла Арына агранома .. Улез у галаву, убіўся, спакою не дае. *Б. Стральцоў.*

**Узбіцца.** *на каго-што.* **1.** Нечакана наскочыць на каго-што-н.
С і н о н і м: наткнуцца.

Ад невялічкай газнічкі, што стаяла на паліцы каля абразоў, хапала святла толькі на тое, каб не ўзбіцца на чалавека. *М. Лобан.*

**2.** Нечакана сустрэцца, сутыкнуцца з кім-чым-н. непажаданым, непрыемным.

С і н о н і м: напароцца.

— Перадумаў я, хлопцы. Начуйце. Час позні, можна і на ваўка дзе ўзбіцца. *У. Паўлаў.*

**3.** *Разм.* Натрапіць, набрысці на што-н.

— Іпоў, іпоў, узбіўся на бураковае поле. *М. Лужанін.*

**4.** *Разм.* З цяжкасцю абзавесціся чым-н.

С і н о н і м: разжыцца.

Узяцца адразу за будоўлю ўсё ніяк не выпадала: і з лесам было цяжка, і на грошы лішнія ўсё ніяк не маглі ўзбіцца. *А. Васілевіч.*

### УБРАНАСЦЬ // УБРАННЕ / УБРАНСТВА

**Убра́насць.** Упарадкаванасць, упрыгожанасць.

Святочная ўбранасць вуліцы.

**Убра́нне.** Адзенне, убор; строі.

Побач — невялікая люстраная вітрына, поўная ўзораў жаночага ўбрання. *М. Машара.* ‖ Тое, што ўпрыгожвае сабой што-н. І тут зусім нечакана паваліў снег. Ціхі такі, спорны. Неўзабаве ўся зямля была ў белым убранні. *Р. Ігнаценка.*

**Убра́нства.** *Разм.* Тое, што і ў б р а н н е.

І між усякага ўбранства відна і дзядзькава апратка, пільчак і шапачка-аладка. *Я. Колас.*

### УВАГА // УВАЖЛІВАСЦЬ

**Ува́га. 1.** Сканцэнтраванасць зроку, слыху на чым-н., накіраванасць думкі на што-н.; цікавасць да чаго-н.

Сказаць праўду, на Ганьчыны прыборы старшыня не вельмі звяртае ўвагу. *А. Васілевіч.*

**2.** Клапатлівыя, чулыя адносіны, прыхільнасць да каго-чаго-н.

Ласкава свяціліся вочы ў кожнага, каму ўдавалася заслужыць увагу Гермінкі. *Р. Няхай.*

**Ува́жлівасць. 1.** Праяўленне ўвагі да каго-чаго-н.; засяроджанасць увагі.

Уся ўважлівасць хлопчыка была скіравана на агонь лучыны. *З. Бядуля.*

2. Уважлівыя адносіны да каго-н., прыхільнасць, добразычлівасць.

Бацькі з падкрэсленай уважлівасцю глядзелі адно за адным, як апраццелыя дзеці. *А. Асіпенка.*

#### УВАЖАНЫ // УВАЖЛІВЫ / УВАЖНЫ

**Ува́жаны.** Такі, да якога аднесліся з увагаю.

Уважаная просьба.

**Ува́жлівы.** Які ставіцца да чаго-н. з увагай; які выказвае ўвагу; стараны; чулы, клапатлівы.

Надзя была вельмі ўважлівая да брата, заўсёды адчувала і разумела яго перажыванні, супярэчнасці ў думках і імкненнях. *А. Кулакоўскі.*

**Ува́жны.** Тое, што і ў в а ж л і в ы.

Уважная прычына. Уважны слухач.

#### УВАЖЫЦЬ // УЗВАЖЫЦЬ

**Ува́жыць. 1.** *каго-што.* Аказаць каму-н. павагу, праявіць увагу да каго-н.

Як ні ўпіралася Поля, а прысесці да стала прыйшлося — трэба было ўважыць гасцей. *М. Арочка.*

2. *каму.* Зрабіць уступку, прыняўшы пад увагу што-н.; уступіць.

Я ж цябе ведаю, ты яму не саступіш і ён табе не ўважыць. *І. Гурскі.*

**Узва́жыць.** *каго-што.* **1.** Вызначыць вагу, цяжар каго-чаго-н.

Клара ўзяла скрутак, здзівілася яго лёгкасці, узважыла на руцэ і разгарнула. *В. Хомчанка.*

2. *перан.* Абдумаць, ацаніць што-н.

Тамара не спала ўсю ноч, усё перадумала, усё ўзважыла. *М. Гроднеў.*

#### УВАЛАЧЫ // УЗВАЛАЧЫ

**Увалачы́.** *каго-што. Разм.* **1.** Уцягнуць, з цяжкасцю ўнесці што-н. унутр чаго-н.

Неяк пасля абеду .. ля ўваходу ў палатку пачуліся галасы, тупат, і двое санітараў увалаклі насілкі з параненымі. *В. Быкаў.*

2. Украсці.

Воўк увалок авечку.

**Узвалачы́.** *каго-што. Разм.* Падняць наверх што-н. цяжкае грувасткае; усцягнуць; з цяжкасцю узвезці што-н. куды-н.

Але вось конь узвалок сані на горку і пайшоў лягчэй, мы нават пачалі адставаць. *У. Дамашэвіч.*

### УВАЛІЦЦА // УЗВАЛІЦЦА

**Ува́ліцца. 1.** Упасці, праваліцца куды-н.

Каб не ўваліцца ўпоцемках у якую-небудзь яму, Перахо, увесь час глядзеў сабе пад ногі. *А. Кулакоўскі.*

**2.** Стаць упалым; запасці.

І Нюра вельмі пахудзела, пахудзела і пастарэла. Шчок ўваліліся, каля губ маршчыны. Вочы сумныя. *Л. Арабей.*

**3.** *Разм.* З шумам, грукатам увайсці куды-н.; уварвацца ня прошаным.

Тое, што столькі мужчын увалілася адразу ў хату, мусіць спалохала гаспадыню. *Р. Сабаленка.*

**Узва́ліцца.** *Разм.* Наваліцца, налегчы ўсім цяжарам на каго што-н.

— Хачу бацьку разбудзіць, а не магу крыкнуць... Не пады муся нават, як хто на плечы ўзваліўся. *І. Пташнікаў.*

### УВАЛІЦЬ // УЗВАЛІЦЬ

**Ува́ліць. 1.** *што.* Укінуць, унесці куды-н. што-н. цяжкае, гру васткае.

Уваліць камень у канаву. ‖ Вывезці на поле ў вялікай коль касці для ўгнаення глебы. Столькі гною ўвалілі пад азімыя

**2.** *што. Разм.* Праваліць, абваліць; абрушыць што-н. унут чаго-н.

Крышу ўваліла.

**3.** *Разм.* Увайсці, убегчы гуртам, натоўпам.

І раптам у двор уваліла гурба дзяцей. *І. Шамякін.*

**Узва́ліць.** *каго-што на каго-што.* **1.** Падняўшы што-н. цяж кае, пакласці, нагрузіць, наваліць.

Чалавек дванцаць сялян, узваліўшы невад на сані, выхо дзяць на затокі. *Я. Колас.*

**2.** *перан. Разм.* Прымусіць выконваць якую-н. работу, абця жарыць работай.

— Мала наездак, дык на мяне яшчэ і сельгасаддзел узвалілі *Т. Хадкевіч.*

**3.** *перан.* Незаслужана абвінаваціць у чым-н., прыпісаць ка му-н. што-н. ганебнае.

[Языковіч] узваліў на Зіну Дарошка бадай усю віну за неда хопы ў брыгадзе. *П. Кавалёў.*

## УВАР // УЗВАР

**Увáр.** Колькасць, аб'ём, на які паменшала што-н. пры варцы.
Увар мяса невялікі.
**Узвáр.** Адвар з ягад, траў і інш.
Часам заходзіць да іх суседка, Вальчына матка, прынясе [illegible] якога ўзвару з зёлкаў, забярэ малых, накорміць. *Л. Арабей.*

## УВАХОД // УВАХОДЗІНЫ

**Увахóд.** Месца, праз якое ўваходзяць куды-н.
На шпітальным двары было цёмна, гарэла некалькі ліхтароў толькі над уваходам у будынак. *К. Чорны.*
**Увахóдзіны.** *адз. няма. Разм.* Урачыстая гулянка з выпадку перасялення на новае месца, у новае жылое памяшканне.
Заўтра тут расставяць сталы і лаўкі, і напоўніцца хата шу-[illegible]гоманам вясёлых уваходзін. *Л. Ус.*

## УВЕЗЦІ // УЗВЕЗЦІ

**Увéзці.** *што.* Завезці, даставіць куды-н., унутр чаго-н.
Увезці калёсы ў гумно.
**Узвéзці.** *каго-што.* Завезці, прывезці наверх, на паверхню чаго-н.
Буланы, дробна ступаючы нагамі, узвёз іх на высокі бераг. *І. Чыгрынаў.*

## УВЕСЦІ // УЗВЕСЦІ

**Увéсці.** *каго-што.* **1.** Прымусіць увайсці ўнутр чаго-н., прывесці куды-н.
[Леапольд] усё стаяў ля сына, як той пераадзяваўся, каб увесці яго ў хату самому. *К. Чорны.*
2. Уключыць у што-н., зрабіць дзейным ці ўжывальным.
Аўтар старанна сабраў і ўвёў у навуковы абыход многія [illegible] невядомыя факты. *В. Івашын.*
3. Устанавіць, укараніць; пакласці пачатак чаму-н.
Калі Старыца апынулася ў партызанскай зоне, яе жыхары [illegible] сышліся ў калектыў і ўвялі ў вёсцы даваенныя парадкі. *Т. Хадкевіч.*
4. Пазнаёміць, дапамагчы асвоіцца з чым-н.
Работа ў газеце ўвяла мяне, калі так можна сказаць, у самую гушчу літаратурнага жыцця. *У. Карпаў.*
**Узвéсці.** *каго-што.* **1.** Ведучы, дапамагчы ці заставіць узысці, [illegible] наверх чаго-н.; вывесці.

Палявая дарога ўзвяла на бальшак. Перад Надзяй ва ўсёй шырыні адкрылася Калінаўка. *М. Ткачоў.*

**2.** Прывесці зброю ў гатовае да выстралу становішча.

Не спыняючыся, Пеця ўзвёў аўтамат і націснуў на гашэтку. *І. Сіняўскі.*

**3.** Збудаваць, пабудаваць, паставіць.

А далей глядзі — дзяўчаткі тыя дваццаць вёснаў ходзяць па зямлі. А ўжо іх рукі залатыя больш паловы Мінска ўзвялі. *П. Панчанка.*

**4.** *перан.* Прыпісаць каму-н. што-н. заганнае, адмоўнае, дрэннае; несправядліва абвінаваціць.

Няўжо, калі часам узвядуць на мяне якую небыль, ты не закінеш слова, Сямён Іванавіч? *Т. Хадкевіч.*

### УВІВАЦЦА // УЗВІВАЦЦА

**Увіва́цца. 1.** Уплятацца, укручвацца пры віцці, звіванні.

Стужка добра ўвіваецца ў косы.

2. *Разм.* Вярцецца каля каго-чаго-н., неадступна хадзіць за кім-н.; дагаджаць каму-н., дамагаючыся чаго-н.

Ля начальніка ўвівайся, кожны крок яго прадбач. Ён смяецца — ты ўсміхайся, ён надзьмецца — ты заплач. *У. Корбан.* ‖ Пастаянна знаходзіцца пры кім-н., заляцацца да каго-н. Адэля прыгожая, дык хлопцы ля яе і ўвіхаюцца. *А. Савіцкі.*

**Узвіва́цца. 1.** Намотвацца.

Нітка ўзвіваецца на шпульку.

**2.** Імкліва падымацца ўверх, узлятаць увысь.

Полымя агню ўзвіваецца ўгору. ‖ Пра песні, гукі, галасы і пад. Узвіваюцца песні над краем. ‖ Пра каня. Конь узвіўся на дыбкі. *А. Кулакоўскі.*

### 'УГАВАРЫЦЦА // УЗГАВАРЫЦЦА

**Угавары́цца.** Загадзя дамовіцца, згаварыцца аб чым-н.; прыйсці да згоды.

Аленка чакала Сцёпку, як яны і ўгаварыліся, на сцежцы каля Дзям'янавай клуні. *Я. Колас.*

**Узгавары́цца.** *Разм.* Разгаварыцца, пачаць гаворку.

Сабраліся знаёмыя дый узгаварыліся.

### УГАРЭЦЦА // УЗГАРЭЦЦА

**Угарэ́цца.** Пачаць добра гарэць, разгарэцца.

**Лабановіч** сеў супраць дзверцаў печы. Дровы ўгарэліся і весела патрэсквалі. Ад агню ішло лагоднае цяпло.. *Я. Колас.*

**Узгарэцца. 1.** Пачаць гарэць, загарэцца; разгарэцца; запаліць.

Дровы добра ўзгарэліся. ‖ Заблішчаць пад уздзеяннем якога-н. пачуцця (пра вочы); азарыцца якім-н. пачуццём; стаць гарачым. Хворы ўстрапянуўся на ложку, вочы яго ўзгарэліся незвычайнай рашучасцю. *В. Быкаў.*

2. Узбудзіцца, запаліцца якім-н. пачуццём.

Сядзім мы з Барысам у канторы майстроў цэха, і ён расказвае мне, як некалі ўзгарэўся жаданнем стаць матросам. *В. Мясніковіч.*

3. *перан. Разм.* Раззлавацца, абурыцца.

У той дзень яны ўпершыню пасварыліся. Марыя папракнула мужа за яго недарэчныя жарты, і Аляксей Іванавіч узгарэўся. *І. Пташнікаў.*

## УГНАЕННЕ // УГНОЙВАННЕ

**Угнаенне.** Рэчына, якое ўносіцца ў глебу для паляпшэння росту раслін і павышэння ўраджаю.

Са станцыі толькі званілі, каб забіралі ўгнаенне. *А. Пальчэўскі.*

**Угнойванне.** Унясенне ў глебу гною ці мінеральных угнаенняў.

Для ўгнойвання палёў у сельгасарцелі падрыхтавана 12 тысяч тон тарфакрошкі. *Звязда.*

## УГОДДЗЕ // УГОДКІ

**Угоддзе.** Участак зямлі, які мае гаспадарчае прызначэнне.

Васіліна забрала ў Люды алоўак, прыхапіла з суседняга стала аркуш паперы і схілілася над картай, разглядаючы калгасныя ўгоддзі і іх межы. *Т. Хадкевіч.*

**Угодкі.** *адз. няма.* Гадавіна з дня смерці; адзначэнне гэтай даты; наогул урачыстасць, прысвечаная гадавіне якой-н. падзеі.

Добра і тое, што кніга А. Лойкі ўбачыла свет іменна сёлета, калі наша грамадскасць адзначае 75-я ўгодкі з дня нараджэння Максіма Багдановіча. *У. Юрэвіч.*

## УГРЭЦЬ // УЗГРЭЦЬ

**Угрэць.** *Разм.* **1.** *каго-што.* Зрабіць цёплым, нагрэць, сагрэць.

Як натапілі добра печку, дык і ўгрэлі хату.

2. *без дап.* Прыгрэць.

Угрэла сонца. Жней чародкі ідуць паважна, як лябёдкі. *Я. Колас.*

3. *каго-што.* Упарыць, моцна ўтаміць.

Цяжкая паклажа на возе добра ўгрэла каня.

**4.** *каго, па чым і без дап. Груб.* Ударыць чым-н., агрэць.

Сабака, згледзеўшы гаспадара, з усіх ног кідаецца ў бульбоўнік. Нібы ведае: лепей быць далей ад гэтага панурага і злоснага чалавека — нізавошта можа ўгрэць ботам. *Б. Сачанка.*

**Узгрэ́ць.** *каго. Разм.* Даць спагнанне за якую-н. правіннасць; моцна пабіць.

— Ну, вы мяне ўзгрэлі на сходзе, дык я гэта памятаю. *А. Кучар.*

## УДАЛЫ // УДАЧЛІВЫ // УДАЧНЫ

**Уда́лы. 1.** Які завяршаецца ўдачай; паспяховы, удачны.

Рэйд той наш, па сутнасці першы, быў удалы. *І. Шамякін.*

**2.** Вельмі добры.

Здаецца, ні адзін год не была такая ўдалая сенажаць! *М. Ніканові*ч.

**3.** Здатны на ўсё, спрытны, умелы.

— Чыста ў вас, хораша. І няўжо ж гэтак у вас штодзень? Ці можа жонка ваша такая ўдалая гаспадыня? *Я. Колас.*

**4.** Смелы, адважны, храбры; хвацкі.

— Каб была пры мне дружына юнакоў — хлопцаў удалых, ускалыхнуў бы я Карпаты. *А. Бажко.*

**Уда́члівы.** Такі, справы якога заўсёды завяршаюцца ўдачай, якому ва ўсім вязе, спадарожнічае ўдача.

Ляўчук не ўкладваў у гэта паняцце [быць чалавекам] якога складанага ці філасофскага сэнсу, гэта ў яго фармулявалася проста: каб быў добры, разумны і ўдачлівы, але не за кошт другіх. *В. Быкаў.*

**Уда́чны. 1.** Які адпавядае неабходным патрабаванням; добры, удалы.

Кожнай гаспадыні хочацца, каб хлеб, асабліва калі ён са свежага каласка, быў вельмі ўдачны. *М. Арочка.*

**2.** Які завяршыўся ўдачай; паспяховы.

Пад .. кіраўніцтвам [Канстанцінава] патрыёты правялі шмат удачных засад, і слава пра канстанцінаўцаў пракацілася па раёну. *А. Дзенісевіч.*

## УДОЙ // УДОЙЛІВАСЦЬ / УДОЙНАСЦЬ

**Удо́й.** Колькасць малака, надоенага за адзін раз ці за які-н. перыяд.

З Апенькіным мы сёння сумесна праглядалі рацыён, і ён застаўся задаволены маёй раскладкай, тым больш, што ўдоі за апошнія два тыдні ў нас прыкметна павялічыліся. *А. Васілевіч.*

**Удóйлівасць.** Тое, што і ўдойнасць.

Высокая ўдойлівасць каровы.

**Удóйнасць.** Здольнасць жывёлы даваць тую ці іншую колькасць малака (удой).

Сінонім: малочнасць.

Правільны догляд за каровамі амаль удвая павысіў іх удойнасць. *Полымя.*

### УДУМАЦЬ // УЗДУМАЦЬ

**Удýмаць.** *што. Разм.* Надумаць, прыдумаць што-н.

Я паціснуў плячыма: што сталася сёння з жонкаю? — Ты нешта ўдумала сабе? *Б. Сачанка.*

**Уздýмаць. 1.** Нечакана задумаць, захацець зрабіць што-н.

Сінонім: надумаць.

Мажэйка вырашыў рашуча адбівацца ад усіх, хто ўздумае на яго нападаць. *У. Шахавец.*

**2.** *Разм.* Успомніць, прыпомніць.

Хацела запрасіць: «Прыходзьце вы да нас», але ўздумала, што не яна гаспадыня тут,— Ядзя павінна запрашаць. *Е. Лось.*

### УДЫХНУЦЬ // УЗДЫХНУЦЬ

**Удыхнýць.** *што.* **1.** Набраць у лёгкія паветра пры дыханні; процiл. выдыхнуць.

Як хораша выйсці на двор і на поўныя грудзі ўдыхнуць свежае, крыху роснае ранняе паветра. *П. Ткачоў.*

**2.** *перан.; у каго-што.* Напоўніць, усяліць, заставіць пранікнуцца чым-н.

Удыхнуць новыя сілы. Удыхнуць надзею.

**Уздыхнýць. 1.** Зрабіць уздых, уздыханне.

Ён моўчкі тупаў услед і час ад часу чамусьці ўздыхаў. *І. Чыгрынаў.*

**2.** Перадыхнуць, адпачыць.

— Знайсці то знайшоў, ды вельмі ж занятыя яны: і днём і ночу на будоўлі, уздыхнуць няма калі. *А. Кулакоўскі.*

### УЕЗД // УЗ'ЕЗД

**Уéзд.** Месца, праз якое ўязджаюць куды-н.; заезд.

Пры ўездзе ў вёску на высокай маляўнічай арцы віселі лозунгі. *Л. Гаўрылкін.*

**Уз'éзд.** Месца, дарога, па якой уз'язджаюць на што-н., куды-н.

На паваротцы дарогі, дзе пачынаўся ўз'езд на бераг, Каваль заўважыў Паліну. *А. Савіцкі.*

## УЕСЦІСЯ // УЗ'ЕСЦІСЯ

**Уе́сціся. 1.** Глыбока пранікнуць, упіцца ў што-н. (пра фарбу, пыл і *інш.*).

У лазні Сымон старанна мыў рукі, бо ў іх яшчэ ў першы дзень работы ўелася смала. *А. Чарнышэвіч.*

**2.** Урэзацца, упіцца.

Моцна скруцілі Міколку рукі назад, аж уеліся рамяні ў цела. *М. Лынькоў.*

**3.** *перан. Разм.* Надоўга застацца ў памяці, сэрцы і г. д.

Звон ходзікаў на ўсё жыццё ўеўся ў памяць Аксёну. *І. Дубройскі.*

**Уз'е́сціся.** *Разм.* Раззлавацца, накінуцца на каго-н. з папрокамі, абвінавачаннямі, пагрозамі; пачаць помсціць каму-н.

— Добра зрабілі, што не задзіраліся з .. [жулікамі], бо гэтая шайка, калі б уз'елася, нарабіла б вам бяды. *М. Машара.*

## УЕХАЦЬ // УЗ'ЕХАЦЬ

**Уе́хаць. 1.** Заехаць унутр чаго-н.; прыехаць куды-н.

У пачатку жніва, неяк раз раніцай, у Бярозаўку ўехалі тры параконныя салдацкія брычкі. *А. Васілевіч.*

**2.** *Разм.* Праехаць які-н. шлях, ад'ехаць якую-н. адлегласць.

За дзень мы ўехалі больш за сто кіламетраў.

**3.** *перан.* Увайсці ў што-н. мяккае, сыпучае; асесці, спусціцца; угрузнуць.

Цяпер хатка ўехала ў зямлю, асунулася і выглядае побач з новым зрубам кучай парахні. *С. Александровіч.*

**Уз'е́хаць. 1.** Заехаць на больш высокае месца.

Бомба трапіла ў наплаўны мост тады, калі санітарны аўтобус з раненымі паспеў ужо ўз'ехаць на бераг. *В. Хомчанка.*

**2.** Наехаць на каго-што-н.

Толькі ржавая сетка-агароджа ў адным месцы была парвана — на яе, па ўсім відаць, уз'ехаў танк. *Б. Сачанка.*

## / УЖЫВАЛЬНЫ // УЖЫВАНЫ // УЖЫТНЫ // // УЖЫТЫ // УЖЫЎЧЫВЫ

**Ужыва́льны.** Які часта, шырока ўжываецца; агульнапрынятый.

Найбольш ужывальнымі суфіксамі назоўнікаў жаночага роду з'яўляюцца наступныя: **-к-а, .. -антк-а, -янтк-а** .. *Граматыка беларускай мовы.*

**Ужыва́ны.** Які ўжо быў ва ўжытку; якім карысталіся.

Қастусь і Міхола пачалі мыцца пад умывальнікам, які быў

прыладжаны да павеці. Каля яго вісеў яшчэ чысты, але ўжываны ручнік. *М. Машара.*

**Ужы́тны.** Тое, што і ў ж ы в а л ь н ы.

Часта ўжытнае слова.

**Ужы́ты.** Выкарыстаны, скарыстаны; прыменены.

Зброя не была ўжыта.

**Ужыў́чывы.** Які ўмее лёгка ўжывацца, жыць у згодзе, ладзіць з другімі.

Калі людзі трапляюць ужыўчывыя, аднолькавых поглядаў, яны робяцца сапраўды блізкімі і шчырымі таварышамі. *М. Машара.*

### УЗБАГАЦЕЦЬ // УЗБАГАЦІЦЬ

**Узбагаце́ць.** *Разм.* Разбагацець, стаць багатым.

Узбагацела, гадаўка, бацьку пахаваць не прыехала. *А. Чарнышэвіч.*

**Узбагаці́ць.** *каго-што.* **1.** Зрабіць багатым, заможным.

Ратуйце... Усё жыццё дзякаваць буду, узбагачу... Усё аддам. *І. Шамякін.*

2. *перан.* Зрабіць больш разнастайным па саставу, багатым па зместу і г. д.

Назіранні далі мне шмат цікавага, і жыццё на возеры ўзбагаціла мяне новымі ведамі і ўражаннямі. *В. Вольскі.*

### УЗБРАЕННЕ // УЗБРОЕНАСЦЬ

**Узбрае́нне.** Зброя і боепрыпасы, прызначаныя для вядзення вайны, для бою.

І ўжо ў самыя апошнія дні перад вялікімі баямі атрада на пераправах група партызан Бумажкова правяла патайнымі дарогамі з нямецкага акружэння полк з усім узбраеннем. *К. Чорны.*

**Узбро́енасць. 1.** Забяспечанасць арміі ўзбраеннем.

Высокая ўзброенасць арміі.

2. Забяспечанасць якімі-н. прыладамі, прыстасаваннямі, матэрыяламі, сродкамі і г. д.

Тэхнічная ўзброенасць.

### УЗБУДЖАЛЬНАСЦЬ // УЗБУДЖАНАСЦЬ // // УЗБУДЖЭННЕ // УЗБУДЛІВАСЦЬ

**Узбуджа́льнасць.** Здольнасць прыходзіць у стан узбуджэння, хвалявання.

Празмерная ўзбуджальнасць хлопчыка.

**Узбу́джанасць.** Усхваляванасць, узрушанасць.

Золатаў, напэўна, выдаў бы сваю ўзбуджанасць тым, што крочыў бы па пакоі, каб знаходзіўся ў прасторным кабінеце. *І. Шамякін.*

**Узбуджэ́нне.** Стан актыўнай, напружанай нервовай дзейнасці; хваляванне.

Першае нервовае ўзбуджэнне прайшло, але мае сябры паводзяць сябе трывожна. *С. Александровіч.*

**Узбу́длівасць.** *Спец.* Здольнасць рэагаваць на ўздзеянне раздражняльнікаў.

Узбудлівасць клетак жывой тканкі.

### УЗБУЙНЕЦЬ // УЗБУЙНІЦЬ

**Узбуйне́ць.** Стаць больш буйным, павялічыцца.

[Каласы] узбуйнелі ўдвая, набрынялі, наступі — пырснуць крухмалам. *І. Пташнікаў.*

**Узбуйні́ць.** *што.* Зрабіць больш буйным па памерах, аб'ёму і г. д.

Узбуйніць калгасы. Узбуйніць фермы.

### УЗЛАЖЫЦЬ // УЛАЖЫЦЬ

**Узлажы́ць.** *што.* **1.** Палажыць на што-н., паверх, на верх чаго-н.

Кастусь памог узлажыць мяхі на воз. *С. Александровіч.*

**2.** *перан.* Даручыць каму-н. якія-н. абавязкі.

Узлажыць адказнасць за правядзенне работы на брыгадзіра.

**Улажы́ць.** *каго-што.* **1.** Палажыць, змясціць унутр чаго-н. Сінонім: укласці.

Напісаўшы пісьмо, Ганка ўлажыла яго ў канверт.. *Я. Бяганская.*

**2.** *перан.* Патраціць, расходаваць на што-н.

Казалі, што Ева расчала рубіць вясной вялікі дом, восем на дзевяць, каб улажыць усе тыя лішнія грошы, якія яна атрымала сёлета за лён. *Я. Ермаловіч.*

**3.** Надаць каму-н. ляжачае становішча, памагчы легчы; прымусіць легчы.

Дзеда ўлажылі ў пасцель, паставілі на тумбачку бутэлечкі з лекамі, шклянку з вадой. *В. Хомчанка.*

**4.** *Разм.* Забіць.

Раптам зводдаля, адтуль, куды напрасцяк імчаўся бяляк, пачуўся стрэл, і Мікола ўбачыў, як далёка нехта з яго сяброў усё-такі ўлажыў небараку. *У. Краўчанка.*

## УЗЛАМАЦЬ // УЛАМАЦЬ

**Узлама́ць. 1.** Ломячы, разбіць, адкрыць што-н. замкнутае, зачыненае.

Ігнась сякерай узламаў замок, і жудасць ахапіла яго. І. *Чарнышэвіч.* ‖ Праламаць, разламаць. У вагоне нумар дзесяць палонныя ўзламалі сцяну і выскачылі на хаду. *М. Лупсякова.*

2. Зрабіць прарыў у чым-н., парушыць што-н.

Узламаць абарону праціўніка.

**Улама́ць.** *Разм.* **1.** *што.* Праламаць; зрабіць пралом.

Уламаць страху.

2. *што.* Ломячы, аддзяліць частку ад чаго-н.

Сінонім: адламаць.

Уламаць хлеба.

3. *перан.; каго.* Пераканаць, з цяжкасцю ўгаварыць згадзіцца з чым-н.

Праўду кажучы, мы са старшынёй калгаса добра-такі змучыліся, пакуль уламалі Бандарэнку: не хацеў дапускаць Васіля да руля. *М. Даніленка.*

## УЗЛЕГЧЫ // УЛЕГЧЫ

**Узле́гчы.** Налегчы, наваліцца на каго-што-н.

Хлопец адразу падышоў да агароджы і ўзлёг на яе грудзьмі. *К. Чорны.*

**Уле́гчы.** *Разм.* **1.** Поўнасцю аддацца якой-н. справе.

Ціхон прамаўчаў, выкарпаў з гэбля стружку і зноў улёг габляваць. *М. Лобан.*

2. Кінуцца наўздагон за кім-чым-н.

І раптам пад самымі нагамі прашмыгнула рудая вавёрка. Нават не памятаў Алесь, як улёг за ёй. *М. Ваданосаў.*

3. Пачаць заляцацца да каго-н.

Не на жарты [Галаўня] улёг за Клавай. *М. Гроднеў.*

## УЗЛЕЗЦІ // УЛЕЗЦІ

**Узле́зці.** *на што.* **1.** Залезці, узабрацца на што-н. высокае, на верх, на паверхню чаго-н.

Вязень узлез на столік, што стаяў пад акенцам, узяўся рукамі за краты, упёрся ў іх галавой і прагна глядзеў на турэмны двор. *В. Таўлай.*

2. *Разм.* Надзецца, налезці (пра адзенне, абутак).

Прымяраю, ці ўзлезе на плечы ватоўка, кашуля. *А. Куляшоў.*

3. *Разм.* Ступіць, уз'ехаць куды-н.

— Вясна сёлета была халодная, дажджы. На поле не ўзлезеш. А сеяць — сей. *І. Пташнікаў.*

**Улéзці. 1.** Пранікнуць, працiснуцца, забрацца ўнутр чаго-н.

Толькі падумаю ехаць — а як у аўтобус улезеш? На яго ж у суботу людзей, нібы сосен у лесе. *У. Карызна.* ‖ Пасяліцца, усяліцца куды-н. Перабраліся ў зямлянку і жылі ў ёй, пакуль не ўлезлі ў новую хату. *М. Лужанін.*

**2.** Залезці ў шкоду.

Трэба было глядзець, каб у грады не ўлезла суседскае парася, сачыць за цялём, якое пасвілася на дзедавым прыгуменні і магло ўбіцца ў шкоду. *С. Александровіч.*

**3.** Умясціцца, размясціцца ўнутры чаго-н.

Цётка Насця рэжа бульбу на кавалкі, каб больш улезла ў чыгун, і расказвае. *В. Палтаран.*

**4.** *Разм.* Умяшацца ў якую-н. справу.

У размову ўлезла цётка Тацццяна. Яна спыніла Данілу, мабыць, на самым цікавым месцы. *А. Асіпенка.*

### УЗЛІЦЬ // УЛІЦЬ

**Узлíць.** *Разм.* Лінуць якую-н. вадкасць на паверхню чаго-н.

Хлапчукі, зачарпнуўшы ў рэчцы конаўку вады, узлілі на вогнішча і паварушылі яго альховымі дубцамі. *А. Ус.*

**Улíць. 1.** Наліць унутр чаго-н.

Дзеці, якія спачувалі Міхаську, тут жа сілай разнялі яму рот і ўлілі вады. *А. Якімовіч.*

**2.** *перан.* Уключыць у склад каго-чаго-н., дабавіць да чаго-н.

Уліць атрад у партызанскую брыгаду.

**3.** *1 і 2 ас. не ўжыв. Разм.* Выпасці ў вялікай колькасці (пра дождж).

Навалакліся чорныя хмары, і пад раніцу ўліў гэтакі дождж, што як я ні напінаў брызентавую накідку, яна не ратавала. *Р. Сабаленка.*

### УЗЛЯЦЕЦЬ // УЛЯЦЕЦЬ

**Узляцéць. 1.** Падняцца ў паветра; узняцца ўверх.

Ён з такіх, што і ўніз падаючы, узлятаюць угору. *Л. Дайнека.*

**2.** *Разм.* Вельмі хутка ўзбегчы, уз'ехаць на верх чаго-н.

Узляцеўшы на гару, убачыў [Васіль] перад сабой знаёмую дарогу з пабурэлым курганом. *І. Мележ.*

**Уляцéць. 1.** З лёту, на ляту пранікнуць, трапіць куды-н.; заляцець унутр чаго-н.

У гэты момант у акоп уляцела граната. Сяржант спрытна схапіў яе і кінуў назад немцам. *Л. Прокша.*

2. *Разм.* Вельмі хутка ўвайсці, убегчы, уехаць куды-н.

Адчыніліся дзверы, і ў хату не ўбегла, а ўляцела перапалоханая маці. *Б. Сачанка.*

3. *Разм.* Упасці, уваліцца ў што-н.

Уляцець у яму.

4. *безас.; каму. Разм.* Папасці (за якую-н. правіннасць).

На тым, як моцна бразнулі дзверы і зазвінела ў сенцах вядро, Геня .. зразумеў, што яму ўляціць ад маці за такога сябра. *І. Пташнікаў.*

### УЗМАЦНЕЦЬ // УЗМАЦНІЦЬ

**Узмацне́ць. 1.** *1 і 2 ас. не ўжыв.* Узмацніцца, павялічыцца ў сіле (пра вецер, дождж і інш.).

Вецер узмацнеў і са злосцю круціў вадзяныя струмені. *Т. Хадкевіч.* ‖ Стаць больш трывалым, цвёрдым; умацавацца. Калгас з гэтым часам узмацнеў. Пачала папаўняцца малочная ферма. На другі год вялікі прыбытак даў лён. *А. Чарнышэвіч.*

2. Стаць больш здаровым, вынослівым.

Сінонімы: падужэць, паздаравець.

Вось выраслі дзеткі, за лета ўзмацнелі, пад восень у вырай яны паляцелі. *Я. Журба.*

**Узмацні́ць.** *што.* **1.** Зрабіць што-н. мацнейшым, павялічыць сілу чаго-н.; умацаваць што-н.

Гулкае рэха вялікага і пустога памяшкання ў шмат разоў узмацніла шум нашых крокаў. *А. Чаркасаў.*

2. Актывізаваць што-н.

Сінонім: палепшыць.

Узмацніць выхаваўчую работу.

### УЗМЕЖАК // УЗМЕЖЖА

**Узме́жак.** Край мяжы; мяжа.

На ўзмежках палеткаў чырванеюць буйныя ягады шыпшыны. *Я. Брыль.*

**Узме́жжа.** Неўзараная зямля паміж палеткамі.

А ў сад зайдзі узмежжам да рабін — гараць, ірдзеюць на марозе. *А. Пысін.*

### УЗНЕСЕНЫ // УЗНЁСЛЫ

**Узне́сены.** Падняты, узняты ўвысь, угору.

Узнесены над высокім будынкам дзяржаўны сцяг.

**Узнё́слы.** Поўны вялікага значэння, глыбокага зместу, высакародных пачуццяў.

Сінонімы: урачысты, прыўзняты.

Яшчэ ў пару Бондаравай маладосці пра звычайную ў сялянскай штодзённасці работу, як ворыва, сяўба, жніво, сталі гаварыць высокімі, узнёслымі словамі. *І. Навуменка.*

### УЗНЕСЦІ // УНЕСЦІ

**Узнéсці. 1.** *каго-што.* Падняўшы, занесці куды-н. наверх.

Узнесці цэглу на другі паверх. Узнесці вёдры з вадой на ганак.

**2.** *што.* Падняць, узняць увысь, угору; ускінуць.

Старыя яліны высока ўзнеслі свае лапы ў чорнае неба. *М. Лынькоў.*

**3.** *што.* Збудаваць, пабудаваць.

У рукі ўласныя свой лёс узяў народ вольналюбівы, на вогнішчы палацы ўзнёс, ператварыў балоты ў нівы. *К. Крапіва.*

**4.** *перан. каго-што.* Узвялічыць, узвысіць; усхваліць.

Падхалім заўсёды ўзносіць, хваліць здольнасці начальніка.

**Унéсці.** *каго-што.* **1.** Прынесці, занесці ўнутр чаго-н., куды-н.

Цётка папалася спагадлівая, картоплі чыгун наварыла, саломы ўнясла куль. *І. Навуменка.*

**2.** Заплаціць, зрабіць узнос.

— Грошы я магу заўтра ўнесці ў касу. *А. Пальчэўскі.*

**3.** Уключыць у склад каго-чаго-н.; дабавіць, зрабіць папраўкі.

Змены, што я ўнесла ў меню, асаблівага ўздыму не выклікалі. *А. Савіцкі.*

**4.** Даць пранікнуць куды-н., умяшаць у што-н.

Унесці кампост у глебу. Унесці мінеральныя ўгнаенні.

**5.** *перан.* Выклікаць, зрабіць; узбагаціць.

Больш жвавасці ўнесла заўвага Клаўдзіі Хацкевіч. *І. Шамякін.*

### УЗНІЗАЦЬ // УНІЗАЦЬ

**Узнізáць.** *каго-што. Разм.* Нанізаць на нітку, пруток і г. д.

Конан падцягнуў лодку, прымкнуў яе да калка, узнізаў рыбу на лазіну. *М. Лобан.*

**Унізáць.** Нанізваючы, навешваючы, пакрыць паверхню чаго-н. вялікай колькасцю якіх-н. прадметаў.

Унізаць пальцы пярсцёнкамі. Унізаць ёлку цацкамі.

### УЗНІКАЦЬ // УНІКАЦЬ

**Узнікáць.** Пачынаць, зараджацца; стварацца; здарацца, адбывацца.

Усіх цікавіць, як узнікла жыццё на планеце.

**Унікáць. 1.** *чаго.* Пазбягаць чаго-н., ухіляцца ад чаго-н.

Я не раз здзіўляўся, як спрытна ўнікалі шафёры амаль не назбежных аварый. *І. Мележ.*

**2.** *у што.* Удумвацца, імкнуцца зразумець сутнасць чаго-н.

Віктар учытваўся, унікаў у змест. І раз, і другі прабягаў вачыма напісанае. *У. Паўлаў.*

## УЗНЯЦЬ // УНЯЦЬ

**Узня́ць.** *каго-што.* **1.** Падняць уверх.

Пагукваюць хлопцы і падважваюць бервяно. Узнялі, зрушылі. *Я. Колас.*

2. Разбудзіць, прымусіць устаць з пасцелі.

А заўтра ўзніме на світанні касцоў ледзь чутны звон травы. *А. Вольскі.* ‖ Успудзіўшы, выгнаць адкуль-н. (з нары, гнязда і пад.). Максім жа не загінуў ад звера, як гэта думалі людзі. Узняўшы з бярлогі мядзведзя, ён падштурхнуў яму ў лапы пана, а сам накіраваўся ў балоты. *М. Машара.*

3. Павялічыць, павысіць.

Узняць прадукцыйнасць працы. Узняць цэны.

4. Узараць (папар, цаліну і пад.).

Да нас у госці май прыходзіць, як той старанны гаспадар,— глядзіць, як поле наша родзіць, ці ўзнялі ўвесь мы свой папар. *Я. Купала.*

5. *перан.* Выгадаваць, выхаваць, паставіць на ногі.

Дзед спяшаўся. Яму трэба было ўзняць і гэтага. Цяпер Вацлаў быў у шостым класе. *У. Караткевіч.*

**Уня́ць.** *каго-што. Разм.* **1.** Угаварыць або прымусіць каго-н. супакоіцца, перастаць хваляваціся, крычаць, плакаць і г. д.

Нейкі час цяжкавата было аднавіць парадак, уняць гаварків. *П. Кавалёў.*

2. Суняць, супакоіць (пачуцці, боль і пад.).

Я не супакойваў жанчыну,— я ведаў, што боль матчынага сэрца нельга ўняць нічым. *Б. Сачанка.*

## УЗОРНЫ // УЗО́РЫСТЫ

**Узо́рны. 1.** Які можа служыць прыкладам для іншых.

Сінонімы: дасканалы, паказальны.

Куды ні зірні: на кухню, дзе рыхтуецца корм жывёле, у кароўнік, у цялятнік — усюды ўзорная чыстата і парадак. *Беларусь.*

**2.** *Разм.* Тое, што і ўзорысты.

Узорную лістоту ясеня суха трос вецер. *А. Савіцкі.*

**Узо́рысты.** Аздоблены ўзорамі; з узорамі.

Вокны былі завешаны доўгімі, аж да падлогі, узорыстымі фіранкамі. *І. Дубройскі.*

## УЗРАСЦІ // УРАСЦІ

**Узрасці́. 1.** Вырасці, стаць дарослым, сталым.

Лепей за ўсё мне на свеце мясціна тая, дзе я нарадзіўся і ўзрос. *К. Кірэенка.* ‖ Узышоўшы, вырасці (пра расліны). Дзякуй цёплым дажджам і халоднай расе за жыты, што ўзраслі ў небывалай красе. *А. Вольскі.*

**2.** *1 і 2 ас. не ўжыв.* Павялічыцца ў памерах, аб'ёме, сіле і г. д., зрабіцца большым; разрасціся.

Тут заводы ўзраслі, новых фабрык тут шмат... Сёння ёсць чым у нас ганарыцца. *Я. Журба.* ‖ Павысіцца; стаць больш значным. Узрасла актыўнасць мас. Узрос аўтарытэт кіраўніка.

**Урасці́.** *1 і 2 ас. не ўжыв.* **1.** Па меры росту пранікнуць углыб, прарасці ўнутр.

Моладзь наўтыкала вярбовых калоў, і ўраслі яны ў зямлі, распусцілі вецце. *А. Чарнышэвіч.*

**2.** Асесці, уехаць у зямлю.

Хатка такая старая, што амаль па вокны ўрасла ў зямлю. *Л. Гаўрылкін.*

**3.** Зарасці, парасці.

Урос пагорак жорсткаю травою. *В. Вітка.*

## УЗРЫЦЬ // УРЫЦЬ

**Узры́ць.** *што.* Разрыць зямлю лычом (пра жывёл); падрываючы, ускінуць.

Трэці выбух узрыў лугавую макрэчу якраз на .. дарозе ў лес. *Я. Брыль.*

**Уры́ць.** *што (звычайна з адмоўем «не»).* Змагчы разрыць, прарыць што-н. (пра жывёл).

Грунт цвёрды — і свіння не ўрые.

## УКАЛУПІЦЬ / УКАЛУПНУЦЬ // УСКАЛУПІЦЬ / УСКАЛУПНУЦЬ

**Укалупі́ць.** Тое, што і укалупнуць.

Укалупіць крышку сыру.

**Укалупну́ць.** *Разм.* **1.** *што.* Калупнуўшы, аддзяліць.

Сінонім: адкалупнуць.

Укалупнуць масла.

**2.** *перан.; каго.* Падкалоць, кальнуць каго-н. у размове.

Ледзь падрос, а ўжо так і цэліць, каб укалупнуць чалавека. *М. Скрыпка.*

**Ускалупіць.** *Разм.* Тое, што і ўскалупнуць.

Ускалупіць больку.

**Ускалупнýць.** *што.* Калупнуўшы, прыўзняць, аддзерці, аддзяліць.

Ускалупнуць нарыў.

### УКАЛЫХАЦЬ // УСКАЛЫХАЦЬ

**Укалыхáць.** *каго.* Калышучы, заставіць заснуць.

Сінонім: закалыхаць.

Укалыхаць дзіця.

**Ускалыхáць. 1.** *што.* Прывесці ў рух, прымусіць калыхацца.

І ідзе я не змог бы пражыць ні хвіліны адной... Без вятроў, што мой Сож і што Волгу маю ўскалыхалі. *К. Кірэенка.*

2. *перан.; каго. Разм.* Узгадаваць, выхаваць, выпесціць.

Мяне з маленства ўскалыхала бура. Маё дзяцінства — на шляхах вайны. *А. Ставер.*

### УКАПАЦЬ // УСКАПАЦЬ

**Укапáць. 1.** *што.* Замацаваць што-н. у выкапанай яме, паглыбленні.

Стары .. не перашкаджаў жончыным намерам укапаць слупкі і выкапаць ямы. *Ф. Янкоўскі.*

**2.** *звычайна з адмоўем «не».* Змагчы ўскапаць што-н.

Пачалі мы кусты на полі высякаць, карчаваць. А дзёран узяўся — не ўкапаць, не ўараць. *П. Місько.*

**3.** *што* і *чаго. Разм.* Накапаць, выкапаць невялікую колькасць.

[Алесь] пакуль што нічога не робіць — не крышыць зелля свінням, не ідзе ўкапаць бульбы, а сядзіць у хаце. *Я. Брыль.*

**Ускапáць.** *што.* Капаючы, узрыхліць верхні пласт зямлі.

Хлопчык выбраў адну такую палянку, старанна ўскапаў зямлю і папрасіў маці дапамагчы пасеяць насенне. *У. Мяжэвіч.*

### УКАРАНЕЦЬ // УКАРАНІЦЬ

**Укаранéць.** *Разм.* **1.** Пусціць глыбока карэнне.

Дуб моцна ўкаранеў за доўгія гады.

2. *перан.* Трывала замацавацца дзе-н., атрымаць шырокае распаўсюджанне (пра погляды, звычай і пад.).

— Ты яшчэ малады, яшчэ можна ўсё што хочаш з сябе зрабіць. А з гадамі таго, што ўкаранее, калом не выб'еш. *М. Лобан.*

**Укаранíць.** *што.* **1.** Пасадзіўшы, даць прарасці, умацавацца каранямі ў глебе.

Укараніць атожылкі. Укараніць саджанцы.

**2.** *перан.* Садзейнічаць трываламу замацаванню чаго-н. у практыцы; увесці ў быт, свядомасць і г. д.

Прапанову наладчыка ўхвалілі і ўкаранілі ў вытворчасць. *Звязда.*

### УКАЦІЦЬ // УСКАЦІЦЬ

**Укаціць.** *што.* **1.** Закаціць што-н. круглае ці на колах унутр чаго-н.

— А бочку, хлопцы, укоціце ў склеп... Тут нельга пакідаць. *І. Гурскі.*

**2.** *перан.; што каму. Разм.* Зрабіць, учыніць (звычайна што-н. непрыемнае).

— А летась тут, у нас, памятаеце, колькі мы вам уколаў укацілі. *А. Васілевіч.*

**Ускаціць.** *што.* Коцячы, падняць, закаціць куды-н.

А яны хоць і папамучацца, пакуль дрэва зваляць, затое, як ускоцяць кругляк — у санях капылы трашчаць. *У. Паўлаў.*

### УКІДАЦЬ // УСКІДАЦЬ

**Укідаць.** *што.* **1.** Укінуць унутр чаго-н. за некалькі прыёмаў. Укідаць сена ў хлеў.

**2.** Закідаць усё ці частку чаго-н. чым-н.

Укідаць дарогу каменнем.

**Ускідаць.** *што.* Кідаючы, ускласці на верх чаго-н. усё, многае. Ускідаць сена на вышкі.

### УКЛАСЦІ // УСКЛАСЦІ

**Укла́сці.** *каго-што.* **1.** Пакласці спаць; уладкаваць на адпачынак; памагчы легчы.

Пакуль Каця супакоіла дачку, накарміла яе і ўклала спаць, дык ужо добра і сцямнела. *Л. Гаўрылкін.*

**2.** Пакрыць, услаць чым-н. паверхню чаго-н.; палажыць у пэўным парадку.

— Што мы да гэтага рабілі? Бетон укладзём пад цэх — пайшлі далей. А цяпер і сцены будзем самі выводзіць, і аконныя пераплёты ставіць. *В. Мыслівец.*

**3.** Палажыць, змясціць унутр.

Следчы ўзяў .. астрожнае накіраванне, яшчэ нейкія паперы, усё гэта ўклаў у канверт і аддаў паліцыянту. *М. Машара.*

**4.** Аддаць на захаванне, выкарыстанне (грашовыя сродкі, капітал).

Укласці капітал на будаўніцтва дома.

5. *Разм.* Забіць.

Са сваёй стрэльбы я ўжо, хлопча, не аднаго звера ўклаў *М. Ткачоў.*

**Ускла́сці. 1.** *каго-што.* Пакласці на верх, паверх чаго-н.

Трэба было ўскласці камель бервяна на перадок, а верх на заднюю вось. *П. Галавач.*

2. *што.* Урачыста пакласці.

У дні свят і мінчане і госці з розных краін і гарадоў прыходзяць сюды, каб ускласці вянкі і букеты, каб выказаць яшчэ раз сваю пашану памяці герояў... *В. Вольскі.*

3. *што.* Даручыць што-н. каму-н.

На Шалюту, як былога камандзіра атрада, усклалі абавязкі старшыні райвыканкома. *І. Дуброўскі.*

## УКРУЦІЦЦА // УСКРУЦІЦЦА

**Укруці́цца. 1.** Круцячыся, увайсці ў сярэдзіну чаго-н.

Шруба лёгка ўкруцілася ў раму.

2. Захутацца ў што-н., абматацца чым-н.

Мы абуліся, адзеліся, укруціліся хусткамі. *Е. Лось.*

3. Круцячыся, наматацца на што-н.

Лейцы адчапіліся ад лёстак, укруціліся ў пярэдняе кола. *Р. Сабаленка.*

**Ускруці́цца.** *Разм.* **1.** Устаць вельмі рана.

– Чаго ты ў такую рань ускруціўся? Спі яшчэ. *Т. Хадкевіч.*

2. Нечакана разбушавацца (пра з'явы прыроды).

Ускруціцца такая завея, што з хаты носа не выткнеш. *А. Чарнышэвіч.*

## УЛАДАРАННЕ // УЛАДАРНАСЦЬ // УЛАДАРСТВА / УЛАДНАСЦЬ

**Улада́ранне.** Панаванне дзе-н.

У першыя ж дні нямецкага ўладарання [у гарадку] былі арыштаваны мясцовы натарыус, старшыня абутковай арцелі і лясні́чы. *І. Навуменка.*

**Улада́рнасць.** Схільнасць загадваць, падначальваць сабе; настойлівасць, патрабавальнасць; усёмагутнасць.

Княжацкая ўладарнасць.

**Улада́рства. 1.** Вярхоўная ўлада, панаванне.

Імператарскае ўладарства.

2. Нерухомая маёмасць, якой валодаюць як уласнасцю (звычайна пра зямлю).

Пану Гюнтэру Ліндэ трэба было аб'ездзіць усе трыццаць гектараў свайго ўладарства. *З. Бядуля.*

**Ула́днасць.** *Кніжн.* Тое, што і ў л а д а р н а с ц ь.

За плячыма вартаўніка вісела стрэльба. Усё гэта прыдавала вартаўніку .. уладнасць і ўпэўненасць. *Я. Колас.*

### УЛАСНІЦКІ // УЛАСНЫ

**Ула́сніцкі.** Уласцівы ўласніку — чалавеку, які прагне цалкам уладаць чым-н., не дзелячыся з іншымі.

Уласніцкая псіхалогія.

**Ула́сны. 1.** Які належыць каму-чаму-н. як уласнасць.

Міхал памірае, не дасягнуўшы мэты, не пабачыўшы ўласнай зямлі. *В. Каваленка.*

**2.** Свой, асабісты.

Чалавек нарадзіўся, жыў, падрастаў. Нарэшце, на ўласныя ногі ён стаў. *П. Прануза.*

### УЛЮБЕНЫ // УЛЮБЛІВЫ

**Улюбёны. 1.** Закаханы ў каго-н.

Калі салдаты пайшлі, Лёдзя, улюбёная на той момант у Пракопа, з нейкім асаблівым уздымам узялася за работу. *У. Карпаў.* ‖Ачараваны, захоплены кім-чым-н. Сіліч адразу не прызнаўся, што ён таксама настаўнік гісторыі. Але выклікала павагу хлопцава перакананне і падкупляла ягоная схільнасць да аблюбаванай прафесіі, у якую сам быў улюбёны змалку. *М. Аўрамчык.*

**2.** Такі, якому аддаецца перавага ў параўнанні з чым-н. іншым.

С і н о н і м: аблюбаваны.

У ягоным хрысціянскім Навагародку свяшчэнным дрэвам, улюбёным дрэвам багародзіцы святары аб'явілі белую бярозу. *Л. Дайнека.*

**Улю́бліва.** Схільны лёгка і часта ўлюбляцца.

Па натуры я быў не ўлюблівы. *А. Карпюк.*

### УНАРМАВАНАСЦЬ // УНАРМАВАННЕ

**Унармава́насць.** Прызнанне чаго-н. у якасці нормы.

Унармаванасць правапісу.

**Унармава́нне.** Прывядзенне чаго-н. да нормы.

Унармаванне правіл школьнай граматыкі.

### УНІКАЛЬНЫ // УНІКЛІВЫ

**Уніка́льны.** Вельмі рэдкі, адзіны ў сваім родзе; выключны.

Свежы вобраз, нечаканая метафара, трапнае параўнанне знаходзяцца на адзін раз. Яны унікальныя. *Р. Шкраба.*

**Уніклівы. 1.** Які пазбягае прама і адкрыта выказваць свае думкі; непрамы, пазбаўлены шчырасці.

Нічога канкрэтнага мы не даведаліся. Усе яго адказы былі нейкія ўніклівыя, адчувалася, што гаворыць ён не ад душы. *ЛіМ.*

2. Які глыбока ўнікае ў сутнасць справы.

С і н о н і м ы: дапытлівы, цікаўны.

Ён гутарыць з дзецьмі, якія абступілі яго лодку, і ахвотна, шчыра адказвае на іх бясконцыя, уніклівыя запытанні. *В. Вольскі.*

### УПАДАК // УПАДАЧНАСЦЬ / УПАДНІЦТВА

**Упа́дак.** Пагаршэнне агульнага стану чаго-н.; агульны развал, распад, разлажэнне.

Матывы тугі і смутку таксама не мелі нічога агульнага ў сваёй аснове з літаратурай упадку. *А. Лойка.*

**Упа́дачнасць.** Упадніцкія погляды, настроі ў якой-н. галіне грамадскага жыцця.

Якраз на тыя цяжкія гады прыпадае і найбольшая ўпадачнасць у галіне культуры і мастацтва. *ЛіМ.*

**Упа́дніцтва.** Тое, што і ў п а д а ч н а с ц ь.

Для яго [Багдановіча] не прымальны быў па духу свайму культ буржуазнага індывідуалізму, упадніцтва і песімізму. *С. Майхровіч.*

### УПАДАЧНЫ // УПАДНІЦКІ

**Упа́дачны.** Які бывае пры ўпадку ў якой-н. галіне грамадскага жыцця; які характарызуецца адсутнасцю актыўнасці ў чым-н., веры ў што-н.

Упадачны стан сельскай гаспадаркі. Упадачны настрой.

**Упа́дніцкі.** Які мае адносіны да ўпадніцтва.

Матывы завядання, тугі, адзіноты, калі яны становяцца устойлівымі і выцясняюць усё астатняе,— гэта ўжо атрыбуты ўпадніцкай паэзіі. *Н. Перкін.*

### УПАКАВАНЫ // УПАКОВАЧНЫ

**Упакава́ны.** Уложаны, зложаны ў што-н.

С і н о н і м: спакаваны.

Кожны хоча даць сваю параду: як і што лепш упакаваць, што пакласці на дно, а што зверху, каб не пацерлася. *Г. Шыловіч.*

**Упакóвачны.** Які мае адносіны да ўпакоўкі, упакоўвання; які прызначаны, служыць для ўпакоўкі.

Дзверы ў яго кабінку адчынены і завешаны ад мух і камароў рудаватаю ўпаковачнаю марляю. *С. Грахоўскі.*

### УПАСЦІ // УСПАСЦІ

**Упáсці. 1.** Зваліцца; зляцець зверху.

Дзіця ўпала. Яблык упаў са стала.

**2.** Уваліцца, запасці ўнутр.

— Вунь як яна пастарэла. Нос завастрыўся. Вочы ўпалі, як бы выцвілі. *Р. Сабаленка.*

**3.** *у што.* Дайсці да якога-н. стану, становішча (звычайна цяжкага).

Упаў Даніла ў злосць, у ярасць, уладу страціў над сабой. *Я. Колас.*

**Успáсці.** *на каго-што. Разм.* **1.** Напасці з мэтай захопу, грабяжу, забойства і пад.

Як драпежныя рабаўнікі, успалі магнаты на наша народнае багацце. *М. Машара.* ‖ *у перан. ужыв.* Ці стомлены буду, ці лень успадзе — турбуй мяне, дружа, і ўночы, і ўдзень. *Н. Гілевіч.*

**2.** Накінуцца на каго-н. з лаянкай, папрокамі і пад.

— Чаго ты прычапіўся да дзіцяці? — успала матка. *С. Баранавых.*

**3.** Выпадкова трапіць, набрысці на што-н.

Успасці на след.

### УПЕРАМЕЖКУ // УПЕРАМЕШКУ / УПЯРЭМЕШКУ

**Уперамéжку.** *Разм.* Папераменна чаргуючыся адно з другім, размяшчаючыся ў пэўным парадку.

Кіламетраў праз семдзесят машыны звярнулі з дарогі і пайшлі, гайдаючыся і падскакваючы, па цаліку ўздоўж лесу, у якім стаялі ўперамежку дубы і клёны. *І. Мележ.*

**Уперамéшку.** *Разм.* Тое, што і ў п я р э м е ш к у.

Дождж сыпаўся густы, як з рэшата, уперамешку з градам; на лужынах ля ног набухалі бурбалкі, вялікія, па бульбіне. *І. Пташнікаў.*

**Упярэ́мешку.** У беспарадку, перамешана, змешана.

Паступова багатая раслiннасць збожжа пачынае саступаць месца мізарнейшай, пракідаюцца пескавыя глебы ўпярэмешку з вільготнымі паплавамі. *Р. Мурашка.*

## УПОМНІЦЬ // УСПОМНІЦЬ

**Упóмніць.** *каго-што. Разм.* Запомніць, утрымаць у памяці.
Дзе ты ўсё ўпомніш цяпер — столькі гадоў прайшло.

**Успóмніць.** *каго-што, пра каго-што.* Аднавіць у памяці, прыпомніць.

Зося прыпамінала і ніяк не магла ўспомніць, дзе яна чула гэтае прозвішча. *В. Хомчанка.*

## УПРАЎЛЕНЧЫ // УПРАЎЛЕНЫ // УПРАЎНЫ

**Упраўлéнчы.** Які мае адносіны да ўпраўлення.

Скарачэнне ўпраўленчага апарату праводзілася, але яго ізноў скарачаць і скарачаць. *Звязда.*

**Упрáўлены.** Устаўлены на месца (пра вывіхнутае).

Упраўлены вывіхнуты сустаў.

**Упрáўны.** Спрытны і жвавы ў рабоце.

А потым неяк усё ж прызнаўся: дрэнна ў хаце без гаспадыні. Пачакай, кажу, апытаю дзе па вёсках кабету харошую, упраўную, ды пасватаем. *Х. Лялько.*

## УПЭЎНЕНАСЦЬ // УПЭЎНЕННЕ

**Упэ́ўненасць.** Перакананасць у чым-н.; цвёрдая вера ў каго-што-н.

Ён адчуваў у сабе дзіўную адвагу і ўпэўненасць. *А. Карпюк.*

**Упэ́ўненне.** Заява, якая мае на мэце пераканаць каго-н. у чым-н., даказаць што-н., упэўніць у чым-н.

Сінонім: запэўненне.

Яго ўпэўненне было такім гарачым, пераканаўчым, што ўсумніцца ў ім проста было няёмка. *ЛіМ.*

## УРАДЖАЙНЫ // УРАДЛІВЫ

**Ураджáйны.** Які вызначаецца высокай ураджайнасцю, дае багаты ўраджай.

Які сяголета шчаслівы і ўраджайны выпаў год: ва ўсіх садах агрэст і слівы, клубнікі повен агарод. *П. Глебка.*

**Урадлíвы.** Здольны даваць высокія ўраджаі; які вызначаецца ўрадлівасцю.

Чырвоныя, пагнаўшы белапалякаў, адкрылі дарогу за Дзвіну. Там зямля больш урадлівая, голаду, як быццам, не чуваць. *Г. Хадкевіч.*

## УРАЖАЛЬНЫ // УРАЖАНЫ // УРАЖЛІВЫ // УРАЗЛІВЫ

**Ужара́льны.** Які робіць моцнае ўражанне.

Уражальныя факты. Уражальныя лічбы.

**Ура́жаны.** Моцна ўсхваляваны, устрывожаны; пакрыўджаны.

Усе слухачы былі моцна ўражаны апавяданнем і дружна папрасілі бабку расказаць, як яна жыла потым. *А. Якімовіч.*

**Ура́жлівы.** Які лёгка паддаецца ўражанням, вельмі чулы.

Неверагодна, але я памятаю сябе з двух год. Можа, гэта таму, што ў дзяцінстве я часта хварэў, а вядома ж: хваравітыя дзеці самыя ўражлівыя. *А. Асіпенка.*

**Ура́злівы.** Здольны жыва адчуваць, успрымаць што-н.

Вася заўжды ўразлівы, насцярожаны. *В. Карамазаў.*

## УСАДЗІЦЬ // УССАДЗІЦЬ

**Усадзі́ць. 1.** *што.* З сілай уваткнуць вострым канцом у што-н.

Дзядзька ўсадзіў сякеру ў бервяно, выпрастаўся і раптам глуха і хрыпла пачаў выгаворваць пляменніку. *Б. Мікуліч.*

**2.** *каго.* Прапанаваць, прымусіць або памагчы сесці.

Сінонім: пасадзіць.

Кастусь усадзіў Ліпу ў кабіну, а сам палез у кузаў. *Л. Гаўрылкін.*

**3.** *перан.; што* і *чаго. Разм.* Расходаваць, патраціць вялікую колькасць чаго-н.

Усадзіць вялікія грошы ў няпэўную справу.

**Уссадзі́ць. 1.** *каго.* Падняўшы, пасадзіць, паставіць на што-н.

Уссадзіць малога на канапу.

**2.** *што.* Шчыльна насадзіць, надзець на што-н.

Уссадзіць тапор на тапарышча. ‖ *Разм.* З цяжкасцю адзець што-н. цеснае, вузкае. Наперадзе .. смешна скакала на адной назе маленькая дзяўчынка — ніяк не магла ўссадзіць скінуты чаравік. *І. Хадановіч.*

## УСКАЛАМУЦІЦЬ // УСКАЛМАЦІЦЬ

**Ускаламу́ціць. 1.** *што.* Зрабіць каламутным (ваду, вадкасць).

Сінонім: Замуціць.

Першыя купальшчыкі так ускаламуцяць ваду, што ніхто не захоча больш лезці. *А. Пальчэўскі.*

**2.** *перан.; каго-што.* Вывесці са стану спакою, усхваляваць.

Сваім пранізлівым позіркам, здавалася, ён зірнуў ёй у душу і там ўсё ўскаламуціў, узрушыў. *Р. Сабаленка.*

**Ускалма́ціць.** *каго-што.* Зрабіць калматым.

Сінонімы: узлахмаціць, растрапаць.

Вось што! — Барыс ускалмаціў Рэме валасы і загадаў: — Маўчок. За справу. *А. Шашкоў.*

## УСКРАЕК // УСКРАІНА

**Ускра́ек.** Крайняя частка якой-н. прасторы; край чаго-н.

Над ускрайкам лесу, дзе пачыналіся жоўтыя пяскі, зазвінела песня ляснога жаваранка. *Я. Колас.*

**Ускра́іна. 1.** Крайняя частка якой-н. мясцовасці, тэрыторыі; аддаленая ад цэнтра частка населенага пункта.

У генералавым доме жылі ўжо другія людзі. Яны сказалі, што цётка Антося перабралася на ўскраіну горада ў сваю хату. *А. Карпюк.*

**2.** Аддаленая, пагранічная тэрыторыя дзяржавы.

Ускраіна Расійскай імперыі.

## УСТАНОВАЧНЫ // УСТАНОЎЧЫ

**Устано́вачны.** Які дае арыенціроўку, указанне на што-н.; прынцыпова важны.

Установачны артыкул Максіма Танка быў змешчаны ў 12-м нумары «Нашай волі», а на трынаццатым газета была закрыта. *У. Калеснік.*

**Устано́ўчы.** Які мае сваёй мэтай заснаванне, арганізацыю чаго-н.

У Маскве праходзіў устаноўчы кангрэс, у рабоце якога прынялі ўдзел дэлегацыі дзесяці краін, якія культывуюць спартыўную акрабатыку. *Звязда.*

## УССУНУЦЬ // УСУНУЦЬ

**Уссу́нуць.** *што.* **1.** Сунучы, падняць наверх.

Уссунуць бэльку на зруб.

**2.** *Разм.* Абуць, надзець (звычайна наспех, часова).

Андрэй устаў, не запальваючы лямпы адзеўся, уссунуў на ногі боты, зняў кажух і шапку, апрануўся і пайшоў з хаты. *А. Чарнышэвіч.*

**Усу́нуць.** *каго-што.* **1.** Сунуўшы, змясціць унутр, усярэдзіну чаго-н.; увапхнуць у што-н.

Міколка ўзяў сваю старую школьную торбачку .. Напакаваў не, усунуў туды і стары абгрызены пенал, любімы сшытак. *М. Лынькоў.*

**2.** Прасунуць унутр чаго-н.

— Таварыш камандзір! — усунуў галаву ў дзверы разведчык.— Вас можна на хвілінку? *У. Федасеенка.*

**3.** *Разм.* Даць што-н. у рукі.

— Бяры! І бяжы ў цэх...— неяк злосна прамовіў вахцёр, усунуўшы Асташонку ў рукі пропуск. *М. Ваданосаў.*

### УССЫПАЦЬ // УСЫПАЦЬ

**Уссы́паць.** *што.* Насыпаць на каго-што-н.

Пасля вянца [маладыя] уз'ехалі на двор, уссыпалі на іх з паўпуда хмелю. *У. Корбан.*

**Усы́паць. 1.** *што* і *чаго.* Насыпаць чаго-н. куды-н.

Маці знайшла торбу і ўсыпала ў яе з гарнец бульбы. *А. Якімовіч.*

**2.** *што.* Пакрыць усю паверхню чым-н.

Апалыя лісты ўсыпалі сцежкі і мокрую траву. *С. Грахоўскі.*

**3.** *каму. Разм.* Пабіць або вылаяць каго-н.

— От здыму папругу ды як усыплю, то навучышся і сеяць і са старэйшымі гаварыць. *А.. Чарнышэвіч.*

### УСТОЙЛІВЫ // УСТОЯНЫ

**Усто́йлівы. 1.** Здольны цвёрда стаяць, трымацца, не хістаючыся, не падаючы.

Цягуча, нудна скрыпіць пад нагамі верхняя ступенька канторскага ганка, і я хутчэй ступаю на ніжнюю, больш устойлівую. *В. Палтаран.*

**2.** Які не паддаецца зменам, хістанням; пастаянны; стойкі.

Перадавыя раёны і гаспадаркі абавязаліся дасягнуць высокіх, устойлівых ураджаяў сельскагаспадарчых культур. *Звязда.*

**Усто́яны.** Які стаў гатовым для ўжывання ў выніку доўгага стаяння ў адпаведных умовах.

Устояны квас. Устояная наліўка.

### УСТРЫМАЦЦА // УТРЫМАЦЦА

**Устрыма́цца. 1.** Стрымаць сябе ад якіх-н. дзеянняў, адмовіцца ад чаго-н.

Я папярэдзіў Карповіча, каб ён устрымаўся пакуль што ад шчырых размоў са сваім жыхаром. *М. Машара.*

**2.** Ухіліцца, не прыняць удзелу (у галасаванні).

Колькі ўстрымалася пры галасаванні — не падлічвалі, важна было, .. што ніхто не галасаваў супроць. *Т. Хадкевіч.*

**Утрыма́цца. 1.** Пэўным намаганнем затрымацца на месцы, не ўпасці, устаяць на нагах.

Мы паслізнуліся і ледзь утрымаліся на нагах. *Т. Хадкевіч.*
2. Не адступіць пад націскам непрыяцеля, не здаць пазіцыі, утрымацца на якім-н. рубяжы.
Сабраў тады камандзір наша аддзяленне ды і кажа, што вельмі важна танкам утрымацца на тым беразе. *У. Юрэвіч.*
3. *Разм.* Стрымаць сябе ад якога-н. учынку, дзеяння, не даць праявіцца чаму-н., не зрабіць таго, што хочацца.
Чубар таксама не ўтрымаўся ад спакусы — падаўся ў будан. *І. Чыгрынаў.*

## УСТУПІЦЦА // УТУПІЦЦА

**Уступі́цца.** Заступіцца за каго-што-н., узяць пад сваю ахову.
— Ціхі ён у нас, пане,— уступілася за сына маці, якая сядзела на палку каля малых дзяцей. *А. Пальчэўскі.*
**Уту́піцца.** *Разм.* Пільна, не адводзячы вачэй, глядзець на каго-што-н.
Коля ўстаў, падышоў да акна, нешта паўглядаўся, потым зноў утупіўся ў чарцёж. *В. Мыслівец.*

## УСТУПЧАТЫ // УСТУПЧЫВЫ

**Усту́пчаты.** Які мае ўступы (ступені ці выемкі); з уступамі.
Уступчатая сцяна.
**Усту́пчывы.** Гатовы на ўступкі; згаворлівы.
Сінонім: памяркоўны.
— Уступчывы ты, Андрэй. Калі ты моцна перакананы ў праваце сваёй, трэба адстойваць свой погляд. *П. Пестрак.*

## УСХАДЗІЦЦА // УХАДЗІЦЦА

**Усхадзі́цца.** Дайсці да крайняй ступені праяўлення чаго-н.
У засценку ўсхадзіліся пеўні, спявалі без пары,— напэўна, на перамену надвор'я. *А. Чарнышэвіч.*
**Ухадзі́цца.** Закончыць, завяршыць якую-н. работу.
Сінонім: управіцца.
Гаспадар ВосіпВаўчэцкі, ухадзіўшыся ў хляве, сядзеў на табурэце і на самаробным капыле падбіваў сабе бот: адстала падэшва. *У. Дамашэвіч.*

## УСХАПІЦЦА // УХАПІЦЦА

**Усхапі́цца. 1.** Хутка ўстаць.
Гарбачоў усхапіўся з крэсла, захадзіў па кабінеце. *А. Шашкоў.* ‖ *Разм.* Прачнуўшыся, хутка падняцца з пасцелі; рана

ўстаць. Назаўтра Міхась усхапіўся да сонца. *А. Якімовіч.*

**2.** *перан.* Хутка і нечакана пачацца.

Хутка ўсхапілася полымя. Затрашчала, загуло. *Л. Гаўрылкін.*

**3.** З'явіцца, ускочыць (пра мазалі, прышчы і пад.).

На далонях у хлопцаў усхапіліся крывавыя мазалі. *У. Карпаў.*

**Ухапі́цца. 1.** Паспешна схапіцца, моцна ўзяцца за каго-што-н.

Сінонім: учапіцца.

Янка ўхапіўся за нос лодкі і падцягнуў яе так, каб можна было зручна апынуцца ў ёй. *Я. Колас.*

**2.** *перан.* Пачаць хутка, адразу рабіць што-н.

Сінонім: прыняцца за што-н.

Пакуль мы прыехалі, пушча ўжо гаманіла звонам піл і стукам сякер. Мы прывязалі Арла на ўзлеску, падкінулі яму сена і таксама ўхапіліся за работу. *А. Якімовіч.*

**3.** *перан.* Праявіць асобую цікавасць да каго-чаго-н., гатоўнасць выкарыстаць каго-што-н. у сваіх інтарэсах.

За Цімоха Будзіка ўхапіўся ён [Саўка] цяпер, як хапаецца за купіну сярод дрыгвы чалавек, страціўшы пад нагамі грунт. *Я. Колас.*

## УСХВАЛІЦЬ // УХВАЛІЦЬ

**Усхвалі́ць.** *каго-што.* Расхваліць; праславіць.

Усхвалілі чалавека больш чым трэба, дык ён і зазнаўся.

**Ухвалі́ць.** *што.* **1.** Даць станоўчую ацэнку чаму-н.

Леанід непакоіўся, што таварышы могуць не ўхваліць яго ўчынак, і падрыхтаваўся абараняцца. *У. Шахавец.*

**2.** Афіцыйна адобрыць, прыняць, зацвердзіць.

Ухваліць план развіцця гаспадаркі.

## УСЦЕШЫЦЦА // УЦЕШЫЦЦА

**Усце́шыцца.** Знайсці для сябе задаволенне, уцеху ў кім-чым-н., узрадавацца.

Глянь на свет, хай усцешыцца сэрца. Колькі светлае радасці сёння!.. *П. Трус.*

**Уце́шыцца.** Перастаць гараваць, супакоіцца; абрадавацца.

Учытаўся ў тыя байкі я і ўцешыўся вялікім адкрыццём: ага, можна пісаць пра ўсё тое, што акружае цябе. *А. Бялевіч.*

## УСЦЯГНУЦЦА // УЦЯГНУЦЦА

**Усцягну́цца.** *Разм.* З цяжкасцю ўзысці, падняцца на верх чаго-н.

Стары давалокся да стала знясілены, усцягнуўся на край лавы і ўспёрся ўпалымі грудзьмі на стол. *К. Кірэенка.*

**Уцягну́цца. 1.** Прыняць удзел у чым-н.

[Сымон] пакрысе ўцягнуўся ў гаворку і нарэшце сам пачаў гаварыць гладка і цікава. *К. Чорны.*

2. *перан.* Паступова прывыкнуць, прызвычаіцца да чаго-н.; асвоіцца з чым-н.

Канешне, на першых часах нялёгка будзе, але пачнеш вучыцца, уцягнешся, і ўсё стане на сваё месца. *А. Кулакоўскі.*

## УТЫЛІТАРНЫ // УТЫЛІТАРЫСЦКІ

**Утыліта́рны.** Заснаваны на імкненні да практычнага выкарыстання, прымянення чаго-н.

Сінонім: практычны.

На жаль, змалку ў іх [дзяцей] выхоўваюцца безуважнасць і утылітарны погляд на прыроду. Яна, маўляў, для таго, каб на не ўлонні адпачыць, падыхаць свежым паветрам. *В. Вітка.*

**Утылітары́сцкі.** Які мае адносіны да утылітарыста — чалавека, які імкнецца з усяго атрымліваць выгаду, карысць, расцэньвае ўсё толькі з практычнага пункту гледжання.

Утылітарысцкі падыход. Утылітарысцкія погляды.

## УЦЕШАНЫ // УЦЕШЛІВЫ / УЦЕШНЫ

**Уце́шаны.** Такі, якога ўцешылі, супакоілі, абрадавалі.

Уцешанае дзіця.

**Уце́шлівы.** Тое, што і ўцешны.

Уцешлівая вестка.

**Уце́шны.** Які прыносіць уцеху; радасны, прыемны.

Самыя ўцешныя моманты ў Ганьчыным жыцці бываюць тады, калі ў мацеры нічога не баліць і калі яна можа цэлы вечар расказваць і расказваць, пра што б Ганька ні пыталася. *А. Васілевіч.*

## УЯЎЛЕНЫ // УЯЎНЫ

**Уя́ўлены.** Такі, які можна ўявіць, узнавіць розумам, фантазіяй.

Уяўлены вобраз. Уяўленая сітуацыя.

**Уя́ўны.** Які існуе не ў сапраўднасці, а ва ўяўленні; які толькі ўяўляецца.

Паслужыўшы арганістам, ён нагледзеўся на жыццё ксяндзоў, на іх уяўную святасць і стаў перакананым атэістам. *П. Мядзёлка.*

# Ф

## ФАБРЫКАНТ // ФАБРЫКАТ

**Фабрыка́нт.** Уладальнік фабрыкі.

Цар і царскія міністры, фабрыкант, банкір і пан забіралі усё чыста у рабочых і сялян. *С. Грахоўскі.*

**Фабрыка́т.** Гатовы фабрычны выраб, закончаны прадукт вытворчасці.

Пры недахопе ўласнай сыравіннай базы, пры вялікай колькасці кваліфікаванай рабочай сілы, пры высокіх выдатках вытворчасці выпрацоўваць паўфабрыкат або танныя масавыя фабрыкаты робіцца нявыгадным. *Эканамічная геаграфія зарубежных краін.*

## ФАВАРЫТ // ФАВОР

**Фавары́т.** Любімец важнай уплывовай асобы, пратэкцыю якой ён выкарыстоўвае для сваёй выгады.

Фаварыты .. адыгрывалі ў XVIII ст. велізарную ролю. *Гісторыя СССР.*

**Фаво́р.** *Кніжн.* Прыхільныя адносіны знатнай асобы да каго-н.

Усіх дзівіла, што .. [Загорскі] нічога не атрымаў за той фавор. *У. Караткевіч.*

## ФАКТ // ФАКТАР

**Факт.** Сапраўдны, нявыдуманы выпадак, з'ява, здарэнне; тое, што сапраўды мела месца; рэальнасць.

І нічога добрага не было ў гэтых чутках, і горш за ўсё — яны пацвярджаліся фактамі. *Я. Колас.*

**Фа́ктар.** Момант, істотныя абставіны ў якім-н. працэсе, з'яве; рухаючая сіла, прычына якога-н. працэсу, з'явы.

Сярод прыродных фактараў найбольш магутны ў забеспячэнні большай працягласці жыцця чалавека — лес. *Полымя.*

## ФАКУЛЬТАТЫЎНЫ // ФАКУЛЬТЭЦКІ

**Факультаты́ўны.** Неабавязковы; які выбіраецца па жаданню.

Спачатку выдавецтвы арыентаваліся выключна на зацверджаную школьную праграму, але пазней значна пашырылі свае планы і ўзяліся за выданне твораў, рэкамендаваных для пазакласнага чытання і факультатыўнага вывучэння. *Полымя.*

**Факультэ́цкі.** Які мае адносіны да факультэта.

Відаць, групу лічылі нядрэннай, і такі правал — катастрофа не толькі для саміх студэнтаў, але і для факультэцкага, а можа нават і для інстытуцкага начальства. *І. Шамякін.*

### ФАЛЬКЛАРЫСТЫЧНЫ // ФАЛЬКЛОРНЫ

**Фалькларысты́чны.** Які мае адносіны да фалькларыстыкі — навукі, што вывучае фальклор.

Фалькларыстычныя погляды Змітрака Бядулі моцна выяўляюцца ў абразках. *В. Каваленка.*

**Фальклóрны.** Які мае адносіны да фальклору — вуснай народнай творчасці.

За 25 год, прайшоўшых пасля падаўлення паўстання 1863 года, на Беларусі не было надрукавана ніводнай кнігі, ні аднаго мастацкага твора на беларускай мове, калі не лічыць розных фальклорных зборнікаў. *Л. Шакун.*

### ФАНФАРОН // ФАНФАРЫСТ

**Фанфарóн.** Самахвал, хвалько, выхваляка.

Госць пакалыхваўся каля печы яшчэ больш свабодна і зверху вадзіў позіркам па ўсіх прысутных. Можа, так вось гарадскія фанфароны выхваляюцца перад натоўпам у шынку сваёй высокай вучонасцю, уменнем разбірацца ў сусветных падзеях. *Полымя.*

**Фанфары́ст.** Трубач, які іграе на фанфары — духавым музычным інструменце, што служыць звычайна для падачы сігналаў урачыстага характару.

У 12 гадзін на стадыёне «Дынама» выйшлі 16 фанфарыстаў. *Беларусь.*

### ФАРБАВАЛЬНЫ // ФАРБАВАНЫ

**Фарбавáльны.** Які мае адносіны да фарбавання; прызначаны для фарбавання.

Кара большасці відаў вольхі багата фарбавальнымі рэчывамі. *Звязда.*

**Фарбавáны.** Пакрыты фарбай.

Сінонім: пафарбаваны.

А ў новай хаце падлога фарбаваная і вокны, як дзверы. *М. Скрыпка.*

### ФАРМАВАЦЬ // ФАРМІРАВАЦЬ

**Фармавáць.** *што.* Апрацоўваючы, надаваць чаму-н. патрэбную форму.

Ён тады скончыў сямігодку, але маці хацела, каб сын вучыўся

далей, а сама пайшла на завод фармаваць чарапіцу. *В. Быкаў.*

Няправільна. Удала пададзены дзіцячыя гады, юнацтва будучага пісьменніка, атмасфера, у якой фармаваліся (трэба: фарміраваліся) яго погляды і свядомасць. *ЛіМ.*

**Фарміраваць.** *каго-што.* **1.** Выпрацоўваць у каго-н. пэўныя якасці, адпаведныя рысы характару, светапогляд і г. д.

Чалавек не можа адмежавацца ад грамадства, ён тысячамі нітак звязан з іншымі людзьмі. Менавіта грамадскія адносіны вызначаюць становішча людзей у калектыве і фарміруюць іх псіхалогію. *Б. Стральцоў.*

**2.** Ствараць, арганізоўваць (калектыў, групу, установу, воінскую часць).

Роўна ў вызначаны час дружыннікі збіраюцца ў сваім штабе. Камандзір дружыны ці начальнік штаба ставіць перад імі задачу, фарміруе ў рэйдавыя групы. *Звязда.*

**3.** Састаўляць з вагонаў поезд.

Варта было паглядзець на .. [Віталя] у тыя хвіліны, калі ён фарміраваў ці расфарміроўваў таварныя саставы, што бесперапынна прыбывалі на вузел! *Я. Васілёнак.*

### ФАРСУНКА // ФАРСУХА

**Фарсунка.** *Спец.* Прыстасаванне для распыльвання якіх-н. вадкасцей або парашкападобных матэрыялаў.

Фарсунка для падачы нафты ў топку працуе надзейна.

**Фарсуха.** *Разм.* Жанчына, якая любіць фарсіць.

Яе ўсе лічылі фарсухай.

### ФАСАВАНЫ / ФАСОВАНЫ // ФАСОВАЧНЫ

**Фасаваны.** Папярэдне разважаны і ўпакаваны ў пэўных дозах.

Фасаванае масла. Фасаваныя крупы.

**Фасованы.** Тое, што і фасаваны.

Фасованы цукар. Фасованая грэчка.

**Фасовачны.** Які мае адносіны да фасоўкі; прызначаны для фасоўкі.

Фасовачны цэх. Фасовачная машына.

### ФАСОНІСТЫ // ФАСОННЫ

**Фасоністы.** *Разм.* **1.** Прыгожага, моднага фасону.

Між .. [мужчын] быў і Руды Андрэй, акуратна паголены, .. у фасоністай гарадской шапцы,— першы ў Куранях палітык і прамоўца. *І. Мележ.*

2. Фарсісты, франтаваты (пра чалавека).

Юля заўважыла, што між сяброў Станіка Ралан быў як бы першым нумарам. Культурны, фасоністы. *І. Грамовіч.*

**Фасо́нны.** *Спец.* Зроблены па пэўнаму фасону, узору.

Лабуда апраўдваўся, звальваў віну на слесараў, якія да гэтага часу не падалі ім нейкай там фасоннай трубы. *У. Краўчанка.*

**ФАСФАРЫСТЫ // ФАСФАРЫТАВЫ / / ФАСФАРЫТНЫ // ФАСФАРЫЧНЫ**

**Фасфары́сты.** Які ўтрымлівае ў сваім саставе фосфар.

Фосфар з вадародам утварае злучэнне, аналагічнае аміяку, – фасфарысты вадарод. *Хімія.*

**Фасфары́тавы.** Тое, што і ф а с ф а р ы т н ы.

Фасфарытавы чыгун.

**Фасфары́тны.** Які мае адносіны да горнай пароды фасфарыту, звязаны з яго пераапрацоўкай; з фасфарыту.

На глебах, маючых кіслы характар, раслінамі даволі добра ўсвойваецца фосфар непасрэдна з нерастваральнага ў вадзе тонка размолатага фасфарыту (фасфарытнай мукі). *Хімія.*

**Фасфары́чны.** Які свеціцца, як фосфар, мігатлівым бледным святлом.

Уночы Андрэя разбудзілі пеўні. Ен павярнуўся на бок і паглядзеў на свой ручны гадзіннік з фасфарычнымі стрэлкамі — было недзе каля трэцяй гадзіны. *І. Чыгрынаў.*

**ФАТАЛІЗМ // ФАТАЛЬНАСЦЬ**

**Фаталі́зм.** *Кніжн.* Вера ў непазбежны, немінучы лёс, у наканаваную долю.

Глыбокі песімізм і фаталізм быў характэрны для творчасці Л. Андрэева.

**Фата́льнасць.** Непазбежнасць, немінучасць.

С і н о н і м: наканаванасць.

Тэорыя «аўтагеннасці», што бытавала тады, па сутнасці, фатальнасць. *Я. Скрыган.*

**ФЕЕРВЕРК // ФЕЕРВЕРКЕР**

**Феерве́рк.** Каляровыя дэкаратыўныя агні ад спальвання розных парахавых сумесей у час урачыстасцей, свят і пад.

Стракатым феерверкам разляталіся па ўсім небе імклівыя агні. *М. Лынькоў.*

**Феервéркер.** У дарэвалюцыйнай рускай арміі: унтэр-афіцэр артылерыі.

Седзячы цэлы дзень у акопах, пад страшэнным абстрэлам, 4 жніўня падпрапаршчык і старшы феерверкер пасылалі па розных справах пад кулі ніжніх чыноў. *М. Гарэцкі.*

### ФЕРТ // ФЕТР

**Ферт. 1.** Устарэлая назва літары **Ф.**

Ферт — старая назва літары, такая ж, як **аз, букі, ведзі** і інш.

**2.** *Разм.* Франтаваты, фарсісты, самаздаволены чалавек.

Як даўней, так і цяпер там паліцэйскі ходзіць фертам. *Я. Колас.*

**Фетр.** Лепшы гатунак лямцу для вырабу капелюшоў, валёнак і пад.

Фетрам называецца лямцападобны матэрыял, атрыманы валкай пуху. *Таваразнаўства.*

### ФІГУРАЛЬНЫ // ФІГУРНЫ // ФІГУРЫСТЫ

**Фігурáльны.** Алегарычны, вобразны.

Думка гэта правільная не ў літаральным, а ў фігуральным яе сэнсе. *Н. Перкін.*

**Фігýрны. 1.** Які мае непрамалінейныя абрысы, контуры; які мае складаную форму.

Фігурныя дэталі і паверхні шліфуюцца ўручную звычайнай папяровай шкуркай. *П. Рунец.*

**2.** Які выконваецца з фігурамі, апісвае пры сваім руху фігуру.

Некалькі разоў ён спрабаваў арганізаваць гурток фігурнага катання, але гэта яго задума заўсёды сустракала з нечага боку перашкоду. *М. Лобан.*

**3.** *Разм.* Які мае прыгожую фігуру; фігурысты *(у 2 знач.).*

Захар Лемеш — фігурны чалавек. *Я. Колас.*

**Фігýрысты.** *Разм.* **1.** Складаны па форме.

Вокны ў дамах — з фігурыстымі разнастайнымі ўзорамі. *І. Новікаў.*

**2.** Які мае прыгожую фігуру; фігурны *(у 3 знач.).*

Нічога дзяўчына, сакаўная і фігурыстая. *Я. Колас.*

**Фікса́ж.** Хімічны раствор, у якім апрацоўваюць фотаматэрыялы для замацавання здымка.

Замацавальнікі (фіксажы) замацоўваюць (фіксуюць) адлюстраванне на плёнцы. *Таваразнаўства.*

**Фікса́тар. 1.** Прыбор, прыстасаванне **для** замацоўвання чаго-н. у патрэбным становішчы.

Фіксатары замаруджваюць выпарванне паху духоў і адэкалону. *Таваразнаўства.*

**2.** Той, хто фіксуе, адзначае што-н.

Сучасны журналіст-эканаміст не проста фіксатар фактаў, ілюстратар пэўных пастулатаў, а тэарэтык, удумлівы аналітык, які, умела спалучаючы ў адной асобе майстэрства публіцыста і веды спецыяліста, можа сказаць чытачу нешта новае. *Б. Стральцоў.*

**Фіксатуа́р.** Памада для валасоў, якая надае ім пэўную форму.

Прыемны пах фіксатуара.

**Фіксаты́ў.** *Спец.* Раствор, якім пакрываюць карандашныя малюнкі, чарцяжы з мэтай захавання іх ад пашкоджання.

Чарцяжы замацаваны фіксатывам.

## ФІЛЬТР // ФІЛЬТРАТ

**Фільтр.** Прыстасаванне ці рэчыва для ачысткі вадкасцей або газаў ад непатрэбных прымесей.

У лесе зробяць адстойнік, паставяць фільтры. Ядавітыя рэчывы больш не будуць трапляць у наша возера. *М. Ваданосаў.*

**Фільтра́т.** Вадкасць, якая фільтруецца, прапускаецца (ці прапушчаная) праз фільтр.

Калі фільтр не змачыць, то раствор, які праходзіць праз яго, або, як яго называюць, фільтрат, не вызваліцца цалкам ад узвешаных прымесей .., і вадкасць застанецца мутнай. *Хімія.*

## ФЛАТАВЫ // ФЛАТАЦЫЙНЫ

**Фла́тавы.** Які мае адносіны да флату — друкарскай паперы ў лістах, а не ў рулонах.

Калі папяровае палатно рэжуць на лісты пэўнага фармату, то такая папера называецца ліставой (флатавай). *Таваразнаўства.*

**Флатацы́йны.** *Спец.* Які мае адносіны да флатацыі — абагачэння карысных выкапняў.

Флатацыйны апарат, у якім адбываецца раздзяленне калійнай і спажыўнай солі,— прылада даволі нескладаная. *А. Чаркасаў.*

### ФРАНТАВЫ // ФРАНТАЛЬНЫ

**Франтавы́.** Які мае адносіны да фронту, дзейнічае на фронце.

Па-ранейшаму яны сходзяцца, абмяркоўваюць франтавыя навіны, спрачаюцца, і гэта ёсць тое галоўнае, чым жывуць. *І. Навуменка.*

**Франта́льны. 1.** Накіраваны ў бок фронту; лабавы; які ажыццяўляецца па ўсяму фронту.

Панёсшы вялікія страты, немцы адмовіліся ад франтальнага наступлення і ўзмацнілі націскі на флангі. *Звязда.*

**2.** *перан.* Які распаўсюджваецца на ўсіх, адбываецца адначасова; агульны.

Асноўны метадычны прынцып на ўроку, як і раней, франтальная работа з класам. *М. Барсток.*

### ФРЭЙЛЕН // ФРЭЙЛІНА

**Фрэ́йлен.** *нескл., ж.* Слова, якое ўжываецца пры ветлівым звароце да незамужняй жанчыны, а таксама пры называнні яе імя ці прозвішча ў немцаў і некаторых іншых народаў.

Фрэйлен Марта. Фрэйлен Інга.

**Фрэ́йліна.** Прыдворнае званне дзяўчыны-дваранкі, якая знаходзілася пры царыцы, каралеве, прынцэсе і пад.; асоба, якая мае гэта званне.

Ішлі гады. Цікавасці да мемуараў ніхто не праяўляў: здавалася, усе забыліся і пра іх, і пра саму фрэйліну імператрыцы. *Звязда.*

### ФУНДАМЕНТАЛЬНЫ // ФУНДАМЕНТНЫ

**Фундамента́льны. 1.** Трывалы, моцны, вялікі.

Фундаментальнае збудаванне. ‖ *перан.* Грунтоўны, глыбокі па зместу.

Фундаментальнае даследаванне.

**2.** Асноўны, галоўны.

Нацыянальная бібліятэка Рэспублікі Беларусь — наша галоўная фундаментальная бібліятэка.

**Фунда́ментны.** Які мае адносіны да фундамента, прызначаны для яго.

Усе фундаментныя работы былі закончаны раней тэрміну, і што яшчэ не менш важна — да наступлення дажджлівых дзён. *Звязда.*

## ФУРАЖАЧНЫ // ФУРАЖНЫ // ФУРАЖЫРНЫ // // ФУРАЖЫРСКІ

**Фура́жачны.** Які мае адносіны да фуражкі; звязаны з вырабам, продажам, фуражак.

Фуражачная майстэрня.

**Фура́жны.** Які мае адносіны да фуражу — расліннага корму для жывёлы.

Ліда .. уладзілася прасавальшчыцай сена на адной з больных у раёне фуражных баз. *Я. Брыль.*

**Фуражы́рны.** Які мае адносіны да фуражыра — асобы, якая ведае нарыхтоўкай, захоўваннем і выдачай фуражу; які складаецца з фуражыраў.

Фуражырны атрад.

**Фуражырскі.** Які мае адносіны да фуражыра, належыць яму.

Фуражырскія абавязкі.

## ФУРМАНАЧНЫ // ФУРМАНСКІ

**Фурма́начны.** Які мае адносіны да фурманкі.

Фурманачная драбіна. Фурманачнае кола.

**Фурма́нскі.** Які мае адносіны да фурмана, належыць яму.

Спераду ўпоперак саней ставілася лавачка-козлы, і хутчэй за ўсё пэўная даніна фурманскай традыцыі, бо практычнага сэнсу яна не мела. *Полымя.*

## ФУРУНКУЛ // ФУРУНКУЛЁЗ

**Фуру́нкул.** Гнойны нарыў.

Сінонім: скула.

[Золатаў] пашкадаваў, што не мог узяць свайго чалавека, але чалавек яго, Іваноў, па сутнасці, адзіны, якому ён верыў, захварэў — фурункулы ўскочылі на такім месцы, што ён не мог сесці ў сядло. *І. Шамякін.*

**Фурункулёз.** *Спец.* Захворванне, пры якім на целе паяўляецца многа фурункулаў.

Кабеты пачалі хварэць на запаленне лёгкіх, на грудніцу, на фурункулёз. *Я. Бяганская.*

# Х

## ХАДАВЫ // ХАДЖАЛЫ // ХАДЗЯЧЫ // ХОДЖАНЫ // ХОДКІ

**Хадавы́. 1.** Звязаны з ходам, перамяшчэннем; які можа рухацца, які на хаду; рухомы.

Такую машыну Дзмітрый вёў упершыню. І ўжо на першых кіламетрах ацаніў яе хадавыя якасці. *П. Беразняк.*

**2.** *Разм.* Які мае вялікі попыт; шырока вядомы, пашыраны.

Раней пра токараў ды слесараў адно чулі, а зараз на сяле гэта самыя ходавыя прафесіі. *Звязда.*

**Хаджа́лы.** *Разм.* Які шмат папахадзіў, пабыў дзе-н.; бывалы.

Ён нярэдка называў сябе чалавекам хаджалым і язджалым, і гэта сапраўды так — цяжка назваць які-небудзь куток нашай краіны, дзе ён не быў. *ЛіМ.*

**Хадзя́чы. 1.** Які можа хадзіць, перамяшчацца на сваіх нагах.

А ў першы дзень [вайны] выпісалі ўсіх хадзячых хворых. *С. Грахоўскі.*

**2.** Шырока распаўсюджаны, агульнапрыняты, усім вядомы.

За ўвесь вечар, апрача хадзячых анекдотаў, ён так нічога і не пачуў ад іх і вельмі пашкадаваў, што змарнаваў столькі часу. *ЛіМ.*

**Хо́джаны.** Такі, па якому часта ходзяць (пра сцежку, дарогу і інш.).

Ходжаныя і пераходжаныя сцежкі, знаёмыя на кожнай паваротцы.

**Хо́дкі. 1.** Які хутка і лёгка рухаецца, лёгкі на хаду (на ногі).

Потым пакацілі ходкія гарматы, мінамёты. За імі — з той жа імклівасцю, але больш паважна, ракеты. *У. Карпаў.*

**2.** Які мае вялікі попыт (пра тавары, вырабы і пад.).

Такія боцікі — вельмі ходкі тавар, на прылаўках не залежваецца. *Звязда.*

**ХАЛАДАЦЬ // ХАЛАДЗЕЦЬ // ХАЛАДЗІЦЬ / ХАЛАДНЕЦЬ**

**Халада́ць. 1.** *безас.* Станавіцца больш халодным (пра надвор'е).

Даўно быў ужо вечар. Распагоджвалася. Халадала. *К. Чорны.*

**2.** *Разм.* Пакутаваць ад холаду; мерзнуць.

Бабкі, прабабкі ішлі пехатой, ішлі месяцамі да Лаўры святой. Давалі зарок. Халадалі, пасцілі, каб іх ацанілі, грахі адпусцілі. *Р. Барадулін.*

**Халадзе́ць. 1.** Станавіцца халодным, халаднейшым; халаднець.

Заміраe лета, заціхаюць далі, сірацее рэчка, халадзеюць хвалі. *Я. Колас.*

**2.** Адчуваць холад; мерзнуць.

Ліў дождж, але Марусаў ужо не звяртаў увагі: пінжак быў мокры, халадзела спіна, чвякала вада ў чаравіках. *М. Стральцоў.*

**3.** Адчуваць холад ад моцнага хвалявання, страху і г. д.
Ігнатовіч халадзеў ад думкі, што Карначова ўпартасць, яго пратэст супроць пабудовы камбіната ў Белым Беразе можа прывесці да таго, што такі выгадны ва ўсіх адносінах аб'ект перададуць іншаму гораду. *І. Шамякін.*

**Халадзíць.** *каго-што.* Рабіць больш халодным; ахалоджваць, астуджваць.

Вільготная трава, да якой не даходзілі промні сонца, халадзіла ногі. *Л. Дайнека.*

**Халаднéць.** Станавіцца халодным, халаднейшым; халадзець.
Хмары закрывалі неба, халаднеў вецер, вішчэў, залятаючы ў гнёзды стрыжоў, што густа ляпіліся на рачных стромах. *Л. Дайнека.*

## ХАЛЕРНЫ // ХАЛЕРЫЧНЫ

**Халéрны. 1.** Які мае адносіны да захворвання халерай.
І хвароба нейкая халерная падступілася: прастудзіў галаву, намарнеў з год — і няма чалавека. *М. Стральцоў.*

**2.** *Разм. груб.* Вельмі дрэнны, непрыемны.

Ну дык чаго ты звягаеш... Што гэта за народ халерны. *К. Чорны.*

**Халерычны.** Характэрны для халерыка — тэмпераментнага, неўраўнаважанага чалавека, які лёгка ўзбуджваецца пад уздзеяннем якіх-н. уражанняў.

Халерычнаму тэмпераменту .. характэрна рэзкая змена настрояў, парывістасць рухаў. *БелСЭ.*

## ХАНДРА // ХАНДРОМА // ХАНДРЫЛА

**Хандрá.** Маркотны, сумны настрой; туга.
Пад дзеяннем усё той жа хандры, якая яго выгнала з інтэрната, Міша ўстаў, апрануў паліто і пайшоў на вуліцу. *Л. Карпюк.*

**Хандрóма.** *Спец.* Дабраякасная пухліна з храстковай тканкі.
Невялікая хандрома.

**Хандрыла.** Травяністая расліна сямейства складанакветкавых, з млечнага соку якой здабываецца каўчук.
У Беларусі сустракаецца хандрыла звычайная, галоўным чынам на Палессі.

## ХАРАКТАРНЫ // ХАРАКТЭРНЫ

**Харáктарны.** Які ўвасабляе пэўны псіхалагічны тып.
Цяпер актрыса працуе над ролямі характарнага плана. *Полымя.*

**Характэ́рны. 1.** Які мае адметныя, рэзка выяўленыя, своеасаблівыя рысы.

Толькі ад вагранак і электраплавільнай печы далятала характэрнае патрэскванне ды прыглушана гула вентыляцыя. *У. Карпаў.*

**2.** Уласцівы пэўнай асобе, прадмету, з'яве.

Гэта было бадай што самае характэрнае ў яго [К. Чорнага] — знайсці такое слова, каб ты адразу адчуў сябе проста. *Я. Скрыган.*

### ХАРАШЫЦЬ // ХАРАШЭЦЬ

**Харашы́ць.** *каго-што. Разм.* Надаваць больш прыгожы, прывабны выгляд.

Раіса села напроці і маленькім напілачкам пачала харашыць пазногці. *М. Лобан.*

**Хараштэ́ць.** Станавіцца больш прыгожым, прывабным.

Калі [Анатоль] усміхаўся, паказваючы свае прыгожыя белыя зубы, надта харашэў з твару. *В. Адамчык.*

### ХАЎРУСНІЦКІ // ХАЎРУСНЫ

**Хаўру́сніцкі.** *Разм.* Агульны, сумесны.

Хаўрусніцкая работа.

**Хаўру́сны.** *Разм.* Які належыць хаўрусу — групе людзей, звязаных агульнымі мэтамі, інтарэсамі.

Хаўрусная малатарня.

### ХВАЛЕБНЫ // ХВАЛЕНЫ / ХВАЛЁНЫ

**Хвале́бны.** Поўны пахвалы, з пахвалою.

У «Чырвоны бор» часта наведваліся работнікі раённай газеты. Яны звычайна заходзілі да старшыні, гутарылі з ім, запісвалі з яго слоў тое, што ім трэба было, і пісалі хвалебныя артыкулы. *Р. Сабаленка.*

**Хва́лены.** Тое, што і х в а л ё н ы.

Забуду многіх музыкантаў хваленых, але й прад смерцю прыгадаю зноў — далёка ў полі, на пагорках варненскіх, язычніцкія скрыпкі цвыркуноў. *Н. Гілевіч.*

**Хвалёны.** Які атрымаў высокую ацэнку; расхвалены.

Галя была самая прыкметная сярод дзяўчат .. Ды і хлопец да яе прыязджаў з горада .. Працаваў на заводзе пасля арміі. Хвалёны, прыгожы, паважаных бацькоў хлопец! *В. Мыслівец.* ‖ *Іран.* Пераацэнены (звычайна пра тое, што аказалася нявартым

нахвалы). К. Каліноўскі выкрывае хвалёны царскі маніфест аб скасаванні паншчыны. *С. Александровіч.*

### ХВАРАВІТЫ // ХВОРЫ

**Хваравíты. 1.** Які часта хварэе; схільны да захворвання.

Мачыха, жанчына хваравітая, трывала нядоўга, і аднаго году напрадвесні яе вынеслі за вёску пад дубовы крыж. *В. Адамчык.*

**2.** *перан.* Празмерны, перабольшаны, ненармальны.

Вышэйшым ідэалам пана Вашамірскага ў гэту вясну і было — мець коней лепшых, чымся ва ўсіх суседзяў ваколіцы. Гэта ў яго раптам вырасла ў манію, у хваравітую цягу. *З. Бядуля.* ‖ Які сведчыць аб хваробе, нездаровым стане. Леніны вочы пазіралі ў Ніціны, зусім блізенька, у мутным святле ліхтароў, што падала праз вокны, быў відаць іх хваравіты бляск. *Л. Арабей.*

**Хвóры.** Які хварэе, пераносіць якую-н. хваробу.

С і н о н і м: нездаровы.

Агледзеўшы хворага, Наташа пераканалася, што яе дапамога сапраўды была тэрмінова неабходна. *У. Крайчанка.*

### ХВАСТАВЫ // ХВАСТАТЫ // ХВАСТЦОВЫ

**Хваставы́. 1.** Які мае адносіны да хваста.

Спінны і хваставы плаўнікі ў плоткі шэрыя, а ўсе іншыя — светла-чырвоныя. *А. Матрунёнак.*

2. Які знаходзіцца ў хвасце, ззаду чаго-н.

Сяргей з кандуктарам ехалі ў тамбуры хваставога вагона, мы асабліва кідала ў бакі. *І. Гурскі.*

**Хвастáты.** З доўгім ці густым хвастом; з хвастом наогул.

Такіх земнаводных, як трытон, з вузкім доўгім целам і хвастом аб'ядноўваюць пад назваю хвастатых. *Заалогія.*

**Хвастцóвы.** Які мае адносіны да хвастца — ніжняй часткі пазваночніка чалавека.

Хвастцовыя пазванкі.

### ХВАТКІ // ХВАЦКІ // ХВОСТКІ

**Хвáткі.** *Разм.* Які спрытна, учэпіста хапае, хутка схоплівае і ўтрымлівае што-н.; учэпісты; спрытны.

Кожны з нас бадзёры, ўпарты, хваткі, мы яшчэ не зведалі тугі. *П. Пранузa.*

**Хвáцкі. 1.** Удалы, спрытны, маладзецкі.

Гэты стары салдат, хвацкі рубака, узнагароджаны трыма георгіеўскімі крыжамі, потым камандзір эскадрона ў Будзёнаўскай конарміі. *В. Хомчанка.*

**2.** *Разм.* Вельмі добры, слаўны.

Боты не надта хвацкія: да старых, абшарпаных халяў прышыў Адам галоўкі. *І. Навуменка.*

**Хвóсткі.** Які моцна, балюча сцябае.

Якраз пачаўся халодны хвосткі дождж. Ужо не адзін раз клаўся на Новагарадок снег, але яму пакуль не хапала сілы, каб утрымацца на зямлі. *Л. Дайнека.*

## ХВОРАСТ // ХВОРАСЦЬ

**Хвóраст.** *зб.* Сухія галінкі з дрэў ці хмызняку.

Агонь апошні хворост знішчыў. *А. Куляшоў.*

**Хвóрасць.** *Разм.* Хвароба, недамаганне, хваравіты стан.

У Мікалаеўшчыне розныя рэўматычныя хворасці выганялі з дапамогай мясцовай гразі. *М. Лужанін.*

## ХЛЕБАРОБСКІ // ХЛЕБАРОБЧЫ

**Хлебарóбскі.** Які мае адносіны да хлебароба; які належыць, уласцівы хлебаробу.

Хлебаробская душа кожнае каліва песціць, кожнае зярнятка беражэ. *С. Грахоўскі.*

**Хлебарóбчы.** Які мае адносіны да хлебаробства — апрацоўкі зямлі для вырошчвання хлеба.

Хлебаробчыя клопаты.

## ХМАРНЫ // ХМУРНЫ / ХМУРЫ

**Хмáрны. 1.** Пакрыты хмарамі; з хмарамі.

Ноч была хмарная, і на невялікай адлегласці ўжо нельга было распазнаць чалавека. *І. Дуброўскі.*

**2.** *перан.* Пануры, сумны, невясёлы.

Хмарны настрой яшчэ быў у Антонавай душы. *А. Савіцкі.*

**Хмýрны. 1.** Пахмурны, воблачны (пра неба, надвор'е і пад.).

З камінoў хат, вышэй падпіраючы хмурнае навіслае неба, угору ўздымаюцца гонкія слупы дыму. *М. Аўрамчык.*

**2.** *перен.* Сумны, пануры (пра чалавека).

Голас у мамы добры, яна зусім не хмурная. *М. Лужанін.*

**Хмýры.** *Разм.* Тое, што і х м у р н ы.

Помню, хмуры ранак, ў росах канюшына, толькі птушкі посвіст ды шляхі, шляхі. *Н. Чарнушэвіч.* ‖ *перан.* Тым часам кіраўнік секцыі — яго завуць Антон Друк — немалады, хмурага выгляду мужчына .. неяк надзвычай хутка робіць адбор. *І. Навуменка.*

## ХМАРЫЦЦА // ХМУРЫЦЦА

**Хма́рыцца.** Зацягвацца хмарамі, станавіцца хмарным.

А неба сіняе штодзённа хмарыцца. *П. Глебка.*

**Хму́рыцца. 1.** *1 і 2 ас. не ўжыв.* Пакрывацца хмарамі, станавіцца хмурным, воблачным (пра неба).

Неба хмурылася і хмурылася, здавалася, вось-вось пойдзе дождж. *У. Федасеенка.* ‖ Станавіцца пахмурным, хмарным (пра надвор'е). Не дзень, не два ўжо хмурылася надвор'е. *В. Мысліцц.*

**2.** *перан.* Станавіцца хмурным, насупленым (пра чалавека).

Сінонім: насуплівацца.

І хмурыліся бровы, апускаліся павекі, хаваючы вочы. *Л. Арабей.*

## ХМЕЛЕВЫ // ХМЕЛЬНЫ

**Хме́левы.** Які мае адносіны да расліны хмелю, характэрны для яе.

У саўгасе значныя хмелевыя плантацыі, і сабраны на іх ураджай дае немалы прыбытак. *Звязда.*

**Хме́льны. 1.** Які знаходзіцца ў стане ап'янення.

Сінонімы: захмялелы, нецвярозы.

Грукоча машына. Маўчы, качагар, і дымам вугольным давіся! .. Хай з топкі тваёй не праб'ецца угар да містэраў хмельных і місіс. *А. Дудар.*

**2.** Які выклікае ап'яненне.

Заморскія віны, мясцовая медавуха, гарэлка і хмельнае піва ліліся ракой. *П. Ткачоў.* ‖ *перан.* Які прыводзіць да ўзбуджэння, самазабыцця. Зноў над роднай зямлёй вее водарам хмельным вясновым. *Н. Гілевіч.*

## ХМЯЛЕЦЬ // ХМЯЛІЦЬ

**Хмялё́ць.** *Разм.* Станавіцца п'яным, п'янець.

Надта хутка ён сёння хмялее. *В. Гігевіч.* ‖ *перан.* Прыходзіць у стан узбуджанасці, захаплення ад каго-чаго-н. Яго хмяліў хлебны дух, на якім густа настаялася паветра ў даспяваючай збажыне. *М. Аўрамчык.*

**Хмялі́ць.** *каго. Разм.* Рабіць п'яным, ап'яняць.

Вось князеў стол на сто персон у бузіне каля сцяны. Калісьці ён не меў цаны, хмяліў і цешыў шляхту. *А. Бажко.* ‖ *перан.* Прыводзіць у стан узбуджанасці, захаплення. Нешта яе хмяліла, трывожыла: яна знайшла для сябе новае ў злосці — гэта дало ёй апору і сілу. *З. Бядуля.*

**Хутара́нскі.** Які мае адносіны да хутараніна, належыць яму.

[Уладзя] тады наўмысля пайшоў упоперак цераз забаранаваную хутаранскую ярыну. *К. Чорны.*

**Хутарскі.** Які мае адносіны да хутара, жыве на хутары.

На дварэ вусаты дзядзька — хутарскі гаспадар — ладзіў воз. *К. Чорны.*

# Ц

## ЦАГЕЛЬНЫ // ЦАГЛЯНЫ

**Цаге́льны.** Які мае адносіны да вырабу цэглы.

Навакол жылі агароднікі, сем'і рабочых былых цагельных заводаў. *М. Лынькоў.*

Няправільна. Нездаволена прабурчаў нешта ззаду між цагельнага (трэба: цаглянага) друзу Чарняк, стараваты ўжо, аброслы шчаціннем баец — вохкаючы і лаючыся, ён палез наперад. *В. Быкаў.*

**Цагля́ны. 1.** Зроблены з цэглы, мураваны; які мае адносіны да цэглы.

Пад таполямі стаяў цагляны дом з чатырма вокнамі на вуліцу. *М. Лупсякоў.*

**2.** Які мае колер цэглы; карычнявата-чырвоны.

Твар Дзічкоўскага быў цаглянага колеру. *А. Алешка.*

## ЦАЛІК // ЦАЛІНА

**Цалі́к.** Снежная прастора без дарог, без слядоў; наогул месца, па якім ніхто не хадзіў, не ездзіў.

Яны збочылі з дарогі і пайшлі па снегавым цаліку туды, дзе шырокім лапікам цьмеў уночы хмызняк. *В. Быкаў.*

**Цаліна́. 1.** Некранутая, ніколі не араная, але прыгодная для апрацоўкі зямля.

Вярнуўшыся праз некалькі дзён у Мінск, Лёня разам з іншымі студэнтамі паехаў на цаліну ў Казахстан. *В. Вольскі.*

**2.** *перан.* Недаследаваная, нявывучаная справа, галіна чаго-н.

Аўтар [У. Карпаў] узняў вельмі важную і некранутую ў беларускай літаратуры цаліну горадабудаўніцтва. *Т. Хадкевіч.*

## ЦАРСКІ // ЦАРСТВЕННЫ // ЦАРЫСЦКІ

**Ца́рскі. 1.** Які мае адносіны да цара; самадзяржаўны.

Сінонім: манархічны.

Дужа там разбіраўся ў тых царскіх каронах Міколка. *М. Лынькоў.*

2. *перан.* Вельмі багаты, раскошны; як у цара.

А вінаграднік, ветрам абласканы, спяліў пад небам царскія плады. *Х. Чэрня.*

**Ца́рственны.** *перан. Кніжн.* Велічны, поўны годнасці; незвычайна велічнай і пышнай красы, хараства.

Я прапанаваў ахвяраваць гэты вечар мастацтву, і вы царственна дазволілі мне купіць білеты ў кіно. *Я. Васілёнак.*

**Цары́сцкі.** Які мае адносіны да царызму.

Царысцкая палітыка.

### ЦАРЫЦА // ЦАРЭЎНА

**Цары́ца.** Тытул жанчыны-манарха ў Расіі, Балгарыі і Сербіі; жонка цара.

Сінонім: гасударыня.

Як сама царыца ў залатой кароне, йдзе яна [жняя] ў вяночку наміж спелых гоней. *Я. Купала.*

**Царэ́ўна.** Дачка цара.

Падышла царэўна да рыцара і ўбачыла на яго руцэ свой залаты пярсцёнак. *А. Якімовіч.*

### ЦВЕРАЗЕЦЬ // ЦВЕРАЗІЦЬ

**Цвераз́ець.** Станавіцца цвярозым, больш цвярозым.

Мацнеў мароз, і цверазелі Анісімавы думкі, і калі ён параўняўся з Мікодымавым хутарам, дык у яго канчаткова прапала рашучасць. *Р. Сабаленка.*

**Цвераз́іць.** *каго.* Рабіць цвярозым, больш цвярозым.

Галава ў Міканора была цяпер зусім ясная: мароз, што сціскаў рэбры пад гімнасцёркаю, добра цверазіў. *І. Мележ.*

### ЦВЁРДАСЦЬ // ЦВЯРДЫНЯ

**Цвёрдасць. 1.** *Спец.* Супраціўленне цвёрдага цела змяненню формы ці парушэнню цэласнасці яго паверхні.

Цёмныя алмазы знаходзяць прымяненне ў вырабе свідравальных інструментаў, паколькі алмаз валодае найбольшай цвёрдасцю. *Хімія.*

**2.** Устойлівасць, трываласць; стойкасць, непахіснасць.

Падбародак і губы паказвалі на цвёрдасць характару *Л. Арабей.*

**Цвярды́ня.** Крэпасць, умацаваныя пазіцыі; надзейная апора, аплот.

Закончан слаўны наш паход. Цвярдыні ворага — ў руінах. *В. Таўлай.*

## / ЦЕСЛЯ // ЦЯСЛА // ЦЯСЛЯР

**Це́сля.** Тое, што і ц я с л я р.

Старэнькая лазня ў суботу напалена прышлымі цеслямі, што рубяць хату на ўскраіне вёскі. *Я. Брыль.*

**Цясла́.** *Уст.* Цяслярская прылада з паўкруглым лязом для выдзёўбвання карыт, начовак і пад.

За перагародкаю пры стале сядзеў начальнік пошты, сярэдніх гадоў чалавек з кароткім і шырокім носам, падобным да цяслы. *Я. Колас.*

**Цясля́р.** Рабочы, які займаецца грубай апрацоўкай драўніны для будынкаў, вырабам простай драўлянай мэблі; цесля.

Бацька мой быў добры стальмах і цясляр. Ён рабіў калёсы і сані, кадушкі і ночвы, ставіў хаты і крыў стрэхі. *П. Глебка.*

## ЦІКАВАЦЬ // ЦІКАВІЦЬ

**Цікава́ць.** Уважліва сачыць за кім-чым-н.; выглядваць, падпільноўваць, падсцерагаць каго-што-н.

Колева маці з натоўпу цікавала за тым, што адбываецца ля стала. *А. Асіпенка.*

**Ціка́віць.** Выклікаць цікавасць, імкненне даведацца пра каго-што-н.

Заўважыўшы, што Чэрапаў не збіраецца закідваць яго рознымі пытаннямі, ён пачаў выказваць тое, што яго асабліва цікавіла, хвалявала, а часам, напэўна, і мучыла. *А. Кулакоўскі.*

## ЦІКАВЫ // ЦІКАЎНЫ

**Ціка́вы. 1.** Які выклікае цікавасць, захапляе.

С і н о н і м: займальны.

Крытычныя артыкулы нават у нелітаратурных выданнях у нас часта бываюць залішне спецыфічна літаратурныя і таму не заўсёды цікавыя для масавага чытача. *В. Каваленка.*

**2.** *Разм.* Прывабны знешне, прыгожы.

Яна яшчэ цяпер, маючы пяцьдзесят гадоў, досыць цікавая, стройная, вёрткая, нібы ёй дваццаць гадоў. *З. Бядуля.*

**Ціка́ўны.** Які хоча ўсё ведаць, выяўляе да ўсяго цікавасць.

С і н о н і м: дапытлівы.

Людзі трохгадовага ўзросту самыя цікаўныя з людзей. *П. Панчанка.*

**Ці́тла.** Надрадковы знак старажытнай пісьменнасці над скарочана напісаным словам ці над літарай, якая абазначае лічбу.

Цітлы — надрадковыя знакі ў выглядзе ламанай рыскі, якія ставіліся над скарочанымі словамі або літарамі, што мелі лічбавае значэнне. *У. Арлоў.*

**Цітр.** Надпіс на кадры ў кінафільме, які перадае словы дзеючых асоб ці тлумачальны тэкст.

Мы трохі спазніліся, на экране ўжо мільгаюць цітры. Білецёрша, падсвечваючы сабе ліхтарыкам, вядзе нас на месца. *І. Навуменка.*

## ЦЫВІЛІЗАВАНЫ // ЦЫВІЛІЗАТАРСКІ // ЦЫВІЛЬНЫ

**Цывілізава́ны.** Культурны, асвечаны, адукаваны.

Усяму цывілізаванаму свету вядома, што маленькая кропля нікаціну забівае нават каня. *М. Паслядовіч.*

**Цывілізáтарскі.** *звычайна іран.* Які мае адносіны да цывілізатара — таго, хто быццам бы ўводзіць, пашырае цывілізацыю.

Цывілізатарская місія.

**Цывíльны.** Грамадзянскі, не ваенны.

За сталом сядзеў сярэдніх гадоў мужчына ў ваеннай гімнасцёрцы, побач з ім — мужчына ў цывільным. *Я. Курто.*

## ЦЫГАНАВАТЫ // ЦЫГАНІСТЫ // ЦЫГАНСКІ

**Цыганавáты.** Падобны на цыгана.

Другі — цыганаваты, кучаравы, з сухарлявай, загарэлай патыліцай, на якой цёмна ільснілася западзінка-равок. *М. Стральцоў.*

**Цыгáністы.** *Разм.* Які нагадвае па выгляду і па характару цыгана.

Гаспадар — Сямён Марчанка — цыганісты, доўгі і вёрткі, як вуж. *Б. Сачанка.*

**Цыгáнскі.** Які мае адносіны да цыганоў, характэрны для іх.

Збоку ўсё было падобна на вялікі цыганскі табар. *М. Лынькоў.*

## ЦЫГАРА // ЦЫГАРКА // ЦЫГАРЭТА

**Цыгáра.** Туга скручанае ў трубачку тытунёвае лісце для курэння.

Выгладжаны і прылізаны, важна сядзіць ён у сваім кабінеце за багатым сталом, курыць дарагія цыгары. *Я. Колас.*

**Цыга́рка.** Самаробная папяроса.

С і н о н і м: самакрутка.

Марцін выцягнуў з кішэні вышыты капшук, скруціў цыгарку. *І. Мележ.*

**Цыгарэ́та.** Папяроса без муштука.

У машыне пахла бензінам і цыгарэтным дымам, і Алёшу вельмі захацелася закурыць, хоць наогул курыў ён мала і цыгарэты больш насіў з сабою для таго, каб пачаставаць каго трэба. *Л. Арабей.*

### / ЦЫРАТАВЫ // ЦЫРАТНЫ // ЦЫРАТОВЫ

**Цыра́тавы.** *Разм.* Тое, што і ц ы р а т о в ы.

У цыратавым фартуху, Маргарыта першая выскачыла з кухні і пабегла ў пярэднюю. *Я. Скрыган.*

**Цыра́тны.** Які мае адносіны да цыраты, звязаны з вырабам цыраты.

Цыратная вытворчасць. Цыратная майстэрня.

**Цырато́вы.** Зроблены з цыраты.

Суседка трымае ў руках ручку-самапіску і падручнік англійскай мовы, на сцятых каленях ляжыць тоўсты сшытак у цыратовай вокладцы і маленькі кішэнны слоўнічак. *І. Навуменка.*

### ЦЫРКУЛЬНЫ // ЦЫРКУЛЯРНЫ[1] / ЦЫРКУЛЯРНЫ[2] // // ЦЫРКУЛЯЦЫЙНЫ

**Цы́ркульны.** Які мае адносіны да цыркуля.

Нечакана зламалася цыркульная ножка, і ён не змог закончыць свой чарцёж. *ЛіМ.*

**Цыркуля́рны**[1]. Які з'яўляецца цыркулярам — дырэктыўным распараджэннем для падначаленых устаноў.

Мінскі губернатар у цыркулярным пісьме, разасланым у 1912 годзе ў паветы, абавязваў усіх павятовых спраўнікаў узмацніць нагляд за настроем сялян. *І. Саладкоў.*

**Цыркуля́рны**[2]. Круглы; які мае форму акружнасці; які мае адносіны да цыркуляркі — машыны для распілоўкі дрэва, рэжучай часткай якой з'яўляецца дыскавая піла.

За цыркулярным столікам сярод кучы абрэзкаў стаіць Пеця Ціханчук і змагаецца з вялікай, як кола, круглай пілой — рэжа штакеціны. *П. Пестрак.*

**Цыркуляцы́йны.** Які адбываецца па замкнутаму кругу; кругавы.

У IX класе пры вывучэнні тэмы «Аміяк» вучні даведваюцца аб такіх прынцыпах, як цыркуляцыйныя працэсы, скарыстанне аптымальнага ціску і тэмператур і г. д. *Р. Гацко.*

**Цэзу́ра.** Паўза ўнутры вершаванага радка, абавязковая для пэўнага вершаванага размеру

Трэцяе адрозненне паэзіі вялікага паэта Багдановіч звязваў з другаснымі сродкамі гарманізацыі вершаванай мовы: з унутранымі рыфмамі, алітэрацыямі, цэзурай і г. д. *А. Лойка.*

**Цэнзу́ра.** Прагляд твораў, якія прызначаюцца да друку, да пастаноўкі ў тэатры, або прагляд якой-н. карэспандэнцыі, што ажыццяўляецца дзяржаўнай установай.

Усе газеты і пісьмы, адрасаваныя палітычным вязням у Лукішках, праходзілі строгую пракурорскую цэнзуру *М Машара.*

## ЦЯМНЕЦЬ // ЦЯМНІЦЬ

**Цямне́ць. 1.** Станавіцца цёмным, цямнейшым.

Поле прытаілася ў чаканні, а хмара набліжалася і цямнела, і час ад часу блакітныя ніці маланкі пранізвалі яе. *Т Хадкевіч.*

**2.** *безас.* Пра надыход цемнаты, набліжэнне прыцемку, змроку.

Сінонім: зацямняць.

Пачынала цямнець. З вуліцы чуліся звонкія галасы дзяцей — яснаю яны чамусьці асабліва звонкія. *Л. Арабей.*

**Цямні́ць. 1.** *што.* Рабіць больш цёмным, цямнейшым.

Сінонім: зацямнець.

У хаце было ціха. І неяк цемнавата — можа, гэта мне здалося адразу з вуліцы, а можа, хату сапраўды цямнілі вялікія кусты бэзу. *Я. Сіпакоў.*

**2.** *Разм.* Гаварыць няясна, блытана; скажаць сэнс чаго-н.

Хацяновіч сказаў: «Не цямні. Я даўно здагадаўся, што зяцю пашаму ты кампаньён толькі ў карты і што цікаўлю цябе я» *І. Шамякін.*

## ЦЯПЛЕЦЬ // ЦЯПЛІЦЬ

**Цяпле́ць.** Станавіцца больш цёплым, цяплейшым.

Ападаў ветравы холад, і цяплела надвор'е. *К. Чорны.*

**Цяплі́ць.** *каго-што.* Абаграваць, паліць у печы ці раскладваць агонь.

У пятніцу пасля абеду аканом загадаў цяпліць лазню для мужчын. *А. Чарнышэвіч.*

## ЦЯРПІМЫ // ЦЯРПЛІВЫ

**Цярпі́мы.** Які можна цярпець, зносіць; з якім можна мірыцца.

Заехаў я ў сваю вёску. Тут радыяцыя сапраўды не надта высокая, можна сказаць, цярпімая. *Б. Сачанка.*

**Цярплі́вы.** Які мае вялікае цярпенне.

Чалавек цярплівы, прызвычаены да розных франтавых нягод, ён мог спаць на марозе, седзячы ў танку, сагнуўшыся ў крук. *І. Мележ.*

# Ч

## ЧАКАННЫ // ЧАКАНЫ

**Чака́нны. 1.** Які мае адносіны да чаканкі — металічных вырабаў з адбіткамі ці ўзорамі на іх паверхні.

Індыйская сялянка нясе ваду з калодзежа .. у спецыяльнай меднай пасудзіне, багата ўпрыгожанай чаканным узорам. *ЛіМ.*

**2.** *перан.* Ясны, выразны, дакладны.

Чытаючы гэтыя ямбы, успамінаеш чаканны радок пушкінскага «Яўгенія Анегіна». *А. Лойка.*

**Чака́ны.** Якога доўга, з нецярпеннем чакаюць.

Сінонім: жаданы.

Нарэшце 16 кастрычніка халодным надвячоркам пачулі чаканую каманду: «Усім сабрацца з рэчамі». *С. Грахоўскі.*

## ЧАЛАВЕЧНЫ // ЧАЛАВЕЧЫ

**Чалаве́чны.** Уважлівы, спагадлівы, чулы да іншых людзей; душэўны.

Сінонім: гуманны.

Наша мова багатая на душэўныя, чалавечныя словы, якія мы можам і — я глыбока перакананы — павінны хоць час ад часу гаварыць адзін аднаму. *А. Кудравец.*

**Чалаве́чы. 1.** Які мае адносіны да чалавека, характэрны для яго.

У хаце пахла аўчынамі, зайцовымі шкуркамі, свежым хлебам і ўсім тым, чым пахне звычайнае чалавечае жытло. *М. Лынькоў.*

**2.** Уласцівы чалавеку; такі, як трэба.

Сінонімы: належны, добры.

— Яно не кепска было б кіламетраў пяцьдзесят ад'ехацца,— раптам спыняецца Тарасюк.— Тады можна было б спакойна дзён колькі адлежацца, чалавечы выгляд набыць. *С. Александровіч.*

**Чапурны́.** *Разм.* Прыбраны, прыхарошаны.

Людзі бачаць, не дурныя, цешча-маці! Ходзяць дзеўкі чапурныя — не пазнаць іх. *С. Дзяргай.*

**Чапуры́сты.** *Разм.* Які любіць прыбірацца, чапурыцца.

А Верка Федаскова, рыжанькая, жвавая, яшчэ чапурыстая маладуха, празвінела тонкім галаском: — А я ўжо гэта лета з гасцямі пабуду. *М. Ракітны.*

## ЧАРАМША // ЧАРОМХА / ЧАРЭМШЫНА // ЧАРЭШНЯ

**Чарамша́.** Дзікі часнок.

Чарамша і абляпіха, не забыць нам вашых чар. *М. Хведаровіч.*

**Чаро́мха.** Дрэва ці кустарнік з белымі духмянымі кветкамі і чорнымі даўкімі ягадамі.

А далей віднелася вёска, акаймаваная з аднаго боку зараснікам алешніку ўздоўж ручая, уся ў прысадах, з зялёнымі шапкамі чаромхі, каштанаў ці клёнаў над кожнаю хатай. *Маладосць.*

**Чарэ́мшына.** Тое, што і ч а р о м х а.

Цвілі па чарзе: спачатку чарэмшына, потым бэз, потым язмін, потым шыпшына... *І. Грамовіч.*

**Чарэ́шня.** Садовае дрэва з чырвонымі ці жоўтымі ягадамі.

Далей пачыналіся прыватныя, у адзін паверх, з верандамі і мансардамі, дамы, атуленыя белымі ад квецені садамі. У садах цвілі чарэшні. *В. Карамазаў.*

## ЧАРАПА́ХАВЫ // ЧАРАПАШЫ

**Чарапа́хавы.** Прыгатаваны, зроблены з чарапахі, з яе панцыра.

Светлая чарапахавая грабёнка так і выпіналася з густых каштанавых валасоў. *М. Лынькоў.*

**Чарапа́шы. 1.** Які належыць чарапасе.

Чарапашы панцыр. Чарапашыя яйкі.

**2.** Вельмі павольны, няспешны; п р о ц і л. хуткі.

С і н о н і м: марудны.

Стараліся ісці хутка, але снег рассыпаўся пад нагамі, ногі раз'язджаліся, неяк адставалі ад тулава, і як ні спяшы — тэмп усё роўна быў чарапашы. *У. Дамашэвіч.*

## ЧАРАПКОВЫ // ЧАРАПНЫ

**Чарапко́вы.** Які мае адносіны да чарапка — асколка разбітага глінянага ці фарфоравага вырабу.

Чарапковы друз.

**Чарапны́.** Які мае адносіны да чэрапа.

Чарапныя косці.

### ЧАРАЎНІЦКІ // ЧАРАЎНІЧЫ

**Чараўні́цкі.** Які мае адносіны да дзеянняў чараўніка ці знахара.

Чараўніцкая замова.

**Чараўні́чы. 1.** Звязаны з чараўніцтвам, чарамі.

Сінонім: чарадзейны.

Гаспадыня паспешна накрыла на стол, на ім, як па ўзмаху чараўнічай палачкі, з'явіліся талеркі з мясам, белым хлебам. *М. Пятніцкі.*

**2.** *перан.* Які зачароўвае, захапляе, прыносіць асалоду.

Сінонім: чароўны.

Але той, хто наведаў хоць раз чараўнічыя нашы мясціны, не забудзе ніколі ён нас — край блакітны і нашу гасціннасць. *П. Пруднікаў.*

### ЧАРНЕЦЬ // ЧАРНІЦЬ

**Чарне́ць. 1.** Станавіцца чорным, больш чорным, чарнейшым.

Гэта была пара, калі лісце крапівы бярэцца белымі плямамі і пачынае пакрысе чарнець, яно і пячэцца ўжо слабей. *А. Кудравец.*

**2.** Вылучацца сваім колерам.

Сінонім: чарнецца.

Сумна сустракалі партызан родныя мясціны. У кожнай вёсцы, у якую можна было зайсці, чарнелі папялішчы. *І. Мележ.*

**Чарні́ць. 1.** *што.* Рабіць чорным; фарбаваць у чорны колер.

Два коміны цеплавой электрастанцыі дымам чарнілі шэрае неба. *І. Грамовіч.*

**2.** *перан. каго-што.* Няславіць, ганьбіць; гаварыць дрэннае пра каго-што-н.

Адзін толькі кульгавы Базыль, сусед іхні, заўсёды чарніў Алёшку перад людзьмі. *А. Якімовіч.*

### ЧАРОТАВЫ // ЧАРОЦІСТЫ

**Чаро́тавы. 1.** Які мае адносіны да чароту.

Астафій нячутна, быццам дзікі чаротавы кот, падкраўся ззаду і ўбачыў, што чалядзінка разбівае-расцірае на дробненькі друз, на пясок нямецкае шкло. *Л. Дайнека.*

**2.** Зроблены з чароту.

Лявей гэтага пляца раскінулася вёска Высокае, дзе з-за дрэў весела выглядалі акуратныя чаротавыя стрэхі сялянскіх хат і клуняў. *Я. Колас.*

**Чаро́цісты.** Парослы чаротам.

А кніжка сапраўды была прыгожая: на вокладцы была намалявана рэчка з чароцістым берагам і чалавек у чоўне, а наўскасяк напісана «Расцяробы». *Р. Сабаленка.*

## ЧАСТОТНЫ // ЧАСТЫ

**Часто́тны.** *Спец.* **1.** Які мае адносіны да частаты чаго-н., частотнасці.

Рэцэнзент асабліва падкрэсліў тое, што ў даследаванні даецца частотная характарыстыка лексікі. *ЛіМ.*

**2.** Заснаваны на выкарыстанні змен частаты ваганняў.

Частотнае рэле. Частотны дэтэктар.

**Ча́сты. 1.** Размешчаны блізка адзін каля другога.

На полі бабкі частыя пасталі ў чараду. *А. Астрэйка.* || Які ідзе, адбываецца, паўтараецца праз кароткія прамежкі часу. Частыя, хоць і невялікія дажджы заміналі сушыць сена. *А. Чарнышэвіч.*

**2.** Які складаецца з блізка размешчаных адзін каля аднаго аднародных прадметаў, частак, часцінак; густы.

Лес тут стаяў часты і высокі. *М. Лобан.*

## ЧМУРЫЦЬ // ЧМУРЭЦЬ

**Чмуры́ць.** *каго-што* і *без дап.* **1.** Дурыць, адурманьваць, тлуміць.

— Дзень і ноч на заводзе і дома мудруе і майструе. Я ўжо казала яму: кінь ты, не чмуры галавы. *Р. Сабаленка.*

**2.** *Разм.* Ашукваць, абдурваць каго-н., збіваць з толку.

— Ну й разумная галоўка! Як людзей ты чмурыш лоўка! *Э. Валасевіч.*

**Чмурэ́ць.** *Разм.* Станавіцца дурным; дурнець.

Чмурэць ад дыму.

## ЧУТКІ // ЧУТНЫ // ЧУТЫ

**Чу́ткі. 1.** Здольны добра ўспрымаць што-н. слыхам, нюхам.

— Спі,— гаворыць Яворскі,— сабакі ў мяне чуткія і злыя — абудзяць, калі што. *Я. Колас.*

**2.** Уражлівы, успрыімлівы.

Каханне — лёгкая прынада для сэрцаў чуткіх, маладых. *Я. Купала.*

**Чу́тны.** Даступны слыху; які ўспрымаецца слыхам; які гучыць.

А гэта што — ледзь чутны крок? Ці проста шоргнула ігліца? *А. Вольскі.*

**Чу́ты.** Які ўжо быў пачуты; вядомы.

Ходзіць статак па лузе ці ў полі, а ты сядзіш сабе на ўскрайку лесу каля агеньчыка і чытаеш кніжку або слухаеш, як старэйшы хто з пастушкоў расказвае чутую ад бацькоў прыгоду. *А. Пальчэўскі.*

### ЧЫГУНАЧНЫ // ЧЫГУННЫ

**Чыгу́начны.** Які мае адносіны да рэйкавай дарогі — чыгункі.

На шашы не відаць было ніякага руху, у гарадку адначаўлялі ўзарваны чыгуначны мост. *М. Лынькоў.*

Н я п р а в і л ь н а. Яны [метрабудаўнікі] прымянілі арыгінальны спосаб абцісканні тунеля чыгуначнымі (трэба: чыгуннымі) кольцамі, за якія затым запампоўваўся пад ціскам бетонны раствор. *Звязда.*

**Чыгу́нны.** Які мае адносіны да чыгуну, яго вытворчасці; зроблены, адліты з чыгуну.

Схіліўшы цяжкую галаву на ўзорыстую спінку чыгуннай лаўкі, Крысціна задрамала. *А. Васілевіч.*

### ЧЫНА // ЧЫНАРА

**Чы́на.** Травяністая кармавая балотная расліна сямейства бабовых.

Сухое паветра моцна настоена на тонкім водары ружовай смолкі, на мядовым паху чырвонай канюшыны, на мятным халадку лугавой чыны. *Р. Ігнаценка.*

**Чына́ра.** Дрэва сямейства платанаў; усходні платан.

Ах, якая пагода для купання, загару! Ні расы на чынарах, ні туману, ні хмары! *М. Танк.*

### ЧЫРВАНЕЦЬ // ЧЫРВАНІЦЬ

**Чырване́ць. 1.** Станавіцца чырвоным; афарбоўвацца ў чырвоны колер.

Сонца ўжо не было — толькі там, за мястэчкам, дзе яно схавалася, светла чырванела неба. *В. Адамчык.*

**2.** Пакрывацца румянцам, румянець; станавіцца чырвоным ад прыліву крыві.

Таня пачырванела. Яна вельмі часта чырванела, варта было ёй хоць крышку засаромецца, як яна ўся залівалася чырванню, аж слёзы набягалі ёй на вочы. *Л. Арабей.* || *перан.* Бянтэжыцца,

саромецца. Сэрца яго поўнілася радасцю за сваіх землякоў, што нідзе за іх не прыходзіцца чырванець — ні на калгасных гонях, ні на сталічнай сцэне. *В. Шымук.*

**3.** *1 і 2 ас. не ўжыв.* Вылучацца сваім чырвоным колерам. Сінонім: чырванецца.

Вакол буяла густая трава, чырванелі, жаўцелі, бялелі кветкі. *І. Мележ.*

**Чырваніць.** *каго-што.* Рабіць чырвоным, барвовым; фарбаваць у чырвоны колер.

У акно другой хаты відно, як зырка паліцца ў печы — полымя яркім дрыготкім святлом чырваніць супрацьлеглую сцяну. *Я. Сіпакоў.*

## ЧЫТАЛЬНІК // ЧЫТАЧ

**Чыта́льнік.** Чалавек, які з высокім майстэрствам чытае творы мастацкай літаратуры; артыст, дэкламатар, які выступае з чытаннем.

Ніщто — ні кіно, ні тэлевізар, ні наяўнасць такой прафесіі, як мастацкі чытальнік,— не можа замяніць самастойнага чытання твораў. *Р. Шкраба.*

**Чыта́ч. 1.** Той, хто чытае якія-н. творы, да каго звернуты творы пісьменнасці.

Мова і стыль — гэта тыя формы, у якіх перадаецца чытачу думка твора. *К. Чорны.*

**2.** Наведвальнік, абанент грамадскай бібліятэкі, чытальні. Ён дабіўся таго, што ў кожным доме калгаса імя Дзяржынскага ёсць адзін-два чытачы бібліятэкі, а ўсяго чытачоў больш за 500. *М. Арочка.*

## ЧЫТАЛЬНІЦКІ // ЧЫТАЛЬНЫ // ЧЫТАЦКІ // // ЧЫТАБЕЛЬНЫ // ЧЫТЭЛЬНЫ

**Чыта́льніцкі.** Які мае адносіны да чытальніка, дэкламатара.

Ужо ў школьныя гады ў яго ярка праявіліся чытальніцкія здольнасці.

**Чыта́льны.** Прызначаны для чытання, заняткаў з кнігамі, часопісамі.

Абабітыя цыратай дзверы чытальнай залы грукалі глуха і мякка. *В. Адамчык.*

**Чыта́цкі.** Які мае адносіны да чытача.

У артыкуле зусім няма канкрэтных фактаў, якія б ілюстравалі думкі аўтара, а гэта значыць, што ён не суадносіцца з практычным вопытам чытацкай аўдыторыі. *Б. Стральцоў.*

**Чыта́бельны.** *Разм.* Тое, што і чытэльны.

Не заўсёды яны [вершы] былі якаснымі, але нейкае пачуццё, нейкая думка, нейкі асаблівы настрой таго часу былі злоўлены, падкрэслены, што і рабіла вершы, як гаворыцца, чытабельнымі. *П. Панчанка.*

**Чытэ́льны.** Які лёгка чытаецца; які можна прачытаць.

У лепшым выпадку [Я. Колас] казаў: «глянь»,— падсоўваў чыста перабелены цвёрдым чытэльным почыркам аркушык і адыходзіў убок. *М. Лужанін.*

## Ш

### ШАБАС // ШАБАШ // ШАБАШ

**Ша́бас.** Суботні адпачынак, суботняе свята ў набожных яўрэяў.

Шабас быў якраз, субота,— грэх жа брацца за работу. *К. Крапіва.*

**Ша́баш.** У сярэдневяковых павер'ях: начное зборышча ведзьмакоў і ведзьмаў, якія ўчынялі шалёны разгул.

Густая, рослая трава палегла, пераплялася, зблыталася,— няйнакш, як у ёй спраўлялі свой спрадвечны д'ябальскі шабаш тысячы маладых гуллівых чарцей. *Б. Сачанка.* || *перан.* Зверскі ўчынак; варожы разгул. Астаўся толькі адзін няпоўны дыск кулямёта. Ды і што ты тут зробіш, калі карнікаў поўны лес і яны, відаць, вяртаюцца з чарговага крывавага шабашу, нават жывёлу гоняць з сабой? *Р. Няхай.*

**Шаба́ш.** *Разм.* **1.** Заканчэнне работы; перапынак для адпачынку.

Працягла гуў гудок на шабаш. *Х. Шынклер.*

**2.** *у знач. вык.* Скончана, даволі; канец.

Бесхарактарны я, брат Стары,— на тон самабічавання з'ехаў Садовіч,— але пераеду ў другую школу, тады, брат, шабаш. *Я. Колас.*

### ШАБАШНІЧАЦЬ // ШАБАШЫЦЬ

**Шаба́шнічаць.** *Разм.* Быць шабашнікам — падраджацца на прыватныя выгадныя заработкі.

Сам ён ужо два гады як скончыў вучобу, працуе інжынерам у канструктарскім бюро. Шабашнічаць пачаў яшчэ з першага курса, а цяпер сам арганізатар «шабашкі». *А. Жук.*

**Шаба́шыць.** *Разм.* **1.** Канчаць работу; рабіць перапынак у рабоце.

— Гэта ж маглі пачынаць раскатку... І ў сераду б — шабашылі! *А. Савіцкі.*

**2.** *Зневаж.* Зарабляць грошы, выконваючы якую-н. выгадную работу, акрамя асноўнай.

— У мяне ж і дзед, і бацька...— Шабашылі? — перапыніў Аркадзь Апанасавіч.— Без нас не абыходзіліся. *П. Кавалёў.*

### ШАРОН // ШЭРАНЬ

**Шарóн.** *Абл.* Абледзянелая скарынка на паверхні снегу.

Сінонім: шарпак.

Кабыла прытка секла падковамі малады лядок на дарозе, а пад палазамі хрусцеў шарон. *І. Чыгрынаў.*

**Шэ́рань. 1.** Белыя рыхлыя крышталікі, формай падобныя на сняжынкі, якія нарастаюць пры значным марозе і тумане на галінах дрэў, траве, дроце і г. д.

Надышлі марозы, рэчкі закавалі, белыя бярозы *шэранем* убралі. *Я. Колас.*

**2.** *перан.* Сівізна.

Змізарнеў [Гаруноў], твар выцягнуўся, на скронях прабілася *шэрань. І. Дубровскі.*

**3.** Змрок, цемра.

Пасярод двара, насупраць студні, над якой у перадранішняй шэрані чарнее высокі жураўель, стаяць калёсы. *І. Навуменка.*

### ШАРСЦІСТЫ // ШАРСЦЯНЫ

**Шарсці́сты. 1.** Пакрыты шэрсцю; з доўгай ці густой шэрсцю.

Вучоныя знаходзілі астанкі пячорных ільвоў і гіен, велізарных мядзведзяў, шарсцістых насарогаў, якія жылі ў гэтых мясцінах дваццаць—трыццаць тысяч гадоў назад. *Звязда.*

**2.** Пакрыты ворсам, варсінкамі.

Сінонім: варсісты.

Шарсцістая тканіна.

**3.** *перан.* Задзірысты, незгаворлівы, гарачы.

— Антон, той спакойны, а Мікіта, ого, дужа *шарсцісты.* Больш за слова яму не кажы. *М. Ракітны.*

**Шарсцяны́. 1.** Які мае адносіны да шэрсці.

Шарсцяное валакно. Шарсцяны тлушч.

**2.** Зроблены, выраблены з шэрсці.

Шарсцяны світар аблягаў поўныя грудзі і круглыя плечы. *І. Мележ.*

### ШАТКАВАЦЬ // ШАТРАВАЦЬ

**Шаткавáць.** *што.* Рэзаць доўгімі вузкімі палоскамі (звычайна капусту).

Хтосьці шаткуе, гняце капусту таўкачом у бочцы, пасыпае

белае шаткаванне журавінамі, і яны блішчаць на ім, як на снезе. *М. Капыловіч.*

**Шатрава́ць.** *што.* Ачышчаць зерне ад скуркі, абдзіраць перад тым, як малоць на муку ці пускаць на крупы.

Хлопец не бачыў дагэтуль, не чуў, каб нехта шатраваў на каравай: звычайна людзі пытлююць. *Я. Брыль.*

### ШАЎКАВІСТЫ // ШАЎКАВІЧНЫ // ШАЎКОВЫ

**Шаўкаві́сты.** Падобны на шоўк з выгляду ці навобмацак; бліскучы і мяккі.

Серабрыстыя расінкі паблісквaюць на шаўкавістых пасмачках, а самазадаволены павук-крыжавік сядзіць пад лістом. *С. Шушкевіч.*

**Шаўкаві́чны.** Які мае адносіны да шаўкоўніцы (тутавага дрэва) — паўднёвай расліны, лістамі якой выкормліваюць тутавага шаўкапрада.

Шаўкавічны кокан.

**Шаўко́вы. 1.** Які мае адносіны да шоўку; зроблены з шоўку.

У магілу паклалі шаблю, тры нажы, кальчугу, шчыт, калчан з лукам, пазалочаны шлем і шэсць шаўковых кафтанаў. *Л. Дайнека.*

**2.** *перан. Разм.* Лагодны, паслухмяны, добры (пра чалавека).

І Мяцельскі тады шаўковы быў, не цапаўся, наадварот, частаваў і Кіршчэню разам з упаўнаважанымі. *А. Жук.*

### ШАФЕР // ШАФЕР

**Ша́фер.** Удзельнік вясельнага абраду, які выконвае даручэнні па распарадку вяселля і ў час вянчання трымае вянец над галавой у жаніха ці нявесты.

Вечарам Венька зноў дастаў з чамаданчыка пляшку, бляшанку трасковай кансервы, хлеб, яна паставіла на стол чыгунок бульбы, і яны спраўлялі вяселле. Не было толькі шафераў і шаферак, сватоў, сведак, гасцей. *Я. Пархута.*

**Шафёр.** Вадзіцель аўтамашыны.

Палонных высадзілі з кузава. З аднаго боку кабіны вылез афіцэр, з другога — шафёр, трымаючы ў руках два цесакі. *М. Аў-рамчык.*

### ШВЕЙЦАР // ШВЕЙЦАРАЦ

**Швейца́р.** Вартаўнік ля знадворных дзвярэй у пад'ездах устаноў, рэстаранаў, гасцініц, жылых памяшканняў.

Я з абурэннем патрабую прапусціць матку, але швейцар і слухаць не хоча. *П. Мядзёлка.*

**Швейца́рац.** Жыхар Швейцарыі.

З першым швейцарцам ён пазнаёміўся яшчэ ў час вайны.

### ШКЛІЦЬ // ШКЛЯНЕЦЬ

**Шкліць.** *што.* Устаўляць шкло ў што-н.

За вокнамі гуляла мяцеліца, а дзядзька Віхтор стукаў сякерай, габляваў дошкі — дарабляў пяцісценак, слаў падлогу, шкліў падвойныя вокны. *І. Капыловіч.*

**Шкляне́ць.** Ператварацца ў шкло; станавіцца падобным на шкло.

Вочы нябожчыка ўжо шклянелі, і іх закрылі.

### ШКОДНАСЦЬ // ШКОДНІЦТВА

**Шко́днасць.** Шкодныя, небяспечныя для здароўя чалавека ўмовы працы.

За шкоднасць вытворчасці налічана дадатковая аплата.

**Шко́дніцтва.** Злачынная, шкодніцкая дзейнасць.

А час быў трывожны. Амаль у кожным нумары газет паведамлялася пра шкодніцтва, пра раскрыццё чорных шпіёнскіх гнёздаў. *Р. Сабаленка.*

### ШКОДНІЦКІ // ШКОДНЫ

**Шко́дніцкі.** Які мае адносіны да шкодніка — небяспечнага чалавека, ворага.

Шкодніцкая дзейнасць.

**Шко́дны. 1.** Які прыносіць ці можа прынесці пашкоджанне, урон, страту.

Знішчаючы грызуноў, пугач прыносіць пэўную карысць чалавеку, але для паляўнічай гаспадаркі ён шкодны тым, што забівае зайцоў, вавёрак і баравую дзічыну — цецерукоў, глушцоў, курапатак. *В. Вольскі.*

**2.** Небяспечны для здароўя.

Шкодны клімат.

### ШЛЯК // ШЛЯХ

**Шляк.** Палоска, абшыўка па краі тканіны іншага колеру ці ўзору.

Падмятаючы доўгаю бурачковаю ў чорных шляках спадніцаю высокі парог, з сеняў выкацілася невысокая з востранькім тварком старая кабета. *В. Адамчык.*

**Шлях.** Шырокая дарога, бальшак, гасцінец.

За бярэзнікам быў лясок і ішоў шлях у горад і на грэблю. *М Лупсякоў.*

## ШЛЯХЕТНЫ // ШЛЯХЕЦКІ

**Шляхе́тны.** *Уст* Знешне вытанчаны, высакародны, з вялікім пачуццём годнасці.

Апрача прозвішча, у Патоцкага не было нічога шляхетнага — звычайны вясковы хлопец, можа, нават яшчэ больш нявышкалены, чым іншыя, але працаваў ён сумленна. *У. Дамашэвіч.*

Н я п р а в і л ь н а. Каб прымусіць каралеўскае войска супраціўляцца і пазбегнуць страты артылерыі, польскае камандаванне стала прыкоўваць на ланцуг сваіх артылерыстаў да гармат Такі лёс напаткаў і шляхетнага (трэба: шляхецкага) артылерыста Адама Каменскага. *Весці АН БССР.*

**Шляхе́цкі.** Які мае адносіны да шляхецтва, шляхты, належыць ёй.

Векавечныя дубы і ясені ў два рады вялі да шляхецкіх засценкаў, з вялікімі садамі і добрымі будынкамі. *М. Хведаровіч* || Уласцівы шляхце, шляхецтву. Польскія салдаты на такую дружбу не ішлі з намі: гонар шляхецкі, відаць, не дазваляў блізка знацца з хлопцамі-мужыкамі. *А. Пальчэўскі.*

## ШПАЖНІК // ШПАЖЫСТ

**Шпа́жнік.** Дэкаратыўная расліна сямейства касачовых з мечападобнымі лістамі і вялікімі кветкамі featрознага колеру; гладыёлус.

Шпажнік расце звычайна на нізкіх рачных берагах.

**Шпажы́ст.** Спартсмен, спецыяліст па фехтаванню на шпагах.

Адбыліся фіналы камандных спаборніцтваў шпажыстаў *Звязда.*

## ШТАБЕЛЬ // ШТАПЕЛЬ

**Шта́бель.** Роўна складзеныя ў адзін рад дошкі, бярвенне, будаўнічыя матэрыялы і г. д.

У адным месцы ўзвышаліся клеткі цэглы, у другім — штабелі дошак. *А. Карпюк.*

**Шта́пель.** Тканіна са штучнага валакна.

Дзяўчынцы вельмі падабалася новая сукенка са штапелю, які быў тады ў вялікай модзе *ЛіМ*

## ШУРПАЦЕЦЬ // ШУРПАЦІЦЬ

**Шурпа́цець.** Станавіцца шурпатым, нягладкім.

Скура на руках шурпацее.

**Шурпа́ціць.** *што.* Рабіць што-н. шурпатым.

Спазнаць мне хочацца і важкасць цэглы і як шурпаціць пальцы ўедлівы раствор. *М. Арочка.*

## ШЧАЦІНІСТЫ // ШЧАЦІННЫ

**Шчаці́ністы.** Пакрыты густой шчацінай; парослы кароткімі жорсткімі валасамі.

Ледзь прыкметная ўсмешка прабегла па шчаціністым твары Андрэя. *М. Лынькоў.*

**Шчаці́нны.** Які мае адносіны да вырабаў са шчаціны; зроблены са шчаціны.

У маі — чэрвені 1917 года баставалі рабочыя-металісты і рабочыя лесапільных заводаў, шчотачных і шчацінных фабрык Мінска і яго ваколіц. *Полымя.*

## ШЧЫЛІННЫ // ШЧЫЛІСТЫ

**Шчылі́нны.** У мовазнаўстве: гук, які ўтвараецца трэннем паветра ў шчыліне паміж зближанымі органамі маўлення.

С і н о н і м: фрыкатыўны.

Шчылінны зычны гук.

**Шчы́лісты.** Які мае шмат шчылін, дзірак.

Шчылістая падлога.

## ШЫБАВАЦЬ // ШЫБАЦЬ

**Шыбава́ць.** *Разм.* Хутка, імкліва ісці, рухацца.

Выходжу з аўтобуса і шыбую ў напрамку да невялічкага ляска, што танюткай рысачкай ляжыць на заснежаным гарызонце. *ЛіМ.*

**Шыба́ць. 1.** *каго-што.* Кідаць, шпурляць што-н.

Ён спакойна стаіць у лодцы, выбіраючы перамёты, а лодку тую шыбае з хвалі на хвалю, як трэску! *Я. Брыль.*

**2.** Хутка, з вялікай сілай узлятаць угару; шугаць (пра полымя, дым).

Шыбалі ўгару цёмныя стаўбуры дыму, вогненна бліскала полымя. *І. Мележ.* ‖ *безас.; перан.* Раптоўна ўрываючыся, дзейнічаць з вялікай сілай на каго-н. У нос шыбала рэзкім пяньковым пахам, кастрыца абсыпала твар і калолася за каўняром. *В. Быкаў.*

## ШЫРЫЦЬ // ШЫРЭЦЬ

**Шы́рыць.** Рабіць больш шырокім, пашыраць.

Некалькі дзён запар непадалёк ад кузні ўсё кланяўся экскаватар — выкідваў балотную твань, шырыў азярцо для птушак. *М. Даніленка.*

**Шырэ́ць.** Станавіцца больш шырокім.

У парках і за горадам, праўда, было яшчэ снежна, але з кожным днём усё шырэлі, злучаючыся адна з другой, праталіны, наліваліся пушышкі лазы і вербаў. *В. Быкаў.*

## ШЫФЕР // ШЫФР

**Шы́фер.** Дахавы матэрыял у выглядзе лістоў, плітак.

Цяпер што, цяпер іншая справа: пад шыфер ды гонту ўбраліся, а ці даўно яшчэ на стрэхах мох зелянеў! *В. Быкаў.*

**Шыфр. 1.** Сістэма ўмоўных знакаў для сакрэтнага пісьма.

Кастусь быў старшым радыстам: усе сакрэтныя шыфры знаходзіліся ў яго. *М. Ваданосаў.*

**2.** Умоўнае абазначэнне на кнігах, якое выкарыстоўваецца пры расстаноўцы, захаванні і ўказвае на іх месцазнаходжанне.

Бібліятэкар глядзіць на шыфры кніг і ставіць іх на розныя стэлажы. *ЛіМ.*

## ШЫФРАВАЛЬНЫ // ШЫФРАВАНЫ

**Шыфрава́льны.** Які мае адносіны да шыфравання, шыфроўкі.

Пасля сваёй прыгоды Віктар напаткаў знаёмага малодшага лейтэнанта з аддзела шыфравальнай службы і пайшоў побач з ім. *І. Навуменка.*

**Шыфрава́ны.** Напісаны ці перададзены шыфрам.

Адначасова Рая прыняла шыфраваную радыёграму з Вялікай зямлі аб пачатку наступлення знятых з фронту буйных армейскіх часцей на партызанскі край. *Т. Хадкевіч.*

# Э

## ЭБАНІТАВЫ // ЭБЕНАВЫ

**Эбані́тавы.** Які мае адносіны да эбаніту — цвёрдага матэрыялу з вулканізаваных каўчукавых сумесей, які выкарыстоўваецца для ізаляцыі ў электратэхніцы і для іншых мэт.

Шылкін узяў аловак з эбанітавай вазачкі, стукаў ім па пальцах, бы пералічваў іх. *А. Савіцкі.*

**Эбе́навы.** Які мае адносіны да эбена — чорнага дрэва; зроблены з гэтага дрэва.

Алекса, аднойчы прачнуўшыся раней, угледзеў пад яе худзенькім бокам свой нож.. Ён пацягнуў за цёплую, чорную, з эбенавага дрэва ручку — Апак ускочыла, няўцямна азіраючыся спалоханымі вачанятамі. *В. Іпатава.*

### ЭВАКУАЦЫЙНЫ // ЭВАКУІРАВАНЫ

**Эвакуацы́йны.** Які мае адносіны да эвакуацыі, прызначаны для яе.

Для вывазу заводскага абсталявання былі мабілізаваны ўсе эвакуацыйныя сродкі, якія толькі можна было выкарыстаць. *Звязда.*

**Эвакуі́раваны.** Вывезены з небяспечнай мясцовасці; той, каго эвакуіравалі.

Вольнанаёмная адміністрацыя лагера папаўнялася звольненымі ў запас па раненнях франтавікамі і эвакуіраванымі жанчынамі. *С. Грахоўскі.*

### ЭКАНАМІЧНЫ // ЭКАНОМНЫ

**Эканамі́чны. 1.** Які мае адносіны да эканомікі.

У кароткіх і простых словах расказаў Сцёпка сходу аб задачах эканамічнага адраджэння краіны. *Я. Колас.*

**2.** Які дае магчымасць сэканоміць што-н., патрабуе найменшых затрат; выгадны ў гаспадарчых адносінах.

Сучасныя лямпы дзённага святла ў тры разы больш эканамічныя, чым звычайныя электрычныя лямпачкі. *У. Мезенцаў.*

**Экано́мны.** Які беражліва, ашчадна расходуе што-н., эканоміць.

Эканомны гаспадар.

### ЭКАНОМІКА // ЭКАНОМІЯ

**Экано́міка.** Сукупнасць вытворчых адносін пэўнага грамадскага ладу, якія адпавядаюць развіццю прадукцыйных сіл грамадства.

Эканоміка рэспублікі.

**Экано́мія. 1.** Ашчаднасць, беражлівасць пры расходаванні чаго-н.

Эканомія металу, сыравіны, усіх відаў энергіі — справа вялікай дзяржаўнай важнасці. *Полымя.* ‖ Выгада, атрыманая ў выніку такой беражлівасці, ашчаднасці.— Гледзячы, што вас цікавіць,— глыбакадумна пачаў Анатоль.— Скажам, разец «зо-

рачка» маёй канструкцыі дае эканомію часу да дзесяці хвілін у гадзіну. *М. Ваданосаў.*

**2.** *Уст.* Памешчыцкая гаспадарка капіталістычнага тыпу.

З другой паловы XVIII стагоддзя ўся слонімская эканомія пераходзіць ва ўладу ваяводы гетмана Агінскага. *Беларусь.*

### ЭКЗАМЕНАТАРСКІ // ЭКЗАМЕНАЦЫЙНЫ

**Экзаменáтарскі.** Які мае адносіны да экзаменатара.

Дырэктар палічыў неабходным і на гэты раз напомніць аб экзаменатарскіх абавязках не толькі маладым настаўнікам, а і ўсяму калектыву. *Настаўніцкая газета.*

**Экзаменацы́йны.** Які мае адносіны да экзамену, прызначаны для яго.

Да экзаменацыйнай сесііastaўся ледзь не месяц, а інстытут ужо жыў ёю. *У. Карпаў.*

### ЭКСКАВАТАР // ЭСКАЛАТАР

**Экскавáтар.** Самаходная землярыйная машына для вымання, перамяшчэння на іншае месца і пагрузкі на транспарт грунту, камення і г. д.

Скончыўшы пасля дзесяцігодкі курсы, ён цяпер працаваў механікам на экскаватары. *У. Краўчанка.*

**Эскалáтар.** Рухомая лесвіца для пад'ёму і спуску людзей.

На эскалатары, шырокай цудоўнай лесвіцы, якая рухаецца ўверх і ўніз, мы спускаемся ў падзямелле. *ЛіМ.*

### ЭКСКУРС // ЭКСКУРСІЯ

**Э́кскурс.** Адхіленне, адступленне ад галоўнай тэмы з мэтай падрабязней высветліць пабочнае пытанне.

Разважанні падмацоўваюцца экскурсамі ў мінулае, параўнаннямі, аргументамі і пераходзяць у дакладна сфармуляваныя вывады. *Б. Стральцоў.*

**Экску́рсія.** **1.** Калектыўнае наведванне чаго-н., паездка, прагулка куды-н. з навуковай, адукацыйнай ці іншай мэтай.

Школьнікі пабывалі на экскурсіі ў вёсцы Люсіна, дзе настаўнічаў Якуб Колас. *Настаўніцкая газета.*

**2.** Група ўдзельнікаў такога наведвання, паездкі, прагулкі.

І вось аднойчы, ужо сярод лета, на Манін агарод прыйшла цэлая экскурсія: старшыня калгаса, брыгадзіры і Іван Навумавіч. *А. Якімовіч.*

## ЭКСПАНАТ // ЭКСПАНЕНТ

**Экспана́т.** Прадмет, які выстаўляецца для агляду на выстаўцы або ў музеі.

Дзень за днём, месяц за месяцам музей папаўняўся ўсё новымі экспанатамі і дакументамі. *Настаўніцкая газета.*

**Экспане́нт.** Асоба ці арганізацыя, якая выстаўляе свае экспанаты на выстаўцы.

Экспанент выстаўкі.

## ЭКСПАНСІЎНАСЦЬ // ЭКСПАНСІЯ // ЭКСПАНСІЯНІЗМ

**Экспансі́ўнасць.** Нястрыманасць, бурнае выяўленне пачуццяў.

Відаць, гэтае слаўнае племя [хлапчукі] аднолькавае ва ўсім свеце па сваёй экспансіўнасці, цікаўнасці і прайдошлівасці – у самым лепшым сэнсе гэтага слова. *М. Лынькоў.*

**Экспа́нсія.** Пашырэнне сферы ўплыву капіталістычнай дзяржавы, імкненне да захопу новых тэрыторый.

У атлантычнай частцы зарадзілася магутнасць Вялікабрытаніі і быў пакладзены пачатак яе каланіяльнай экспансіі. *Эканамічная геаграфія зарубежных краін.*

**Экспансіяні́зм.** Імкненне да экспансіі, праводзенне палітыкі экспансіі.

Экспансіянізм фашысцкіх рэжымаў

## ЭКСПАНСІЎНЫ // ЭКСПАНСІЯНІСЦКІ

**Экспансі́ўны.** Нястрыманы, парывісты; які бурна выяўляе свае пачуцці.

Антось быў значна маладзейшы за свайго субяседніка-суседа. Можа таму і больш экспансіўны ў гутарцы, у думках. *М. Машара.*

**Экспансіяні́сцкі.** Які мае адносіны да экспансіянізму.

Амерыканская агрэсія ў Карэі з'яўляецца часткай агульнай рэакцыйнай экспансіяніцкай палітыкі ўрада ЗША. *Беларусь.*

## ЭКСПЕДЫТАРСКІ // ЭКСПЕДЫЦЫЙНЫ

**Экспеды́тарскі.** Які мае адносіны да экспедытара.

Спакаваная ў скрыні прадукцыя паступае на экспедытарскі пункт. *Звязда.*

**Экспедыцы́йны.** Які мае адносіны да экспедыцыі.

Экспедыцыйны корпус.

**Эксперымента́льны.** Які мае адносіны да эксперыменту, прызначаны для яго.

Зжаты і абмалочаны апошні загон эксперыментальнага ўчастка. *І. Дуброўскі.*

**Эксперымента́тарскі.** Які мае адносіны да эксперыментатара, характэрны для яго.

Эксперыментатарскія здольнасці.

## ЭКСТЭРН // ЭКСТЭРНАТ

**Экстэ́рн.** Асоба, якая здае экзамены за поўны курс без вучобы ў адпаведнай навучальнай установе.

Упершыню я пазнаёміўся з ім [Мінскам] у 1913 годзе, калі прыехаў у мінскую гімназію здаваць экстэрнам экзамен на званне народнага настаўніка. *К. Крапіва.*

**Экстэрна́т.** Самастойнае праходжанне курса навучання са здачай экзаменаў у адпаведнай навучальнай установе.

Аформіць перавод на экстэрнат, зняцца з учоту, выпісацца ў пашпартным стале, купіць якія-кольвечы кнігі — клопату шмат. *У. Шахавец.*

## ЭЛІНІСТЫЧНЫ // ЭЛІНСКІ

**Элініcты́чны.** Які мае адносіны да элінізму — эпохі росквіту змешанай грэка-ўсходняй культуры, што наступіла пасля заваёў Аляксандра Македонскага на Усходзе.

Дзякуючы заваяванням Аляксандра Македонскага грэчаская культура пашырылася па краінах Усходу. Там яна змяшалася з мясцовай, усходняй культурай. Гэтую змешаную грэка-ўсходнюю культуру называюць эліністычнай. *Гісторыя старажытнага свету.*

**Э́лінскі.** Які мае адносіны да элінаў — старажытных грэкаў.

Гэта велічнае тварэнне элінскай культуры [«Іліяда» Гамера] уразіла Тарашкевіча яшчэ ў студэнцкія гады. *А. Ліс.*

## ЭМАЛІРАВАНЫ // ЭМАЛІРОВАЧНЫ

**Эмаліра́ваны.** Пакрыты эмаллю.

Дзяўчынкі ўпалі, а белы эмаліраваны чайнік доўга каціўся ўніз, падскокваючы, як гумавы мяч. *А. Асіпенка.*

**Эмаліро́вачны.** Які мае адносіны да эмаліроўкі; прызначаны для эмаліроўкі.

Эмаліровачныя работы даволі складаныя і патрабуюць не толькі ўмення, але і вялікай стараннасці. *Звязда.*

## ЭМІГРАНЦКІ // ЭМІГРАЦЫЙНЫ

**Эмігра́нцкі.** Які мае адносіны да эмігранта, прызначаны для яго.

Эміграпцкі пашпарт.

**Эміграцы́йны.** Які мае адносіны да эміграцыі.

Эміграцыйны рух.

## ЭПІДЭМІЧНЫ // ЭПІДЭМІЯЛАГІЧНЫ

**Эпідэмі́чны.** Які мае адносіны да эпідэміі, мае характар эпідэміі; прызначаны для барацьбы з эпідэміяй.

Рэзка павялічылася колькасць бясконных сялян, скарацілася пасяўная плошча, шмат у якіх губернях пачаўся масавы голад, а следам — эпідэмічныя захворванні. *Полымя.*

**Эпідэміялагі́чны.** Які мае адносіны да эпідэміялогіі — галіны медыцыны, што займаецца вывучэннем прычын узнікнення і мер барацьбы з эпідэміямі.

Эпідэміялагічны аналіз.

## ЭСКАДРА // ЭСКАДРЫЛЛЯ

**Эска́дра.** Буйное злучэнне ваенных караблёў ці самалётаў.

Цёмнай лістападаўскай ноччу эскадра мінаносцаў пакінула рэйд і стала ў баявым парадку рухацца на подступы да Петраграда. *М. Хведаровіч.*

**Эскадры́лля.** Падраздзяленне ваеннай авіяцыі з некалькіх звёнаў самалётаў.

З наступленнем цемені зверху чуваць гул матораў. Нашы эскадрыллі ляцяць на заданне. *І. Навуменка.*

## ЭСКАДРАНЫ // ЭСКАДРОННЫ

**Эска́драны.** Які мае адносіны да эскадры.

Эскадраная стральба па надводных цэлях.

**Эскадро́нны.** Які мае адносіны да кавалерыйскага эскадрона.

Эскадронная маёмасць.

## ЭСКАДРОН // ЭСПАДРОН

**Эскадро́н.** Падраздзяленне кавалерыйскага палка, якое адпавядае пяхотнай роце.

Конны эскадрон забяспечыў магчымасць хуткага акружэння праціўніка. *М. Лынькоў.*

**Эспадро́н.** Вучэбная зброя, якой карыстаюцца ў фехтаванні; спартыўная барацьба з гэтай зброяй.

У фехтаванні на эспадронах маладыя майстры спорту атрымалі пераканаўчую перамогу. *Звязда.*

### ЭЎРЫКА // ЭЎРЫСТЫКА

**Э́ўрыка.** *выкл.* Вокліч, які выражае задавальненне, радасць пры знойдзеным рашэнні, пры ўзнікненні ўдалай думкі і г. д.

— Эўрыка! — крыкнуў .. Платон і кінуўся ў знямозе ў мяккае крэсла бухгалтара.— Знайшоў! Прыдумаў! *У. Нядзведскі.*

**Эўры́стыка.** *Спец.* Спецыяльныя метады, якія выкарыстоўваюцца ў працэсе адкрыцця новага; метад навучання пры дапамозе навадных пытанняў, а таксама тэорыя такой методыкі.

Сутнасць эўрыстыкі заключаецца ў тым, што настаўнік прымушае вучняў нібы знаходзіць, самастойна адкрываць ісціну (вядома, пад яго кіраўніцтвам). *Педагогіка.*

### ЭФЕКТНЫ // ЭФЕКТЫЎНЫ

**Эфе́ктны.** Які робіць моцнае ўражанне.

Лёгкая, прыгожая, з шаўкавістым бляскам драўніна вольхі добра апрацоўваецца і ў адпаліраваным выглядзе выглядае вельмі эфектнай. *Звязда.*

Н я п р а в і л ь н а. Уся ўвага Мірона была прыкута да Пясчанага Груда, адзінага месца, дзе пераправа магла даць для немцаў эфектныя (трэба: эфектыўныя) вынікі. *М. Лынькоў.*

**Эфекты́ўны.** Які прыводзіць да пажаданых вынікаў; дзейсны.

Індывідуальныя заданні з улікам ролі чытання і ролі літаратуразнаўчага аналізу могуць быць эфектыўнымі толькі на падставе добрага ведання канкрэтнай абстаноўкі. *Народная асвета.*

## Ю

### ЮБІЛЕЙ // ЮБІЛЯР

**Юбіле́й.** Гадавіна дзейнасці каго-н. ці існавання чаго-н., якая вылічваецца звычайна дзесяцігоддзямі, стагоддзямі і ўрачыста адзначаецца грамадскасцю.

Напярэдадні юбілею маёй творчасці мне хацелася ўспомніць свой шлях і ўсё сваё жыццё. *Я. Купала.*

**Юбіля́р.** Той, чый юбілей адзначаецца, святкуецца.

Першы юбілей... Яго прыход не сумны — як для самога юбіляра, так і для сяброў юбіляра, усіх блізкіх яму людзей, родзічаў, шматлікіх чытачоў. *А. Кулакоўскі.*

**Юна́цкасць.** Сукупнасць якасцей, характэрных для юнака; маладосць.

Юнацкасць душы.

**Юна́цтва. 1.** Перыяд жыцця пасля малалецтва да сталасці; ранняя маладосць.

Гады юнацтва. Школьнае юнацтва.

**2.** *зб.* юнакі; маладыя людзі абодвух полаў.

Юнацтва планеты ўсвядоміла, што сёння ствараецца будучыня і для яго. *Маладосць.*

### ЮНАЦКІ / ЮНАЧЫ // ЮННАТАЎСКІ / ЮННАЦКІ // ЮНЫ

**Юна́цкі.** Які мае адносіны да юнака, юнацтва, уласцівы ім.

А працы многа, дзе ні глянь, прастор юнацкаму запалу. *М. Чарот.*

**Юна́чы.** *Разм.* Тое, што юнацкі.

Дай жа, сынку, наглядзецца на юначы воблік твой. *П. Прыходзька.*

**Юнна́таўскі.** Які мае адносіны да юнната — юнага натураліста, удзельніка гуртка па вывучэнню прыроды.

Юннатаўскі гурток.

**Юнна́цкі.** *Разм.* Тое, што юннатаўскі.

Наш юннацкі дзённік таксама папоўніўся. *А. Якімовіч.*

**Ю́ны.** Вельмі малады, у маладых гадах (пра чалавека); малалетні.

Юныя сябры прыроды.

## Я

### ЯБЛЫНЕВЫ // ЯБЛЫЧНЫ

**Я́блыневы.** Які мае адносіны да яблыні, характэрны для яе.

Гэты водар настолькі моцны і жаданы, што, здаецца, прыносіць з сабою шолахі асенняга лісця ў яблыневым садзе, пад якія ў бульбоўнік падаюць важкія, налітыя антонаўкі. *В. Карамазаў.*

**Я́блычны.** Які мае адносіны да яблыка, характэрны для яго.

Аднак гэта была не проста вада і не расол, а нешта зусім іншае. Нібы ў ваду налілі яблычнага соку: кіславата-саладкаватая, з пахам свежага яблыка. *У. Караткевіч.*

**Я́вачны.** Які мае адносіны да канспіратыўных сустрэч — явак.

Праз гадзіну, а можа, і больш, па ціхай, парэзанай калдобінамі вуліцы яна падышла да адной з явачных кватэр. *І. Мележ.*

**Я́ўны. 1.** Які не скрываюць, не тайны; адкрыты.

Ідзе зацятая, яўная і скрытая барацьба палярна супрацьлеглых сіл, барацьба, у якой немагчымы ні часовыя кампрамісы, ні замірэнне. *Д. Гальмакоў.*

**2.** Зусім відавочны, ясны для ўсіх, несумненны.

Нарэшце, усе ўпэўніліся ў тым, што гэта — яўная выдумка. *ЛіМ.*

## ЯГАДЗІЧНЫ // ЯГАДНІКАВЫ // ЯГАДНЫ

**Я́гадзічны.** Які мае адносіны да ягадзіцы, сядалішча.

Ягадзічныя мышцы.

**Я́гаднікавы.** Які з'яўляецца ягаднікам — ягаднымі кустамі, ягаднымі раслінамі.

Ягаднікавы куст.

**Я́гадны.** Які мае адносіны да ягады; багаты на ягады; прыгатаваны з ягад.

І чым старэй ён станавіўся, тым мацней цягнула дамоў у росныя лугі, духмяныя ягадныя гусцяры, вільготныя восеньскія бары з дурманным пахам грыбоў і апалай лістоты. *А. Жалязоўскі.*

## ЯДКІ // ЯДОМЫ // ЯДУЧЫ

**Ядкі́.** *Разм.* Які са смакам есца, ахвотна з'ядаецца; смачны, пажыўны.

Па краях сена абмылася дажджом, белаватае, а ўсярэдзіне зялёненькае, пахучае, як чай, адным словам — ядкое, як у іх кажуць. *У. Рубанаў*

**Ядо́мы.** Прыгодны для спажывання, для скарыстання ў ежу.

Ядомыя грыбы. Ядомыя ягады.

**Яду́чы.** *Разм.* Ядавіты, едкі.

— Ты не глядзі, што луг руды, ён ядучы. Бачыш, як параз'ядаў мае пальцы,— паказвае бабка ружовыя ранкі на пальцах. *К. Каліна.*

**Языкава́ты.** *Абл.* **1.** Тое, што і я з ы к а т ы *(у 1 знач.)*.

Калі б княжыч Далібор пачуў гэтыя словы, асабліва пра агнявіцу, ён бы дужа здзівіўся, а магчыма б, і даў языкаватаму дружынніку добрага кухталя. *Л. Дайнека.*

**2.** Тое, што і я з ы к а т ы *(у 2 знач.)*.

Прагавіта ліжа, ліжа ўсё агонь языкаваты. *М. Калачынскі.*

**Язы́асты.** *Разм.* Тое, што і я з ы к а т ы *(у 2 знач.)*.

Буйное полымя шуганула языкастымі стужкамі. *А. Савіцкі.*

**Язы́каты. 1.** Ахвочы пагаварыць, паспрачацца, панасміхацца; востры на язык.

Падгаварылі Валю выступіць — яна смелая і языкатая. *М. Лобан.*

**2.** Які мае форму языка, падобны на язык.

У замку ціш і языкаты агонь каміна ліжа дровы. *А. Вялюгін.*

**Языко́вы.** Які мае адносіны да языка — рухомага мышачнага органа ў ротавай поласці; прыгатаваны з языка.

Да прадуктаў далікатэсных, мясных вырабаў вышэйшай якасці, адносяць і языковыя кілбасы. *Звязда.*

**Язы́часкі.** *Уст.* Тое, што і я з ы ч н і ц к і.

Урачыстыя гукі, падобныя на язычаскі хор перад статуяй невядомага бога, поўнілі залу, а ён сядзеў у ложы і з годнасцю глядзеў на сцэну. *У. Караткевіч.*

**Язычко́вы.** Які мае адносіны да язычка, мае форму язычка.

У рамонку белыя пялёсткі язычковай формы.

**Язы́члівы.** *Абл.* Тое, што і я з ы к а т ы *(у 1 знач.)*.

Язычлівыя перасудніцы-мяшчанкі паспелі набрахаць усягоўсякага цэлыя каробкі. *Ц. Гартны.*

**Язы́чніцкі.** Характэрны для старажытных форм рэлігіі, заснаванай на пакланенні многім багам (ідалам); ідалапаклонніцкі.

Малюнкі і чарцяжы на збане аказаліся знакамі самага старажытнага календара ўсходніх славян. Чароўны свет язычніцкіх легенд і казак раскрыўся перад даследчыкамі. *Полымя.*

**Язы́чны. 1.** Які мае адносіны да языка — рухомага мышачнага органа ў ротавай поласці.

Язычныя мышцы.

**2.** У лінгвістыцы: які вымаўляецца пры ўдзеле языка (пра гукі мовы).

Па ўдзелу органаў вымаўлення і месцу ўтварэння зычныя падзяляюцца на губныя і язычныя. *Беларуская мова.*

**Я́лавы. 1.** Бясплодны, неаплоднены (пра самак свойскай жывёлы).

Ялавая карова.

**2.** Зроблены са скуры каровы, якой больш за паўтара года.

Змітрок кіўнуў галавой і пайшоў у канец сяла, важка, нібы прыціскаў нешта на дарозе, ступаючы вялікімі, у цяжкіх ялавых ботах нагамі. *А. Кудравец.*

**Яло́вы.** Які мае адносіны да елкі, яліны.

Ладуцька ляжаў на разасланых на снезе яловых лапках побач са сваім першым нумарам Мясаедавым, спрытным белабрысым карантышом, і слухаў яго нетаропкі расказ. *У. Дамашэвіч.*

## ЯЛАВІНА // ЯЛАВІЦА

**Я́лавіна.** Зямля, не араная некалькі гадоў запар.

Сінонім: аблога.

Юрась заараў ялавіну. *К. Чорны.*

**Я́лавіца.** Ялавая карова.

Сінонім: ялаўка.

Карова Яўмена шэсць гадоў была ялавіцай, а на сёмы год уцякла ды ацялілася. *Х. Жычка.*

## ЯРЫНА // ЯРЫЦА

**Ярына́.** Аднагадовая сельскагаспадарчая культура, якая высяваецца і прарастае вясной і дае ўраджай восенню таго ж года.

А вакол прасціралася, як мора, поле. Аднаго году шумела каля нас жыта, другога — ярына, а на трэці прыпадаў папар. *М. Лынькоў.*

**Я́рыца.** Яравое жыта.

Відаць пад ярыцаю клін, зарэчны луг і цёмнае прылессе. *З. Астапенка.*

## ЯСАК // ЯСАКАР

**Яса́к.** Падатак у Рускай дзяржаве, які збіралі на карысць казны з народаў Паволжа і Сібіры.

Ясак пушнінай.

**Ясака́р.** Дрэва з цёмна-шэрай карой, разнавіднасць таполі; чорная таполя.

Ля Стасевага сельбішча стаіць напалову ўсохлы ясакар з бусліным гняздом-кучомкай. *А. Асіпенка.*

**Я́шчар. 1.** Млекакормячае з прадаўгаватым тулавам, пакрытым рагавой луской, з невялікай галавой, доўгім хвастом і кароткімі лапамі з моцнымі кіпцюрамі; пашыраны ў Паўднёвай Афрыцы і Паўднёва-Усходняй Азіі.

Доўгі, з аблушчанай карою на сухаватых лапах, як нейкі страшны яшчар, выварацень перагарадзіў Міцю дарогу. *В. Адамчык.*

**2.** Устарэлая назва некаторых вымерлых паўзуноў і земнаводных.

Увесь жывёльны свет паходзіць ад старажытных яшчараў, якія ў далёкія ад нас гістарычныя эпохі былі адзінымі жывымі істотамі на зямлі. *Звязда.*

**Я́шчарка.** Невялікі паўзун з доўгім хвастом і прадаўгаватым целам, пакрытым дробнай рагавой луской.

Яшчаркі мяняюць летні колер — жоўтымі становяцца, як восень. *М. Калачынскі.*

**Я́шчур.** Вострая заразная хвароба буйной рагатай жывёлы і іншых парнакапытных.

Каранцін устанаўліваюць пры сібірскай язве, сапе, яшчуры, шаленстве, чуме і інш. *БелСЭ.*

# ІНДЭКС



---

* Пры словах, пазначаных зорачкай, даюцца прыклады няправільнага ўжывання.

## Б

77 гадоўля
77 газ
77 газа
77 газаваць
78 газетніца
78 газетчыца
77 газіраваць
78 гайдамак
78 гайданка
78 гайданне
78 гайдук
78 галавешка
79 галантарэйны
79 галантны
79 галаўны
79 галаўня
79 галера
79 галета
80 галець
80 галінасты
80 галіністы
80 галіновы
80 галіць
79 галоўны
80 галянасты
80 ганарлівы
80 ганаровы
80 ганарысты
81 гандлёвы
81 гандлярскі
82 ганіць
81 ганталь
81 гантэль
81 ганьбаваць
81 ганьбіць
82 гарадавы
82 гарадніча
82 гарантаваны
82 гарантыйны
82 гарапашніцкі
82 гарапашны
82 гарачкавы
82 гарачлівы
83 гарбар
83 гарбацець
83 гарбаціць
83 гарбуха
83 гарбуша
83 гарнітур
83 гарнітура
84 гарысты
42 гарэльеф
84 гаспадарлівы
84 гаспадарніцкі
84 гаспадарны
84 гаспадарскі
84 гаспадарчы
85 гасцінічны
85 гасцінны
85 генеральны
85 генеральскі
85 гімназісцкі
85 гімназічны
85 глазураваны
85 глазурны
85 глазуровачны
86 гліністы
86 гліняны*
86 глушак
86 глушэц
86 глыбінны
86 глыбозны
86 глыбокі
87 глянцавальны
87 глянцаваны
87 глянцавіты
87 глянцавы
87 гнеўны
87 гніенне
87 гніласць
87 гнілата
88 гніліна
88 гніллё
88 гнілушка
88 гніль
88 гніляк
88 гнуткі
88 гнуты
87 гняўлівы
89 гонача
89 гончы
89 горан
89 горн
89 горны
84 горскі
83 грабар
89 грабарны
89 грабарскі
89 гравіравальны
89 гравіраваны
89 грам
90 грамадзянскі
90 грамадскі
89 гран
90 гранатавы
90 гранатны
90 гранёны
91 гранільны
91 грог
91 грот
91 грош
91 грошы
91 груд
91 груда
92 грунтавы
92 грунтовачны
92 грунтоўны
92 грызня
92 грымлівы
93 грымотны
93 грымучы
93 грэцкі*
93 грэчаскі
93 грэчкавы
93 губіць
93 губляць
94 гузаваты
94 гузасты
94 гульня
94 гультайскі
94 гультаяваты
94 гулянка
94 гуманістычны
94 гуманны
95 гумар

## Д

## І

## К

## Л



## М

## П

## С

## Т

# Х



# Ц

### Ч



### Ш



### Э

## Ю



## Я

## ЗМЕСТ

Даведачнае выданне

**ГРАБЧЫКАЎ Сцяпан Міграфанавіч**

**СЛОЎНІК ПАРОНІМАЎ БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ**

Загадчык рэдакцыі *А. А. Дзераш*. Рэдактар *В. М. Захарэвіч*. Вокладка мастака *А. І. Раманцова*. Мастацкі рэдактар *Л. У. Пайленка*. Тэхнічны рэдактар *С. І. Ліцкевіч*. Карэктары *Т. М. Вядзернікава, Р. С. Ахрэмчык, С. А. Яновіч, В. С. Бабеня*.

Здадзена ў набор 22.10.93. Падпісана ў друк 12.05.94. Фармат $84 \times 108^1/_{32}$. Папера друк. № 1. Гарнітура літаратурная. Высокі друк з ФПФ. Умоўн. друк. арк. 25,2. Умоўн. фарба-адбіт. 25,2. Ул.-выд. арк. 25,65. Тыраж 37 800 экз. Зак. 566.

Выдавецтва «Народная асвета» Міністэрства культуры і друку Рэспублікі Беларусь. Ліцэнзія ЛВ № 4. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.

